№3 (106)
/травень-чэрвень/ 2020

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Васіль Зуёнак



...Ляцяць Пагоняй агністаю
Эцюды – прысуды прыблудам,–
Як "Развітанне..." Агінскага,
Як "Быў. Ёсць. Буду"...

# Неба пасею...

### НА КРЫЖЫ...

Кожны крок
Зламысна-
пакутны,
Кожны дзень
На тваім крыжы...

Божа існы,
Божа адсутны,
Божа праведны, –

Дапамажы...

### ПОШУКІ

Пакутны шлях да таямніц Сусвету:
Прыходзім пераможцамі да мэты,

Каб нашыя няведанні пабачыць
І шлях блуканням новым зноў пазначыць...

## *СЦЯЖОК ПЕРАСЦЯРОГІ*

З якіх бакоў планету ні крані –
О, шмат яшчэ гісторыя абрыне!
Шукайце, расіяне, карані –
У Беларусі ці на Украіне.

Гемаглабін мангольскага ярма
Хай не муціць ваш дух крыві імперскай.
Не да глыбінь вякоў вас вёў Ярмак
І не з глыбіняў еднасці братэрскай.

Не там святая Русь, дзе вы прайшлі,
Не тое і вякоў наканаванне, –
Няўжо яшчэ адказу не знайшлі:
Не горнуцца ў саюзы на аркане.

Ці чуеце, як хтосьці па тайзе,
Пакоранай калісьці ермакамі,
Нібыта ў асацэ, хапком паўзе
Зуб навастрыць свой аб уральскі камень?..

Не мы да вас, на послуг, а да нас
Гарніцеся, змяніце накірунак
І ўбачыце аднойчы, што якраз
Тут, у нізах палескіх, паратунак.

* * *

Як агонь, патухаючы,
Замыкаецца сам у сабе, –
І цемра памінкі спраўляе;

Як рака, адплываючы,
У крынічнай гульбе
Не чакае,
Што акіян
Небыццём прывітае;

Як птушка, спяваючы,
Сваю птушыную вечнасць
Пярынкамі песні скубе
І не дбае;

Як чалавек, ... ,

А сапраўды...

А сапраўды –
Знаць не знаю,
Сэнс які ў той падступнай сяўбе, –
І якому быць ураджаю?..

### ***ДВАЙНІК***

Лёс мой і трунар маіх надзей:
Хто ніжэй, – не нам рашаць, – хто вышай.
Калі ён – нідзе, і я нідзе,
І адна ў нас, калі разам, ніша:
Я прыдумаю, а ён – запіша, –
Разам нам на Страшным быць судзе.

* * *

Ноч, як вечнасць, забірае думы,
Паглынае клопатную сутнасць.
І ўжо лёс не тоіць больш бяду мне:
Я ўжо ёсць і ў той жа час – адсутны.

Хто і як мне адчыняе дзверы, –
І куды? – у край паўнюткі цудаў,
У якія раніца не верыць
І якія сам праз дзень забуду...

Тайнай адгароджаны ад свету, –
Хто ён, сон мой? Раніць ён ці лечыць?..
І ў каго спытацца: ці не гэта
Ўсё, мабыць, і ёсць падгляд у вечнасць?..

* * *

Я ўсё падправіў бы ў прыродзе,
Паставіў бы ход сонца ў лад.
Ды зноў жа нехта хітра шкодзіць –
Маім задумам неўпапад.

Як быццам каляндар скарыцца
Асуджаны на трын-траву:
Садам з прадвесцем красавіцкім
Знячэўку – снег на галаву.

Зноў студзеня даўгі вяртае
Зімы банкрутная казна,
І зноў прылётны шпак пытае:
– Што ў вас тут – восень ці вясна?!.

## *УСПАМІН ПРА БЯРОЗУ*

А шпак прыляціць –
Ні бярозы, ні хаткі,
А песня карціць –
Ды не мае пачатку.

А вецер шукаць
Між аблок будзе крону, –
Хіба яму знаць
Аб смерці зялёнай?

А вечар ля пня
Будзе моўчкі таптацца:
З кім з горыччу дня
Пра мяне пашаптацца?

А мне гэты дзень
Хто з памяці здыме?
Ад полымя цень
Гайдаецца ў дыме.

Адпаўзае трава
Ад спякоты пагрознай:
Грэйся сам пры дравах,
Вытры дымныя слёзы,
Калі не ўратаваў
Ад суседа бярозу...

* * *

Не, не кожны між руін
Круг зямны звязаў,
Ды што жыў, як у раі,
Хоць бы хто сказаў.

І здаецца на жніўі
Лёсаў крыжавых,
Што няшчасных на зямлі
Болей, чым жывых...

## *НА СКРЫЖАВАННІ…*

*Просьба*

На скрыжаванні чалавечых
Дарог, навалаў і магіл
Сваё мінулае згубіў
І існае не ўвекавечыў...

Тады хоць прышласць уратуй –
Шляхі нашчадкам не дратуй.

## *ДВУБОЙ*

*Чытаючы "Дзве душы" Максіма Гарэцкага*

Адна душа –
І бясконцасць сусветаў...
І няпэўнасць –
Хто і адкуль мы.
Адна душа –
І натоўпу няўтульнасць:
Не стаў я тым,
Не зрабіўся гэтым...

Адна душа...
Свая – як чужая:
І адмаўляе ўсё
І сцвярджае.
І як жа з ёю выйграць двубой,
Застаючыся самім сабой?..

## *ПАКІНУТАЯ*

Плакаць слёз не стае, –
Быццам я вінаваты,
Хоць даўно не мае
Тут сяліба і хата.

Разышліся шляхі,
І разбегліся сцежкі.
Сад здзічэлы, глухі
Родзіць шчодра арэшкі.

"Што вам сніцца ў мурах?" –
Стыне ў вокнах пытанне.
І замок на дзвярах –
Як медаль за чаканне.

Ні запевак сяўбы,
Ні жніва шматгалосся, –
Вечар песню забыў
І маўклівы, як поснік...

Толькі ў памяці след,
Той, з жывога падворка,
Дзе сусед як сусвет,
А суседка як зорка...

## ТОЙ ГОЛАС...

Асуджаны часам, замоўк безнадзейна,
Згубіўся той голас і рэха з імшар.
На песню на тую абдзелены дзень мой,
З кім золак будзіў і змярканне сцішаў.

Душу весяліў і вёў рэй ён на пашы –
Той голас, сатканы з бярозавых кос,
І службу без пугі мурожную нёс:
Адсталых збіраў і гук*а*ў заблукалых.

Няўжо, ён ніколі не ўсхопіцца ранкам,
Навек заначуе?.. Праз ночы тугу,
Няўжо, не пачую трубу-берасцянку:
“Цясютка-мумутка...
Ту-гу-гу... Ту-гу-гу...” ?

## НЕБА ПАСЕЮ...

*Выйшаў сейбіт сеяць...*
**Евангелле ад Лукі, 8:5**

Каб градка не аблысела,
Не стала пясчанаю выспай,
На градцы неба пасею,
Што ў снах васільковых выснiў:

Вядзіце ў жытнёвае поле,
Дзе нашы блукалі сцяжынкі,
Дзе мы ўжо не будзем ніколі, --
О васількі-валянцінкі...

* * *

З абрывістых ліпеньскіх сноў
Душа яшчэ прагне асноў.
Ёй хочацца ўсё ж зразумець,
Дзе золата меў я, дзе медзь.
Паклоніцца вечнасць жыццю, –
За што? – не скажу небыццю!..
Са скарбам таемным жыву:
Што медзь – гэта мне аднаму,
А золата – што на дваіх, –
І вечнасці роўны той міг.

## ЯК БЫЦЦАМ УСЁ АДБЫЛОСЯ…

Як быццам усё адбылося,
Як быццам усё прайшло.
Нічоганькі не засталося, –
Зламанае выкінь вясло.

На гэтай рэчцы, будзь пэўны,
Яно не патрэбна табе:
Харон, перавозчык нядрэмны,
Дарэмна грабе і грабе...

Яму і няўцям, што на лёсе
Апошняе ставіць чысло, –
Як быццам усё адбылося,
Як быццам усё прайшло...

Як быццам усё адбылося,
Як быццам усё прайшло
І зернем апошнім калоссе
Тваё небыццём прарасло.

Як быццам усё адбылося,
Як быццам усё прайшло...

А быццам бы і не жылося, –
Куды ж тыя дні размяло?..

І раптам абудзіцца памяць
І скажа: яшчэ не мяжа,
І хтосьці ж павінен сярпамі
Тваё небыццё пажаць...

Каго папрасіць бы?.. Не ўпросіш...
Зламаць бы Харону вясло?..

Ах, каб яшчэ што адбылося,
Ах, каб яшчэ штосьці прыйшло...

## ДЫ ШТО З ТАГО...

Пануе мудрасць над вякамі,
Ажно выходзіць з берагоў,
Што толькі развядзеш рукамі...
Ды што з таго...

Нячысцік Біблію падносіць:
Любі яго, як свой свайго, –
Ну рыхтык брат: дзве дзюркі ў носе!.
Ды што з таго...

Такія выніклі законы:
Менш вернікаў, а больш багоў, –
Сябе нясём, нібы іконы...
Ды што з таго...

Прыкмечана: якія самі,
Такіх і не збяжыш кругоў,
Такія ў нас і конь, і сані...
Ды што з таго...

Вось хімікаты прэм пад высеў,
Каб гнуўся стол ад пірагоў, –
А ў полі жаўранкі звяліся...
Ды што з таго...

Няўдача выпадзе ці ўдача –
"Ага!" пачуеш ці "Ого!"... –
Пасмейся ты, а я паплачу...
Ды што з таго...

Я мог бы паўтараць вам безліч
Бясконцае "Ды што з таго..." –
Шкада, што ў верш усё не ўлезе, –
Во, нават рыфмы не знайшоў,

Каб на "...аго"...
Ды што з таго...

## *“АБЛАГАЦЫІ”*

Знакі дзяржпазыкі, аблігацыі,
Помню, не інакш як “аблагацыі”
Называў паважна дзядзька Змітра
І пры гэтым усміхаўся хітра.

Той гумор тлумачыўся няцяжка:
Пэўна, дзядзьку падмігнула пляшка,
Ідучы на стол дзеля бяседы...

...Сэнс усмешкі шмат пазней я зведаў,
Калі й нас, студэнтаў, “аблажылі”:
“Аблагацыі” і мы ўжо заслужылі,
Адшчыкнулі з крохатнай стыпендыі, –
І дармо, што раз не паабедалі!..
Ды затое пяцігодку новую
Сцвердзілі пазыкай папяроваю.
Ды і ўдачы сталі мы лаўцамі,
Бо яшчэ і выйгрыш абяцалі!
Абяцалі нам (і дзядзьку Змітру), –
Нам – на ровар (дзядзьку – на паўлітра).

З году ў год чакалі мы тыраж,
Ды, прабачце: выйгрыш быў не наш!..

Як было і ў іншых абяцанках:
Спаць кладзіся з выйгрышам на ранку...

Колькі – не злічыць! – наабяцалі...

Абяцанні клаліся вянцамі
Ў гмах высотны будучыні светлай.
І як запрашальныя білеты –
Аблігацыі з гарантыяй на выйгрыш.
А каб з часам час яе не выгрыз,
То і час пазыкай аблажылі,
З нас і з мас выцягваючы жылле...

А ў пазыкі тэрмін не кароткі:
Расцягнуўся на дзясяткі ўгодкаў, –
Аддаваць даўгі ніхто не хоча...

Пэўна, дзядзькаў посмех быў прарочы, –
Не ў дакор, ды вынікі сцвярджаюць:
Вось што значыць пазычаць дзяржаве!..

## У САМЫ ЧАС!..

*Радкі,вынесеныя з прэзентацыі*
*кнігі паэзіі Валерыя Дубоўскага*
*“На пачатку маўчання”*

Запознены кніжны дэбют –
Як скачок зацяжны з парашутам.
Тут сам і віноўнік, і суд,
І ўзважваеш тэрміны крута.

Ні борта няма, ні крыла,
Каб зашчап накінуць страхоўны, –
Яго, пэўна муза ўзяла
І выкрала хітра на сховы.

Тут вольная воля – ляці! –
Ніхто раскрыцця прымусова
Не гарантуе. Плаці
Жыццём за жыццё, а не словам!..

Дзе стропы, як строфы ў радок,
Адкрыюць той купал, не знаеш...
І вось ён! – нябесны уток
І ў лад з ім – аснова зямная.

Раскрылася кніга. Палёт
На тым аднак не супыніўся, –
Цуд боскі: маўчання лёд
Маўчаннем і растапіўся.

Раскрылася кніга якраз
Не позна – а ў самы час!

* * *

Чытаю вершы Зянона,
Як музыку фартап’янную,
Слухаю слова, натхнёнае
Радзімаю адабранай.

Ляцяць Пагоняй агністаю
Эцюды – прысуды прыблудам,–
Як “Развітанне...” Агінскага,
Як “Быў. Ёсць. Буду...”

## ПАПРАЎКА

“Будзь роўны прыродзе, мастак”, –
Тастамент нябёсы пішуць.
Быць роўным?! О як бы не так!
– Будзь вышай!..

## ПАДКОВА

Пегас не выштукоўваў,
А проста ў тлумным шоў
Падкову выпадкова
Згубіў, а я знайшоў.

Пегасу што – не плача:
Зноў падкуюць багі.
А мне – такая ўдача!
А з ёй – даўгі, даўгі...

Чым апраўдаць знаходку?
Рыфмуй ці белым шпар, –
Паэзія не ходкі,
Уцэнены, тавар...

Калі ж, Пегас, мой браце,
Ісці таўчыся ў шоў,–
Нашто падкову страціў,
А я – нашто знайшоў?!.

## ПАДМАНУЦЬ...

Свет абвесці ўвесь вакол пальца
Самым хітрым удасца наўрад.
Прастакоў паблізу шукайце, –
Найлягчэй, калі кум ён ці сват.

Лёгка сябра абвесці, суседа,
Можна й жонку, калі не ў цане:
Недаверу не будзе і следу,
То і поспех не абміне.

Ну а сам як? Дзе грым для самога,
Каб схаваць душы каламуць?
О-о, для іншых спосабаў многа, –
Паспрабуй сябе падмануць...

* * *

Як пабачыш, што робіцца ў нас
На зямлі (а яе я люблю!..) –
Дык ад сораму хочацца ўраз
Праваліцца скрозь гэту зямлю!..

“Ну і што?!. – голас джалам прарос. –
Будзе знак: вы ўжо й там пабылі...” –

І няўцям: быў той голас з нябёс
Ці адтуль вось – з-пад гэтай зямлі?..

### *ПАРАТУНАК*

Бяжы, бяжы з кулямесы натоўпу,
Дзе сэнсы аддадзены тлуму,
Бяжы – як бягуць у Еўропу –
У лес, дзе нуды закрываючы века,
Ахінаюць дрэвы душу і думы...

Лес выведзе да чалавека.
................................
А дрэвы ў лесе –
Як і людзі ў народзе:
У кожнага свой характар,
Сваё аблічча і сваё дыханне,
Свая радасць і свой смутак,
Свае карані і крона.
І кожны па-свойму
На людзі выходзіць –
То прытоена,
То адкрываецца раптам –
Хто схаваць сваё гора ў закутак,
Хто з надзеяй на спачуванне,
Хто – на ўласную абарону...

Дзівіцеся:
Бяроза, асіна, дуб,
Сасна, ядловец, рабіна... –
Парода! – дзе сам сабе кожны люб, –
Гэта ўвогуле –
А персанальна:
Непаўторныя ўсе геніяльна!
Гэтак і быць павінна.

Геніяльнае – у непаўторнасці.

Колькі іх і ў бары, і ў пушчы –
Без ілжывай прытворнасці:
І ахвотнікаў памужаваць,
І маўкліва-відушчых,
Каб ад тайны адмежаваць...
Толькі аднолькавых – розна і спрэс –
Няма, не было і не будзе.

А вы кажаце: чаму гэтак цягне ў лес?
А таму, што і там таксама ўсе людзі –

Не зласлівыя
І не ліслівыя,
Не назольныя,
Не застольныя,
Не заносістыя –
А выносістыя,
І прыстойныя,
І дастойныя!..

### *ПЕРАКЛАДЧЫК*

На мове птушынай,
на мове лясной
словы спяшылі
сустрэцца са мной.

Па-беларуску
гасцей
я вітаў, –
скажам прасцей,
перакладчыкам стаў.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Васіля Васільевіча ЗУЁНКА**
з васьмідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці, новых выдатных вершаў
ды Божае ласкі!

Уладзімір Сцяпан



...сказаць што я здзівіўся –
нічога не сказаць...

# Тры яблыкі

***Навелы***

## Мой мілы таварыш

Першым, да каго звярнуўся з пытаннем, – вышэзны худы дзядзька ў капелюшы, балонневым плашчы (такія даўно не носяць) і кароткіх гумовых ботах балотнага колеру. На вачах круглыя акуляры з паламанай дужкай (такія трапляюцца на фотаздымках першай паловы мінулага стагоддзя). Мужчына ішоў насустрач і нешта мармытаў, быццам верш спрабаваў згадаць. Следам кульгаў невялікі вушасты сабака з разумнымі вачамі і крывой пярэдняй лапай.

“Э-э-э? А навошта ён вам патрэбны? Вінен, можа, нешта, ці так пытаецеся? Надвор’е тры дні будзе добрае, а на чацвёрты, лічы, у пятніцу, апоўдні, пачнецца абы што. Гэта я вам кажу з вялікай дакладнасцю і ўпэненасцю, бо сорак сем гадоў сачу за кліматам у гэтым мястэчку. Тут

усё не так, як у людзей, тут няма парадку... Зусім. Борман можа пацвердзіць", – Метэаролаг, так я ахрысціў яго, павярнуўся і глянуў на цуцыка, які задраў куцы хвост і лізаў ваду з глыбокай лужыны пад сіняй калонкай.

Борман узняў галаву на голас гаспадара, тройчы гыркнуў, з вусатай пысы пасыпаліся кроплі, і ўзяўся далей лізаць лужыну.

"У нас з ім эмпатыя. Ён усё разумее, адно словамі не гаворыць, але гэта і добра, бо замінаў бы мне сачыць за бясконцымі зменамі быцця на гэтай планеце. Вы, здаецца, спыталі пра мастака... То вам трэба прайсці трыста крокаў па гэтай вуліцы, павярнуць у завулак, там будзе стары вяз, ад якога шэсцьдзесят крокаў, і яшчэ раз павярнуць налева, побач з чырвоным цагляным домам, франтон блакітны на два вакенцы... Потым яшчэ сто крокаў, і там яго ўбачыце. Да відзэння! Борман, рушым! А пра надвор'е – улічыце!" – Уся інфармацыя прагучала з механічнай дакладнасцю аўтамабільнага навігатара.

Да маршруткі ў сталіцу заставалася пяць гадзін. Зараднае прыстасаванне засталося ў сталіцы, і мне было лёгка. Ішоў, паварочваў, дыхаў, спыніўся побач з глухой абшаляванай сцяной і падзівіўся на дзіркі ў шэрых дошках, якія прагрызлі восы. Сцяна здавалася пабітай кулямі. Стары вяз, паварот, завулак, чырвоны дом, два вакенцы, паварот, сто крокаў і... Паперадзе ляжала шэра-блакітнае возера ў рабацінні дробных хвалек, белы пясок вузкага пляжа на два бакі, вада і хлопчык. Крокаў за дваццаць ад малога ляжалі на пяску дзве разбітыя перакуленыя лодкі, як сухія аб'едзеныя восамі рыбіны, какоры нагадвалі рэбры. Калі глядзеў на іх, то падумаў, што ляжаць яны тут сто гадоў, прыкутыя ланцугамі да іржавага швелера, а ключы ад замкоў даўно згубленыя.

Хлопчык корпаўся ў белым пяску, пароў яго дубцом, а потым падыйшоў да вады, пачаў яе біць і крычаць: "Што, баліць табе, баліць?" Яшчэ былі чайкі, якія кавалкамі бруднаватага пенапласту пагойдваліся пры самым беразе. Хлопчык, пенапластавыя птушкі, бераг, вада, шкілеты лодак і шэрае неба. У гэтай сутонлівай восеньскай цішыні звінеў высокі дзіцячы голас: "Вось табе, вось табе! Балі-і-іць!?" Каб працаваў тэлефон, то можна было б зрабіць выразны здымак, а так заставалася толькі запомніць свіст дубца, які я не чуў, але ясна ўяўляў, нервовы ўзмах і рэзкі ўдар. Ляцелі пырскі, а ён хвастаў, пакуль не стаміўся. Хлопчык у белым са светлымі валасамі, амаль анёл.

Ён паглядзеў на мяне як на паўдурка ці на чалавека з іншай планеты.

"Летам былі мастакі, барадатыя. Тут сядзелі. Дажджу няма, а яны пад парасонамі. Ваду малявалі... Пясок і неба, быццам гэта каму цікава... А завуць мяне Альгерд. Я свішчу добра, лепш за ўсіх на нашай вуліцы..." – сказаў, утыркнуў у пясок дубец, заклаў у рот чатыры пальцы і свіснуў так гучна, што пенапластавыя чайкі аджылі, залапаталі крыламі і паляцелі далей ад берага, быццам той свіст іх падхапіў і панёс у шэра-блакітную нерухомосць далячыні.

Я сыходзіў ад возера, а шалёны свіст усё гучаў і гучаў.

Жанчына несла ў руках жалезную місу, поўную свойскіх яек. Несла і глядзела мне ў твар. Так уважліва, што я падумаў, калі яна зараз спатыкнецца, то на парэпаным асфальце ўзнікне слізкая прыгажосць з белых шкарлупак і вогненных жаўткоў.

"Можа, купіце дзясятак-другі – свойскія, толькі сабрала. З крамнымі не параўнаць. Глядзіце, якія прыгожыя, адно ў адно, а што трохі бруд-

ныя, дык гэта нічога, дома памыеце, калі трэба, каб чыстымі парабіліся... Кажаце, мастак, нават, і не ведаю дзе тут у нас мастак жыве. Гадоў дваццаць таму кватаравалі ў Марыйкі, чацвёра іх было, у касцёле працавалі, на рыштаваннях. Малявалі кветкі розныя, анёлаў, аблокі белыя і бога ўсемагутнага з промнямі. Можна схадзіць паглядзець. А калі ўсё зрабілі, то сабраліся і з'ехалі некуды, казалі, у Польшчу... Гэта даўно было, яшчэ мой чалавек быў жывы і здаровы, яшчэ хадзіў і рабіў усё чыста. А потым захварэў і згарэў за тры месяцы. І нічога – жыву, другога не завяла. Дзе ты тут гаспадара знойдзеш – адны лайдакі паўсюль... Спытайце ў клубе, можа там вам што падкажуць пра мастака..."

Я глядзеў на рыфлёныя жалезныя і на бетонныя парканы зефірных колераў, на штыкетнік (карцела ўзяць дубчык і дрынькаць ім па фарбаваных дошчачках), на восеньскія кветкі, на дамы, абшытыя сайдынгам. Побач з адным упаў пад ногі важкі белы яблык. Такі прыгожы, што я не ўтрымаўся, падняў яго, выцер насоўкай і пачаў есці. Ён аказаўся такім смачным, што захацелася зноў вярнуцца на тую вуліцу, знайсці яшчэ адзін, няхай і не такі вялікі...

Калі я вёў старонку ў ЖЖ, то з'явіўся ў мяне ананімны каментатар, які пакідаў пад тэкстамі, вершамі, малюнкамі і фотаздымкамі дзіўнаватыя допісы. Яны, на першы погляд, не былі ні злоснымі, ні здзеклівымі, але выклікалі раздражненне і хваляванне. Ананім раіў кінуць "мастацтва", перастаць пісаць дрындушкі, так ён называў мае кароткія вершы і маленькія апавяданні, а проста спакойна жыць, радавацца кожнаму дню, рабіць нешта карыснае людзям, дапамагаць блізкім і не хвалявацца, не зайздросціць...

Мяне трохі злавалі кепска перакладзеныя цытаты з Бібліі, Канфуцыя, Лао-Цзы, якія ён выкладаў, каб давесці слушнасць сваіх думак... Аднойчы я не стрымаўся, напісаў, што не хачу больш чытаць яго банальнасці, і што калі ўсё так кепска і нецікава, то навошта ён да мяне лезе?.. І ананім прапаў, пісаць перастаў. А потым узнікла адчуванне, што мне не стае таго ўважлівага чытача, і я нават пашкадаваў, што так неабачліва пакрыўдзіў далікатнага чалавека...

Мясцовы клуб нагадваў панскі маёнтак, а можа, некалі так і было. Два паверхі, шклопакеты, чатыры пукатыя калоны, высокі ганак, бляшаны дах з белым сподкам спадарожнікавай антэны. На два бакі ад увахода сметніцы пяцідзясятых гадоў, як рукамі зелепленыя, моцна абабітыя. Паторгаў дзверы і развярнуўся сыходзіць, як яны ціха рыпнулі. Вызірнула дробная пенсіянерка ў сацінавым халаце і вялікай пуховай хустцы вераб'інага колеру. Яна заміргала, быццам сонца слепіць.

"Няма тут мастака. Быў ды сплыў наш мастак... Во, а тут цяплей, бо там ад холаду аж сэрца стыне. Цяпер у ягоным пакоі Мечыслаў Мікалаевіч – кіраўнік ветэранскага хору. Гэта раней мастакі былі трэба, кінамеханікі, а цяпер у кожнага дома – сваё кіно... Барыс тады афішы маляваў, людзі ў клуб хадзілі, а цяпер у кіно хадзіць перасталі, то яго і скарацілі. Расстроіўся, хацеў з'ехаць да сяброў, ды не паспеў. На ровары пад машыну трапіў. Паламала яго моцна, а галаву дык і раструшчыла, як тое яйка... Усё гарэлка, усё яна... Кажаце, не Барысам вашага мастака звалі? Тады і не ведаю чым дамагчы. Можа вам, паважаны, яблыкі трэба ці гародніна якая; цыбуля, часнык? Шкада... Нічога нікому тут не трэба, усё ва ўсіх ёсць..." – сказала жанчына ў хустцы і засталася пры дзвярах, на высокім ганку.

Я перайшоў плошчу, а яна ўсё стаяла і глядзела мне ўслед.

Не вельмі дагледжаны, фарбаваны вохрай аднапавярховы дом пад шыферным дахам. Агародчык прыбраны. Пад яблынямі кошыкі і старыя вёдры з жоўтымі яблыкамі. Сохне вільготная бялізна, на ўслончыку пластыкавы таз і немаладая жанчына. Першае, што падумаў, – маці майго таварыша, але памыліўся, гэта – ягоная жонка. Яна падышла і спалохана адамкнула зашчапку на веснічках. Запрасіла ў дом і адразу паставіла на пліту белы чайнік.

“А я вас пазнала, хоць і не бачыла ніколі... Сярожа паказваў вас у тэлевізары... Ён мяне з дачкой-інвалідам узяў. Вэжкаўся з ёй, займаўся, гуляў... Спачатку працаваў у школе, а потым, праз чатыры гады, кінуў настаўнічаць, бо там трэба падпарадкоўвацца начальству, а ён гэтага не любіў. Уладкаваўся на пілараму і ездзіў туды на ровары зімой і летам. Не, ён пры мне не маляваў. Ніколі! Кінуў, а ўсе свае карцінкі, альбомы, паперы і фотаздымкі спаліў. Варэнне бярыце, са сваіх вішняў. Сярожа садзіў, даглядаў. Пачакайце, адна картачка захавалася. – Яна паднялася і цяжка пайшла ў другі пакой. Пазнавальна дзынькнуў посуд у серванце.

Вярнулася і падала падпісаны фотаздымак. На ім мы с Сярожкам сур’ёзна глядзелі ў аб’ектыў. Маладыя, доўгавалосыя. Ён светлы, а я цёмны. Здымак зроблены ўвосень 1976 года, у інтэрнацкім пакоі...

– А потым, пасля пілараме, ён пачаў мэблю рабіць: крэслы, сталы, шафы. Мы тады так добра зажылі, што і не расказаць. І гэты стол ён зрабіў, і кухню, і ложкі... Казаў, што перапісваецца з вамі ў кампутары... Не, ён не зайздросціў нікому. Зусім... За домам майстэрня, дык ён лодкі там рабіў. Такія спрытныя атрымліваліся, што па іх з Віцебска прыязджалі. І сабе змайстраваў, каб з унукам рыбу вудзіць. Выплыў на возера – ціха было, а тут раптам як наляцеў вецер, хвалі падняліся, а праз пяць хвілінаў як і не было таго ветру. Ціха зноў. Лодка да берага сама прыплыла. Пустая... Можа, варэння слоік возьмеце, чым вас яшчэ пачаставаць – і не прыдумаю?”

Калі мы стаялі на ганку, у двор забег хлопчык, той самы, якога я сустрэў на возеры – Альгерд. Ён зусім не здзівіўся, калі ўбачыў мяне. Уздыхнуў і сказаў: “Баба, я так згаладаўся, давай будзем вячэраць!”

*Травень 2019*

## Начная залева

Радыё гаварыла па-беларуску. Мужчына басавіта і ўпэўнена, а жанчына радасна. Зрэдку яна пачынала смяяцца...

За вокнамі хутка цямнела, але пад столлю свяціла лямпачка. Хлопчык хадзіў з пакоя ў пакой, і вясковы дом, да драбніц знаёмы, здаваўся яму вялізным, нават вялізарным.

Ён пачаў хвалявацца пасля таго, як суседка падаіла карову, пацадзіла малако і пайшла да сябе. Вось у гэты момант ён і адчуў, як яму не па сабе. Выйшаў на ганак, паглядзеў на нізкія, амаль чорныя хмары, якія варушыліся, як шчанюкі ў кошыку, напаўзалі адна на адну.

Дзед з бабай яшчэ пасля сняданку паехалі на пахаванне, у далёкую вёску, за лес, за вялікае поле... І ён застаўся за гаспадара: даваў свінням, паіў карову, карміў сабаку і ката, сыпаў зерне курам... Дзед абяцаў, што яны вернуцца як каровы прыйдуць, а не прыехалі.

Ён мог замкнуць хату, схаваць у кансароўку пад ганкам ключ, перабегчы выган і чакаць дзеда з бабай у цёткі, якая на пахаванне не паехала, бо стары Кандрат ёй ніякі не сваяк, а так – дзедаў сябар і аднагодак. Але хлопчык падумаў, што ён вялікі, што яму адзінаццаць, і таму трэба быць у хаце.

У хляве хрыпана замыкала карова, зарохкалі свінні, закрычаў певень і заквахталі куры... З будкі выскачыў сабака, задраў галаву і заскуголіў. А праз колькі імгненняў наляцеў пругкі вільготны вецер і ўсё вакол захадзіла ходырам, закалацілася, закруцілася, зашумела, зазвінела і загуло. Ліпа, яблыні і бярозы за хлявом захісталіся і зарыпелі, а трава прыгнулася, амаль легла на зямлю. Хлопчык заскочыў у сенцы, зачыніў дзверы на зашчапку, а бляшаны дах затрымцеў – па ім забарабаніў цяжкімі кроплямі дождж. Праз адчыненыя дзверы з пакоя ў сенцы трапляла жоўтае святло. На мяжы цемры і святла стаяў хлопчык. Вакно сенцаў зрабілася чорным і бліскучым. З каморы ў хату шмыгнуў кот і каўкнуў...

Вецер і дождж мацнелі, здавалася, дом дробна дрыжыць. Потым, за вокнамі, нешта гучна затрашчала, закрычала і зашамацела. Святло мірганула і згасла. Вокны праз імгненне зрабіліся бачнымі. Краявід змяніўся. Вялізная ліпа павалілася на бульбоўнік і на плот. У цемры бялеў раструшчаны камель з лахманамі кары...

Жанчына з мужчынам па радыё бесклапотна смяяліся... Але і смех абарваўся. У суседніх хатах прапала святло, і на тым баку выгана яго не было.

У двары скавытаў сабака, ліў дождж, шумеў вецер... Хлопчык накінуў на галаву дзедаў пінжак і выбег пад дождж да сабачай будкі.

– Рудзік, Рудзік, хадзі сюды!

Сабака з будкі не вылазіў. Давялося прысесці, выцягнуць за ашыйнік, адшчоўкнуць карабін і пацягнуць сабаку ў хату. Вядома, ні дзед, ні баба не дазволілі б пусціць сабаку ў хату, але іх не было, а хлопчыку было боязна.

Ён даў сабаку, які адчуваў сябе напалохана, кавалак тлустага мяса і тоўсты блін. Сабака з'еў хутка і пачаў асцярожна хадзіць па пакоях, абнюхваць дыванкі, канапу, гыркнуў на ката і той схаваўся на печы, адно вочы гарэлі. На вуліцы шумеў вецер, ліў дождж, з бляшанага даху цурчэла і гойдалася бліскучымі махрамі вада. Радыё маўчала, святла не было.

Хлопчык спачатку сядзеў на канапе, потым узяў з ложка вялікую падушку і посцілку. Разуўся, а вось распранацца не стаў. Лёг на канапу, доўга ўладкоўваўся, сцішэў і пачаў слухаць дождж і думаць пра заўтрашні дзень, пра вялікую ліпу, якую зламаў вецер.

Сабака быў побач і глядзеў на хлопчыка. Насмеліўся, заскочыў на канапу і лёг побач. Хлопчык трохі пачухаў Рудзіка за вушамі, пагладзіў лоб, прыціснуў далонь да халоднага носа. Ад Рудзіка моцна смярдзела псінай і дажджом, але хлопчыку гэта падабалася. Ён заснуў.

– Эй! Пад'ём! Тут табе не санаторый, а гарнізонная гаўптвахта! – зароў сяржант з чырвонай павязкай на рукаве і ўдарыў хлопчыка нагой. Ударыў па той руцэ, якая абдымала сабаку.

*Травень 2019*

## Шакаладная цукерка

Старога Мітрыча зяць з дачкой прывозяць у вёску пяты год, тут ён і жыве, ад вясны да першых маразоў. У сваёй хаце, на родным падворку,

Мітрыч робіцца спакайнейшым, весялейшым і нават гаманкім. Добра есць і своечасова ходзіць у прыбіральню. Ад лазні не адмаўляецца. А тое, што стары ўсё на свеце блытае і забывае – ні дачку, ні зяця не здзіўляе, бо яны з гэтым звykліся, хаця часам злуюць і раздражняюцца.

Мітрыч, калі цёпла, як сёння, сядзіць на вуліцы, на белай лаве, пад слівай, камель акуратна пабелены, і ўсім, хто ідзе вуліцай ці едзе, малым і вялікім, дае “добры дзень” і шчыра ўсміхаецца дробнымі штучнымі зубамі. Ён – ружовашчокі, сівы і сінявокі, цёпла апрануты. Яму восемдзесят дзевяць.

– Тата, трэба ісці палуднаваць! – гучна кажа дачка і кранае бацьку за плячо.

– Так, трэба... А ты хто будзеш? – пытае Мітрыч і варушыць пальцамі, быццам нітку перабірае.

– Як хто – Валя! Твая дачка.

– Валя? – Мітрыч глядзіць у зямлю. – Якая ж ты мне дачка. Мая Валя маладая і прыгожая, а ты нейкая брыдкая і старая. Куды Валя пайшла, гавары!

– Я – Валя... У краму толькі збегала. Хлеба купіла, масла, цукерак... – амаль пакрыўджана адказвае дачка і спрабуе падняць старога бацьку.

Яна яшчэ доўга яму нешта тлумачыць, а потым кліча на дапамогу мужа. Той падыходзіць, бярэ маленькага старога за плечы і падымае. Дапамагае ўзыйсці на нізкі ганак, потым вядзе праз веранду ў дом, а сам ідзе мыць рукі.

Стары топчацца пасярод пакоя і глядзіць на сцяну. Там чорна-белы партрэт сямнадцацігадовага хлопца. На цёмным пінжаку чырвоная кропля – расфарбаваны камсамольскі значок. Побач з фотаздымкам, на маленькім цвічку, ручны гадзіннік з нерухомымі стрэлкамі.

– А дзе Міця бегае. Я ж яму казаў, што без яго палуднаваць не будзем. Зноў да дзевак падаўся...

Дачка з зяцем пераглядваюцца, уздыхаюць. Зяць злуецца, а дачка чырванее.

– Добра, будзем палуднаваць без яго... Але гэта апошні раз. А дзе мой “МАЗ”, ён жа каля хаты стаяў! Можа, ён на ім паехаў і мне нічога не сказаў. Хаця не, я не чуў. — Стары пачынае змятаць з цыраты неіснуючыя крошкі.

Перад ім ставяць талерку з супам, даюць хлеб і лыжку. Есць Мітрыч акуратна, ціха і хутка, як малады, як школьнік. І бульбу есць, і салату, і катлеты, і кампоту выпівае вялікі кубак. Потым ідзе ў свой пакой і кладзецца спаць.

– Мне б такі апетыт, – жартуе зяць.

– Каб ты менш піў, дык і ў цябе б такі быў... Зайздросціш?

– А што, жыве як у Бога запазухай. Есць, спіць, гуляе. Са сваім “МАЗам” галаву цэлую гадзіну дурыў. Казаў, што паставіў пад ліпай, а паглядзеў у вакно – няма машыны. Плакаў... Казаў, што дакументы ў кабіне пакінуў: пашпарт, квітанцыі нейкія.

– Якія, не казаў?

– Дазвол на лічыльнік, каб цыркулярку падключыць.

– А без квітанцыі нельга?

– Відаць, можна, дзед аплаціў.

– Кампоту наліць?

Валя бярэцца мыць посуд. Зяць п'е перасаложаны кампот і глядзіць на партрэт малодшага жончынага брата, якога звалі Міця. Ён разбіўся на матацыкле амаль сорак гадоў таму. Выскачыў на шашу і трапіў пад лесавоз. Дзяўчына, якая сядзела за ім, засталася жывая. Мітрыч і яго жонка так перажывалі раптоўную смерць любімага сына, што пачалі штодня маліцца, ездзіць у царкву і яшчэ больш працаваць. Будаваліся, сеялі два агароды, гаспадарку развялі такую, што за працай свету белага не бачылі. Мітрыч тады яшчэ працаваў у лясгасе, вазіў на “МАЗе” лес...

Кампот дапіты, зяць уздыхае і нясе кубак жонцы.

– Занясі дзеду цукерку, але дасі, калі ён праглыне таблеткі.

– Кампот салодкі.

– Яму такі падабаецца.

Зяць з цукеркай, якую трымае за хвосцік, заходзіць у маленькі, але светлы і цёплы пакой Мітрыча. Стары сядзіць у ложку і глядзіць у вакно. Па восеньскай вуліцы, па сухім лісці, едзе на ровары мажная жанчына, а за ёй бяжыць і кульгае чорны худы сабака.

– Хто гэта, куды едзе?

– Суседка Галя, яна за крамай, побач з могілкамі жыве, з фермы едзе палуднаваць, – кажа зяць і паказвае Мітрычу цукерку.

– Ты не браў ключы ад машыны? Паўсюль паглядзеў – няма. Тут, на падваконні, ляжалі. Паклаў іх, а сам пайшоў рукі мыць. Ты не браў? А дзе мая жонка, можа яна ўзяла? – Мітрыч глядзіць на зяця падазронна і не міргае.

– Яна ж памерла... Сем гадоў таму. Мы ж з вамі ёй помнік ставілі, агароджу варылі, фарбавалі, – спакойна тлумачыць зяць.

– А ключы ад машыны яна пакінула?

– Цукерку будзеце? Шакаладная...

– Давай, – кажа Мітрыч і падстаўляе далонь. Зяць кладзе на далонь цукерку і выходзіць з пакоя. Валя выцірае круглы стол і шэптам да мужа:

– Таблеткі даў.

– Што? Забыўся.

Рудое кацяня ганяе па падлозе ў пакоі старога бліскучую абгортку цукеркі. Мітрыч глядзіць і ўсміхаецца. Гэта ён на мінулым тыдні прывёз кацяня з лесгасу, для малога Міці, для дачкі Валі, для жонкі, якая хацела менавіта рудое. А сама шакаладная цукерка, заціснутая ў кулаку, хутка растае.

*Кастрычнік 2019 год.*

## Тры яблыкі

Дзеда Ціханёнка, з якім мы ляжалі ў адной палаце, убачыў на вушацкім базары.

Чатыры гады назад ён пасварыўся са старэйшым сынам, і той ударыў бацьку нажом у жывот. Так казалі ў бальніцы, куды яго прывезлі. Але сам паранены дзед, калі акрыяў, сцвярджаў, што нікога ў хаце, калі ён гайстрыў вялікі нож, не было. Што ногі запляліся і ён спатыкнуўся. Як упаў на нож, хоць забі – не разумее...

Дзед Ціханёнак стаяў не там, дзе людна, а там, дзе пара маўклівых пенсіянераў спрабуюць прадаваць усялякую старызну: малаткі, косы,

сярпы, сякеры, нажніцы, іржавыя пілы, ланцугі, ключы, цвікі, шрубы, кусачкі... Пералік можна доўжыць і доўжыць, калі падысці бліжэй і пачаць зазіраць у скрыні, кардонкі ці ўзяцца разграбаць большыя ды меншыя кучы markнага ламачча.

Сказаць што я здзівіўся – нічога не сказаць.

Дзед Ціханёнак стаяў з адсутным выглядам, быццам усё, што дзеецца вакол, яго не тычыцца. Мне падалося, што да яго ніхто і не падыходзіць, быццам не бачаць.

Касматыя сівыя бровы старога не падняліся на лоб, калі я ўзрадавана павітаўся з ім.

– А цябе, малец, чаго тут носіць? Бачу – жывы-здаровы.

– Так, і я рады вас бачыць... Жанчына з нашай вёскі, яна санітаркай у бальніцы працавала, казала што Ціханёнак жонку пахаваў, а праз месяц і сам памёр... А вы, гляджу... Доўга жыць будзеце.

– Усе памром, усе туды пойдзем, – сказаў стары, зірнуў у светлае кастрычніцкае неба, а потым цяжка тупнуў. Побач з ім, каля ног, худая вайсковая торба-сідар і белы мех, з якога вытыркаўся дубчык.

– Нечым гандлюеце?

– Ты першы падышоў, табе і прапаную.

– Што?

– Не спяшайся, малец...

Дзед Ціханёнак, прысеў, дастаў с брызентавай торбы яблык, пацёр аб рукаў, падзівіўся на бліскучы бэзава-барвовы бок. Выцягнуў з кішэні складанчык (знаёмы, той, якім ён кроіў у бальнічнай палаце сала і частаваў мяне. Сцвярджаў, што яго сала – лепшае за ўсе лекі). Дужымі пальцамі вышчыкнуў лязо, церануў і яго аб рукаў, а потым адрэзаў ад яблыка скрылік і даў мне.

Мой язык ледзь варушыўся ў прахалоднай кісла-салодкай хрумсткасці яблыка. Праглынуў. Зірнуў на старога, але ён закрыў бліскучае лязо, трохі вінавата ўсміхнуўся і прамовіў з уздыхам:

– Ну, што цяпер скажаш дзеду Ціханёнку? Хіба не смачна?

– Здаецца, ніколі такіх яблыкаў не каштаваў.

– Больш не дам, і не прасі, нельга... Купі, малец, вось гэты дубчык. Гэта на ім вырас і выспеў яблык. Пасадзі яго, даглядай... Праз год на ім з'явіцца тры такіх яблыкі, а яшчэ праз два гады пяць, вось потым і паясі.

Ціханёнак выцягнуў з белага меха маленькае дрэўца, на якім было два цёмныя, як з цыраты выразаныя, паўсухія лісцікі.

– У нас ёсць яблыні, іх яшчэ жончын дзед садзіў...

– Калі першыя яблыкі паспеюць, ты адзін аддай жонцы, другі дачцэ, а трэці каму захочаш... Толькі самому есці не трэба. Зразумеў? Я ж цябе ніколі не падманваў.

Я купіў у Ціханёнка саджанец за дзесяць рублёў. Мы развіталіся. Хацеў паціснуць яму руку, але ён адмовіўся, сказаў што яго пальцы ліпкія, бо на іх яблычны сок.

Калі я, з яблынькай у руцэ, дайшоў да аўтастанцыіі, а гэта зусім побач з базарам, то азірнуўся. Дзеда Ціханёнка не было.

У аўтобусе немалады дзядзька крануў мяне за плячо, паглядзеў на дубчык, які вытыркаўся з мяшка і спытаў, а што за яблыкі на ім будуць – раннія ці познія.

– Смачныя!

– З машыны браў, з пітомніка?

– Не, у дзеда Ціханёнка з Пад'язення купіў.

– Што... Нешта ты блытаеш... Два гады назад Ціханёнак памёр, а старэйшы сын прадаў хату мінчанам пад лецішча. Яе разабралі і вывезлі. Я сам з Пад'язення.

Аўтобус так моцна хіснула, што дзядзьку з Пад'язення адкінула на дзверы, а я застаўся стаяць і трымацца за тонкі дубчык, на якім праз год з'явяцца тры яблыкі.

*Лістапад 2019*

## Фантомны боль

Гэта ж трэба, прайшло цэлае жыццё, і я ўспомніў...

Дзед гаварыў: "Якая бульба на калгасным полі, адна ў адну... І жукоў амаль няма!" А мог і так: "А на калгасным полі жыта дык жыта!"

І буракі, і морква, і нават кукуруза, па дзедавых словах, на тым калгасным полі радзілі... Мне ж размовы пра калгаснае поле былі мала цікавыя. Але, па восені, у сямідзесятым, калі камбайны зжалі ячмень, вядома ж, добры, адбылося вось што. Дзед завёў мяне на тое поле, якое пачыналася за нашым агародам. Прайшлі дажджы, ісці цяжка, бо ногі грузлі ў мяккай і чорнай зямлі. Мы ішлі, ішлі, а потым спыніліся і дзед сказаў: "Уся гэтая зямля, аж да вялікіх елак, аж да самай дарогі – наша..."

Потым ён паказаў, дзе стаяла гумно і свіран. Нават рукамі так зрабіў, быццам вялікія дзверы адчыніў. Увайшоў, пачаў расказваць, дзе снапы ляжалі, дзе малацілка конная стаяла...

Сыпануў дождж. Я пабег па полі ў хату, а дзед застаўся стаяць пад высокім саламяным дахам гумна, на сваёй зямлі, кепку трымаў у руцэ. А дождж часаў і часаў...

## Неверагодная восень

Заўчора памёр Паша-гарманіст, а сёння яго пахавалі. Я думаў, што Паўлюку далёка за семдзесят, а яму толькі шэсцьдзясят чатыры... Выпіў у суседняй вёсцы. Прыйшоў дамоў, сеў на лаву пад хатай і застаўся сядзець. Раніцай жонка выйшла, убачыла яго і кажы: "А ты што і спаць не клаўся?" А Паўлюк не прачынаецца. Яго ў хату занеслі, на посцілку паклалі, а ён як сядзеў, так і ляжыць. Людзі сабраліся, міліцыю і "хуткую" выклікалі. Паспрабавалі яго выпрастаць – не атрымліваецца. Тут нехта з вяскоўцаў і сказаў: "Не чапайце! Там яго выпрастаюць. Абшпараць і выпрастаюць!" Пашу-гарманіста павезлі ў горад на ўскрыццё, а ў вёсцы пачаліся клопаты. Трэба ямку капаць, хаўтуры ладзіць.

Прывезлі нябожчыка ўчора. Цікаўныя і сваякі з суседзямі хадзілі глядзець. З прычыненай старой шафы пазірала на ўсё, кнопкамі паблісквала, пара гармонікаў. Што з імі рабіць, каму аддаць, удава не ведае.

Сёння прыгожы светлы дзень.

Пашу пахавалі.

Хаўтуры ладзілі на турбазе, за шашой, на беразе возера. Закусвалі па адвечнай завядзёнцы клёцкамі, пілі гарэлку, а жанчыны віно. Гаварылі спачатку пра Паўлюка, пра тое, які ён быў добры, сціплы і сумленны. Потым трохі іншых нябожчыкаў-аднавяскоўцаў паўспаміналі. Выпілі...

А пасля трэцяй чаркі пачалі пра сваё, пра жывое і пякучае. Пра нябожчыка забыліся, расчырванеліся, развесяліліся нават, як і не было яго на гэтым свеце... Але ж ён быў, хадзіў, гарэлку піў, на гармоніку граў...

Хоць і не хацелі многія выходзіць з-за стала, але на ўсё свой час... Гаспадар турбазы, удава і сваякі ветліва развіталіся, скрушна ківалі, стомлена ўздыхалі, бо хацелі спаць.

Мужчыны, якія капалі ямку, апускалі труну і закопвалі, на хаўтурах сядзелі побач. Яны і ў вёску пайшлі разам, хоць іх і прапаноўвалі "падкінуць".

Позні вечар. Зоркі. Поўня, як аблупленае варанае яйка. Светлая дарога. Ад турбазы да вёскі зусім недалёка. Першым ішоў глуханямы Ягор, а за ім цягнуліся Лёшка з Сяргеем і гучна абмяркоўвалі, як раніцай пойдуць на могілкі, паправяць жоўты грудок з крыжам Паўла Ягоравіча, а потым да ўдавы, дзе абавязкова дадуць апахмяліцца.

"Вялікая Мядзведзіца, глядзі!" – паказаў Сяргей пальцам і хацеў спыніцца, але Лёшка ішоў і цягнуў яго за сабой на пагорак.

Там стаяў слупам колькі часу глуханямы Ягор, глядзеў у неба і гучна мэкаў. Бейсболку трымаў у руцэ. Яго доўгі твар выцягнуўся яшчэ больш, а вочы блішчэлі. Ён схапіў за рукаў Лёшку, потым схаваўся за спіну Сяргею і ўсё працягваў мэкаць.

Вёска ляжала ўнізе, захутаная шэрым туманам. Гарэла колькі ліхтароў і колькі вокнаў у хатах.

– Стой! – загадаў Сяргей.

– Стаю! – адказаў Лёшка і напружыўся.

– Заткніся! – гыркнуў на нямога Ягора, які і так маўчаў, адно вачыма бліскаў.

Там, у вёсцы, у тумане, граў гармонік.

– Чуеш, гэта Паша... – упэўнена прашаптаў Сяргей.

– А больш і няма каму, – пацвердзіў Лёшка.

Нямы клацаў запальнічкай, якая не гарэла. Гармонік граў і граў, то весела, то тужліва...

– А я Паўлюку восем рублёў вінен... – раптам прызнаўся Сяргей.

Неверагодная восень.

*Кастрычнік 2019*

## Журавы

Мне гадоў сем, а дзеду за восемдзесят. Пасвім з ім кароў. Кастрычніцкі дзень празрысты, але без сонца. Каровы ходзяць па пожні, мы за імі.

І тут я пачуў жураваў. Не ўбачыў яшчэ, а толькі пачуў высокае і далёкае курлыканне. Стаяў і глядзеў у неба, чакаў.

Журавы з'явіліся.

Высока-высока...

– А чаго яны так крычаць, дзед?

Мой дзед не дачуваў, але чараду жураваў убачыў. Глядзеў-глядзеў, задумаўся: "Крычаць, каб пачуў яшчэ які жораў і даганяў, ляцеў за імі... А можа таму крычаць, што не ўсе дамоў вернуцца..."

– А хіба яны ведаюць, хто з іх не вернецца?

– Не ведаюць... Вось таму і крычаць... Ідзі карову пераймі, не стой.

Журавы яшчэ крычалі, а я бег па пожні, каб пераняць чорную суседскую карову.

## Палкоўнік

Гаспадар цаглянага дома пад чырвоным дахам чысціць рыбу. Сядзіць босы на невысокім ганку, побач пластыкавае вядро з-пад фарбы і тазік з вадой. Ён бярэ з вядра плотку ці падлешчыка, кладзе на дошку і шкрабе луску нажом з шырокім бліскучым лязом. Луска пстрыкае, ён моршчыцца, адразае рыбіне галаву, каб не вэжкацца з зебрамі, спрытна выдзірае вантробы, кідае безгаловую плотку ў тазік з ружовай вадой.

Я падышоў ціха, а калі хацеў адчыніць жалезныя веснічкі і бразнуў зашчапкай, то ён павярнуў галаву, рэзка і хутка. На чырвоным твары прамільгнуў, як цень, дзіўны выраз – можа, сполах, а можа, здзіўленне. Хаця чаго яму здзіўляцца, калі мы дамовіліся ўчора, што ён дасць мне ключ ад сваёй лодкі, каб я мог пакідаць на возеры спінінг.

– Ты нешта позна, я цябе чакаў раней. Сядай. Адпачні крышку, бачыш, трэба з рыбай управіцца. Мае, ні жонка ні дачка з зяцем, ездзіць сюды не жадаюць. Кажуць, што ім тут сумна, што тут акрамя камароў, ваўкоў і лісіц – нікога. Дзіўныя... А мне падабаецца, што тут людзей амаль няма. Што тут ціха... Слухай, навошта табе рыбу лавіць – бяры маю, яе і чысціць не трэба, – прапанаваў ён, кінуў у таз апошнюю плотку, і ўздыхнуў з палёгкай.

– Іванавіч, каб у вас быў кот, то быў бы ён сёння сыты і шчаслівы, – сказаў я і паглядзеў на галовы і яркія вантробы, ссунутыя на край габляванай дошкі.

– Не хачу я ні ката, ні сабаку... Калі са мной нешта здарыцца, то хто іх будзе даглядаць. Жонка? Дачка з зяцем? Унучка? Няўпэнены, што яны мяне дагледзяць... – гаварыў ён і спрактыкавана, па-мужчынску мыў рыбу.

Выліў ваду з тазіка ў траву пад штыкетнік, наліў з вядра свежай, яшчэ раз перамыў, зліў ваду і выцер свае маленькія, далікатныя, як у хлопчыка, рукі. На рыбу зірнуў так, быццам пералічыў.

– Давай лепш кавы вып’ем, бо нічога ты не зловіш. Не той сёння вецер, і навальніца ноччу будзе, трэба не забыцца і парнік закрыць, а то падзярэ вецер, паваляе і параскідае ўсё...

– Можа потым, Іванавіч, калі вярнуся з возера.

– Не варта адкладаць на потым тое, што можна зрабіць цяпер, чуеш. Пачакай, – загадна сказаў ён, склаў памытую, а таму і непрывабную безгаловую рыбу ў місу, накрыў талеркай і панёс у дом. Я паглядзеў на абабітыя жалезам дзверы з маленькім, як старонка сшытка, акенцам. Яно было зашклёнае, а з сярэдзіны закратаванае.

Іванавіч, ці Палкоўнік, як яго звалі за вочы, з’явіўся тут адразу, як разваліўся Савецкі Саюз. Адны казалі, што ён танкіст, другія сцвярджалі – артылерыст... Служыў на Поўначы. Ні з кім з мясцовых не сябраваў, але мог завезці ў бальніцу на сваёй машыне хворага, мог купіць у райцэнтры ў аптэцы патрэбныя лекі. Даволі хутка адрамантаваў дом, які стаяў амаль у лесе, побач з возерам. Перарабіў хлеў у гараж, абнёс участак высокім плотам з негабляваных дошак, шпакоўні павесіў на ўсіх дрэвах вакол дома. Калодзеж у яго быў адмысловы, абабіты жалезам, з цяжкім чорным замком. Без ключа такі не адчыніш, вады не набярэш. І на ўсіх вокнах меліся краты, звараныя з моцных жалезных прутоў. Не дом, а невялікая крэпасць. Мясцовыя п’янтосы і злодзеі яго дом абыходзілі. Не чуў, каб нешта вынеслі нават з двара.

Ён з’явіўся на ганку з вялікай талеркай; на ёй мяса, парэзаны ўдоўж агурок, зялёная цыбуля, пара яек, дзве лусты хлеба. У другой руцэ Іванавіч трымаў пачатую бутэльку і дзве чаркі. Убачыў на маім твары здзіўленне і патлумачыў, што ў яго дзень нараджэння і я не маю права адмовіць...

Сядзелі амаль гадзіну, пакуль не дапілі гарэлку. З ключом у кішэні, вёсламі на плячы і спінінгам я пайшоў на возера. Плаваў. Кідаў. Спрабаваў хоць нешта злавіць, ды не атрымлівалася. Круціў катушку і думаў пра Іванавіча, пра тое, што яго называюць Палкоўнікам, пра тое, што ён дзіўны чалавек. Але мне падабалася, што ён не баіцца адзіноты, што жыве побач з падобным да гітары возерам, а не ў вёсцы... Вяртаўся, калі было цёмна. Лодку замкнуў, вёслы на плечы.

У доме Палкоўніка ўсе вокны цёмныя. Пастаяў у двары, абышоў дом, пагрукаў у дзверы. Потым зноў, ключом. Жалезам аб жалеза атрымалася гучна і звонка. Дзверы таргануў-штурхануў, але яны былі зачыненыя. Збіраўся паляпаць па ваконным шкле, але тут, за жалезнымі дзвярыма, нешта адбылося, а потым пачуўся голас палкоўніка: “Хто там?! Адыдзі ад дзвярэй!”

Я спалохана назваўся і сказаў, што прынёс ключ ад лодкі. Дзверы адчыніліся. Палкоўнік стаяў на парозе са стрэльбай у руках. Вочы блішчэлі.

Я разгублена аддаў ключ. Вёслы паклаў пад сцяну і хутка сышоў. Пахла лесам, травой, возерам і ўсім тым, чым пахне перад начной навальніцай. Вялізны, цёмны і мяккакрылы пугач праляцеў так нізка і блізка, што я спалохана прысеў... Уздыхнуў з палёгкай толькі тады, калі быў у вёсцы, побач са сваім домам, бо ўбачыў яркае святло ў вокнах і абрыс жонкі, якая рэзала на скрылі яблыкі.

Пяты год Палкоўнікаў дом стаіць закінуты. Двор зарос бадыллём, ад парніка адно шэры шкілет, штыкетнік дзе-нідзе паваліўся, вароты гаража наросхрыст, веснічак няма. На вокнах іржавыя краты. Жалезныя дзверы зачыненыя. Калодзеж на замку. Палкоўнік, які ўсё гэта любіў – памёр. Спынілася сэрца. Мясцовы пракурор сказаў, што Іванавіч – сапраўдны палкоўнік. Служыў на Поўначы начальнікам турмы, а потым вярнуўся на радзіму.

*Кастрычнік 2019*

## Пра любоў

– Восень. Кастрычнік. Вечар. Было халодна і сыпаў дождж. Я ішоў, капюшон на вочы, рукі ў кішэнях. Спяшаўся. Яна не пазнала мяне, а я не пазнаў яе. Састарэла, распаўнела, рухаецца павольна, парасонам паламаным ад дажджу прыкрываецца. Акуляры яна ўздзявае толькі калі працуе, можа, таму і не пазнала. Я прайшоў побач, яна курыла. А пазнаў мяне яе сабака. Кінуўся мне ў ногі, бруднымі лапамі на джынсы, на куртку. Я так спалохаўся, што адскочыў, спатыкнуўся, на ср...ку сеў, на мокрае лісце... А сабака ў твар лезе, павісквае дзіўна і ліжа мне шчокі, нос, шыю, вочы. Тут і я іх пазнаў – і Чапу, і сваю былую... Сем гадоў прайшло, а сабака мяне ўспомніў... Даўно хацеў табе гэта расказаць – пра любоў.... – Алег уздыхнуў, як мне падалося, з палёгкай.

– А потым што?

– Потым мне куртку і штаны чысцілі. Пакурылі, кавы папілі і разышліся.

## Старыя красоўкі

Яму падабалася прачынацца рана. Ён весела калоў папілаваныя асінавыя ды бярозавыя дровы. Шырока замахваўся сякерай і біў па "сэрцы", а калі не атрымлівалася раскалоць цурбэлак з першага разу, то закідваў яго за спіну і моцна лупіў абухом па дубовай калодцы. Цурбэлак трашчаў, развальваўся, разрываўся. Мужчына задаволена дыхаў і думаў, што праз два гады на пенсію, а ён яшчэ такі дужы і спрытны, падхопліваў і адкідваў паколатае пад гаражную сцяну. А яшчэ ён адчуваў, што за ім сочаць са спачывальні, а потым з кухні, і ад гэтага працавалася яшчэ лепш...

Калі папілаваныя дровы скончыліся, то ён пайшоў на возера. Распрануўся, спінай і патыліцай адчуваў жаночы позірк і даў нырца. Доўга плыў у цёплай ранішняй вадзе, так доўга, што пачало калоць у грудзях. Выдыхнуў рэшту паветра і вынырнуў ажно за гарлачыкамі. Перавярнуўся і паглядзеў на дом Іваніцкіх, на вільчык чырвонага даху. Убачыў нерухомы флюгер і паплыў да сярэдзіны возера.

Калі прыйшоў, то гаспадары яго чакалі за столікам. Іваніцкі з кубкам травяной гарбаты, а яго маладая жонка з кавай і тонкай цыгарэтай... Паснедалі, абмеркавалі надвор'е, і ён зазбіраўся ў горад, бо мелася праца. Яго ўгаворвалі папалуднаваць, павячэраць, але ён толькі ўсміхаўся, дзякаваў за два цудоўныя дні і добрыя ўспаміны. Яго жонцы Іваніцкія перадалі далікатны кошык духмяных клубніцаў, і гаспадыня сказала:

– Ігар, не забывайце пра нас, прыязджайце!

– Дзякую, абавязкова!

Ён ехаў па шашы і задаволена слухаў музыку. Адчуваў сябе выдатна – адпачыў, выспаўся... Шкадаваў, што жонка не паехала з ім і прабыла выхадныя ў гарачай гарадской кватэры, а магла плаваць, чытаць, ляжаць пад вялікай ліпай, слухаць, як гудуць пчолы, і глядзець на возера.

На шашы, там дзе з'езд на гравійку, дзе за рудым полем, на пагорках далёкія вёскі, стаяла жанчына ў светлай шырокай спадніцы, чырвонай майцы, у руцэ цыгарэта і мабільнік, а ў левай брудныя сандалі. Стаяла яна босая, на шурпатым асфальце, і глядзела на ягоны легкавік. Жанчына – гадоў трыццаць, была каротка, амаль пад нуль, пастрыжана. Ускінула загарэлую руку са светлымі бранзалетамі і чакала, калі ён павольна, амаль побач, спыніцца. Нервова павіталася і ўважліва, быццам прыцэньвалася, паглядзела на Ігара. Ён вытрымаў яе позірк і жартаўліва прапанаваў запальнічку. Жанчына зацягнулася і папрасіла, калі ён не супраць, дапамагчы, бо яе машына загрузла, калі яна вырашыла аб'ехаць лужыну. Ён хмыкнуў і бадзёра падаўся за ёй.

Чырвоная невялікая машынка крыва стаяла за кустамі побач з прыгожай лужынай.

– Давядзецца штурхаць! Сядайце, што стаіце, – па-гаспадарску загадаў і ўпэўнена зірнуў на жанчыну.

– Атрымаецца?

– Паспрабуем... – сціпла, але важка адказаў ён і расправіў плечы.

Яна паглядзела на яго. У позірку захапленне і здзіўленне.

Ці не паўгадзіны ён штурхаў маленькую жаночую машыну, расхістваў, але яна толькі калацілася і яшчэ больш грузла ў мяккую і мокрую зямлю. У багажніку яе машыны стаяла пластыкавае вядро з ружовымі клубніцамі, галон з вадой, ляжала "запаска", ліхтарык і адна пальчатка. Ні вяроўкі, ні

тросу не было. Жанчына вінавата развяла рукамі і прапанавала пачаставацца ягадамі. Ён адмовіўся, бо пачаў злавацца на сваю бездапаможнасць і самаўпэненасць, з якой узяўся за працу. А яна выбірала самыя лепшыя і з задавальненнем ела, усміхалася вільготнымі вуснамі.

“Прывабная, самастойная і, відаць, жыве без мужа”, – падумаў ён і паглядзеў на свае брудныя красоўкі.

– А ведаеце што, падвязіце мяне да запраўкі, гэта зусім побач, на трасе. Я хацела пайсці туды і папрасіць дапамогі, але ўбачыла вашу вялікую машыну і вырашыла, што вы... Ну, самі разумееце... – яна падняла з зямлі свае брудныя сандалікі і кінула ў багажнік.

– Каб быў трос, дык і праблемы...

– Не перажывайце, вы зрабілі ўсё, што маглі... Зрэшты, мы нават не пазнаёміліся.

Мужчына адчуў пругкасць яе нервовай рукі, але ў вочы не паглядзеў.

На запраўцы ўсё вырашылася даволі хутка. Малады мужчына з моднай кучаравай барадой, на чорным джыпе з лябёдкай і дзясяткам рознакаліберных фар на версе кабіны адразу пагадзіўся дапамагчы жанчыне. Тамара села ў джып і, як падалося Ігару, крыху паблажліва памахала на развітанне ружовай далонню...

Дома ён доўга мыўся-галіўся, прычэсваў сівыя валасы. Марудна і без задавальнення еў, а жонка распытвала пра новую прычоску Іваніцкай, пра іх дзяцей, пра нахабнага кітайскага сабачку, але не шкадавала, што засталася ў горадзе.

– Не трэба было ехаць да Іваніцкіх у новых красоўках, цяпер яны як старыя, – сказала жонка.

Ён задумаўся, спахмурнеў. Адсунуў талерку з недаедзенай смажанай рыбай, паклаў відэлец і нож.

– Што, не смачна?

– Слухай, я думаю, пакуль не позна, нам трэба адсюль з’язджаць.

– Як Іваніцкія, у вёску?

– Не... У іншую краіну.

*Кастрычнік 2019*

## “The Dark Side of the Moon”

Каця патэлефанавала яму на мабільны і сказала сваім самым звычайным голасам, што, калі прыбіралася, то знайшла сярод часопісаў і кніжак тры старыя пласцінкі, і ён можа забраць іх у любы час, бо яна ў адпачынку і працуе дома.

Гэтаму званку Андрэй моцна здзівіўся. Год і два месяцы яны з жонкай не гаварылі, не бачыліся, хаця жылі ў адным горадзе і хадзілі па адных і тых жа вуліцах.

Быў вечар. Нядзеля. І ён прыехаў да яе. Падняўся на трэці паверх. Сэрца перад дзвярыма непрыемна сціснулася, але хутка адпусціла. Яна адчыніла дзверы, паглядзела на яго з прыязнай усмешкай і пацiснула плячыма.

Ён адзначыў, што Каця за той час, як яны разышліся, трохі паспраўнела, а потым, што яна ў свае сорак – вельмі прыгожая.

– Праходзь... Толькі давай не будзем гаварыць пра мяне.

– Як хочаш... Мне распрануцца?

– Навошта ты так?

– Прабач.

У кватэры, якую ведаў да драбніц, амаль нічога не змянілася. Пахла знаёмым парфумам, чысцінёй (у Каці на ёй пункцік), паркетам, але зусім не пахла кавай. Калі ён мыў рукі, то яму нават падалося, што ён не сыходзіў, што яны жывуць разам – размерана, ціха, амаль без спрэчак, як у лепшыя часы.

Стол, за якім ён працаваў, стаяў пры вакне, праз спінку крэсла перакінуты знаёмы мяккі плед у чорна-сінюю клетку. Андрэй дакрануўся да яго, быццам паправіў, паглядзеў на стол, на яе ноўтбук, акуляры, стос рукапісаў, потым у вакно, на дзіўную таполю, з якой ніколі не ляцеў пух. На падваконні стаялі рознакаляровыя бутэлькі, у сіняй з-пад віна – доўгая і крывая шыя...

Каця не прапаноўвала кавы, а моўчкі разглядала яго: так уважліва, быццам вышуквала заганы, так яму падалося.

– А... Музыка-музыка! – раптам прамовіла яна, ускінула правую руку і мякка павярнулася. – А я зноў забылася, куды іх паклала.

Ён сеў у крэсла да стала. Слізгануў позіркам па вялікай кніжнай шафе. Убачыў знаёмы фотаздымак: на ім яны з братам на Ленінскім праспекце, побач з аўтаматам, які прадае газіроўку. Аўтамат сваімі аэрадынамічнымі формамі нагадвае пінгвіна. У Іллі доўгія валасы, а ў яго кароткія, амаль вожык. Брат прыабняў яго за плечы і смяецца. У другім пакоі нешта ўпала, і Каця пяшчотна і нягучна засмяялася, выйшла з пласцінкамі і падала яму.

Андрэй трымаў іх на каленях, нават не стаў пераглядаць, бо ведаў і памятаў кожную.

– Думаў, што прапалі... Назаўсёды... Грузчыкі – маладыя... Але потым падумаў, а нашто ім наша музыка. У іх свае песні. Ты іх слухала?

– Не.

– Давай паслухаем.

– Як хочаш.

Ён падняў празрыстую накрыўку прайгравальніка. Пласцінка неахвотна выйшла з канверта.

Загучала першая кампазіцыя.

Каця прысела на канапу, а ён стаяў і глядзеў на аднастайнае мільганне надпісу. Потым і ён сеў на канапу, зусім блізка да Каці. Яны глядзелі, як пульсуе чырвоная кропелька святла на чорнай панэлі, і маўчалі.

Ён добра памятаў, як старэйшы брат вярнуўся, тады яшчэ з Ленінграда, куды ездзіў на перападрыхтоўку, і прывёз яму ў падарунак тры пласцінкі, якія купіў у п’янага штурмана гандлёвага парахода, а той набыў іх і прывёз ажно з Ліверпуля. Пра старэйшага брата ён падумаў з пяшчотнай удзячнасцю, бо гэта ён прыахвоціў яго да музыкі і кніжак. Згадаў, як Ілля глядзеў у вочы і казаў: “Гэта, брат, Гілмар... А гэта Джымі Морысан і Манзарэк!”

Мужчына і жанчына сядзелі перад прайгравальнікам. Сцішана, стоена, быццам бы разам, але паасобку. Кожны думаў пра сваё.

Калі музыка скончылася і прайгравальнік ледзь чутна пстрыкнуў, то ён падумаў, што яму добра, так добра, як было раней. Каця ўздыхнула з палёгкай, быццам музыка ёй надакучыла.

– Як ты? – спытаў ён і парушыў цішыню.

– Добра... – памаўчала і дадала: – Я цяжарная.

Цяпер уздыхнуў ён і апусціў галаву.

– А ў цябе лысіна, як у манаха шапачка, – сказала і дакранулася да яго мяккіх валасоў. – Не перажывай, цябе гэта не псуе.

– І хто той шчаслівец?

– Твой брат, – спакойна прамовіла Каця і лёгка паднялася з канапы.

Андрэй ішоў па Валгаградскай, потым па праспекце, глядзеў пад ногі і здзекліва мармытаў: “The Dark Side of the Moon, the Moon, лысіна, як у манаха, Джымі Морысан, Манзарэк, Гілмар, зэ дарк оф зэ мун...”

*Верасень 2019*

## Шпалеры

Пакуль дзеці ў летніку, яны збіраліся зрабіць рамонт. Збіраліся-збіраліся, але так і не пачалі. Дзеці павінны вярнуцца заўтра.

Ён сядзеў на канапе з ноўтбукам на каленях і праглядаў стужку навін. Раптам войкнуў.

– Зірні, пішуць, што твой былы сёння памёр.

Яна падышла, хутка глянула на фотаздымак вясёлага мужчыны ў модных акулярах і сказала:

– Ён заўсёды на сэрца скардзіўся, але шмат курыў.

Пайшла на кухню, мыла посуд. А потым ён пачуў гучны трэск у перадпакоі. Падхапіўся, адчыніў дзверы. Яна абдзірала шпалеры ў дробныя кветачкі. Абдзірала так, што ён вырашыў нічога не казаць.

## Дарога

Пачак цыгарэт і белая аднаразовая запальнічка ляжаць на пярэднім сядзенні, а іхні гаспадар сціскае зубамі незапаленую цыгарэту і глядзіць на дарогу. Рухавік на малых абаротах трохі пастуквае, і Сяргей думае, што ва ўсім вінаваты бензін, які ён заліў з зялёнай каністры ў бак. У салоне легкавіка горача і пахне сенам. Сяргей глядзіць на ахутаную жнівеньскай смугой шашу і краявіды. Яго мабільнік гучна трашчыць. Ён прыціскае яго да вуха левай рукой і амаль крычыць: “Так, вядома, усё зрабіў як мае быць... Як дзе? Вялікае поле праязджаю. Запакаваў і прывязаў добра. Не паб’ецца. Якога колеру, дык такога, як яна і хацела – арэхавага... Адна такая і была. Палёт нармальны. Няма і не будзе дажджу, я табе кажу... На малых абаротах трохі пастуквае, але ж вязе. Скажы ёй, што праз якія паўгадзіны буду дома, што дарма хвалюецца, еду і еду. Не, не спяшаюся, куды нам спяшацца!”

Па небе плывуць мяккія аблокі, а па залатым полі сунуцца іхнія лёгкія цені, і здаецца, што запакаваныя ў белы пластык валікі саломы няспешна коцяцца з пагорка на пагорак. Сяргей уздыхае. У вузкім люстэрку ягоны твар: паголенае падбароддзе, доўгі нос, рудыя валасы, светлы лоб, трохі запалыя шчокі і шэрыя вочы, у якіх застыла напружанне. Уласнае адлюстраванне падаецца яму малазнаёмым.

Стары чорна-сіні “Фольксваген Пасат”, некалькі разоў за доўгае жыццё перафарбаваны, абганяюць вялізныя як караблі фуры з замежнымі нумарамі і тады яму даводзіцца прыціскаецца да краю дарогі. Ён не можа ехаць хутчэй, бо і машына не цягне, да і груз не дазваляе разагнацца. Краі

тоўстага поліэтылену пачынаюць лапатаць і здаецца што машына вось-вось адарвецца ад цвёрдай дарогі з белай паласой і паляціць...

Зайздросна новыя легкавікі абыходзяць Сяргея лёгка, быццам і няма яго на дарозе, але ж ён ёсць. Побач праімчаў чорна-бліскучы матацыкл, а яго ўладарнік зірнуў Сяргею ў твар, а потым паказаў вялікі чорны палец у скураной пальчатцы. Палец тырчэў у жнівеньскае неба па якім чародамі плылі пульхныя аблокі.

Да павароту з трасы на гравійку заставалася зусім мала і Сяргей узрадаваўся, бо адсюль да дому па пыльнай дарозе роўна шэсць кіламетраў. Але адразу за паваротам, там, дзе заканчваецца асфальт і пачынаецца пыл, за кустамі лазы, стаяў шэры легкавік з мігалкай, а лейтэнант сядзеў у празрытым цяньку вярбы.

– Цябе толькі і не хапала, якое ліха цябе сюды загнала. – прамармытаў вадзіцель, але на твары з'явіўся сполах і пачцівасць. Ён паклаў цыгарэту на сядзенне.

– Лейтэнант Дзярыбка. – прамармытаў даішнік, змрочна зірнуў Сяргею ў твар і няспешна абышоў стары "Фольксваген Пасат". – Э-э-э!? Гэта яшчэ што такое? Зусім людзі звар'яцелі.

Дзярыбка хацеў тыцнуць паласатым дручком у груз, прымацаваны капронавая вяроўкай да багажніку, але перадумаў.

– А што я мог зрабіць, дарагі мой чалавек, калі яна закамандавала, сказала, каб кроў з носу, прывёз як мага хутчэй.

– Хто?

– Цешча мая. Сабралася паміраць, а ёй другі тыдзень не паміраецца, вось без гэтага во. – Сяргей падтыркнуў ражок празрыстага поліэтылену з аднога боку, а потым з другога, зацягнуў на белай вяроўцы вузлы, якія трохі разышліся, а потым разгублена ўсміхнуўся.

Лейтэнант Дзярыбка маўчаў і глядзеў у зямлю.

– Не, цешча мая нармальная, але як што возьме ў галаву – капут! Спрачайся, сварыся, ды ўсё дарма... І жонка ўся ў матку ўдалася, яблык ад яблыні.

Даішнік закурыў і яшчэ раз абышоў легкавік з такім нечаканым грузам, і, быццам сабе, прамовіў:

– Можна ж было на прычэпе прывезці, на трактары, на аўтобусе, а не так як ты – на багажніку.

– Яно можна, каб прычэп бегаў... Разабраны стаіць, і караткаваты ён, а тут метр дзевяноста пяць. Ну што мне было рабіць?

Лейтэнант Дзярыбка выплюнуў пад ногі недапалак.

– У нядзелю будзе сорак дзён як мая матка памерла. Пайшла вясной у бальніцу, здала аналізы, а праз два месяцы і цю-цю... Як і не было... Едзь адсюль. – Сказаў ціха, шмыгнуў, як пакрыўджаны дзіцё і пайшоў да машыны з мігалкай. Сеў і паехаў у бок райцэнтра.

Сяргей пастаяў. Паглядзеў па баках і не стаў садзіцца ў чорны "Фольксваген Пасат". Пайшоў па высокай траве на пагорак. Сеў на траву побач з кустом шыпшыны. На ім была адна кветка, а на ёй вэжкалася пчала. Ён абшчапіў калені і стаў глядзець на ўзлесак, на стужку ракі, на поплаў. Ён глядзеў на ўсё гэта так, быццам толькі сёння, хвіліну таму, усё гэта ўпершыню ўбачыў. "Я магу зарэзаць авечку і цяля, магу закалоць свінню і адсекчы галаву пеўню. Магу, але што з таго, калі і я памру..." – мармытаў саракагадовы мужчына.

Захацелася закурыць. Паляпаў па кішэнях, знайшоў запальнічку. Згадаў цыгарэты, якія засталіся ў машыне, на сядзенні. Паглядзеў на свой чорна-сіні легкавік, на багажніку якога ляжала новенькая труна арэхавага колеру, загорнутая ў чысты поліэтылен. Ім Сяргей яшчэ раніцай меўся накрыць капешку ячменю. Машына з трунoй нагадвала касмічны апарат, складзены з трох ступеняў, які хутка паляціць... Каб там, за аблокамі, пад зорамі – верхняя частка назаўсёды аддзялілася, зрабілася бязважкай і паплыла ў маўклівай і бясконцай прасторы.

Сяргей зірнуў на гадзіннік, і вярнуўся да машыны з трунoй на багажніку.

*Жнівень 2019*

## Мацільда

Мы ідзём уздоўж Свіслачы, па тым беразе, дзе Зыбіцкая. Эдзік мружыцца, калі глядзіць на сонечную ваду, уздыхае і расшпільвае маланку курткі.

– Глядзі, качка з качанятамі... Сем штук, яшчэ зусім малыя... Ты не хочаш выпіць? Я частую. Памалу.

Раней, а гэта гадоў пятнаццаць таму, мы з ім, калі сустракаліся, то маглі выпіць добра.

Ён ідзе лёгка, хоць цяжкі і грувасткі, як экскаватар. Нават, на набярэжнай Свіслачы, па маім аднакласніку зразумела – начальнік. Круглы твар падстаўляе ветру. Ён не спыняецца, ідзе ўпарта.

– Як сабе хочаш... Разумею – узрост. Я ж любіў яе... Мог і пасля працы заехаць, адрамантаваць нешта, прадуктаў прывезці. Лямпачкі памяняць. Там жа столь вышэзная, а яна маленькая. Прыязджаю неяк, сваім ключом адчыняю кватэру, а яна пад столлю... Прысунула круглы стол, а ён дубовы, цяжкі, на яго табурэтку, ускараскалася і спрабуе лямпачку памяняць. Старую лямпачку ў руцэ трымае, а злезці не можа – баіцца. Накрычаў, насварыўся, зняў... А яна маўчыць і кажа што гадзіну пад столлю стаіць і добра што я прыехаў. Да гэтага тры дні мяне набірала. А мы на лецішчы былі, там сувязь зусім ніякая. Бывае ў нядзелю з дзецьмі да яе прыязджалі – на піражкі розныя. Я хатні тэлефон толькі дзеля яе і трымаў. Цяпер яго няма, а тады быў. Яна пайшла ў краму, суседка казала, што там зніжкі нейкія для пенсіянераў. Пайшла, можа спяшалася, а можа яшчэ што, не хачу прыдумляць. Побач з Казлова, гэта цяпер вуліца Машэрава, самлела і ўпала. Яна ж акуратненькая, чысценькая, адразу відаць – настаўніца, а не бамжыха. Падлеткі і выклікалі “хуткую”. Прыехалі дактары і завезлі яе бальніцу, бо зразумелі – інсульт у жанчыны. У рэанімацыю адразу. Нам толькі ў сем вечара пазванілі, бо дакументы яе паглядзелі. Мы з жонкай таксоўку схапілі і ў бальніцу. Не пусцілі да яе, сказалі, каб заўтра прыязджалі.

Толькі праз чатыры дні да яе і пусцілі. Мы з жонкай, сястра з мужам, дзеці на вуліцы ў машыне. Ты быў калі-небудзь у рэанімацыі? Не быў. Усё чыстае, стэрыльная, дактары ў зялёным, цішыня. Нам пяць хвілін толькі і дазволілі з ёй пабыць. Побач, на суседнім ложку, жанчына стогне, а наша ляжыць і ў столь глядзіць. Мяне адразу пазнала. Узяў яе за руку, а пальцы, як драўляныя. Яна заміргала, мы нахіліліся, а яна перакошаным ротам шэпча: “Ма-ма-ма...” Кажу, што Машу не пусцілі, што яна на вуліцы, у

машыне, што перадае прывітанне і жадае, каб бабуля хутчэй папраўлялася, што мы да яе ў госці прыйдзем...

Адразу за мостам гучна гралі музыкі і ў мікрафон спявала нізкім голасам непрывабная спявачка, а вецер раскідваў яе доўгія валасы. Эдзік апусціў галаву, маўчаў, бо што гаварыць, усё адно словаў не пачуеш. Калі прайшлі далей, то ён зноў загаварыў.

– Ты толькі ўяві – пяцьдзясят гадоў у школе адпрацавала. Сшыткі, падручнікі. Ёй чужыя дзеці былі даражэй, чым мы з сястрой. Яна іх ведала, яны да яе прыходзілі з кветкамі. Ды думаеш чаго нас у рэанімацыю пусцілі? Там яе былы вучань – загадчык аддзялення. Вось яно як... Сястра мяне адсунула і да яе нахілілася, каб разабраць, што яна просіць, ці сказаць хоча, а яна зноў паўтарае сваё "Ма-ма-ма..." Падумаў, што яна маму згадвае, што трызніць. А потым яна гучна так, сваім настаўніцкім голасам і вымавіла па складах "Ма-ціль-да!"

– Кіно згадала?

– Якое кіно... Кошку яе так зваць. Уяўляеш, кошку яна згадала... Падабрала, калі смецце выносіла. Даўно...

– Эдзік, а дзе яна цяпер?

– Адкуль я ведаю. Калі прышлі ў кватэру, то кошкі там не было... Дзверы на балкон адчыненыя. Яно і добра, бо каму яна трэба....

Вецер дзьмуў.

Свіслач зіхцела.

*Жнівень 2019*

Уладзімер Арлоў



...там у сне ты памятаў верш Мігеля дэ Унамуна
*назаўсёды хачу я застацца маленькім...*

# Каралева пінгвінаў

***Балада***

*1*

у пятым класе ён прачытаў кніжку пра пінгвінаў
пінгвіны здаліся яму цікавейшымі за людзей
імператарскія пінгвіны мелі ягоныя рост і вагу
жылі ўдвая болей за ягоныя дванаццаць
хвацка з'язджалі на жыватах з ледзяных гор
давалі нырца на паўкіламетра ў ледзяной вадзе
спакойна не вынырвалі па цэлай гадзіне

магеланавы пінгвіны сустракалі каравелы
Фернана Магелана некаторых залічылі ў экіпаж
гіганцкія пінгвіны выраслі ўпоравень з Кулонам
двухметровым настаўнікам фізікі і астраноміі
шкада вымерлі не спаткаліся з людзьмі затое
пабачыліся з дыназаўрамі ды археаптэрыксамі

ён навучыўся плаваць як пінгвін стылем дэльфін
скакаў на адной назе набраўшы ў вушы вады
не скакаў бы каб меў воданепранікальныя пёры
пінгвіны закрывалі такімі пёрамі вушніцы
ён марыў вырасці паставіць рэкорд праплысці
дваццаць пяць кіламетраў за дзень як пінгвін

ён даведаўся пінгвіны не баяцца людзей
калі на палярную станцыю прылятае самалёт
бягуць падзівіцца на жалезную птушку
адны падаюць ад удару паветранай хвалі
другія задзіраюць галовы губляюць раўнавагу
пінгвіны ніколі не могуць самі падняцца
ёсць такая прафесія падымальнік пінгвінаў

падымальнік пінгвінаў бярэ птушку пад пашкі
асцярожна ставіць на лапы гладзіць спінку
пінгвіны ўдзячна зазіраюць у вочы гавораць нешта
мова пінгвінаў падобная да гукаў дзіцячай ляскоткі

ён уяўляў як падымае гаротнага пінгвіна
той глядзіць на яго нібы летась бабуліна рыска
нёс яе ў хату з перабітымі матацыклам лапкамі

потым было хатняе заданне *Кім я хачу быць*
ён напісаў хоча быць падымальнікам пінгвінаў
настаўніца пагладзіла па кучаравай галаве
*пяцёрка за фантазію* (сістэма была яшчэ пяцібальнай)
*толькі няма такой прафесіі хтосьці запусціў байку*
ён не стрымаў слёз прыляпілася мянушка Пінгвін
.............................................................................................
.............................................................................................
.............................................................................................
ён вырас здаў экзамены на філасофскі факультэт
згубіў падарунак аднакласнікаў парцалянавую пінгвінку
на ўскрайку памяці засталася экзатычная выспачка
разам з пінгвінамі на выспачцы жыла показка
пінгвін з сяброўкай зебраю робяць фота на памяць
*вам каляровае?* яны смяюцца *хопіць чорна-белага*

***2***

ён убачыў яе ў студзені ў вечаровым вагоне метро
яна была ў паласатым чорна-белым палітончыку
нічым не нагадвала зебру нагадвала пінгвінку
яна была смелая пінгвінка дазволіла правесці дадому

пацалаваць у падмерзлую шчаку крануць вуснамі вушка
вучылася на іспанскім факультэце ў лінгвістычным

тры дні іхнія сустрэчы вызначаліся цнатлівасцю
на чацверты дзень яе мацівовыя вусны абсыпаў герпес
ён сказаў не баіцца герпесу цалаваў яе болькі
*ведаеш да каго ты зараз найбольш падобная?*
*ты найбольш падобная да каралевы пінгвінаў*
ён распавёў сваю гісторыю з пятага класу
ёй спадабалася гісторыя спадабалася *Каралева пінгвінаў*
*а ў пінгвінаў бывае герпес? толькі ў каралеваў*

у яго аднапакаёўцы ён прапанаваў Каралеве
неадкладна заняцца гульнёю ў падымальніка пінгвінаў
яна пагадзілася спрытна дапамагла з гузікамі
аліўкавае цела дарослай дзяўчынкі дасканаласць крумянкоў
сапфіравыя рэчкі жылак спелыя сапежанкі цыцаў
упершыню сустрэтая абсалютная адсутнасць радзімак
дзе скажыце вы бачылі ў пінгвінаў радзімкі?

ён падняў Каралеву пад пашкі пагладзіў плечукі
неўзабаве яна зноў упала ад паветранай хвалі
*цяпер я сама цяпер я сама падыму свайго пінгвіна*
*ты па-ранейшаму не баішся герпесу?* ён не баяўся
ён быў наструнены лёгкі як самнамбул на промні поўні
такія сонечныя мінеты робяць адны каралевы або
жыхаркі наркатычных вандровак Язэпа Драздовіча

Каралева пінгвінаў абдымала яго за шыю ён падымаў яе
яе словы казыталі вушы слюдзянымі крылцамі стрыбляў
яе пінгвінавая мова нечым нагадвала іспанскую

***3***

яны гулялі ў падымальніка пінгвінаў амаль штодня
з імі почасту быў ягоны ўлюбёны Эмануэль Сведэнборг
містычныя падарожжы славутага шведа натхнялі яе
значна болей за тэорыю выклікаў і адказаў Арнольда Тойнбі

спадар Сведэнборг упэўнена дасягаў самога Сатурна
Сатурн быў самай далёкай з вядомых тады планет
аўтарытэту Эмануэля Сведэнборга гэта не замінала

на трэці дзень пасля сыходу чалавек паводле шведа
трапляе ў духоўны свет набывае духоўнае цела
жыве ў трысняговай хаціне працуючы за ежу

там існуюць стома голад смага затое па часе
людзі могуць набыць выгляд жывёл або птушак
добрыя ўзлятаюць галубамі пасвяцца авечкамі
заблукалыя душы чакаюць аблічча кажаноў і совай
было крыўдна і за тых і за тых шведу з імі яўна не шанцавала
(пра каранавірус у тыя часы ніхто не здагадваўся)

*а хто тады ператвараецца ў нашых мілых пінгвінаў?*
падаючы ад паветранай хвалі пыталася Каралева
ён адказваў у халадок вушка на пінгвінавай мове
у яго пінгвінавай мове відавочна прысутнічала Ӯ

ёй падабаліся сустраканыя Сведэнборгам у духоўным свеце
караблі з пустымі палубамі пад зялёнымі ветразямі
насустрач караблям выплывалі з хрызапразавых хваляў
лагодныя спруты аметыставыя чарапахі з вачыма-смарагдамі
Каралева пінгвінаў не хацела б паплаваць на іх?
яна ўдакладняла *на караблях ці на чарапахах?*
выбірала чарапах па-іспанску гіганцкая чарапаха *galapago*

жывучы ў Лондане Эмануэль Сведэнборг сцвярджаў
пад Лонданам існуе яго падземнае адлюстраванне
тыя самыя лонданскія вуліцы піўніцы прытоны
густа населеныя лонданскімі нябожчыкамі
нябожчыкі пакрысе ператвараюцца ў анёлаў і дэманаў
незразумела куды падзеліся тыя авечкі кажаны і совы

ці адчуваў ён у Лондане той другі Лондан?
ён адчуваў асабліва ў Фінчлі ў пабе *The Torrington*
прыехаў зноў а там усё як на праспекце ў Менску
піў густое ірландскае пітво зайздросціў Сведэнборгу
калі змены ў Лонданах-блізнятах не сінхронныя
Сведэнборг піў унізе за ліпучым ад *Guinness'у* сталом
на стойцы ляжалі прыжыццёвыя выданні Дыкенса

яна не ведала ў каго хацела б ператварыцца
у анёла ці ў дэмана пэўна па чарзе але спачатку ў дэмана
аднойчы яна сказала што ў яе адчуванне
быццам яна жыве не першы і не апошні раз

цэлымі гадзінамі яны з Каралевай плылі рознымі стылямі
закрыўшы вушніцы воданепранікальнымі пёрамі

***4***

яна любіла фіялкі архідэі залацістыя хрызантэмы
чытала ў арыгінале *Прыгоды брыдкага дзяўчаня* Льёсы

любіла вершы і афарызмы Мігеля дэ Унамуна
цытавала іх па-іспанску потым перакладала
ён памятае *сапраўднае дыхае нам у твар цяжка*

у лютым шуфляда яго стала знайшла школьную пінгвінку
у лютым на левым плечуку Каралевы ён убачыў тату
пінгвін калі лепей прыгледзецца пінгвінка з каронай
з правага плечука глядзела чалавечымі вачыма чарапаха
*ты ведаеш пра галапагоскіх пінгвінаў?*

ён неадкладна залез у *Google* галапасоскія пінгвіны
ціхамірна жылі на аднайменных астравах
(ён памятаў *galapago* па-іспанску гіганцкая чарапаха)
менавіта на астравах Фернандына і Ізабэла ля экватара
астравы даследаваў малады натураліст Чарльз Дарвін
там вядуцца вялізныя марскія ігуаны дэльфіны
акулы-нянькі (няхай няньчаць саміх сябе)

галапагоскія пінгвіны выседжваюць яйкі сорак дзён
саміца і самец сядзяць на яйках на змену
у два месяцы пінгвіня выходзіць з бацькамі ў мора
яна прачытала верш Унамуна пра дзіця ў слязах
дзіця даведалася што вырасце будзе дарослым
дзіця хацела назаўсёды застацца маленькім некалі і ён
магчыма двухмесячнае пінгвіня таксама

у сакавіку яны гулялі ў падымальніка пінгвінаў усё радзей
са стала за імі ўважліва назірала парцалянавая пінгвінка
Каралева зрабіла пінгвінцы карону з пярсцёнка з перлінкай
галапагоскіх пінгвінаў на свеце ўсяго дзве тысячы
*маленькае цёплае каралеўства* сказала яна *там гавараць*
*па-іспанску* ён спытаў *пінгвіны?* яна адказала
*пінгвіны? цалкам магчыма гэта Эквадор*

***5***

у траўні гульні ў падымальніка пінгвінаў скончыліся
яе тэлефон маўчаў нядоўга адгукалася галасавая пошта
ён набіраў нумары па якіх шукаюць зніклых
знаёмы празектар пранікся сітуацыяй весела супакоіў
на іх тэрыторыю ніхто без радзімак не трапляў
на развітанне празектар пачаставаў гісторыяй з практыкі
калі яны з калегамі бяруць даследаваць мазгі
у нябожчыкаў мяняецца ранейшы выраз твару

вечарамі ён чытаў сеньёра Мігеля дэ Унамуна
*жанчына заўсёды ведае жанчына заўсёды ведае*
*ведае што на яе глядзяць нават калі яе не бачаць*
*ведае што яе бачаць нават калі на яе не глядзяць*

***6***

пры канцы жніўня ён бязмэтна блукаў у сеціве
напаткаў фільм пра мужчын з жанчынамі-лялькамі
шчаслівыя пары ідылічна кіраваліся агульным розумам

знакаміты мастак прывёз на ролс-ройсе каханую ляльку
на персанальную выставу пасадзіў у фатэль
бясконца дакранаўся да яе папраўляў сукенку
вядомы вучоны дарыў сіліконавай жонцы кветкі
натхнёна вёў ад яе імя старонку ў твітэры
улаўраны архітэктар мыў сіліконку рэдкімі шампунямі
хадзіў з ёю ў звярынец яна цікавілася птушкамі
у кадры з'явілася радзіна імператарскіх пінгвінаў

ён спыніў фільм паспеў пачуць пра сіліконавыя бардэлі
знайшоў фільм пра пінгвінаў адчыніў бар
у ягонай краіне такіх бардэляў пакуль не было
пагатоў з сіліконавымі пінгвінкамі з тату і без

***7***

ён пайшоў да ракі там у зарасніках вербалозу
хавалася галявінка там яны астатні раз гулялі
гулялі ў падымальніка пінгвінаў на зялёнай посцілцы
грэліся іспанскім херасам проста з рыльца

неба поўнілася спелымі зоркамі знічкі ўжо апалі
у росную траву загадваць жаданні было позна
на галявінцы плакала скрыпка ён загарнуўся ў плед
скрыпка зацiхла самотная постаць музыкі
павольна плыла да гарадскіх гмахаў туман
падымаўся ад ракі галубіна-шызымі аблокамі
Вялікая Мядзведзіца знайшлася імгненна
сыта пазяхнула на Казу і Валапаса
Каралева пінгвінаў любіла вянок Паўночнай Кароны

ён разуўся дайшоў да галявінкі басанож
паставіў на росную траву парцалянавую пінгвінку
паставіў побач пачатую пляшку херасу *Manzanilla*
раскінуў посцілку зялёная посцілка ўсё ўспомніла

запахла салодкім потам херасам спермаю
зоркі глядзеліся ў раку бабуля казала над ракой
зорак заўсёды болей любяць круціцца перад люстэркам
пінгвіны глядзеліся ў акіян якія сузор'і на Галапагосах?

ён зразумеў Каралева ніколі не вернецца але яна
не жыве ў трысняговай хаціне працуючы за ежу
хоць там таксама існуюць стома голад смага аднак
там існуе і безліч усяго астатняга ўлучна з херасам

Каралева стаіць у атачэнні галапагоскіх пінгвінаў
на беразе акіяна з маладым Чарльзам Дарвінам
Каралева плыве на чарапасе ў зебрастым купальніку
выходзіць на палубу карабля пад зялёным ветразем
ветразь злёгку пахне салодкім потам херасам спермаю
ветразь ловіць гукі далёкай самотнае скрыпкі

***8***

у верасні ён зноў гуляў у падымальніка пінгвінаў
яна зусім не была падобная да пінгвінкі
яна была старэйшая пінгвіны столькі не жывуць
яна мела чуйнае цела з цёплай палевай парцаляны
парцаляну хтосьці шчодра пасыпаў радзімкамі
ёй падабалася калі ён складаў радзімкі ў сузор'і
даваў сузор'ям назвы кшталту Герменеўтыка

яна мела навуковую ступень тры кнігі без малюнкаў
яна чытала *Спасціжэнне гісторыі* Арнольда Тойнбі
росквіт і заняпад ягоных цывілізацый некалькі дзён
служыў ім прэлюдыяй яна прасіла не дарыць ёй кветкі
яна не хварэла на герпес не ведала мовы пінгвінаў
яны не размаўлялі пра Эмануэля Сведэнборга
пра падземны Лондан з былым пабам *The Torrington*

аднойчы ён спытаў ці чытала яна Мігеля дэ Унамуна
зазваніў тэлефон яна яшчэ не чытала яны не спынялі гульні
назвы гульні яна не ведала і ён вырашыў не даведаецца

у тэлефоне адбіўся нязвыклы ў нашых шыротах нумар
код 593 *Google* паслужліва паведаміў гэта Эквадор
дабаўленая лічба 5 пазначала Галапагоскія астравы
у прыватнасці галапагоскі горад Пуэрта Вільяміль
магчыма ён населены пераважна пінгвінамі

***9***

ты пачуў ягоную гісторыю ў рэстаране *Іспанскі куток*
там даўно рэстаран *TGI Friday's* там не гавораць па-іспанску
не гаварылі і тады адно Каралева з афіцыянтам Аўрэліё
нумар з кодам 593 дагэтуль у памяці тэлефона

насупроць даўно стаяла безнадзейна пустое крэсла
рахунак прынеслі на аднаго цябе ты не заўважыў
калі падымальнік пінгвінаў паспеў разлічыцца

ты піў віно *Zinfandel* потым іспанскі херас
доўга глядзеў на код з дабаўленай лічбаю 5
калі яго набраць можа адказаць Чарлз Дарвін
саміца і самец выседжваюць яйкі па чарзе
у два месяцы пінгвіня выходзіць з бацькамі ў мора

потым табе прысніўся сон ты быў маленькі
ты быў маленькі з тваёй цяперашняй душой
з усім адбытым і адбітым у ёй за гэтыя дзесяцігоддзі
каб здагнаць сябе самога трэба пражыць цэлае жыццё

там у сне ты памятаў верш Мігеля дэ Унамуна
*назаўсёды хачу я застацца маленькім*
там у сне ты хацеў набраць нумар сеньёра Мігеля
ты добра памятаў патрэбны код з дабаўленай лічбаю

Павел Севярынец



...Віцебск
ёсць высяканне
ісціны з іскрамі...

# Беларусалім. Сэрца святла

***Фрагменты з рамана***

## ВІЦЕБСК. ІСУС І МЕЧ

*Калі навастру бліскучы Мой меч,*
*І рука Мая прыме суд –*
*Адпомшчу ворагам Маім,*
*І ненавіснікам Маім аддам.*

**Другі закон 32:41**

Святло сцiналася на самым вастрыі, плавіла сцюдзёную сталь, сляпіла вочы – і раптоўна, у імгненне бляску, рассякала свет напалам.

Вось ён у чым, фокус Віцебска. Бярэш сярэднявечны меч, нашароўваеш бруском ды пяском да люстранога ззяння, ловіш палатном яркае сонца з-над сутокаў Дзвіны і Віцьбы, з найвышэйшай Прачысценскай гары і падпальваеш усё поле бітвы.

Перад табой свечкай успыхвае купал храма Вольгі-заснавальніцы, потым – залатое вогнішча Дабравешчанскай

царквы дванаццатага стагоддзя, затым гранёнае святло ўсцяж запальвае вуліцу Замкавую – толькі з іскрамі трымціць тралейбусны дрот – далей зззяе ад жару, як маяк, вежа Альгерда на краі вялікай аркестравай ямы “Славянскага базара”, усплёск святла ўбіраецца ў меч, уцягваецца, люструе – і пераліваецца згустак поўнае яснасці па-над натоўпам на гільяціне, гатовай абрынуцца на Амфітэатр, і вастрыё мігціць на выбітых сонцам шыбах аблвыканкама, дзе сёння ўгняздзіўся Цімур, валадар цемры.

Што, Мечыслаў, рукі дрыжаць? То не ад страху, а ад цяжару сталі, ад узбуджэння і напругі. Дарма што трэніраваўся колькі тыдняў – рассякаць жалеззе адным махам, колькі тупіў і зноў адточваў, выкручваў рукі і – хак! – укладаў усе свае семдзесят кілаграмаў жывой вагі ў той самы адзіны патрэбны мах. А на вісу хвіліну вытрымаць цяжка.

Прачысценка, яна ж Успенка, былы Узгорскі замак. Самае высокае месца ў цэнтры Віцебска.

На гэтым самым месцы віцьбічы забілі уніяцкага мітрапаліта Язафата Кунцэвіча. Сякерамі. Віцебск – гэта месца бітвы за веру, няўжо гэта так цяжка засвоіць? Герб – меч пад галавой Хрыста, ясней яснага.

На тым беразе Дзвіны – Здраўнёва, сядзіба Іллі Рэпіна, генія рэалізму, “Бурлакі на Волзе”. А на гэтым – арт-цэнтр Марка Шагала, генія авангарду з палётамі нявестаў па небе і скрыпачамі на віцебскіх дахах. Трэба быць мастаком, каб зразумець, якая эпічная бойка ўсчалася паміж гэтымі двума берагамі! Увесь свет назіраў: Рэпін і Пэн супраць Шагала ды Малевіча! Першая сусветная, дзве рэвалюцыі, а тут – сеча за горад Віцебск. Авангард супраць класікі, стары свет супраць новага... Авангардысты выйгралі – і раскрышылі свет на аскепкі.

Маеце рацыю, гэта было зроблена вельмі па-віцебску.

Прыцэліўся. Перавёў вочы з успышкай святла на Ратушу – і прабіла, дзынькнула нешта ў вежы. Хрыпла, іржава, сярэднявечна. Дванаццаць.

Пара.

Прытуліўся спінай да вялізнага Ефрасіннеўскага крыжа, бачнага ўсяму гораду. Пануючая вышыня, Госпадзе.

Божа! Ты бачыш мяне тут, мярзоту пыхлівую, тварыну мардалысую, нікчэмнага блазна.

Калі ўжо Ты пасяліў мяне ў гэтым горадзе, на зіхоткай гары, дзе Ты біўся мячом са злом да аскепкаў, да крыві... Калі сюды прыпёрся сам сатана, і няма каму нават сказаць: “Ану псік адсюль, са святой зямлі, шкарадзь касарылая, каб цябе чэрці дрыслі!”...

Вось я. Пашлі мяне. Шарахнуць з пляча, так, як раб Твой Давід знёс башку Галіяфу. Божа, Ты можаш асляпіць іх у адзін міг, і хай ззяюць крылы Тваіх херувімаў, серафімаў і астатніх нябесных падпалкоўнікаў... Хай чорнае правaліцца к чортавай мацеры ў цемру, і хай увесь наш пакутны беларускі народ прадзірае свае вочы лупатыя, лыпае зенкамі, разяўляе рот і бачыць, што Ты – Гасподзь!

Дзеля таго возьмем зброю Божую, каб маглі ў дзень ліхі абараніцца і, выканаўшы ўсё, выстаяць – як напісана ў пасланні апостала да Эфесцаў, шэсць-трынаццаць.

Стой.

Стойце, падперазаўшы сцёгны вашыя праўдаю – зашчыкнуў старажытны пас са спражкаю... І надзеўшы браню праведнасці (ох ужо гэтая браня праведнасці, ледзь выкленчыў тыя наплечнікі, ледзь выменяў на свае дынары ды шэлегі ў краязнаўчым музеі)... І шалом збавення возьмем –

а цяжкі ж! Зрэшты, галоўнае, што жалезнае пераноссе хавае аблічча, і галавы асабліва не нахіліш – вялікі гонар, значыць, збавенне!..

Сонныя віцьбічы і госці нашага горада, што ўзабраліся на аглядную пляцоўку палюбавацца відамі, прылеглі на парэнчы і плылі насустрач ласкаваму ветру ды серабрыстай Дзвіне, сачылі за ягоным пераўвасабленнем моўчкі і падазрона.

Цішыня зазвінела.

...І меч духоўны, які ёсць Слова Божае! Бліснуў на сонцы пераваротам – і ладна зайшоў з глухім звонам у похвы за спінаю, толькі напялася папруга наўкось грудзей, ды крыж дзяржальна цяпер відаць з-за пляча.

Што, брат Мечыслаў, спрытна? І ці не чорцік з рагамі пакрыўляўся зараз дзеля тваёй самаздавольнай пыхі?

І хаця быў ён і застанецца прававерным харызматам поўнага Евангелля, але ж так закарцела паражагнацца на гэтай гары, на Чыстым-прачыстым піку віцебскай славы, у гэты галоўны для яго дзень... Уздыхнуў, склаў тры пярсты і ўкрыжаваў сябе.

У Імя Айца, і Сына, і Святога Духа.

Уся аграмада Успенскага сабора на гары галавакружнай вышыні панад Дзвіной, з металічнымі мачтамі крыжоў і шматтоннымі званамі здрыганулася ў яго за спінай – як у той дзень, калі яе ўзарвалі бальшавікі. І сцюдзёны вецер з ракі хлынуў у лёгкія.

Ён спусціўся ў горад па лесвіцы, абліцаванай гранітам колеру свежага мяса. Жалеза бразгала і ляскала ў такт ягоным крокам, і горад, рассечаны сталёвым пераноссем, уздрыгваў разам з шаломам.

Разломы Дзвіны, Віцьбы, Замкавай, Тэатральнай рассадзілі горад як гіганцкім землятрусам. Вуліцы, быццам старадаўнія равы, былі перапоўненыя людам, гатовым да штурму віцебскіх замкаў на ўзгор'ях.

А мо няма ўжо ніякага Мечыслава, свет Віктаравіча, з роду Герасімені, ураджэнца горада Віцебска, сябра царквы "Святло Евангелля", які жыве на вуліцы Джона Ленана, былой Вялікай, дом дваццаць восем, кватэра дванаццаць? Няма, бо за два тыдні ўжо абшукаліся яго ўчастковы, і оперупаўнаважаны (які колькі разоў затрымліваў ды дастаўляў у пастарунак падчас вялікіх святаў), і гэбісты з Менску... Прапаў. Іператрус ужо зрабілі (пуста!), і засада ў машыне ля пад'езда, і пастару Юльяну тэлефон абарвалі, адключыў, і ўсіх знаёмых мастакоў ды вернікаў абышлі-абтапталі, і ўсе сваякі, ды майстэрні, ды касцёлы абнюханыя. І качагару Зыбайлу ў самыя вочы строга "стучаць" загадана – але ж, вось бяда, так і не заспеты імі на працоўным месцы ані Мечыслаў, ані ягоны, як выявілася, галоўны сябра ўсіх часоў і народаў у гэтым горадзе вострым і светлаістым – запойны электраманцёр Свечнікаў.

Захацелі, бач ты, знайсці брата Мечыслава на "Славянскім базары" ў ягоным родным горадзе, у такі дзень! Такі дзень, калі ў амфітэатры "Непагасны" адчыняе Цэнтр Аляксандра Неўскага!

Герасіменя? Няма такога. Ды, можа, ніколі і не было.

І спускаецца зараз у поўны людзей Віцебск узброены самай сапраўднай, халоднай да немагчымасці зброяй зусім не прыдуркаваты Мечыслаў Герасіменя, а ваяр Хрыстовы часоў Полацкага княства, якога спярша прымуць за жывы рэквізіт, потым за злачынцу – але якому, факт, дастаткова будзе і аднаго ўзмаху для таго самага ліхадзея, на якога Евангелле 2000 гадоў вастрыла меч духоўны.

Глыбока на дне яра плакала і грызла камяні Віцьба.

А абапал ягонага шляху пстрыкалі фоцікі, шчоўкалі айфоны ды цокалі языкі.

– Во прикол, чел валит.

Э-эх, і замуцілі яны сагу ў Полацку! Э-эх, і разгайдалі карабель, ад варагаў да грэкаў!

Канечне, ён адразу прасёк, што ніхто з гэтых сталічных герояў-падпольшчыкаў і не падумае ўзяць з сабой на сабантуй бел-чырвона-белы. Падумаеш, Радзіму ідзем ратаваць, нахалеру сцяг. Во арлы, га. Ну ладна Ян, пацанё, гарманальны крызіс у хлапца (хаця сам Мечыслаў у ягоныя гады акуратна складзены бчб з сабой браў абавязкова, нат на спатканні – вучыцеся, сікуны)... Няхай ксёндз, Шчірліц бледны з прыклеенымі вусамі, ружанец у сціснутым кулаку, чувак рэальна на мяжы правалу працуе, ну куды тут яшчэ яму сцяг, тут трэба, каб парашут за спінай валачыўся, і харош... Белазор ясна, толькі ўчора з чорнага кабінета, архангелам па галаве грохнуты... Хаця мог бы і прачухаць, усё-такі гістфак, ды і мільярдамі чэл варочаў... Зрэшты, праўда чокнуты, сонца ў кілішкі налівае – хто казаў, што ён, Мечыслаў, шаленец: наце вам сатаніста, з возера вогненнага выхапленага!.. Але Леў, пастар, як-ніяк, звяруга мацёры... Што ж ты, баця, з голымі рукамі на танкі прэш...

Вось і паказаў ім Мечыслаў Герасіменя харызматычны віцебскі майстар-клас: прарыў да сцэны, вуда-тэлескапічка, з-за пазухі за пару сек страляе ўсімі каленамі на тры метры, як кольт у вестэрне, тры лёгкія рухі, і бел-чырвона-белы ў паветры, і жыве Беларусь, і Дух Святы валіць па натоўпе, бошкі сшыбае.

Сцяг – гэта ж успышка! гэта бліскавіца! Разрад Божай волі па-над галовамі. Калі ён лунае, палае неба, і, як паходняй, падпальваеш хвасты духам злосці паднябесным, і тысячы душ пераварочваюцца з кожным пералівам палатніны!...

Госпадзе, я абвяшчаю Твой выбух ў гэтым балоце. Бяру д’ябла за шманты, і рагамі аб рог. У імя Ісуса Хрыста – Таго Самага, Які сплёў з вяровак біч і пагнаў барыгаў з храма!..

І паваліў народ, і разверзліся хлябі, і панеслася.

У Мечыслава ажно твар пачаў перасмыкацца – так якасна грохнулі склад маскальскай макулатуры ля помніка Скарыну! Так павыносілі шыбы ва ўсіх гэтых латошніках-какошніках, дзе цэлы Полацк быў выстаўлены на продаж за тышчу расеі!.. Так перакасіла гэбістаў, захлыналіся брэхам ля павільёна, калі ён падвёз нарыхтаваныя з учора пакрышкі, і з вокнаў паваліў дым!.. “Майда-ан!” “Кіеў!..”

Нармальнае полацкае веча, сікуны вы ды здраднікі.

І сысці трэба ўмець своечасова. Ксёндз сабе наўме, збег раней, Мечыслаў нават не заўважыў, як ён выпарыўся. Ян лётаў, што твой анёл-губіцель, малаціў рукамі і нагамі, ды так захапіўся, што затаўклі ў двор ля Валовага возера. А Мечыслава Госпад за шкірку з пекла выкінуў – толькі бліснулі каскі, пачуў “пайшлі!”, рыўком куртку белую прэч, сцяг з вуды, пад пахі, з плячэй скінуў дэмана нейкага – і з натоўпам у двор. “Лысага лаві, лысага!..” Чорта вам лысага, а не Мечыслава. Далей платы, агароджы, хаты, сабакі, вецер у твар, памыйкі, э-эх!... Харугва ўратаваная – значыць, войска ёсць.

...Дзвіна ўспорвала горад рэзкім халодным паветрам, такім жа вострым ды апойным, як падчас полацкага экстрыму.

Усякі свядомы віцьбіч ведае: Віцебск ёсць высяканне ісціны з іскрамі.

Віцьбічы – о, такіх герояў святла тут зямля нараджае паміж Ольгавым ды Юр’евай горкай... Пэўна, Госпад лепіць іх, як кулічы, з першабытнай і першакласнай віцебскай гліны, абмоквае ў сцюдзёную Дзвіну, загартоўвае ў вечным агні на Плошчы Перамогі – і шпурляе, гарачанькіх, па ўсім свеце.

Віцьбічы рэзкія, быццам лязом паласнутыя.

Ды ўся Беларусь у курсе, што Віцебск самы адмарожаны з усіх абласных цэнтраў! Гены княгіні Вольгі, Свідрыгайлы, праваслаўных паўстанцаў, каталіцкіх манахаў ды евангельскіх ерэтыкоў пальцам не расціснеш.

Нават цяпер уся краіна час ад часу ўздрыгвае ад віцебскіх спазмаў – і абмяркоўвае то віцебскага героя-падпольшчыка, што залез на галоўную елку вобласці, каб падняць там бел-чырван-белы сцяг (здымалі, потым білі, кінулі ў турму, а ён трымаў галадоўку трыццаць пяць дзён); то віцебскую дзяўчынку, якая вывешвала банер супраць сексуальнага рабства на гарадской тэлевежы, а цяпер ваюе ў Французскім замежным легіёне; то віцебскага слесара, які з дзяцінства ўзрываў у двары петарды, потым перайшоў на салетру з цвікамі ўпярэмешку ля шапікаў і быў выстаўлены арганізатарам выбухаў на Дзень незалежнасці ды тэракту ў менскім метро; то віцебскага доктара-псіхіятра, які пачаў ваяваць са сваім псіхіятрычным начальствам праз відэаблогі, такі прыгажун у белым халаце, ставіў усім дыягназы і даваяваўся, вядома, да псіхушкі; то віцебскага незалежнага журналіста, што апублікаваў верш “Забі прэзідэнта!” і кожны дзень выходзіў на адзіночны пікет да піраміды “Марка” з апазіцыйнай газетай у якасці плаката і атрымліваў то арышт, то штраф, і праз тры гады сума штрафаў перавысіла кошт тае піраміды, а ён усё адно выходзіў; то былога віцебскага дэпутата, які дняваў і начаваў на вакзале, каб давесці ўсім і кожнаму абсурд “Родзіны Родзіна”, заўсёды супраціўляўся пры затрыманні і абвясціў гэты кругласуткавы марафон грамадскай прыёмнай, і да яго ў залу чакання збіраліся слухаць грыбнікі, пенсіянеры ды бяздомныя; то віцебскага студэнта-юрыста, які нагледзеў ля завода імя Кірава бетонны помнік Леніну і ноччу з сякерай прыйшоў яго зваліць, за чатыры гадзіны (юрфак, ты прыкінь!) дасекся да арматуры ў нагах і Ільліча сагнуў-такі за галаву... (мінакі здалі патрулям – далі тры гады ўмоўна) – ну, і канечне, незабыўнага, няўлоўнага віцьбіча Мірона, які начамі лазіў на апоры ліній электраперадач ды коміны гарадской цеплаэлектрастанцыі, каб узняць там беларускі сцяг (любавалася ўся краіна), і абавязкова чапляў побач бляшанку з запіскай “Асцярожна! Замінавана!!”

Адзін супраць усіх, зацкаваны, вечна сцяты ў кулак віцьбіч – вось ён, жывы лёс апошніх *усходнікаў*, недасекаў, недарэзаных за пяцьсот гадоў маскоўскай лютасцю, дзікіх звяроў, загнаных мянтамі, гэбістамі, быдлам ды нават суседзямі, самотных, ад таго і шалёных. Сам-насам і з дзяржавай, і з імперыяй, і з сям’ёй, якая хоча быць *як усе* – і з усім цяжкім, абыякавым, змрочным аж да смерці навакольным людам.

Вырас Мечыслаў, нібы бадзяк на руіне, з татам-чорнарабочым і мамай-прыбіральшчыцай Коласаўскага тэатра ў “Сінім доме” на Плошчы Свабоды, вядомым кожнаму віцьбічу як самы цэнтр горада. “Сінім” не таму, што там жылі, тусілі альбо затарваліся алкашы, а таму што ён сапраўды быў пафарбаваны ў колер сіняга летняга неба. У “Сінім доме” з найбольш людным прыпынкам грамадскага транспарту, з заўсёды набітай наведнікамі прадуктовай крамай, з абавязковым апазіцыйным пікетам пад бел-чырван-белым парасонам, дзе ў спёку і ў дождж прадавалі “Народную волю” – словам, у самым сэрцы колішняга Ніжняга замка з відам на амфітэатр “Славянскага базара”.

З “Сіняга дома”, які ў ягоным дзяцінстве ўсё яшчэ быў васількова-сінім, ён выбягаў то на бераг Віцьбы, пад Кастрычніцкі мост, дзе корпаўся ў камянях, будаваў плаціну і выкопваў сярод камянёў манеты ды абломкі стрэлаў, то на беразе Дзвіны, з яе цэглай ды рэшткамі муроўкі дванаццатага стагоддзя, то

прападаў у даліне Гапеева ручая ў пошуку сапраўдных каштоўнасцяў, можа, штрыхаванай керамікі, а можа, прамянёвых колцаў – і, сын сацыяльнага дна, перабіраючы чарапкі ды аскепкі віцебскай велічы, усё дзяцінства караскаўся на ўзгор'і да свядомасці шляхты, багемы ды арыстакратыі.

Гэта ён, Мечыслаў, шукаў у старажытных дакументах і намацваў сапёрнай рыдлёўкай у забудаваных дварах Ніжняга замка тую ржавую ад крыві і жалеза зямлю, дзе ў 1413-м з дазволу Вітаўта прапаведваў у Віцебску ранішняя зорка Рэфармацыі Геранім Пражскі, потым спалены на вогнішчы ў Канстанцы (выступ у "вялікім і слаўным месцы Віцебску" быў пададзены абвінавачаннем як неабвержны доказ ерасі), і тое жэглішча, дзе мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Герасім ліпеньскім ранкам 1435 года быў пад падазрэннем у здрадзеператвораны ў попел вялікім князем Свідрыгайлам – і верыў, што гераічныя і мечаносныя сугуччы з ім самім невыпадковыя.

Ён раскопваў разам з археолагамі Прачысценскую гару, шукаючы спарахнелы ганак архірэйскага дома, дзе праваслаўнымі паўстанцамі быў засечаны насмерць уніяцкі біскуп Язафат Кунцэвіч, за што пасля горад быў пазбаўлены званоў і магдэбурскага права і мусіў адваёўваць вольнасці ў бітвах з маскалямі – і пераціраў віцебскі прах, каб дапяць да самай сутнасці: што такое смерць за веру.

Ён перабіраў вось гэтымі самымі рукамі на вучнёўскіх пленэрах бел-чырван-белую муроўку Дабравешчанскай царквы дванаццатага стагоддзя, разбураную камуністамі: абчасаныя даламітавыя валуны з парогаў Дзвіны (з Рубы – рубалі там, значыць), крывавую цэглу-плінфу, колькісотгадовую вапну, замяшаную на яйках, хадзіў дапамагаць вернікам царкву адбудоўваць, у ланцужках, перадаючы камень за каменем, асцярожна, нібы чарапы.

Ён маляваў рэзкімі, вострымі ўколамі алоўка, шнарамі пэндзля, рассячэннямі шпатэля на кардоне, працінах паперы, палотнах – саборы, разламаныя далінай Віцьбы, зараснікі бэзу, што ўскіпалі пяшчотнай духмянай пенай з нетраў старых раскопак ля гарвыканкама, дом-музей Шагала, гару Лучосу з домам цыганскага барона... А ноччу – з бомбамі балончыкаў белай, чырвонай і чорнай фарбы – фугасіў геаметрыю Малевіча на сценах дамоў, якія яшчэ памятаюць час рэвалюцыі, і графіці на платах уздоўж будоўляў, што нявечылі стары горад.

Даўгавалосы, са схопленымі залацістым абручом пасмамі, ён з невялікай дружынай такіх жа нефараў, а то і сам-насам да крыві біўся з маскальскай голагаловай гапатой з Ольгава ды Білева, што прыязджалі ганяць "бэнээфаўцаў-валасацікаў" – і па начах, сапучы расквашаным носам, вывешваў на межах раёна пераможныя бел-чырвона-белыя сцягі.

На ганарары ад прададзеных на "Славянскім базары" пленэрных карцінаў арандаваў гарышча тут, на Прачысценцы – і адсыпаўся, і тварыў, і бухаў, і блудзіў з такімі ж сарвігаловамі-дзеўкамі.

Вольны мастак ды зарэгістраваны рамеснік, з карцінамі раптоўнымі, пранізлівымі, нібы нажавыя раны, валяўся на тым гарышчы ў сваіх п'яных ванітах – пакуль праваслаўныя разам з горадам не адціснулі, не выкупілі будынак гвалтам, за даўгі ды камунальныя, пад епархіяльную семінарыю...

Але ўсё, абсалютна ўсё, што трэба ведаць у гэтым свеце чалавеку – ён зразумеў у тую цудоўную духмяную летнюю віцебскую ноч дваццаць гадоў таму, калі яго, геніяльнага мастака і юнага патрыёта, які палез на высакавольтную апору вешаць бел-чырван-белы сцяг, дзеўбанула дзве тысячы вольт.

О, якая гэта была ўспышка! Які разрад! Якія іскры з вачэй!..

І вы хацелі, каб Мечыслаў Герасіменя пасля ўсяго гэтага стаў нармальным абітурыентам худграфа?!

Мечыслаў пералічыў рэбрамі сталёвыя бэлькі апоры, гахнуўся на зямлю метраў з дванаццаці і цудам нічога не зламаў. Ледзь адляжаўся, дацеляпаў дамоў на неслухмяных нагах і да раніцы, дрыжучы, чытаў дома гедэонаўскі Новы запавет, калісьці прынесены мамай з тэатра (забыў і не забраў з грымёркі хтосьці з актораў). Ледзь дачакаўся вечара, каб ехаць да евангельскіх вернікаў... толькі, чур, не на тралейбусе!

Канечне, яму, утрапёнаму Мечыславу, была патрэбная царква самая ўлётная, з крыкам у малітве, з наварочанай лаянкай супраць бесаў на невядомых мовах, з марай пра пакаянне ўсяго свету, з пастарам Юльянам, якога баяліся нават кадэбэшнікі, – харызматычная настолькі, каб аж тынк са столі сыпаўся...

Госпад прытуліў яго да Сябе пяшчотным і поўным сілы разрадам, здольным забіць дзесяцёх, перабраў усе костачкі, рэзка прасвятліў галаву і адным ударам выбіў з сэрца ўсю дрэнь, калекцыянаваную там за гады арт-хаўснай маладосці – і адначасова даў асляпляльны ўзор дзеяння.

Усю аголеную натуру, развешаную ў майстэрні, дзяўчатак з дэманскімі крыламі і групавыя оргіі ў алеі ды акварэлях – адну секунду вагаўся, ці не распрадаць, каб на новыя палотны ды фарбы – а дулю табе, сатана! Разламаў. Парваў. Госпадзе, ты бачыш! – спаліў на вогнішчы ў двары.

Шалёны свядомы віцьбіч, мастак ды яшчэ і харызмат – такая ядзерная атрута, што любы драпежнік папярхнецца й выплюне!

Явіўся ў рэстаран "Аўрора", з часоў злодзея ў законе Навума прытон бандытаў, бар пад зоркай Люцыпара імя першага стрэлу камуністычнай рэвалюцыі, сведчыць разбойнікам пра Хрыста – і быў выкінуты "шасцёркамі" ў скуранках, тварам аб асфальт. Агласіў воплямі арт-паб "Торвальд" – улюбёнае месца мастацкай камарылы, з колішнімі п'янкамі, і біў поўныя бутэлькі да самага нараду міліцыі. Перакуліў дагары нагамі клуб "Альгерд", з німфамі, кальянамі, наркаманамі, легалайзамі, і выматаў ім усе вантробы з візітамі пакаяння – евангелізацыяй, у дыме цыгарэтаў (не канцэнтруйся на голых каленях, апраніся ў браню праведнасці, і меч Слова бяры, Мечыславе!)...

А пасля ўсіх прыгодаў, абліванняў чорнай фарбай на гадавіну забойства мітрапаліта Герасіма, паездак па Замкавай на аслах на Вербную і конях на Вялікдзень, усцягвання коз на шагалаўскія дахі па вуліцы Леніна, кучы гною перад аблвыканкамам, які (аблвыканкам) прыбраў з абласнога герба "Пагоню", карацей, пасля сарака – ужо лысая галава і бліскучы гарадскі вар'ят, без якога не абыходзіцца ніводзін віцебскі скандал, выстава, перформанс.

Апошнія паўгода – вайна з помнікам Аляксандру Неўскаму, якога цар Ірад упарта пёр гораду на Тэатральную плошчу, каб разлічыцца за якуюсьці нафту ці рублікі з Масковіяй. Вёдры чырвонай фарбы, раскосыя ардынскія твары на муралах з тылу тэатра ці гатэля "Віцебск" (камунальнік Васілька пагадзіўся падагнаць аўтавышку толькі за скрыню "Рускай", давялося прадаць аднаму татарыну "Княгіню Вольгу на беразе Віцьбы") – але затое колькі хайпу! Якія пагоні ад гэбэ па Старым горадзе! Якія відосы і першыя палосы ў медыях! Якія астранамічныя штрафы! Якія сімпатычныя жэншчыны ў форме судовых выканаўцаў у "Сінім доме" потым!..

І вось, нарэшце, цэлы гандлёва-забаўляльны цэнтр акаяннага Аляксандра Неўскага на Плошчы Свабоды, на падмурках колішняй Пятніцкай царквы... Чорныя квадраты, жэрлы шахтаў Апакаліпсісу пасярод Віцебска. Ідэальныя палотны чорных білбордаў для густога і смачнага алею, для вальтанутага юродзівага харызмата з вечнага горада звар'яцелых мастакоў.

Такім чынам, гандлёвы цэнтр “Аляксандр Неўскі”, сябры.

Гэта ж трэба: халуя Арды, які забіў уласнага брата, паўстанца!.. Халуя, што лазіў праз ярмо, каб атрымаць ярлык на княжэнне ды права збору ардынскай даніны з рускіх... Царадворца-фарысея, які стараннямі прыдворных шчаўкапёраў стаў пераможцам у эпічных бітвах, а насамрэч – шараговых сутычках, і пралез у расейскія святыя (вось з каго чэрці рагочуць у пекле, піхаючы віламі ў бок)...

У Віцебску!

Логіка, канечне, крышталёвая: біў каталікоў ды ліцьвінаў, чудскі ты герой – наш. Тапіў у крыві свой уласны народ дзеля татарскага хана – святы! Лізаў боты Ардзе, халоп – наш Цімуру, Вісарыёнаву сыну, мангольскай мордзе, наш!

Таму, ледзь сціхла хваля ператрусаў, засадаў і допытаў усіх знаёмых пасля Полацка, ён ціха, агародамі, разжыўся ў сябрукоў-рамеснікаў ліставым жалезам. Сталёвым дротам. Кусачкамі. Кавадлам. Зубіламі. Ціскамі. Схаваўся, што той схімнік, у сутарэннях Маркава манастыра, дзе калісь падхалтурваў, распісваў ігумену алтар...

Айцец, родны, спасі Госпадзе... да зарэзу да “Славянскага базара” трэба... латы віцязя, воіна Хрыстова, выканкам патрабуе, срррочна!.. Лыцарскі бой, айцец разумее, паганых трэба грохнуць візуальна... сімвал славянскі, шалом, кальчуга, меч, ну, Георгій пабеданосец... так-так, канечне, з георгіеўскай стужачкай, змеем паласатым... Якое кап’ё? А, канечне, што ж гэта я, і кап’ё будзе, гада гэтага, кап’ё ў другім месцы... ага, вось-вось... І не дома ж кляпаць, грэх, айцец, бо суседзі заб’юць!..

Пілаваў сталь балгаркай, іскрыла фаерверкам. Заглядвалі манахі, чырвоныя перакошаныя маскі ад бліскаў... Каваў метал, метал каваў, ух які шыпучы разлёт распаленымі кроплямі, сама магма!.. Бляск латаў. Аглушальны ляскат малатка па выгінах шалома. Сам кляпаў кальчугу – не пластмасавыя “калечкі” мэйд ін Чайна, не лёгенькую фольгу – не, рэальныя суворыя колцы са сталёвага дроту, абцугамі, малатком, па колцу, па колцу!..

Эх, кавалі волю віцьбічы, віцебскія кавалі – кавалі так, што пекла пякло.

І сырамятныя рамяні, на якія патраціў увесь свой прыбытак ад рамесніцтва з “Горада майстроў”. Толькі боты трэба з тоўстай гумовай падэшвай, і дзяржальна меча – абматаць наглуха гумай.

Навошта? А пабачыш.

І вось “Славянскі базар”, да якога “Непагасны” прымеркаваў адкрыццё. Мора тутэйшага люду. Маскоўскія поп-зоркі, не менш як па мільёне за попу. “Пашлю ево на-а... неба за звёздачкай!..” “Для цібя бізумный мір наш создан, для цібя!” Вакзал кіпіць. Людзі, людзі, людзі – іх столькі, што перакрываюць для пешаходнага руху галоўныя вуліцы падчас канцэртаў. Базарны тыдзень, падчас якога жыхар горада выходзіць да гатэля “Эрыдан” з тымі самымі зоркамі, купляе бутэльку гарэлкі за сотку “зялёных” (хаця звычайна ў краме стаіць батарэя па чатыры рэ), сядзіць за столікам насупраць (адстаяў чаргу) і грэбліва, цераз губу, кідае суседу (для гэтага найвышэйшага моманту ўвесь маскарад):

– А, чёт Филя заспанный... с девками ночь после концерта зажигал, наверное... Стаса видел сёдня, не торт уже, сдал старик, сдал... Да и Лола... слышь, на репетиции вчера спьяну в ноту не попала.

“Ты целуй меня везде, восемнадцать мне уже!”

І пасля “Базара” месяц стаяць чэргі ў гарадскі скурвендыспансер, от ганьбішча.

О, людзі, для якіх найвялікшы подзвіг – збегаць у аптэку пасля 23.00, а найстрашнейшае вар'яцтва – апрануць сандалі на шкарпэткі!.. Канечне, вы не зразумееце сённяшняга ўчынку Мечыслава Герасімені. Для вас гэта будзе проста кіно – так, як не бывае ў жыцці.

Цяпер – усё! Апошняя бітва за Віцебск.

Трымціце на небе і ў пекле, шалёныя віцебскія байцы! Сёння вырашыцца ўсё, за што вы ішлі на смерць. Княгіня Вольга з падпаленымі, пакулле ў хвастах, птушкамі, якая аддала Богу душу ў 969-м, а Віцебск заснавала, паводле летапісаў, у 974-м; князь Усяслаў Чарадзей, пасля Нямігі абдораны Віцебскам, а потым і абдураны крыжацалаваннем пад Воршай да поруба ў Кіеве; рэфармат Геранім Пражскі, за казань у Віцебску пушчаны попелам у паветра; Язафат Кунцэвіч, што зачыняў царкоўныя дзверы перад віцьбічамі і абяцаў расчыніць неба, а сабраў на сваю галаву град палашоў; Філон Кміта, галоўны контарвыведнік і спецназавец ВКЛ, які рэзаў маскалёў у віцебскіх ваколіцах так люта, што кароль Жыгімонт Ваза датэрмінова вярнуў гораду адабранае пасля забойства Кунцэвіча магдэбургскае права і званы на ратушу; Пётр Першы, які загадаў калмыкам спаліць гэты бліскучы і непакорлівы горад, каб ён не дастаўся шведам; Напалеон, што з балкона сённяшняга КДБ на Успенцы казаў гвардыі – кампанія 1812-га года скончаная! – і шпурляў шаблю на мапу; мастак Юдаль Пэн з рассечанай галавой, забіты энкавэдэшнікам; камісар Шагал з палітрай ды наганам, і, канечне, сам Малевіч з чорным квадратам...

Як той казаў, я цябе парадзіў, я цябе і заб'ю.

Глядзіце ўсе – і вучыцеся, пакуль я жывы.

На месцы, дзе цяпер тэатр Якуба Коласа, ад пачатку было Дзвінскае ўзвышша. Праваруч, праз роў – гара Ламіха, вышэйшая за Прачысценку. Віцебскі Горні замак, разбураны ворагамі, потым быў разабраны па каменьчыках добрым народам на хаты ды агароджы. Расейцы знеслі гару разам з руінамі і скінулі ў Дзвіну ўзвышша. Бальшавікі выкапалі катлаван пад тэатр. Калі б вялікія князі ўявілі, што ўнутры гары ў іх пад нагамі будуць іграць “Рагнеду”, “Вітаўта Вялікага” ды “Званы Віцебска”, а ў 1994-м там будзе выступаць геній беларускага нацыяналізму Зянон Пазняк (Мечыслаў бачыў гэта на ўласныя вочы) – у іх разарвала б мозг.

Мечыслаў стаў ля бронзавых ног княгіні Вольгі і аглядаў вірлівы натоўп вакол. Горача. Трэба трохі аддыхацца. Успацеў. Можа, гэта народ вакол стаіць, а ён плыве?

– Папа, витязь! – натоўп рассёк дзіцячы крык.

– А можно сфотографироваться?

Дзіцё, дзіцё, такія страшныя чужыя словы выгаворваеш старанна, а па-свойму ані.

Калі вакол, нібы агонь па сухіх галінах, затрашчалі ўспышкі, ён зняў з пляча торбу, развязаў і кінуў ля ног.

– Так. Сэлфі і фота па тры рублі, грамадзяне.

Халера вас бяры, госці культурнай сталіцы. Патраціўся я на вас ды на маскарад гэты. Не еў ужо два дні, а тут жалезам махаць яшчэ, адключуся з галадухі на сквары гэтым.

І зазвінелі рублі ды капейкі. І замільгалі дзіцячыя пальчыкі. І леглі на кальчугу на спацелай шыі валасатыя мужчынскія рукі (вось каму мячы трымаць!). І наліліся побач высокія жаночыя грудзі – э-эх, Мечыслаў!

Ён стаяў то ля помніка Вользе, то ля Неўскага, то ля Альгерда, то ля чорнага куба на плошчы Свабоды – увесь дзень. Абліваўся потам.

Закідваў на плечы сумку, штораз цяжэйшую ад манетаў. Пільнаваў плыні народу. Ахову. Патруль. Прамежкі змены. Гнёзды снайпераў на “Аўроры”, за надпісам “Квітней, родная Віцебшчына” і ў Духоўскім круглiку, што па Фрунзэ, былой Задунаўскай.

Нарэшце пад вечар скрозь густы натоўп вярнуўся да Вольгі. Плынь ад вакзала паболела. Гэтыя пруцца менавіта на шоў “Непагаснага”.

Тры рублі, сры беларашан рублес, экск’юз мі. І вашай мінералкі каўтнуць, сэр. Вы ўжо выбачайце, дзень стаю. Дзякуй, ммм, самае тое.

– А с мечом!.. Ну пажа-а-а-луста...

– З мечам, калі ласка... правільна гавары, па-нашаму... Ты ў курсе, калі дастаць – халодная зброя, крымінал! Што гэта ваш малы прапануе мне, секір-башка!.. Дванаццаць.

– О-ооо! Двенадцать!.. Слышал, Рома? Двенадцать... Ладно, чёрт с тобой, давай.

О, гэты гук, ледзяны, шыкоўны, мурашкі па скуры, з якім меч дастаецца з похваў!

І запаліўся на сонцы меч, і ўдарыў у вочы, зіхоткі – нібы Дзвіна выйшла з берагоў. І рассёк і горад, і народ. Не мір, а меч! Аграмаднае лязо, блішчыць дыяментам, распластвае горад напалсталёвае крыло.

Рана дастаў. Дагуляешся зараз, Мечыслаў, – пакарае цябе Гасподзь за прагавітасць, зухаватасць ды галаву дурную!

І раптам скрозь сталёвае пераноссе шлема ўбачыў: спыніліся побач, выбліснулі два нябесна-блакітныя каштоўныя камяні. Зачараваны позірк з глыбокіх воч сярод зморшчынаў і срэбных пасмаў, прыцягнуты асляпляльным ззяннем у ягоных руках.

Сонца сцякала ўніз, да ягоных пальцаў, па бліскучым палатне мяча, і Мечыслаў ніяк не мог паверыць.

Белазор.

Госпадзе Божа, Сляпушчы і Палымнеючы, пасярод Віцебска, у натоўпе, на “Славянскім базары”!.. З купкаю нейкіх абадраных базарных славянаў... Белазор!

Скрозь ахі, вохі, пстрыканне фоцікаў ды захоплены дзіцячы віск ён угледзеў гэтую чацвёрку, што стаяла ля Белазора, загіпнатызаванага бляскам мяча. Пётр – першы, хмуры і нервовы, агент Ватыкана, з прыклеенай бародкай дробнага беса перабірае позіркам твары. Два змрочныя гобліны разбойнага выгляду, яўна з ім. І Андрэй – прынц крыві, Гамлет недабіты, здыхлік неўміручы, як сонца яснае, усміхаецца дню і бліжняму, блажэнны, посны ды барадаты, згодна сярэднявечнай модзе, і таму сёння яму ў нечым асабліва родны.

– Жывыя? На волі?! – Мечыслаў шырока ўсміхаўся з-пад шалому насустрач змучанаму Белазору, Пятру і двум змрочным гоблінам бандыцкага выгляду. – Што вы тут у самым пекле робіце? Рызыковыя вы хлопцы. Відаць, па веры жывяце, га! Ксёндз з бародкай мне больш за ўсё падабаецца. Што, можа перахрысцілі ва ўсходні абрад? Можа, і жонка ўжо ё?

– Меч... слаў... Ціх... Спаліце нас усіх.

– Я спалю?! Ды вы самі згарыце. Віцебск горад такі, тут за веру паляць! Э-эй, сёння самае бяспечнае месца ў Віцебску побач са мной. Гэта бачылі?!

Мечыслаў узмахнуў клінком, святло бліскавіцай рассекла паветра, і Пятро шарахнуўся ўбок.

– Вы... ты што робіш! Зараз сюды... збяжыцца ўвесь Віцебск!

– А вы хіба не для гэтага прыехалі? – Мечыслаў упёр вастрыё ў асфальт, ногі на шырыні плеч. – Хай збяжыцца, вы ім і распавядзеце пра злачынствы рэжыму.

Вочы ў Пятра забегалі, ён схапіў за рукаво аднаго з разбойнікаў.

– Дабро, Пятро ты Скарга – гэта заўсёды прыгожа і адкрыта. Няма нічога таемнага, што не сталася б яўным. А зло выродлівае, таму і хаваецца... А сёння дабро будзе пераломваць зло. Значыць, у праграме экскурсія з віцязем – вы хоць даведаецеся, што гэта за горад такі, Віцебск.

– Ды бываў я ў Віцебску, не трэба.

Пецька-Пецька... Ён бываў у Віцебску... Ды што ты ведаеш пра горад Віцебск!..

– Усё, пайшлі адсюль, – Пятро ціха ўзяў пад локаць Белазора.

– Куды... Стаяць, – Герасіменя з цяжкасцю засадзіў меч у похвы. – Я тут усё ведаю... Так, хлопцы, хто-небудзь, вось ты, атлет. Выберыце з сумкі рублёў наццаць... вады, чуеце, бутлі тры, і вунь там, бачыце, дым, курачка, піражкі нейкія з мясам, вазьміце на ўсіх, калі тут ніхто не пасціцца. Ну, чаго стаім, наперад!

Абодва бандыты глядзелі то на яго, то адзін на аднаго.

– Э, чувакі, я рэальна запарыўся, давайце мігам. Блін, ну вы тармазы... Ісуса Хрыста ўкрыжавалі паміж двух разбойнікаў, аднаго справа, другога злева. Абодва тут, як я разумею. Той, што пакаяўся, так і быць, застаецца з намі, а другі давай ногі ў рукі і адпрацоўвай хулу на Госпада, бягом!

– Чуеш, Барыс, – прабасіў гоблін у татуіроўках, – я думаў, гэта мы з табой адмарозкі... Я такога цуда з вальтамі ні па волі, ні па зоне не бачыў.

– І больш не ўбачыш, боўдзіла ты блатны, – адрэзаў Мечыслаў. – Віцебск – гэта анамальная зона і абсалютная воля.

Ксёндз нешта горача шаптаў на вуха Белазору, пакаянны разбойнік з павагай разглядваў ды мацаў ягоную зброю, другі зачарпнуў манетаў і пашкандыбаў у бліжэйшы шапік, а Мечыслава панесла.

– Вы сёння шык-коўна спыніліся – на тым самым месцы, дзе ў сярэдзіне X стагоддзя і заснавала Віцебск княгіня Вольга. Вакол паганыя, а яна ўжо хрысціянка. Такім парадкам, ужо тысячу гадоў віцьбічы – гэта *людзі волі*, Віцебск – горад Волі. І чаго гэта ты, Андрусь Белазор, так дзёрнуўся? Тут, дзе тэатр, была гара памерам з сам тэатр, а на ёй зверху, уявіце, княскі замак.

І Мечыслаў пацягнуў іх да блізкай Дабравешчанскай – белай царквы-крэпасці саззяючымі золатам паўсферамі візантыйскіх купалоў.

– Дабравешчанская царква, XII стагоддзе – сімвалічна беларуская, бел-чырвона-белая муроўка. Камяні даламіту, выламаныя з дзвінскіх парогаў, рошчына, замяшаная на яйках, і чырвоная цэгла (плінфа). Можаце памацаць і пераканацца: Жыве Беларусь. Тут вянчаўся наш пракляты герой Аляксандр Неўскі – дарма, што меў ярлык Залатой Арды, але, каб эфектыўна біць крыжакоў, трэба было парадніцца з людзьмі Волі – і параднікуся з Аляксандрай Брачыславаўнай у 1239-м. А потым пайшоў тапіць крыжакоў у Чудскім возеры, шведаў на Няве і нават стаў галоўным расейскім святым... А потым адзіная дачка віцебскага князя Яраслава Васільевіча Марыя пайшла замуж за крэўскага князя Альгерда, які сюды пераехаў, і панеслася, ВКЛ і так далей... Так што Віцебск – глядзіце там, Пятро, айцец наш барадаты, і Андрэй, жаніх, скура ды косці – горад нявест.

Мечыслаў памацаў адкрытую муроўку і кіўнуў чатыром кіслым тварам:

– Разбурылі шар-бабай чыгуннай у 1961-м, калі марылі “апошняга папа” па

тэлевізары паказаць – і рэшткамі дарогу забрукавалі. Хрушчоў, ірад лысы, на пленуме ЦК у Маскве ставіў у прыклад іншым. Захаваліся падмуркі і некалькі сценаў, аднавілі за незалежнасцю. Апроч Неўскага, Дабравешчанская царква адметная яшчэ і айцом Аляксандрам, якога (перайшоў на шэпт) падазраюць у сувязях з беларускімі хрысціянамі. Па-мойму, самы час пацвердзіць падазрэнні.

Яны ўчатырох зайшлі ў царкву, прычым Мечыслаў загрымеў жалеззем так, што пад нізкімі скляпеннямі задрыжэла старажытная аголеная муроўка і хіснуліся на алтары свечкі.

– Глядзіце! – шэптам закрычаў Белазор.

Што ён там убачыў, гэты чокнуты візіянер?

– Святло!..

Мечыслава як секанула мячом: захад сонца біў у адчыненыя дзверы і вогнішчам запальваў алтар, праменіў скрозь дымны паўзмрок, толькі танчылі залатымі іскрамі пылінкі. Святло сляпушча раскроіла вымытую люстраную падлогу і рассеяла расейшчыну на сценах: умомант успыхнула агнём у “объявлениях” ды “записках”. Святло апякло рукі Пятра, схапіла за вуха Яна, палыхнула ў самыя вочы Андрэю і напоўніла бляскам метал. Сам Мечаслаў, ссечаны на каляровыя ашкелкі ад шалома збавення да крыжа за плячыма, аслупянеў ад адкрыцця.

Ну і ўспышка, Госпадзе! Аказваецца, Віцебск тысячу гадоў чакаў таго, што адбудзецца сёння. Эх, палыхне!

Выйшлі. Мечыслаў аддыхаўся.

– І памоляцца яны, і разверзнецца неба, – напяваючы, ён з крэхтам аберуч увагнаў меч у зямлю ля царквы, перад Дзвіной. Меч увайшоў на трацiну – са скрыгатам, нібы вастрыё крышыла косці і стагоддзі гісторыі.

– Паражаю галаву зямному змею... Усе рыцары так рабілі – хак, і вось табе крыж для малітвы.

Учатырох яны абступілі двухвостры, з абкручанай гумай галавой, бліскучы крыж, і Мечыслаў абвясціў:

– Бог даў хрысціянам уладу – звязваць і развязваць на гэтай зямлі, каб веруючыя ёй карысталіся. Не енчыць трэба, не распускаць соплі, не трапятаць, як бесы – а ўзяць тое, што Бог даў, з верай і ўладай. Амэн?

– Амэн... – змрочна пракаментаваў лысы гоблін. – Трапіў харызмат у пекла. Вочы прымружыў, рукі ўзняў і моліцца: “Госпадзе, у імя Тваё абвяшчаю, што я ў раі!”

Мечыслаў пагардліва кінуў яму:

– А мы будзем абвяшчаць, нават у пекле, ясна? Трэба быць галавою, а не хвастом.

Стаў, ногі на шырыні плеч, і ўзняў рукі:

– Божа, Святло наша!.. Ты звёў нас разам у сэрцы гэтага горада, каля гэтай бел-чырвона-белай царквы, каля срэбнай ракі, на беразе залатога неба. Калі двое ці трое ў імя Тваё – то Ты сярод нас, а калі нас больш, дык і Айцец, І Сын, і Дух Святы тут разам. Зірні на Віцебск, за які Ты біўся тысячу гадоў... І дазволь нам, Божа, правесці тут такую разню ў Духу Святым, каб трупамі бесаў былі заваленыя ўсе равы. Мы абвяшчаем Віцебск Тваёй уласнасцю. Мы абвяшчаем Тваю перамогу. Алелюя, мараната, у імя Ісуса Хрыста!

– Разню? – кінуў ксёндз.

– Разню, – пацвердзіў Мечыслаў і выхапіў меч з похваў, – толькі не людзей будзем рэзаць. Чарцей. Не сц...ць, Пецька. У Віцебску трэба ісці па лязе – толькі тады пераможаш. Толькі па лязе і толькі бліскуча.

Так... Сонца заходзіць. Цямнее. Пакуль дойдзем, будзе якраз, вырашыў Мечыслаў і пагнаў невялікі статак пакутнічкаў на вуліцу, запоўненую народам.

Паціху цямнела, як і мае быць у такую пару летам. Запалілі ліхтары.

Другі разбойнік нарэшце прынёс пакет з вадой ды ежай; Мечыслаў запусціў руку ў гарачае і вылавіў нейкую здабычу з мясам.

– ...У Віцебску *зажыгалі* яшчэ з часоў Сярэднявечча. У 1413-м у Віцебску, з дазволу Вітаўта, выступаў Еранім Праскі, паплечнік Яна Гуса, які выкрываў веру нашага брата Пятра. Ну а пасля браты брата Пятра і яго спалілі на Саборы ў Канстанцінопалі. Прычым прысуд інквізіцыі пачынаўся словамі: “У Літве спрадвеку ёсць вялікі й шматлюдны горад, называны Віцебскам”! Праз дваццаць два гады Свідрыгайла, каб праверыць, наколькі гарачая вера мітрапаліта Герасіма, спаліў яго прыблізна во-ось на гэтым месцы – зразумела, толькі з той мэтай, каб памераць тэмпературу.

Мечыслаў жаваў, глытаў кавалкамі, малаціў мяса з цестам і запіваў вадою – ссунуў рыльца бутэлькі ўбок ад пераносся.

– Трэба сказаць, як шчыры вернік, ммм... і да таго ж, прашу прабачэння ў прысутных ксяндзоў, пратэстант, я зрабіў высновы з памылак продкаў – і два гады таму на “Славянскім базары” паліў на гэтым месцы толькі афішы, рэкламкі ды флаеры “Непагаснага”. Праўда, аўтадафэ мне ў выніку наладзілі ў райаддзеле, а тысячы дзве гледачоў разагналі, але гарэла файна, скажу я вам.

Госці, галодныя, уміг разабралі чабурэкі ды беляшы, і цяпер уся каманда спраўна жавала – здавалася, усе, быццам коні, ківаюць галовамі ў такт ягонай прамове.

– А паўтара года таму я, як праўдзівы ваяр, вырашыў пассякаць зялёнаму змію ў Віцебску ўсе галовы. За дзень, з восьмай ранку, як толькі “сінюгі” збіраюцца да кропак, і да вечара, пачаў аб’язджаць крамы, усе, дзе ёсць алкаголь, па спісе. Ля кожнай збіраў... алказалежных грамадзянаў, разбіваў у іх на вачах нуль пяць гарэлкі і праводзіў лекцыю. Хлусіць не буду, біў. Востра на асколкі, па-віцебску. Вунь там мяне ледзь не лінчавалі натоўп, як мурына (я спярша парадаваўся, як шмат мужыкоў сабралася), у Цірaспалі прадаўшчыца выклікала міліцыю і завершылася ўсё крымінальнай справай за злоснае хуліганства. Далі тры гады ўмоўна... так што рыцар я не толькі славуты, але і судзімы.

Белазор аглядаўся вакол, працаваў сківіцамі, вытрэшчваў вочы на ліхтары, ухвальна мыкаў і хітаў галавой.

– Зрэшты, пра гістарычныя віцебскія забойствы мы памятаем, а пра тое, што ў Віцебску сёння штогод забіваюць па тысячы ненароджаных дзетак – нават не ведаем. Пасля маіх імпрэзаў ля радзільных дамоў, адна прыхільніца *прачойс* кінулася на мяне на вуліцы з нажом – як толькі патлумачыў ёй, што яе сорак гадоў – надта позні тэрмін для аборту.

Вострыя позіркі. Звонкія дзіцячыя галасы. Успышкі фоцікаў. Апякае ахова і меч – аж горача. Клас!

– Мечыслаў, усё-такі: куды мы ідзем? – выціраючы жменяй рот і штучную бараду, ціха, але неадступна назаляў Пётр.

– Я да Бога. Вы са мной. Не бойсь, прапусцяць, – гахнуў яго Мечыслаў па плячы. Як жа дастаў гэты зануда ксёндз, нічо такая куртачка, заадно выцер далонь. – Ладна, раскажу ў анекдоце. Хто не прасячэ – я не вінаваты. Адзін вернік заснуў у касцёле падчас казані – ксёндз гаварыў доўга, бывае, праўда, Пётр? Казань ідзе сабе, бла-бла-бла-бла, а тут раптам

святло прапала. Ну, ксёндз троху замарудзіў, але вырашыў набажэнства працягнуць. Расказвае, значыць, далей – і раптам дзікі крык: “Браты! Маліцеся за мяне – я аслеп!”

Засмяяліся ўтрох – акрамя Пятра.

Так і ішлі яны – бліскучы Мечыслаў у латах, перад якім расступаўся і сыпаўся ўбакі, нібы луска, натоўп, за ім захоплены Белазор, матылёк на агонь, што лавіў воплескі святла і водсветы ўспышак, Глеб, які аглядваўся па баках, і за ім, у натоўпе – бледны ксёндз з бародкай ды Сулібор.

– Ніжні замак, потым тут гаркам капэбэ стаяў, Маркс, Ленін... Пры будоўлі восем накатаў бярвення разбіралі – такія вулічныя маставыя былі. За мной!.. Што вы там туляецеся, Пётр? Запальваць прыехалі – дык запалім зараз, ці вы мне печань пакляваць, як Праметэю, прыляцелі?

Чорны куб, “Цэнтр Аляксандра Неўскага”, вялізная скрыня з гульні “Што? Дзе? Калі?”, пастаўленая на плошчы Свабоды пасярод горада, толькі і чакала сігналу з Амфітэатра, каб тканіна, што паглынала святло, шаўкавістай хваляй спаўзла долу.

– Вось яна, бандура, – задаволена ўпёр рукі ў бокі Мечыслаў. – Рукі самі да меча цягнуцца.

У натоўпе побач вынырнуў амапавец.

– Уважаемый... вы, вы, в шлеме... предъявите...

– Што прад’явіце? Я віцязь, на працы, што, не бачна?

– Уважаемый... какой операции? – задыханы, збянтэжаны амапавец, моўчкі адцісканы Барысам і Глебам, адбіваўся ад незадаволенага і не зусім цвярозага народу, які імгненна пачаў збірацца вакол.

– Аперацыя? На працы, я сказаў, ніякіх аперацыяў. Нікому не трэба аперацыю рабіць. Толькі можа лабатамію кой-каму, во гэнай во штуковінай, ага... Гарыспалком, поняў, прыём? Давай, пака!

– Горисполком... а разрешение, письменное! – выціснуў наўздагон дзяцюк у форме.

– Ты чё, служивый, берега попутал? – заракатаў побач народ, раптам ашчаперыўшы тэлефоны са стрымамі. – На работе человек... Вживую!.. Витязь, ёпта... Детям радость, а ты!

І панёс іх далей люд на крылах народнай любові, далей да Ратушы.

– Рынкавая плошча. Найпрыгажэйшы ансамбль цэркваў і касцёлаў быў. Віленскага барока два дзясяткі храмаў – больш толькі ў Вільні. Паўзрывалі бальшавікі, толькі некалькі адноўленых – і ратуша. Словам, Віцебск за такія штукі хацелі забіць. Каб не раслі тут крыжы і мячы, і каб аблічча Хрыста не бачыць – паўзрывалі амаль усе храмы.

Белыя з залатымі крыжамі ды барокавымі шаломамі, падсвечаныя ў цемры, лёгкія і грозныя – Успенскі сабор на гары, Уваскрасенская царква і строгая румяная Ратуша стаялі на ўзгор’ях, усыпаных народам, нібы ваяры ў бліскучых даспехах, зноў пашыхтаваныя да бою.

– Мы, віцьбічы, такія. Успышка! – з задавальненнем варочаў плячыма ў натоўпе Мечыслаў. – Як Вольга, Альгерд... Паўстанцы... Шагал... Альбо Сігізмунд Юрскі, які для ўсяго свету імгненны затвор фотаапарата прыдумаў.

На гары, на доме з “Аўрорай” гарэў гіганцкі падсвечаны гарадскі герб. Мечыслаў спыніў народ уладнай дланню і прадэкламаваў прывілей Жыгімонта Аўгуста 1597 года:

– *Герб надаем месту нашаму Віцебскаму: у блакітном полю образ Спаса Збавіцеля нашага, і пры том зараз трохі ніжэй меч голы чырвоны, што*

*ся мае разумець крывавы.* Відалі? Толькі меч крывавы на белы памянялі. Чысценькі. Спалохаліся. Крыві баяцца.

– Чаму баяцца? – быццам спрасонку ляпнуў Белазор.

– Бо *віцябляне* – крутыя, як гэтыя горы, і бліскучыя, як Дзвіна, пане Андрэю! Віцябляне заўжды біліся за веру і волю, так, што блізка не падыходзь... На мяжы з Масковіяй іх трымалі як зондэр-каманду галаварэзаў. Радыкальныя хрысціяне, якія чуць што – за зброю. Таму і герб з Магдэбургскім прывілеем яны атрымалі такі, – са звонам выхапіў меч, ажно шарахнулася ўся кампанія, і прыставіў сабе да горла:

– Галава Хрыста, а пад ёй – меч аголены, востры і ўвесь у крыві. Падобна ў профіль, га?

– Гэтым мечам язык бы каму падкараціць, – буркнуў Пятро.

– Гэтым мечам, Пятро Магіла ты наш, каму хочаш падкароцім пакуты сёння. Гэта ж не проста абласны цэнтр, Пятро, і не проста радзіма Шагала, і не "Славянскі базар". У Віцебску за веру б'юцца насмерць – і паляць датла.

Мечыслаў паправіў шлем, выцер пот і выдыхнуў.

– Мы з вамі на руінах хрысціянскага Віцебска. Бесы ўзарвалі і спалілі тут усё, што маглі, каб нічога не варушылася. І сказалі: усё, ша, Бога няма. Пасля гэтага свет трэснуў на аскепкі – Шагал спрабаваў іх сабраць і скласці. А Малевіч намаляваў чорны квадрат. І не адзін квадрат ён намаляваў – больш тузіна, ўсё стараўся, каб ужо чарней ды квадратней не было! Абвясціў абраз новага бязбожнага часу – і учрадзіў новае мастацтва.

Таму і паставілі пячатку на Віцебску – чорную, квадратную... Паставілі паўсюль па саўку – квадратныя дамы, чорныя вокны. Цяпер Цімур штампуе іх паўсюль – але ж ён сёння тут, і атрымае адказ, я спадзяюся. Вы ж у курсе, куды яго трэба паслаць?

– Мы якраз і хацелі даведацца, – нарэшце ўкленіўся Глеб Пячатнік... – як тут найлепш...

– Найлепш, браты – трымайцеся каля сцэны. Калі я падам знак, крычыце на ўсё горла ўсё, што вы там хацелі сказаць свету – і будзьце ўпэўненыя, вы будзеце ў эфіры і вас пачуюць усе.

– А як мы трапім... у Амфітэатр? – не адставаў Глеб. – Ахова, квіткі?

Мечыслаў стаў і неўразумела ўперыў позірк у гэтых чатырох халяўшчыкаў.

– Як? Ахо-ова, квіткі-і-іі... Паветрам, ясна справа. Калі крылы вытрымаюць. Вас жа бяруць на неба, не?

Выраз твараў у іх быў такі тупы, што Мечыслаў не вытрымаў і зарагатаў на ўвесь рот.

– Што, анёлаў сярод вас няма? Аніводнага?

Аж пераглядвацца пачалі, бедненькія, ды так сур'ёзна. Анёлы. Тэма вас цікавіць? Але ў вас такі выгляд, быццам вы ўсе ўчатырох у існаванне анёлаў не верыце.

– Ніякіх крылаў? Так я і думаў. Тады давядзецца, як звычайным грэшнікам і чарвям. Па зямлі.

Ён стаў на краі глыбокага яра па-над Віцьбай:

– Вось тут стаяў касцёл святога Антонія, Бунін ледзь на неба не трапіў, калі там арган паслухаў. Бальшавікі ўзарвалі... Значыць, так. Мост бачыце? А сцежку? Спускайцеся да Віцьбы. Паўз бераг вунь туды, дзе блішчыць, бачыце? Гэта ручай Дунай, упадае ў Віцьбу. Уздоўж яго ідзеце – там тунэль, ву-унь там. У кратах дзірка, сам учора з кусачкамі лазіў. Вылезеце ў Амфітэатры. Дзякаваць не трэба. Бясплатна, без квіткоў – і адразу ў партэр.

– І што?

– Што-што, дзярэўня! Гэта ж зблізку трэба будзе глядзець, што пачнецца.

– А што пачнецца?

– Убачыце, браты, ё-маё. Дакладней, не ўбачыце, а наадварот. Ніхто не ўбачыць. Карацей, у гэтым увесь фокус, гы-гы-гы.

– Мечыслаў, тут не да жартаў, – сунуўся са сваёй вострай бародкай ксёндз.

– Сонца абернецца ў цемру, а месяц у кроў... Чашыце, кажу.

І Герасіменя падняў на развітанне над галавою меч – у вечаровых праменнях ды ліхтарах ён адліваў чырванню, нібы разрад крывавай бліскавіцы, усаджанай у зямлю.

Альбо як барвовая лесвіца ў неба – гэта як паглядзець.

Ледзь чутна прашалахцела ад кагосьці з братоў:

– От шахід доўбаны...

– Меч Госпада і Гедэона... Меч Госпада і Мечыслава, амінь. Як у прарока Езэкііля: *Меч, меч навостраны і вычышчаны! Навостраны, каб болей калоць, вычышчаны, каб ззяў, як маланка!* Твая галава па-над мячом, Госпадзе. Дабраславі... Абвяшчаю паразу д’ябла ў Віцебску ад гэтага мяча – у імя Ісуса Хрыста!

Адправіўшы турыстаў, Мечыслаў злез з адхону ў парк, паправіў шалом і меч. Вярнуўся назад. Ніякіх хвастоў, алелюя. Шырокім крокам, скрозь натоўп, што пёр да Амфітэатра, супраць плыні выбраўся на ўзгорак. Шэрае сутонне згусцела да стану змроку, азоранага ліхтарамі.

Катлавіна Амфітэатра, накрытая бліскучай паўсферай, азарылася тысячамі асляпляльных пражэктараў. Народ, нібы ў велізарную варонку падземнага свету, з глухім рокатам сцякаў туды. “Непагасны” запальвае агні.

Агледзеўся. Пачакаў, пакуль азораная пашча Амфітэатра зараўла, гул рэхам ударыў у грудзіны храмаў на Рынкавай. І рушыў.

Ахова стаяла паўсюль, праз колькідзясят метраў адзін ад аднаго. Нават каля запаветнай, непрыкметнай, але ключавой цяпер жалезнай скрынкі імя святога Антонія, апекуна забыўлівых.

Напэўна, гэты хлопец у форме вельмі цікавіцца зброяй дванаццатага стагоддзя. Глядзіць падазрона.

Вядома, а як будзеш глядзець, калі цябе паставілі ахоўваць мегашоў на паўмільёна чалавек, а тут нейкі рыцар-джэдай у трох тузінах крокаў ад цябе дастае з-за спіны лазерны меч (а блішчыць, як сапраўдны – ты ж бачыў у кіно!)... І з аднаго маху...

Стой!

Ды я стаю на месцы, абедзвюма нагамі!.. І сссячэ, што ёсць моцы, і ссякае ўраз замок трансфарматарнай будкі з залатымі маланкамі: “Не влезай – убьёт”!..

Ляск, дзверцы наросхрыст! Вантробы падстанцыі – усё, як апісаў таварыш Свечнікаў. Смерць электрычнаму зверу!.. Гума, не падвядзі! Біць! Біць!! Біце ў сэрцы іх, біце мячамі – у спляценні! Жалезных! Нерваў! Пад напругай!

Цмок іскраў, ядзерная ўспышка!..

Сноп агню!

І раптам увесь горад вакол прападае ў цемры.

Ты хацеў чорны квадрат, таварыш Цімур?!

Цяпер паглядзім, які ты спецыяліст па святле.

## ВІЦЕБСК. ЦЕМРА

*Сонца ператворыцца ў цемру,*
*І месяц у крой,*
*Перш чым настане дзень Гасподні,*
*Вялікі і страшны.*

**Кніга прарока Ёіля 2:31**

Увесь агромністы віцебскі Амфітэатр раптам патух: чорны квадрат шыбы імгненна перавёў Цімура ў плоскасць.

Вокны аблвыканкама, праз якія ён з чэляддзю глядзеў на адкрыццё Цэнтра Аляксандра Неўскага, адлюстравалі толькі чараду бледных прывідаў на чорным тле.

Ё... ды што гэта такое!

Азораная агнямі сцэна, пражэктары, маніторы, трынаццаць тысячаў гледачоў і запоўненыя натоўпамі схілы катлавіны, людское мора на вуліцах, панарама цэнтра горада – усё прапала ў той самы момант, калі вядучы ррраскаціста аб'явіі-і-іяў...

– ШОЎ НЕПАГАСНАГА: АЛЯКСААААНДР НЕЎСКІ!..

І гул страшнага выдыху – о-ох, цэламу народу дасталі душу! – пракаціўся праз Цімура з галавы да дрыжачых ног.

У гэтым змрочным адкрыцці ён раптам убачыў тое адзінае, што напужала яго насамрэч. Ён глядзеў у пустую чорную бездань, і бездань ва ўпор, пуста і чорна, глядзела на яго.

Злева ў глыбіні горада бліскавіца ўспарола цемру, пасыпаўся сноп іскраў, Амфітэатр, рэдкасная пачвара з сотнямі зыркіх вачэй, успыхнуў на міг і зноў патух, на гэты раз канчаткова, пакідаючы ўсё той жа квадрат цемры, малатабойню сэрца і гучныя крыкі, што матам і рэхам пайшлі адбрэхвацца паверх за паверхам.

Шах і мат.

Электрычнасць.

Горад скаланала небывалая бязгучная навальніца. Зыркімі кропкамі ў цемры адзін за адным згаралі, пульсавалі і выпальвалі зрок агністыя трансфарматары. Вакол цэнтра сінім полымем успыхвалі ля Дзвіны тэатр і Дабравешчанская царква, грозна блікавала постаць Успенскага Сабора на гары, палала паўнеба, высякаючы сілуэт Ратушы і "Аўрору" – краі вялізнага абрыва. Людскі стогн, гул расчаравання – узрушаны, здушаны, шматтысячны – ішоў ужо адтуль, з-пад зямлі.

Прапала святло.

Правал.

Правалілася ўсё: выступ маскоўскай мега-зоркі Дыяны, наколькі распуснай, настолькі і папулярнай, у сукенцы з сырога мяса; арыя салодкагалосага Вітуса з ягонай унікальнай соллю пятай актавы (вырваў яго адмыслова для гоміка-немца, што прыехаў сюды ўкладваць паўмільярда); "Кракадзілы Лордзі", выкапнёвая рокавая легенда для ўсіх гэтых пляшывых чынушаў – бывай, маладосць!; кантракт з арабамі, што сядзяць зараз у VIPе, у чаканні звезенага з трынаццаці мільёнаў квадратных кіламетраў грэбанага вакальнага шоўбізу, угрохана ж хмара баблішча; і цвік нумару, стрыптыз манашак, арганізаваны пад арганную музыку, галоўную ролю ў якім мусіла выканаць Танцаўшчыца.

І, галоўнае, тэрміналы "Чорнага квадрата" павырубаліся паўсюль.

У глыбіні цемры, недзе на сцэне, раптам іголкай укалола кропка святла,

потым яшчэ адна і яшчэ... Светлякі мабілаў і зоркі ліхтарыкаў, як у казцы, выклікалі тысячнае мігценне ў зале – быццам тут, у Амфітэатры, нарадзілася новая зорная галактыка.

Пачуўся рокат тысячаў галасоў, і Цімур з перакошаным тварам павярнуўся да світы. Хтосьці падсунуў яму планшэт: стрым з мабільнага з першых шэрагаў.

Інтэрнэт падтармožваў і быў не вельмі выразны, але ад таго, што ён убачыў у гэтай муці, яго ледзь не вывернула.

Тры чэлы – адзін сівы, змаршчыністы, у капюшоне, Эмінем грэбаны, другі з чорнай бародкай, як пастар на пахаванні, і трэці, лысы бык – са свечкамі ў руках стаялі на цёмнай сцэне ў коле патухлых тэлекамераў. На ягонай сцэне!

– Беларусы! – надрываўся джэдай у капюшоне. – Цемра не вечная!

Трэба сказаць, на некалькі секундаў Цімур проста ахранеў. У Амфітэатры пачуліся подсвіст ды выкрыкі. Ён ледзь разбіраў словы, бо мікрафоны былі адключаныя.

– “Непагасны” кажа, што хоча даць вам шчасце! Даць чалавеку пульт ад самога сябе... Але насамрэч... – сівы задыхаўся. – Насамрэч яны катуюць людзей для доследаў! Яны хочуць вызваліць усё зло, якое ў чалавеку ёсць! Яны хочуць кантраляваць вас... і самі будуць націскаць на кнопкі... Чуеце?!. Вось што такое “Чорны квадрат”!

Раве, ну і глотка, аж полымя свечак матляецца... Дзе хто, вашу маць?!

– Яны думаюць, што вы можаце толькі... жэрці і ўтыкаць! “Непагасны” суе вам бездань проста ў твар: вы ніхто і зваць вас *ніяк*!

Ёпт!.. Звееер!! Э-э, ды хто там!.. Узяць іх!.. Думалі, так і трэба?! Якое, тваю раз, задумана!! Дзе ахова, маць вашу!!

– Браты і сёстры!.. кожны з вас... вобраз і падабенства Божае. Бог вас любіць! Пакайцеся!.. Ісус Хрыстос... аддаў жыццё за кожнага з вас!

Зноў *беларусы,* тваю маць. Божа мой, і яны жаруць гэта. Трынаццаць тысячаў, сука, галоваў быдла жуюць, і ніхто не спыніць гэтую дзіч, не згоніць гэтых клоўнаў, ракам жа ж вас усіх да Масквы!..

ЗВЕР!!!

– Яны хочуць зрабіць з Беларусі, з тваёй беларускай душы чорны квадрат... не дай ім забіць у табе Бога!.. Успомні!.. Хто!.. Ты!..

Цімур рэзка ўспомніў, Хто Ён. Дзікі крык, якога ніколі ад яго не чулі, падняў на вушы ўсю чэлядзь – і нарэшце, нарэшце стала бачна, як варушыцца цемра, як на сцэну з усіх бакоў прэ ахова... Гэтыя ёлупы думалі, што так усё і трэба. Яшчэ міг, свечкі патухлі, глыбокі дружны выдых з тысячаў грудзей скалануў Амфітэатр – і пад немы роў, пад гукі ўдараў Цімур нарэшце даў выйсце гневу.

Чэлядзь порскнула ў розныя бакі, прыгнулася, забілася пад батарэі.

А ён роў, лупіў кулаком па падваконніку і не стрымліваў сябе ў гэтай асалодзе шалу. Прыйдзе час цвяроза разабрацца, а зараз здзічэла роў раз’ятраным зверам – каб выйшла ўся злосць, каб напоўніла ўвесь гэты пракляты горад.

– Перакрыць нахер Амфітэатр, па перыметры, усю яму! Раздрукаваць фэйсы са сцэны! Тваю маць! Браць усіх!..

– Там паніка... Цёмна, Цімур... Ціскатня. Праводка згарэла. Генератары накрыліся. Апаратура не працуе.

– Чорт вас усіх!.. Працуе, не працуе... Выконвайце!

* * *

Гэты Віцебск яму адразу не спадабаўся.

Божанька з кінжалам на гербе. Фільтруй “Славянскі базар”. “Марка”-шмарка... Непрыемнае ўражанне нават з верталёта. Дзвіна-змяя. Карабаціцца мясцовасць, крывіцца, моршчыцца. Цэрквы тырчаць у цэнтры, як адзінокія зубы, непрыемна... Зморшчаны горад разявіў шчарбаты рот – пашчу Амфітэатра. Тхне парашай. Што ў вас тут з каналізацыяй, ёпт?..

У Полацку зараз дзень і ноч працавалі рамонтныя брыгады. Паўгода, і ўсё будзе як новенькае. Рэклама на пагромах была грандыёзная. А пакуль там рамонт – тут план “В”. Віцебск. Той жа хаб, від збоку: яшчэ бліжэй да Масквы і Піцера. “Славянскі базар”. База “Газпрому”, які на тыдзень здымае ўвесь горад для свайго карпаратыўнага фэсту.

А яшчэ ўчора ўсё было чотка.

Пасля Полацка ён пашыхтаваў Ірада. З перабінтаванай чорным, як у хунвэйбіна, галавой Цімур адразу сеў на прэзідэнцкі стол у кабінеце, толькі звесілася нага ў чорным штыблеце. Заняць пануючыя вышыні. Прыціснуць задам загады і распараджэнні. Дамінаваць!

– Цімур Вісарыёнавіч, як жа так...

Сходу абсёк яго, сказаў пра страты бюджэту (мінус трыста мільёнаў мінімум, аж перакасіла твар айца сямейства), пра млявасць мянтоў, якая якраз і прывяла...

– Та-аак а дзе Ваша ахова была? Вунь як самім дасталося. Баліць?

Самім... Баліць, урод ты гэткі. Баліць. І табе балець будзе.

– Аляксандравіч, давайце-ка так. Я вам прыцягваю сюды сусветны капітал. Мільярды. І гэта толькі пачатак. Калі запрацуе сам “Чорны квадрат... Прэзідэнты і прэм’еры будуць стаяць у чарзе ракам да вашага... Фаніпаля. Дубай будзе халупай, Шанхай – задуп’ем. Тут – цэнтр сусвету. Вы павінны маліцца на мяне. Не там у саборы са свечкай, госпадзе памілуй, стаяць...

– Вісарыёнавіч... можа ўсё-такі са стала злезеце?

Прапусціў міма вушэй.

– ...а цалаваць мяне ў дупу. Разумееце? Мяне. У дупу. Вось сюды вось, гаспадзін прэзідзент.

Сюды прыляцеў у абед верталётам, адразу на месца. Будынак аблвыканкама ператварылі ў штаб: адсюль Амфітэатр як на далоні. Нібы варонка, усмоктвае ў сябе шматтысячныя натоўпы.

Побач увіваўся губернатар віцебскі, ці то Гарамыкін, ці то Бобрынскі, дваранская блакітная кроў, які зачэсваў ды падфарбоўваў сівыя валасы з нейкім фіялетавым адлівам; у Менску яго звалі за вочы “Галубы Пясец”, альбо “Галубы, пісец” – дык вось, ён пачціва глядзеў міма і ўніз (маладзец, пісец), паказваў пакоі аблвыканкама, папярэджваў, што стол накрыты...

– Мне асобна. Ён праверыць, – ківаў Зверу.

– Цімур Вісарыёнавіч, мы б хацелі пагаварыць наконт пашырэння аб’ектаў. Мы маглі б выдзеліць у цэнтры горада...

– Займайцеся, – кіўнуў Цімур. – Пашырым. Калі сёння ўсё будзе ціп-топ. Так што лепш распарадзіцеся, каб усё было ў парадку.

– Канечне, усе неабходныя меры...

Цімур падняў цяжкі позірк на дваранскае выроддзе, і той, апусціўшы галаў, нарэшце знік.

Такім чынам, Віцебск. Цімур папярхнуўся, прачысціў горла і сплюнуў проста на падлогу.

Чаму Аляксандр Неўскі?

Ммм, гэтага героя Цімур яшчэ год таму выбраў сам. Белазор крывіўся, рэкамендаваў Альгерда, Шагала, *княгиню Вольгу*... нда, Княгіню Вольгу...

Але Неўскі пасаваў – сто адсоткаў.

Па-першае, для Расеі, а кліент заўжды мае рацыю. "Неўскі" наогул песня для *піцерскіх*. Па-другое, святы благаверны князь Аляксандр, тут павінны былі заткнуцца царкоўнікі. Хаця які ён там быў насамрэч благаверны – мы ж ведаем: забіваў сваіх, галовы сек, ноздры драў, брата здаў, сына замардаваў, словам, святы тыповы-топавы. А па-трэцяе, чаму ён быў такі. Арды баяўся. Ардзе служыў. Дзеля Арды сваіх нішчыў. Рыхтаваў пляцовачку пад Другое прышэсце Мангола. Так што толькі Аляксандр Неўскі, таварышы беларусы, і ніякіх там вашых альгірдасаў. Скажыце дзякуй яшчэ, што вашу віцебскую нявесту тут браў і трахаў.

І Другое прышэсце ўжо ідзе. Не прайшла і тысяча гадоў – Чынгісхан прыходзіць зноў. Усе пні на ягоным шляху будуць выкарчаваныя. Усе гэтыя славянскія, блін, базары будуць спяваць яму алілуйя, прыносіць ключы, дары, дзяцей у ахвяру, будуць плішчыцца, звівацца, поўзаць па падлозе, толькі б ушчаміцца ў ягоныя вузкія вочы.

Адзінае, Уладзіміраў... Гэтага карча трэба было тэрмінова прыбіраць з дарогі. Што дазволіў сабе пасля Нямігі... Тут вось-вось космас пачнецца, выйдзем на кнопку ад чалавека, а пад нагамі нейкае чмо балотнае, ну. Міністр унутраных органаў, ёпт.

Цімур перамовіўся са Зверам. Стары, трэба падрыхтаваць спецзаказ...

Ммм, замяўся Звер, ва Уладзімірава спецы пасур'ёзней, чым ва Урода. Рабяты канкрэтныя. Дык што, у цябе неканкрэтныя, стары? Я табе колькі плачу... Да восені вырашыць. Дах, палітыку і прэсу мы арганізуем, пахаванне табе даручым, і пасаду – як прыз. Міністрам унутраных органаў буш? Буш, калі скажу. Вось і ўсё. Займайся. Знайдзі якога-небудзь спяца, які вунь з нашага балкона ў вежы, тут тысячу дзвесці з хрэнам метраў да ўвахода ў міністэрства, не адлегласць для яго... патрапіць у гэты кацёл з фуражкай. Лепш апазіцыю, сектанта, якога-небудзь хворага, блін, Лі Харві Освальда, утыкаеш?... Ну што мне цябе вучыць. Бабло не пытанне.

І Док, ягоны стары добры доктар Альберт Ліхтштайнер, загадкавы апошнімі днямі стаў. Нешта муціць, толькі пыхае люлькай сваёй і ўсміхаецца. Вы, кажа, Цімур, дарэмна недаацэньваеце гэтых *беларусаў*. Фанацікаў, штоле? Менавіта фанацікаў, Цімур. Людзі, гатовыя пайсці на смерць – гэта сіла. Паглядзіце яшчэ раз полацкія кадры. Уладзіміраў ваш на смерць за свой кусман не пойдзе. Думаеце, не пойдзе, Альберт? Не-а. А вось ксёндз Пётр Гарнастай і ўся ягоная гарнастаевая манція – гэтыя пойдуць. Глядзіце, яшчэ спаляць сябе дзе-небудзь на адкрыцці ў Віцебску. І хай паляць, Альберт. Самаспаленне – лепшае выйсце для іх. Яны-та думаюць: шах, і на неба. Хай лятуць, анёлы смерці.

– А вы ў анёлаў верыце, Цімур?

Цімур верыў у рэальнасць. У сябе. У чалавека. То бок у ягоны мозг.

Бо мозг гэта што? Электрахімічная машына. 100 мільярдаў клетак – столькі, колькі людзей хоць калі жылі на зямлі. Клетачныя выключальнікі з дротам. Вкл, выкл, электрамагнітныя імпульсы і крыху хіміі, нічога больш. Галоўнае – узбудзіць асобную кропку ў мозгу. Запусціць рэакцыю. І пайшлі гармоны. Адрэналін. Эфедрын. Картызол. Мелатанін. Дафамін. Прамяні, ультрагук, нейраоптыка... Магніты, мікрапалярызацыя, электроды... Націснуў кнопку, сфоткаў сябе, успышка. Імгненны сігнал – і пайшло па целе шчасце. Сэлфі шчасця.

Учора Амалік дакладаў, што дабраліся да міндалепадобнага цела. Кавалачак мозгу, адказны за страх і задавальненне. Карты хіміі... Праграмы рэакцыяў... Карацей, вось-вось возьмем і сціснем міндалепадобнае цела двума пальцамі, як залатую рыбку. Цімур абапёрся на падваконнік і адчуў сябе агромністым міндалепадобным целам.

– Стол накрыты, Цімур Вісарыёнавіч, – паўсагнуўся побач лёкаем Галубы Пісец.

– Накрыты... Што там у вас сёння? – пацягнуўся Цімур.

– Баранінка пад соусам, стэйк з крывёй, ласіныя губы, перапёлкі...

– А міндаль?

– Міндаль... Э-эээ... Васілій Яраслававіч, чуеце, хутчэй: *міндаль*! Арганізуйце.

– А што міндаль: арэхі ці ў якім выглядзе?..

– Э-эээ... У любым. То есць, маецца на ўвазе – усё што ёсць. Па поўнай праграме, так сказаць. Ва ўласным саку.

* * *

Цяпер пах квітнеючага міндаля (букецік паставілі на ягоны стол), дагэтуль выпальваў ягоны мозг – цыяністы калій таксама пахне міндалем. Пры свечках, без электрычнасці, Цімур грыз без разбору, без смаку, са злосцю ўсё, што было на талерках. Мяса, косці, костачкі – перамалоць, каб энергіі на суткі без сну, па-іншаму тут ніяк.

Нарэшце ўключылі святло з рэзервовых генератараў, але паўсюль пайшлі збоі: сістэму замкнула так, што электрыкі раілі нічога не ўключаць пару дзён.

З дзясятак трансфарматараў згарэла ад перанапругі, ланцуговая рэакцыя, эфект даміно. Першы – вунь на паркоўцы, насупраць Ратушы, як на далоні, проста пад носам. Даўбанулі ўручную, нейкі клоўн у рыцарскіх латах, мячом.

З бародкай быў, падобна, Пеця, яшчэ нейкі лысы бандзюга, а крычаў... што за Ісус Хрыстос, супер-зорка?.. Белабрысы, барадаты, і ў капюшоне!.. Нешта да болю знаёмае...

Запіў віном – што за хрэнь, вада нейкая.

Узялі?.. Галоўнага, сівога-барадаценькага сюды!

– Шэф, не разабраліся ў цемры...

Колькіх узялі?!

– Ды цёмна, мы трох упакавалі... аказаліся – мянты па гражданке; яны нашага Сабельнікава палажылі.

– У сэнсе, палажылі?

– Ну, двухсоты. Халодны ўжэ. Адстрэльваліся па цёмнаму, ён без броніка быў, там без шанцаў. Яшчэ два ў рэанімацыі, агнястрэльныя.

Дуралеі. Трупакоў не хапала толькі. Дзе. Гэтыя. Клоўны. Дзе?!

– Ды шукаем. Народу цьма.

Народу цьма!.. Ды тут навокал цьма: што даваць у эфір, трансфарматары ляснулі па ўсім горадзе. Цэнтр, калі адрамантуюць, дык толькі зранку; трэба будзе такое бабло вяртаць за квіткі, няўстойкі гэтым супер-трыпер-зоркам, вы хоць уяўляеце маштаб?!.

Цімур даручыў разграбаць дзярмо Галубому Пісцу і прыпёр да сценкі Звера:

– Лепшых людзей... Фільтруйце паўсюль. Стой, яшчэ – зараз у натоўпах патрэбна... чалавек дзесяць парэзаных. Лепш дзеці, дзеўкі, які-небудзь

стары. Фанацікі, Талібан, разумееш. Каб лёгкая паніка – тока лёгкая!.. І каб да тых, хто сарваў – нянавісць. Ясная нянавісць. Жалеза, сука, і кроў, ясна? Страх ціхі, але жывёльны. Чуткі – і нянавісць. Поняў?

Цімур стаяў перад чорным квадратам вакна, глядзеў, як кішыць, рассмоктваецца з цэнтра горада чорная маса, і пыхаў агнём.

Беларусы...

Не ўсё так проста з гэтым ціхім балотным народцам.

Рабы, гэта факт. Гаспадарамі не былі ніколі, толькі служылі. Умеюць толькі падпарадкоўвацца. Сваё і сваіх ненавідзяць, таму што ўся краіна – адзін вялікі засраны калгас.

Мазахісты. Іх тут снашалі тры сотні гадоў – рускія, палякі, немцы, габрэі, зноў рускія, зноў немцы, потым свае бандыты. Яны ташчацца, калі іх гнабяць. Садамаза. Любяць бязлітасных і гвалтаўнікоў.

Так, Цімур – самая пара для Беларусі. Успомніў пратаколы допытаў *той,* манашкі з Полацкай справы. Іх ад пакутаў торкае: яны, ціхія і абыякавыя, раптам уваходзяць у экстаз, прыпадак, так, хоць ты ў морг складзіруй, святыя мошчы, пакутнікі за веру... вычварэнцы. Усё ж жыццё сядзелі ціха, на людзях смірненькія, а загнаць у кут (і калі ніхто не бачыць), раптам успамінаюць, што яны героі. Цяжкі выпадак.

Веруючыя... Яны не вераць у Бога, а вераць у тое, што вераць у Бога. Вераць у сваю веру. Прымітыўна – і гэты фанатызм у іх глыбока ўнутры.

Вось і зараз...

Цімур адчуваў усім целам, усёй істотай – тут духоўная справа... Грэбаная магія. Душок... Тут яўна медыюм. І падобна, што гэты барадаценькі.

Нейкі да болю знаёмы твар... Даражэнькі мой, хто б ты ні быў, я цябе разумею, брат. Мы абавязкова сустрэнемся, і тады аднаму з нас не жыць.

Згадаў, з якой насалодай, з якім хрустам раструшчыў нос грывастаму старому. Льву. Не, той кончаны вораг. Цімур фізічна адчуў, як ад яго праменіць дух – цяжкі, часам нясцерпны, хвалямі, ён ажно сціснуў кулакі, каб не задрыжэць, і ўся нянавісць сышлася на ягоным наздраватым, храшчавым носе... Як ён хрукнуў, косці – у мозг, як заліўся крывёю!.. Цімуру адразу палегчала.

Мацёрая сволач. Тыпу Уладзімірава, кароста такая. Балотны, бляха, леў. Можа, з адной дзярэўні абое.

А Ян Ясны – так, сцыкун, драбяза, юнацкі максімалізм, гармоны. Сілы няма, пустышка. Можа, на жыўца і спатрэбіцца. Выпусціць, хай блішча сабе... і сачыць, куды прыплыве – на яго і астатніх вылавім.

На допытах ён літаральна чуяў, як у іх прабівалася нейкая моц, нейкая смяротная ўпартасць – і яго гэта толькі раз'юшвала. Не, не палохала. Не.

Так, ён бачыў медыюмаў у сваім жыцці – тыбецкага манаха ў Ганконгу, у якога ўвачу скразіў іншы свет, маленькага негра вуду, які ледзь трымаў на кволай шыі галаў, чорны, абвуглены, як зямны шар, румынскую ведзьму, што выклікала памерлых тыранаў і наводзіла касмічны вецер.

Ён бачыў цуды зла, якое твораць людзі. Вялізныя, жывыя ад мух, кветкі з сіне-барвовых чалавечых языкоў у джунглях Конга. Вавілонскае войска, што трушчыла звязаных палонных Ісламскай дзяржавы бульдозерамі з прываранымі лістамі брані ў сірыйскай пустыні. Гіганцкія могілкі забітых падчас генацыду ў Руандзе, раскапаныя марадзёрамі і шакаламі.

Ён бачыў гіганцкага цмока, што падымаўся ў клубах пары і дыму з жалезаруднага кар'ера ў Сіцзяне, і мора вогненнае, што вырываецца з вулкана на выспе ў Інданэзіі і гарыць агнём непагасным – але тут, сярод гэтых ціхіх лясных узгоркаў, да апошняга часу ўвогуле не чуў сілы.

І вось аказалася – сіла ў яго пад нагамі.

Таму цяпер – толькі на вынішчэнне.

Справіцца з такой сілай можа толькі лавіна. Натоўпы абываценляў, натхнёныя нянавісцю. Раз'юшаныя мільёны мірных жыхароў абрушваюцца на ворага апоўзнем, і гэта мацней за фронт другой сусветнай.

Усё. План "В", ніякіх гульняў. Цяпер – толькі на вынішчэнне.

* * *

Пад раніцу, як толькі пачало святлець, Цімуру далажылі, што затрымана больш за дзесяць падазраваных. Кажуць, нікога не апазналі, але калі Цімур жадае зірнуць...

О, Цімур жадае зірнуць!

Цяпер, пасля гэтай чорнай начы, ён быў якраз *у духу,* натхнёна-злосны і пранізліва-востры. Няспешна спусціўся ў прыёмную губернатара, дзе адмыслова для яго ў хмурым ранішнім святле выстраілі на калідоры ўздоўж чырвонай дарожкі з тузін дзіўнавата апранутых асобаў. За секунду схапіў дакладную лічбу – трынаццаць, Хрыстос і апосталы з Юдам. З ягоным з'яўленнем спецслужбы, чыноўнікі і губернатар усталі з крэслаў.

Да-а, гэтым балбесам толькі ў працяг шарэнгі.

У суправаджэнні статнага палкоўніка гэбэ (красун, спіна як струна, сківіца затворам, вочы сталёвыя – сокал ясны, толькі сёначы аб'ект здаў ворагу без бою) Цімур моўчкі падыходзіў да кожнага і колькі секундаў узіраўся ў твар.

Першым быў нейкі тутэйшы фальклорны элемент з прыклееннай барадой і бляшанай царскай каронай; ён раскрыў быў рот і памкнуўся дастаць рукі з велічнай залачонай апранахі:

– Князь Войшалк...

Але Цімур адным кіўком галавы заткнуў яго: змоўч, з табой і так усё ясна.

Другі, змрочны, сівы, лабаты, з капюшонам, пераміна́ўся з нагі на нагу.

– По документам Елисеев Марк Палыч. Точно из тех, – напаўголаса прагаварыў ахоўнік. – На выходе взяли. Вырывался. По-белорусски разговаривает.

Цімур пільна зазірнуў у светлыя вочы, якія бегалі туды-сюды, і раптам адхіснуўся ад жудаснага паху перагару.

– Дэбілы, – працадзіў скрозь зубы Цімур. – У мяне ў ахове дэбілы. Фэйс-кантроль нулявы. Знайшлі прарока Елісея, ці хто ён там, Марка Пола. Ды гэты алкаш-калгаснік ніколі на сцэну не ўзбярэцца, ужо не кажучы пра тое, што будзе выступаць перад трынаццаццю тысячамі а-капэла...

Затым стаялі дзве нафарбаваныя шлюхі, апранутыя манахінямі – відавочна з тусоўкі, якая мусіла падпяваць у стрыптызе Танцоўшчыцы, гарэм Несцера. Цырк, прастытутак як манашак завінцілі... Ну вось што цяпер – рабіць выгляд, што так і трэба?

– Юрьева Мария... Иорданская... Василина, – з запінкай прачытаў ахоўнік па пашпартах. – Тихо, я сказал. Разберёмся.

Цімур пачуў, як дробна цокаюць зубы ў старэйшай з доўгім конскім тварам. Ну, гэта сто пудоў Васіліна Іарданская, адкуль іх такіх іарданскіх Несцер толькі выкопвае. Затрымаў позірк на маладзейшай, прыгожанькай, у якой дрыжэлі вейкі – зашморгала носам... Пачуў, як у цішыні гарачы струмень зацурчэў па яе назе ў чаравік, і хмыкнуў. Эфектна.

– Прыбярыцеся тут.

Наступным быў якісьці праваслаўны семінарыст у чорным. Васіль Завулончык. Булёнчык-Завулончык, з лёгкім пушком пад носам: глядзеў спадылба і варушыў вуснамі. Ага, молімся, Вася. Ну-ка, каму ты там молішся... Што, язык прыліп?... Так бывае, калі ў роце перасохла. Блага. Бога ўжо не папросіш, ніяк. А не папросіш – ён і не дапаможа.

Бледны ксёндз-вікарый з касцёла святой Барбары, у сутане ды каларадцы.

– Карпінскі Якуб Іванавіч.

Якуб? Прозвішча на -скі? Паляк. Ага. Таварыш ксёндз, ну і што ты рабіў у натоўпе на "Славянскім базары"? Праверыць па-сур'ёзнаму, мабыць, з Пецем звязаны. Думаеш, вытрываеш вочы ў вочы? Раз, два, тры... Усё. Наступны. Папа, твае кадры ані к чорту.

Далей стаяў лысы, змаршчынелы, з бародкай... Прыдуркі. Адзін лысы, другі змаршчынелы, трэці з бародкай!.. Да не называй, якога... Раздражнёна ўтыкнуў позірк у вадзяністыя вочы, тыя вылезлі з арбітаў, чувак закашляўся, Цімур кіўнуў ахоўніку – пастукай яго па спіне, ці што.

Так, хто там яшчэ? Акуляры, пінжак, гадоў семдзесят, грыбы трасуцца...

– Гапеев Фёдор Фомич. Оппозиция.

– Гэта правакацыя! На якой падставе... Я патрабую адваката! Да мяне прымянілі гвалт пры затрыманні, таму, па Канстытуцыі, я маю права... Будзе міжнародны скандал!..

Маўчаць. Вось так. Што за хрэн? Апазіцыя... Праверце, ці не кантачыў з гэтымі. Калі хоць нейкі намёк будзе – у зону, да апушчаных. Гвалт, мля... пакрычыш там мне.

Далей, што тут за Еўпацій Калаўрацій... О, яшчэ адзін лысы з дурненькай усмешкай... Ці не той, Герасім Му-му, гарадскі вар'ят, якога яны абшукаліся пасля Полацка? Ну-ка... На мяне глядзець, я сказаў.

– Што... вы... мне... я... мы...

– Што за авечка?

Ахоўнік пацiснуў плячыма. Доўбня здаровая, на галаву вышэй за астатніх, а галавы як такой няма. Пашукаў вачыма кагосьці з мясцовых.

– Не Герасім ваш?

– Этот? Герасименя?.. Не-ет, Герасименя в розыске. Это... без документов... лысых брать сказали.

Вось дзярмо. Лысых. Вы б яшчэ помнік Леніну сюды прыцягнулі.

Далей бомж у лахманах з дзіцячым тварыкам... Тхне так, што і паглядзець зблюеш. Што гэта яшчэ за Францыск Асізскі? Та-ак, імя. Васілій усе-што? Усеслававіч?.. Маць тваю, як усё кепска. Загрэблі гарадскіх блатных і нішчых... Васісуаліяў, усіх бяздомных старцаў, сірых, убогіх, сюды, на чырвоную дарожку – правільна, хай Галубой Пісец разбіраецца... Во халтура.

Маць мая, а гэта яшчэ што за дзіва...

– Нафталимов Андрей Иванович.

Нафталін. Адкуль, з якіх занюханых анучаў у іх такія прозвішчы? Нафталімаў. Нейкае пудзіла, весялун, пенсіянер, цуда ў пер'ях. Узялі, бо крычаў на плошчы Свабоды, людзі сабраліся. Забаўляў тут усю кампанію да ранку, кажаш? Нават зараз крыва ўсміхаецца. Дзядуля, што зубы скалім? А жоўты, маць мая... Печань? Курыш? Зараз дам прыкурыць, стары, ага. Нервы? Халецысціт? Камяні ў нырках?... Паўсміхайся яшчэ мне... Ужо не хочацца? Ммм...

Далей поп у расе з завялікім і залішне бліскучым, Цімур аж паморшчыўся, нагрудным крыжам...

– Галей Семён Петрович.

– Я!

Цімур змерыў папа цяжкім позіркам і ледзь стрымаўся, прамармытаў штосьці сабе пад нос.

Цікава, а што наш святоша рабіў у гэтым прытоне?.. Па заданні епархіі... Ты ў мяне праз хвіліну па заданні епархіі багахульнічаць пачнеш.

Поп заплюшчыў вочы і сутаргава скаўтнуў. Вось так, папаша.

Апошнім стаяў сапраўдны рыцар. У латах – не бляха, сапраўдная нержавейка.

– Без документов. Говорить отказывается.

Каржакаваты, дужы, напэўна, рэканструктар з клуба. Жаўлакі ого. Ужо на падыходзе стала зразумела, што ён прыняў рашэнне – нізавошта вачэй не падымаць. Уткнуўся сабе ў чырвоную дарожку. Баец. Цімур ціха-ціха прамовіў: “У вочы!” Вось так.

Статны, алень. Глядзіць горда, з выклікам. Цімур прымружыўся.

Хвіліна. Дзве. Тры.

У вочы!

Рыцар пабялеў, хіснуўся і самлела рухнуў на дарожку, толькі даспехі бразнулі ды дзіка бліснулі бялкі вачэй, што закаціліся.

Ніхто не паварушыўся.

Пустая парода.

– Усіх вон.

Расчаравана выдыхнуў.

І толькі тут заўважыў, што палкоўніку не церпіцца выпрабаваць сябе. Палкоўнік адгарадзіўся корпусам ад бледнай бязмоўнай каманды Галубога пісца і напаўголаса прамовіў:

– Там у нас у машыне... узялі аднаго тыпа, па-цывільнаму.

Палкоўнік (красавец, спіна прамая, вочы сталёвыя – толькі што ж ты, рыцар пячальнага вобраза, прапусціў сёння араву на аб’ект) адвёў яго ўбок і паведаміў, што затрымалі таго, хто рэзаў людзей.

– Кажа, ён чалавек вашага Звера. Корачкі паказаў.

Засранцы. Няўжо ўсё трэба рабіць самому?

– Мая ахова лавіла экстрэмістаў. Значыць, вы памыліліся, палкоўнік. Адпускайце.

– Разумееце, – палкоўнік трохі нахіліўся, і ледзь чутна дыхнула пагрозай. – Мае афіцэры дакладна бачылі... гэта ён рэзаў. У некалькіх, у тым ліку непаўнагадовай дзяўчынкі, вялікія крывацёкі, зараз у бальніцы.

– Палкоўнік... – Цімур халодна зірнуў яму проста ў вочы, як у рулю пісталета. У самую глыбіню, ва ўтульны дом, у твары спалоханых дзяцей, у зморшчыны каханкі-актрысы, у самае сэрца, дзе трымцелі такія пяшчотныя сасудзікі, у вечнасць, дзе палкоўніку ніхто не піша.

– Адпускайце, я сказаў.

Воля ў палкоўніку надламалася дзесьці ў хрыбце, пасярэдзіне спіны. Ён раптам згорбіўся, абмяк, вочы патухлі, з глоткі вырваліся нейкія вартыя жалю гукі, галава дробна заківала, і Цімура трохі суцешыў той факт, што ў асабістым супрацьстаянні вартых супернікаў для яго ў гэтай чорнай дзірцы не знайшлося вартых супернікаў.

Валянціна Аксак



...ах, як шкада,
што ў нашых шыротах
няма афіцыйных дамоў
для вясёлых дзяўчат...

# Евіны дочкі

### *МЕРЛО З ВЕРОНЫ*

Тлустую вінную кропку
ў сённяшняй
постшпітальнай прыгодзе
тутэйшая крама прапанавала
па-венецыянску.
За ваша здароўе,
скрадальнікі мошчаў
святога Марка!
Аднак пры паўторным жаданні
сказаць штось шчымлівае
пра трасцу й пакуты
ў ваколіцах горада гандальераў
погляд наткнуўся
на дакладнае месца вінярняў
набытага ў Менску мерло.
Верона.

Ну, гэта мяняе
расклад і стылістыку
анталагічнае тэмы.
Трагедыя, праўда,
нікуды
за пяць стагоддзяў
не дзелася,
але места перайначыла,
акцэнты змясціла
і нашыя тосты ўпарадкавала.
Луіджы Дэпортэ напісаў
пра Лючыю,
каханую ўмерлую,
назваўшы яе ў сваім творы
“Джульета”.
Мніх нейкі Бандэла
прысабечыў навэлу
і паспрыяў перакладу
на французскую мову.
*La mort de la bien-aimée*
з ламбардыйскіх узгоркаў
хтось невядомы
перастварыў
на мову насельнікаў
ангельскіх раўнінаў.
Вось з таго варыянта
й пакарыстаўся Шэкспір.
Ягоная гісторыя
няшчаснага кахання –
нішто,
як вiдавочна гэтым вечарам,
перад скрушнасцю тысячаў
не пашлюбаваных
Рамэа і Джульетаў,
якіх закопваюць
нават
без апошняга
прычасця.

## *COSTA AZUL*

Каталунні.
Мястэчка Лярэт.
Мы з табой у гатэлі Мэрсэдэс.
На гаўбцы,
што глядзіць на любімы
паўднёва-заходні ландшафт

з выгінастаю стужкаю мора,
якое цалуе пясок,
ёсць два крэслы
і дастатковы
на вечар запас
сухога шыразу.
А болей для шчасця
нічога й не трэба.
Але ісціну гэтую
зразумеем пасля,
праз дзясятак гадоў,
калі з усяго
таго антуражу
застанецца адно
costa azul,
ды й то невядома,
наколькі запаслівы імпарцёр,
каб асалоду вандроўную
нагадваць штодня
ў атачэнні
замкнёнага кола
і не пакінуць надзеі
зноў апынуцца
на *costa azul* –
беразе сінім.

## ***ПЕРШЫ ТУЛІПАН***

А першы туліпан
чамусьці сёлета
сустрэўся ля філфаку
якраз у дзень
вясновага супрацьстаяння.
Ані з будынкам,
ані са з’явай астранамічнай
не маю аніякіх справаў.
Хіба што
крыху з кветкай
гэтай ранняй,
якая росквітам сваім
нат Саракі
ўжо апярэдзіла.
Спяшаецца,
і я яе,
бадай што
разумею.

Няведама,
што нас чакае заўтра, –
вось расцвіцеш,
а цешыцца
красе тваёй
мо ўжо й нікога
тут не будзе.

### ***ПУСТКА БЯЗМЕЖНАЯ***

Гэтай раніцай,
як і штодня,
п'ю пігулкі,
дэкляраваныя
слыннай дакторкай
як абсалютная
панацэя
ад хваробы маёй
задаўненай.
Чырвоныя,
цвёрдыя,
сэрцападобныя
малюпаткі.
Як запоўняць яны
душу тваю
неспатольную,
тады й ачуняеш, –
упэўнена лекарка.
Але дыягназ
мае нямогласці
аказаўся
татальным правалам
наступніцы Гіпакрата –
пустку бязмежную
да скону вякоў
не ўлагоджу.

### ***ПАСПЕЦЬ БЫ***

Выйшла з лякарні
ад доктара маладога,
які так пяшчотна
даследаваў
інтымныя ўчасткі
цела майго,
ажно я забылася,

што ён –
усяго толькі лекар,
хай сабе
далікатны й прыгожы.
Прачытала вэрдыкт,
які на палову старонкі
ценем знянацкім расплыўся,
і так раптоўна ўзгадала,
што даўно не купляла
парфумы французскай.
Паспець бы,
покуль сонца
не знікне
ў вачах
доктара маладога.

### ПОДЫЮМ

Прыўкрасная мая,
я ўсцешаны
тваім цудоўным пачуваннем.
Давай тваю руку
і ўздымемся на подыюм.
Не бойся –
сафіты не заб'юць
тваю чароўнасць.
Вось так,
харошая,
і шчэ тры крокі зробім
да трыюмфу.
А ў ім
ты застанешся
сам-насам
з прасторай,
часам
і вечным валадарствам
Афрадыты.
І знік пявучы голас.
І стрункая распласталася
танклявая пастава.
І знерухомела свядомасць.
Рука застыла
на бязважкім стане.
А спрытных пальцаў дотык
стаў выштукоўваць
па ўсім целе
любімае алегра Баха

й пакугы па Мацвею...
Ну вось –
і ўсё.
Ты –
малайчына.
Заўтра –
паглядзім.
Магчыма,
і не затрымаешся
надоўга тут.
Подыюм патрэбны
і для іншых.

## *НА ДОСВІТКУ ЎДВОХ*

Філіжаначку кавы?
З вяршкамі?
Ці з шакаладам?
А мо з цынамонам?
Ну што ж ты маўчыш?
Падкажы,
чым цябе частаваць,
госця майго світальнага,
якімі прысмакамі цешыць.
Калі кавы не любіш,
то гарбаты з цытрынаю
зараз запару
і мёду з міндальнаю цестачкай
дам да яе.
Я губляюся ў думках,
чаму ты ізноў
мне нічога
не мовіш.
Раптоўна ты так
да мяне завітаў –
я яшчэ не гатовая
ўмомант пачуць
бязгучныя словы твае.
Першы раз такі госць.
Знічка знікла над клёнамі,
туман завіхурыўся ў вербах,
пісклянята галодныя спевы ўсчалі
ў гушчэчы зажураных лозаў.
І – ні душы
ў цэлым свеце.
Толькі стыне мая
непатрэбная кава.

## АПОШНІЯ ГОСЦІ

Перасяліліся ў іншую хату,
дакладней, кватэру.
Прыстройваем рэчы.
Кожнай роднай драбніцы
шукаем утульны куток
у сценах чужых.
А яны адштурхоўваюць
стол,
на якім малы сын
надрапаў свой профіль,
перакошваюць
ложак
нашай няспыннай уцехі,
абрынаюць наўсторч
кніжныя шафы
з фаліянтамі запісаў
нашых бяссонных начэй
і ўпіраюцца рогам
у лавы кухонныя.
А ўжо госці
на ўлазіны йдуць,
а бяседнікаў
нат пасадзіць
няма дзе.
От жа ж сорам!
Я – у роспачы.
Але ты,
як заўсёды,
спакойна абняў
і павёў мяне ў двор
пад шаты
разложыстых вербаў,
якія ўтварылі альтанку
для нашых
чаканых гасцей.
Апошніх.

## ЗА КАМПАНІЮ З КАХАНЫМ

Падарожнічаю
па колах пекла,
пакуль што –
віртуальна.
Шукаю,

дзе некалі апынуся
і спазнаю напоўніцу ўсё,
што заслужыла.
Першае прапускаю,
бо ж там
толькі тыя,
хто ніякіх падступных намераў
не паспеў учыніць –
немаўляты няхрышчаныя,
а з імі
Вергілій, Ной, Маісей і Абрам.
Пачынаю з дзявятага –
цэнтру пакутаў
у апраметнай.
Здраднікі родных,
радзімы,
гасцей і аднадумцаў,
дабрадзеяў і святароў
у ім атабарыліся.
Сябе між іх
не знаходжу
і шукаю ніжэй.
От жа ж
ніякімі талентамі з тых,
якія маюць насельнікі
восьмага кола,
не надзеленая.
А так бы хацелася
калі б не прарочыцай,
то хоць бы
фальшываманетчыцай быць
у сваім тутасветным быцці.
У сёмым,
як высветлілася,
мне таксама
нічога не свеціць –
не спакусіла нікога
ніякімі вабнотамі
і нат не згвалтавала
ў аблудзе алкагалічнай.
Ды і з шостым пралёт –
не ілжывай,
а наогул ніякай
настаўніцай праведных
Бог сцярог мяне быць,
а заадно й ерэтычкай.

Жытка падкідвала
усялякіх сюжэтаў,
але сумна й лянотна
не бывала ніколі.
Засведчыўшы
тую банальнасць,
праз пятае кола
ў чацвёртае
пераходжу
і апынаюся
сярод сквапных.
Не прызналі яны
мяне за сваю.
Бадай,
што і ў гэтым –
у трэцім –
з вызначэннем
маюць праблемы,
каб прыдумаць нешта
і даўмецца такі
некалі ў пост
абжорай мяне
назваць.
Застаецца
другое кола –
царства Мінаса.
Не ведаю,
як я тут
апынулася?
Хіба што
за кампанію
з каханым.
Варыянт
можа й не з горшых
і нат –
суцяшае.

### *ЗМЕЙКА ЭФА*

Дзеці паехалі.
Я засталася на лецішчы.
Мыю талеркі.
Апалоскваю кубкі.
Праціраю відэльцы й нажы.
У клопаце пільным
пры каменнай стальніцы

мярэжы сную
ў празрыстым
ліпнёвым сутонні.
Але раптам
хтось іншы
ўсвідроўвае зыкі свае
ў мае спевы.
Настырна,
як гусь тупадзюбая,
сыкае й сыкае,
і блізіцца сык той
віхлястаю стужкай
да ног маіх босых.
Імбрык з кіпенем
стаў паратункам.
А потым рыдлёўка
давершыла справу.
Позна ўвечары
*google* распавёў,
што прыходзіла Эфа,
ядавітая змейка,
якая ўмее ўдаваць
тваю мілажальніцу.
Але – не ўдалося.
Ні абдымкі яе
цябе не ўдушылі,
ні шыпенне яе
не ўвярэдзіла
мой спеў.

## НЕ БЫВАЕ ХЛУСНІ

У гэтай кнізе тваёй
пра Тэрпсіхору начную
чысцюткая праўда.
Залатая галоўка
і гэткага ж колеру
прагнае лона,
заўсёды гатовае
для Апалона.
Гармонія цела
і рытмікі рухаў
у танцы
й на ўзложжы
супала
з тваім уяўленнем

пра дасканаласць жанчыны.
Аднаго не заўважыў
у цемры паўночнай,
упэўнены,
што не бывае хлусні
ў каханні й любові, –
кроплі атруты
на вёрткім
даўгім языку.

## ЕВІНЫ ДОЧКІ

Покуль адныя
Евіны дочкі
дасканаляцца
ў веры і вернасці,
іншыя
дасягаюць вяршэнства
ў маніпуляцыях
з Адамавымі сынамі.
А каторым
надзвычай даверлівым
нат ультыматумы ставяць,
і тыя ў няўцямнасці йдуць
у край асфадэліяў,
думаючы,
што трапілі
пад покрыва лілеяў.

## У КВАРТАЛЕ ЧЫРВОНЫХ ПАХОДНЯЎ

Піліпаўка.
Пост.
Вызнаемся ў грахох.
Спадзяемся на дараванне.
На цуды святога Міколы.
І на Збаўцы з'яўленне.
У квартале чырвоных паходняў
чакаюць рэальных мужчынаў.
Лара ўзгадвае рудабародага Б.
Міра мроіць пра звабы юрлівага Л.
У Марынаў адзін на дваіх
найшчадрэйшы быў Я.
Таня ж пэўная,
што тут найпякнейшая,
і за гэта яе

абярэ на Каляды
каралевай кварталу,
а можа і ўласнага сэрца,
даверлівы Дз.
А таму ўсю Пiлiпаўку
згодная нават за так
слугаваць летуценніку гэтаму,
што ўсе гукі змякчае літарай Ь.
Толькі нешта даўно
не прыходзіць той man.
Відаць, разгадаў
ейны план хітрамудры.
Таня думку сваю
адкідае рашуча
і піша ў *facebook*,
што чаканага дзядзьку
спавіла ланцугамі
злосная жонка.

## АХ, ЯК ШКАДА

Ах, як шкада,
што ў нашых шыротах
няма афіцыйных дамоў
для вясёлых дзяўчат.
Гэта так ускладняе жыццё
экспрэсіўных мужчынаў,
бо ім, бедным,
даводзіцца ездзіць
да нейкіх асобных работніц
неўстаноўленых установаў.
У Полацк – да Лікаў і Нікаў,
у Слуцак – да Светаў і Кацяў,
у Кіеў – канечне ж, да Аксанаў.
І яшчэ шмат куды –
абы толькі пазбыцца
лішняе трасцы,
да таго,
як зняможана ўпасці
перад роднымі,
мілымі
і дарагімі,
якім
з малітоўным экстазам
усклікнуць:
кахаю.

## ВЯРНУЎСЯ

Зайчык маленькі,
міленькі мой,
нарэшце з табой
мы спаткаліся.
Ты так доўга блукаў
па пустках далёкіх,
у пушчах густых хаваўся,
бегаў па полі чужым
у пошуках ценю,
забытага дома,
што я думала –
толькі
з ценем тваім
ужо й застануся.

## ЗА НЕКАЛЬКІ КРОКАЎ

Разам
насустрач непазбежнасці –
апошняя дэфініцыя
ў бессэнсоўных развагах
над сэнсам
нашых
стасункаў.
Разам
насустрач непазбежнасці –
вось што такое
каханне
за некалькі крокаў
да прорвы.
Зразумела
й пайшла набываць
нам новыя просціны
дзеля шлюбнай
пасцелі.

## НІХТО

Мне з табою цяпер –
як нанова
на свет нарадзіўся.
Пачуўшы на досвітку
гэткія шэпты сягоння,
падумала,

што лепшага,
пэўна,
ніколі ў жыцці
мне ніхто
ўжо не здольны
прамовіць.
То мо й до летуценіць?
А пайсці напрасткі
ўслед за восеньскім сонцам?
О – не!
Мы шчэ пра галоўнае
ў нашай новай вясне –
не прамаўчалі.

## *МУР*

Замкнула дзверы
ад чорнага ўчора
і ключ шпурнула
ў бяздонны вір.
Больш не ўварвуцца
ў маю святліцу
ані казлы бадлівыя,
ані шчыклівыя
гусі тлустыя,
не прыплыве
з вадой высокаю
пражэрны сом
і нат не ўшчэміцца
юрлівы мятлік –
надзейна майстар
мне мур зрабіў.
Пакінуў шчылінку
ў скляпеннях даху
для бляску зыркага
начное знічкі
і для пушынкі
з крыла арла.

## *ЛЕКУЮ КРЫЛЫ АРЛА*

Вельмі стаміліся
крылы твае, –
сказаў табе доктар.
І па-сяброўску дадаў:

не лётай высока,
настрымгалоў
не пікіруй да долу,
арліцу сваю
любі платанічна.
Парадаў было
больш за тузін.
Ты пра ўсе распавёў.
Пасядзеў.
Памаўчаў.
І прамовіў ледзь чутна:
ты мне
лекар найлепшы
ў вышынях,
у віражах,
у глыбінях
гняздзечка твайго,
мая любка.
Узмахнем
нашымі крыламі,
прыгорнемся
адно да аднога
і паляцім
так суладна
й прыгожа,
як ніколі
ніхто
не лётаў
дагэтуль.

Генрых Далідовіч



...падтрымаць пад локаць маладога –
гэта вялікі дар вялікага чалавека...

# Каранацыя

***Раздзел з другой часткі рамана “Кліч роднага звона”***

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (105).*

З даўніх часоў Грэцыя ўтваралася адмыслова. На еўрапейскім паўвостраве, на астравах і ўзберагах блізкіх і далёкіх мораў. Ад гэтага люд яе быў разнародны. Не хутка збліжаўся, а то і варагаваў, разыходзіўся. Нехта асобна ўзвышаўся, а нехта занепадаў. А значыць, зусім не мірна заявіліся пераможныя гарады-дзяржавы. Яны то гуртаваліся ў суполкі, заваёўвалі чужыя землі, то збівалі адны адных. Я мог бы, грамада, многа расказваць пра іхнія суровую Спарту і больш мяккія Афіны, пра іншыя суперныя гарады-дзяржавы, пра іхнія лютыя войны, што знясільвалі іх, адбіралі сілы, каб даць яшчэ большы адпор Персіі... Але Яго Вялікасць час патрабуе толькі дадаць: урэшце склалася так, што на поўначы набраў моц македонскі цар, за 338 гадоў да новага часу

разбіў спешна сабраныя сілы супраць яго і падуладзіў усю Грэцыю. Яго сын, Аляксандр Македонскі, не толькі за некалькі разоў абваліў Персію, але і яшчэ скарыў мноства іншых дзяржаў. І Егіпет таксама. Праўда, гэтая грамадзіна пасля яго ранняй смерці развалілася на кавалкі. Пазней Грэцыю, зноў раскіданую, заваюе Рым.

Няпростая такая доля для кожнага люду. Ды грэкі аказаліся з моцнай сарцавінай. Яны дбайна даглядалі свае кветкі і для мёду не менш рупліва збіралі соладзь з чужых. Асабліва ў больш спазнанага Егіпта, што, як гаварылася ўжо тут, многа чаго назапасіў і ад сябе, і ад суседзяў. Але калі ў Егіпце, як многія лічаць, моц мелі слугі багоў, то ў Грэцыі – іншыя асобы. Мысліцелі. Адзіночкі ці з імі падабранымі здольнымі навучанікамі (а падтрымаць пад локаць маладога – гэта вялікі дар вялікага чалавека). Мысляры паспрыялі многім не толькі спасцігаць, пераймаць вядомае, а яшчэ абдумваць і выводзіць сваё. Яны больш заглыбіліся ў розмысле пра цяперашняе і даўняе, навучыліся болей пранікнёна бачыць прыўкраснае ды выяўляць яго розным чынам і ўвекавечваць.

Грэцыя і да Македонскіх, і пасля іх вызначылася высокім узнёскам слова. А пачала з таго, з чаго зашкрэбвалі раней і іншыя, кажучы мовай праваслаўнай царквы, “языцы”. Тыя ў свой час “ізмыслілі” страшыдлаў, багоў, чалавека-багоў, волатаў, німфаў (падобных, па-вашаму, на русалак), але грэкі яшчэ да пісьменства асабліва цікаўна склалі пра іх свае легенды. І цяпер нам, сённяшнім, займальна ўведаць пра іхнюю боскую гару Алімп, боганасельнікаў на чале з грозным Зеўсам (як у вас, яшчэ язычнікаў, быў Пярун). Зеўсава жонка Гера, дзеці, радня былі для людзей апекуны розных боскіх прамудрасцяў і чалавечай заняці. Да Элады кожная воласць мела свайго героя. З ёй усіхным гонарам стаўся Геракл. Па волі самога Зеўса насуперак жонцы надзелены розумам, сілай і вартасцю стаць славай усёй Грэцыі. Ён для гэтага павінен быў учыніць дванаццаць подзвігаў. Пра іх склалі паказкі, а потым апісалі іх. Я, чынная грамада, каб зразумець іх, спазнаў старую грэчаскую мову. То ўнікліва чытаеш пра расправу Геракла над людаедамі, львом і дзевяцігаловай гідрай-змяёй, спусташальнікам людскіх пасеваў незвычайным (помессю чалавека з канём) вепрам, пра здабытыя ім для цара маладзільныя яблыкі, пра ўсмірэнне ім ваяўнічых жанчын з іхняга адасобленага племені, і ўсё не можаш адарвацца: а што далей? Як жывы перад табой прыкуты да скалы Праметэй, хто зычліва перадаў ад багоў людзям агонь і каго ў помсту штодня дзяўбе ў грудзіну арол. Думаеш: а чаму Зеўс не хацеў даваць людзям агонь? Мабыць, асцерагаўся, што яны, грэшнікі, не здолеюць скарыстацца моцай агню без зла вялікага. І асабліва для войнаў.

Многія павучанні з тых легенд не састарэлі і сёння. Скажам, пра Сізіфа. Ён, як у вас кажуць, быў абібок. Не хацеў браць у рукі рыдлёвіцы, капаць ёй у поце чала, каб здабыці пракормак. Сабе, сям’і сваёй. То Зеўс пакараў гультая: будзеш натужвацца, пхнуці на гару цяжкі камень. А калі палічыш, што дабіўся свайго, камень з самага верху пакоціцца ўніз. Значыць, кожны падумай: не хочаш страшнай сізіфавай кары – не лодырнічай, прынось хоць нейкую ды карысць! У сказе пра Аўгіевы канюшні папрок тым, хто прагне багацця вялікага, але марнуе набытае, дапускае бязладдзе ва ўсім. Ці вось паказка пра Антэя. Нават багі пабойваліся яго з-за неадольнай сілы. Паслаў Зеўс Геракла знясіліць таго. Абваліў Геракл волата на дол. А той ускоквае свежы. Прычына? Вялікая! Родная зямля ад дотыку да

яе Антэя давала яму сілу новую! Урэшце Геракл зразумеў гэта, усхапіў на плечы волата і не даў яму дакрануцца да зямлі – Антэй аббясіліўся. Дык вось навука маладым: не адрывайся ад свайго, роднага! Сам на сябе і родных сваіх наклічаш бяду!

Грэкі не толькі больш ярка за ранейшых "ізмышлялі" пра сваю і чужую старыну (чаго варты хоць бы ўзнёслы сказ пра верную любоў да жонкі-нябожчыцы спевака Арфея ці спачуванне маладому Ікару за яго нязбытную мрою птушкай даляцець да сонца). Як толькі што я гаварыў, спасцігшы веды многія і ўменне разважаць, грэкі зазірнулі туды, куды да іх не зазіралі або толькі падступаліся. Узяліся па-свойму патлумачыць свет і яго сэнс, нябесныя з'явы, законы прыроды, людскія помыслы і дзеі. Іхнія навучэльні дзеля гэтага сталі светачамі, далі многа свяціл па навуках, промыслах розных. Яшчэ болей спасцiглі таямніцы лічбавання. Як ніхто да іх, праверылі, як лепш правіць дзяржавай: з памяркоўнасцю і з вечам (Афіны) або з суровасцю яшчэ для дзяцей і з насіллем для ўсіх самых знатных ды багатых (Спарта). Яны для свайго ўзросту рана асвоілі медзь, срэбра, золата, жалеза, наладзілі гандаль. Накінуліся на Малую Азію, дзе былі дзяржава хетаў, Фрыгія, Лідзія (цяперашняя Візантыя), на некаторыя берагі Міжземнага мора, аж да галаў, і закладалі там свае калоніі. Непаўторныя па задуме і характве іхнія храмы, палацы, дамы з дрэва, гліны, цэглы і мармуру, гарады з плошчамі для гандлю і сходак, розны малы і вялікі размаляваны посуд, выявы (статуі) мужчын і жанчын І, галоўнае, стараліся перадаць адметнасць, кожную рыску чалавечага цела, адзіночныя і харавыя спевы, не проста вясёлыя бязладныя скокі людзей, а спрытныя, як кажуць немцы, танцы (*der Tanz*) здольных для гэтага. Умельцы выраблялі са сваім целам дзівосы. Калі вы чулі пра паняцці "музыка", "мелодыя", "рытм", то гэта ад іх. Побач – узоры прыўкраснага пісьменства: перароблены даўнія вусныя легенды, байкі, аб'ёмістыя сказы пра даўніну адмысловым ладам (каб дагадзіць знаўцам прыўкраснага, трэба было навучацца, пра што і як пісаць, стаць аратаем слова). Іхні Гамер (IX-я ці VIII-я сотня дахрыстовага часу) – майстра з майстроў. Слоўнае характво на ўсе часы. Выславіліся іхнія прамоўцы, умельцы весці дыспуты (спрэчкі) як пра відавочнае, так і пра малазразумелае. Сотні, тысячы людзей збіралі тыя, хто, як і мы тут, выходзілі на памост і паказвалі, хто і як жыве, дзеіць. Ім для гэтага пісалі адмысловыя знаўцы як таго, што было-жыло, так і таго, якія словы ўкласці для ўвасобнікаў імі напісанага. Урэшце паўсюдна і сёння, калі дзесьці ёсць патрэба назваць нейкае мудрагелістае паняцце, то дапытнікі шукаюць яго ў мудрых грэкаў. А закладзеная Македонскім Александрыя! Сотні тысяч люду, мурашнік. Але ў ім лад у дамах і на двары. Ёсць хлеб і да хлеба, вялізны гандаль. Чужыя судны ўдзень і ўночы кліча высозны светач. Найвялікшыя мудрацы і спазнаныя ў свеце лічбаў дапытнікі, творцы красамоўныя, небаведы, навучэльні, храм муз, вялікія зборы напісанага з глыбокай даўніны! Туды здалёку ехалі, каб спасцігнуць розныя веды і абладзіць розум свой. Нават для таго, каб пабачыць усыпальніцу, дзе, як казалі, у залітай мёдам дамавіне ляжаў вялікі з вялікіх чалавек. Сам Македонскі. Толькі ўжо даўно тую ўсыпальніцу паказвалі, але зайсці ў яе і пабачыць героя не дазвалялі. Мо і мёд не ўратаваў ягонае цела. Славутая Грэцыя-Элада як *imperium* не ўтрымалася, апынулася ў кіпцюрах Рыма, а пазней апынулася ва Усходняй Рымскай імперыі. Паколькі тут многія не перасталі гаварыць, пісаць па-свойму, то лацінка прыжывалася цяжка

і скора саступіла грэчаскай мове. А калі гэтая імперыя не ўтрымала ад арабаў Егіпет і Сірыю, многія землі на захадзе і поўначы ад славянаў, то ўжо ацалелае толькі некаторыя называлі Румам або Візантыяй, усе астатнія пачалі іменаваць “грэкамі”. Яшчэ болей гэта ўстоялася, калі пазней туркі-сельджукі ўзяліся512 заваёўваць Малую Азію, а нарманы пацяснілі Візантыю з італійскага паўвострава. Цяпер, як мо ведаеце, былая сталіца “грэкаў” у руках воінства Хрыстовага і сталец іхняй Лацінскай імперыі. На рэштках былой імперыі – некалькі грэчаскіх дзяржаў. Самая вялікая з іх Нікея.

Рым заявіўся пазней за многіх ужо зніклых і забытых ці малапомных бывальцаў сярод гарадоў-дзяржаў. Калі ўжо квітнелі Егіпет, а за ім Грэцыя. Рым, як запісана, паўстаў з “трысняговых хацін”. Устояў у міжусобных бітвах і ў войнах з моцнымі супернікамі. Вырас, уздужэў асілкам праз свае найлепш у свеце навучаныя, загартаваныя, узброеныя і нясхісныя легіёны (іх глядзелі надзвычай: для вояў было “цяжкае пакаранне”, калі ім за правіннасць давалі не пшаніцу, а ячмень). Па-вашаму, дружыны. Выходзіў са старога часу ў яшчэ невядомы, неназваны новы адзіным сусветным уладаром ад брытаў, галаў (продкі французаў. – *Аўтар*) па каўказскую Арменію (раней яна была ў складзе такой знанай дзяржавы, як Урарту). Заадно далучыўся да кладзезя з першабытных часоў ведаў і твораў, сабранага ды папоўненага грэкамі. Рымскія правіцелі (першы імператар з 27 года да хрыстовага часу Аўгуст), палкаводцы жылі найперш вайною, прагнулі “трыумфу” (гэта больш, чым здабытая ваенная перамога. Ушанота з ушанот), таксама, як і ранейшыя правіцелі іншых дзяржаў, лічылі сябе багамі. Уладары чаканілі манеты са сваёй выявай, заказвалі яшчэ пры іх здравіі вырабляці ім статуі, помнікі. Некаторыя былі не толькі “строгія, але справядлівыя”, кім вы лічыце свайго князя Ізяслава, а злыдні-самадуры. Маглі ўвесці каня ў сенат замест сябе або сцяць галаву чалавеку толькі за яго не зусім ласкавы позірк. Імператар нават мог падпаліць... Рым, каб звінаваціць у гэтым непрыяцеляў. І таму ці не паўтара дзесятка імператараў перабіла свая ж незадаволеная знаць. Нават такіх, як Юлій Цэзар. Хоць ён умеў заваёўваць нямала чужых зямель, Рым умацаваў. Са свайго скарбу даваў помач пакалечаным і састарэлым легіянерам. А яшчэ ўвёў новы календар (зразумела, названы яго імем).

Рым перагледзеў тое, што зрабілі Егіпет і Грэцыя па дзяржаўным праўленні. Увёў свае кодэксы права (яго назавуць рымскім). Па ім вызначыў месца і вартасць рознага люду, – Генрых апусціў правую руку і падымаў яе ўверх ды падтрасаў, – бяспраўны раб, плябеі (просталюдзіны; іх абаранялі трыбуны і абраны з іхняга асяроддзя консул), патрыцыі – знатныя і багатыя, вышэй – коннікі (сярод іх і ваенная галоўка), сенат (знаць са знаці), імператар. А яшчэ – велічныя храмы, пышныя палацы і летнікі за горадам, простыя навучальні для ніжэйшых і болей мудроныя для заможных, дагледжаня дарогі, вымашчаныя вуліцы, моцныя масты па вялікіх рэках, вадацёк па трубах, мыльні (там маглі і пра дзяржаўнае талкаваці, і без меры распуснічаць) ды, паколькі ў вялікай сталіцы свету было шмат мяшчан, прыезджых, агульныя прыбіральні (за іх бралі плату; яна “не пахла”). Яшчэ да заваёвы грэкаў спасцігалі іхнюю мудрасць, прыўкраснае пісьменства, што спрыяла болей змястоўна тварыцці сваё па-лацінску. Вызначылася такая ява, як versus (вершы). Лукрэцый стаў вядомы як тварэц праўдзівы і суровы, а Вергілій не цярпеў гарадскіх нораваў і мітусні, хваліў сельскае хараство і спакой (хоць знаць зняважліва абзывала

сельніка паганінам – недаразвітым). Спакваля лацінка стала мовай перапіскі, перамоў па ўсёй імперыі дый па-за ёю, мовай навукі і мясцовага тварэння словам узнёслым. Адным словам, было за што добра гаспадарыць, ва ўсім квітнець: адусюль цякло багацце невымернае. Для ўцех мужчынская знаць жадала “віна, жанчын і відовішчаў”. З апошняга – не толькі, як у Грэцыі, музыка, спевы, танцы, паказы з жыцця багоў і людзей. Больш і горш. Калі ў Грэцыі цешыліся мірным людскім дарам і спрытам (бег навыперадкі, кіданне прылады чым далей, дужанне сілай), то ў прасветлым Рыме знаць любіла дзікія, язычніцкія ігрышчы: крывавыя баі нявольнікаў (сярод іх былі і знатныя іншаземцы, што зусім не ратавала іх ад загібелі). Карацей, усё так склалася, што ўжо тады склалася прымаўка: “Усе дарогі вядуць у Рым”. Ён стаў быццам сталіцай, светачам свету. Хоць і ў яго, вялікага ва ўсім, таксама, як і ў Егіпта, былі свае дзівацтвы. Па тых жа чалавечых уборах, з чаго пасміхваліся і нашы продкі, “варвары”. Яны, паколькі жылі і ў суровыя зімы і мелі патрэбу ў цёплай апратцы, не зусім разумелі, чаму рымляне не дапускаюць... як у вас кажуць, партоў ці нагавіц. Хадзілі ў зручнай і для баёў туніцы (ніжэй пояса рубаха, сарочыца; у час бою на ёй быў прыкрытак) і, як у вас кажуць, паўлапцях з завязкаю да калень (сандалі). Калі холад ці дождж, паверсе тунікі мелі розныя кароткія і доўгія накідкі (плашчы). Багатыя – у мірны час тогу. Ёй, найбольш шоўкам з далёкага азіяцкага Усходу, абгортваліся. Чым чалавек меў болей дабра, тым даўжэйшым быў абгортак. Нават больш трох сажняў. Як ведаю, тога так і засталася найперш рымскай: і цяпер шоўк не танны, а раней быў яшчэ болей дарагі. Дый мірнага часу не для ўсіх было многа. А вось туніку (дзе карацейшую, дзе даўжэйшую) упадабалі і за рымскімі межамі. І ў славянаў. Як самі бачыце, князі ў свята паверсе яе, зробленай па-свойму і на зіму болей уцепленай, накідваюць карзно з дарагой тканіны і скур, знаць – усякія іншыя дадаткі.

Так, – у думках згадзіўся Усяслаў, – Прадзеды нешта з верхняга адзетку (безрукаўкі, світкі, для простага люду звычайна авечыя, для знаці з болей высакароднай жывёлы і ахарошаныя вышыўкай кажухі, бурносы) прыдумалі самі, тое-сёе запазычылі ад купцоў з Візантыі і Кіева, а нешта ўжо на яго, Усяслававай, памяці спазналі, прывезлі з чужых земляў, калі хадзілі баявым паходам у Мазовію, потым да Карпат, дзе сутыкнуліся з венграмі. Вось і заявіліся тут яшчэ ўсялякія з рукавамі і без іх, з каўнярамі і без адкладаў суконныя, падшытыя лёгкай скурай ці без яе каптаны. На свята яны былі яшчэ аблямаваныя аксамітам, з вышыўкай дарагімі ніцямі, а да такога каптана знаць дадавала не як звычайна авечыя ці радзей заечыя аблавухі, а пышныя бабровыя нагалоўнікі.

– Адметная была і рымская жаночая апратка, – пасвячаў Генрых. – Тое-сёе з яе маглі дазволіць сабе толькі багацейкі. Асабліва з шоўку. Ён так высока цаніўся і за хараство, і за тое, што асцерагаў цела ад кровасмокаў. З-за жаночых просьб яго, срэбра і золата, самацветаў часам палкаводцы ў паходах многа трацiліся на гэта і не заўсёды ў час плацілі воям. То і былі “шоўкавыя” бунты, калі неаплатныя легіянеры адмаўляліся ваяваці, а то і забівалі казнакрадаў.

Многія ад брытаў па Арменію, Сірыю і Егіпет радаваліся рымскаму засіллю, паўставалі супраць. Некаторыя рымскія намеснікі ў змове з тамашнімі заможнікамі спрабавалі стаць самі па сабе. Не толькі абураліся, але і ў адчаі хапаліся за меч рабы. Каб то тут, то там вярнуць пакору, трэба

было траціцца на тое, каб там трымаць ахоўныя легіёны ці пасылаць іх туды для кары. Заадно думалі, як задаволіць, падкупіць заваяваных. Будавалі ў іх гарады (Вена, Парыж, Базель), пачалі даваць знатным іншаземцам рымскія правы. Ды поўнага спакою, ладу не было. Раз-пораз успыхвалі бойні за вяршэнства паміж палкаводцамі. Мо і нечакана пачала распальваць агонь важданіна з прыхільнікамі новай веры ад Хрыста. Думаю, чынная хрысціянская грамада, вы пасвечаныя ўжо царквой, што і як перацярпелі першыя бедныя і бяспраўныя хрысціяне. І ў мудрым Рыме не зразумелі іхняй веры: быў, ёсць адзін Тварэц свету, і ён дбае не толькі пра адзін народ, а пра ўвесь род чалавечы. Усе, хто верыць і пакланяецца яму, для яго любімыя.

Толькі ў 313-м (5821-м па-вашаму) годзе разважлівы імператар Канстанцін зразумеў і прызнаў хрысціянаў, а крыху пазней на хрысціянскім Нікейскім саборы настояў усім прызнаць Бога "аднаго ў трох асобах". Каб аслабіць гнеў рымскіх мнагабожнікаў, па прыкладзе егіпецкіх фараонаў перанёс сталіцу ў новае месца. У Віз*а*нтый каля Басфора і назваў яго Канстанцінопалем (на Русі ўганаравалі Царградам). Дзеля справядлівасці трэба сказаці, што не ўсе хацелі прымаць хрысціянства. Як у Рыме, так, скажам, і ў такім асвечаным розумам і ведамі горадзе, як Александрыя. Часам перапалкі, змус даводзілі да мяча... Старая і новая сталіцы пасварыліся, заварагавалі. Гэта прывяло да расколу імперыі на Заходнюю і Усходнюю. Гэта нават сярод хрысціян па абодва бакі пусціла парасткі падзелу хрысціянскай веры па канстанцінопальскім і рымскім канонах (у Канстанцінопалі і ў родных мясцінах Хрыста не прызнавалі, што першым рымскім біскупам, тым болей блаславіцелям папства стаўся Хрыстоў навучанік, апостал Пётр. Новая і старая сталіцы пачалі ўстанаўліваць сваю ісціну, абрады веры. У Александрыі нават святары (арыяне) па-свойму затлумачылі сэнс Бога і Хрыста. Хрыстос – не Бог, а яго сын ад звычайнай жанчыны. Гэта прывяло да ерасі. Арыянства. Пазней ва Усходняй імперыі нямала шкоды прынесла і тое, што там на доўгі час запалалі спрэчкі: прызнаваць іконы ці не. Некаторыя палічылі іх праявай язычніцтва. Цярпелі, а то і гінулі як прыхільнікі, так і праціўнікі, што аслабляла духоўную моц хрысціянства ды імперыі).

Усходнія імператары жадалі мець Рым як паднявольны, сілай захаплівалі яго землі. Да ўсяго раскол паглыбляла тое, што ў Візантыі пачало набіраць моц усё грэчаскае. Такім падарункам лёсу скарысталіся, як звысоку гаварылі, "варвары" (усе, апроч грэкаў і рымлян) з блізкіх, а потым і з далёкіх краёў (з усходняй далечы гуны). Набежнікі валам адзін за адным накочвалі на Рым і спусташалі яго ўладанне. Рабы сустракалі іх як вызваліцеляў, плябеі – досыць прыхільна. Некалі славутыя легіёны саступалі бязладнай, але вялізнай сіле ды празе багатай здабычы, былі не раз бітыя. З варварамі стараліся паразумецца рымскія папы – на першым разе "першыя біскупы". Калі іхнія прамовы-ўгаворы не кранапі набежнікаў, то яны спажылі заваёўніцкую хцівасць – багатыя дары. У хуткім часе нацярпеўшыся ад прагавітых і лютых нападнікаў, люд зняверыўся ў імператарах, пачаў больш давярацца папам. Ім такое давала моц. А з гэтым і іхняя казна папаўнялася... Ды ў 476-м Заходняя Рымская імперыя пала і перайшла ў чужыя рукі. З ёй адышоў у нябыт стары свет. Усходняя па ўскраіне стане новай імперыяй. Візантыяй. На вялікіх, слаўных даўніной, багатых абшарах. А значыць, і мары яе будуць на вялікае, сусветнае. Стаць

другім Вавілонам і завяршыць тым задуманае. Яна даволі скора пачне набіраць сілу. Але і на яе знойдуцца як суседскія, так і прышлыя зводдаль (з той жа глыбокай Азіі) “варвары...”.

“Ізяслаў гаварыў, – успомнілася Усяславу, – Македонскаму старыя багі, як тому малойцу з казкі, далі замнога сілы. І ён змоладу ўзгарэўся свет перавярнуці. І многае яму ўдалося. Толькі маладым і загінуў. Ад падлітай у віно атруты ці ад жанчыны-злыдушніцы. Без яго ўсе ягоныя заваёвы тут жа сышлі пшыкам гарачага жалеза ў вадзе. Але яго войны, перамогі з рэкамі крыві над моцнымі з моцных, ранняя слава не давалі і не даюць спакою, зайздрасць для многіх уладык такіх жа помыслаў. Самі захапляюцца і дзяцей сваіх навучаюць ушаноўваць захопніка. І рымскія правіцелі, яшчэ гаварыў знаўца даўніны Ізяслаў, не ведалі меры. Прагнулі, як персы ды Македонскі, увесь свет захапіць. Але нахапанае косткай у горле стала. Рым не змог яе ні выхапіць, ні праглынуць і пераварыць у жываце імперыі. Усюды тоўк-тоўк непакорлівых, то яго, аслабленага, самога затаўклі. Цяперашнія “Трасуны свету”, манголы, не пакідаюць паўсюль свае тумены (тумен – каля 10 000 вояў. – *Аўтар*). Трымаюць іх каля сябе. А калі хто з заваяваных перастае скарацца, асмеліцца не плаціць ім падаці, то кідаюць на яго сабранае пры сабе полчышча. Як нядаўна на Русь Залескую, калі яе вялікі князь Андрэй забрыкаўся...”

Усяслаў, як і ўсе, працягваў слухаць. Яму ў маленстве, як і належыць дзіцяці ваяводы-хрысціяніна, святар расказаў пра Тварца свету, пра Адама і Еву, нейкага спакуслівага змея і першы род людскі, пра патоп і Ноя. Пазней ад іншых знаных пачуў пра славуты Егіпет. Епіскап Кірыла часта баяў сваё ўзнёслае пра Грэцыю і Візантыю ды непачцівае пра Рым. Асабліва пра распусных папаў. Люд за памостам, ясна, услухоўваўся з-за цікаўнасці, ветлівасці і паслушэнства, ды наўрад ці хто шмат запомніў з назваў былых дзяржаў. Бадай, ім застанецца ў памяці тое, што і задоўга да Хрыста жылі людзі, былі іхнія ўладары, што ўжо і тады, каб выжыць, столькі ўсяго (што і сёння не ўсе маюць і могуць зрабіць) надумалі ды вынайшлі. Але браліся і браліся ў рожкі адзін з адным, гінулі. Прыходзілі новыя – і тое ж... Навагародская дружына добра ведае амаль стогадовае мінулае Навагародка, роднай дрыгавіцкай зямлі з часу падзення Кіева і новага ўзвышэння яе стальца Турава з князем Юрыем Яраслававічам, знае час акняжання Навагародка і першых яго князёў, а вось астатняму люду больш у памяці нядаўні князь Ізяслаў. “Добры гаспадар быў. Строгі, але справядлівы”. Не ўсе разбіраюцца, чаму ён, Усяслаў-ваявода, з Міндоўгам заадно. “Кажа, што ён спаўняе волю Ізяслава. То мо так і трэба”.

Але вось цяпер, у палуднёвую часіну, нечакана ўсе на памосце і на лузе страцілі ўвагу, паднялі галовы да неба: дагэтуль там ярчыла сонца, выблакітнівалася неба, толькі зрэдку з-за лесу на ім паказваліся кучмістыя белыя аблачыны, паціхеньку плылі. А калі засланялі свяціла, то крыху астуджалі яго летнія гарачыя промні. Хаваліся за супрацьлеглы лес – гарачыня зноў была ў моцы, нават ад яе прыпарвала ад ранішняй вільгаці. Мо ніхто і не заўважаў: новыя воблакі шарэюць і гусцей затуляюць святло. А вось цяпер над імі нібы запынілася ўжо цемнаватая хмарына, ашэрыла, крыху ажаўціла наваколле і дыхнула свежаватым поцягам. На дождж. Вуркатнуў далёкі гул. Бывае. Пра такое кажуць: гром з яснага неба. Летась вось такой неспадзяванай часінаю абрынуўся лівень,ляснуў адзінокі пярун – маланка ўцэліла на княскім полі ў мэндлік, дзе схавалася

жняя-калечка з сярпом у руках (астатнія жанкі паспелі дабегчы да дажджу пад дах блізкай будыніны). Жнейка і снапы згарэлі.

Генрых усхаваліста перавёў позірк на Усяслава: што будзем дзеіць?

Што тут падзеіш? Хавацца пад памост? А люд? Хіба не пасмяецца? Усяслаў падняў руку: спакойна. Занепакоены прамоўца пераҗагнаўся, усміхнуўся:

– Будзем Бога прасіці, каб адвёў ад нас ліха.

Азірнуўшыся, Усяслаў заўважыў: не разумеючы Генрыхавай гаворкі, госці непарушныя. Ведаюць: ніхто не пакіне ні памоста, ні лугу. Тым больш, што хмурнасць не затрымалася і не пазмрачнела, нават кроплі не праліла, пакраталася далей на поўнач, каб там мо злучыцца з іншымі прыхмаркамі, засланіць усё неба і ўчыніць навальніцу.

– Уважыў нас Бог!

На гэтую новую рэпліку па-свойму адгукнуўся толькі епіскап Кірыла: спахмурана апусціў на вочы з халодным позіркам бровы. За тое, што Генрых упамінае Бога “всуе”. А ў душы яму і хацелася, каб гэтая каранацыя сарвалася.

– Грамада! – акрыяў Генрых. – Вы мяне слухаеце і мо думаеце: колькі было дзяржаў! Малых і вялікіх. Кожная нечага дамаглася. Вялікія – і за чужы кошт. Нават з паглынаннем слабейшага. Але рана-позна папрападалі і яны, імперыі. То – што? “Суета сует”, як сказана ў Святым пісанні? Чалавечыя мітусня мітуснёю? Вэрхал, важданіна на крыві? У Новым запавеце напісана, што Хрыстос не хацеў дзяржаў з іх насільным ладам і войнамі. Жадаў абладзіць жыццё людское без іх, па-новаму. Яго думкі, можа, адгукаюцца і ў вас многіх: ці трэба Міндогу, вам усім менавіта дзяржава? Гэтая каранацыя? Мо ваш і слаўны ваявода перабольшвае, калі за такое?

У Святым пісанні (а яго Ветхі, Стары, запавет заявіўся болей тысячы гадоў да Хрыста), у “Першай кнізе Царстваў”, сказана: занепакоеныя ад сваіх няладаў, няўдач іудзеі прыйшлі да Бога прасіці сабе ўладара. “Няхай цар будзе над намі, і мы будзем як іншыя народы: будзе судзіць нас цар наш (...) і весці войны нашы”. Бог пакрыўдзіўся: я даверыўся найперш вам, абраў любімымі, даў, лічу, добрыя наказы, даў сваю зямлю – жывіце і радуйцеся! А вы?! Зямны ваш уладар будзе лепшы за мяне?! Паколькі іудзеі просьбу паўтарылі, то Усявышні не стаў упарціцца, блаславіў яе. Вызначыў ім цара. Мудрага Саула. І пайшло: ізвол народа – ізвол Божы! Вы палюбілі князя Ізяслава. Абжываліся, мацавалі княства пры ім. Пасля яго смерці, паколькі ні сыноў, ні пляменнікаў Ізяслававых не засталося, ваша Рада параіла вечу запрасіць у Навагародак Міндоўга. Вы на вечы пагадзіліся. Цяпер сукупная Рада Навагародка і Літвы ад імя двух пасямееных суседзяў рашыла, каб ён стаў каралём, меў апеку ад намесніка Бога на зямлі, Свяшчэннай Рымскай імперыі, Ліфляндыі. Лічу, Усяслаў ясна патлумачыў, хто ваш вораг і прыхільнік, што вам рабіць. А каб выжыць, сама доля вядзе вас да такой вялікай явы, як германскі свет. Дазвольце хоць бегма пазнаёміць вас з ім, бо пра нас недругі баяць нямала розных, а то і злых небыліц.

“Што праўда, то праўда”, – у думках пасміхнуўся Усяслаў.

– Многія германцы здаўна атуліліся ў паўднёвай Сканіі (Скандынавіі), – Генрых пачаў ужо расказваць пра сваіх. – Хоць жылі крыху воддаль ад суровай Поўначы, але ўсё роўна прырода там няпростая. Не толькі ўродныя нізіны, але і ўзгоркі, лясы, закіданая каменнем зямля, балоты,

вялікія снегавеі і моцныя марозы, нядоўгае лета. З самарослага пракормку – тое, што можна злавіць ў моры і рэках, ласі, алені, зайцы, птушкі, грыбы, ягады. Хто выжываў, той быў моцны целам і духам, звыкся не наракаць і быць спакойным. Мо і германцы таксама былі з тых, каго грэкі называлі незнаёмцамі-гіпербарэямі (“паўночныя людзі”). Як яны лічылі, здаровыя, вынослівыя і шчаслівыя ў сваёй прастаце. Ды тыя германцы яшчэ да Хрыстовага часу зрушыліся, пачалі шукаць большага шчасця ў цяплейшых і больш урадлівых краях. У розны час і рознымі шляхамі. Першыя падаліся на Захад паблізу марскіх берагоў, высадзіліся і сутыкнуліся з багатымі і моцнымі кельтамі. Дубінай і мячом пацяснілі іх. Крыху пазней яшчэ адны (готы з людам больш чым з дзясятка іншых плямён) даплылі да вусця Віслы і па ёй рушылі да яе вярхоўя, потым павярнулі да Прыпяці, мінулі прыдняпроўскія стэпы і апынуліся каля Панційскага мора, дзе ў яго ўліваецца Дунай. Сутыкнуліся з тамашнімі скіфамі і пасля некалькіх бітваў разграмілі іх, рэшткі змусілі сыйсці. Пасягнулі на былую Эладу, уступілі ў бой з яе тымчаснымі гаспадарамі, непераможнымі рымлянамі. Ды... прыкрытыя скурамі і з кап’ём, змаглі пабіць самога рымскага імператара Дэцыя: заманілі таго ў балота і не далі яго воям лаўчыць з кароткім мячом, а самі забівалі доўгім кап’ём. Пра тую бітву 251-га запісалі, і яна стала вядомая. Урэшце там яны сустрэліся і з праславянамі, а таксама на сваю бяду – з бадзяжнымі азіяцкімі полчышчамі.

Першапраходныя германцы на Захадзе аселі на заваяваных кельцкіх землях, узяліся будаваць гарады (Майнц, Кёльн) і закладаць падмурак для свайго дзяржаўнага гмаху. Іх дзеі пачалі запісваць яшчэ з 9-га года па Хрысце, калі яны займелі сілу і здолелі ўжо тады ўшчэнт разбіць не абы-каго, а тры нападныя легіёны грознага рымскага палкаводца, лютага ўсмірыцеля аднаго з паўстанняў Іудзеі Публія. Вядомы пераможца яго: Арміній. Яго ўслаўлялі: ён не толькі справіўся з “непераможнымі”, але і паспрыяў, каб увогуле рымлян далей Эльбы не пусціць. І тыя рашылі не траціць сілы на “зверападобных”. Ды без назірку не пакінулі. Нават тым, што вядомы даследца Тацыт напісаў пра іх і напісанае назваў коратка: “Германія”.

Сам лёс падарыў ёй вялікі шанец: рымскі ўпадак. Германцы, як і іншыя, нават далёкія плямёны, ужо не баязліва рушылі да яшчэ нядаўна моцнай, грознай і багатай імперыі. У 378-м даканалі славутыя рымскія легіёны, а праз гадоў сорак і Рым узялі ды пайшлі далей. У 476-м зрынулі апошняга рымскага імператара, пахавалі Заходнюю імперыю і хто раней, хто пазней апынуліся на многіх яе землях. Вандалы – аж у Паўночнай Афрыцы, вестготы – на Пірэнейскім паўвостраве, остготы – на італійскім, англы і саксы – на брытанскай выспе. Уладары плямёнаў сталі правіцелямі (герцагамі) паддзяржавак (герцагстваў). Найбольшага дабіліся франкі з паніззя Рэйна. Яны на чале з кеміста-ўмелістым і адважна-лютым палкаводцам Хлодвігам захапілі шмат абшараў у Галіі, у 486-м зрынулі там рымскага намесніка і заклалі, як у вас кажуць, вартасную дзяржаву. Ёй было суджана пачаць у Еўропе новыя эпоху і лад (феадалізм – *Аўтар*). Усіх германцаў рымскія рабы, калоны (змушаныя працаваць на зямлі) спатыкалі як ратавальнікаў, памагалі распраўляцца з багатымі і ўладнымі рабадзержцамі. На вялікай вайне як на вайне: многія рымскія гарады, што не здаваліся, былі пабураныя. Многае назаўсёды загінула. А з гэтым зняліся і многія рамёствы. Раней многія напышлівыя рымляне пагаворвалі, што

яны ўслед за грэкамі вычарпалі тое, што багі далі чалавеку. Цяпер, калі ацалелыя з іх зведалі пагром, беднасць, голад і прыніжэнне, загаварылі пра "канец свету". Хрысціяне адказалі ім: гэта – вам канец, кара нябесная. Ваш Пілат у Іудзеі аддаў на расправу сына Божага за яго новую веру. Іудзеяў Бог пакараў ужо тады. Вашымі рукамі. Ды параскідаў па ўсім свеце. А вас карае цяпер за тое, што вы разбурылі Іерусалім, яго святы храм, а потым доўга здзекаваліся з хрысціян. Было ж Хрыстом сказана: "Якой мерай мераеце, такою і вам будуць мераць". Вы пацярпелі за гардыню сваю, за распусту вялікую. Выйшла тое, што напісана ў Святым пісанні: "Мнози будут последний первий, а первий последний". Так, па-вашаму, святы ойча? – Генрых азірнуўся, перавёў позірк на епіскапа Кірылу.

Той ці ўважліва яго слухаў, ці не, але цяпер і брывом не павёў.

– Хлодвіг не задаволіўся ўдачай і перамогаю ды тым, што, як раней, яму выдзеляць старэйшыны як палкаводцу, – расказваў Генрых. – Ён рашыў сам узяць тое, што яму трэба. Нялітасціва расправіўся не толькі з супернікамі, але з ненадзейнымі паплечнікамі ("шчырасць і дабрата – дурата". Ды асабліва для таго, хто хоча стаць моцным правіцелем!), шчодра надзяліў зямельным пamесцем (феод) многіх найбольш выбітных паплечнікаў (яны сталі феадаламі), даў кавалкі зямлі воям, і яны сталі вольнымі абшчыннікамі, запалоненых ворагаў зрабіў рабамі, адарыў сваю дружыну і яе сілай, сваёй жалезнай рукою пачаў запыняць грабяжы, бязладдзе. На чале кожнай воласці паставіў асабліва абласканага і вернага правіцеля (графа; яму пачнуць служыць менш багатыя феадалы – бароны), прыняў хрысціянства і стаў адзінаўладным каралём новай дзяржавы. Па франкскіх звычаях і сваіх папраўках загадаў скласці кодэкс права, законаў. Мо і ён пажадаў, каб было напісана пра ўсё гэта. Ва ўсякім разе неўзабаве епіскап Грыгорый Турскі склаў "Гісторыю франкаў".

Як часта бывае пасля смерці вялікага, уладнага правіцеля, – распавядаў далей Генрых, – сыход Хлодвіга абудзіў прыдушаныя сваркі. Феадалы (а яны багацелі, будавалі сабе не проста жытло, а мураваныя замкі, для знатнасці кожны пачаў заводзіць *Erbe* (герб – спадчына) адчулі сваю моц, асмеліліся калі не пасягаць на вяршэнства, то адстойваць вольніцу. Толькі праз некалькі дзясяткаў гадоў адзіны ацалелы Хлодвігаў сын моцнай дзясніцай зноў аднавіў трывалы дзяржаўны лад. Праўда, і гэта не дало доўгага міру. З-за сутычак з раўнівай Візантый, а пазней і з-за яшчэ адной магутнай хвалі захопніцтва. У далёкай Аравіі купец Магамет мо і ў перайманне іудзея Хрыста пачаў угаворваць арабаў спыніць дробную варажбу, прызнаць аднаго свайго Бога (алаха), дзеля яго паяднацца новай верай (ісламам; яе паслядовец – мусульманін. "Пакорлівы алаху") і перанесці войны на "няверных". У 630-м многія арабскія ўладцы ўбачылі ў гэтым разумную параду, прынялі іслам і прызналі непісьменнага купца прарокам. Злучыўшы сілы, яны борздка скарылі ўсю Аравію, Месапатамію, віхурай наляцелі на Персідскае (Іранскае) царства і Візантыю (адабралі ў яе Сірыю і Егіпет). Даволі скора ўтварылі свой халіфат (правіцель-халіф – заступца Магамета). Напалі на Паўночную Афрыку, а пасля – яшчэ далей-далей, на слабую дзяржаву вестготаў на Пірэнеях. Удала ўсё складвалася ў іх нападах і на Усход. А каго не маглі там заваяваці, з тымі наладзілі гандаль і многа чаго новага прывезлі адтуль: сакрэты вырабу шоўку, новае, больш простае і яснае лічбаванне ды яшчэ тое-сёе.

(Названае было ўведана найперш у Кітаі і Індыі, пра якія тады ў Еўропе многія нават не чулі. Тым больш, што Кітай знаходзіўся вельмі далёка, а ў Індыі, скажам, у VII ст. мелася каля 70 княстваў. А яшчэ там арабы спазналі рыс, бавоўну, лімоны і апельсіны, паперу, порах, фарфоравы посуд. Склалі такую навуку, як алгебра. Спазналі сакрэты сталі, вывелі новыя пароды коней-скакуноў. Па-свойму вызначылі памер зямлі, намалявалі карту яе. Навучыліся карыстацца компасам і глобусам. Адкрылі і назвалі новыя зоркі. Больш паглыбіліся ў тайны чалавечых хвароб і лекаў ад іх. Вызначыліся чысцінёй і асвятленнем вымашчаных гарадскіх вуліц. Сваім частым мыццём (яно нават стане рытуалам – амавеннем). У той час і ў "больш цывілізаванай" Заходняй Еўропе, як жартавалі, мыліся тры разы: калі нараджаліся, жаніліся і паміралі. Маглі выліць памыі і яшчэ горшае не толькі з двара на вуліцу, але і зверху на галовы праходжых. Лепшае ад арабаў пачне з'яўляцца ў Заходняй Еўропе з Іспаніі, дзе яны затрымаюцца даўжэй, чым у Сірыі, Егіпце, Закаўказзі і Сярэдняй Азіі. Арабаў папікаюць за многае знішчанае са старажытнага ў Александрыйскай і іншых бібліятэках (Маўляў: "Калі з напісанага нечага няма ў Каране, то яно не трэба нам. Калі ёсць, то нашто нам паўторы?"). Ёсць звесткі, што да знішчэння пісьмовых помнікаў даўніны (найперш як язычніцтва) яшчэ раней прыклалі руку хрысціяне. – *Аўтар*).

– У 732-м арабы конніцай накінуліся на Франкскую дзяржаву, – расказваў Генрых. – Яна выставіла супраць іх пяхоту. Бітва двух новых магутных светаў, бывалага ўжо германскага і яшчэ маладога арабскага, была вялікай пробай сіл. Пазней рознае пісалі пра яе, тую пробу. Вядома толькі, што арабскія воі, каб захаваць нарабаванае, не біліся заўзята. Многія збеглі. Пяхота не магла іх дагнаць. Мо было і іначай, але іслам і арабізацыя адступілі ад франкаў. І, можа, ад яшчэ далейшага ўсходу. Праўда, іслам самі прымуць некаторыя і не заваяваныя арабамі плямёны (асобныя сярод хазар, волжскіх булгараў, туркі-сельджукі), арабская мова стане "латыннню" на ўсім Бліжнім Усходзе.

У той бітве вызначыліся франкскія воі новага складу. У вас такіх называлі з павагай і гонарам: віцязі. То былі продкі сённяшніх рыцараў. Яны заявіліся невыпадкова. З тых, хто араў, касіў для феадала і сябе, была слабая падмога ў час вайны. Трэба былі новыя прыёмы бою, па-найноўшаму ўзброены і ахаваны даспехамі змагар, а пасля бітвы з арабамі варта было дбаць як пра лёгкую, так і цяжкую конніцу. Ды за жалеза і сталь, коней, вырабы ўсялякія і ўкрасы была вялікая плата. Болей за сорак кароў на аднаго рыцара. Статак цэлай весі. Такое заплаціці маглі толькі багатыя людзі. Паколькі яны пасвячалі сябе дзяржаве, вайне, то па службовай лесвіцы сталі за баронамі. Самыя выбітныя маглі падняцца і вышэй. Франкская дзяржава ўзбуйнілася, нагнала на ўсіх дрыжыкі пры Карле. Ён правіў сорак шэсць гадоў, учыніў ці не пяцьдзесят ваенных паходаў. Калі за Пірэнеямі не шмат дабіўся ў бітвах з арабамі, то за Альпамі – многа. Пад яго дзясніцай апынуўся амаль увесь італійскі паўвостраў. Наклаў моцную дзясніцу і на іншыя былыя рымскія абшары. Разбіў такіх настойлівых нападнікаў, як авары. У 800-м у Рыме папа ўсклаў на яго голаў залатую карону імператара. Вось так, – Генрых пасміхнуўся, ускінуў вышэй галавы рукі, – варвар – прызнаны самім Рымам імператар! Варвар узнаўляе рымскую веліч! Яшчэ пры здравіі заслужыў прыбаўку да імені – Магнус (Вялікі)! Увайшоў у лік Дзевяці мужоў Славы сусветнай, куды

многія залічаюць такіх вялікіх асоб былых часоў, як Македонскі і Цэзар! Пра яго подзвігі была напісаная хроніка. Пазней па ёй многія здольныя да прыўкраснага пісьменства напісалі свае сказы (раманы) пра яго подзвігі і пра слаўныя дзеі многіх рыцараў (сярод іх быў і ягоны пляменнік Раланд, па-геройску загінулы ў бітве з арабамі). Тыя сказы, як і пра рыцараў караля Артура (Тры(с)шчан), па ўсёй Заходняй Еўропе цешылі і цешаць сэрцы старых ваякаў, натхнялі і натхняюць да подзвігаў маладых. І цяпер наша воінства Хрыстовае набіраецца духоўнай моцы ў чытанні Святога пісання і малітвах, а ў вольны час бярэ ў рукі сказы пра рыцарскія прыгоды, пра іхнюю духоўную любоў да жанчыны. Мо і даўнія паданні пра смелых і доблесных рыцараў паклікалі ў першы крыжовы паход Готфрыда Бульёнскага – далёкага сваяка Карла Вялікага па мацярынскай лініі. Ён праявіў цуды гераізму і сціпласці. Калі ў вызваленым Іерусаліме яго абралі каралём, ён адмовіўся ад вялікага ўшанавання. “Не трэба ўскладаць на маю галаву залатую карону ў гэтых святых мясцінах, дзе на Збавіцеля роду чалавечага нацягнулі карону з калючак”. Зусім невыпадкова, што і ён, герой новага часу, папоўніў лік Дзевяці самых вялікіх людзей свету.

“Хітрэц, – зноў сам сабе пасміхнуўся Усяслаў. – Епіскап Кірыла гаварыў, што той Карл у Рыме сілай змусіў папу аб’явіць яго імператарам, а каралеўства – імперыяй. Як працяг заходнерымскай”.

– Карл Магнус здолеў скарыць гордую Саксонію, – пачціві ў, як казалі, свайго любімца Генрых. – Не даў вольніцы двум новым еўрапейскім светам і сілам: па заходніх, акіянскіх, марскіх берагах і рэках дзёрзкім вікінгам ды ўсходняму, па сушы славянскаму нашэсцю. Адважныя, удалыя на вялікай вадзе вікінгі (па-вашаму, варагі ці нурманы) яшчэ да яго прыплывалі са Сканіі, урываліся і, калі ўдавалася, нападалі на тамашнія паселішчы і храмы, хапалі дабро і сыходзілі. Што да славян, то ў свой час грэкі і рымляне толькі збольшага ўпамянулі пра іх ды называлі па-рознаму. Як лічылі асобныя знаўцы даўніны, славяне невядома калі прыйшлі аднекуль з Азіі, аселі каля Карпат, Дуная і Віслы мо на паўтысячу гадоў. Далей на заможныя поўдзень і захад іх не пусцілі рымляне (пазней візантыйцы), кельты ды германцы. На поўнач, да Дняпра і Прыпяці – готы. Потым усё перамяшалася і змянілася, калі на апошніх націснулі прышлыя гуны (у далёкай Азіі былі вялікія пустыні і паўпустыні. Калі зацягвалася суш, яны большалі, а значыць, пашы для вялікіх статкаў меншала. То качэўнікі, як тады казалі, “ішлі ўслед за травою”. Часам, калі чулі пра багатыя не толькі ёю чужыя краі, – за тысячы вёрст). Славяне, здаецца, паспадзяваліся на падмогу гунаў супраць готаў. Але не выйшла: гуны тых перамаглі, ацалелых змусілі пакінуць абжыты край, а самі найперш дбалі пра сваё. Пра грабеж багатай Рымскай імперыі. І пагрaбяць, але іх паб’юць у рымскай Галіі. Славяне скрануліся з наседжаных мясцін. Некаторыя падаліся шукаць шчасця на захадзе, іншыя – на поўдні. Паколькі яны не патрацілі шмат часу, вялікія сілы на свой зрух, то ўжо ў пяці- шасцісотых гадах застукалі дрэўкам дзіды ў блізкія вароты, сцены крэпасцей Візантыі, германцаў па Вісле, Одэры і Эльбе. А значыць, пра іх адразу ўведалі больш.

На захадзе недзе ў 620-х на землях кельтаў пачалі адзяржаўлівацца маравы. У IX–X стагоддзях сталася рознапляменная Вялікая Маравія. Да слова, адтуль вашы асветнікі, тварцы пісьма царкоўнага Кірыл і Мяфодзій. Вялікамараўская дзяржава не ўстояла. Яе збілі з ног, укарацілі прагныя да новых зямель угры. З непаваяваных асобна вылучыліся чэхі

і павялі ўпартае змаганне за сваё і суседскае з германцамі і вісленскімі палянамі (як многія лічаць і цяпер, у славянаў, уграў паняцце "сваё" на першым часе было вельмі ўмоўнае. Куды прыйшоў, прыпыніўся – там і "маё". Таму і завязаліся асаблівыя вузлы славянскіх спрэчак, што не толькі не заціхлі, але яшчэ і больш разгарэліся). На поўдні, у былой Фракіі, заявілі пра сябе балгары (помесь прышлых з Волгі і тубыльцаў). Яны скарысталіся тым, што суседняя Візантыя доўга ваявала з персамі, мусіла адбівацца ад настойлівых арабаў. Каля 680 года балгары з'ядналіся ў ханства (царства). Гэтае суседства выйшла надоўга і, ясна, было не мірнае. З частымі войнамі. Балгары не толькі ўтрымаліся, але і пацяснілі аслабелую суседку за Дунай на поўдзень. Нават змушалі яе не толькі прасіці міру, але і плаціці ім даніну. Праўда, пазней і прайгравалі бітвы (балгарам моцна падставіў нагу кіеўскі Святаслаў: дапамагаў Візантыі скарацць балгараў з хітрай задумай. Каб урэшце самому прыгарнуць іхні цёплы, багаты край і нават перанесці туды сталіцу Русі). Асабліва цяжка балгары пацярпелі ў 1014-м, калі іх візантыйцы не толькі разбілі, але і асляпілі каля 15 000 іхніх вояў і надоўга накінулі ярмо. Праўда, балгары выцерпелі, здолелі скінуць яго. Цяпер, як ведаеце, у іх другое Балгарскае царства. У візантыйскіх Македоніі, Грэцыі, іншых мясцінах у IX стагоддзі адзяржавіліся харваты, пазней – сербы (гэтыя славяне перамяшаліся з ілірыйцамі). У 896-м пасярод тамашніх славян на Дунаі і каля Карпат моцна ўкліniліся прышлыя з Волгі угры (венгры). Пазней яны заваююць некаторыя славянскія плямёны (славакаў, харватаў), пойдуць на захад, дзе іх спыняць. Паволі ішлі да сваёй дзяржавы паляне вісленскія. Мо найперш яны выцеснілі раней аселых там славян – венедаў, радзімічаў і вяцічаў, змусілі тых пайсці на Усход. Асобныя славянскія плямёны так і не адзяржавіліся.

Але, чынная грамада, вернемся ў час Карла Магнуса Ён не мог не затрывожыцца ад славянскага нашэсця: славяне былі шматлюдныя, дужыя і вынослівыя, ваявалі з рознымі хітрыкамі. І паблізу, і па Дунаі ў розных мясцінах ён стараўся стрымаць іх і дзеля гэтага ўчыніў на іхнія станы не адзін паход. Як казаў ужо, славяне змешваліся з тубыльцамі і пачалі ўсё болей розніцца. Асабліва паўднёвыя. Дый заходнія, чэхі. З вамі, чые продкі мо таксама з VI веку падаліся ў незнаёмую і, як выйшла, у даўжэзную дарогу на паўночны ўсход – па Дняпры, Бугу, за Прыпяць, да Сажа і Акі, Дзвіны, Волхава – пры Карле і нейкі час пасля яго, лічу, не было блізкага знаёмства. Вашы прадзеды не пакінулі запісу пра сваю даўніну, свае ходы-пераходы. Я так і не ўведаў, каго яны абыходзілі, з кім сустракаліся, з кім ужываліся мірна, каго цяснілі, як дайшлі да цяпер вядомых плямён, што жылі па рэках і азёрах, блізкіх да Варажскага мора, і пры ім. Ад запісаных грэкамі чутых паданняў і застаюцца легенды, рымскія знаўцы заваяваных зямель амаль не выдзелілі іх (толькі германскіх суседзяў венедаў). Візантыйцы, арабы зазначылі больш (купцы, а таксама візантыйскія імператары Леў VI, каго пад канец 800-х ушчэнт разбілі балгары, і з 913-га Канстанцін VII), вікінгі ў сваіх сагах. Звычайна дапытлівыя германскія храністы запісалі пра ўсходніх славян мімаходзь і не зусім выразна.

І яшчэ – дзіва, што было рэдкае. У Ноўгарадзе мне пацвердзілі: іхняя галіна славянства паклікала навесці ў іх лад Рурыка "з-за мора". З паўзагадкавага племені русаў (ваяры, наёмнікі нават у далёкай Візантыі ды іншых краях, шмат адкуль прагнаныя). З якіх мясцін быў той Рурык,

цяпер ужо пра тое забыліся. Але тады хутка ўбачылі: зусім не паслушлівы, самаўпраўны. Захацелі прагнаць. Ды не тут тое было. Не толькі не сышоў, але нават расправіўся з незадаволенымі. Разгарнуўся яшчэ больш: адправіў сталага пляменніка Хельгі (Алега) і юнага сына Інгвара (Ігара) у Кіеў. І, як сказалі мне, недзе каля 862-га той Алег забіў тамтэйшых князёў і пачаў правіці. Пераможцы сваё ўладанне назвалі на свой лад – Руссю. Адбіліся ад хазараў і перасталі плаціці тым даніну. Перахапілі яе ад суседзяў. Завялі войны з Візантыяй. Ігар замацаваўся, акараніў княскі род. Яго сын, Рурыкаў унук Святаслаў усяго сябе пасвяціў новым заваёвам дзеля ваеннай перамогі ды промыслу ад яе. Ладам на захопленых землях займалася яго, як гаварылі, гаспадарлівая маці-ўдава. А потым Русь моцнай рукой і вялікай крывёю з помаччу дружын са Сканіі і Ноўгарада больш адзяржавіў, абславяніў яе верх унук Уладзімір. Дзеля гэтага знішчыў незгаворлівы Палацеск, пайшоў на братазабойства.

Чынная грамада, перад адной з першых паездак у Палацеск мне давялося пагартаць “Дзеі данаў” Саксона Граматыка (ён жыў амаль паўвека таму). Хацеў уведаць даўніну і данаў (датчанаў), і ўсёй Сканіі, вікінгаў, іхнія першыя повязі са славянамі яшчэ да Рурыка. Уявіць гэта няпроста: даследца многа чаго называў за сотні гадоў, але не пазначыў, адкуль гэта спазнаў. То часам чытаеш напісанае ім як людскую показку пра сваіх удальцоў, пра іхнюю побыўку, перамогі ў незвычайных мясцінах з людам незвычайным, пра дзеі чараўнічыя. Праўда, бывае, у пазнейшым часе пракідваюцца і апісанні ўжо не толькі ўяўныя, былінныя. Скажам, пра тое, што данскі кароль Фрода І скарыў не толькі блізкіх суседзяў. Яму паддалася і больш далёкая *Paltiska* (Палацеск). Толькі невядома, калі тое выйшла. І ці надоўга. Бо пазнейшы дан-герой, Рагнар Лодбрак, ужо ў часы Карла Вялікага, таксама ўчыняў свае подзвігі па Заходняй Дзвіне. Значыць, даны валодалі людам па гэтай рацэ нядоўга, калі прыходзілася сюды прыходзіць і прыходзіць. Але для Палацеска важней іншае: ён быў ужо і пры Карле Вялікім (памёр у 814-м), яшчэ да ўкняжання Рурыка. Але ці абладжвалі яго пазней русы? Праўда, як гаварылі мне многія, палацескі князь Рагвалод таксама быў “з-за мора”, нейкі Рагнар або Рагнальд.

У Палацеску знаўцы даўніны толькі пасміхнуліся. Рурык у 862-м аніяк не мог прыслаць да іх Рагвалода: тады мо яшчэ не было на свеце і Рагвалодавага бацькі. Прыслаў іншага? Каго? Пра Рагвалодавага бацьку таксама нічога невядома. Толькі захавалася цьмянае паданне, што маці-ўдава (здаецца, Прадслава) паклікала сыноў, Рагвалода і Тура, з іхняга паходу ў зямлю палабаў, дзе тыя памагалі супрацьстаяць германцам. Рагвалод князіў у Палацеску ўжо ў часы Рурыкавага ўнука Святаслава і праўнукаў Яраполка ды Уладзіміра. “Крывічы – палачане, смаляне, плескаўцы, ізборцы – здаўна жылі сваёй Крэ(ы)віяй са стальцом у Палацеску, – яшчэ пачуў я там. – Правіці чужаземцаў не клікалі. Наадварот, адбіваліся ад іх. Але тыя і ў час Рурыка, і асабліва Алега стараліся пасеяць замятню, перасварыць крывічоў. І разарвалі Крэ(ы)вію на кавалкі. Ізборск, Плескаў, а пазней і Смаленск захапіла Русь, а Палацеск стаўся стальцом вольнай Палацескай зямлі”. Калі “здаўна” зачалася тая Крэ(ы)вія, хто і калі правіў ёю, не ведамна. Як і пра некаляшніх данаў-заваёўнікаў. Мо яны і сапраўды наскоквалі, моцна білі тых крэўцаў, але слядоў іхніх тут амаль няма. Мо толькі яны ад купцоў ці вернікаў.

(М. Карамзін у “Истории...” пра час прыходу Рурыка ў Ноўгарад: “Смоленск, населенный также кривичами, и самый Полоцк оставались еще независимыми и не имели участия в призвании варягов”. Значыць, не былі ў Русі, а самі па сабе. – *ГД.*).

– У Палацеску я яшчэ пачуў: там адбіліся ад Алега. З Ігарам жылі дружна, хадзілі з ім на Візантыю і мелі ад яе даніну. Са Святаславам таксама быў мір. Хацелі парадніцца з яго сынам Яраполкам праз шлюб таго з Рагвалодавай Рагнедай. Ды мір парушыў Уладзімір... Пакольки пра гэта запісана, то ў Палацеску многія ведаюць сваю даўніну, род сваіх князёў з часу лютай загубы Рагвалода з сынамі, з часу пакут Рагнеды – жонкі-нявольніцы кіеўскага Уладзіміра, яе старэйшага сына Ізяслава, каго бацька паслаў ужо ў новазакладзены Палацеск і па-хрысціянску міласэрна дазволіў таму дабудоўваць сталец адноўленага княства, вярнуць у ім княжацкі род “па кудзелі” – матчынай повязі.

Палацескія любіцелі даўніны і ўразілі мяне тым, чаго я зусім не ведаў. Адзін летапісец (а летапіс там вядзецца з часоў Ізяслава, названага “кніжнікам”; запісы перапыняў, а то і многае спаліў скарыцель Палацеска Яраславаў сын Ізяслаў) усё ж падказалі пра тутэйшы след... данаў. Ён застаўся ў памяці з таго часу, калі Яраслаў Уладзіміравіч у трэцяй вайне са Святаполкам сіламі наўгародцаў і свеяў перахапіў у таго вялікакняскі пасад у Кіеве. Тады пераможац паклікаў у суправіцелі сына старэйшага брата. Палацескага Брачыслава. Гэта быў, падказалі мне, поклік не па любві, а па разліку. Каб прымірыць даўніх праціўнікаў з часу яго бацькі, Палацеск і Кіеў. Каб Палацеск адтаў душой, адмовіўся ад помсты. І сам, па сваёй волі апынуўся ў чэраве яго дзяржавы. У гэты час амацнелы кароль данаў Кнуд І праслаў пасольства ў Кіеў з парадай пашлюбіць яго сястру Эстрэль і Брачыслава. Гэтую задуму мо падказала яму, як гаварылі, хітрая і злая маці Сігрыд, у дзявоцтве Свентаслава – сястра польскага Баляслава, значыць, цётка Святаполкавай жонкі. Параіла з хітрым і помсным ходам: раней Уладзімір Святаслававіч адабраў у яе брата памежныя, са змешанымі насельнікамі чэрвенскія гарады, яго сын Яраслаў у другой, прайгранай, вайне са Святаполкам ледзь паспеў выратавацца ад палону ўцёкам, але здолеў вывезці яе пляменніцу. Баляслаў паслаў ганцоў у Ноўгарад да Яраслава: вярні дачку. Іначай зняволю тваіх сясцёр – дачок Уладзіміра і Рагнеды. Яраслаў не паслухаў чамусьці (мо яна была ўжо не жывая?). Баляслаў скарыў для зяця Кіеў, вярнуў чэрвенскія гарады (іх потым Яраслаў адбярэ з братам-суправіцелем Мсціславам), захапіў Бярэсце і звёз маладых нявольніц. Старэйшую, Прадславу, як і маці, красуню, змусіў да грахаводнага ложа. Калі яго, хрысціяніна, пачалі папікаць за распусту, то ён адпусціў сясцёр. І з початам: Прадславу – жонкай чэшскаму князю (яна пажыве нядоўга), малодшую Прамiславу – жонкай брата ўгорскага караля (пазней яе старэйшы сын, жанаты са стрыечнай сястрой, Яраслававай дачкою, стане каралём, але загіне ад братавай рукі). Дык вось Свентаслава-Сігрыд невыпадкова хацела мець у Кіеве сваю дачку. Яраслаў згадзіўся. Было пачэсна пасямеіцца з такім вядомым уладаром. Але калі ён адчуў узрослую сілу пакуль што нічым не заплямленага пляменніка, то рашыў пазбавіцца ад яго. Да свайго гонару не паўтарыў бацькавага злачынства, не знішчыў суперніка, а вярнуў у Палацеск. А Палацескай зямлі – волю вольную. Праўда, як запісаў летапісец, пабіў тады, калі той дзёрзска захапіў Ноўгарад і парабаваў яго. Але аддаў яму некаторыя скораныя бацькам гарады Палацескай зямлі.

(С. Салаўёў пільна заўважыў дваякасць такой Нестаравай версіі або пазнейшай устаўкі перапісчыкаў летапісу: Яраслаў разбіў Брачыслава і... узнагародзіў передачай Віцебска і Усвят. Рэдкі выпадак у гісторыі. Салаўёў меркаваў: той бітвы магло і не быць, пляменнік задаволіўся зваротам полацкіх земляў, вярнуў дзядзьку захоплены ў палон люд і яны разышліся мірна. Такое верагодна: сілы Брачыслававы ўзмацніліся ад таго, што да яго перайшоў Яраславаў палкаводзец-вараг з моцнай дружынай. Па-другое, Яраслава чакала блізкая вайна за вялікакняскі пасад ужо з малодшым братам Мсціславам – пераможцам не адной бітвы, то варта было не патраціць моц. Па-трэцяе, з земляком збегла ў Полацк і любімая Яраславам жонка Інгігерда-Ірына: яна кахала нарвежскага конунга, але мусіла пайсці замуж за Яраслава з-за яго нагавораў яе бацьку на жаніха. Тым больш, што Ірына была вернутая ў Кіеў, нарадзіла яшчэ не адно дзіця, а дзядзька і пляменнік да канца дзён сваіх жылі ў міры і разам прыструнілі Літву. Менавіта з іх згоды, рэдкай сярод Рурыкавічаў-Рагвалодавічаў, узышла зорка Навагародка. – *Г.Д.*).

– Засталося невядома, ці спаўняла ўнучка-данка нейкія бабуліны зламысныя наказы, – пацікнуў плячыма Генрых. – Але як палацеская княгіня пасля некалькіх нешчаслівых родаў падарыла любімаму мужу, усяму люду Палацескай зямлі княжыча. Усяслава. Ён не толькі доўга княжыў, многа пацярпеў, але і многа зрабіў, стаўся любімым, што рэдка бывае, і для нашчадзі. Як сказалі мне, з яго радні асабліва праславілася ўнучка Еўфрасіння. Перапісам царкоўных кніг, асветаю, летапісаннем, будоўляй манастыра, самаахвярным паломніцтвам у Святую зямлю. А заказаны ёю крыж, гавару шчыра, – узор мудрага мыслення і вялікага тварэння. Гэта – не толькі палацеская з'ява. І не толькі ўсяго праваслаўнага свету. Чуў я, што і ў вас, у дрыгавічоў, у Тураве, быў вялікі прапаведнік-рытар, пісьмасловец павучанняў і малітваў ды, на жаль, мне не ўдаецца займець хоць крыху чаго з напісанага ім. – Генрых павярнуўся, зірнуў на гасцей з Пінска і Турава, прыклаў руку да грудзіны. – Калі вы, людзі добрыя, паможаце мне ў гэтым, то буду вельмі рады і змагу чым вам аддзячыць.

І далей:

– Як лічу я, у Ноўгарад, Палацеск з германцаў першымі мо пачалі наведвацца купцы. З пранырлівымі вікінгамі – воямі і купцамі, хто зведаў водны доступ ад свайго мора да Канстанцінопаля (у адным паданні вікінгаў я вычытаў, што яны за некалькі месяцаў пераплылі "мора мораў", акіян і на самым Захадзе ўбачылі зямлю, дзе жывуць чырвонатварыя людзі. Тыя не ведаюць, што такое конь, павозка, плуг. Мо гэта і іхняя казка. Хоць раней у нас не ведалі, што на самым усходзе сонца жывуць жаўтатварыя насельнікі). Мо, як лічыцца, у старэйшы Кіеў аднымі з першых патрапілі германцы-місіянеры. Каб угаварыці вялікую княгіню Вольгу прыняць хрост ад Рыма. Але яна адмовіцца, як пазней і яе ўнук Уладзімір. Ён услед за бабуляй і старэйшым братам хрысціўся ад Візантыі, хоць з той ваявалі да яго і пазней яшчэ будуць ваяваці. Канстанцінопаль лічыў ахрышчаную ім Русь усяго толькі новай сваёй фемай (воласцю) і праз сваё святарства намагаўся дыктаваць сваю волю (вось чаму Уладзіміраў сын Яраслаў паставіў міттрапалітам Русі свайго святара, што раззлавала Канстанцінопаль. Пазней той верне сваё права назначаць там мітрапалітаў). А большыя повязі з германцамі маглі быць пазней. Як знайшоў я ў аднаго

храніста, германскі імператар Генрых II паклікаў толькі што названага вялікага кіеўскага князя Яраслава пайсці разам на польскага Баляслава. Той быў пагрозны для чэхаў, германцаў і Русі. Ды Яраслаў не скарыстаўся поклікам. І неўзабаве каля Буга быў разбіты Баляславам, уцёк толькі з двума-трыма жывымі дружыннікамі ў Ноўгарад, на нейкі час страціў і вялікакняжацкі пасад, і Кіеў...

Вы, усходнія славяне, спазналі візантыйскую веру, правіцелі – мо і павучанне названага Канстанціна VII, як правіці імперыяй. Але і гэта не прывяло да моцнай яе, па ўсходнеславянскім узоры, не ўратавала ад безлічы "дамашніх войнаў". Не адзін дзясятак гадоў Святаславава братняя нашчадзь падрывала свае сілы ў бітвах між сабой за Кіеў. Ноўгарад, Кіеў, а пазней Смаленск неаднойчы намагаліся скарыць Палацеск, а ён захопліваў Ноўгарад. Чарнігаў, Смаленск ішлі вайной на Кіеў. Усіх міжусобіц, як у вас кажуць, не пералічыш. Не раз – брат на брата, з поклікам ворагаў-полаўцаў... Русь, думаю, у нечым паўтарыла пуцявіны, скажам, таксама многаплямennай Франкскай дзяржавы. Але больш зведала яе горкую долю. Распад. Не столькі ад нашэсця варвараў, колькі ад сваёй няўладзіцы. А урэшце ад вайны паўночных князёў з Кіевам. Як ведама, заўсёды і ўсюды пераможац можа сваім воям аддаць на тры дні скораны горад на рабунак. Калі гэты горад чужы. А тут пераможцы аддалі на спусташэнне... сваю ж першую сталіцу! Каб яшчэ болей сваёй зрабіць новую, каб самім заверхаводзіць у ёй. Кіеў не мог скора акрыяць (ды на пачатку гэтага веку яго яшчэ знясіляць Чарнігаў і Смаленск), а новая сталіца, паўночны Уладзімір, набрацца сіл. І гэта памагло манголам узяць абедзве сталіцы, паставіць Русь на калені...

Я толькі што ўпамінаў пра распад Франкскай імперыі. Наступнікі Карла Магнуса не мелі ні сілы, ні славы яго, каб не дапусціці гэтага. Тое, што мацавала вялікую імперыю, пачало трэскацца. У 843-м тры ўнукі вялікага дзеда рашылі за лепшае не распальваць полымя вайны, а ціхамірна падзяліці імперыю. На тры кавалкі. На ўсходні, дзе сталася каралеўства з герцагстваў Баварыя, Саксонія, Цюрынгія, Швабія і іншыя. Тут яшчэ ў мінулым веку здольныя людзі пачалі тварыці прыўкраснае пісьменства не толькі па-лацінску, а і па-тамашняму, пачуліся паняцці "немец", "нямецкі". Тут паволі пачне ажываць Тацытаў назоў для ўсіх: Германія. Пасярод імперыі сама па сабе стане былая Галія і спакваля пачне называцца Францыяй. Для трэціх, італійцаў, сэрцавіны загінулай Рымскай аграмадзіны, будзе свой адметны шлях.

Франкская дзяржава адмірала паволі і з хваробамі. Скажам, у італійцаў адной суцэльнасці не выйшла, а спакваля пачалі набіраць моц гарады-дзяржавы (Венецыя, Генуя). У Францыі стала каля паўтара дзясятка паўдзяржавак на чале з герцагамі і графамі. Асобныя з іх былі багацей, а са сваёй дружынай і мацней за караля. Гэта дазваляла ім не слухацца яго, не плаціць у каралеўскую казну падаткаў і нават ісці вайной на суседа. Да ўсяго за палавіну французскіх земляў апынулася ў руках англійскіх нашчадкаў вікінга Вільгельма з Нармандыі – заваёўніка англа-саксаў і іншых плямёнаў брытыйскага вострава. Толькі ў мінулым стагоддзі французскія каралі пачалі пакрыху ўтаймоўваць правіцеляў асобных валасцей, змусіць іх дбаці пра ўсю Францыю. Гэта дазволіла ёй у гэтым веку вярнуць сабе Нармандыю і набраць сілу. Хоць, думаю, Англія ёй проста так не саступіць. Спачатку нялёгка ўсё складвалася і на германскіх

абшарах: тут таксама смялей пра сябе заявілі асобныя герцагствы і толькі іхнія правіцелі рашалі, каго выбраць каралём усіх паасобных зямель. Але тут у 911-м здолеў амацавацца кароль Конрад I. У 919-м саксонец Генрых I яшчэ болей набраў улады і дабіўся: новы кароль будзе не выбарны, а дынастычны (родавы). Ён падначаліў Швабію, герцагства з 500-х гадоў Баварыю, далучыў Латарынгію, пацясніў славянаў з Эльбы (па-іхняму, Лабы). З гэтай дынастыі Атон I аслабіў дацкага караля, адбіўся ад венграў. У 962-м паўтарыў подзвіг Карла Магнуса, увайшоў у Рым. Там папа каранаваў яго не толькі як германскага караля, а імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі – нашчадкам імператараў Рымскай і Франкскай імперый. Яго наступнік з 973-га, Атон II, хацеў падначаліць і поўдзень італійскага вострава, але гэта зрабіць не дазволілі арабы. Атон III тое-сёе саступіў славянам. Ды імперыя вось ужо хутка 300 гадоў, як ёй няпроста, стаіць моцна, мае апеку над многімі народамі, Над некаторымі славянскімі таксама (чэхі і палякі, бодрычы, люцічы, палабы), а ім дае нямала волі. У ёй справядлівы лад: асобныя адрозныя землі маюць свой ландтаг – урад, а дзеі ўсёй імперыі вызначаюцца ў вышэйшым рэйхстагу.

Усяслаў ледзь стрымаўся, каб не ўсміхнуцца і крутнуць галавою ад пачутага пра “немалую волю”. Яе мо больш маюць толькі чэхі: з імі, хто можа даць моцны адпор, прыходзіцца лічыцца. Усяслаў усміхнуўся б яшчэ выразней, каб ведаў, што папа Іаан XII перш чым пад змусам, дрыготкімі рукамі ўсклаcці на радаснага Атона I такую велічную карону, прасіў-маліў венграў, Візантыю, нават арабаў пайсці вайной на пасягальніка на рымскую вялікасць (Атон уключаў больш чым 200-гадовую папскую дзяржаву ў складнікі сваёй імперыі). Ён, Усяслаў, толькі нямала (зноў жа ад навагародскага епіскапа) чуў пра пазнейшыя пастаянныя звады амаль кожнага імператара і папы за першынство. Асабліва ўпарта не згаджаўся ва ўсім паддавацца папу нядаўні імператар Фрыдрых II. Наватісці на манголаў. Добра ведаў: наскокам тых не возьмеш. А вось на сябе вялікае ліха наклічаш. То, як і французскі кароль Людовік, абмяжоўваўся перапіскай з мангольскімі ханамі. Прамоўца, зразумела, будзе гэтае замоўчваць.

– Я, чынная грамада, мог бы яшчэ многа расказаць пра тое, што ест у Заходняй Еўропе, а ў вас яшчэ няма, – гаварыў Генрых. – Пра тое, што сельнікі раскарчавалі многа лесу, завялі тры палі. На адным увосень сеюць азіміну, на другім – вясной ярыну, трэцяе пакідаецца набірацца сокаў. Гэта спрыяе намнога больш браць, чым пасеена. Ды болей мець жывёлы рознай. Калі ў вас яшчэ і цяпер многія гарады драўляныя, могуць ад неасцярожнай “окаянной бабы” за міг выгараць, як у свой час Кіеў, то там у гарадах мураваныя не толькі сабор, ратуша-праўленне, гандлёвыя дамы, але і многае з жытла. Можна гаварыць ды гаварыць пра новыя, раней невядомыя прылады, рамёствы і цэхі (саюзы) у іх. Пра вольныя гарады, як у нечым падобны Ноўгарад на Волхаве, самакіраванне і купецтва ў ім, пра ярмаркі, кірмашы, па-вашаму. Пра мянялаў манетаў і багатых на іх, ад чаго яны могуць з лішку пазычыць, а потым вярнуць гэта з надбаўкаю. Пра прыўкраснае пісьменства, пра слаўных рыцараў ці пра ўсюды вечнае – любоў мужчыны і жанчыны... Ды трэба запыняцца. Толькі дадам яшчэ пра тое, пра што асабліва прасілі сказаці Міндог і Усяслаў, нашы вялікі магістр і біскупы. Пра воінства Хрыстовае.

Як ужо чулі, у свой час багатая і моцная Візантыя на ўсім гатовым не ўсё заваяванае Рымам утрымала, саступіла не адну рымскую, як тады

гаварылі, правінцыю бедным качэўнікам-арабам і страціла Святую зямлю для хрысціян. Пазней яе прыбралі да рук прышлыя туркі-сельджукі. Яны таксама глуміліся над хрысціянамі. Наскок Візантыі абараніць святыні быў адбіты. Каб усё ж ўратаваць іх, папа Урбан II у 1095-м папрасіў усіх католікаў сабрацца і пайсці ў Іерусалім. На "сарацынаў" (так, "дзецьмі Сары", у Еўропе назвалі мусульман). Яго паслухалі. Мноства простага люду (некаторыя з сем'ямі) нашылі чырвоны крыж і ўверх па цёку Рэйна падаліся ў незнаёмыя краі. Перапытвалі, дзе той Іерусалім, цярпелі нястачы і голад, паміралі па дарозе, але ўсё ж многія дайшлі да Канстанцінопаля. Візантыйскі імператар не падмог ім, хуценька выправадзіў у Малую Азію. Іх, аслабелых яшчэ і ад гарачыні, з чым папала ў руках, няўмелых да бою, у першай жа бітве перабілі добра навучаныя і ўзброеныя сельджукі. Рыцары ў Заходняй Еўропе (а яны не ў ваенны час сумавалі ці ладзілі вялікія турніры – паўбаявыя навучальныя гульні) запеpажывалі, што было страчана столькі землякоў-работнікаў. Яны сабраліся і на чале з сеньёрамі рушылі ў далёкі паход. Хоць падаваліся і на конях ды не з пустымі скрыніцамі, але таксама за доўгі шлях не ўсе дабраліся да Іерусаліма. Ацалелыя ў 1099-м змаглі штурмам узяці яго, паквіталіся з ганіцелямі хрысціян і загубцамі іхніх святыняў. Па ўзбярэжжы Сірыі і Палесціны паставілі свае апоры з Іерусалімскім і іншымі каралеўствамі. Скораныя насельнікі павінны былі плаціці яму падаткі (дзесяціна папе). Мусульмане, зразумела, не цярпелі гэта. Ужо скора, замірыўшыся, злучыліся ў моцную дзяржаву на чале з правіцелем Егіпта Саладзінам і адваявалі Іерусалім. Канстанцінопальскія імператар, патрыярх, епіскапы не вельмі памагалі вызваліць святыні і яшчэ ў двух паходах рыцараў (другі загібельны; трэці ўзначальвалі самі каралі Францыі, Англіі ды Германіі. Але ў самую лёсаносную часіну французскі, пасварыўшыся з англійскім, пакінуў поле бою. Іерусалім застаўся ў руках Саладзіна). Да ўсяго і ў Візантыі рыцараў прызналі найперш як захопнікаў чужых земляў і дабра, прыпісалі ім такія жудасці, якія яны і не ўчынялі. Яе не магла не чакаць за гэта кара: лёгка абы-што нагаворваць, цяжэй дзеяю абараніці святое. У 1204-м – чацвёрты паход. Пакрыўджанае воінства Хрыстовае само рашыла правучыць тую, хто лічыць сябе самай праведнай у хрысціянстве.

"Не так усё проста, – мог уставіць сваё слова і Усяслаў. Сустракаючыся і гутарачы з тымі, хто пабываў у Царградзе, князь Ізяслаў расказваў яму пра той, чацвёрты, крыжацкі паход. – Тады рыцары падаліся з Венецыі. І не выпадкова венецыянскія дож, купцы памаглі ім пабудаваць судны, далі ў дарогу прыпасы розныя. Венецыя багацела найперш праз водныя шляхі гандлем. Ёй карцела пазбавіці Царград таго, каб ён заставаўся гандлёвай перавалкаю на чатыры бакі свету. Вось і трэ было перахапіць тую перавалку. А ўзяць яе ў свае рукі можна было толькі ў слабога. І яшчэ была гаворка, што рыцары абабралі канстанцінопальскі Сафійскі сабор, многае аддалі за даўгі венецыянцам".

– Рыцары ўзялі Канстанцінопаль і зрабілі яго сталіцай сваёй Лацінскай імперыі, – па-свойму ацаніў тое Генрых. – За 800 з палавінаю гадоў Візантыя не толькі з неабдымных прастораў звузілася да кавалка зямлі ў Грэцыі, але падышла да краху як дзяржава. – А затым агаварыўся: – Праўда, са спасціжэннем сакрэту вырабу шоўку і пякельнага агню нават на вадзе супроць суднаў, з набыткамі ў дойлідстве, прыўкраснай пісьменнасці і іншым... У Іерусаліме рыцары для абароны святынь заснавалі ордэн (саюз)

ianітаў (ад імя святога Іана). Выхадцы з германскіх зямель не давяралі ў ім усім і злучыліся ў свой ордэн і назвалі яго Тэўтонскім. У гонар тэўтонаў – аднаго са старэйшага германскага племені. Ды мусульмане выцеснілі іх. Яны вярнуліся дамоў. Імператар Фрыдрых II запаважаў іхнюю глыбокую хрысціянскую веру, самаахвярнасць дзеля яе (яны адмаўляліся нават ад сям'і) і ў згодзе з папам папрасіў іх панесці святло веры, слова Божае ў язычніцкую цемру, што ахутвала многія плямёны каля, як вы кажаце, Варажскага мора.

"У згодзе", "папрасіў", "святло веры, слова Божае" – пра гэтае, іншае можна гаварыць і іначай. Але, зразумела, Генрых іначыцца не будзе.

– Я, грамада, каля паўвека ўжо маю гонар спрыяць гэтаму, – прыклаў руку да грудзіны прамовец. – Бачу, як хрысціянскае святло ад носьбіта двух, а затым злучаных у адзін ордэнаў то ярка свеціць, то як яго тушаць. Зразумела, цёмныя язычнікі не могуць многае зразумець і лёгка адмовіцца ад старых забабонаў. То паднялі на рыцараў-манахаў дубіны. Змусілі абараняцца не толькі словам, але і мячом. З хрысціянскімі суседзямі язычнікаў спачатку ўдалося паразумецца. Як з католікам Конрадам Мазавецкім пра ахрышчэнне прусаў, так і з праваслаўным палацескім князем Вальдэмарам на ахрышчэнне ліваў, латгалаў, куронаў і іншых. Ды...

Генрых павярнуў галаву на Усяслава. Было ясна, што той хоча сказаць. Пра бітву 1238-га пад Дарагічынам злучаных сілаў Данілы Галіцкага, Ізяслава, Міндоўга з Конрадам Мазавецкім і імі, рыцарамі. Там быў і ён, Усяслаў. Як і ў бітве 1245-га з венграмі, Данілавым пляменнікам, палякамі, рыцарамі пры Карпатах. Але Усяслаў нават не міргнуў на гэтае куслівае "ды". Што было, то было. Паказалі, што могуць даць адпор.

– Потым, на жаль, паразуменне тое з Палацескам парушылася, – Генрых зноў перавёў позірк на натоўп. – Ён ухіліўся спрыяць місіянерскай Рызе, пачаў заступацца за язычнікаў. Яго рашылі пакараць за здраду хрысцінскай місіі. Адабралі ад яго язычніцкія ўладанні ў Латгаліі. А калі ён паасцярогся новай вайны са Смаленскам, то згадзіўся, каб смаленскі князь ад яго імя, а таксама Віцьпеска, падпісаў з Рыгай і Готландам мірную гандлёвую дамову. Смаленск вельмі яе жадаў і хацеў заручыцца, што Віцьпеск і Палацеск не стануць замінаць у яго гандлі. Я – сведка таго. Разам з пасламі, папом Ерамеем і купцом Панцялеем складалі Дагавор па-славянску.

(Тую Дамову 1229 года называюць "Смаленскай Праўдай". М. Карамзін у сваёй "Гісторыі" змясціў урывак з яе, у каментарыях – цалкам. Па значнасці прыроўніваў гэты дакумент да "Рускай Праўды" Я. Мудрага і лічыў дасягненнем Расіі, хоць тады такой дзяржавы яшчэ не было. Гісторык высока ацаніў у "Смаленскай Праўдзе" ўзровень прававаой, судовай культуры, распісаную грашовую сістэму пры выплаце розных штрафаў. Частка "Смаленскай Праўды" змешчана ў "Анталогіі даўняй беларускай літаратуры" (Мн., 2003). Яна цікавая для філолагаў: сярод агульнапрынятай царкоўна-славянскай мовы выяўляе многія адзнакі тагачаснай жывой народнай, сённяшняй беларускай. – *Г.Д.*).

– Супроць Конрада Мазавецкага і нас пайшоў Даніла з Галіча, – нібы паскардзіўся прамоўца. – На жаль, да яго далучыліся і Навагародак з Літвою. Сярод вас яшчэ ест жывыя, хто падняў меч або кап'ё, лук на воінства Хрыстовае, нанёс яму цяжкі ўдар... Да Рыгі хінуўся Плескаў (Пскоў), з яго князем біскуп Альберт нават парадніўся. Але Плескаў асадзіў вялікі князь уладзімірскі Аляксандр – люты вораг воінства Хрыстовага.

Я, грамада, быў з тымі кардыналамі, хто ездзіў да палацескага Брачыслава і да бацькі Аляксандра Яраслава, каб угаварыць іх прыняць хрост і апеку ад Рыма на іхняе каралеўства. Было б пачэсна, каб адны са старэйшых гарадоў славян усходніх Палацеск і Ноўгарад уліліся ў каталіцкі свет. Скажам пра вашага бліжэйшага суседа. Цяпер у Заходняй Еўропе сярэдні горад мае 5 – 6 тысяч насельнікаў, а ў Палацеску, мо равесніку германскага Гамбурга, сказалі мне, 8 тысяч. Мне спадабаўся: пры зручнай рацэ, што мае доступ да мора, прасторны (з прыгарадам мог мець каля 80 га. – *ГД.*), зялёны. Як многа дзе ў Еўропе, не льюць бруд з кожных варот. Вулкі маставыя, з канаўкамі для адводу вады пасля дажджу. Нямала пісьменнага, у многім здольнага люду. Рамеснікаў розных, купцоў. Зразумела, Палацеск не мае той казны, сілы, што меў у часы Брачыслава І і яго сына Усяслава, звузіўся, доўга адбіваўся ад Кіева і яго памагатых, Смаленска. Страціў Латгалію. Але пры добрых пераменах, у саюзе з намі мог бы абнавіцца, удыхнуць новае ва ўсю Палацескую зямлю з яе даўнім духам дзяржаўнасці.

Генрых развёў рукі, нібы пашкадаваў:

– Але Брачыслаў ІІ і яго баяры не ўразумелі свайго новага шанцу. А то і ўпусцілі яго. Не адолелі злосць на Рыгу, убачылі ад яе толькі небяспеку. Зацяліся ў сваім кутку.

“У саюзе з вамі, – мільганула ва Усяслававай свядомасці, – Палацеск не ўпусціў бы нас”.

– Яраслаў, калі пачуў пра задуманы папам паход супроць манголаў, папрасіў час на роздум. Не ведаю: потым расказаў ён ці не манголам пра гэта. Але па звароце ад іх памёр. Быў я пазалетась і ва Уладзіміры на размове з яго сынамі. Малодшы, Андрэй, як і бацька, зацікавіўся, захацеў перамовіцца з палякамі і свеямі (шведамі). Аляксандр прыняў нас ветліва, але холадна. Яшчэ да нашага прыезду найперш супроць нас пасаюзіўся з Палацескам праз шлюб з Брачыслававай дачкою, удала выйграў бітву з намі на Чудскім возеры. Там было мала воінства Хрыстовага. Усяго некалькі дзясяткаў рыцараў. А нашы саюзнікі ліві баязліва збеглі з поля бою. Пасля сутычак з намі Аляксандр, як кажуць, перадаў Батыю, што яго брат Андрэй перамаўляецца са стрыечнікам і цесцем Данілам з Галіча, каб пайсці на Залатую Арду. Батый паклікаў да сябе Данілу і ўчыніў таму строгі допыт. Даніла пакляўся ў вернасці. Андрэй паводзіўся дзёрзка, за што Батый летась наслаў на яго свае тумены, што ўчынілі страшны разгром яшчэ неакрыялай Русі. Аляксандр сказаў нам, што ваяваці з Батыем не будзе. Ён прызнаў таго за бацьку, а яго сына-хрысціяніна – за брата. Такое, як ён лічыць, прынесла Русі мір і саюз з ардынцамі, права на свой лад і на сваю веру. На Русь. А гэта, кажа ён, даражэй за ўсякія вялікія падаці. Мы адчулі: Аляксандр можа прынесці ў ахвяру і вольны Ноўгарад. Гэта значыць – згодзіцца, каб Батыевы пасланцы перапісалі наўгародцаў і вызначылі для іх памер даніны. Мы перасцераглі наўгародцаў. Многія там прызналі Аляксандра мангольскім паслугачом і выгналі яго са свайго горада. Ды, няма сумнення, Аляксандр вернецца туды. Але ўжо з... мангольскай сілаю. Даніла з Галіча рашыў услед за Міндоўгам прыняць хрост ад Рыма і каранавацца.

“Але са сваёй вымогай, – мог дадаць Усяслаў. – Каб наладзіць каранацыю не ў Галічы, дзе люд мог быць незадаволены. А іменна ў падляшскім Дарагічыне, дзе мы паўтара дзясятка летаў таму пабілі крыжакоў. Гэта – не проста напамін Рызе і папу. Гэта – знак-выклік...”.

– Чынная грамада! – жвавасць не пакідала захопленага Генрыха. – Я не хачу пакрыўдзіці вас. Але мушу сказаці: пра ваш Навагародак-Ноўгарадак-Наваградак, апроч Рыгі і папы з кардыналамі, нашага імператара, мала хто ведае. Блытаюць з Ноўгарадам на Волхаве і здзіўляюцца: няўжо буйны і наравісты паўночны праваслаўны горад пагадзіўся на новы хрост? А хто будзе каралём? Міндоўг з Літовіі?

Але вы не павінны пераЖываць, што цяпер пра вас чулі толькі крыху болей за яшчэ адзін Ноўгарад (Северскі) каля Чарнігава ці за Ноўгарад на зямлі эстаў. Як казаў, Рым пачынаўся з трысняговай хаціны і спачатку пра яго чулі толькі блізкія суседзі. А вы пабылі ўжо стальцом княства, не адзін раз адстаялі сябе ў войнах з моцным праціўнікам. Цяпер праявілі розум і развагу, каб першымі з усходніх славян стаць каралеўствам пад апекаю папы і імператара, воінства Хрыстовага. – Генрых прыклаў руку да грудзіны, пакланіўся. – Я віншую вас з гэтым і жадаю, каб вашы ясная галава, умелыя рукі паспрыялі вам дабіцца таго, чаго ўжо дамагліся іншыя, і каб вы сталі паўнацэннай дзяржавай у вялікай сям'і каталіцкіх краін. Я, чынная грамада, веру ў гэта. Дзякую, што вы ўважліва мяне слухалі. Мне хацелася хоць коратка расказаць вам пра тое, як і для чаго люд чалавечы ішоў да таго, што ёсць дзяржава. Што яе мацуе і аслабляе. За што трэба трымацца. Ідзіце наперад і шукайце-шукайце сябе і сваё! – Ускінуў рукі, зноў пачаў кланяцца. – Віват! Віват іменна вашаму Навагародку! А закончыць мне хочацца словамі, напісанымі напрыканцы мінулага стагоддзя вялікім германскім творцам прыўкраснага Гартманам фон Аўэ: “О, божа, пашкадуй нас і не пакінь. Пашлі нам сваю міласць. Амінь!”

Пасля схіліў галаву перад Міндоўгам і сваімі, павярнуўся да Усяслава, моцна абедзвюма рукамі пацісnуў, затрос яго руку:

– Я не доўга баяў?

– Слова – не верабей, – усміхнуўся Усяслаў. – Вылецела – не вернеш.

– А не многа я выпусціў гэтых вераб'ёў?

– Думаю, што не. Сам жа бачыў: слухалі. Не аднаму тваё западзе ў памяць. Мы ж тут такога і гэтулькі не ведаем.

Захоплены гаварун-знавец адышоўся. Усяслаў перавёў вочы на біскупа Альбрэхта: дзей сваё. Таксама пакінуў край памосту.

Строга-ўрачысты ў святочным бела-чырвоным, з пазалотай уборы Альбрэхт горда закрочыў на іхняе месца. Тут жа малады рыцар-манах паднёс да яго драўляную, з дошчачак, паходню. З аднаго і другога боку адхіліў ад яе па дзве нагі, узвысіў на іх у свой рост шыракаваты прамакутак, а пасля з яго налева і направа адклаў па яшчэ адным прамакутку на завесах. Тыя, хто быў перад памостам, убачылі на іх, абклееных шчыльным палатном, выявы блакітнага неба і белага крылатага анёла, цёмнафарбавай сумнай маці-багародзіцы і яе адухоўленага сына з паднятай праваю рукой са складзенымі верхнімі пальцамі, з зіхоткім кружком над галавой. Альбрэхт падняў уверх крыж:

– *Pater noster...*

Многія з люду зразумелі: гэта – пачатковыя словы малітвы “Ойча наш”. Не так даўно, калі Міндоўг хрысціўся на каталіка, шмат хто з сённяшняга гурту чуў такое ад Сільверта. Скончыўшы малітву, Альбрэхт перажагнаўся. Большасць у натоўпе асянілася па-свойму – “двуперстным сложением”. Двое Міндоўгавых слуг паднеслі шыракаваты згорнуты персідскі дыван, распрамілі. На яго сталі Міндоўг і Марта. Цяпер без

княскіх нагалоўнікаў і карзна, то як багатая сямейная пара не ў поўнай апратцы знатных людзей.

Альбрэхт (праз перакладача Генрыха) да Міндоўга:

– Па волі найсвяцейшага айца і гаспадара нашага Інакеніція IV маю гонар каранаваці цябе, яго сына, на караля новай каталіцкай дзяржавы.

Міндоўг – не проста засяроджаны, а з глыбокім цяжкаватым, нібы нярадасным позіркам, здаецца, з пабольшанымі маршчынамі на шырокім лобе і ў куточках звычайна жвавых вачэй – мо ў душы і неахвотна, але па мусовай патрэбе апусціўся на калені. Тое ж хацела зрабіць і паўнаватая, як і муж, таксама схільная да нечаканай перамены настрою, успышкі гневу і зараз быццам разгубленая Марта (а разгубіцца перад людам было ад чаго: у язычніцтве пэўны час жыла як Міндоўгава жонка пры яго жывой жонцы і сваім мужы, а потым, пасля нечаканай смерці Ганны, Міндоўгава сямейніца, ужо злучаная шлюбам у царкве), але яе, цяжарную, прытрымаў за локаць біскуп. Да іх вярнуўся рыцар-манах, прыкленчыў і падаў біскупу тоўсты фаліянт у чырвонай абкладанцы. Святое пісанне, напісанае палацінску. Той узяў, пацалаваў і паднёс да Міндоўга. І ён прыклаўся вуснамі да вокладкі, апусціў левую далонь на яе, а правую прыклаў да грудзіны:

– Клянуся Хрыстоваму заступніку яго вялебнасці Інакенцію IV шанаваці яго яка айца святога, бацьку-апекуна, пашыраці веру каталіцкую. Клянуся мір трымаці з воінствам Хрыстовым. Быці свайму люду бацькам, абаронцам нашага, Навагародска-Літоўскага, каралеўства. Быці ўважлівым, строгім да нораваў неправедных, але справядлівым, высока цаніці лад і дабрыню паміж людзей, цяжкую, алі патрэбную працу чалавечую, – прамовіў і перажагнаўся. Усімі складзенымі пальцамі.

Затым, пацалаваўшы Святое пісанне, падала голас Марта:

– Клянуся ва ўсім, у шчасці і бядзе, быці разам з мужам-каралём, з людам родным.

Да Альбрэхта падышло ўжо ажно чацвёра манахаў-рыцараў. Першыя два трымалі па невялікай драўлянай з разьбой і ружавата-чырвонага колеру круглаватай скрыніцы. Футаралы. Біскуп каля ўваткнутага ў першым жаўтаватага, хутчэй меднага ключа адшчапіў цёмную зашчапку, адкінуў вечка і дастаў круглую залатую, з зубцамі і самацветамі карону. Паказаў асвечаны папам дар усяму люду, а пасля ўсклаў яго на Міндоўгаву рыжую галаву. Гэтак жа другая карона апынулася на светла-залацістай Марцінай галаве. Па біскупавым знаку Міндоўг падняўся, трэці манах сам дастаў з доўгай сіняй суміцы пышнае пурпуровае, з фіялетавым адценнем доўгае карзно (мантыю) і накінуў Міндоўгу на плечы ў белай сарочыцы. Чацвёрты манах увабраў не менш шыкоўнай мантыяй Марту. Вярнуўся першы манах з новай невялікай суміцай, разтасёміў яе. Альбрэхт запусціў у сярэдзіну руку, дастаў з яе круглячок з зялёнага шкла ці з самацветнага каменя (сімвал зямлі), з крыжыкам паверсе, паклаў яго на працягнутую Міндоўгаву далонь. У другую руку падаў невялікі драўляны з мудрагелістай рэззю і з пазалотай посах (знак улады). Асяніў крыжам Міндоўга:

– Божай міласцю кароль Міндоўг I.

Пасля Марту:

– Божай міласцю каралева!

Тыя, хто быў на памосце, не ўбачылі і не пачулі, як воддаль, у людскім гурце знайшоўся стары жартаўнік-свавольнік з высокім кіем і, як усе, уважліва назіраючы за тым, што дзеецца на памосце, пагарэзаваў: “А ў

мяне большы посах, чым у караля". На яго па-гусінаму засіпелі, а сусед ткнуў локцем у бакавіну з хатылём (пазней навагародскі старшы віж раскажа пра гэта Усяславу, а ён параіць пра гэта змоўчаць).

Альбрэхт яшчэ раз памацаў рукой у торбіцы і знайшоў там яшчэ адну, невялічкую торбачку, а ў ёй – маленькі чорны круглы пудэлачак для Міндоўга. Пакольк ўжо каралеўскія рукі былі не вольныя, гаспадар іх азірнуўся і кіўнуў Усяславу: вазьмі.

Калі многія ведаць не ведалі, што гэта за штуковінка, то Усяслаў знаў: дзяржаўная пячатка. Яе яму яшчэ не паказвалі, але на ёй павінна было быць тое, што ў парадах і спрэчках "ізмыслілі" на Вялікай радзе з удзелам лівонцаў, знаўцаў еўрапейскіх гербаў: уверсе – каралеўская карона, па баках – два воі (з Навагародка і Літвы), пасярод, на баявой абарончай заслоне – выява конніка з узнятым мячом. У спрэчках лівонцы не зважалі на асобныя сімвалы, на колеры, але не жадалі бачыць ваяўнічасць. Ім уталкоўвалі: коннік зусім не грозны, не нясецца ў напад, у бой: ён на бягу асадзіў каня і кліча ўсіх на абарону Бацькаўшчыны, кінуцца ўпагон за грабежнікам. То – "Пагоня". Лівонцы пагадзіліся: "Pogonia".

(Гісторык, археолаг і калекцыянер Г. Татур (1846-1907) напрыканцы XIX ст. знайшоў у Навагрудскім павеце і захоўваў пячатку з выявай "Пагоні" і рунічным надпісам. Археолаг і этнограф І. Луцкевіч, гісторык і пісьменнік В. Ластоўскі, некаторыя літоўскія даследчыкі даўніны меркавалі: гэта – знак дзяржаўнасці Навагародка і Літвы ў адным каралеўстве яшчэ пры Міндоўгу. Здымак з пячаткі быў змешчаны Ластоўскім у кнізе "Кароткая гісторыя Беларусі" (1910), а таксама ў літоўскім друку, паказваўся ў Беларускім музеі ў Вільні. Як вядома, пазней з названых калекцыі, музея многае было прададзена ў прыватныя рукі, параскідана па ўстановах Літвы і Беларусі, вывезена за іх межы, дзе мо пыліцца ў запасніках, а то і страчана. Далейшы лёс той незвычайнай пячаткі невядомы. Як, скажам, і полацкага, турава-пінскага, смаленскага, іншых летапісаў, што былі ў руках гісторыка В. Тацішчава, выкарыстоўваліся ім, а пасля, па словах Ул. Чывіліхіна з яго кнігі "Память", "безвозвратно" зніклі... Як у савецкі час крыж Еўфрасінні Полацкай, як... Пералік страчанага, схаванага (знішчанага) доўгі... А што да надпісу на пячатцы, то некаторыя сучасныя беларускія гісторыкі лічаць: рунічнае пісьмо ў сваім варыянце ўжывалася на крывіцка-дрыгавіцкіх землях і Літвы ў дахрысціянскі час. Значыць, яно зазначала больш далёкую старажытнасць існавання гэтых краёў. – *Г.Д.*).

– *Pax vobiscum* (мір вам!) *In saecula saeculorum, amen!* (З веку ў век, амэн!) – перажагнаўся Альбрэхт.

– Святы ойча, – загаварыў Міндоўг, – перадай наш вялікі дзякуй, паклон найсвяцейшаму бацьку нашаму, заступніку Госпада на зямлі Інакенцію IV.

– Браты і сёстры па Хрысце! – Альбрэхт падняў крыж перад людскім гуртам. – Вітайце караля! Памазанніка Божага! Помніце і ўважайце наказ апостала Паўла: "Усякая душа ды павінуецца таму, хто ўладу мае! Няма ўлады, апроч як ад Бога. Той, хто пярэчыць уладзе, пярэчыць волі Божай". Будзьце верныя свайму каралю! Прысягайце! А ён няхай будзе хрысталюбівы, дабрадзейны!

Як і было дамоўлена, ахрышчаныя католікамі апусціліся на калені, а праваслаўныя, як і дагэтуль, пакляліся "двуперстно".

Каля Усяслава зноў апынуўся нядаўні рыжскі прамоўца:

– Значыць, ты, ваявода, будзеш і канцлер каралеўства. То можаш набыць тытул графа.

– Даволі мне і майго баярства ад бацькі, – непарушна адказаў ён.

Пакуль яны перакідваліся словам-другім, да Міндоўга з Мартаю падышоў выпрамлены, стараючыся здацца вышэйшым, абхінуты белай накідкаю з чырвоным крыжам, у бліскучым шоламе з буйнай пярынаю, з мечам на шырокай рамяніцы вялікі магістр Стукланд. Яго даўгаваты і з горбікам нос задзіраўся ўверх, у блакітнаватых вачах блукала ўсмешка. Нібы лагодная, зычлівая, але, як і ў Міндоўгавым хараме-палацы, адчувалася: за ёй хаваецца паблажлівасць таго, каму папа ды імператар параілі не дражніць, не ўцягваць у новую бітву грознага ўладара прынёманскіх тубыльцаў. А заадно мо хаваў перажыванне, што пазалетась падступаўся да гэтага Навагародка, але ярасны наскок не прынёс удачы: навагародская дружына, навучаная біцца з "жалезнымі людзьмі", яшчэ пры пераправе іх праз Нёман, не дала перайсці яго. Стукланд падаў знак запыніць сутычку мячоў. "Непаразуменне. Нам перадалі, што на нас ідзе Міндоўг. І цяпер з навагародцамі. Вось мы хацелі не дапусціць вас да Ліфляндыі". Зразумела, хітраваў: задалёка адышоўся ад Ліфляндыі. Чакаў, што за час перамоваў па ранейшай змове яму прыйдзе на помач Даніла Галіцкі. Але той уцягнуўся ў іншую валтузню і не заявіўся. Разышліся з невялікімі ахвярамі. Але ўвага Стукладна да Навагародка і Літвы не паменшала. І вось выйшла тое, што саспела. Цяпер за вялікім магістрам услед закрочыў яго зброяносец-дваранін (гэтая служба лічылася пачэснай і поспешнай), як і біскупавы людзі, несучы суміцу.

– Віват, ваша вялікасць кароль Міндоўг I, брат мой! – Стукланд прыпыніўся збоку, каб усе іх бачылі, злёгку схіліў галаву перад Міндоўгам (калі Альбрэхт прамовіў "Міндоўг I" непарушна, то гэты слова "Першы" кіславата, не без адмысловага націску). Як і Марце, былой гулёне: – Віват, ваша вялікасць каралева! Я маю гонар павітаць вас ад імя імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Конрада VI. Ён віншуе вас з вашай вялікай падзеяй, з уступленнем з падлеткавага ўзросту ў пару дзяржаўнай сталасці. Гэта – вялікі *das Vorschus* (аванс). *Ab heute* (з сённяшняга дня) на die Neuordnunq (новы лад). Адно, калі вы дагэтуль удала заявілі пра сябе ў спрыяльным для вас часе на ўсходнеславянскіх землях, і зусім інакае, калі вас прызнаюць здольнымі для новага, больш высокага дзяржаўнага ладу, бласлаўляюць папа, імператар, як казаў брат Генрых, 300-гадовай новай і, як мы лічым, вечнай імперыі. Мы ў Ліфляндыі шчыра падтрымалі і будзем спрыяць вам, каб ваша дзяржава сказала сваё адметнае слова, мацнела і квітнела вякамі ў моцным саюзе з намі. Я думаю: пазней, калі ў вас больш пераадолеюць недавер, між намі будуць больш цесныя повязі на ўзаемную карысць. Дзеля міру, Божага святла ва ўсёй Еўропе. Брат мой, мне прыемна перадаць вам падарункі ад імператара.

Служака дастаў з суміцы меч у срэбранай, хораша вырабленай похвіне са скураным шырокім пасам са срэбранай спражкаю. Стукланд узяў яго, у паднятых руках паказаў усяму людству. Затым крыху адсунуў меч з похвы (краёк сталі бліснуў пад сонцам) і запіхнуў на ранейшае месца.

– Брат мой, падымай гэты бласлаўлёны каралеўскі меч толькі на ворагаў і ніколі не на братоў-прыяцеляў!

Павярнуўся, апаясаў Міндоўгаву паясніцу рамяніцай, сашчапіў яе. А тады пунсовай ад хвалявання Марце:

– Ваша вялікасць, супружніца брата майго, маю гонар уручыць табе падарунак ад імператарскай сям"і.

Паднёс да яе пададзеную досыць пакоўную, з гарбаватым верхам, абгорнутую сінім, са срэбранай вышыўкаю аксамітам скрыніцу (там, як пазней стане вядома, з патаемным замочкам, пад меладычным вечкам былі залатыя і срэбраныя завушніцы, пярсцёнкі, каралі, каляровыя стужкі, фібулы, нажнічкі, розныя прысыпкі, мазі, фарбы ў пудэлках). Марту кранула такая вялікая ўвага. Ды ўсё роўна з ніякаватасцю злёгку скочыла на калені.

– Перадай, брат, брату нашаму, яго вялікасці імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі Конраду наш вялікі дзякуй, – зноў падаў голас Міндоўг

Як было загадзя абгаворана, за вялікім магістрам адразу ўжо Міндоўгавы слугі на памосце знялі накідку-радно з дагэтуль схаваных ад вачэй рэчаў. Там стаялі два дубовыя да бляску начышчаныя і нацёртыя воскам, з высокай спінкай, з залатым крыжыкам на вяршы, з падлакотнікамі і з аксамітавай абшыўкаю на сядзенні не проста крэслы. У кожным ножкі круглыя, хараша фігурыстыя, на спінцы па баках намаляваныя каласкі жыта з васількамі, пасярод на чырвоным полі срэбная, з блакітнай збруяй выява ўздыбленага каня са срэбраным воем з узнятым мячом і са шчытом, а на ім у блакіце – залаты крыж. Кожнае седала – каралеўскі трон. Выраб навагародскіх умельцаў. Цяпер яны не без хвалявання назіралі, як іхняе тварэнне выносіцца да краю памоста на дыван, як на іх апускаюцца кароль і каралева, каб крыху пазней садзіцца на іх ужо ў хараме-палацы і дапускаць да сябе пашанотных гасцей і тутэйшы знатны люд. Пры каралі на троне будзе аб'яўляцца яго новы, абавязковы для ўсіх Указ. Перамоўшчык па каранацыі Міндоўга комтур Штырэ раіў, каб на прыёме кароль і каралева сядзелі, а ўсе астатнія стаялі. Міндоўгу гэта мо і лесціла, але ён першы абачліва падаў голас, каб сядзелі і ўсе з Вялікай рады: без яе яму не давалі права агалосіць свой Указ.

Усяслаў даўно ўжо спазнаўся з суседам Міндоўгам. Яшчэ тады, калі ў Літве князіў ягоны брат Даўспрунк. Ён, Міндоўг мелі сваё адметнае, але зусім не шыкоўнае сядзенне – крэсліца, накрытае мядзведжаю скурай. Міндоўг уссядаўся на яго зрэдзь і не вазіў з сабой, як іншыя ўладары іншых часоў залаты трон (ды яго і не было). Не шмат бываў у сваёй невялікай крэпасці-стальцы Руце: то часта адлучаўся і ў далёкія грабежніцкія паходы, то хаваўся ў пушчы ад непрыязных родзічаў-князёў. Там разам з воямі сядзеў каля кастра, сам падсмажваў на ражончыку сала, спаў у будане, у спажытак ежы садзіўся на бервяно. Яго сям'я, жонка Ганна, Войшалк і Данута, больш часу, асабліва зімой, жылі ў Навагародку. І не толькі з-за небяспекі. Але і з-за Міндоўгавых адлучак для любошчаў з жонкай булевіцкага князя Мартай. У Навагародку Міндоўгава сям'я хрысцілася, а дзеці навучыліся грамаце. Калі ў бітве 1245-га пры Карпатах недарэчна загінуў апошні Ізяславаў сын, то ўсе ў Навагародку, Усяслаў таксама, лічылі: стары князь дасць наказ запрасіць на пасад усіхнага любімца. Войшалка. Але незадоўга да смерці Ізяслаў ашаламіў Усяслава: Войшалк пачцівы, разумны, пры такім ваяводзе, як ты, быў бы добры князь. Але цяпер яшчэ не яго пара. Не час агнеца. Нават мірнага князя-будаўніка. Цяпер час вялікіх войнаў і захопаў, то час не маладога, а мацёрага воўка. Вось і перадасі на вечы мой наказ: абраць князем Міндоўга. Ды каб ён не толькі прыйшоў, але і Літву з сабой прывёў. Перад гэтым перакажаш яму мой

наказ: ахрысціцца, даць клятву не самавольнічаць, як дагэтуль, а ва ўсім раіцца з Радай. Калі ён будзе вялікі князь Навагародка і Літвы, то тады пашліце Войшалка яго намеснікам у Слоніме, Ваўкавыску, Гародні. Там яго спакойны і разважлівы характар, пабожнасць, уменне паслухаць і трапна сказаць будуць да месца. Ён, як ніхто, зможа і Пінск, Тураў прывабіць. Нам, лепш сказаць, вам без дрыгавіцкіх зямель з поўдня і іх помачы не абыйсціся... А пасля, калі гаспадарства Навагародка і Літвы амацнее, то... Мо ўжо хутка, а мо пазней настане іменна Войшалкава пара...

Так пасля Ізяслававай смерці пачало ўсё і выходзіць, калі неўзабаве позняй ноччу ў Навагародак прымчаўся Міндоўг з адным ботам на назе, у кажуху на споднім адзенні, узлахмачаны і з жахам у звар'яцелых вачах: ледзь уцёк з Руты ад падасланых Выкінтам і Таўцівілам забойцаў... Толькі Ізяслаў не прадбачыў, што яны дзеля выйсця з бяды знойдуць нечаканае паразумненне з крыжакамі...

Невядома, што ў гэтыя хвіліны думаў Міндоўг, седзячы на троне. А Усяслава пачаў тачыць нейкі непрыемны чарвячок. Усё складваецца Міндоўгу на спрыянне: цяпер веча можна і не склікаць, а на Вялікую раду паспрабаваць націснуць. З саюзнікамі-лівонцамі, ды асабліва тады, калі не будзе яго, Усяслава. А адзінаўладства ён любіць. Дзеля яе не аднаго князя-суперніка ў Літве звёў са свету. Як гаварылі, нават і роднага брата. Так што большыя асцярожнасць і далей пільны назірк за ім будуць не лішнія: прага поўнай улады рана-позна псуе славалюбнага правіцеля, патрабуе ўсіхнай пакоры, хваласпеву яму, абуджае насцярогі, недавер і боязь страціць сваю моц, штурхае на забойствы нават тых, хто лесціць няшчыра ці моўчкі ненавідзіць. У такіх правіцеляў, калі ў нейкім куточку душы і захавалася цеплыня і міласэрнасць (любоў да бацькоў, дзяцей. Але не ва ўсіх), то дабро ўсё роўна не перасільвае зло. Яно не адпускае гэтага чалавека і ўрэшце прыводзіць да канца яго...

Да Міндоўга і Марты паволі, быццам цягнучы за сабой воз, падышоў прыгорблены навагародскі святар Кірыла. Як ужо заўважылі раней, не ў зусім святочным епіскапавым, больш у цёмным, манаскім уборы. Высакаваты, за апошні час яшчэ болей схуднелы і састарэлы. Нават доўгая, але не густая сівая барада парадзела. Адчужнавата пакланіўся. І спадлоб'я, ціха, сабе пад нос:

– Благословение на тебе, Миндовг, на нашем государе, и на твоим сынам, и на твоих боярех, на христолюбивом воинстве. Мирно да будет и многолетно наше государство, победоносно со всеми сущапослушающими тебе христолюбивыми людьми и во веки веков. Благословение на тебе, государыня Марта. Будь христолюбивая к супругу-государю, ко весу люду государства нашего. Аминь!

Асяніўся двуперсна – услед за ім так асяніліся і праваслаўныя ў натоўпе. Пасля сюды адзін за адным пачалі падыходзіць князі, баяры з недалёкіх земляў, Усяслаў з навагародскай і літоўскай знаццю. Непадуладныя Навагародку хрысціліся, кланяліся ў знак павагі, а падданыя яшчэ дадавалі маўклівую клятву – прыкладалі руку да грудзіны і апускаліся на калена.

Як пачалі, так і закончылі каранацыяю белаадзенныя музыкі. Зноў падняліся на памост, паднялі доўгія дуды і голасна затрубілі імі на ўсё бачнае, а то і далейшае наваколле: адбылася ўрачыстая падзея!

Міндоўгавы дружыннікі-ахоўнікі з кап'ём зноў пасярод вялікага гурту пачалі адцясняць люд убакі, утвараць вольнае месца для праходу. Усе

адступалі неахвотна, штурхаліся, жадаючы быць першымі з краю: ведалі, што будзе неўзабаве і што варта апынуцца паперадзе суседзяў. Многія і не запрыкмецілі: Міндоўгавы слугі вывелі з пасада асядланага белага каня. Той, закілзаны жарабец, высока і ганарыста трымаў галаву, пастрыгваў вушамі ды нібы падтанцоўваў ад моцнай сілы і важнасці. За тыдні два перад гэтым малады скакун нямала паперажываў: па вадзе яго прывезлі з Іберыі (Іспаніі) ад тамашніх арабаў у Гамбург, з яго – у Рыгу. Там арабскія конюхі пры назірку навагародскіх спавашна прыручылі яго да сядла і ездака, да рознай, найперш уразліва захапляльнай хады, а потым дзе на судне, дзе дзвінскім, нёманскім берагам пераправілі ў Любчу, з яе – у Навагародак. Любіцель сам утаймаваць ненавучаных і наравістых жарабцоў, Міндоўг праз некалькі дзён адпачынку падарожніка падышоў да яго і, паблажліва ўзлахмаціўшы таму грыву, ухмыльнуўся: "Ну, пакажы, заморац, які ты ўдалец". Борздка ўскочыў на сядло. Але не паспеў як след уладзіць ногі ў страмёны, як той устрапянуўся, бліснуў агністым позіркам ды так рэзка крутнуўся і так высока ўзвіўся на заднія ногі, што цяжкі вершнік кулем зваліўся долу. Значыць, неўзлюбіў непачцівы посміх. Нават чужой яму мовай. Міндоўг зніякавеў перад конюхамі, але абачліва не пусціў у ход бізун, устрымаўся змушаць гардзея да пакоры з-за боязі кары, а пачаў падступацца да таго з ласкавым словам, пагладжваннем, з ахапкам свежай травы, скібай хлеба. І дабіўся свайго. За некалькі дзён да каранацыі спакойна праехаўся па двары стайні на прыгажуне, згодным стаць каралеўскай украсаю. Калі той цяпер усё бліжэй падыходзіў да памоста, яго ўсё больш бачыла люду. Калі жанчыны з дзецьмі назіралі безуважна, то мужчыны – з адмысловай увагаю. У Навагародскім гаспадарстве ў таго-сяго трапляліся пароды не толькі гнядых, рудых з белымі лапінамі на лобе і нагах, але і сівых з цёмным адценнем, нават сіва-белаватых коней ды такой белізны, а таксама гонкасці не было. Праўда, многія сталыя аратаі не маглі не заўважыць і іншага: гэты ганаркі харашун не для сахі.

Да Міндоўга падышоў невысокі, таўсматы, у шыкоўным каптане і кунтушы дворскі Лецка (вылучаны Усяславам. Негаваркі. Калі з кім размаўляў, часта хаваўся за свае любімыя паўторы "ну-ну", "ага-ага". Каб шмат выведаць, а самому сказаць мала). Гаспадарлівы, строгі да лайдакоў і зладзеяў, адданы інтарэсам Навагародка. Але часам, як і многія, не мог стрымаць уласніцкую чалавечую натуру, бачачы вялікае княскае багацце. Тое-сёе з яго прысвойваў сабе, але асцярожна, не ў вялікую страту для князя. Цяпер паважна трымаў шкляную таўставатую размаляваную карчажку, напоўненую пітвом. За ім ішоў княскі віначэрп, адной рукой нёс срэбраны паднос, другой прытрымліваў на ім два светла-празрыстыя келіхі з залацістым абадком паверсе. Перад Міндоўгам і Мартай дворскі дастаў з пасудзіны корак і сам наліў у келіхі напою, ад чаго не ў аднаго мужчыны ў натоўпе ў роце заказытала смагаю.

Міндоўг падняўся, азірнуўся. Паклікаў вачыма сына. Войшалк – удалы моцным розумам, набожнасцю, сардэчнасцю, але несамавіты абліччам, нездароўчы (пазней незычліўцы, калі яму выпадзе лёс доўжыць задуманае Навагародкам, распусцяць пра яго розныя паклёпы. – *Аўтар*) – падышоў.

– Патрымай, – лагодна зазіраючы сыну ў вочы, усміхнуўся Міндоўг, перадаючы яму сімвалы ўлады. – Пяройдзеш у каталікі, то пасля мяне мо якраз ты будзеш трымаць іх заўсюдна.

Войшалкаў твар з высокім лобам, глыбокімі, як у маці-гаротніцы,

самотнымі вачыма, бледнаватымі шчокамі і нібы бяскроўнымі губамі аніяк не ажывіўся. Бацька, сын і дачка даўно не размаўлялі шчыра, жылі без ласкі адзін да аднаго аднаго, апошні час нават чужыніліся: дзеці лічылі, што іхняя матуля-любіміца памерла нечакана не па хваробе, а была атручаная падасланым забойцам, бацькавым лекарам з Лівоніі. Дзеля Марты-палюбоўніцы. Міндоўг не мог не заўважыць ранейшай сынавай непрыязні, моўчкі і рэкавата адхіліў віначэрпа (той хацеў прыгубіць медавухі, каб упэўніць у яе чысціні), узяў келіх і ступіў на край памоста.

– Грамада! Спадарства! – падняў іншаземны посуд. – Я не буду доўга баяці. Хіба скажаш лепш за тое, што тут гаварылі наш ваявода, вучаны муж з Рыгі, біскуп і мой брат Стукланд. Я п'ю за здравіе нашага каралеўства і вас усіх! Будзьма разам! За адно! Жыцьма, труды ў поце чала прыкладайма для праўнукаў нашых! І вы выпіце за гэта. – Ужо не толькі пасміхнуўся, а пажартаваў: – І за мяне. Калі абралі князем, а цяпер згадзіліся, каб я стаў каралём, то не адступайцеся. Радуйцеся ў шчасці, памагайце ў бядзе!

Паволі выпіў з келіха, паставіў яго на паднос. Туды апусціла свой, поўны, і Марта. Звычайна яна не пазбягала пачаставацца хмельным пітвом. Тады развясельвалася або, наадварот, магла апынуцца ў палоне злоснага шалу. Але цяпер стрымалася. Нават просталюдзіны папікалі, калі нехта зачынаў дзіця ў п'яным стане і калі цяжарная не пакідала піць. А каб маладыя пашлюбаванцы маглі і ўволю пацешыцца маладой жарсцю, і дзіця набылі здаровае, іх не на адзін тыдзень вызвалялі ад цяжкай працы. Хоць у іхнім, а яшчэ болей у баярскім, княскім жыцці ўсякае было...

– Ваявода, – прамовіў лівонскі Генрых Усяславу, – скажы, не, нават загадай вашаму летапісцу, каб усё гэта апісаў. Яно – не проста нейкі выпадак, нейкая дзея, а historia! У старшага грэчаскага бога Зеўса было дзевяць дачок. Кожная была musa. Муза. Натхняла здольнага чалавека да навук розных, прыўкраснага слова, да спеваў або, як у вас кажуць, да скокаў. Дык і для гісторыі была свая муза. Кліо. Падпісаны сёння Дагавор, гэты памост, сцяг, два троны, Міндоўгавы карона і знакі ўлады, пячатка ў тваёй кішэні, нават Міндоўгаў келіх – усё гэта як жывыя сведкі гісторыі. Зберажыце іх. Яны вельмі спатрэбяцца не столькі цяпер, колькі вашай патомнасці. Усюды цікавяцца сваёй даўнінoю. Бывае, нават нейкая легенда, нейкі чарапок многа значаць. А падрабязны запіс, калі ён праўдзівы, – гэта не толькі вяртанне ў былы час, а падпора новаму. Грунт для доследу вучаных людзей, прыўкраснага сказу для людзей творных, здольных дамысліць усякую звестку. І напісаць так, каб ты і праз многа гадоў чытаў і не мог адарвацца. Радаваўся, плакаў ад захаплення і перажывання...

Як і меркавалі, каранацыю закончылі ў пасляпалуднёвы час, калі сонца, то хаваючыся за новае белае воблака, то застаючыся на незаслоненым сіневатым небе, набрала сваю вышыню, папякло, а тады пачало пацíху апускацца ўніз, да залесенага небакраю перад Нёманам, ды пакрыху слабець прыпёкам. Паколькі пара цяпер была сярэднялетняя, то тут, на лузе, будзе светла немалы час і тады, калі свяціла схаваецца і далёка, за заходнім краем зямлі і за вялікім морам.

Падумалі загадзя і пра пачастунак люду. Падай яго цяпер адразу – выйдзе яшчэ горш, чым гадоў сем таму, калі тут хрысцілі ў праваслаўе і ўкняжылі Міндоўга. Тады, як крышку зараней вывезлі з пасада пітво і ежу, бліжэйшыя да яго пераcталі зважаць на апошнюю цырымонію, кінуліся да спажывы. Бязладна змяшаліся, штурхаліся, адпіхвалі адзін аднаго. І так,

што ў людскім галасе пачуліся жаночыя енкі, дзіцячы плач. Паўтарыць такое для ўцехі, насмешак лівонцаў не трэба.

Знаць пачала пакідаць памост. Першы конна падаўся ў горад сцяганосец, за ім – Марта і Міндоўг на белым кані, трымаючы ў адной руцэ аброць, а ў другой посах. Ганаровыя госці, навагародска-літоўскія баяры і заможнікі, рыцарскі атрад, Усяслаў з дружынай. Іх усе праводзілі ўважлівымі позіркамі, аж пакуль за пасадскімі варотамі не схаваўся апошні коннік. Неўзабаве адтуль выехалі іншыя – цівун-старэйшына і князскі, а цяпер каралеўскі, абвеснік. Апошні, калі запыніліся, падаў вядомы свой гучны і, як адчувалася, не без пацвельвання голас:

– Слухай сюды, грамада! Спакойна падзелімся. Спадарыні і падлеткі налева, – выцягнуўшы адну руку, паказаў, дзе тое лева. – Спадары направа. Шыхтуйцеся па аднаму ў тры шэрагі. Кожны шэраг будзець пачынацца ад дружынніка. Не піхайцеся. Прапускайце наперад самых старых, жанок у цяжку і з дзецьмі малымі. Тых, хто прыехаў зводдаль. Чым скарэй ладам станеце, тым скарэй мецьме гасцінцы. Не бойцеся, хто апынецца самы крайні. Усім пароўну яды ды напою дастанецца. Ніхто скрыўджаны не будзе. Кароль наш шчодры.

Люд у натоўпе заварушыўся, пачаў выгледжваць, дзе тыя тры воі для жанок і тры для мужчын. А воі навязалі на канец свайго кап'я чырвоную латку і высока паднялі яго. Неўзабаве на лузе паўстала шэсць выгінастых шэрагаў. Тады з пасада пачалі выязджаць падводы. Першыя прывезлі зборныя сталы з доўгіх дошак і перакрыжаваных падпорак. Паставілі на два бакі, каля кожнага шэрага. Адзін пакінулі вольны, а на другі пачалі выстаўляць з іншых калёс з вялікімі скрынямі з дошак простыя гліняныя збанкі і гладышы, боханы сітнага хлеба. Звычайна тутэйшы люд амаль не спажываў такі частунак, хіба што на вялікае свята падарункам заможнага гаспадара. Дый і тыя больш абыходзіліся праснакамі, хлебам з жытняй мукі (бліны пяклі і з грачанай, паколькі недалёкія Ваўкавыск і Гародня здаўна славіліся не толькі сваімі крамянёвымі шахтамі, але і вялікімі пасевамі грэчкі для сябе і на продаж. А дзе грэчка, там і пчолы, мёд). Абапал сталоў для жанок і дзяцей слугі дворскага апусцілі долу пакоўныя мяхі з выбеленага палатна. Зразумела, самым блізкім у калейцы да стала водарна даўся ў нос непаўторны свежы хлебны пах. Увянчалі пачастункавую працэсію шэсць павозак з вялікімі дубовымі бочкамі.

Многія адчулі нецярпенне: слугі, як здавалася, залішне марудна корпаліся каля бочкі між драбін. З яе для жанчын з малечай знялі накрыўку, адзін зачэрпваў пітво вялікім карцам, пераліваў у бадню, яе адносілі на вольны стол, а там квартай разлівалі па збанках. Квас. Датрыманы ў выкладзеных старым лёдам, халодных пограбах бярозавік, настоены з мёдам, з хлебнымі сушанымі скарынкамі, што, каб не расплываліся мякаццю, былі загорнутыя ў беленькія латкі. Для мужчын на драбіны клалі дошкі, на іх ставілі бочку, з яе паблізу дна выбівалі затычку – з бочкі хлістаў залацісты струмень, напаўняючы паветра хмельнасцю. Медавуха. Тут ужо трэба было завіхацца некалькім прыслужнікам – падстаўляць пад струмень бадню, хутка адыходзіцца і адразу ж лавіць пітво новай, а з іх ужо можна было спакойна наліваць у розныя гарлачы. Калі напоўнілі большы посуд, далі знак падыходзіць і браць пачастункі: жанчынам па бохане, гладышу квасу для сябе і дзяцей, малечы асобна ў іхнія прыпаднятыя фартушкі, каптурыкі, капелюшыкі яшчэ з торбаў па поўнай, як узяць, жмені сваіх

прысмакаў. Пшанічнага з мёдам печыва (круглыя або ў форме птушачак памазаныя жаўтком сухарыкі), а таксама яшчэ па адной па жмені сушаніны з іншаземных яблыкаў і груш, вінаграду, інжыру, фінікаў. І яшчэ салодкіх кавалачкаў, што лівонцы называлі *der Zucker* (ад араб. *sukkar*).

Раней, мо яшчэ і да Рурыка, таксама трапляла ў Навагародак з далёкіх краёў такая вось незвычайная садавіна. Але не столькі яна захапляла, колькі іншае, больш важнае для гаспадаркі ды сям'і. Мо аднымі з першых (хто ведае?!) у гэтых і суседніх мясцінах заявіліся хазарскія купцы са сваімі і персідскімі таварамі. Затым засведчыліся іудзеі (многія з іх пасля пагрому іхніх паўстанняў рымлянамі сыйшлі ў варожую Рыму Персію, Арменію і іншыя краі, пасля ўмяшання ў персідскія звады многія збаяліся новага ліха і падаліся на Каўказ, у Візантыю, з яе за перашэпты з арабамі (яны таксама прадавалі-куплялі на Волзе. Як сваімі, так і індыйскімі дарамі) ды за танны набытак і дарагі продаж нявольнікаў – у Хазарыю, дзе здолелі заверхаводзіць (бралі даніну з прыволжскага люду, Кіева, радзімічаў і вяцічаў). Затым узялі ў свае рукі асноўны гандаль – асабліва дарагімі пахкімі прыправамі, шоўкам (літаральна на вагу золата) – ад Кітая па Іспанію. Пазней, пры вольнасці Кіева, усялякае дабро з Волгі, Панцііскага мора, Канстанцінопаля дастаўлялася і складвалася ў ім, а з яго разыходзілася ўверх па Дняпры і ўлівах іншых рэк у яго. Па Дзясне, Прыпяці, Сажы, Бярэзіне, розных малых рэках, волаках аж да паўночнага Ноўгарада. Адусюль у Кіеў прывозілі ці сплаўлялі сваё. Хто – што: бярвёны і дошкі, скуры, мёд, сушаныя грыбы, брусніцы і журавіны, льняную пражу, пяньку, дзёгаць (да хрысціянства і запалоненых). У гэтым, XIII-м, стагоддзі, калі Канстанцінопаль узялі крыжакі, адбыўся мангольскі ператрус ладу ў паўсвеце (манголы захапілі Кітай, Сярэднюю Азію, Персію, Закаўказзе, Русь, волжскую Булгарыю) і калі дарэшты паў Кіеў як буйны горад, паўднёвы асяродак гандлю Русі, то "шлях з варагаў у грэкі" заціх. Чорнае мора пачалі агледжваць італійскія генуэзцы і, задобрываючы манголаў, асядаць у найлепшых мясцінах для гандлю. Яшчэ адзін італійскі горад-зямля, Венецыя, што раней была калоніяй Візантыі, памагла крыжакам узяць Канстанцінопаль. За гэта ёй дазволілі стаць не проста перавалкаю, а весці пад яе назіркам гандаль паміж Усходам і Захадам, Канстанцінопаль – Венецыя – Марсель, па Міжземным моры, што яе вельмі абагачае і моцніць. Калі крыжакі заснавалі Рыгу, то да яе паімкнуліся купцы з германскага вольнага горада Любека і іхнія прыяцелі з Гамбурга з ніжняй Эльбы, фландрыйскага Бруге (яны зналіся і з Лонданам, Ноўгарадам). З Рыгі тое-сёе перавозілася па Заходняй Дзвіне ў Полацк і Віцебск, па Касплі – у Смаленск. Але гэты шлях для Навагародка быў цяжкадаступны і затратны. Рыжане і навагародцы пачалі асвойваць свой. Рыжскія купцы, як і раней, падаваліся па Балтыйскім моры, а потым па Куршскім заліве да нёманскага вусця, зварочвалі на суднаходны Нямунас-Нёман і дабіраліся ім да Гародні. Там ці пакідалі сваё дабро, ці з доляй яго ўжо ладдзямі плылі да знарок зробленага прыстанка, дзе ў Нёман упадае Моўчадзь. Адтуль тавары ўжо на падводах або санях развозіліся ў Навагародак і Слонім. З Навагародка – у Любчу ці Лаўрышава, а з іх – у Літву. З нядаўняга часу, калі значна бліжэй за Рыгу да марскога заліва ўзнік крыжацкі Мемель (для яго зямлю ламатаў і курша-жамойтаў, упэўнівалі крыжакі, "падарыў" Міндоўг), то купцы з Навагародка, Гародні, як і з Рыгі, зачасцілі туды: зладзілі там перавалку дый танней абыходзілася. Гэты шлях Навагародска-

Літоўскае гаспадарства звяном уплятаў у заходнееўрапейскі гандаль. А з сённяшняга дня – больш...

Трэба сказаць, нёманскі шлях таксама быў няпросты: у розны час па ім рабавалі жамойцкія, літоўскія (не Міндоўгавы), яцвяжскія і прускія аматары лёгкай нажывы. Яна, гэтая водная пуцявіна адтуль, здалёку, пачыналася з вусця ў вузкім Куршскім заліве, пасля Коўна вельмі пятляла, знаходзілася сярод лесу і кустоўя, частымі выгібамі выгадна пасавала грабежнікам і абцяжарвала кіраванне суднам стырнавому. То прыходзілася браць болей людзей для аховы. І было яшчэ адно, што не ішло гладка ў гандлі: усе не толькі купцы, але і ўладары жадаюць, каб тавары добра прадаваліся, прыносілі прыбытак. Ды з выгадай і на будучыню. А для гэтага часам нават не паказваюць вельмі хадавое: франкі забаранялі вывозіць нават за высокую аплату сваю лепшую зброю, Канстанцінопаль таямнічыў свой пякельны "грэчаскі агонь", ад чаго не было паратунку на сушы і вадзе, а таксама абмяжоўваў продаж шоўку, арабы прытойвалі ўведаныя на Усходзе выбуховы парашок, паперу і бавоўну. Германскія, лівонскія ўлады і купцы намагаліся не аддаваць сваё, а браць чужое срэбра і золата, поўніць імі толькі свой запас. Але Навагародку, паколькі ён першы на ўсходнеславянскіх землях прыняў апеку папы і Лівоніі, падмеліся даць палёгку. І вось адшкадавалі золата, самацветы на дзве кароны і на пярсцёнкі, каралі, завушніцы для Марты...

...Сталым мужчынам, іхнім сынамі з выразнымі шчацінкамі давалі па гладышу медавухі, па бохане чорнага хлеба і ладным кавалку свініны або ялавічыны, конаўку. Вазьмі, адыдзіся, апаражні посуд, а яго – на вольны стол. Для іншых. Хітрэйшыя ці больш ахвотныя да дармавой весялухі падаваліся ў канец калейкі: бачачы, што нямала непачаставанага мужчынскага люду, слугі дворскага яшчэ падвязуць спажывы. Вінадзяльбіты не ўсіх упомняць, яшчэ раз нальюць, то можна і зноў улагодзіць цела і душу. Пакуль пастаіш, захарашэе, пацягне на гаворку. А калі будзеш пацягваць новага піва ды пакрыху хмяльнець, то можна і лагодна паперастарэкаваць з добрым знаёмым або выказаць непачцівае свайму незычліўцу ці, калі будзе агрызацца і зноў зневажаць, нават даць яму поўху. Састарэлым воям і гаспадарам, княскім служкам, кавалям, гарбарам, бондарам, шаўцам, іншым у свой час патрэбным і выбітным людзям, малаходкім калекам, сіротам павезлі гасцінцы дахаты.

У жанчын настрой быў іншы. Многім і ад квасу моцна пыхнула ў нос і кальнула ў скроні. Замужніцы, трымаючы ў падоле фартуха падоранае ім і дзецям ежыва, збіраліся ў купкі, пацягвалі па глытку халоднага піва, войкалі ад яго водару, смяяліся, весела загаманілі. На нейкі час забыліся пра свае штодзённыя турботы, а то і нягоды ды беды. А самыя смелыя з жанок перадавалі гасцінец маці або дачцэ, а самі другі раз станаваліся па яшчэ адзін. Калі сталыя вінадзяльбіты каля мужчын спаўнялі сваё засяроджана, то маладзейшыя "кваснікі" паводзіліся інакш: са старэйшымі жанчынамі і дзецьмі кожны пачціўся, а вось, калі да іх набліжалася юная красуня з касой па паясніцу (значыць, ужо можна выходзіць замуж), то ажыўляліся, бліскалі вачыма, але пры яе маці, а то і бабулі маглі дазволіць сабе толькі паважлівы жарт. Але калі купкай асобна падходзілі дзяўчыны без строгіх назіральніц, то вось у сярэдзінным шэрагу малады, з юрлівым позіркам слуга дворскага не мог не ўгледзець сярэдняга росту, з бела-сіняй скіндачкай на спрытнай галоўцы, у беленькай сарочыцы і сіняй

безрукаўцы круглатварую красуньку. Падаючы ёй найлепшую пшанічную буліцу, ніжэй нагнуўся:

– Жаніх важны трэба?

Каб тая была адна, то, можа, сумелася б і апусціла вочы, але пры сяброўках таксама загарэзіла:

– Важны трэба.

– Я і ест важны. Пачакай каля дуба, пагаворым.

Тая ўжо задзірыста:

– Ды нос твой не зусім важнецкі.

Яе сяброўкі пырснулі посміхам у кулак: гэты дзяльбіт быў незвычайна насаты. Пра такіх кажуць: “носар”, “дзюбан”. А гэты, пераадолеўшы слоўную пстрычку, шчыра зацікавіўся:

– Чыя? Адкуль?

– Маміна і татава, – у досціпе перамагала тая. – А жыву за даламі і лясамі.

Заляцанец не без просьбы:

– Зваць як?

– Знайдзі, то і ўведаеш.

...Хто можа сказаць, у той *асаблівы 1253 год*, а мо пазней, знайшоў той “важны жаніх” тую ўпадабаную маміну і татаву красуню, шчодры дар маці-прыроды, або не. Пасямеіліся яны, завялі сваіх нашчадкаў (гаспадароў, вояў, гаспадынь), ці іхнія сцежкі-дарожкі не сыйшліся, пашлюбавалі яго з іншай, яе – з іншым. Як ніхто не помніць і пра пазнейшае: пра іхніх сумесных альбо асобных дзяцей, унукаў і праўнукаў. Калі і дзе тыя жылі, што дзеілі, а іхні род вёўся доўга і, можа, яшчэ цягнецца тоненькай нітачкаю і да нашага часу. Ці абарваўся ў якой вайне на іхняй роднай ці чужой зямлі. А на долю-лёсіну не толькі навагародцаў, але і ўсіх іхніх суседзяў, у свой час вядомых па імені і пэўнаму занятку, выпала безліч войнаў, змусовага забыцця...

Ганаровыя госці і тутэйшая знаць сабралася на абноўленым былым княскім, цяпер каралеўскім двары-пляцы, дзе пасярод гладкага месца літарай “Т” вабілі вока сталы. Больш багатыя, чым на Дзяды, на калядны шчадрэц. Кожны накрыты выбеленым льняным настольнікам, абшыты понізу кутасікамі і чырвонымі пеўнікамі. Агаладалых гасцей ужо чакалі перад самым іхнім прыходам вынесеныя з халаднаватай пад дошкамі, дзёрнам, з гліняным долам і кавалкамі старога лёду пад ім клеці першасныя стравы: на срэбраных падносах і ў медных бліскучых місах парэзаная на долі вантрабянка (лёгкія, печань, кавалкі сала, што адварваліся з соллю, цыбуляй і перцам, потым дробненька рэзаліся, запіхваліся ў кішкі, кіпяціліся яшчэ крыху, а затым адціскаліся пад цяжарам), кавалкі са свіногa прасоленага, а потым высушанага і павэнджанага кумпяка, а таксама салёнага сала з мяснымі прожылкамі, што захоўвалася ў прасмаленай бочцы пад вадой. На кожным стале – яшчэ стушаныя кавалкі ялавічыны, куры, качкі, зайцы, звараныя яйкі, шмат зялёных цыбулі, часнаку, укропу, пятрушкі і крыху ўжо ранніх агуркоў (былі таксама з падводнай бочкі леташнія, салёныя, што захоўваюцца даўжэй за квашаную капусту: грымне ўвесну гром – яна на мякаць). Для іншаземцаў-белахлебнікаў і сваіх – уперамежку сітніца, жытні хлеб. Усіх чакалі парожні шкляны, з залатой вузкай акаймоўкай паверсе келіх для хмельнага напою, візантыйскі маёлікавы, шэры, пакрыты свінцова-алавянай палівай і размаляваны выявамі дрэў зялёнымі фарбамі

куфаль і тутэйшыя гліняны бліскучы кубак. Толькі што ў куфаль налілі халоднага квасу з лядоўні, у кубак – гарачай поліўкі з мяснога адвару з дадаткам падагрэтай на смятане мукі, па лыжцы звараных лісічак і па шчопаці зелені. Некаторай звычайнай ежы (морква, буракі, капуста, рэдзька), што найперш павінны былі дазволіць сабе манахі, не было: леташнія рэшткі высахлі і згніліся, а маладое яшчэ не вырасла. Не бяда: мінуўся час, калі рыцары заўзята пасціліся. Не падалі на стол і рыбы. Хіба здзівіш ёю тых, хто пры вусці Даўгавы і пры моры? Тамашнія купцы яе, сушаную, вялена-падвэнджаную, салёную (тлустыя селядцы ў бочцы), як і соль, самі прывозяць сюды на продаж.

Як і ў пасадзе, так і тут пацягвала лёгкім дымком і водарнай мяснай парай: апошнія дні гарэлі вогнішчы, у вялікіх германскіх катлах варылася, тушылася сённяшняя спажыва. Праўда, цяпер тут воддаль, у закутку двара, ужо не палаў агонь, толькі сярод выкладзеных камянёў пад жалезнай накрыўкай слаба дыміліся несмалістыя палены. Каб без лішняга паветра даць болей буйнага вуголля, жару. На ім яшчэ будзе сквірчэць маладая аленіна, цяляціна, бараніна. Тушкі гэтых жывёлін былі ўжо разабраныя і цяпер вымакалі ў салёнай вадзе з крапівою, часнаком і цыбуляй. Вось госці паблізу варот дзядзінца падышлі да бочкі з цёплай вадою з мятай і пачалі падстаўляць далоні, а слугі паліваць іх, падаваць ручнікі. У гэты час іншыя слугі вынеслі з пограба варыўні бочку – за чатыры канцы дзвюх абвязаных вяроўчын па краях вялікай пасудзіны. Паставілі яе на калоду ды пачалі шчыраваць-чараваць – асцярожна выбіваць знізу корак, падстаўляць пад струмень бадню, з яе квартай наліваць у гарцы. З першага гарца, здзьмухнуўшы пену, вінасмакун адліў у кварту ёй на трэць бурштынавага пахкага напою і перад Міндоўгам выпіў. Ад шугу хмелю ў скроні сцепануўся плечукамі і выставіў уверх вялікі палец: во! Кароль пасміхнуўся: налівайце. Уміг напоўнілі на стале келіхі. Пасля спакойна налілі медавухі ў дзве з нешырокім верхам грэчаскія (металічную з выявай вояў, гліняную з нейкім надпісам) амфары, у свае вузкарылыя даўнія, але яшчэ зіхоткія карчагі, занеслі іх на сталы. У кожнай пасудзіне па дзве дугападобныя ручніцы, то госці могуць у любы час лёгка зноў напоўніць свае келіхі (яны зажадалі менавіта навагародскі мяккі, смачны і хмельны напой). Калі ўсе апаласнулі рукі, Міндоўг запрасіў на застолле.

Пасярод галаўнога стала запыніліся Міндоўг і Марта. Справа – Стукланд, Штырэ, Войшалк. Злева – Альбрэхт, Сільверт. За прыткнутымі сталамі з аднаго боку – знатныя лівонцы, з супрацьлеглага – тутэйшыя князі, баяры. Па краях злучаных сталоў паселі рыцары і знатныя навагародска-літоўскія дружыннікі (малодшая іхняя дружына засталася за горадам, каб сачыць за ладам). Вось усіх за сталамі, сябе пеpажагнаў біскуп Альбрэхт. Яго казань лацінкай перадаў тлумач Генрых-Гэнік:

– Блаславі, Гасподзь, нас і гэтыя твае дары, каб мы спажывалі іх з-за тваёй дабрыні. Навучы нас дзяліцца гэтымі дарамі, найперш хлебам і ад яго радасцю з усімі, хто гэтага мала, а то і зусім не мае. Радасць праз Хрыста, Госпада нашага. То кожны – *ave* (радуйся)! Амэн.

Пасля яго Міндоўг прыпадняў келіх:

– Майнэ гэррэн! – прамовіў гасцям. А сваім: – Спадары! Коратка: сёння мы маем поўнае права віншаваці адны адных, выпіць і закусіць, павесяліцца. То мы з Мартай просім: адведайце, што нам Бог паслаў. – І вышэй падняў чашу, усклікнуў: – Прозіт! (Лац., на здароўе.)

Выпіў, за ім і ўсе астатнія. Апроч святароў. Тыя толькі прыгубілі. Апусціліся на накрытыя скурамі лавы-дылі на калодках. Красуні падалі кожнаму на калені па невялікім ручніку. Выціраць імі, а не настольнікам або сваім падолам затлушчаныя рукі. Некалькі хвілін моўчкі каштавалі выбраную ежу. Той-сёй з гасцей і сваіх найперш мяккую, абмінаючы вабную, але тугаватую вяндліну. Значыць, яны не маглі пахваліцца моцнымі зубамі. Пасля, калі слухалі віншавальныя здравіны Штырэ і Штэрна, нальшанскага Даўмонта, пінскага Міхаіла, за кожным падносячы да губ чашу, спатолілі голад, спакваля павесялелі, загаманілі. Як было бачна, цвярозыя Альбрэхт і Сільверт уважліва назіралі за ўсімі: хто хутка хмялее і як паводзіцца, пра што ідзе гоман. Калі слугі забіралі са сталоў апарожненыя падносы і місы, то абноўленае пачыналі ставіць з канца. Такая завядзёнка ў Навагародку: на трапезе – вяселлях і іншых вялікіх бяседах-гулянках – новае ставіць перад тымі, хто не трапіў на ганаровае месца. Хай яму будзе хоць такое ўшанаванне.

Ніхто на каралеўскім пляцы не ведаў, што дзеіцца за горадам на лузе, дзе дальні люд, займеўшы пачастункі і дачакаўшыся суседзяў, першы пачаў пакідаць поплаў, усядаўся на засланае радном сена на падводзе і падаўся ў зваротны шлях, а многія недалёкія і блізкія да горада задаволеныя старыя, жанчыны з дзецьмі ды падвяселеныя, ахвотныя да гуртавой гаманы мужчыны паперастарэкавалі ды папляліся да сваіх хацін. Хтосьці другі раз набліжаўся да дзяльбітоў напою і ежы, яшчэ прыкладаўся да гарлачыка і, добра падпіты, заставаўся пагаварыць ("Што за гулянка: выпілі, але добрай гаворкі не было!"), далучаўся да знаёмых у купках і іхняй гутаркі пра тое, што нядаўна бачылі і чулі, ці пра сваё, турботнае. Моладзевы гурт – яшчэ бязвусікі і ўжо з няроўным, рэдкім вуссем пад носам хлапчыны, дзеўчыны з косамі паблізу паясніцы ці ўжо і да яе, усе вясёлыя, раз-пораз са смехам без дай прычыны – дружна пашыбаваў у далекаваты любімы бярозавы гай паблізу Валоўкі. Там на беразе стаўка, дзе ў трысці пладзіліся качкі, а на люстры вады звычайна цешыліся прылётныя лебедзі, расклалі вогнішча, каб неўзабаве, калі зашарэе і пачне прыцемнівацца, наладзіць свае гулі. Скакаць праз агонь, узяўшыся за рукі, хадзіць вакол яго, спяваць. Каб бліжэй пазнаёміцца і агледзецца (язычнікамі тут жаніхі "умыкалі" нявест. Не толькі па злой задуме, але і па загадняй дамове). Дзяўчаты на чале з Купалкай (усімі прызнанай першаю красуняй) адыходзіліся да шырэйшай плыні Валоўкі, каб апусціць у яе свой вянок і прасачыць: прыстане ён да берагу ці не. Зачэпіцца каля левага ці правага боку – значыць, чакай адтуль сватоў. Мо нават і хутка. Хоць вяселле, калі бацькі згодзяцца на змовінах-запоінах, найхутчэй за ўсё будзе па восені, перад постам, або зімою. Гаварылі, некаторыя дзявочыя вянкі вада несла ажно да самога Нёмана, што плыў "да мора, у свет вялікі". Значыць, дзяўчыне выпадала пайсці замуж не ў родным селішчы, а ў воддальнае.

Пакуль прамаўлялі, усмак застольнічалі, нябеснае свяціла паназірала і за імі, а пасля апусцілася па сваім шляху, схавалася за небакрай, але і з-за яго пазямной летняй яркасці і тут, за высокім тынам, пры палацы і розных пабудовах, ужо ў звычайна шарую часіну па-ранейшаму было светла. Але паколькі пацяжэлі целам, а некаторыя і прыпацелі ды асалавелі, то Сільверт і Альбрэхт першыя, а за імі Стукланд, Міндоўг з Мартай, усе астатнія пакінулі сталы. Хто па суседстве нядаўніх месц

працягваў размову, хто падаўся за канюшню да наземнай, з апушчаным у яміну цэбрам "шпакоўні", хто паходжваў па двары, размінаючы ногі, або назіраў, як адны слугі прыбіраюць бітны ці напоўнены пітвом посуд, а ўсё астатняе за рагі настольнікаў зносяць са стала, накрываюць новым, ставяць чысты пасудак для пітва і розную свежыну, іншыя здымаюць накрыўкі з вогнішчаў, варушаць вуголле, бяруць з цабэрка кавалкі мяса і накладаюць яго на густа сплеценыя драціны з ручкай, пасля такімі ж драцінамі, таксама з ручкай, накрываюць пакладзенае і апускаюць над пякельным жарам пасярод абмазаных глінаю камянёў. Гэтая смажніца выгадная тым, што яна змяшчае нямала, на дзясятак і больш мясных кавалкаў, чым на звычайным ражончыку, ды што яе лёгка пераварочваць на іншы бок і ніводзін апольчык не выслізне.

Нечакана многія чужаземныя госці, апроч заўзятых гаваруноў, сцішэлі і са здзіўленнем азірнуліся на блізкія вароты ў дзядзінец-пляц: для іх адтуль пачуліся незвычайныя гукі, злітныя ў адзін тон. Сюды набліжалася святочная працэсія. Справа – жвавыя малойцы ў саламяным брылі з сіняй стужкай, белай доўгай кашулі, перавязанай на паясніцы сінім пасам, партах і свежых лубяных лапцях са шнуроўкай да калена, злева – гонкія і порсткія дзяўчаты з кветкавым вянком на галаве, у белай прыталенай нацельніцы і шараватай, з сіняй вышыўкаю безрукаўцы, мо яшчэ з бабулінымі альбо пазычанымі срэбнымі ці меднымі каралямі ды завушніцамі, у андараку і ў скураных атопках. Яны не проста ішлі. Падпёршы рукамі бокі ды пакручваючы галавою, крочылі-ступалі фарсіста: выйду на двор, пагляджу, дзе і што робіцца, сябе пакажу, каб усе бачылі, хто я! Паміж маладых фарсуноў – сталыя мужчыны, дзецюкі таксама ў светлых уборах. Паперадзе іх – знаёмыя зычныя дудары, толькі цяпер не з доўгай дудою, а з кароткай трубкай, за імі – пажылец з накінутым за шыю паскам ад гусляў, далей – хлапчыны з лясткамі (на дзвюх саламяных плеценках дзесяць сасновых рознай даўжыні, але адной таўшчыні дошчачак (лястак), каб па іх пастукваць з рознай сілай драўляным малаточкам), са сталькай (на вушку нестыкаваны сталёвы трохкутнік, а па ім біць прэнцікам), жалейкай (у каго рог, у каго труба з кары). Тое, што выдзімалі з дудак і жалеек, перабіралі на туга нацягнутых струнах у гуслях, выляпвалі на лястках і стальках, – усё злівалася ў адно мяккае і вясёлае сугучча. Ім або яшчэ з гарэзным спевам, з пераапрананнем у дзядоў і бабуль, Яго і Яе, злыдухаў, птушак і звяроў, з карагодам і скокамі звычайна музыкі цешаць люд на Гуканні вясны, Юр'і, Купаллі. На Каляды і Вялікдзень ходзяць валачобнікамі. Без іх не абыйсціся на вяселлі і хрэсьбінах (тут за аплату. Хоць не ўвесь люд іх ухваляў: "З рыбака і дудара не будзе гаспадара", але ўсё роўна клікаў гэтых умельцаў "душу праймаці". "Іначай было б надта прэсна жыці"). Калі на ігрышчах верхаводзілі маладыя, то на сямейных святах – сталыя. Нават звычайна паважныя, а то і сухаватыя людзі, падгуляўшы, маглі паплакаць, але, бывала, некаторыя нечакана зацягвалі самотныя або жартоўныя песні, кідаліся ў скокі.

Непадалёку сталоў шэсце запынілася. Маладзенькія, але ўжо хораша пагрудныя нечые нявесты пабраліся за рукі і пайшлі-паплылі лебядзіхамі вакол музыкаў, мальцы абапал іх паўтаралі дзявочае, хоць не зусім здольвалі свой ход учыніць так вабна. Жаночае цела ёсць і будзе жаночае. Гукі-зыкі змяніліся, і ў адпаведны тон ім дзяўчаты напеўна і звонка пра сваё, запаветнае:

Выйду за вароты –
Два слядочкі знаці:
Ой, адзін слядочак –
Каня варанога,
А другі слядочак –
То майго мілога.
Ой, пайду ў лясочак
Ды сарву лісточак,
Буду прыкрываці
Мілага слядочак.
Каб раса не ўпала,
Птушка не таптала.
Каб майго мілога
Інша не любіла.

Цяпер усе прысутныя на пляцы сцясніліся ў гурт ужо за пераапранутымі ў звычайную знатную апратку Міндоўгам і Мартай і Стукландам, зацішыліся не без цікаўнасці да не проста па-свойму прыбраных скамарохаў. Тут іхняга блазнавання не было, замест яго – чалавечая праўда і фантазія. Уяўленне. Мара. Перажыванне. Хлопцы крыху басавіта пра сваё маладое:

– Ах ты, люба, дзеўка пышна,
Чаму да мяне вячорам не выйшла?

Дзяўчаты ў адказ:

– Я не выйшла, баюся марозу,
Бо свае ножкі памарожу.

Хлопцы:

– Ах ты, люба, не бойся марозу,
Я твае ножкі ў шапачку ўложу.

Усяслаў з маленства чуў гэтыя палюбоўныя моладзевыя і сталыя сямейныя песні. Але запомнілася яму і тое, што ў многіх больш невясёлага, нават гораснага, што спявалася па-за вяселлем. Вось хлопцы нібы пачулі ягоныя думкі:

А дзе ж тая крынічанька,
Дзе голубе купаўся?
А дзе ж тая любенькая,
Калі з ёю кахаўся?
А ўжо тая крынічанька
Травою зарасла.
А ўжо мая любенькая
Даўно замуж пайшла.

“Замуж пайшла...” Хрысціянскі час. Нейкі даўнейшы кемны тубылец не толькі спазнаў, але і выявіў словам: з часоў хрысціянства, калі муж мог мець толькі адну жонку, шчасця для многіх сем’яў мала прыбыло. З-за... Язычнікі “умыкалі” (часам гвалтам, часам па дамове) на ігрышчах нявест, бралі жонкамі і паланянак – нават не адну. Зразумела, не ўсе жанчыны былі шчаслівыя. Уладар роду, племені глядзеў на гэта спакойна, абы было ціха і ўежна. Ад гэтага большала насельнікаў, рук для працы, воінаў. У хрысціянстве завялі царкоўны (божы) шлюб-блаславенне ды... Таксама незаўсёды па справядлівасці, любові (хоць іх прапаведалі), а

і па бацькоўскім змусе, але царкоўным строгім наказе: жонка павінна падуладзіцца мужу. То вось на хлапечую скаргу на нявернасць любімых творца, баронячы дзявочы гонар, выказаў і дзявочы боль, калі дзяўчына страчвала свайго любага. З-за яго нявернасці (“выбраў брыдк*у*ю, але багат*у*ю”) або з-за ягоных ці сваіх маці (“маці долі не дала”) і бацькі, злых нагаворлівых людзей, з-за чаго ёй прыходзілася выходзіць замуж за няўдалага, а то і старога мужа (“пасцялю пасцельку і да маладога жаданага тварам лягу, а да старога мужа спіною”). Цяпер чулліва пачулася дзявочае пра свой першы вялікі душэўны боль:

Гарыць агонь, пагараець,
Любіў мілы – пакідаець.
Не знаю, як жыці,
Без мілага быці.

Пасляваўны пра ўсялякія жыццёва-па(не)любоўныя дзеі-прыгоды, спевы закончылі дзяўчаты і, як кожны жывы жадае, ухвалой вернасці ды любізны. Асабліва жонкай, калі яна корміць напрацаванага мужа і задаволена назірае, як ён смачна есць згатаванае ёю і пастаўленае на стол:

Няма цвету любейшага,
Як сінь васілёчак.
Няма мне любейшага,
Як мілы дружочак.
Сядзіць гаспадар за столікам,
Як той галубочак.
На ім світа шоўкам шыта,
Боцікі замшовы,
Жупанчык новы,
На ім шапачка баброва.
Яго вочачкі вясёлы.

Спевакоў і музыкаў шчодра ўзнагародзілі воплескамі. Цяпер яны пасталі гуртком насупраць знаці, таксама ўцешна запляскалі. За гэты час пярэднім падалі вянкі з розных свежых палявых і прылесных кветак, а з іх асабліва хорашна кідаліся ў вочы “сінь васілёчкі”. І вось статны хлапчына і абапал яго дзве зграбныя красуні ўзважлівым ступ*а*ннем панеслі іх да большай грамады. Калі запыніліся, далей ступіла дзяўчо справа (яна нядаўна на лугавым пачастунку назвала сябе заляцанніку “мамінай і татавай”). І да Міндоўга:

– Слаўся, кароль! Будзь здароў і жыві сто летаў!

Міндоўг апусціў крыху ўзлахмачаны галаў, а красунька апусціла на яго вянок. Стары грэшнік з жанчынамі не мог з прыемнасцю не пацалаваць ў шчокі, абняць і моцна прытуліць свежанькую прыгажуню. Пакуль Міндоўг, ведаючы, што па даўнім тутэйшым звычаі будзе ўганараваны вянком, выпускаў з абдымку чараўнічку і, паспеўшы ёй шапнуць: “Добрага жаніха табе знайду”, даставаў з кішэні загадзя прыпасеную залатую грыўню, да Усяслава і Любкі праціснуўся падвяселены лівонскі Генрых.

– Якая грацыя! – Захапіўся “мамінай і татавай дачкою”. – Пава! Ды што – пава! Я не раб Эрота ці Амура, але скажу ад душы: гэта – ваша Афрадыта! Венера! Баярская дачка?

– Не, – пасміхнуўся Усяслаў, – майго дружынніка. Знатнага розумам, доблесцямі.

– Паверце, – той прыклаў руку да грудзіны, – ні ў язычнікаў, ні на германскіх землях няма столькі красунь, як у вас, славян. А тут дзве – ну *Wunder* (цуд!). Тая свежанькая ягадка і твая, баярын, супружніца. Расквітнелая *Blume* (кветка!). Якая яркая і цёплая краса, якая ў замужняй, маці столькіх дзяцей *Figur*! Скажы, Юнона, ты то з высакароднага роду?

– Не, – пасміхнулася тая, зусім не бянтэжачыся, што пахвалец з зачараваннем азірае яе твар, высокую шыю, схаваныя пад нацельніцай, але ўсё роўна туга выпінастыя поўныя грудзі, яшчэ гібкі ды вузкаваты ў паясніцы стан, у меру важкія, поклічныя, каб непрыстойна пагладзіць, клубы. – І я з сям'і мужавага дружынніка.

– Але каб ты ведаў, – пацвяліўся Усяслаў, – колькі сіл патраціў я, зусім не красун, каб адваяваць яе ў маладога красунца. Дый і цяпер, скажу, гэр Генрых, па сакрэце, трэба трымаць вуха востра. Яна ж намнога маладзейшая. Я часам хачу ўжо задрамаць, а ёй падурэць карціць.

Любка – амаль равесніца яго дачкі ад першай жонкі-нябожчыцы, без цяжкай жаночай працы, з нянькай для дзяцей, пры мужавай любові, дастатку – цяпер сама расцвітала жаночай павабнасцю. Ёй нават зайздросціла Міндоўгава Марта, сама не без красы. Толькі яна, прыгажосць, яе не зусім харашыла, а вылучала рэзкасць у рысах твару, калючы позірк. Любка не абзыўнулася на Усяславаў жарт, спакойна, з любоўю і пашанотай прытулілася да яго, схіліўшы голаў на яго плячук. Як на мужаву моц і сваю апору. А Генрых не спыняўся:

– Юнона!

Пакуль той хваліў тутэйшых жанчын, да Марты падышоў хлапчына і, усклаўны на яе вянок, паўтарыў ужо чутае:

– Слаўся, каралева! Будзь здаровая і жыві сто летаў!

Марта адарыла яго. А яшчэ адна мілавідніца ўшаноціла Стукланда:

– Слаўся, кароль вояў Хрыстовых! Будзь здаровы і жыві сто летаў!

– Чым гэтыя простыя вянкі саступаюць лаўроваму, як лічыцца, самаму знатнаму? – усё захапляўся Генрых. – І чым простыя, але задушэўныя спевы, музыка саступаюць пышным урачыстасцям каранацыі, таму ж рыцарскаму турніру? Там многа пыхі, а тут – усё *naturlich*. А натуральнае самае вартае. Маё, спадар Усяслаў і спадарыня Любка, ну – *entzucken* (захапленне!).

Чуючы гэта, сталага ўжо знаўцы крыжакоў Усяслава глыбока не ўразіла, як гэты знавец і ўшанаванец таго, што "натурліх", супраць "натурліхавых" язычнікаў і блізкіх ужо да "натурлівага" праваслаўных хрысціянаў, Адно – чалавечыя пачуцці, іншае – дзея па выгадзе ці прымусе, калі ўсё "натурліх" адыходзіць убок. Для "вышэйшага, боскага". "Маміна і татава дачка", зразумела, ад імя ўсіх вітальных да замежнікаў звонка і выразна:

Як прыехалі госці
З далёкай валосці.
Ешце, госцейкі, піце,
Па-добраму пагаманіце.
Каб вы пілі-елі,
Вясёленька сядзелі.
Хто п'е, таму налівайце.
А хто п'е, той чалавек добры,
Хто не п'е, таго век доўгі.
Гаспадару чэсць, хвала,
Што бяседа весяла.

Тут лівонцы не толькі запляскалі, але, зачараваныя дзяўчом-спадарынькай (у Мазовіі такіх называюць *młoda panna, panienka*; апошняе ўпадабалі ды перанеслі адтуль і навагародцы. Дзяўчатак-падлеткаў аблашчвалі: паненачка), павабіліся да яе хоць дакрануцца і заадно адарыць. Сваёй манетаю. А Стукланд, як нядаўна сяброўцы гэтай іхняй вітальніцы, даў таксама залатую. Напаслед музыкі сыгралі ўжо і не гарэзна і не чулліва пяшчотна, а ўзвышана ўшанотна, як напрыканцы вяселля. Каб падаць урачыстасць за падзею. Ва ўсякім разе так усім здалося іхняе старанне змагчы перадаць свой настрой, сваё ўменне здабываць музыку з простых прыладаў. Пасля гэтага ўмельцамі граць і спяваць заапекаваўся дворскі: пры асобным стале дзяўчатам – квас, па сітніцы і па жменях сваіх і заморскіх ласункаў, мужчынскаму дзясятку – па кварце медавухі (хто з маладых не ўжываў, перадаваў старэйшым), па бохане чорнага хлеба, ладным кавалку свініны або ялавічыны.

Калі віншавальнікі і весялільнікі сышлі, Міндоўг без Марты ўжо (цяжарная; прытамілася найперш ад эмоцый, паклікала з сабой Усяслававу Любку і пакінула застольніцу. А за імі і тэўтонска-лівонскія святары) зноў паклікаў усіх амаль ацверазелых (медавуха, па сённяшняму, была не мацней за сем градусаў. – *Аўтар*) вярнуцца за сталы, дзе іх, апроч паспрабаваных ужо страў, чакала і новая пажыва. Толькі што пададзеная гарачая смажаніна і каша. Як для Навагародка, так і Літвы ячменная каша – не проста смачны з журавіна-аўсяным кісялём і наталяльны для голаду наедак, але і даўні звычай-абрад ушанаваць жывых і мёртвых, пэўную важную шчаслівую ці горасную падзею. Да Усяслава без жонкі папрасіўся падсесці пахваляльнік ягонай супружніцы Генрых (“А мне сумна са сваімі, у панцырах”).

Цяпер пачалі віншаваць Міндоўга, дадаваць здравіцы тыя, хто яшчэ не прамаўляў за сталом (у простага люду пажаданне было кароценькае: “Будзь здароў!”, “Будзьма!”). Паколькі свежая медавуха трапіла да ўжытай, то некаторых яна зноў захмяліла. Як вось і Усяслававага новага суседа.

– Я хачу сказаці, – закарцела яму. – Пра цябе, ваявода. Ты...

– Не трэба, – рашуча сашчапіў яму руку Усяслаў. – Хопіць таго, што ты нас нямала асвяціў сваімі ведамі.

– Праўда?

– Праўда.

– А я ж толькі глаголеў бегма. А пра цябе варта сказаць. Ты ж, нават слаўныя рыцары прызнаюць, удала вёў бой са сваёй дружынай у Мазовіі, зуграмі каля Карпатаў, два разы Данілу з Галіча адбіў, Выкінта выгнаў з Літвы, – нахваліў, а тады зашаптаў на вуха: – Ты і нашага С. тут моцна напалохаў... І перамовы з нашым комтурам пра гэтае каранаванне цвёрда вёў. Ён мне расказваў... І ў Рыме пра гэта ведаюць...

– Усё, усё, гэр Генрых, – Усяслаў не мог не суцішваць падпітага пахвальбіча. – Лепш давай кульнём за нашае здароўе.

– Кульнём, ваявода! – Узлахмачаны, з пасмай валасоў на прыпацелым лобе Генрых сам напоўніў яму і сабе келіх. – За наша прыемнае знаёмства. Я напішу і пра цябе. І добра напішу! Я ўмею цаніці слаўных людзей.

Міндоўг (а сёння ён, загартаваны вой у застоллі, піў мала) і таксама цверазаваты Стукланд павярнулі галовы на іх, зашумелых, і абодва паблажліва пасміхнуліся: разыйшоўся мэтр.

Паколькі вучаны муж яшчэ не раз хапаўся за амфару і ўрэшце выпусціў яе з акволеных рук, абліў стол, свае худаваты жывот і калені, Усяслаў, бачачы ўжо Стукландаву пахмурнасць, пакінуў застолле і павёў узвяселена-ўзбуджанага застольніка да сябе. За палацам, дзе ўжо ўпозніўся вечар і загушчвалася ноч, абапал пляца гарэлі ўжо дымныя светачы з бяросты і вытлушчанай паклі. Генрыхаву руку закінуў сабе за шыю, а самога падхапіў падпахі і ўзяўся весці Усяславаў аховец. Ды той дзёрзка адпіхнуся: “Я не ведаю цябе. Адыдзі. Я – з ваяводам”. Што ж, гэтак самому прыйшлося ўлукаткі весці небараку, у каго абнядужылі, запляталіся ногі.

Калі ўжо, хістаючыся, тупалі па сцішаным і прыцемненым пасадзе, дзе пасля сённяшніх уражлівых часін, квасу, медавухі амаль усе ўжо зажадалі апынуцца ў пасцелі (толькі ў некаторых будынках праз шкляныя балонкі мігцела свецелка ад лучыны: мо даглядалі хворага чалавека ці дзіця), Усяслаў учуў: за горадам, на выгане хтосьці адзінока цягне, нібы воўк, доўгі маркотна-нудны матыў. Мо п’яны прыпаў да дуба і, яшчэ не зусім абяссілены і несвядомы, усё ж не мог адысціся, вывываў, паколькі душа замест розуму і прытомнасці змушала да нейкага, нікому, нават самому чалавеку незразумелага напеву. Зрэшты, штосьці такое бывае і ў зусім цвярозых. Навагародская ахова суднаў па Нёмане не раз лавіла грабежнікаў, прыводзіла іх нявольнікамі. На кім была кроў, тых ёй і каралі. Іншых абцяжарвалі пэўнай працай. Летась скруцілі рукі аднаму яцвягу. Ён пад строгім назіркам цівуна моўчкі рабіў усё, што ад яго хацелі. Часам прасіў не большую скібу хлеба, а дазволу і з ланцугом ды калодкай выйсці на край поля. Там апускаўся на калені, пазіраў удалячынь і... тужліва выў. Паколькі былі ўдзячныя Тройдзену і яго брату з Яцвязіі за тое, што ўхіліліся памагаць Данілу ў яго паходзе на Ваўкавыск і Гародню, то запалоненага рана-позна адпусцілі б ці перавялі б у вольныя насельнікі. Але калі Усяслаў пачуў гэты стогн, загадаў, каб з нагі таго знялі ланцуг і авольнілі. Той так лапатнуў на захад, што толькі босыя пяткі заблішчэлі. Нават нічога ў дарогу не папрасіў.

– Не верым Міндогу... – Захіляў вольнай рукою, загугнеў Усяславаў спадарожац. – Вы яму тэж... Не верыце. Але ён вам для нужы... З вашай волі ён – князь. Цяпер кароль...

Што з таго, калі якраз цяпер згаджацца з пачутым або адмаўляць? Сур’ёзнай гутаркі не выйдзе. Хоць ад п’янага, разгаворлівага часам можна пачуць тое, што ён ніколі не скажа цвярозы.

– Хіба не так? – той упёрся, не пайшоў. – Ну, прызнайся.

– Мы, гэр Генрых, заадно.

– Ён – шэльма... З намі ашуканец. З вамі хітрун. Абы... Князь... Кароль...

– Сама судзьбіна паяднала нас.

– Рызе папомсціць. Ох, папомсціць! За бацьку... А Дзітрых... Малой сілай пабіў яго.

Усяслаў тады, гадоў з паўдзясятка таму, распытваў Міндоўга пра яго няшчасны бой з крыжакамі каля замка Амботэн. Сапраўды, у Міндоўга было нашмат больш сіл, але, апраўдваўся ён, магістр Дзітрых абнечаканіў наскокам цяжкай конніцы са спатайнай засады. То без моцнай повязі воінства з розных абшараў Літвы змяшалася, крыху стрэліла з лукаў, а потым разгубілася ад ахаваных жалезам коней, рыцараў (“іх жа страла ды нават меч не бярэ”) і пабегла. А яго даганялі ды нелітасціва білі ў спіну. Значыць, паход той быў непадрыхтаваны добра. Міндоўг паспяшаўся праславіцца як князь Навагародка і Літвы, як заступнік суседніх плямёнаў

ад лівонскіх нападнікаў (Усяслаў з навагародскай дружынай да Амботэна не хадзіў: сцярог паўднёвы край гаспадарства).

– Міндог і Стукланду не даруе. За спаленую родавую крэпасць. Прагоніце яго вы – яму ў чыстае поле ці ў лясы ісці... Нават Літва не прыме яго. Жамойць тым болей. А Рыга прыме... Наёмнікам.

– Мы не для таго яго паклікалі, каб потым праганяць, – сказаў Усяслаў і, каб змяніць прычэплівую гутарку, па-дружбацку прыціснуў мацней правідцу і свядома палесціў: – Мы рады цябе бачыць. Ты – светач розуму, ведаў розных, мысляр.

– Я... – У таго спадала напруга ў целе, у свядомасці, то ён усё больш абвядаў. – Я... Было лягчэй, калі жыў апякун мой, Альберт...

Усяславу цікава было ўведаць, чаму яму цяпер цяжэй. Хоць здагадваўся: той разумны і хітры епіскап дабіўся вельмі вялікіх і скарбу, і ўлады. Нават магістра падмінаў. Яго, Генрыха, узвышаў, ад свайго імя пасылаў на таемныя перамовы да славянскіх князёў. Пасля смерці таго магістры стараліся абмежаваць моц новага епіскапа і абіралі для сакрэтных дзей сваіх вылучэнцаў.

– Альберт амаль тры дзясяткі гадоў правіў, – перакінуўся на сваё Генрых. – І як правіў! Пакінуў моцную Лівонію.

Памаўчаў, збіраючы думкі. І захоплена:

– Усё ўмеў і мог! Словам Божым. Перамовамі прадуманымі. Дарамі. І мячом... Дом Божы амацаваў, у войнах Гасподніх перамагаў. Многа ахрысціў і падуладзіў язычнікаў. Палацеск прыструніў, змусіў яго міру шукаці. Каб яшчэ больш не страціць. Супернага караля данаў суцішыў. Зблізіўся з Плескавым, ажаніў брата з княскай дачкою. Адбіўся ад Ноўгарада. Юр'еў узяў, дзе склаў галаву ліхадзей Вячка.

Запыніўся ды яшчэ ўсвядомлена:

– Мала? Не. Многа! Сярод дзікай прыроды, сярод дзікіх тубыльцаў магутную дзяржаву зладзіў! Змусіў сябе паважаці! Палацеск, Смаленск, Плескаў, Ноўгарад, кароль данаў у яго міру прасілі! І ён даў мір!

Усяслаў моўчкі падштурхнуў, каб ісці далей. Той паплёўся, і ўжо з нараканнем:

– Без яго паднялі галаву язычнікі. Нават біці пачалі. То мусілі шукаці помачы ў братоў-тэўтонаў... Рыцарскую дзяржаву ўтварылі... Але і многа Аляксандру наўгародскаму дазволілі... Ён з Палацескам пабратаўся. Служыць Батыю. Нам дзярзіць!.. Я пішу не проста хроніку Лівоніі. Я падымаю Альбертаў дух, асвячаю кожны год яго слаўнага біскупства.

Дабраліся да адзінага цяпер з асвечанымі вокнамі Усяслававага двухпавярховіка (даследчыца старажытнага Навагародка Ф. Гурэвіч зазначала як незвычайную з'яву ў ім тое, што тут яшчэ ў дамангольскі час заможнікі мелі пабудовы са шклянымі вокнамі, дымаходы, чаго было мала нават у Вялікім Ноўгарадзе, а таксама мноства ўсяго іншаземнага. – *Г.Д.*). На першым паверсе, дзе былі печ для ацяплення і варыва ежы, кладоўка, гаспадаровы святліца і спачывальня ў зімовы час, прытулак для пакаёўкі, лавы і стол з лаўкамі, пры яснасці бяздымных свечак ў насценных медных свечніцах, іх сустрэла Любка. Пераапранутая ў шэры, з чырвонымі лініямі па прамакутніх клетачках андарак, з накідкаю на плячах, з распушчанымі пышнымі валасамі, перахопленымі па лобе стужкай. Візітант, намагаючыся сам утрымацца на нагах, паўзіраўся ў гаспадыню ў новым уборы і ўрэшце пазнаў, захістаўся да яе, абняў з радасным усклікам:

– Юнона!

Яна, каб не ўпаў, падтрымала яго. Клапатліва пад руку павяла да стала:

– Прысядзь на кут, госце шаноўны.

Пяшчотны жаночы голас усцешыў таго. Ён, намагаючыся трымасць пруткасць, паслухмяна пайшоў, апусціўся на лаву. Паставіў локці на стол, складзенымі рукамі падпёр падбародак і. не спускаючы з Любкі захопленага позірку, не без блазнаватасці:

– Юнона!

– Мо квасу жадаеш? – са спакойнай усмешкаю запытала тая.

– Чаму – квасу! Ві... Медавухі!

Цяпер ён мог бы яшчэ патрымацца і паволі паддацца сну. Даць яму зноў хмелісты мацунак – значыць, упаіць яго. Але як адмовіш? Любка вынесла з кладоўкі карчажку з накрыўкай, потым хлеб, мяса, з-пад фіранкі на сценнай паліцы ўзяла конаўкі.

– Віно... – Калі Усяслаў напоўніў конаўкі, Генрых абхапіў сваю, заплёскаў у ёй пітвом. – У люду з Усходу, у грэкаў, рымлян і багі любілі яго, весяліліся... Сын іх старшага Бога быў апякун вінаробаў, дазваляў тое, што грэкі называлі *orgia*... Невядома, як Адам, а ратавальнік роду чалавечага Ной многа піў... І цары, фараоны не адпіхвалі келіхаў... Славутая егіпецкая Хатшапсут ладзіла Свята (Ноч) радасці. З віном, з зямнымі ўцехамі... І Хрыстос не адмаўляўся... Які ён першы цуд учыніў? – Не чуючы адказу, сам падказаў: – Ваду пераўтварыў у віно! То мы не першыя. І не астатнія. То вып'ем!

Апаражнілі не цалкам налітую конаўку. Любка толькі абвільготніла губы. Да яды ніхто не дакрануўся. Новы ўзятак медавухі хутка скарыў госця. Ён заплюскаў вачыма, захістаў галавою і, здаючыся хмелю, Усяславу:

– Я табе скажу... А мо і не скажу...

Любка ўлучыла момант і па драўлянай лесвіцы хуценька падалася на другі паверх. Усяслаў пачакаў, пакуль іхні наведнік прымлее, а тады яго, ацяжэлага, адвёў у сваю святліцу на ложа. Скінуў з яго верхнюю апратку, абутак, накрыў радном. Той сцюцюрыўся, зацешана замармытаў.

Па-добраму трэба было не замінаць яму асоніцца, але Усяслаў рашыў непрыгожа, але патрэбна скарыстацца момантам, і моцна затармасіў таго за плячук:

– Отакар! Отакар! Отакар!

Той змог паўтарыць:

– Отакар.

– Дзе збор яго сіл?

– У Эльблёнгу.

– Куды ён пойдзе?

– У Самбію.

– Многа ў яго воінства?

– Трыццаць... Сорак тысяч... Больш... Гедуне...

– Што – Гедуне? Чуеш, што? Ге-ду-не?

– Ён паможа...

Усяслаў прадаўжаў трэсці таго і выпытваць:

– Яцвязія! Чуеш, Яцвязія? Зноў пойдуць на яе Даніла і Зямовіт?

– Пойдуць. Даніла – каралём ад тэўтонаў... Падзялілі...

– Што падзялілі?

– Яцвязію. Трое...

– Калі туды будзе іхні паход?
– Я не...
Далей вымагаць звесткі пра толькі крыху чутае, але без ведама патаемных драбніц не выпадала: мармытун праваліўся ў сон. Але Усяславу хапіла і абрыўкаў яго, каб астатняе самому дадумаць. Ён пакінуў спачывальню, замкнуў уваходныя дзверы, патушыў свечкі і з адной падняўся наверх, да Любкі.
– Угаманіўся? – пасміхнулася яна.
– Заснуў.
– Чаго ён так да мяне: юна ды юна? Лічыць мяне зусім маладою?
– Юнона. Рымская багіня-сямейніца, – усцешна адказаў. – Як у нас Цёця.
– Разумны, многа чаго ведае, умее хораша гаварыці, але медавуха і яго абнядужыла.
– Медавуха такая. Змушае ў яе ўлюбёным быць. У Мазовіі нават праклён ест: каб ты медавуху палюбіў! Значыць, каб спіўся, асвінеў і загібеў.
– Дзякуй Богу, ты не ўлюбіўся ў такі напой.
– Ты, Юнона-Цёця, мая берагіня. І дзеці.
Абняў. Пазіраючы ў яго вясёлыя вочы, Любка не проста заўсміхалася, а радасна заззяла жаночым шчасцем, прытулілася ўсім целам, як умее, здольвае, яшчэ не растраціўшы пачуццё, парадаваць, нават успламяніць любімага мужа і самой пацешыцца толькі жонка.
– А ты, мусіць, і не прыкмеціў... – мякка папікнула, паціснула пальчыкам кончык яго носа.
– Што?
– Мне ж прыйшлося не адзін раз выскокваць ад мяса на стале...
Як тут усяго не зразумець:
– Пятае?
– Пятае.
– Ці не застары я, Юнона-Цёця, для новых дзяцей? Мне ж ужо...
– Тады трэба было даваці мне спаць, пакінуці ў спакоі мае "падушачкі...". Не распаляць... Не ўтуляць у іх свой твар...

Назаўтра, ужо ўднелай раніцай, Усяслаў завітаў да госця. Пастукаў у дзверы, а тады, спазнаўшы, што яны так і не з накінутым кручком, зайшоў у прыцемненую бакавіцу. Падаў голас:
– Спіш?
– Не, – хрыплы адказ.
Ён адцягнуў убок шчыльную занавеску на акне – адразу ж невялікі пакой напоўніўся ўжо ўстоеным надворным летнім святлом. Генрых ляжаў у тым, у чым яго паклалі. Узлахмачаны, з цемнаватымі западзінкамі пад вачыма. З-за яркасці віднаты заплюшчыў іх, пацёр.
– Як спалася, мэтр?
– Як бервяну. Ты рыпнуў дзвярыма – тады абудзіўся.
– Чуў: ноччу пагрымела крыху, дождж прайшоў?
– Не. Сёння ніякай бессані не было. Толькі цяпер спазнаю: прачнуўся ў новым каралеўстве.
– Мо медавухі на апахмел?
– Не-не! – замахаў рукамі. – Не ведаю, што на мяне ўчора найшло. Я ніколі столькі не піў. Учора ваша медавуха ў рай несла. А сёння – пекла.

І галаве, і душы цяжка. Сорамна. Хоць скрозь зямлю праваліся. Не выпадкова іслам забараняе сваім піць. Ды ў іх іншае. Дым ад нейкага зелля ўцягваюць і чмурэюць да таго, што нібыта лётаюць у высях нябесных. Ад таго дурману, кажуць, потым тэж нямілы свет, гідкі сам сабе.

– Цела млекам-кісляком, гарачай курынай поліўкай, блінамі з верашчакай, яечняй, кулешам са скваркамі, тварагом са смятанай падлечыш. А душу супакой. Няма за што саромецца.

– Ест. Прыпамінае дурная галава: даў волю свайму ўражыне...

– Ды не, – супакойваў Усяслаў. – Ведаеш многа, то і хацелася пагаварыць.

– Прашу: змаўчы маю ганьбу, – той прыклаў руку да грудзіны. – У п'янага язык – памяло. Няхай не выйдзе з хорама тое, што мой вораг наплёў. У п'янага язык – памяло.

– Не выйдзе, мэтр. Хоць і няма за што табе асцерагацца. Ніякіх вялікіх таямніц ты нам не перадаў.Так сабе ўсё. Жыцейскае.

– На Міндога нагаворваў?

"Не відно, што выпытвае, каб пераправерыць мяне", – падумалася Усяславу, а ўголас супакоіў: – Ды не.

– Добра. А то... А часам новых нашых біскупа і магістра не ганіў?

– Не.

– Ух, – уздыхнуў. – Хоць крыху палягчэла на душы. Ну, а пра што балабоніў?

– Ды злаваў мяне, – непарушна "папікнуў" Усяслаў. – І моцна.

– Як? – занепакоіўся той. – Чым?

– Хацеў адбіць у мяне жонку.

Упершыню за гэты час учарашні неасцярожны гулец усміхнуўся: не мог не зразумець жарт.

– Яна ў цябе не проста файная, – сказаў, як было добра відаць, шчыра. – Па-нашаму, *eine schöne Frau*. Разумееш, што гэта такое?

– Не.

– Жанчына-красуня.

– Юнона? – прамовіў Усяслаў з прыязнай усмешкай.

– Юнона. Ну, а пра грамату гаварыў я? Слова "*Geschenk*" упамінаў?

Тут ужо, як кажуць, усёй душой Усяслаў шчыра пацiснуў плячыма:

– Не помню, мэтр. Але, здаецца, не.

– Мне даручылі спачатку з табой перамовіцца... Трэба Стукланду, Альбрэхту зрабіць невялікі, але годны падарунак.

– Зробім, – не запярэчыў Усяслаў. – Падкажы, што ім найлепш паднесці.

– Падкажу. Будзь ласкаў, падай мой сурдут.

Генрых цяжкавата прыпадняўся, сеў, падпёрся ад сцяны пуховай падушкаю. Усяслаў узяў са столака цёмную апратку і перадаў яму ў рукі. Той адхінуў крыло верхняй накідкі, дастаў з кішэні падкладкі незвычайны, не бяроставы і не скураны шараваты скрутачак і працягнуў яму. Бачачы Усяслававу цікаўнасць да колеру і памеру пададзенага, патлумачыў:

– *Das Papier*.

Калі разгарнуў гэты "папір", кінулася ў вочы адмысловая пісаніна. Па-славянску. Адразу ўразіў загаловак. А далей, як і ўчора ва ўхваленай перад каранацыяй Дамове, тут таксама спачатку было напісана, што Міндоўг і браты ордэна Тэўтонскага і Лівоніі клапоцяцца пра святло веры Хрыстовай. А паколькі найсвяцейшы айцец Інакенцій IV каранаваў яго, Міндоўга, то

ён, кароль, хоча аддзячыць і перадаць братам з Лівоніі некаторыя воласці і паселішчы. Дзе цалкам, а дзе па палавіне. Быў запісаны пералік тых мясцін. Вось гэта і быў *Geschenk*. Падарунак.

Усяславу ажно шухнула кроў у скроні: нічога сабе “невялікі, але годны” паднёсак! Вымаганне! Пажылец-бывалец, ён паспяшаўся згадзіцца на Генрыхаву параду, не ўведаўшы, *што* гэта. А яно – не столькі шчыры поклік, нават не аднаразовая *даніна*, а вялікая, страшная на будучыню **саступка**. А то і горш. Ён нібыта ўзяўся павольна перачытваць, а на самой справе абдумваць спазнанае ўжо. Лівонцы зажадалі, каб аддалі ў іхнія рукі на стыку зямель розных плямёнаў некаторыя абшары не толькі ўласна Міндоўгавай Літвы, дзе Вілія ўпадае ў Нёман, а яшчэ і асобныя акрайкі Жамойці ды такія-сякія закуткі ва ўсходняй, пад іхнім крылом Дайновы, дзе правіць яго друбак Тройдзень! Вунь як хочуць абуць у лапці і колькі зайцоў забіць адной стралою! Як перад сном пацвердзіў навагародскія здагадкі Генрых, Даніла, Зямовіт і тэўтоны пойдуць закончыць захоп ужо тайна падзеленай Яцвязіі. Калі Отакар возьме досыць моцную прускую Самбію (заходнія разлогі сённяшняй Калінінградскай вобласці. – *Аўтар*), то перад ім не ўстоіць слабейшая ўсходняя Надровія (з прынёманскай Скалвіяй і пазанёманскай Ламатой былі суседзі Жамойці. – *Аўтар*). Перамогшы, Отакар выйдзе на названы для падарунку Лівоніі прастор і тут сустрэнецца з ёю. Больш – тэўтоны і лівонцы абкружаць амаль усіх прыморскіх язычнікаў. Абавязкова, як гэта яны любяць, пачнуць адразу ж будаваць крэпасць-замак. Мо і некалькі іх. Гэта не можа не перагарадзіць нават Навагародку пуцявіну да вусця Нёмана, як раней непрыступней за тамашніх прыморцаў лівонцы засланілі Полацку доступ да мора па Заходняй Дзвіне. А паколькі цяпер Навагародак і Літва не павінны памагаць Жамойці, то Лівонія смялей накінецца на яе, пакуль што здольную не даць сябе знядужаць. Значыць, на яе раз за разам будуць учыняць паходы, знясільваць. І ўршце мо і заваююць. А тады... Трэба, трэба не разяўляць рот і лавіць мух, а мацаваць, мацаваць навагародскую крэпасць, будаваць новыя. Таму нядаўна ў дзядзінцы заклалі высокі ўжо з каменю і вапны падмурак для мураванай вежы. У задуме – яшчэ некалькі мураваных веж, тоўстых праслаў сцен і ўваходнай брамы, а таксама на ўсходнім схіле пабудова асобнай, калодзежнай вежы, каб заўсёды мець у будучым замку сваю ваду і заадно ўплясці яе ў абарону. Зразумела, каб споўніць гэтыя намеры, патрэбныя час, выдаткі, адмысловыя мысляры вылікаў, умельцы-дойліды і вапнікі (мелу для яе ўдосталь, нават можна прадаваць іншым, але не кожны здолее пры яго абпальванні ды сукрананні з вадой засцерагчыся ад атруты ці выбуху). І ўсё ж галоўнае – мір, спакойная праца для ўсякага твору думкай, здогадкай і рукамі.

– Вы паказвалі свае намыслы Міндоўгу? – запытаў Усяслаў.

– Не ведаю, – той пацікнуў плячыма. – Гэты накід дарчай граматы мне ўчора, у пярэрве гулянкі перадаў *sekretarius* нашага магістра. Каб я паказаў табе. Як каралеўскаму ваяводзе.

– Такі дар, мэтр, не абы-які... – пахітаў галавою Усяслаў. – Рэдкі і незвычайны... Тут усё больш мудрагеліста, чым гульня ў шахматы, – паказаў на столік, дзе ляжала прадаўгаватая ліповая з markнымі каляровымі наклейкамі скрыніца з касцянымі фігуркамі (ён тут усіх перамагаў, чым асабліва засмучаў Міндоўга так, што той ад пройгрышу не проста пунсавеў, але ажно бурачковеў. Толькі з лівонскім перамоўшчыкам Штырэ сыгралі ўнічыю). – Я павінен перамовіцца з каралём.

– *Bitte*, перагавары, – згадзіўся той. – Але да цябе просьба: ухвалі. Тады і Міндог лягчэй згодзіцца.

“Няўжо той спіхвае *такое* на мяне? – занепакоіла Усяслава. – Гэта ж не проста хібнае раздорванне свайго ці адступніцтва ад таго ж Трайдзеня. Гэта – *на шкоду* самім сабе. Падсякаць сук, на якім сядзіш!”

– Лішне не моршч лоб, не пакутуй, – пасміхнуўся-параіў суразмовец. – Тут не закранаюцца навагародскія землі. Воддальныя, язычніцкія. Ваша згода на нашы крэпасці на іх падсобіць ахрышчэнне паганінаў. То пайдзі насустрач, адобры. Гэта прыязна ўхваляць магістр, імператар і папа. Калі Міндоўг сваё вялікае ўжо займеў, дык цябе чакае іхні шчодры *Geschenk*...

Прыемнае ўражанне, што склалася ва Усяслава пра Генрыха фон Летланда, пазмрочылася: нібы прыяцель, але вунь куды і на *што* ўцягвае. Хоць якое тут дзіва? Вядомая рэч: кожны воўк мае свой, воўчы завад...

– Я ўсё ж мушу перакінуцца словам-другім з Міндоўгам, – у меру халаднавата настояў на сваім ён.

– Думаю, цябе чакае не проста падарунак, а ўзнагарода... – зацікаўліваў, нават спакушаў перамовец. – Па-дружбацку падкажу: срэбра і золата ў іх многа. То і патрабуй нямала. – Прамаўляў абдумана, але ці наўмысна, ці па неасцярозе прагаварыўся: – Нідзе не дзенуцца, дадуць. Землі тыя даражэй за скрыню металу. Золата разыдзецца, а зямля вечная...

– Вось іменна, – холадна вымавіў, як працадзіў Усяслаў. – Тут ты залатую праўду гаворыш!

Ненадзейны прыяцель асекся, разгублена зазірнуў яму ў вочы, залыпаў вейкамі: мудрэц, але неабачліва прагаварыўся, дазволіў падлавіць сябе на патайным.

Да раз’езду гасцей пасля яшчэ адной гулістай ночы і ранішняга лекавання Усяслаў перакінуўся словам-другім з Міндоўгам (рашылі іменна такой дароўнай граматы не падпісваць, а відавочна ахмурана-непрыязнаму Стукланду Міндоўг сказаў: “Брат, абдумаем, якія паселішчы табе перадаці. Ды трэба час, калі люд з іх зажадае перабрацца ў інакае месца”. – “Мы ў любы час дазволім яму выехаць”. – “Усё ж варта пагаварыці з ім. Гэта ж няпроста – сарвацца з наседжанага месца”. – “Калі шкода даць, то гаварыце, колькі хочаце за гэта ўзяць”). Паасобку паразмаўляў з Даўмонтам і Гердзенем. Непрыяцелі паміж сабою, тым не менш абодва не былі вельмі радыя за падвышак Міндоўга, асцярожна абуджалі ў яго недавер да таго: глядзіце, каб... А ім ён параіў: забудзьце старыя крыўды, адганіце ўсякія страхі і больш падумайце пра лёс свайго люду. Упіта (суседка земгалаў; тыя, пабочнікі дзвінскага Кукейнойса, у свой час адбіліся ад полацкага націску. – *Тут і далей аўтар*), Дзевалта (памежніца з сёламі, блізкіх па Ліелупе (Зах. Дзвіне) да Герцыке, да крыжакоў плацілі Полацку даніну), Нальшчаны (межавалі з Полацкай зямлёй. Лічыцца, што іхняй сталіцай было Крэва) – усе трое, менш слухайце падбухторванне Выкінта. Больш выйграеце, калі цалкам прызнаеце вяршэнства саюзніка лівонцаў Міндоўга і жвавей пачнеце спрыяюць хрысціянству: тады спрыяльней будзе адпіхвацца ад лівонскай прычэпкі. З клецкім, слуцкім і тураўскім князямі па-сяброўску паразмаўлялі пра сёлетнія спрыяльныя сенакос і ўродную збажыну без ніякіх недагаворак і дамаганняў. З пінскім Міхаілам і з бліжэй паўднёвымі ўладцамі падаўся Войшалк, і ў іх нават у дарозе будзе нямала часу, каб перамовіцца пра сумесныя і свае інтарэсы. Адведнікі з

полацка-менскай зямлі не выявілі сваіх думак пра каранацыю, але з ахвотай падтрымалі ягоны ход, каб перакінуцца рознымі пабочнымі досціпамі. Але пры развітанні ён, моцна ціснучы руку баярыну з Менска, уклаў у жарт зусім не пацешку: "Ваяваці будзем?" – "Не", – моршчачыся, вымавіў той (не кожны мог вытрываць Усяславаў "жалезны" поціск: рукамі ён мог разагнуць падкову). – "То будзьма!" – "Будзьма!" Транята не выявіў патрэбы сустрэцца з ім, увесь час цёрся каля дзядзькі і лівонцаў.

Зусім нечакана папрасіў Усяслава дазволу пагаманіць лівонскі манах. Паджылы, худы, з русявымі космамі пад старым шарсцяным каўпаком. Густыя светлыя бровы, тонкія сціснутыя губы маглі сведчыць пра цвёрды характар, але шэра-блакітныя вочы выяўлялі ангельскую ціхмянасць, пакорлівасць кожнаму, да чаго яшчэ пасаваў паношаны доўгі, некалі чорны, а цяпер выцвілы, з адкінутым на плечы нагалоўнікам балахон, падпразаны аборынай. На каранацыі ўсе асабліва ўважліва назіралі за ім, мо лічачы, што яго беднасць ад нейкай к*а*ры яму. На сытных вячэрах, сняданках яго не было.

"Што – і чарнарызнік будзе ўгаворваць? – нядобра падумалася Усяславу. – Заклікаць спаўняць Божы помысел?"

Запрасіў яго ў грыдніцу, куды звычайна клікаў на гутарку паасобку ці ўсіх разам старэйшыну віжоў, тысяцкага, сотнікаў, дзесятнікаў, старэйшых знатных дружыннікаў (у мірны час заўсёды мелі напагатове толькі да паўсотні ваяроў. Для паходу ў Мазовію, да Карпат збіралі ў разоў пяць большую дружыну, для войнаў з Данілам аполчваліся – збіралі баявы полк і спаможнікаў яму. Зразумела, мелі і невялікі запас). Паселі насупраць за доўгім сталом са шчыльна падагнаных, абшараваных і нацёртых воскам дошак. Грыдзь-прыслужнік падаў Усяславу квасу, манаху – яшчэ і лусту чорнага хлеба, пучок цыбулін, салонку (ад мяса адмовіўся).

– Я, ваявода, уважліва слухаў усё, што вы гаварылі на каранацыі, – знясілец сваёй плоці ўмеў гаварыць і па-славянску. – Мэтр Генрых піша хроніку Ліфляндыі з часу прыезду са святой місіяй сюды Мейнарда – святога айца ордэна Блажэннага Аўгусціна. Але ён толькі называе тых, каго пачалі ахрышчваць з таго часу, і іхнія паселішчы. Я ж хачу апісаці ўсе блізкія і далёкія па суседстве, родзе, малыя і вялікія языцы ў Еўропе. Пра даўніну, звычаі іхнія, лад, веру і інакія адметнасці. Пра найболей ведамыя войны, што многае мянялі. Каго ўзвышалі, а каму неслі занядбанне. А то і горш.

"Вось так, – падзівіўся Усяслаў, бачачы, як цяпер вочы ціхамірцы ажывіліся апантанасцю. – Гэты ўбожац – зусім не прастак".

Той заўважыў яго подзіў, прыўсміхнуўся:

– Дзівяць мае лахманы? Я як у вас старцы? Не тыя, хто кіруе, а тыя, хто гаруе? Ходзіць з кіем, з торбай і просіць хлеба.

Пасміхнуўся і ён. Толькі з няёмкасцю. Адразу не разабраўся, што за адасобнік ад мірскіх уцех. Наліў у конаўкі квасу. Адпілі па пару глыткоў.

– Чуў пра Францыска Азізскага? – запытаў мніх. – Я за яго запавет служыць не целу, а Богу. Таму і не саромлюся выглядаць жабраком. Хаджу з кіем-посахам з краю ў край, назіраю за ўсім. У маёй суме не столькі ядзь, колькі кадоўбчык з мешанінай фарбы, просты папір, бывае, і бяроста, пук гусінага пер'я. Праўда, запісы вяду асцярожна: каторыя баяцца за сваё запісанае слова. Стараюся начаваць, мець хлеб і ваду ў просталюдзінаў. Яны грубыя, але больш добрыя, з Богам у душы. Асцерагаюцца шчыраваці, калі выйдзеш з варот багатага, але нялюдскага іхняга гаспадара. Куды не магу трапіць, пра тое распытваю купцоў, падарожных. Пра ваш, дрыгавіцкі

край, тэж пытаўся ў знаёмых і чужых людзей. То напішу. І пра каранацыю Міндога. Генрых раскажа па-сваему, а я – як і што сам бачыў, пачуў.

Нічога не скажаш, прыемна ўразіў. Пра такіх кажуць: ходзіць у чорным, але красна мысліць. Хоць сярод іх, чорнараснай брацііі, нямала людзей разумных, начытаных, думных і вынаходлівых. Дый напісалі яны мудрасцяў розных шмат. Праўда, ён, Усяслаў, чуў, што галетныя богаслужнікі з ордэна Францызска вельмі зацятыя, высочнікі “ерасі”.

– Маю, ваявода, да цябе запыты, – пакуль гаварыў толькі госць. – Калі ведаеш, то адкажы. Мне яно трэба, а вам карысць.

– Слухаю цябе ўважліва, – прамовіў ён спакойна, але не пасяшаўся запэўніць, што будзе шчыраваць.

– З таго, што чытаў наш Генрых і я, мы ўведалі: вас, дрыгавічоў, першы назваў пад 948 год візантыйскі імператар Канстанцін Багранародны. Мо маеце яшчэ звесткі пра ранейшае сваё? Прыдунайскае?

– Не, – тужліва пахіляў галавою Усяслаў. – Ні ў нас, ні ў нашых суседзяў да хрысціянства не знайшлося такога пісьменнага дапытніка, як ты, каб запісаць пра тое.

(І ў самых новых даследаваннях гісторыкаў прышэсце дрыгавічоў да Прыпяці, Буга, Дняпра, Панямоння, Друці пазначаецца неакрэслена: 6-8 стст. – *Аўтар*).

– То і вы не знаеце, хто тут жыў да вашых прадзедаў?

– Як дзе. Пінскі князь расказваў: калі яны вялі будоўлю на старым гарадзішчы, то выкопвалі розныя крамянёвыя, каменныя прылады, гліняныя гаршкі, конаўкі. А жалезіны якой, бронзы, медзі не было. Ваш Генрых на гэта мне сказаў: тыя людзі жылі не адну тысячу летаў да Хрыста. Але адзін Бог ведае, хто яны былі і калі іх не стала. Тут, каля нас, дрыгавіцкія прышэльцы адціснулі за Нёман літву і яцвягаў. Змяшаліся з тымі, хто застаўся ці потым перабіраўся, выходзіў замуж сюды. Былі ці не тады войны памж імі, ніхто ўжо не помніць. Дзед мой расказваў, што і пры ім Літва праз нашы абшары хадзіла далёка на рабункі і вярталася дамоў. Значыць, суседзіліся мірна. Супроць яе, Яцвязіі, болей дзвюх соцень летаў таму кіеўскі князь у згодзе з палацескім сынаўцом заклаў тут старожу, што вырасла во ў гэты горад. А калі ў нас у тым веку заявіліся князі з палацескага роду, то яны прывялі з сабой і крывіцкіх дружыннікаў з сям”ёй. Наш край стаў яшчэ болей славянскі.

– А што можаш сказаці пра даўніну сэрцавіны вашай, Турава, да заваёвы яго хрысціцелем Русі Уладзімірам?

– Толькі тое, пра што хадзілі паданні. А пачыналіся яны з таго, што там князіў брат палацескага Рагвалода Тур, – пачаў успамінаць некалі чутае ад князя Ізяслава Усяслаў. – Нібыта ён яшчэ пры Рагвалодзе ахрысціўся і пачаў будаваць храмы. Пасля ўкняжання ў Кіеве Уладзімір-язычнік удала схадзіў на яцвягаў па даніну. Язычніцкія светары рашылі ў гонар гэтага прынесці Перуну ахвяру. Выбралі госця, Туравага сына-хрысціяніна. Бацька заступіўся. То іх абодвых забілі. Пасля Тура правілі два сыны. Здаецца, Уладыка і Камар. А калі яны раптоўна адзін за адным адышлі, а потым і жонка малодшага, то Уладзімір узяў на шчыт Тураў і паставіў там князем сынаўца Святаполка. Затым правілі пасаднікі. Пазней, пры Уладзіміравым сыне Яраславе тураўскім князем стаў яго сын Ізяслаў. Праз немалую пярэрву ўжо новыя Ізяслававічы князяць там і цяпер. Ды ў Пінску, Слуцку, Клецку. Апроч іх сталіся і яшчэ інакія княствы.

– Не навіна, – злёгку пасміхнуўся размовец. – Усюды так: як толькі вырасце горад, то адразу хоча стаць сам па сабе.

– Ды так, – у тон яму прамовіў Усяслаў.

– І колькі ў вас гарадоў?

– Каля дваццаці.

– Я лічыў: менш.

– Звычайна ідзе чутка пра новы горад, калі нехта на яго нападзе ці калі ён на некага, – патлумачыў Усяслаў. – Або яшчэ што небывалае выйдзе. А калі ўсё спакойна, то яго і не ўпамінаюць. Тым больш, што некаторыя гарады невялікія, без моцнай крэпасці. Там князь або пасаднік сядзіць ціха, абы яго не чапалі.

– Як сказалі мне, у вас нават пад дзясніцай Кіева доўга было сваё, дрыгавіцкае кляймо, – зноў асур'ёзіўся манах. – Але яшчэ ў тым веку з новымі княствамі вызначыліся і новыя адметы. Цяпер, як сказалі мне, ужо трэба гаварыці не пра вашу дрыгавіцкую супольнасць, а пра два буйныя і адрозныя яе асяродкі. Пінск і ваш з Літвою. Так?

– І ў нас выйшла тое, што некалі ў крывічоў, – адказаў ён. – Была крывіцкая супольнасць, а потым, з гарадамі і княствамі, з яе выбуйніліся Палацеск і Смаленск. Як ты кажаш, адзін час не ўцярпелі адзін аднаго, узяліся за меч. І што? Палацеск як быў, так і застаўся сам па сабе, а Смаленск заняпаў удзелам у складзе Русі.

– А што ў вас будзе далей? – зацікавіла госця.

– Як і ўсе, жыцьма. А якое будзе жыце, пра гэта толькі Усявышняму ведама.

– Не будзеце турзацца, як Палацеск і Смаленск?

– Чаму гэта цябе, богаслужніка, так цікавіць? – лагодна, але з пэўным недаверам запытаў Усяслаў.

– Проста, – быў непарушны адказ. – Як вядома, два мядзведзі, нават браты, не толькі ў адной бярлозе, але і на блізкай прасторы не ўжываюцца. Дужэйшы праганяе слабейшага.

– Склалася так, што амаль сто гадоў таму Пінск асамастоіўся, крыху пазней гэтага дабіліся і мы. А калі да нас пагарнуліся непалескія княствы, то мы мясцінамі сыйшліся ўпрытык. Але не зачубіліся па-мядзведжаму за прастрань. Каму ісці далей, каму саступіці. Як і ўсе дрыгавічы: у бойку ніхто – ні з кім! То і цяпер няма ніякіх прычын, каб парушыць паразуменні нашых былых князёў, наказ іхні жыць у згодзе.

– Але я, ваявода, чуў: Пінск нядаўна памагаў галіцка-валынскім князям у паходзе на вас. Значыць, ён...

Усяслаў не стаў чакаць высновы, перабіў дадумніка:

– Ён пайшоў з тымі пад пагрозай вайны супраць яго. Але малою сілай. І паперадзе яна не ішла, была ў абозе. І не да канца. Мы за гэта не пасварыліся. Зразумелі адзін аднаго. Ест інакія ніці, што нам трэба не абарваць...

– Лічана дзе так бывае. Не толькі ў братоў, але і сыноў з бацькам або наадварот.

– За гэта мы найперш дзякуем Усявышняму, што ён не дазволіў злыдуху і ў няшчасці, і ва ўдачах замуціць дрыгавічам розум. Цяпер, калі мы разам з Літвой, Пінску нас не ўзяць. А мы нават не думаем на яго нападаць. Ужывемся. Кожны сам па сабе і... супольна...

Свядома не дадаў: цяпер ні ім, ні пінянам не выпадае буяніць, нават

думаць пра гвалтоўнае злучэнне ў адно пад сваім вяршэнствам. Будзе патрачана шмат вельмі патрэбнай сілы. Ды пра гэта перададуць тут жа Батыю. А той зацікавіцца, што тут і да чаго. Што там за малойцы? Батыевай увагі аніяк не патрэбна. Ага, пабагацелі? Давайце падаць. Не слухаецеся – самі прыйдзем, возьмем, што трэба, а вас... Выйдзе тое, што летась з бунтаром Андрэем з Паўночнай Русі... Цішэй едзеш – далей будзеш.

– Маю просьбу да вас, – суразмовец перамяніў гутарку. – Я хацеў бы прайсціся па вашай зямлі, паглядзець краявіды, людзей. Казалі мне, асабліва адметнае, яркае па самабыце – гэта на Прыпяці. То дазвольце схадзіці туды. А каб у якім горадзе, паселішчы не схапілі мяне як скрытнага ліхадзея і не кінулі з каменем у вір, дайце ахоўную грамату.

– Я перагавару з Міндоўгам, – Усяслаў палічыў патрэбным не адмаўляць. – Ён, думаю, згодзіцца, загадае яшчэ даць табе каня, праваднікa, ахоўцаў. Будзеш вандраваць і па многіх лясах, а там нямала не толькі чатырохногіх, але і двухногіх ваўкоў, мядзведзяў. А яшчэ рысяў, ласёў і такіх веліканаў, як тур. З імі тэж трэба асцярожнічаць.

...Міндоўг не запярэчыў, толькі зняверыўся: “А ці не прыкідваецца ён святой авечкай? Ці не воўк-віж у яе скуры? Яны – адпетыя падманшчыкі, круцялі. Любяць пусціць пыл у вочы і абвесці вакол пальца. Як во з дароўнаю граматай...” – “Ён будзе пад назіркам нашых людзей”, – супакоіў Усяслаў.

...(Не зусім прыдуманы прыпадак: сапраўды, у тыя часы, што тут апісваюцца, на абшарах прыбалтыйскіх язычнікаў працягвалі прапаведаваць каталіцкія місіянеры. Пазней адзін з іх склаў на лацінскай мове трактат “Апісанне земляў”. Але свайго імя чамусьці не пазначыў. У творы, паводле В. Чамярыцкага, падаецца кароткая геаграфія Еўропы, месцы многіх народаў і плямёнаў, у тым ліку Навагародка і Літвы, Полацкай зямлі, названай *Alba Russia* (Белая Русь). Ёсць упамінанне пра каранацыю Міндоўга. Рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы ў Дубліне. – *Г.Д.*).

Якія ні былі б зямныя свята, радасць ці, наадварот, горасці ды беды, у прыродзе ўсё дзеіцца па заведзеным Усявышнім ладзе. Для ўсяго ўтворанага ім свету і люду. Вось і пасля сённяшняй раніцы, ужо дзянінай сонцу патрэбна было над лясамі паімкнуцца ўгору, каб чым болей апраменіць краёў, злёгку аблакітніць неба, што яшчэ без воблакаў вісела неазначанай шараватаю вышынёй. Убіралася ў сілу летняя, пакуль што ціхая пар*а* самага шчодрага на прыпёк месяца.

Паперадзе гурту вояў па ўтаптанай, з каляінамі, сям-там з выбоінамі дарозе ў Макрэц, адкуль у Навагародак прывозілі добрую гліну для ганчароў, конна падаваліся трое. Юндзівіл, Трайдзень, Усяслаў. Моўчкі сузіралі адмысловыя навагародскія краявіды – лагчыны, палосы аранай зямлі са збажынoй, то буйныя і прадаўгаватыя, то менш узвышкавыя і кароткія ўзгоркі са спадам зноў у роўнядзь (узімку ўцеха катацца дзецям на санках і лыжах) ці ў глыбакаваты роў-яр. Што да ўзгор’я, то, кажуць, непадалёку за Нёманам “ест велькая гара і нідзе вышэйшай за яе нямашака”. Гэта, канечне, ва ўяўленні тутэшніх людзей, бо толькі лічаныя з іх, дружыннікі з Навагародка і Літвы, бачылі сапраўдныя горы, Карпаты. Але, ведама, занямонцы здаўна сваёй “гары” пакланяюцца, называюць яе Святой.

Конны гурт моўчкі мінаў сустрэчныя выганы са статкам пярэстых і падласых кароў, цялят і авечак. Уехалі ў даволі буйнае, з адной прадаўгаватай вуліцай і з некалькімі завулкамі паселішча з наземнымі пабудовамі. Валова. Паколькі Усяслаў быў тут часта, то ведаў амаль усіх гаспадароў як невялікіх, старых, накрытых пачарнелай саломаю, з зацягутымі слюдзянымі палосамі або звычайным бычыным посікам прарэзямі для святла між двух бярвёнаў курных хацін і пад адным покрывам прыбудовак для жывёлы, збажыны і сена, агароджаных плеценем з галін, так і больш прасторных, накрытых дранкай ды з комінам, з зашклёнымі акенцамі асобных жылых будынін, ад вуліцы адзеленых частаколам. І аднесеныя хлявы ды гумны, поле былі амаль ва ўсіх "дымах" (гаспадарках сельнікаў-аратаяў, ганчароў, бондараў, кавалёў, цівуна, старасты) з падобнай абгарожы. З жардзяніку. Ад бацькоў, бабуль і тут пераймалі іхнія сакрэты варажбіты, шаптухі і лекаркі рознымі зёлкамі (праганяць сполах, лячыць жывот, рожу сюды прывозіў Усяслава бацька, а ён – сваіх дзяцей. Міндоўг таксама). Асаблівую павагу і далей Валовы мелі туташнія павітухі, умельцы "злягчаць" кнырука, каня, майстравітыя людзі, воі. Як амаль у кожнай весі, час ад часу заводзіліся і злодзеі, асабліва лясныя, хоць іх каралі вельмі строга, а за крадзеж і продаж коней – смерцю. Не абыходзілася і без сварак, боек. Вернікі хадзілі ў недалёкую навагародскую царкву. Блізка, амаль усе ішлі пехатой, босыя, перад царквой абуваліся. На падводзе ці на санях з курачнікам прыязджалі заможныя (яны на зіму прывозілі да папа сыноў, каб іх навучылі чытаць, пісаць і лічыць). Прычашчаць перад смерцю, адспеўваць прывозілі таго ж светара. Як і ўсюды, не пераводзіліся тыя, у каго не было ніякіх агарод, хаціна асела ці схілілася набок, а хлявы і гумны былі толькі з павуцінай ды ветрам (людзі, хворыя на галаву, або няўдачнікі, бадзягі, бабылі; мала лепш за іх жылі некаторыя шаўцы і краўцы: не мелі альбо і не жадалі мець зямлю, пакідалі дзедаўска-бацькава жытло, хадзілі па весях, сям"і не заводзілі ці мала зважалі на яе, маглі пацешыцца з нечыяй удавой і ўжо ёй даваць са свайго заробку на іхняе дзіця. З усіх непрыкаяных асаблівая пагарда была да "нагаворнікаў-звадыяшаў", "горкіх" п'яніцаў). Амаль у кожным пакаленні заяўлялася красуня і ўз"юшвала ўсіх хлопцаў (лёс яе не заўсёды быў шчаслівы) ці няшчасная бяднячка, што давервалася зблізіцца да шлюбу з багатым падманшчыкам, заводзілася і такая замужніца, што "свайго мужа шанавала, а чужога любіла", ці такі жанаты, што быў ласы да чужых жонак, хоць за выкрыты блуд мужчыны маглі і з бізуном спазнацца ды нямала заплаціць скрыўджанаму мужу і ў княскую казну.

Знаёма ўзбоч платоў хадзілі куры з ганарыстым вадаром, сям-там на лаўках, ашчаперыўшы кавеньку, сядзелі старыя людзі, пільнуючы басаногіх, у кароткіх кашульках зусім малых дзетак. Яны корпаліся ў пяску, мурзацелі, а крыху старэйшыя, але яшчэ малапрыдатныя нават быць пастушкамі, з галёканнем забаўляліся на дарозе: бегалі, радасна коцячы перад сабой драцяное кола. Сярод малодшых падлеткаў-падшывальцаў і ў Валове вось падзел: у дзяўчатак адна з іх з завязанымі вачыма і выцягнутымі рукамі ("воўк") гірчэла і лавіла па крузе "ягнят", а яны адскоквалі: іначай спайманай прыйдзецца ваўчыць. Іх равеснікі-хлопчыкі не вельмі ахвотна далучаліся да забавак дзяўчатак у лялькі і да вось гэтай: асцерагаліся мянушкі "бабздыр". Але суполілі каля гушкалак, у хованкі, гульнёй "у госці" і асабліва ў забароненае бацькамі: "у коні", "у тату і маму". Цяпер воддаль у хлопчыкаў, любіцеляў палаўчыць сцізорыкам, каменьчыкамі, пабіцца"

ў "сваіх" і "чужых" лукамі, коп"ямі і драўлянымі мячамі (у непрыяцеля старшы – Даніла), сёння высцігі: воддаль гурт іх ("лаўцы") стаіць "у полі", а мацачок ("старшы") з ямкі сухім кіем выкідае пакладзеную ўпоперак "стралу" – сыры (каб быў цяжэйшы) цурбэлік. Яго трэба лавіць гульцам. Першы ўхопіш дзвюма рукамі – "судовы" крамзане крэйдаю на дошцы рыску, уцэліш захапіць правай рукой – дзве рыскі, левай – тры. Пасля "старшы" памяняе "правіла": у выцягнутай левай руцэ будзе трымаць цурбэлік, а кіем у правай смаляне па ім, намагаючыся, каб ён пераляцеў усіх. Хто набярэ болей рысак, той станавіўся за "старшага". Гэтыя падшпаркі, апроч іншых сваіх гуляў, далучаюцца да крыху старэйшых вісусаў на вялікдзень: выпрабоўваюць на моц чырвонае яйка. Не без таго, той-сёй не толькі правярае сваё на зуб, але і навошчвае, каб пабіць і ўзяць чужое. Калі натрэсквае шмат, то іншыя могуць праверыць, выкрыць махлярства і надаваць хітруну кухталёў.

Зараз, калі адсенакосілі, а жніва яшчэ не пачыналі, бачыліся і жаночыя купкі. Сям-там абапал плота стаялі, перастарэквалі сталыя гаспадыня і госця, а каля калодзежа – укапанага высокага, з разлогай наверсе бервяна, пакладзенага пасярод на восі "жураўля" на адным канцы з пляскатым каменем, на другім з падвязанай вяроўчынай за восілку ражачкай з грузілам – сыйшліся маладыя дзяўчаты-сакатухі. Хто яшчэ набіраў ваду, а некаторыя ўжо трымалі дзве ражачкі на каромысле на зашыйніцы, але, радыя кампаніі, не разыходзіліся, перакідваліся досціпамі, галасіста смяяліся. Убачылі іх, заціхлі, заўзірался. Яны, сталыя мужчыны на конях, міналі іх, моўчкі цешачыся юным хараством, маладой жвавасцю, толькі кіўком галавы адказалі на іхні паклон, а вось маладыя дружыннікі не маглі размінуцца спакойна. Знаёмы Усяславу голас зачапіў прыемных сустрэчніц:

– Дзеўкі, каму трэба валік для качалкі? Валік моцны, добра пакачае!

Усяслаў і малады Трайдзень перазірнуліся, не маглі стрымаць усмешкі: гарэзень, па слова ў кішэню не палезе. Юндзіла сядзеў на сядле адрачона і не зважаў ні на гэтае ажыўленае селішча, ні на пачуты жарт. Як і на дзявочы адбрык:

– У нас і сваіх валікаў хватае! І лепшых за твой недарэкі!

– А ты набудзь. Будзеш ох як радая.

Калі і пакідалі гэтае селішча, сярэдняга ўзросту валоўцаў не згледзелі. Мабыць, старэйшыя ў лесе (мужчыны з пілой і сякерай, жанчыны збіраюць чарніцы гаспадару і долю сабе, каб высушыць і мець зімою за лекі) ці на рэчцы, сталяраць альбо ў талацэ якой, а маладзейшыя жанатыя і хлопцы да жніва на летнім зборы-вучэльні пад настаўленнем сталых дружыннікаў. Спасцігаюць навуку разумець кароткія загады старшых і без слоў адзін аднаго, страляць пры бегу або з каня з лука ў падвешаны мяшок з сенам, з намаляваным чалавечым аблiччам, ці трапляць кап'ём, пранізваць мячом, са шчытом у адной руцэ і са зброяй у другой пеша і конна "біцца" сам-насам і ў гурце. І вытужвацца на ўсю сілу, да сёмага поту: непрыяцель, што можа напасці, вядомы, добра ўзброены і загартаваны ў баях.

За весcю прамінулі бярозавы гаёк, зноў раўніну, поле, пагоркі, дубовую дуброву перад маладым, яшчэ непрыдатным да будоўлі саснячком, дзе раслі казлякі, рыжыкі, зялёнкі ды радоўкі, а паблізу дуброў трапляліся баравікі. Старыя меднастволыя і з невялікай верхавінай хвоі, велізарныя разлапістыя яліны аблюбавалі мясціны правей, у Панямоні, дзе цішыліся або ў ветранае надвор'е шумелі адным гулам бары. Там, у забалатках, абшарамі раслі

чарніцы, а на балоце журавіны, вадзілася шмат розных птушак і ўсякага звяр'я, бо некаторыя, як туры, ласі ды мядзведзі, пераходзяць туды з недалёкай занёманскай Налібацкай пушчы (нядаўна княскі падлоўчы хацеў падарыць Усяславу асірацелага мядзведзіка, але ён адмовіўся. Яго ўзяў Міндоўг). Пад'ехалі да вярхоўя самай блізкай да Навагародка рэчкі. Валоўкі ці Валовы, што выбівалася з падвышку, трапляла на роўніцу і пасярод травяных берагоў, кустоўя і алешын весела ручаілася чыстай і халоднай вадою, каб амаль праз 19 500 сажняў (Усяслаў яшчэ хлапчуком, а пазней і сталым чалавекам змераў раку) папоўніць Нёман. Жывая: нават сюды заплывае рыба. Бура-зялёная, з цёмнай спіною, часам даўжынёй ад пальцаў вышэй локця і важкаватая (стронга; узважвалі на ф(х)унты. Мера адной адзінкі ў Навагародку і ў лівонскіх купцоў была розная, то яе ўзгаднялі. Па-сённяшняму стронга траплялася вагой і больш за 2 кг. – *Аўтар*). За гэтай рыбай, бывае, гоніцца выдра – жаданы, як і качкі воддаль, насельнік для паляўнікоў.

– Спешымся, – падаў голас Усяслаў.

Першы борздка саскочыў долу Трайдзень – высокі і стройны, светлавалосы і з блакітнымі вачыма харашун. За ім спаўзлі яны. Стараваты і мажны Юндзіла – цяжка. З крэктам апусціўся на дол, сеў, выцягнуў ногі ў нагавіцах з добрага рудога сукна, жаўтаватых ботах з мяккай скуры. Скінуў з сябе мазоўскі або венгерскі чырвоны вышыты каптан, застаючыся ў безрукаўцы і шаўковай кашулі. Усяслаў болей ведаў ранейшага яцвяжскага князя, Сцекінта, нядаўна забітага ў баі Данілавым сынам Львом. Гэты Юндзіла здаўся яму нелюдзімы: нізкаваты лоб, глыбокія і цяжка пранікнёныя жаўтаватыя вочы, глюгаваты нос. Яго імя мо сапраўды было ад "юнды", "юндолы" – заўсёды чымсьці незадаволенага, азлосненага чалавека (розныя летапісцы, манахі ці светары, не шанцілі ўсіх язычнікаў, але яцвягаў за іхнюю ярасць у баі, калі ў палон здаваліся толькі непрытомныя, асабліва папікалі ў дзікунстве і зламыснасці).

– Ну што, ваявода? – задзірыста запытаў спахмураны яцвяжскі ўладарца, мнучы густую русявую бараду. – Задаволеныя вы? Суцешыліся?

– Ты ж, князь, чуў, што я сказаў на каранацыі, – непарушна адказаў Усяслаў. – І добра разумееш, дзеля чаго і на шт*о* мы згадзіліся... А вось на *што* не, магу расказаць цяпер. Тым болей, што гэта і вас не абыходзіць...

Той мо і не чакаў такой ягонай вытрымкі, пільна ўгледзеўся яму ў вочы. Зацікавіўся. Калі не пацяпліў позірк, то адагнаў ад яго холад. Мо і міжволі падцягнуў ногі, абхапіў калені моцнымі рукамі, напружыўся.

– Перамовы нашы з лівонцамі і раней не былі гладкія, – Усяслаў не ўхіліўся пашчыраваць. – Яны ўмеюць знаходзіць розныя довады, козыры і настойваць на сваім. Вось і цяпер Стукланд вымагае, каб мы былі падзячлівыя, падарылі ім кавалак зямлі каля Літвы, Дайновы, Яцвязіі, Надровіі і Жамойці. Яны нават гатовыя купіць яго.

Пачуўшы такое, Трайдзень мігам страціў спакой, навастрыў вушы: на такіх перамовах ён не быў. То што? Міндоўг і ён, Усяслаў, па Дайнове рашалі без яго? З улікам таго, што які ўжо час у ёй больш літвы і дрыгавічоў, чым яцвягаў, і што яцвяжскія валадары страцілі там вяршэнства.

– Ясна, – Юндзіла глыбка выдыхнуў-удыхнуў. – Хочуць там паставіць новы замак. І мо не адзін. А вы?

– Гэтыя замкі, князь, не толькі, як яны запэўніваюць, супроць "паганінаў". Яны надта блізка і ад нас. І могуць быці на ліхое, самімі накліканае...

Памаўчалі.

– І мо дабіваліся, каб вы ўсё ж хадзілі з імі ў паходы на нас? – не магло не занепакоіць Юндзілу.

– У гэтым застаецца тое, што мы запісалі ў Дамове, – запэўніў Усяслаў. – А Дамову Трайдзень чуў сваімі вушамі. Мы не пашлем рыжанам аніводнага воя.

– Хоць крыху ды палягчэла на душы, – зноў утаймоваў той дыханне. – Каб пайшоў на нас і ты, то... Надта ж моцная твая дзясніца...

– І без нас, князь, табе будзе цяжка, – паспачуваў ён. – Цяжэй, чым дагэтуль. Выдаў табе адну таямніцу, выдам і яшчэ дзве. Цяпер чэшскі Отакар па сушы, па моры сцягвае сілы пад Эльблёнг. Ужо цяпер там не адзін дзесятак тысяч рыцараў. Па восені іх збярэцца яшчэ больш. Ясна, перад вялікімі маразамі і мяцеліцамі яны рушаць крыжовым паходам на Самбію. Адтуль ім употай перасылае ўсялякія важныя весці нейкі прус Гедуне.

– Ест там такі нягоднік. Раптоўна абагацеў. Яго падлоўлівалі на прадажніцтве, але выкручваўся як вуж. Чуў, апошні час мала дома начуе. Хаваецца.

– Вялікая сіла рыцарская можа скарыць Самбію, а потым падацца на Надровію, – памеркаваў Усяслаў. – А за ёй Отакар, тэўтонскі магістр хацелі б сашчапіць рукі са Стукландам. Але, кажу, мы не далі ім такога шанцу. І трэцяе, князь. Ужо для цябе загвоздка. Як мы ўведалі, пасланцы Данілы Галіцкага, Зямовіта мазавецкагага і тэўтонскага магістра патаемна спаткаліся і перамовіліся. Яны падзялілі яшчэ вольныя землі вашай Яцвязіі. Мы думаем: як толькі тэўтоны асядлаюць прусаў, то чакайце гэтую тройку ў "госці"...

– Гэта, ваявода, не проста загвоздка, – бедалажна, як стары, знясілены конь, апусціў буйную галаву Юндзіла. – Гэта – хіжая навала, злыбеда, наша цяжкая нядоля і чорная часіна... Гэта, можа, і наша загібель...

– Замаркоціў я цябе, князь, – усё добра разумеў, але не мог асабліва падбадзёрыць Усяслаў.

– Як не замаркоціцца, калі нас мо, кажу, чакаюць хаўтуры... – Таго запаланіла гораснасць. – Якая несправядлівасць! Жылі тут нашы прашчуры спрадвеку, за тысячы летаў да Хрыста, са сваім ладам, са сваёй верай. Былі мо не лепшыя, але і не горшыя за суседзяў. Прусаў, літву, жамойтаў, ліваў, земгалаў, латгалаў, эстаў і яшчэ інакіх пракаветных плямёнаў. Потым каторыя з нас пацясніліся, далі месца гнаным – мазаўшанам, дрыгавічам, крывічам, радзімічам, вяцічам, ільменцам. Як застаецца ў нашай памяці, усякае было. Не абыйшлося і без таго, што квапіліся на чужое, набягалі адны на адных, грабежнічалі... Але ўжываліся... А пазней Пясты, Рурыкавічы пачалі нас прымучваць, змушаць даваць подаць. Ды давалі жыць... А цяпер?

Апошняе Юндзіла вымавіў з вялікім болем у душы.

– Усіх нас, старавернікаў, чужаземцы хочуць прывесці да новай веры, – прадоўжыў. – Без нашай згоды. Але прыбудзе святаслужнік, а за ім – дзясятак, сотня вояў. А ўслед тыя, хто хоча тут займець зямлю, абудавацца, быць гаспадаром, а тубыльцаў мець у паслузе. І так далей, далей. Да тых месцаў, што ты, ваявода, называў. Гэта – захоп, заняволя. Тэўтонамі – прусаў, нас – тройкай тэж драпежных, лівонцамі – астатніх туташніх, як яны кажуць, паганінаў. Яго Дайнова, – Юндзіла кіўнуў на Трайдзеня, – тая Літва, што злучылася з Навагародкам, яшчэ болей

аславяняцца. Разам вы мо і станеце самі па сабе. А вось наша патомнасць, як і Жамойці, вісіць на валаску... Выкінт не захацеў быць пад дзясніцай Міндоўга, а наш Сцекінт не пераканаў, каб пайсці з Навагародкам...

– Гэтага ні вам, ні нам не дазволіла б тройка, – прамовіў Усяслаў. – Даніла аніяк не можа супакоіцца, што наш князь Ізяслаў знайшоў згоду са Слонімам, Ваўкавыскам, Гародняй, пасябрыўся з Пінскам, а мы злучыліся з Міндоўгавай Літвой. І, лічу, не пакіне нас у спакоі.

– Галава пухне: што рабіці? – Заскардзіўся князь-нешчаслівец. – Здацца на міласць драпежным? Ганьба! Люд назаве здрайцам, а то і вылюдкам. Адстойваць усёй могай родную зямлю? Усё, што на ёй? Пераб'юць. Жанок, дзяцей звядуць у палон. Нават не будзе каму па нас курган з камянёў скласці... Вось такая планіда, ваявода, нам ад хрысціянаў... Вось такое іхняе богава і чалавечае любства... Жылі-былі як ваша Валова і... Загінуў, знік люд... Толькі на нейкі час курганы застануцца...

Усе ўтрох нявесела замаўчалі. Як супакоіш чалавека ў вялікай бядзе, калі не зможаш нічым памагчы? Якія дасі парады?

– Думаю, драпежнікаў паспрабуеш адагнаць, – выказаў здогадку Усяслаў. – А каб табе было ўпраўней, варта дзяцей з маці, дзяўчат, старых употай перавезці ў Дайнову і да нас. Я магу ў сябе прыняць тваю сям'ю, сваякоў.

– Дзякую, – амаль толькі прашаптаў Юндзіла, абапёрся аб Усяславава калена і падняўся.

Калі развітваліся поціскам рукі, то ў ягоных вачах няяснага колеру ўбачыліся выразныя слёзы. Стрыманы, скупы, без ускліку і галашэння мужчынскі боль. Моцна абняліся, нібы развітваючыся назаўсёды.

– Няхай доўгае будзе ваша жыцце-быцце! – шчыра пажадаў Юндзіла. – І доля шчаслівая!

З Трайдзенем на разыход парукаліся стрымана, але спакойна:

– Будзь, князь.

– Будзь, ваявода.

Аднаго дня для Міндоўга і Усяслава нядоўгі ціхамірны лад ва ўсім парушыўся: з Пінска прыляцеў у Навагародак голуб да сваёй галубкі і прынёс не аліўкавую галінку ў дзюбе, а пад крылом чаканы, але непрыемны, турботны шматок з навіной. Сюды новай, ужо трэцяй, вайною рушыў Даніла Галіцкі...

*1995 – 1998, 2018 – 2020*

Віктар Ярац



...любое мастацтва –
хада па канаце...

# Дыхнуць чысцінёю

### *ВЕНГЕРСКІ МАТЫЎ*

Венгерскіх скрыпак апячэ гучанне –
палоніць стэпаў перасмяглае дыханне...
Іду з вятрамі па слядах
цыганскіх коней
пад месяцам і варажбою зор бяссоння,
заглядваю ў вакно і дзверы адчыняю –
там сэрца хмеліць наймацнейшае віно –
каханкі юнай пацалунак
з подыхам слівовым, гарачым,
як мадзьярскі дзень спякотны...
За гэта ўсё табе
дняпроўскіх клёнаў
паклоны шлю, Пецёфі Шандар,
за твой грымотны век
пад бляскам шабляў,
дзе жар кастроў
Дунай, як раны, студзіць...

* * *

Як зразумець, што не паклічаш зноў,
спасцігнуць як, што позіркам спагады
больш не атуліш зорак летніх грады,
язмінавае вецце пад вакном?
І не лягчэй ніколькі ад тых слоў,
што ўсе сыходзяць. Не лягчэй ніколькі.
...Там вечар зноў уколы камароў
прымае – без твайго дыхання толькі...

## ОДА ЯБЛЫКУ

В
о
с
ь
яблык
крамяна-тугі,
наліты і сокам,
і сонцам, і песняй,
якую дарыла галінам вясна,
потым лета яе падхапіла
і вуснамі цёплымі, шчодрымі
пад пошум дажджоў і ў грымоты
да восені ранняй, квяцістай
вяло днём і ноччу бяссоннай.
Трымайце. Спытайце.
СМАКУЙЦЕ.

## ЧАРАТОЎКА

Рачулка Чаратоўка віхляла ў берагах –
луской чырванапёрка ёй асвятляла шлях.
Пра Чаратоўкі болькі, пра часу віражы
ўспамінам раскай колкай каму тут варажыць?

* * *

... а недзе ўздыхнула глыбока
крынічка ці ў лузе, ці ў лесе –
і ёй адгукнулася неба,
калі паміраў Караткевіч.

І сеялі чайкі журботу,
з якой павянчаліся ўдалечы

і рагачоўскія жытнікі,
і крушні пагоркаў аршанскіх...

## *ПАД ПРЫЦЭЛАМ*

Цэляцца з курodымам вятры,
з водарам саляркі, не жэньшэню,
у бярозы – белыя мішэні,
у пергамент кругавы кары.

Што занатавана на ствалах
з меткамі чарнобыльскага болю?
Над палескім шляхам па складах
што чытае небу ўголас голле?

* * *

Начное неба ўспыхнула Парыжам,
вясёлымі агнямі Мулен Руж,
вячэрнюю праводзячы зару
ў мансарды, дзе ў фужэрах кроплі цішы.
Віно арбіты музыкі напомніць,
як толькі дакранецца губ тваіх.
І слых напоўняць Дэбюсі і Грыг,
і ўздых рачулкі – з беражкамі роўнай.

## *ВЯСНА БЕЗ ПОЙМЫ*

Вада не выйшла на лугі, не затапіла
мурожныя лагі і гэтаю вясной,
якім, як і раней, чароды крылаў
зноў пішуць пералётнае пісьмо.

Сухія берагі, усохлыя даліны
ці дакараюць пыльную вясну?
І кожная травіна бязвінна, нема ные:
не змые пойма заляжалы сум.

Не тыя зімы – і не тыя вёсны.
І хто адкажа тут? А толькі ўсё ж
прыгадваюць ці не шырокай поймы плёскат
Славечна, Іпуць і Дняпро, і Сож?

Рачным вірам раскручваць успаміны.
Маўчаць лагі, дзе прадзеды, дзяды

ў пакосах летніх пра чые гады
распытвалі вачмі пад небам сакалінам?

* * *

Вечар зашторыць вокны –
і зорка
ці праб'ецца да раніцы ў сон
пульсам Галактыкі?

* * *

На вачах у кітоў і пінгвінаў
не спектакль па драме Шэкспіравай.
Пацяпленне, глабальнаю мінай
аб-
мінай
фінал нешчаслівасці.
Цеплыня год не першы
празмерная
б'е рэкорды.
Тэрмометры – нервамі
падагрэтых фіёрдаў.

Чалавецтва
Богу якому – красвордам?

### ***НА РАДЗІМЕ ПАЭТА***

*Анатолю Сысу*

*...Ты даруй, што памяць многіх*
*карацей, чым прозвішча твае.*

* * *

Дзева без спадзеву
на магілы літасць –
ліпа ў жаўталісці...

* * *

...а высь нябёсаў і вясной, і ўвосень
дыхнуць на слова чысцінёю просім.

### *ВАДОЙ НЕ СПЛЫВАЕ…*

...Боль дарог – на скразняках тугі.
Клічуць Бога на падмогу берагі.
Белыя пярыны белых крылляў
пачарнелі ад крыжацкіх эскадрылляў...
Да пасівелай мамы
сны ў бінтах крывавых
ішлі, ішлі, як раны.
Зачарпну вады дняпроўскай –
і з глыбіняў
затанулаю атакаю дыхне,
узарванай мінай...

* * *

Са смарагдам і срэбрам каўшы
ноч на рунь пера-
вярнула –
і ў світальных палях дрыжыць
прывітанняў раса
на жалейках зялёнага жыта,
ахінутых дыханнем мінулым...

* * *

Ні слова з глыбіняў зямных, ні паўслова.
Чаму ж апякаюць і снег, і траву
пытанні маўчання? І тое “чаму”
вякамі вятры, нібы воблачка, ловяць...
На строме ў кроне ў парку векавым,
нібыта секундант маўклівай спрэчкі,
загорнутай у цыгарэтны дым, –
дажджынка...

* * *

На пялёстках ружаў, на калоссі
кроплі неба прывітаюць дзень.
Пацалункі неба на вадзе
будзе доўга потым перачытваць восень...

* * *

Млечны Шлях зямным шлях*а*м скідае
пісьмы-знічкі, у якіх свае

іерогліфы, узятыя не адным Кітаем, –
іх разгадваць дрэвам і траве.

* * *

Бог стварыў Свет.
А хто – Бога?

* * *

Падлёдных рэчак і крыніц
праб'ецца да вакон дыханне,
дзе грудкі жоўтыя сініц –
жаўткамі новага вітання.

І месяц, што напіўся ўдосталь
вады сцямнелай да снягоў,
каму пра стрэчу і пра ростань
міргне над беллю берагоў?

### ПЯВУЧЫЯ ФАРБЫ

Захад сокам журавінавым
з марозікам
у вячэрніх даляглядах за барамі
восень афарбоўвае не познюю –
на зыходзе верасень з грыбамі.

Ранавата ўсё ж дыхнула холадам –
гром яшчэ нядаўна абдымаўся
голасам бадзёрым гучна-молада
з кронамі, што помняць грукат майскі.

Сосны перагукваліся вечнасцю
між сабой то з гулам, то без гулу
пра карэнне, пра ствалы з падсечкамі
і вавёрчын між галін прытулак.

Зберагае глыбіня крынічная
лугавыя выжыхі да лёду –
іх вятры залётныя пазычылі
і ў чмяліных сотаў, поўных мёдам.

Рэчкі светлых сноў з пявучай ласкаю
і гаючасць ручаін агучаць

захад журавінавай падказкаю
і барвянасцю – асіннікі на кручах.

Колеры зямныя пераплецены
з вышынёю музыкай суцэльнай,
у якой і ростань, і адведзіны
перад белаю прыпеўкай акварэльнай...

* * *

Калодзеж, анямелы без вады,
вядро, пакінутае сіратліва ў сенцах,
ці ўспамінаюць даўнія гады,
дзе подых яблыні ў пялёстках
спаць не дае бярозаваму веццю?

### ПАЛЕСКІ ЭЦЮД

Толькі восень каляровы маскарад
распачне і клёнаў, і каштанаў,
і прачнецца на світанні ў яркіх фарбах сад –
пейзажыстам зноў спрачацца з Левітанам.

Бласлаўляюць дыспуты пра вечнасць
кожны купал дрэва і царквы.

Левітанаўскім імгненням
свечкі

вышыня запаліць над хрышчонымі
Чарнобылем
Каранямі яблынь-дзічак
і язычніцкай травы...

* * *

Мастацтва канатаходцы –
не сарвацца
над вышынёю злева,
над вышынёю справа.

Цэнтрам становяцца
сэрца
і нервы.

Любое мастацтва –
хада па канаце...

## *СТУПЕНЬКІ ВЫШЫНІ*

Сляпы на лаўцы ў прывакзальным скверы
бяздомных корміць галубоў – яму
яны падказваюць да неба дзверы,
вартуючы і лета, і зіму.

На цягнікі ні досвіткам, ні вечарам
спяшацца не патрэбна – сёння з ім
праваднікамі на прыступках вечнага
галубка ў пары з голубам сівым.

Галубка белая, як белы свет, дзе ў шэрані
галіны ліп і клёнаў, між якіх
і лапкамі, і крыллем метры змераны
ад шчодрых душ людскіх і душ скупых.

Пад гукі блізкіх колаў крышаць пальцы
батон звычайны птушкам – гэта ім
на светлыя імгненні адгукацца
нябесным вуркатаннем і зямным...

*Гомель, 14 лютага 2019 года*

## *ПОРУЧ*

Камень самоты цяжкі,
што ўгінаў і пад сонцам плечы,
нябачныя рукі скідаюць.
Гукі, якія аднойчы згубіў
між высозных бетонных дамоў,
зноў ажываюць.
Парастак раніцы золкай
цёплыя дні абяцае...

Поруч – з табою.

## *ЗВАНОК З ВЯСНЫ*

Іду па змоўклых галасах птушыных,
закручаных у лісці каляровым, –
яму цяпер крылатыя вышыні
спагады развітальнай дораць словы.

Іду па сцішаных прызнаннях і сакрэтах –
ім адрадзіцца новаю вясною,
ім потым паўтарыцца спеўным летам
пад хмарамі і сіняй чысцінёю.

Іду па снах азяблых і сагрэтых –
у іх туман і зоры гасцявалі.
нясу не сум начны асенніх кветак –
тваё дыханне майскае з вакзала...

* * *

Дзяўчынка ў жоўтай куртцы пад дажджом,
пад жоўтым мокрым лісцем вераснёвым
ідзе павольна за маім вакном,
агучаным стамлёным ціхім громам.

Зямное мыць нябёсам палатно
стракатае перад зімы дыханнем
для ўсіх – і тых, хто сцішыўся даўно,
і тых, хто крыкам першым славіць ранне.

Ідзе праз успамінаў кругабег,
раскручаных, як стужкі, што не рвуцца,
пакуль вачэй не засціць колкі снег,
дзяўчынка пад дажджом у жоўтай куртцы...

* * *

Не знайсці на ўзгорках ветракоў –
век змахнуў іх, быццам парушыны,
са шчакі зямной пад стук падкоў
і пад гул запруджаны машынны.

Поле помніць ці забыла іх –
крылы з сосен баравых смалістых?
Вецер круг за кругам для жывых
іх кружыў, як толькі колас выспеў.

Дух мукі жытнёвай з латакоў
разляцеўся па дарогах пыльных.
Не знайсці на ўзгорках ветракоў –
волатаў гасціннасці былінных...

## *СУВЯЗНАЯ БЯСОННІЦ*

Спіць мама і ці чуе ў сне глыбокім,
як сёння з ёю зноўку гавару,
кранаючы кару з жаночым імем дрэва –
акацыі, пасаджанаю ёй,
калі пайшоў я ў першы клас
вясковай школы –
яна ў былым будынку панскім
з чырвонай, моцнай, як жалеза, цэглы
на беразе Дняпра
дзяцей туліла...

Высока кронаю шырокаю акацыя
ўсе маміны трывогі і надзеі,
малітвы ўсе нябёсам давярала
і кожнаю галінкаю з насеннем
зямлі жадала
не дзічэць, не глухнуць
без галасоў
ні ў спёку,
ні ў марозы...

Спіць мама хоць і блізка,
а не прыйдзе да хаты і да лавачкі,
з якой выглядвала, чакаючы
з дарогі
дзяцей, што ў гарады
пайшлі па шчасце –
яно больш слізкае,
чым шчупакі з лінамі.

Спіць мама...
А так хочацца хоць моўчкі,
хоць на адно кароткае імгненне
да рук яе шурпатых прыгарнуцца
і да маршчын, да сівізны, якою
адорваў кожны год
гусцей-гусцей.

Спіць мама –
да яе глыбіні вечныя,
якіх жывым
не вымераць ніколі
ва ўсёй той неабдымнасці маўчання,
якую разумеюць карані...

Акацыя, пасаджаная мамай,
з табой пагавару хоць бы вачамі:
– Трымайся, не здавайся ў час віхураў,
якія ўмеюць выварочваць дрэвы –
іх потым і цярэбяць, і пілуюць.

З табой, акацыя –
бясонніц маміных спагадная дарадчыца –
і мне не так на гэтым свеце
беспрытульна...

*31.10.2019, Гомель*

## ПАСЛЯВАЕННЫ МАЙ

Шпакі сваё насвістваюць так дружна
старой, з карой парэпанай, ігрушыне.
І раняць і маўчанне, і гаворку
ўспаміны, як гарачыя асколкі.
На раны франтавыя – словы болем
пра ўсіх, каго не прывітаеш болей,
з кім не закурыш, з кім не перакуліш
ні за сустрэчы, ні на ростань
пякучых грамаў...
Падаюць пялёсткі
на стол пасляваенны небагаты,
пастаўлены ля зруба светлай хаты,
яшчэ не ўкрытага сасновай дранкай...
Шпакі, свішчыце!
Груганнё, не каркай!
І кружыцца Зямля пад майскім ветрам,
як патэфонная пласцінка ў стылі рэтра...

## САЛАЎІНАЯ ВЯСНА

Конь з намулянай шыяю да крыві
спатыкаўся ў глеўкай разоры і падаў.
А ў надрэчных кустах
раскручвалі салаўі
пра каханне мелодыю-радасць.
пугаю і мацюканнем падганялі каня
з наліплай зямлёю мокрай.
Сліва цвіла. Вішня цвіценнем
дражніла аблокі дня.
Салаўі заліваліся-цёхкалі.

Бульбу садзілі пад спеў птушыны.
Конь цяжка дыхаў
з параненай шыяй...

### *ЗАЦЯЖНЫЯ АЗЫ*

Ад маленькай хлусні да вялікай хлусні
адлегласць так часта кароткая.
Зноў клаўнадай бадзёрацца дні
з бразготкамі, бубнамі і трашчоткамі...

### *СУЧАСНАСЦЬ*

Як у новай улады
не знайшлося бальнічнай без прыдухі палаты
для Танка –
не дзіўна ніколькі зусім:
ім такі не патрэбны Максім.
І Купала Янка...

*21 студзеня 2020, Гомель*

### *ЭПІДЭМІЯ ВЕКУ*

Свет у палоне кітайскага вірусу.
Ціск крывяносных сасудаў павысіўся.
Сэрцаў рытмічная музыка збілася
ў Рыме, Маскве, у Мадрыдзе і Вільнюсе.
Моцарт і Грыг – панацэяй ад дыспуту:
“Колькі стаяць цеплаходам на прыстанях?”
Кнігі чытаюцца недачытаныя –
аўтараў нават сціплага таленту.
Пік пандэміі якой каляндарнаю
датай пазначаць у Вене і ў Таліне?
Вымеце неба якім ветрам-венікам
вірусы з Азіі і Амерыкі?
Афрыка моліцца разам з Аўстраліяй.
Лёс роду людскога
на карту пастаўлены...

*Гомель, 5 красавіка 2020*

Людміла Андзілеўка



...наша Радзіма – перадавая краіна свету
ў галіне нана і ай-ці тэхналогій...

# Разводдзе

***Фантасмагорыя***

**1**

Пагалоўшчыну развялі амаль на тыдзень, рэзалі парсюкоў. Левар'ян, малодшы сын сваіх бацькоў, дажыў да таго ўзросту, калі маладыя людзі павінны выбраць сабе прозвішча. Прыслалі паведамленне з адпаведных органаў з патрабаваннем з'явіцца для афіцыйнага засведчання выбару і афармлення належных дакументаў.

Рабілася ўсё як у людзей: замовілі сталы ў закусачнай на суботу, дакупілі прадуктаў на заведзеныя модай стравы: зялёнага гарошку, маянэзу, крабавых палачак, кукурузы, шпротаў у кансароўках – не горш за іншых! Баяліся – адпусцяць марозы, пачнецца адліга ды папсуецца процьма мяса.

Памагатымі "ў пагалоўшчыну" прыехалі сем'і старэйшых дзяцей: дачка з мужам, сын з жонкай, унукі з

двух бакоў. Работа б не стаяла. Ад самай раніцы ляпалі дзвярмі, грымелі бляшаным посудам, грукаталі незнарок перакуленыя табурэцікі; вішчэлі каты, баронячы з-пад ботаў мімаходзь прыціснутыя хвасты.

Катоў было! Пяцёра: чорны, рабы, пасясты, котка-вырадак з перабітай хрыбцінай і нягеглае кацяня.

Маці мітусілася як утрапёная. Звычайна ў адказны момант ёй хацелася ўсімі верхаводзіць: нервавалася, давала бязглуздыя каманды – ўсё ў яе валілася з рук, пачынала злаваць на сямейных – гіркала, чым папала і па чым папала пад злую руку біла катоў. Хутка ў доме распачынаўся неверагодны вэрхал:

– Ты навошта скаціну заводзіш, калі так здзекуешся з яе?! – крычала дачка.

– Без мяне яны з голаду падохлі б! – адгаворвалася маці і, нібы падкрэсліваючы сваю справядлівасць, перацягвала венікам бліжэйшага ад сябе ката. Упартая задаволенасць твару дэманстравала – "будзе па-мойму!"

– Лепш бы яны з голаду падохлі, чым ад калецтва, – не сціхала дачка. – Якое ім тут жыццё?!

– А во ж церпяць! І нікуды іх халера не звядзе... Няхай бы сышлі, – маці здзекліва назаляла, падсмейваючыся. – Вунь, хаця б да "харошых, разумных" суседзяў перайшлі – фігу! Церпяць! – і яна зноў сцвярджала сваю праўду, штурхануўшы нагой ката ў бок.

Каб не падацца бездапаможнай і не патрэбнай, з-за печы выбіралася старая бабуля, маці гаспадара, з кулем пер'я. Распакладзіўшы яго сярод прахаднога пакоя, пачынала скубці. Хто ні забягаў па справах у хату, спатыкаўся аб старую. Пер'е з мацюкамі разляталася пад столь, забівалася ў куты і адтуль завеяй ападала на акрываўленыя сталы, лавы; пакрывала белым пухам свежаніну.

– Ці ёсць у цябе галава, старая?! Знайшла час і месца! – абураўся гаспадар.

– А я заўсёды вам замінаю, – пакрыўджаным дзіцём бурчэла бабуля і не саступала.

Паўсюль на падлозе валяліся абрэзкі мяса, кінутыя клапатлівай рукой на пачастунак катам. На іх наступалі, коўзаліся і падалі, кленучы "дурня", які накідаў пад ногі мяса. А распузыраныя каты і глядзець не хацелі на ежу, бо, не чакаючы дазволу, паспелі наесціся з будучых паляндвіц і кумпякоў, неахайна, без нагляду пакладзеных у расчыненай каморы.

Работа б не стаяла. Ды сярод "гаю-ляду" пачыналі губляцца самыя неабходныя рэчы. Няведама куды падзелася мясарубка. Вось толькі што стаяла, прышрубаваная да стала, і – сплыла. Усім гармідарам сноўдаліся ў пошуках – дарэмна! Знікла, нібы скрозь зямлю правалілася. Пакуль маці бегала да суседкі ў пазыку, знайшлася згуба ў парозе сярод абутку. Спатрэбіліся нажніцы нарэзаць шаўковых нітак на перавязь каўбасы – усім гармідарам кінуліся шукаць нажніцы. Пэўна б, да вечара шукалі, каб не малы ўнук. Заўважыў, што бабуля скарыстала іх у сваёй рабоце. Доўга сварыліся са старой, пакуль тая нарэшце не паграблася ў запечак. Узяліся за работу: парадкавалі свежаніну, пхалі каўбасу, крышылі часнык у вантрабянку, націскалі сальцісоны... Работа б не стаяла, ды наравістую саракагадовую сястрыцу Левар'яна забраў жаль ад даўняй крыўды. Дзіцячыя ўспаміны, як яе недалюбілі, недажалелі ў роднай сям'і; чаго не дадалі, не дадзялілі... Аблабунілі дачку – узнялася нявестка...

– І то праўда, мама, чаму гэта мой муж – бы і не сын сваіх бацькоў?! Машыну – зяцю купілі, абстаноўку – зяцю. Вы, мама, рыхтык як у той показцы пра цешчу, што ў сына б адрэзала, а зяцю надтачыла, не кажу *што*.

Звычайна сваркі неўпрыкмет перарасталі ў бойку: піхаліся ў снег, кідаліся мясам, галасілі-прыгаворвалі; абламаўшы некалькі ножак у табурэцікаў, сядалі на трохногія – выпівалі па чарцы, закусвалі смажанай у цыбулі свежанінай і супакойваліся. Так было б і на гэты раз, каб выпадкова за сталом Левар'ян не вымкнуўся, што яшчэ трэба падумаць, якое прозвішча ўзяць. Уся сям'я была Недарэкі, радня – Недарэкі, суседзі, сваякі, мястэчка значылася як Недарэкі.

– Што тут выдумляць – вядома ж, трэба заставацца Недарэкам, – паспрабавалі давесці яму родныя.

– Мяне ж выклікаюць, каб я выбраў, – маю права, значыць, магу падумаць.

– Усе ж век выбіралі Недарэка... – жаласлівым голасам ушчувала маці.

– Навошта тады ўся гэта мітрэнга з застоллем, гасцямі, святкаваннем? Запісалі б ад нараджэння і не пыталіся згоды... – не здаваўся Левар'ян.

– Так паложана, сынок, – енчыла маці.

– Кім?

– Што "кім"? – не зразумела яна.

– Паложана кім, пытаюся?

– Нелюдзь ты! – лопнула яе цярпенне. – Нават пагаварыць з табой няма як, – і маці загаласіла, як звычайна, калі не хапала слоў...

Байкатавалі Левар'яна дружна і выкшталцона... Вайну вялі па ўсіх франтах. Прыпомнілі, як мачыўся пад сябе, ледзь не да першага класа; якім брыдкім быў, хварэючы на каросту з завушніцай, як баяўся адзін спаць у цемры – прасіўся ў ложак да маці... Даводзілі ўсё з намёкамі і падсэнсам. "Інтэліге-е-е-ент!" – кідала апошнюю, самую цяжкую, на яе думку, абразу сястра. Чытай: лодыр, жабрак, задрыморда... Сям'я хоць і хвалілася тым, што сын у горадзе вучыцца на настаўніка, але не праміналі ўпікнуць яго – беларучка, дармаед!

Дарэмна. Прыйшоў дзень рэгістрацыі – Левар'ян сабраўся ў дарогу... Маці ў парозе заняла непрымірэнчую пазіцыю: склаўшы рукі на грудзях, заключыла:

– Чужакоў у сям'і не будзе! Возьмеш іншае прозвішча – у хату ні нагой!

Левар'ян спакойна пераступіў парог; рушыў да брамкі. Відавочна, не зломлены дух дадаваў яму ўпэўненасці.

– Ну і задавіся ты! – кінула на адыход сына маці. – Памру – каб і духу твайго тут не было!

Сама ж круценька вярнулася ў пакой, ля шафы пераапранулася ў святочную сукенку, ускінула выхадное паліто і – уподбег за сынам. Гонар не перашкаджаў там, дзе хацелася быць цікаўнай сведкай. Праз пару хвілін яна ўжо след у след крочыла за Левар'янам на прыпынак...

## 2

Прыпынак сустрэў іх пунсовым святочным плакатам на шырыню чакальнай паўбудачкі (у яе адсутнічала дзве сцяны): "Наша Радзіма – перадавая краіна свету ў галіне нана і ай-ці тэхналогій!" Да прыпынку якраз падцягнулася брыгада будаўнікоў падрамантаваць "аўтастанцыю".

Яны на плячах прынеслі мяхі з цэментам, збегалі ў суседні з прыпынкам двор пазычыць у гаспадара драбіну з рыдлёўкай, выкапалі ў доле ямку мяшаць раствор, збілі з калоды і прэнта клім-бабу для ўтрамбоўкі ходнічка; параіліся – скінуліся і выправілі ў краму маладзейшага хлопца набыць сякеру: шчарбатую казённую прызналі нікуды нягоднай – сабе даражэй абыдзецца. Левар'ян запытаўся, чаму доўга няма аўтобуса, яму адказалі:

– Дык знялі рэйсы, пакінулі па нейкіх днях тыдня – цот-няцот – па маршруце. Паліва дарагое – загад прыйшоў – эканоміць.

Напярэдадні Новага года гарматы пачалі салютаваць кожны дзень. У Бырляндыі "шоу і празьнікаў" значна паболела, святаў – менш. Затое жыць стала куды весялей. Праўда, у навакольных гмахах пад вечар, як разгараўся салют, сыпаў шкляны дождж – шыбы не вытрымлівалі дэцыбелаў, з-за гэтага ўлетку жыхары нават і забыліся аб праблемах духаты, нястачы паветра, адсутнасці кандэнсатараў і вентылятараў. За што "абшчэсцвеннікі" бліжэйшых раёнаў пісалі ў мэрыю шчырыя падзякі і прапановы, як і далей паляпшаць эканамічнае і культурнае жыццё краіны. Напрыклад, адным з пунктаў значылася: увесці шторанішняе салютаванне для пабудкі насельніцтва на працоўную вахту, гэтым можна рашыць праблему спазненняў і зэканоміць на гадзінніках. Калі ціснулі халады, "абшчэсцвеннікі" кінуліся па дамах і кватэрах збіраць дабрачынныя ахвяраванні па два сярэднестатыстычныя "трудадні" з душы на шкло для вокан.

Левар'ян не паспеў выйсці з аўтобуса, як яго акружыў шчыльны натоўп – запатрабавалі дакумент са сведчаннем аб дабрачынным ахвяраванні на шкло "пад салют". Ён ледзь адкруціўся, удалося давесці, што не жыве ў горадзе і салютаў, на жаль, не мае магчымасці бачыць ці чуць, а як звечарэе, дык і зусім перасоўваецца навобмацак, бо ліхтары ў пасёлку даўно патушылі, каб эканоміць на сталічную ілюмінацыю. Паведаміў, што шукае адміністрацыйны будынак ды вельмі спяшаецца. Дабрахоты кінуліся праводзіць Левар'яна дварамі – каб хутчэй, – і сапраўды, хвілін праз пяць ён стаяў на плошчы перад высокім домам.

Сёлетняя зіма не шкадавала дварнякоў, бамжоў і дворнікаў: спачатку ўкавалі зямлю маразы, потым снегу наваліла па вушы – дворнікі ў лапленых ватоўках шкрэбалі самазрэбнымі шуфлямі асфальт з ранку да ночы, дзякуючы вялікае начальства Дзяржаўнага ЖКГ за харошыя заробкі, якія ўжо амаль наблізіліся да фантастычнай мяжы – "папіццот". Трэба было штосьці тэрмінова вырашаць з дармаедамі – з кожным годам *ужэстачалася* вайна за сметніцы. Па ўсіх напрамках: між самімі бадзякамі, між бадзякамі і дворнікамі, між бадзякамі і навакольнымі жыхарамі, між міліцыяй і бамжамі (вельмі псавалі апошнія карцінку *эканамічнага цуду краіны*). Пісалі ў газетах, што ловяць злачынцу: хтосьці дзесьці здабыў аранжавую ЖКГоўскую камізэльку і ходзіць каралём па навакольных сметніцах. Тралюе мяхамі бутэлькі, макулатуру і жалеззе. Выдае сябе за *сматрашчага раёна*. Ён стаў практычна няўлоўным! Жыхары не звяртаюць увагі, дворнікі прымаюць за свайго, бамжы баяцца, мянты лічаць ЖКГоўцам.

Дзевяціпавярховы гмах адміністрацыйнага будынка толькі што перацярпеў еўрарамонт, пра тое сведчылі непрыбраныя рыштаванні, беласнежныя сцены і столь з маленечкімі лямпачкамі-зоркамі, дарагія жалюзі, звыштрадыцыйныя пейзажы ў залачоных багетах – дзяржавай адзначаных мастакоў, мармуровыя прыступкі. Калідоры пуставалі, напярэдадні Новага года народ не спяшаўся

марнаваць час у бюракратычнай цяганіне... Левар'ян спыніўся ля пазначаных у паведамленні дзвярэй. З кабінета даносіліся галасы. Левар'ян вырашыў перачакаць, паколькі там знаходзіўся чалавек. Побач спынілася маці, папраўляючы хусцінку, яна падзыгнула:

– Якое ж будзеш прасіць?

Узрадаваны магчымасцю прымірыцца – "крыху спусціўшы пар", Левар'ян мірна адазваўся:

– Я ж ведаю забароны: нельга, каб прозвішча вылучала чалавека як разумнейшага, прыгажэйшага, у чым яшчэ лепшага за іншых. Не дазволяць выбраць і замежнае прозвішча, занадта мудрагелістае...

Маці зрэдчас хмыкала – ці тычылася гэта забаронаў, ці самога Левар'яна, невядома. Хутчэй за ўсё – азначала яе нязгоду *ні з чым*.

– Я і не таго хачу. Мне даволі самага сціплага, спрачацца не буду, абы сваё, уласнае.

– Ну-ну? – тэатральна чакала адказу маці, быццам за іх гаворкай назірала цэлая зала гледачоў...

Тым часам з дзвярэй выйшаў мужчына сталага ўзросту ў ваеннай форме. Яго праводзіла да фае гаспадыня кабінета. Яна доўгім позіркам з мілай усмешкай паказвала наведвальніку сваю прыхільнасць, абяцала абавязкова і неадкладна заняцца яго справай. Са стомай жанчына кінула позірк на чаргу з двух чалавек.

– Вы да мяне?

– Толькі ён, мой сын, – хуценька ўмяшалася маці Левар'яна. – Яго прозвішча Недарэка – выклікалі на сёння...

– Праходзьце, – жанчына дала зразумець, што будзе мець справу выключна з самім Левар'янам.

Некалькі хвілін назад, калі яна бліскучымі вачамі паглядала на папярэдняга наведвальніка і абаяльна ўсміхалася яму, ад гэтата здавалася проста чароўнай. Цяпер, страціўшы цікаўнасць да кліента як персоны, жанчына стала зусім афіцыйнай, халоднай і непрыгожай: твар яе ператварыўся ў пераспелую дуліну, жоўта-зялёная скура на ім была густа абсыпаная рабацiннем, апрастаўся вялізны нос, выкрылася невыразнасць вуснаў; між добра прычэсаных валасоў упарта прабівалася плешына...

"Рыбіна", так ахрысціў жанчыну Левар'ян, была *правільнай*... З першых слоў выдаваліся яе прафесіяналізм, дасведчанасць, выхаванасць. У такой жанчыны, і не пытайся, дома быў разумны муж і гэткія ж разумныя дзеці. Сям'я жыла дастаткова сытна і шчаслівa. Кожную раніцу яны не проста добрасумленна крочылі на работу, службу, вучобу – спяшаліся з радасным энтузіязмам! На рабоце, службе, вучобе яны не трацілі дарэмна часу – спасцігалі навуку рамяства, майстэрства зносін і кантакту з калегамі. Такія людзі ў жыцці дабіваюцца ўсяго, чаго жадаюць, дзякуючы таленту ўмець сябраваць, умець правільна разумець патрабаванні часу, урада, вышэйстаячых па пасадзе. Умець шчыра і аддана "на ляту", без аспрэчвання і разважання выконваць усё, што прапаноўваюць указы, інструкцыі, палажэнні, цыркуляры, загады... Вера такіх людзей – *святасць* абавязку: не перашкаджаць начальству, падабацца калегам, паводзіць сябе "як паложана", умець жыць "як паложана", ведаць, "што паложана", а яшчэ знаць, чаго хочаш, як таго дабіцца, умець чакаць і цярпець... Ад самага чыстага сэрца такія людзі любяць свой урад, любую ўладу і любога вышэйстаячага начальніка; маглі б прысягнуць, што ніколі ў жыцці яны

не парушылі законаў “праўды, справядлівасці, дабра”, прадыктаваных – не, не сумленнем – вышэйстаячым па рангу начальствам... Свядомая і шчырая любоў і павага да ўлады – адметная рыса падобных людзей. Яны напамінаюць “каляцаркоўных хрысціян” (не блытаць з сапраўднымі), якія моляцца аддана “свайму богу”, які толькі і сочыць рэўнасна за тым, як смачна пакарміць, мякка паслаць, забавіць і адарыць сваіх прыхільнікаў, пры тым *абавязкова*, без гэтага проста ўсё іншае не залічваецца, – пакараць “дрэннага” суседа... Падобныя Рыбіне людзі ўпэўненыя ў сваёй выключнасці перад іншымі. Яны заўсёды добрыя бацькі для сваіх дзяцей, вучаць і сваіх нашчадкаў быць правільнымі, не адхіляцца ад зададзенага ўрадам напрамку быць здольнымі за пяць дзён вывучыць кітайскую, японскую ці фарсі, калі таго запатрабуе наступны *курс*; прывучаюць з дзяцінства “мысліць” як паложана, як *усе*... Што і павінны рабіць самыя паважаныя грамадствам людзі.

Жанчына заўсёды была “на хорошем счету” і “на нужных рельсах”, верыла ў ідэалы бягучага часу, была гнуткім чалавекам у лабірынце палітычных перамен, пільна сцерагла законы і трымалася кожнай літары статута... Вось і зараз яна ветліва прапанавала Левар’яну шэсць гросбухаў, даведаўшыся, што кліент жадае змяніць сямейнае прозвішча – дазволіла выбраць найлепшае. Сама набрала нумар і доўга размаўляла з начальнікам.

Ёй не цярпелася паведаміць яму шмат важных навін: у суседні кабінет зноў прыходзіла “тая самая” бабулька... Бач ты, яна лічыць, што дзяржава, калі яна сябе такой лічыць, павінна выплаціць народу кампенсацыю за “абрабаваныя грашовыя ўклады і страхавыя ўнёскі”. Абавязана гарантаваць грамадзянам сталага веку годную пенсійную выплату. Забараніць медыцынскім работнікам хлусіць аб праўдзівым становішчы ў краіне з аховай здароўя... Ну, і ўсё пра тую ж лухту – памятаеце (?) – якаясь дапатопная мова, мова, мова?! Уявіце сабе, калі кожны пачне піхаць нос у законы, дабаўляць свае прапановы! Бедная дзяржава! Бедны ўрад! (Так міла, па-жаноцку, какетліва перасыпаючы словы ціхім смехам, выказвала свае ўражанні Рыбіна.) Бедныя работнікі нашага апарату! Бабуля прыйшла ў ватоўцы і гумовых ботах! І гэта ў дзяржаўную ўстанову! Замест таго, каб прывесці свой выгляд у чалавечы стан, замест таго, каб навучыцца паводзіць сябе “як паложана” сярод культурных людзей, каб размаўляць *нармальнай чалавечай мовай*, “як паложана”, яна закаціла істэрыку! Ёй, уявіце сабе, няма чаго есці... Гэта цяпер, калі столькі зроблена дзеля дабрабыту народа; цяпер, калі ў вобласці знаходзіцца міністр. Ну, дзякуючы маёй добрай знаёмай з упраўлення, запэўніла Рыбіна начальніка, нас абавязкова папярэдзяць, калі што...

Жанчына адняла слухаўку ад вуха і запытальна паглядзела на Левар’яна...

– Няма выбару, – ціха, не жадаючы перашкаджаць іх размове, зазначыў Левар’ян.

– Пашукайце, калі ласка, больш уважліва, – і яна зноў нырнула ў паўінтымны, па эмацыянальнай афарбоўцы, дыялог.

Яшчэ некалькі хвілін Левар’ян гартаў пажоўклыя старонкі гросбухаў, нарэшце адсунуў іх ад сябе – няма чаго выбіраць... Жанчына заўважыла, зразумела і крышачку пакрыўдзілася:

– Усім ёсць, а вам – няма, малады чалавек, – асуджальна, але вельмі мякка і паблажліва ўпікнула Рыбіна.

– Во-во, – адазвалася на імгненне ўторкнутая ў прырасчыненыя дзверы галава маці. – І я ж кажу пра тое самае – усім ёсць, а яму – няма!

Рыбіна, не задаволеная нечаканай перашкодай, якая ставіла пад сумнеў яе ўласныя здольнасці выдатна весці справы без чужога ўмяшання, падняла бровы, паправіла акуляры, павольна павярнулася ў бок рэплікі і не паспела загадаць – дзверы хуценька зачыніліся і без загаду.

– Ну што гэта за прозвішчы: Беспрытомны, Валацуга, Небарака, Няхлюй... і падобным чынам сямсот старонак дробным шрыфтам.

– Так-так, у інтарэсах нашых законапаслухмяных грамадзян мы дазваляем значныя адхіленні і выключэнні. Толькі ў інтарэсах грамадзян... і толькі ў асобных выпадках, за асобную даплату... – жанчына падала Левар'яну навейшы даведнік, а шчака яе ўспыхнула яркай чырванню, якая выбівалася нават з-пад пудры. Левар'ян раскрыў мадэрновы фаліянт замежнага выдання і наўгад выхапіў некалькі прозвішчаў – Вертухай, Лізадупка, Лёкай, Пярэварацень...

Акуратна паклаўшы даведнік на шкляную палічку, ён вымавіў:

– Я выбраў сабе прозвішча Рамонак.

– Дзе Вы адшукалі такое прозвішча?! – разгублена падхапілася Рыбіна. – Дзе? Дзе? – яна шпарка перагортвала атласныя старонкі замежнага гросбуха на літары "Р", а ў галаве бездапаможна боўталіся думкі: няўжо яна няўважлівы работнік?! За доўгі час службы не заўважыла такое прыстойнае прозвішча! У свядомасці, як у кампутары, імгненна ствараўся падлік страчаных магчымасцяў выдатна аддзячыць патрэбных людзей добрай паслугай...

– Я сам яго прыдумаў, – патлумачыў Левар'ян.

– О-о-й, ну Вы і дзівак! – павесялела і з палёгкай уздыхнула жанчына. Усё вярталася на сваё месца.

– Хто ж дазволіць Вам выдумляць сабе прозвішчы? – зусім спакойна і добразычліва канстатавала яна.

У дзверы тым часам з калідора зноў уторкнулася галава маці, якая да гэтай хвіліны напружана прыслухоўвалася да кожнага слова размовы ў кабінеце...

– Ашалеў! І я кажу – ашалеў! Пустазёлак нейкі ў прозвішча выбраць?! Га?!

– Што Вы сабе дазваляеце, грамадзянка?! – абурылася Рыбіна, але словы яе і на гэты раз адскочылі ад хуценька зачыненых дзвярэй. – Немагчыма працаваць у такіх абставінах! Паважаны кліент, я прашу Вас – без самадурства. Ёсць правілы, ёсць прапанаваны пералік прозвішчаў – і не затрымлівайце.

– Я так разумею: прапанова – не абавязак. І калі даецца права выбару – ёсць магчымасць выбіраць. Чаму не дазволіць мне насіць тое прозвішча, якое хачу?

– Ну, падумайце самі, што будзе з грамадствам, калі кожны пачне самавольнічаць? У мяне інструкцыя: я павінна яе прытрымлівацца.

Левар'ян узяў з палічкі даведнік і, водзячы пальцам па вокладцы, уголас прачытаў:

– "Спіс прапануемых прозвішчаў для рэгістрацыі грамадзян, дасягнуўшых адпаведнага ўзросту" – дзе тут хоць слова пра тое, што гэта абавязковы ці адзіна магчымы спіс? Нават зноскі няма, што ён патрабуе абсалютнай прытрымкі, усяго толькі – *прапануемых*...

У дзверы пастукалі, і ў кабінет увайшоў начальнік аддзела. Ад нервовага напружання ён так вырачыў вочы, што яны ледзь трымаліся ў вачніцах. Ён сігналізаваў: “СОС – канец свету!” (Не выратавала “добрая знаёмая з упраўлення” – міністр з’явіўся без папярэджання, жадае падрабязна азнаёміцца з парадкамі ўстановы і ўнікнуць у вядзенне спраў...) Следам за начальнікам ішоў міністр са світай прыбліжаных. Яго выдатнае чорнае паліто, адцененае белым шалікам, надавала не толькі імпазантнасці і самавітасці, яшчэ павінна было сведчыць пра сучаснасць асобы. Твару міністр таксама імкнуўся надаць сучасную дэмакратычную выразнасць; вясёлыя вочы супакойвалі: “Усе праблемы нам вядомыя, з тонкасцямі і спецыфікай вашай работы практычна сустракаўся сам... не хвалюйцеся, я – добразычлівы і спачувальны, дэмакратычны і “свой хлопец у дошку”, але... строгі і справядлівы. Да мяне *такіх* міністраў ніколі ў свеце не было”.

Начальнік аддзела стаяў напружаны ў струнку, хоць і быў упэўнены ў Рыбіне – гэтая не падвядзе, не падставіць, пойдзе на амбразуру за яго, а вось кліент?! Выправаджваць позна, а невядома, што ў цяперашняй моладзі ў галаве...

Міністр ухваліў новую офісную мэблю, запытаўся, як праходзіць ацяпляльны сезон і атрымаў станоўчы ківок галавой. У наступны момант брыво міністра паплыло ўверх – гэта мяняла лагодны настрой на патрабавальны. Ён па-мастацку імгненна ператварыў лаяльнасць позірку ў пільнасць і з артыстычна-пафаснай паўзай запытаўся:

– А як у вас з перспектывамі? Новыя метады? Дыферэнцыраваны падыход? Сучасныя наваўвядзенні і накірункі? – брыво з вокам так і “завіслі” пытальнікам.

У начальніка аддзела на шыі напяліся жылы, ён з перапалоху не паспеў зразумець, пра што дапытваецца міністр: “Чытаем, чытаем... слухаем, слухаем...” – здолеў вымавіць ён. Затое Рыбіна вокамгненна асвоілася ў інфармацыі – разумніца-жанчына, прафесіянал, не дарэмна сваё месца займае. Паставай топ-мадэлі яна “падплыла” да чорнага паліто:

– Вось, калі ласка, – лебядзіная пластыка яе рукі прапанавала звярнуць увагу на кліента. – Прыклад зусім новага падыходу і праява ініцыятыўнасці. Мы падабралі маладому чалавеку прозвішча адпаведна яго ўласнаму жаданню, густу і патрабаванням часу.

– Цікава-цікава... – з інтарэсам чакаў міністр.

– Афармляем дакумент на індывідуальнае прозвішча Рамонак.

– Слушна, перспектыўна і па-наватарску! – ухваліў міністр.

Начальнік адчуў гонар мець такога работніка ў аддзеле! Яны яшчэ паназіралі хвілінку, як Рыбіна выводзіць акуратным каліграфічным почыркам літары ў фармулярах, і развіталіся.

Толькі цяпер стала прыкметным дробнае трэмала яе рук. Рыбіна папоркалася ў рыдыкюльчыку і выцягнула маленечкую зялёную пігулачку, запіла яе вадой з графіна. Хацела ўручыць дакумент Левар’яну, ды заўважыла страшэнную памылку – пераблытала лічбы года нараджэння. Яна абяссілена ўздыхнула, паклала ў сейф дакументы і сказала Левар’яну выбачаючыся, што сёння ўжо не хопіць яе сіл, “калі ласка, прыедзьце ў панядзелак...”

## 3

На вуліцы Левар'ян успомніў і адчуў, што ўжо некалькі дзён у яго баліць зуб – не было раней часу звяртаць на гэта ўвагі. А тут раптам заторгалася шчака, зрабілася горача ў галаве, кроў падступіла да твару...

Левар'яна дагнала маці. Перад самым прыходам міністра яе папрасілі пакінуць установу, бо дазналіся, што асабістых спраў у яе тут не было. Таму маці так і не даведалася, чым скончыўся візіт Левар'яна, а знаць карцела:

– Ну? – паспрабавала яна расшавяліць сына на размову. – Ну? – а запытацца проста і дакладна не дазвалялі гонар і злосць. – Як там? – намёкамі выпытвала яна.

У Левар'яна востра і назойліва ныла сківіца, кожнае слова здавалася яму здзекам, не хацелася ні аб чым гаварыць.

– Мне трэба да зубніка – пайду, мо паспею яшчэ...

– Дапырхаўся, вупар!

Левар'ян пабег у другі канец горада ў паліклініку, перачакаў некалькі чалавек у рэгістратуры і пачуў ад медсястры, што шукала і рассылала па дактарах карткі: "Без дакументаў не прымаем".

"З-з-зуб, з-зуб, з-зуб, – кожны крок аддаваў цвіком у балючае месца. – Зуб, з-зуб, з-зуб", – цвікі заганяліся ў мазгі, у сэрца...

– Дзе ты бадзяешся?! – абурылася маці, дачакаўшыся Левар'яна на аўтастанцыі. – Я з ног збілася, рукі абарвала, – маці ткнула рукой у бок сумак, да верху набітых розным прадуктам да святочнага стала. – А ён усё прагульваецца! Садзіся во, сцеражы пакупкі, а я яшчэ ў кааператыўны забягуся, – і, не чакаючы згоды, панеслася ў магазін.

Левар'ян не меў сілы аспрэчыць штосці: з-зуб, з-зуб, з-зуб – ён падпёр рукой шчаку, боль перакінулася і на другі бок, стаў ныць адпаведны зуб справа. Людзі скоса паглядалі на Левар'яна – чаму туляецца малады чалавек? Мо п'яны, мо хворы, ці дурнаваты... Яму не сядзелася на адным месцы, спрабаваў праходжвацца. Каб адцягнуць увагу ад зуба, стаў чытаць аб'яўкі, расклад рэйсаў, але радкі з літарамі зліваліся ў неразборлівыя стужкі. Зноў садзіўся, хаваў успухлую шчаку ў каўнер: з-зуб, з-зуб, з-зуб... Самым жаданым стала – запусціць руку ў рот і выцягнуць хворы зуб, ды ён крэпка сядзеў у дзясне – не скрануць. Шчаку скруцілі спазмы, костку ніжняй сківіцы злева нібы свідравалі, яшчэ больш пачаў аплываць падпухлы твар. Маленькі хлопчык гадоў чатырох, што сядзеў побач з Левар'янам, доўга і нецярпліва круціўся, углядаючыся то ў твар суседа, то на маці – не вытрымаў, тузануў яе за рукаво:

– Мам, чаму гэты дзядзька такі непрыгожы?

Жанчына засаромелася, зашаптала яму на вуха:

– Маўчы, так нельга гаварыць.

Хлопчык пасядзеў моўчкі, чакаючы пахвалы за паслушэнства, і, не дачакаўшыся, яшчэ з большым нецярпеннем напомніў:

– Вось бачыш, мама, я ўжо не пытаюся, чаму гэты дзядзька такі непрыгожы.

Яго голас задрыжэў ад крыўднай здагадкі, што і на гэты раз ніхто не дасць яму тлумачэння.

Хутка боль заняў усю свядомасць Левар'яна. Цяжкая дрымота навалілася на яго. Здалося: ідзе па незнаёмым горадзе, перад ім высокі храм. Расчыненая брама зазывае святлом. Унутры, па падлозе сцелецца шэрань

і зусім не так светла і святочна, як здавалася звонку. Людзі сумныя і змрочныя, стаяць на бласлаўленне перад святаром, стаў за апошнім з іх і Левар'ян. Калі падышла яго чарга цалаваць руку – святар адхіліў яе з адмовай, паказаў на нож, які трымаў Левар'ян. Адкуль і як трапіў нож у рукі, Левар'ян не разумеў, ён пайшоў з храма, каб пазбавіцца нажа і адразу заблукаў. Толькі-толькі пераступіў парог храма, яшчэ трымаўся за сцяну, а ўваход знайсці не можа... Левар'ян прабіраўся па бур'яне і бураломе, пералазіў праз трухлявае бярвенне, шукаў, кружляў вакол храма і не мог зайсці ў яго... Нарэшце яркае святло ўдарыла яму ў вочы...

Прама перад Левар'янам загарэлася электрычная лямпачка – цямнела за вакном. Побач стаяла маці і штосьці крычала, слоў ён не разумеў. Маці паказвала на сумкі і махала рукамі. Тут жа з'явіўся малады міліцыянер, занепакоены лямантам жанчыны.

– Што здарылася, грамадзянка? – запытаў сяржант. – Гэта вашы сумкі?

– Мае... Каб хто і знёс – спіць! Яму – хоць трава не расці! – Да Левар'яна пачаў дахадзіць сэнс матчыных слоў.

– Прапала штосьці? – пытаўся сяржант.

– Тут не дзіва! Каб і прапала – галава нікому не забаліць! Бяры што хочаш і выносъ!

Міліцыянер не зусім разумеў жанчыну і звярнуўся да Левар'яна:

– Вы куды едзеце?

– Дамоў.

– А рэчы, што ля Вас стаяць, чые?

– Нашы.

– Дык вы разам едзеце?

– Невядома... Невядома, – уторкнулася маці.

Сяржант заблытаўся.

– Як Ваша прозвішча? – запытаў ён Левар'яна, працягнуўшы руку па дакумент.

– Ага-ага, – пад'ялдыкнула маці. – Запытайцеся, якое ж у яго прозвішча?

– Рамонак, – адказаў Левар'ян.

– Людцы, ратуйце! – пляснула ў далоні маці.

– Ваш дакумент, – настойваў хлопец у міліцэйскай форме.

– Во-во, няхай пакажа, што там напісана, – узрадавалася маці магчымасці дазнацца праўды.

– І Вашы дакументы, грамадзянка...

Маці хуценька залезла ў сумку і дастала пашпарт – падала яго сяржанту.

– Недарэка, – прачытаў міліцыянер.

– Так-так, Недарэкі мы.

– Нічога не разумею... А Вы, Рамонак, чаму забралі яе сумкі?

– Гэта нашы рэчы, – паспрабаваў нешта прамямліць апухлымі вуснамі Левар'ян.

– Дык дастаньце свае дакументы нарэшце... – не саступаў сяржант. Левар'ян стаў тлумачыць пра няўдалае афармленне папер...

– Г-г-га! Дык фіг яны ў цябе ёсць! – зларадна заключыла маці.

– Я пытаюся: вы – радня? – нецярпліва жадаў разабрацца міліцыянер.

– Вы ж органы – вам відней... Калі я – Недарэка, ён – Рамонак... разбірайцеся самі.

Міліцыянер з падазрэннем углядаўся ў твар Левар'яна. Яго здзівіла: з выгляду прыстойны малады чалавек, а паводзіць сябе затарможана і з твару – ці "з бадуна", ці "пад дозай"... Ён загадаў Левар'яну ісці за ім.

Левар'яну было без розніцы... Толькі па дарозе ён вельмі пашкадаваў, што абуў туфлі. Пачыналася адліга, вакол стаялі вялізныя лужыны, па асфальце плылі ручаі. Боты б можа і вытрымалі, а туфлі – не... Мокрыя, набрынялыя, яны чвякалі пры хадзе, быццам ішоў па ледзяной вадзе босы.

## 4

У аддзяленні было нешматлюдна і ціха. За кратаванай агароджай, дзе папрасіў Левар'яна пачакаць дзяжурны падмаршалак: "З-за занятасці", – патлумачыў ён, выбачаючыся, храплі двое мужчын жабрачага выгляду. Падмаршалак сядзеў за сталом і паспешна запаўняў нейкія бланкі і фармуляры, перапісваў паперы. Перад ім з двух бакоў высіліся стосы службовых журналаў і кардонавых папак. Той стос, куды пераходзілі пераафармленыя дакументы, быў яшчэ значна ніжэйшы за той, адкуль падмаршалак браў паперы. Зрэдку цішыню парушаў званок тэлефона, забягалі на хвілінку заклапочаныя службоўцы з суседніх пакояў: "Заедуцца – не заедуцца, будзе – не будзе, – а халера іх ведае!"– чуліся ўсхваляваныя рэплікі. На блакітным металічным сейфе міні-кіпяцільнічкам грэлася ў паўлітровіку вада на чай, побач, на разгорнутым абрыўку газеціны, узвышалася невялічкай гурбачкай чайная заварка ўроссып.

Увогуле было даволі ўтульна, акуратна: летам прымусілі ўвесь склад скінуцца на рамонт: купілі фарбы, шпалераў; "нацыганілі" па прадпрыемствах дошак, цвікоў і праз месяц сваімі сіламі, за кошт асабістага часу "аддзелалі" рабочае месца "як мае быць!"

А дзясятай гадзіне вечара ў дзяжурку бурай "уляцеў" збіты мацак, пад пагонамі маршалка. Следам за ім увайшоў стажор, зусім маладзенькі, амаль хлапчук. Ён літаральна не трымаўся на нагах, яго вадзіла ў бакі – губляў з перапуду прытомнасць. Толькі патрабаванні мужчынскага і прафесійнага гонару не дазвалялі яму страціць апошнія сілы і прытомнасць, не зваліцца на падлогу. Маршалак утаропіў азвярэлыя вочы ў дзяжурнага падмаршалка, той адарваўся ад пісаніны – падняў галаву.

– Я папух, я папух. Мне – хана! – зашаптаў маршалак, нагнуўшыся над сталом, за якім сядзеў дзяжурны. – Усё! Мне – канец! Там... у "бобіку", на падлозе... гэты, што падазравалі...

– Дзе вы яго вазілі тры гадзіны? – не зразумеў яшчэ галоўнага сэнсу падмаршалак.

– Ён там... "канькі адкінуў"... крыху перастараўся я...

Дзяжурны аж устаў з-за стала:

– Ты што?! Звар'яцеў?!

– Я ж не думаў, што такі здаравяк – ды хліпенькі на справе!.. Ён "завёў" мяне. Я хацеў толькі добра ўваліць – павучу, думаў, і досыць... Ой, што рабіць?! Што рабіць?!

– Вы ж павезлі яго дамоў, навошта вы яго чапалі?

Стажор, хапаючы паветра, праз ікаўку выгукнуў неразборлівыя словы...

– Што скуголіш?! – кінуўся да яго маршалак, – Быў са мной! Разам са мной! Адказваць, калі што – разам! Паняў?!

– Я толькі нагой пад зад адзін раз... Нават дубінкай не махануў... Я ж Вам казаў, таварыш маршалак, я прасіў Вас спыніцца, а Вы ўсё: новы прыёмчык, новы прыёмчык... – стажор зарумзаў.

– Маўчаць, сапляк! А то я цябе тут па сцяне размажу! Быў са мной! – рыкнуў маршалак. – У штаны наклаў?! Пікні яшчэ!

Дзяжурны ашаломлена маўчаў. Мацак захадзіў з кутка ў куток, грукаючы абцасамі, быццам уганяючы цвікі ў падлогу.

Валасамі ён быў бляклa-рудога колеру, з твару – рабы. Вочы маршалка мелі бялёсае адценне, і пазіраць, здаецца, умелі толькі прама перад сабою, каб зірнуць па баках, яму трэба было павярнуцца ўсім тулавам, што рабіла маршалка падобным на быка... ды растком не выйшаў – з паўшабэлка будзе...

– Што, што, што рабіць – не пытаўся, загадваў сам сабе думаць маршалак. – Што рабіць? Што прыдумаць? – ён крочыў з кутка ў куток, стукаючы сябе ў задуменні дубінкай па сцягне, быццам гэта падганяла працэс мыслення. – Трэба сведкі! Тэрмінова! Так: мы знайшлі яго на беразе возера... Точна! Патрулявалі ля возера – бачым, чалавек у кустах. Точна! П'яны – замёрз, ці яшчэ што. А мне якое дзела?! Зараз на медагляд звозім – у мяне там свае хлопцы – усё гладка будзе, – распрацоўваў версію маршалак: – Так-так! Зараз галоўнае – сведак знайсці!

– Што ты гародзіш? – апамятаўся дзяжурны падмаршалак. – А жонка, дзеці? Яго ж з дому забіралі цэлага і здаровага... Якія сведкі? Які мароз, п'янка – ён жа цвярозы быў, у нас быў, вось запратакаліравана...

– Мне патрэбны сведкі! – не слухаў маршалак. – Ты яго толькі апытаў і адразу ж адпусціў. Якое мне дзела, дзе ён бадзяўся і з кім нажлукціўся за гэты час, – падобна, маршалак і сам канчаткова пераканаўся і паверыў у сваю версію.

– Здурэў... Мяне яшчэ прыпляці!

– О! Квача мне сюды! Ён мне павінен, ён мне – што хочаш...

– Ты забыўся – Квач на прымусовым лячэнні.

– Хал-лера! – маршалак усё стукаў і стукаў сябе дубінкай па сцягне.

– Поршань! Я паляцеў па Поршня, – і ён кінуўся да дзвярэй.

– У Поршня сягоння вяселле – дачку замуж аддае. Там госці ўвесь дзень, усе навіду – які ён сведка?

– Бл-ляха! Што ж рабіць?! А хто тут, у цябе?

– Два бамжы...

– Што за імі?

– Нічога. Пілі ля абрабаванага шапіка. Працверазеюць – можа што ці каго ўспомняць: бачылі што, ці чулі... Зараз з іх ніякага толку.

– О! Давай іх сюды – самыя тыя! – маршалак схапіў ключы са стала і кінуўся будзіць бамжоў. Пабег да брамкі і абсекся, рвануў назад. – Ты ахранеў?! Ты знарок! Захацеў мяне здаць!

Дзяжурны нічога не зразумеў, падаўся за ім да закратаванага заканурка, каб паглядзець, што так уз'юшыла маршалка.

– Там жа нейкае вашаб'еддзе інтэлігенцкае! Ён жа ўсё чуў! Во цяпер мне дык точна – пі...ц! – словы яго набылі зусім іншы, асэнсавана-драпежніцкі тон – куды дзелася разгубленасць?

– Яго Шкромандзь прывёў з аўтастанцыі. Без дакументаў...

Але маршалак ужо нічога не слухаў...

– Мы з малым вывозім яго на развілку, – зашаптаў ён збялелымі вуснамі. – Натаўчом у галаву і – "дэтэпэ"! Наезд... Там часта здараецца – туман, за два метры ні хера не відаць. Запраста: наезд!

– Я нікуды не паеду... – заплакаў хлопец-стажор.

– Хопіць! – падхапіўся дзяжурны падмаршалак. – Апаскудзіўся па вушы, і нас за сабой?

– Што?! Падла! – маршалак кінуўся на дзяжурнага. – Мо забыўся, як роднага брата жонку, калі ён у войску служыў, на “начныя дзяжурствы” разам вывозілі? Дык я зараз напомню... тваёй.

Ён схапіў са стала тэлефонны аппарат. Яго адабраў падмаршалак, але аппарат выслізнуў з рук і бразнуўся аб падлогу, гучна прызнаючыся, што ўжо не здолее перадаць навіны ні жонцы, ні каму іншаму. Аскалёпкі чырвонай пластмасы паляцелі пад стол.

– Гэта не перашкода, – упэўнена рушыў да стацыянарнай сувязі маршалак. Дзяжурны адштурхнуў яго, ударыўшы ў плячо:

– Г-гад! Ёй не сягоння-заўтра ў раддом...

Маршалак скруціў яго загрудкі:

– Дык вось і паскорым гэты працэс! А забыўся, як у выбары Асноўнага Вярхоўнага маршала са скрыняй, поўнай бюлетэняў, на хутары зашыўся – тыдзень шукалі?! Я ледзь адмазаўся, з-за цябе тады чуць пагоны не згубіў...

– Ну ты і сволач! Хто кіраваў бобікам? Ты ж настояў – першачку, першачку паспытаем... Ты добра знаў: нельга мне піць... А сам кінуў мяне, з’ехаў... Чаго ж ты скрыню не забраў з сабой? Тыдзень шукалі! Тапор пад лавай? Не ведалі, дзе я?! Адмазчык! Пагоны... Праўды захацеў? Дык я табе нарэшце яе выкажу. Можа, вам зусім не тая скрыня патрэбна была, калі вы яе так шукалі? А ці не за тую скрыню на нечыя пагоны лішнія зорачкі пакаціліся? Вы свядома, наўмысна рабілі з мяне “казла”, каб, калі што, было на каго звярнуць... Сволачы!

Маршалак абмяк, паспакайнеў. Раптам у яго галаве пачаў нараджацца новы, абсалютна надзейны і зусім няпросты план. У ім усплывалі *такія* фігуры і падзеі, што сягонняшняе “выпадковае неасцярожнае забойства ў схватцы са злачынцам” само сабой адыходзіла на далёкі-далёкі фон... Тут палітыка закраналася... тут пагроза ўладам...

– Табе гэта адрыгнецца... – ціха і страшна папярэдзіў маршалак.

– Усё! Хопіць. Адзінае, чым магу дапамагчы, гэта адпусціць затрыманага на аўтастанцыі дамоў. Ён, дарэчы, яшчэ нават і не афармлены – не было калі. Тут міністра чакалі – загадалі паперы прывесці ў парадак... Ды гэты хлопец нічога і не дапёр, бачыў, у яго штосьці з зубамі, вунь як пашчэнкі раздзьмула – жах! Яму не да цябе... А ты, калі хочаш, з бамжамі дамаўляйся. У астатнім – як хочаш выкручвайся. Большага і не прасі! – дзяжурны забраў ключы і пайшоў адчыняць брамку...

Маршалак страціў цікаўнасць да “ўшывага” інтэлігента. Яшчэ лепш, што яго не афармленага дзяжурны падмаршалак выпускае... Шкромандзь заўсёды пацвердзіць, што дастаўляў. А вось чаму дзяжурнаму падмаршалку “ў дзень забойства ад сведкі спатрэбілася пазбаўляцца?” – гэта выкліча ў адпаведных органаў значны інтарэс! Адным словам, план вымалёўваўся грандыёзны!

## 5

Адразу з дзвярэй Левар’яна ахінуў густы туман. Мароз усё ж не ўтрымаўся. К вечару гурбы снегу ператварыліся ў брудную квашаніну. Бушавала разводдзе... Можа, з-за пухліны, можа проста звыкся, прыцярпеў я, але фізічнага болю Левар’ян не адчуваў... Ён прысеў, каб надзейней перавязаць шнуркі на абутку, трэба было шыбаваць дадому – дарога пешая чакала немалая, і праз ноч, праз ноч, праз ноч...

паэзія

Аксана Данільчык



...той выпадак, калі слова
выходзіць за межы слова...

# Ціхія фарбы, ціхія гукі

* * *

Звонкаю вуліцай
галасы
выплаўляюцца
з сонечных плыняў,
застываюць
забытымі медальёнамі
там, дзе сціскае цябе за горла
вясна, што набралася моцы.

І нічога, акрамя цішыні,
і ніхто табе не павінен
ні празрыстасці неба,
ні блакіту ў блакіце,
як дзіцячымі цацкамі,
страсаючы птушак,

забаўляецца вецер клёнамі,
і вясна, што набралася моцы,
сціскае цябе за горла.

Накрывае зялёнымі хвалямі
Наваколле, і ты не ўцячэш.
Ты не хочаш нікуды ўцякаць
з брыльянцістага раю,
ды сціскае за горла вясна,
і адзіная рэч,
што хвалюе цябе –
як расціснуць гэтыя пальцы,
вызваляючыся
ад шчымлівага жалю.

* * *

Начныя прагулянкі
па аголеным марскім дне
на памежжы існавання чалавека і рыбіны...
Агні горада аддаляюцца, аддаляюцца,
і ўрэшце адлюстроўваюцца ў вільготным пяску,
у рэштках вады,
якую мора не здолела забраць з сабой.

На пругкай паверхні зямлі
мора пакінула след
ці то плямкай пены, ці то целам медузы,
здаецца, менавіта тут яно можа
ў любое імгненне выскачыць на паверхню,
або пясок закалыхаецца
і схопіць цябе за ногі.

Бездань
робіцца ўсё бліжэй і бліжэй,
бездань,
чые вусны пахнуць ёдам і водарасцямі,
чыё дыханне халоднае і прыцягальнае,
а голас такі настойліва-рашучы,
што немагчыма яму не падпарадкавацца.

Гэта мора адкрывае сваю глыбіню,
яно адступае,
каб даць табе шанец
зразумець яго сутнасць,

калі ты паспееш,
калі хопіць табе часу,
пакуль мора не вырашыць вярнуцца
і накрыць аголеныя берагі
брабанцкімі карункамі пены.

Спяшайся,
пакуль ноч міргае вачыма караблёў
на памежжы існавання чалавека і рыбіны.

* * *

Тужлівасць восеньскіх лясоў,
мая заўсёдная датклівасць...
Я пражываю немагчымасць
пераадолення прасторы
недасканалых летуценняў,
раскрытых вокнаў, чысціні паглядаў
і верасня, якому больш не адбывацца.

Такая выпісанасць сноў
істотаў паднябесных і нябесных,
такая далеч у вачах балесных,
недасягальная ў звычайныя хвіліны,
што можа быць адзінае – скарыцца
святлу і суму, колерам і цішы –
найлепшае з усіх магчымых выйсцяў.

На сэрцы неагучанай зямлі
стаіліся туман і прахалода.
Якая прыцягальная нагода
для кардынальнай змены накірунку,
каб – для Бог ведама якога паратунку –
сысці ў лясы як партызан-падлетак
таемнай сцежкай павучыных гнёздаў...

І слухаць шэпт апалых лісцяў
“позна, позна”...

## *НАМАЦВАЦЬ ШЛЯХ...*

Мастацкасць тумановых краявідаў,
дзе дрэвы ў шэрым на сівой паверхні
зямлі нагадваюць з’яўленне сілуэтаў
падступных непрадбачаных нашэсцяў,

а мора так трымае абарону
ад надакучлівых чужых абдымкаў,
што да яго ніяк не падступіцца
без рызыкі самой быць паглынутай.

...У ракавіне, кінутай малюскам,
мы паплывем праз глыбіню туману,
знаходзячы патрэбныя маршруты
па ледзь прыкметнай цьмянай
кропцы сонца. І будзем доўга
углядацца ў далеч,
халоднай дыхаць вільгаццю
і раптам
адчуем набліжэнне акіяна...

Туман, туман – душа без парыванняў,
матэрыя, свабодная ад фарбаў,
увасабленне золкае самоты,
спрыяльнай для палётаў уяўлення,
для нараджэння незвычайных формаў,
распушчаных у шэрай таямніцы,
каб быць пасля сабранымі па кроплях
і злучанымі сілаю натхнення.

...Намацваць шлях...

* * *

“Што за нікчэмнасць гэты Тэзей!” –
Арыядна ў роспачы
тузанула за нітку далягляду,
і клубок зямлі
пакаціўся ў невядомым напрамку,
а зжаўцелыя бярозы
заматляліся,
як купкі сухой травы...

Ну і хто будзе вінаваты,
калі нітка парвецца?

* * *

Парудзелае лісце каштанаў
абвяшчае працэс памірання лета.
Гэта як ініцыяцыя наадварот,
і я наўпрост адчуваю,

як павышаецца шчыльнасць паветра.
Двары запаўняе туман,
тумановай субстанцыяй агорнуты душы.
Апатыя намотваецца, як нітка на калаўрот.

У эпілогах раманаў звычайна пішуць
“прайшло... немаведама колькі год”.
Ну вось і прайшло, і што?

Рудая трава, *ruduo, rudens* –
той выпадак, калі слова выходзіць за межы слова –
мост перакінуты да ўзбярэжжа марскога,
агульны корань прыкметы
адгукаецца балцкім субстратам
маёй беларускай крыві,
Я чакаю пераўтварэння часу,
але гэта не ёсць самамэта.
Засынаць – прачынацца, засынаць – прачынацца...
Трансфармацыя восеньскага краявіду ў зімовы
пралягае праз лічбу “пятнаццаць”
і заўжды засцігае знянацку.

Іншым разам здаецца, што цемры наўкола
патрабуе сам час.
І святла ў глыбіні пакоя.
Хоць, напэўна, дарэмная справа
высвятляць прыхаваныя сутнасці рэчаў,
калі вецер праз вулкі мястэчкаў спусцелых
выдзьмувае адчай,
а памяць пра цябе ажывае ў маёй днк.

“Ты”, “ты”, зноўку “ты” – звар’яцелы займеннік,
без якога ніяк немагчыма заснуць.

Можна толькі змірыцца,
што цябе ніхто не заменіць,
і – спрабаваць жыць далей.

У неба ісці
па замеценай першым снегам галіне
ці адкрываць далягляд
невядомых дагэтуль абшараў,
дзе холад, каменне і лёд,
і белыя палярныя совы
залятаюць у разрывы хмараў.

А ў дзюбах прыносяць падарункі на новы год.

## *ІЛЮЗІЯ*

Паверхняй мора
бляшаны дах
праз шыбу акна
праз лісце каштанаў
асляпляе ілюзіяй
адкрытай даты,
незавершанага лета,
магчымасцю лётаць
па птушыных шляхах,
ігнаруючы перашкоды,
неістотныя
для стварэнняў крылатых.

Адчыняю вакно,
і вочы плачуць
ад яркай вады,
ад ветру, што скача
па хвалях уяўных,
што падхоплівае
ўвесь гэты бляск
і з сабою нясе,
каб ілюзіяй гарманічнасці
рассыпаць па даляглядзе
...
Відавочна, сёння
я і мой навакольны свет
будзем суіснаваць
у адпаведнасці
з пактам аб ненападзе.

* * *

Ну вось,
нарэшце я знайшла
таго самага вершніка.

Вершніка, што выплываў з мярзотнай слаты,
сонца лавіў і сонечным промнем
кранаўся твару быццам казаў мне ты
не павінна баяцца, вер у свае сілы,
як я веру ў тое, што недзе ёсць
Бог і што трываласць не ёсць прыкметай
часу, бо рана ці позна час спапяляе
горыч і штурхае да новай мэты.

За вершнікам я назірала з акна
прастакутніка са стосам папер
не патрэбных нікому, адтуль, дзе мая душа
разрывалася ад безнадзейнасці
ці ад недахопу веры.

А ён імкнуўся часам на захад,
а часам на ўсход
у залежнасці ад ветру мяняў накірунак
ён быў проста флюгер,
але ён заўсёды быў
у адрозненне ад многіх,
хто мне абяцаў ратунак,
хто мне чаго толькі не абяцаў,
а ўрэшце знікала ўсё,
і толькі з туману
вершнік упарта ізноў ды ізноў выплываў
каб мне нагадаць:
трымайся, Аксана!

* * *

Ціхія дзеці кляновага парку,
Ціхія цені пад восеньскім сонцам,
Цёплыя водбліскі фарбаў няяркіх...
Хто мне падкажа, дзе тая дарога,
Хто мне падкажа, дзе агароджа,
Дзесьці за дрэвамі ціхія крокі,
Там па-за часам, дзесьці ў паўзмроку
Крокі без мэты, крокі без зроку.

Дзесьці за дрэвамі гучная ціша,
Ціхіх дарослых крывыя абрысы,
Хтосьці схаваўся і ўратаваўся,
Хтосьці зайшоў і нікуды не выйшаў.
Хто мне падкажа, дзе тая дарога,
Што спытыкаецца раптам аб сцены...
Хтосьці за дрэвамі з тварам нязменным,
З шапкай такою ж, як у Ван Гога...

Ціхія цені ходзяць паволі,
Быццам па крузе, быццам па коле,
Быццам малююць няўмелыя рукі,
Толькі малюнкі хочацца сцерці,
Ціхія фарбы, ціхія гукі
І адчуванне рэальнае смерці.

* * *

Вясна
рукамі сонечных промняў
адчыняе вокны наросхрыст,
гладзіць стрыжаныя макаўкі
тыфозных дрэўцаў.

А мае кволыя рукі
не падымаюцца ёй насустрач.

Адзін паэт напісаў:
“Verrà la morte e avrà i tuoi occhi” ,
другі паэт пагадзіўся:
“Это ведь всё враньё – череп, скелет, коса...
Смерть придёт, у неё будут твои глаза”...
Але смерць не мае вачэй.

Горад заціснуў у кулак
нашыя разарваныя нервы,
і, можа быць, толькі гэта нас трымае,
расціснe – і мы рассыплемся.

Як табе дапамагчы?

Між промнямі заходзячага сонца
снуюць чаўнакамі
ружова-памаранчавыя чаіцы,
слухаю мелодыю ветру,
што перабірае жалюзі як клавішы.

Абыякавасць, боль і прыгажосць...

І мы, расціснутыя
ўласнай бездапаможнасцю.

---

[1] Чэзарэ Павэзэ. “Прыйдзе смерць і будзе мець твае вочы...”
[2] Іосіф Бродскі. “Нацюрморт”.

## КАНЕЦ ЗІМЫ

*В. Паўлаўцу*

### 1.

Мокрым па мокрым
лісце зямлі

акварэль
злоўленых промняў
вецер сваім
мэтанакіраваным подыхам
змешвае фарбы з вадой
сонца са снегам
адлігу з самотай
на мокрым лісце зямлі
застаецца чаіцы цень
абламанай галінай,
а чаіцы крык
працінае аблокі
над горадам
далёкім ад усякага мора.

***2.***

Сінія словы вясновай вады
ажыўляе рака
і на месцы судакранання
са светла-шэрымі словамі неба
белыя словы чаіцаў
рассыпаюцца па складах
між працяжнікаў
апошняга лёду.

Сяргей Рублеўскі



...бацькава слоўнае зярнятка ўсё ж абудзіцца
толькі сваёй вясною...

# Уціральнік

***Апавяданне***

Міхась адчыніў шафу і дастаў з верхняй паліцы скручаны ў невялічкі рулончык махровы, упрыгожаны featured рознакаляровымі палоскамі ручнік. Яму захацелася ў чарговы раз зірнуць на яго. Ручнік быў настолькі стары, што практычна згубіў сваю ранейшую мяккасць. Махры абцёрліся, расплюшчыліся і залубянелі, адзін край ручніка быў трохі абдрыпаны.

Затое палоскі, усё адно як учора нафарбаваныя пастэллю далікатна падабранымі колерамі, амаль зусім не згубілі сваёй выразнасці. І гэта пры тым, што ручнік быў набыты пяцьдзясят з гакам гадоў таму.

Палоскі месціліся на полі ручніка не абы-як, а з пэўнай кампазіцыйнай вытанчасцю: ружовая з абодвух бакоў была аточана цёмна-зялёнымі, а праз невялічкі прамежак ад іх таксама з абодвух бакоў – бірузовыя.

Набор палосак чаргаваўся на ручніку тры разы, займаючы ўсю яго шырыню. І суладдзе калераў, і размяшчэнне палосак Міхась лічыў не выпадковым, а наўмысна

прыдуманым вытворцамі, каб лепш запомніліся, з першага разу – і на ўсё жыццё. З ім урэшце так і адбылося.

Яму здавалася, дарэчы, што ручнік гэты не на ткацкай фабрыцы з вялізнага агульнага рулона выкраены, а быў сатканы ў якой-небудзь адмысловай майстэрні асобна – адзіны і толькі для іх сям'і.

Міхась з пяшчотай пакратаў прыемную шурпатасць, разасланую на пісьмовым стале... Прыязнасць да простай побытавай рэчы напоўніла яго душу.

Ён зноў азірнуў стол: каляровыя палоскі на белым тле тканіны, усё адно як на свежа загрунтаваным палатне мастака, выглядалі надзіва святочна. Ручнік, ці "рушнік", як называла яго маці Міхася, можна сказаць, і сапраўды быў святочны. Ён жа ў іх сям'і прызначаўся толькі для лазні, а дзень выцеплівання калгаснай лазні быў асаблівым для Міхасёвых аднавяскоўцаў, а для яго, тады яшчэ жэўжыка, тым больш! Ну няхай сабе не святочны, а проста радасны. Хаця... дзе радасць, там і свята жыцця.

***

Адвячоркам, калі сонца добра ўжо апусцілася да небасхілу, Міхасёк з бацькам крочылі ў лазню. Яна стаяла непадалёку ад іх хаты – як зірнуць. Цераз доўгую пожню перайшоў – і на месцы. Луг нядаўна скасілі, і па мяккай атаве крочыць было асабліва прыемна, як па кіліму. Ужо выпала раса, і за бацькам з сынам цёмнымі нітамі пазначаліся сляды. У сына ніта была танчэйшая і віхляла ў бакі. Хлапчук то забягаў бацьку наперад, то збочваў, каб не замінаць, і раптам яго пазначка ператваралася ў кропку – стаяў і чакаў татульку, а потым сляды зліваліся, усё адно як ніты ссукалі, што азначала: Міхась пакорліва ішоў следам. Потым усё паўтаралася нанова. Такім чынам Міхась нецярпліва прыспешваў свайго марудлівага, стомленага за дзень бацьку. Яму ж хацелася як мага хутчэй прыйсці да лазні, бо, пакуль мужчыны будуць сядзець на лавачцы, выкурваць свае папяроскі ды гаманіць, ён з аднагодкамі паспее нагуляецца ў даганялкі вакол лазні, падурэць ды насмяяцца... А яшчэ яны па звычцы агледзяць глыбочанькую яміну на пожні непадалёк ад лазні, крыху правей ад уваходу: ці стаіць у ёй хоць крышку вады пасля апошняга дажджу, ці добра выкашана дно падчас сенакосу, ці не накідаў туды які свавольнік ламачча – крый Божа, аскепак старой дошкі з цвіком укінуў... Малеча ж і сёлета, як летась перад зазімкам, спадзявалася пабачыць дзівоснае відовішча. Тады Мікола Шугалей, даволі блізкі іх сусед, мацак і адчаюга, які толькі адзін асмельваўся даглядаць і вадзіць за кальцо ў храпах наравіста-непрадказальнага калгаснага бугая, пасля доўгага хвастання ў надзвычай гарачай пары раптам, як ачмурэлы, выбег на вуліцу і з усяго разгону бухнуўся ў настылую калюгу... А потым няспешна спаласнуў твар і толькі тады выйшаў з вады.

Міхась, які разам з іншымі мальцамі назіраў з дзвярнога праёма за гэтай нечаканай, а на той час і трохі страшнаватай дзеяй дзядзькі Міколы, апроч усяго, быў уражаны чысцінёй вады ў калюзе – пырскі з яе свяціліся, як іскрынкі.

А так у мыцці не было нічога асаблівага, што магло б узрушыць дзіцячую душу. Бацька звыкла расстаўляў на лаве тазікі – свой, вялікі і трохі меншы – Міхасёў, якія ён насіў у лазню ў сваім, заадно. Даставаў з торбачкі сподняе адзенне і вешаў на шасток пад столлю, дзе цёплы дух. А побач з ім – паласаты ручнік, гэты пераможны сцяг радаснага лазневага дня.

На лаўку ён яшчэ клаў брусочак карычнева-шызага, нібы мармур,

гаспадарчага мыла, якое дагэтуль было загорнута ў ручнік. Такім мылам у той час мыліся ўсе вясковыя мужчыны, і калі аднойчы маці паклала ў торбачку для свайго пестунка лагаднейшае, набрынялае пахам суніц мыльца, гэта збянтэжыла сына. Першы раз ён ператрываў матчына ласкавае ўмяшанне, хоць і з прыкрасцю карыстаўся тым духмяным мыльцам: “Што я ёй, дзяўчынка якая...” А ў наступны раз Міхаська адмовіўся яго браць і з плачам выказаў сваю нязгоду.

– Мне яго з’есці хочацца... Дык і з’ем! Вось пабачыш... – настрашыў ён сваю матулю Ганну.

Хлопчыку ва ўсім хацелася быць падобным да вясковых мужчын, нават у дробязях. І, дурненькі, бывала шкадаваў, што на ім няма такіх прыкметных слядоў ваенных ран, як у бацькі ці ў суседа Івана, ці ў Кузьмы, ці ў Макара... І што ён яшчэ не мае дастатковай дужасці, каб хвацка, разганяючы паветра, хвастацца венікам на самым вышнім палку, а не на другой прыступцы ды яшчэ пад наглядам і з дапамогай бацькі, як цяпер. А, бадай, самае галоўнае, што ён яшчэ не мог, як заўзятыя парыльшчыкі, стомлена, але гучна выгукнуць, каб усе чулі, “Шоўкаў венік!” і такім чынам усё адно як перадаць эстафету наступніку.

А ў лазні ж – і Міхасю здавалася, што мужчыны як знарок дражняць яго – зноў і зноў гучала “Шоўкаў венік!”, “Шоўкаў венік!”, “Шоўкаў венік!”, нібы запамінальны рэфрэн шматгалосай балады пра жыццё.

Сынкі, якіх бацькі бралі з сабой у лазню, стараліся ва ўсім дагадзіць і ўслужыць ім. Не сказаць, што яны заўсёды былі такімі ласкавымі, але ж лазня(!), тым больш супольная, дзе кожны калі не радня, дык сусед!

Але Міхаська вельмі перажываў, што пакуль мала чым можа ўслужыць бацьку. Наліць у тазік карцом кіпеню з умураванай у печку бочкі, а тады паднесці тазік да бітона халадзёнкі і разбавіць гарачыню да прыдатнай для мыцця вадзіцы ён яшчэ не мог – не ставала сілы, ды і бацька не дазваляў – асцерагаўся, каб сын не абварыўся. І спіну не заўсёды прасіў яго пацерці венічкам, маўляў, малаваты яшчэ сынок, дужасці патрэбнай у руках яшчэ нямашака. І зноў Міхасю было крыўна глядзець, як намыльваюць венік і старанна труць сваіх любых бацькоў мальцы, у тым ліку і яго равеснікі... Дужа крыўдна! “Што, спіна ў татулькі асаблівая, і яе, нібы гальнём падлогу, шараваць трэба?! Чаму не здолеў бы?!” – і бацькаў улюбенец ледзь стрымліваў слёзы.

А калі татулька прасіў што-небудзь падаць або прынесці, дык хлопчык кідаўся подбегам хутчэй выконваць яго просьбу.

І вось аднойчы, калі мужчыны пасля мыцця пакрысе пачалі збірацца дадому, бацька папрасіў сына:

– Міхаська, падай уціральнік...

Хлопчык трохі запаволіўся, але падаў. Хоць і ўпершыню ён пачуў незнаёмае слова, здагадацца было зусім лёгка: бацька меў на ўвазе, вядома ж, ручнік.

Ні раней, ні пасля бацькі на працягу доўгіх гадоў Міхась ніколі не чуў гэтага слова. І, натуральна, не карыстаўся ім. Дык і атрымлівалася, што Ігнат Васільевіч, так звалі бацьку Міхася, знаны ў вёсцы сейбіт, які засяваў ячменем гароды паваенным удовам ды і наогул – усім, хто папросіць, сыпануў са шчодрай жмені на глебу сынавай душы няўсходжае зярнятка.

Так і пражыў Міхась, з ім, няўсходжым, большую частку свайго жыцця. Думаў, што бацька, напэўна, залучыў гэтае слоўца ў сваю свядомасць ад якога-небудзь франтавога таварыша, што яно з чужой гаворкі прыбілася. Нават

падчас вучобы на філалагічным факультэце Міхась, хоць і быў дапытлівым студэнтам, не пацікавіўся ні этымалогіяй помнага слова, ні пошукам яго ў слоўніках, усё адно як баяўся развярэдзіць нечаканым вынікам шчымлівую памяць. А ў жыцці бацькавага слоўца зноў жа не пачуў ні разу.

Дык і трываў, усё адно як трымаючы ў глыбокім схове душы патаемную надзею на тое, што бацькава слоўнае зярнятка ўсё ж абудзіцца толькі сваёй вясною, праклюнецца іголачкай парастка.

А было, і забываўся надоўга на бацькава слоўца, і даўняя дзіцячая памяць патанала ў смузе будзённых клопатаў. Як і не было яе.

У свой час Міхась заўважыў, што як філолага яго мала цікавіла вымаўленае ў вечаровай лазневай смузе бацькава слоўца, куды больш – як сына. І цяпер ён згадвае яго толькі, калі пачынае ўспамінаць гады маленства і свайго дарагога сэрцу Ігната Васільевіча.

***

У выхадны дзень у верасні, калі ўжо Міхась быў сталым мужам, бацькам двух дарослых сыноў, працаваў выкладчыкам у гімназіі, ён надумаў з'ездзіць у Полацк, без дай прычыны, хіба што дзеля таго, каб, як казаў адзін яго сябра, "выпрастаць" пакамшаную рознымі турботамі ды згрызотамі душу. Яму заманулася паблукаць знаёмымі вулічкамі, прычасціцца годнай старажытнасцю, сустрэцца з сябрамі ды пасядзець з імі ва ўлюбёным кафэ...

Калі надыходзіў час вяртання дадому, Міхась пайшоў на цягнік загадзя, бо здавён не любіў спешкі. Па дарозе да чыгуначнага вакзала ён, натуральна, не мог абмінуць кніжную краму. І дзякаваць Богу! На паліцы, дзе былі выстаўлены букіністычныя кнігі, у самым нізе, амаль што на падлозе, ён убачыў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ў поўным камплекце! – пяць тамоў у шасці кнігах. Пяты том атрымаўся надзвычай тоўсты, дык яго выдаўцы падзялілі на дзве часткі. Калі на слоўнік была абвешчана падпіска, Міхась аформіў яе, але паспеў атрымаць толькі чатыры тамы. А потым яму з райцэнтра тэрмінова прыйшлося пераязджаць на новае месца жыхарства, прытым далёка, абладжваць жыццё ў новым горадзе, асвойвацца на працы... Дык не будзеш жа ездзіць амаль праз усю Беларусь за недаатрыманымі тамамі. Але вось, нарэшце, праз столькі гадоў напаткаў іх у поўным зборы, шчаслівец!

Прадавачка сказала, што паасобку кнігі не прадаюцца, а ў камплекце – калі ласка. "Няхай сабе! – ледзьве не крыкнуў ад радасці Міхась. – Бяру, бяру на любых умовах!"

Ён шыбаваў на вакзал, акрылены радасцю, і, здавалася, пакунак важкіх тамоў сам сябе нясе – такім ён уяўляўся лёгкім.

У вагоне Міхась не мог нацешыцца з кніг: перабіраў іх, гладзіў, перагортваў старонкі... А тады ўзяў другую частку пятага тома, на літару "у" і пачаў шукаць сваё незабыўнае слова. І лёгенька знайшоў. "Уціральнік – Ручнік" – пацвярджаў слоўнік з пазначкай, што слоўца абласное.

Міхась усміхнуўся ў душы і падумаў: "Якое яно абласное! Бацькава і маё слова і азначае толькі ручнік з адметнымі каляровымі палоскамі!.. Прыемнае пацвярджэнне, якое адбылося тады, калі трэба, у свой час..."

***

Калі матулю Міхася прыгнула да зямлі старасць і ёй цяжка стала нават прынесці вады з калодзежа, які быў непадалёк ад хаты, сын вырашыў забраць яе да сябе ў горад. Ведаючы яе настрой да апошняга не пакідаць

родную хату, прыехаў аднойчы і рашуча пачаў пакаваць рэчы для ад’езду: “Трэба пераязджаць, мама, трэба!”

Рэчаў тых было зусім няшмат, у асноўным вопратка. Міхась расчыніў шафу і ўзяўся акуратна складваць у чамадан матуліны ўборы. Перакладваючы блузкі, спадніцы ды хусткі, раптам нават навобмацак пазнаў... уціральнік. Ну вядома ж, яго тут, у шафе заўсёды і захоўвалі ад лазні да лазні. Берaглі як самы лепшы з ручнікоў, цар-ручнік. Грошы ў той час Міхасёвы бацькі, простыя калгаснікі-паляводы, атрымлівалі мізэрныя, дык дзе ж накупляешся новых. Таму так добра і захаваўся ўціральнік.

Міхась трохі патрымаў яго ў руках, нібы ў разгубленасці, і рашуча паклаў зверху, на хусткі: “Няхай з мамай будзе, паслужыць ёй напаследак...”

І сапраўды, уціральнік добра-ткі паслужыў

Першыя гадоў пяць гарадскога жыцця мама Ганна яшчэ бадзёрылася: штораніцы мылася ў лазенцы, хадзіла з сынам на прагулянкі, глядзела тэлевізар... Пакуль не ўклала яе ў ложак непазбыўная нямогласць...

Вось тады і гожы ўціральнік з прыўкраснымі, як светлы дзень, палоскамі, прыдаўся.

Кожную раніцы Міхась, як толькі ўзнімаў з ложка маці, ішоў у лазеньку і намочваў пад кранам уціральнік. А тады, вось калі слоўца спраўдзіла сваю існую назву, уціраў ёй тварык, асабліва павекі і куточкі вачэй, шыю... І душу яго напаўняла цёплае сугрэўнае святло.

Прыемнымі былі для Міхася і клапатлівыя думкі пра тое, як найлепш намачыць уціральнік – цёплай вадой або халоднай, каб калодзежная вадзіца ёй згадалася, выкручваць з усяе сілы або не вельмі, каб больш вільготным заставаўся... І рабіў, праўда, па-рознаму.

Дзень за днём, пакуль матулю не забрала ў яго смерць.

***

Калі мінула сорак дзён пасля смерці маці і туга ў сэрцы Міхася трошкі загусцела, яго жонка Святлана пачала прыбіраць у пакоі, у якім жыла нябожчыца. Памыла вакно, выцерла вільготнай вяхоткай рэчы, сабрала ў хатулі вопратку маці, якую наважылася вынесці на сметнік – што з ёй рабіць...

Міхась на ўсялякі выпадак вырашыў перагледзець адзін з хатулёў, каб пераканацца, што жонка выпадкам не выкінула што-небудзь дарагое для яго памяці. Развязаў і – о, Божа – зверху “трантаў”, як называла маці сваю адзежу, ляжаў скамшаны... уціральнік. “Што ж яна так?!” – з горыччу ўздыхнуў Міхась, узяў дарагую для сябе рэч і аднёс у лазеньку да пральнай машыны.

А жонцы не сказаў ні слова.

І толькі цяпер, падчас вечаровага сядзення за пісьмовым сталом з разасланым на ім чысцюткім уціральнікам Міхась падумаў: “Так і не вышапталі мы ў сужанскім ложку са Святланай адно аднаму сваіх душаў, не адкрылі шчымлівых пачуццяў, сваіх поглядаў на свет і людзей... Так і не вышапталі... Мне не ставала ў ёй чуллівай дрыготкасці і ўмення быць слабай, дык і думаць не мог, што зразумее. А яна была перапоўнена цвёрдай рашучасцю ў жаданні ні ў чым не скарыцца нават мужчыну, жыць пераможна моцнай... Дык якое тут шаптанне! Ат, што ўжо думаць, пражылі сумеснае жыццё па абавязку перад дзецьмі ды сваімі бацькамі, ды й годзе...”

Міхась сцепануўся, устаў з-за стала і прыкрыў фортку. А тады акуратненька скруціў уціральнік і паклаў яго на ранейшае месца ў шафе са шкадаваннем, што ім нельга ўцерці збалелую душу.

дэбют

Віталь Шыёнак



...сэнс жыцця і шчасце чалавека –
не ў салодкай і смачнай ежы.
Ой не ў гэтым...

# Нязломак

***Аповед***

*Памяці майго дзядулі Якаўлева Фёдара Кандратавіча.*

Крыж усміхаецца
З’едліва
Прама ў твар.
Я ўспрымаю ветліва
Радасць крыжа.

**Аляксандр Замкоўскі**

Светлыя-светлыя
Нашы памерлыя.

**Лявон Вольскі**

Узышло сонца.

Наступіў мой час.

Я ўжо дарослы: у мяне прарэзаліся зубы памяці.

Перада мной – жытнёвае поле ўспамінаў, шырокае, ажно не бачна краёў.

Я – малады хлопец, сілаў у мяне многа.

Бяру ў рукі серп і зацята працую. Хутчэй, хутчэй! Трэба жаць каласы памяці і вязаць снапы слоў. І я вяжу іх да знямогі, не дазваляю сабе спыніцца, нават каб ацерці горкі пот. Былое вяртаецца з цяжкасцю – мабыць, таму снапы мае пакуль гэткія няўдалыя, растрапаныя, раскідзістыя...

Як небагата ўрадзіла! Тым больш шкада, калі неасцярожна вырываю сцябліну з коранем. Са страхам тады заўважаю: карані яе сівыя, яны рассыпаюцца, ледзьве паказаўшыся на вочы. Кроплямі крыві з сэрца, асляпляючы зіхаценнем, нібы раса летнім ранкам, падаюць-асыпаюцца зярняты з каласоў.

Я з роспаччу гляджу, як яны сыплюцца на сырую зямлю.

Пачакайце!..

Пачакайце крыху, зараз я вас збяру!

Мяне не можа супакоіць нават тое, што гэткія страты – справа звыклая. Згінаюся да зямлі і рукамі пачынаю закопваць згубленыя зернейкі. Няхай застануцца тут, няхай узыдуць. Наступны ўраджай збіраць, праўда, ужо не мне.

Бярэцца на вечар.

Мяне ахоплівае адчай, калі кідаю позірк на поле: быў жа цэлы дзень! Быў!.. – скуголю я, кідаю слабое і няспраўнае перавясла, тапчу яго, потым валюся на калючы іржэўнік, крычу, плачу, захлынаюся слязьмі. Не хапае паветра – грудзі рве-раздзірае кашаль. Мне баліць, торгае зубы памяці. Падношу рукі да вуснаў, потым са здзіўленнем гляджу на далоні – па іх рассыпаліся пырскі крыві. Гэтае відовішча мяне чамусьці супакойвае.

Баліць усё ўнутры...

Хай баліць. Хай. Такі боль – святы.

І я баюся нават думкі, што ён можа знячэўку пакінуць мяне, не даўшы сабраць хаця б *маё*.

Яшчэ ёсць час – агмень жыцця гарыць, агмень не згас.

І мне згасаць зусім не час...

* * *

Снежаньскі дзень.

Шэрае сутонне неба плача мокрым снегам, які непрыемна ліпне да твару. Наша радзіна ідзе пабачыцца з дзедам Міхалам, што паўмесяца ўжо ляжыць у мястэчковай бальнічцы. Перад гэтай жоўта-шэра-бруднай будынінай стаіць помнік абгаўнянага птушкамі “правадыра народаў” Леніна.

Мне, тады адзінаццацігадоваму мальцу, шэсць кіламетраў па збітай, гразкай не па-зімняму дарозе падаліся цяжкім пераходам. Хацелася хутчэй плюхнуцца на якое сядліска і не варушыцца. Зусім. Ды што я... Усе ідуць – і я іду.

Вось перабіраемся праз двор, абы-як завалены паспілаванымі яшчэ ўвосень камлямі (на дровы) старых таполяў, што раслі тут жа. Заходзім ва ўбогі абшарканы пакойчык “для візітаў”, куды родныя звычайна выклікаюць хворых. Праз колькі хвілінаў дзядуля выходзіць. Ён такі схуднелы, што ўдае за пасівелага хлапчука. Дый яшчэ піжама не па памеры – аж матляецца на ім.

Міжволі думаю: няўжо яго тут гацакамі кормяць?..

* * *

Хлопец ледзьве соўгае нагамі. На ім – чорная старая ватоўка, з якой ці не сыплецца начынне, бачны нашытыя паўзверх белыя грубыя ніткі.

Дужа холадна.

Добра, што ватоўка закрывае хлопчыка да самых пятаў і не дае змерзнуць... Вецер раз’ятрана штурхае то ў плечы, то ў спіну. Мажнаму мужчыну нялёгка ісці па снезе, якога насыпана вышэй за калена, – што тут гаварыць пра васьмігадовага мальца! Але не йсці нельга. Матка з сястрой пайшлі шукаць у полі памерзлую бульбу, што засталася з восені. Справа малога Міхалкі нашмат лягчэйшая – прынесці дроў; гэта ж не варочаць гурбы снегу і дзяўбсці заледзянелую зямлю.

Ён адзіны мужчына ў сям’і (бацька замерз яшчэ ў 1940-м: каняка прывёз дахаты ўжо мёртвага гаспадара), таму і стараецца, выжыльваецца з дзіцячых сілачкаў.

Вельмі хочацца есці. Пакуль ідзе да заснежаных кустоў, успамінае, што атрымліваецца з тае памарожанае бульбы. Перш-наперш яе мылі, лупілі, апасля таўклі (дый таго амаль не трэба было: у хаце бульба, адтаўшы, ператваралася ў кашу – брудную, слізкую), у печцы пяклі гацакі. Хлопец, канечне, тады не мог ведаць, як жылі ў блакадным Ленінградзе, калі людзей брала на крывавы панос ад голаду. Яму ледзь споўнілася тры гады з пачаткам акупацыі горада. Ды і ў іхняй сям’і хлеб, няхай сабе і поўны эрзац, здаваўся цудам...

Можа, тое дзяцінства зрабіла Міхала непераборлівым і непатрабавальным да ежы. Доўга мог трываць голад, нават калі кішкі выварочваліся. Таму яшчэ маладым нажыў язву страўніка. Піў дэнатурат, якім запраўлялі газавыя лямпы: ад яго станавілася крыху лягчэй. Ды ўсё роўна выразалі яму паўстраўніка, забаранілі ўжываць спіртное, есці дужа перчанае, салёнае, сырое... Ат, хто калі звяртаў увагу на парады дактароў?!. Якая ім увогуле справа да яго? Не родныя ж, каб гэтак клапаціцца! Таму і выпіваў часценька без меры, нават брагу, безашчадна курыў самасадную табаку. Часам, калі зяць прыносіў налоўленую ў возеры рыбу, мог сырцом з’есці краснапёрку.

Вядома ж здавён: сэнс жыцця і шчасце чалавека – не ў салодкай і смачнай ежы.

Ой не ў гэтым...

* * *

...Адзінока, мабыць, дзеду ў бальнічцы.

Як цяжка ён ідзе да нас. Такі худы – ляцець жа вінен, не адчуваць зямнога прыцягнення. Толькі ўсё наадварот: цягне, цягне ўніз зямліца-маці.

Дзядуля стрымана вітаецца, першае яго пытанне, ці прынеслі курыва. Так, ёсць колькі пачкаў “Астры”. Дробязь якая, але ж прыемна, што не забыліся.

Я разглядаю ягоны рана састарэлы твар, сівыя караткаватыя валасы, некаторыя пасмы якіх тырчаць у бакі. Чымсьці яны нагадваюць тоненькі, мутнавата-бліскучасты пакручасты дрот – валасы такія ж нягнуткія, непакорлівыя. Дарэчы, як і сам дзед... Не! Зусім ён не непакорлівы – цягавіты, цярплівы да жаху! Дзе б іншы даўно надламаўся, крычаў бы адчайна,

грыз зямлю, валяўся ў гноі, поўзаў на каленях – ён трываў; пад попелам людской слепаты і дурнаты, якія бачыла слабасць і абыякавасць, блішчэлі вугольчыкі ўнутранай моцы...

Адно слова – нязломак!

* * *

Ягоны розум плаваў на хвалях сусветнай абыякавасці і нічога не чакаў добрага. А калі б дачакаўся, то не паверыў бы: цудаў у наш час не бывае. Можа, калісьці і здараліся яны, цяпер не – скончыліся. Не хапіла на ўсіх.

...Мужчына ачуўся ад холаду падлогі.

Зрок, здавалася, рассыпаўся на дзясяткі не звязаных паміж сабой фрагментаў. З палёгкай заплюшчыў вочы і праваліўся ў чорны нябыт. Калі зноўку вярнулася прытомнасць, мужчына ляжаў на ніжняй частцы нараў. Хтосьці змочваў яму вусны мокрай анучкай, якая патыхала жалезам і хлёркай. Хацеў сказаць добрасардэчніку ”дзякуй”, аднак з горла вырваўся хрыплы сіп. Міхал зайшоўся ў пакутным нутраным кашлі, які рваў лёгкія на распаленыя аскепкі. Паднёс руку да рота – далонь зачырванелася. Успомніў, як білі па нырках, і з дзіўнай абыякавасцю падумаў, што будзе, калі захочацца схадзіць у прыбіральню... А нічога й не будзе! Не варта зараз пра благое думаць. Так ці йначай, усё да лепшага...

*Усё* – да лепшага?..

Ён амаль не крыўдаваў. Быццам раней не было вядома, як працуюць нашы савецкія “гераічныя” органы. Трапна зэкі іх празвалі. Ментазаўры яны і ёсць ментазаўры...

Яны прыйшлі за ім, Міхалам Кавалёвым, дамоў. Вось чаго той не чакаў дык не чакаў. Добра, што жонка-даярка завіхалася дзесь на саўгаснай ферме, а дачка з сынам былі ў местачковай школе за восем кіламетраў ад вёскі.

Грымнулі, бугаі, дзвярыма так, што падлога задрыжэла, уламіліся ў хату, рыкнулі: “Рукі ўгору!” – і закруцілі іх за спіну, моцна саданулі пад дых. Нейкі недамярак яшчэ і на вуха прашыпеў, пыркаючы слінай: “Мы з табою, падла, пакалякаем па-чэснаму – дай нам толькі волю!”

Няўжо мне вам яе даваць, не сказаў, падумаў арыштаваны. Яго, калгаснага слесара, які з-за хваробы ўзяў некалькі вольных дзён, цягнулі да машыны.

Ярліха, вядомая на сяле вядзьмарка і самагоншчыца, што жыла непадалёк, бачыла, як міліцыянеры валакуць у свой “казялок” Міхала Кавалёва. Яна радасна, уся трасучыся, паўтарала немаведама каму: “Во як бывае – і ў ціхім балоце д’яблы сядзяць!”

Было б каму гаварыць.

У машыне Міхал сядзеў агаломшаны. Маўчаў. Думкі падаваліся водарасцямі, выкінутымі на бераг.

Маладзенькі міліцыянер – саплюк яшчэ, а ўжо туды, у ворганы! – які сядзеў-пільнаваў арыштанта, таксама адмоўчваўся. Адно глядзеў на сіваватага нядоленага мужыка – амаль з нянавісцю. І не вытрымаў:

– Што маўчыш, гад? Мову адняло? Нічога, мы табе язык развяжам! Гэта ж трэба – такое зрабіць!

Міхал узняў вочы і, ледзьве міліцыянт прыпыніўся, абураны тым, што зрабіў затрыманы, утаропіўся пустымі праваламі ў гаваруна. Потым выштурхнуў-выціснуў з сябе:

– За што?

– А-а!.. – адарваўшыся ад бяздані вачэй уяўнага злачынцы, прамовіў саплюк. – У несазнанку, значыць, гуляцца будзем. Мне расказваць пра тое не паложана! Не паложана! – крыкнуў ён і супакоіўся.

Праз гадзіну былі ў райцэнтры. У аддзяленні без залішніх выкшталцоўванняў прапанавалі з ходу падпісаць “чыстасардэчнае”, што, маўляў, я, Міхал Іванавіч Кавалёў, поўнасцю прызнаюся ў забойстве маёй аднавяскоўкі Т.В. Мікулёнак. Трэба было яшчэ распісаць падрабязным чынам, як, калі, дзе тое ўсё адбылося, назваць свае матывы.

Арыштаваны перарваў аператыўніка на паўслове.

– Не буду.

Той ажно разгубіўся, схамянуўся, ды не надоўга – праз хвіліну ўжо зверавата ўхмыляўся. Не прамовіўшы ні слова, выйшаў. Вярнуўся з дзвюма маладымі кнырамі. Яны падхапілі Міхала і амаль на руках вынеслі яго з кабінета.

Білі доўга, з незразумелай жорсткасцю (дзеля добрых паказчыкаў агульнай раскрывальнасці?). Час ад часу падыходзіў бліжэй той, з кабінета, і паўтараў: няма чаго адпірацца, у нас выдатная зачэпка – нейкі кавалачак дроту. Потым ужо, на волі, Міхал дакладна даведаўся: дрот гэты знайшлі на ложку забітай аднавяскоўкі. Падобны да таго, што на ферме, дзе ён працаваў слесарам. Параўналі – і вось табе вынік. Аказваецца, вінаваты ён. Чорт ведае, хто там мог бадзяцца, на ферме, да таго ж паўгода таму працаваў напарнік ягоны, падмяняў на выхадныя...

Адлежваючыся, мужчына са шкадаваннем узгадваў, як моцна жадаў уладкавацца ў калгас, нават скончыў спецкурсы на слесара-рамонтніка. Вось табе і папрацаваў.

На другім допыце ўсё паўтарылася. І той жа самы міліцыянт з рэдзенькай казлінай бародкай (“Эдмундавіч”, ахрысціў яго Міхал), калі “забойцу” збівалі да непрытомнасці, плюхаў на яго вадой і пытаўся толькі адно:

– Падпішаш?

Як скончыліся сілы, Міхал проста заплюшчваў: не!

– Ну і хер з табой!

Ізноўку адыходзячы ад пабояў, мужчына ані ў якім разе не спадзяваўся на лепшае – жыццё прывучыла. А звычка, як ведама, – другая натура. Хто ж яго апраўдае?.. Паспрабуй давядзі гэным цвердалобым, што не вярблюд!

У трэці раз допыту не было. Узялі сапраўды вінаватага, бо адкапалі ў галавешках спаленае хаты ножык, дзе той дурань сам надрапаў свае ініцыялы. Жанчына, з якой ён жорстка здзекаваўся, крэмзаў, адчайна адбівалася і ў апошнія моманты, калі занялася гарэць хата, выбіла з рук той слізкі ад крыві ножык. Не хацела, як прызнаўся пасля сапраўдны забойца, падпісваць заяву на ўступленне яго ў кампартыю, упірала на тое, што бацька ягоны дэзерціраваў з Чырвонай Арміі і служыў у “вызваленчай” арміі Уласава.

Не ведаў, небарака, што праз дзесяць год, якія ён адсядзіць у турме, гегнецца зусім нечакана (нечакана?..) “магутны і непарушны” і партыя разам з ім.

* * *

...Дзядуля падаецца змучаным, змарнелым. Скура попельнага колеру, станчэлыя рукі – нібыта не лячыўся тут, а цяжка працаваў. Што з ім будзе? Што?..

Ён трохі ажывіўся, спрабуе хуценька адказваць на нашыя бязглуздыя пытанні: "Як ты? Дамоў хочаш? Чым харчуешся?"

Неўпрыкмет надыходзіць час развітвацца. Нам трэба кіравацц на чыгуначны вакзал, купляць білеты.

Нядаўняй дзедавай радасці быццам і не было зусім. У ягоных вачах – сум і несправядлівая крыўда на нас: толькі што прыйшлі і зноў кідаюць аднаго.

Ён не хоча развітвацца. Доўга паціскае руку зяцю – майму бацьку, абдымае сваю дачку і мяне, старэйшага ўнука. Але асабліва доўга не пускае ручкі маленькага Змітрака і глядзіць, глядзіць яму ў вочкі. Змітрок вельмі падобны да дзеда. Хлопчык няўпэўнена пасміхаецца... Родная кроў цягнецца адна да аднае, тым больш што зрок пацвярджае веданне сэрца.

* * *

Я помню тыя лічбы.

Лічбы...

Лічбы на сэрцы...

Праз дзве гадзіны, як мы развіталіся з дзядулем, былі ў сваёй кватэры; праз пяць дзён (за два дні да Новага года) дзядуля памрэ і, калі мы даведаемся пра тое, страшна-страшна загалосіць мая мама. Памрэ ён у дзве гадзіны ночы. Прычына: ці нешта не тое ўкалолі, ці то сэрца самахоць спынілася. Наша сям'я ўскрыццё не дазволіла, вырашылі – хай сыдзе ў магілу некранутым медыцынскай сталлю.

* * *

У дзень пахавання было вельмі марозна і сонечна. Неба не плакала – усе слёзы праліліся яшчэ тыдзень таму. Маю маму пад рукі падтрымлівалі знаёмыя жанкі.

У сасновым лесе ўзбоч дарогі мясціліся могілкі.

Наваколле знямела.

Адно матчына галашэнне кружляла паміж гонкіх шурпатых ствалоў, птушкай адлятала ў вырай адчаю, каб ужо не вярнуцца.

Ніколі.

пераклады

## Дзмітры Плакс



...усяму свой час (зразумела, так і ёсць).
Цішыня, згода,
рэвалюцыя. Усяму свой час...

# “Прывітанне, раскажыце пра шведаў...”

***Пераклады сучаснай шведскай паэзіі***

### <u>Эрык БЕРГКВІСТ</u>

* * *

Ноччу ўстала яна ў ліловым ззянні
гэтак яно ішло, сняжынкі

падалі ў сне праз космас, космас
падаў у сне праз сняжынкі

Глыбока ў журбе штосьці схілілася
вылучыла ўжо зніклы зрок

слоў яшчэ няма, толькі рух вакол
крыку ссечанага дуба, яна сабрала

імгненне ў сабе, яно пачало важыць, стала
тэктанічным, склады гру-грукаталі, рука

мацала шкло, там ёсць шкло
ложак адплыў чужы, бяспечны

* * *

Зніклы месяц, зеляніна патухлая
у зелені. Усё бачна, клейка, восы
грызуць бялізну, раты сочацца вішняй,
пот, пол. Той, хто кажа штосьці

заўважыць, як словы аб’еліся ды як
голас паглынаецца да гуку. Той, хто
вычэрчвае шкалу знойдзе, што рука ўваходзіць
у вялікае хваляванне, перадачу.

Мы ў мяжы, у мяжы жадання
Няма формы травянога
часу,  што можа бачыць бачнае, няма
бясформнасці для змены ўсяго.

Заплюшчы вочы, трыумфуй. Дождж і зямля
уяўляюць востры клінок, што выразае
заўсёды іншае. Парадак унутры парадкаў
жуй ды выплёўвай, размоклы сухар

Гліна гіне і расце. Гісторыя ёсць.
Мацерыковы лёд, дзявочая ключыца, хмары над
людзьмі, заўтрашнія
лётнішчы, восень мераецца

## Іда БЁР’ЕЛЬ

* * *

Прывітанне      раскажыце пра шведаў
пра жавальны тытунь і гарэлку     скажыце
што я магу будаваць чыгунку
аж да самага пекла       не гаварыце
мне каб я стаяла як карова
у тэлевізары і расказвала як прыемна
вяртацца дадому і сядаць
на канапу каб пачытаць кніжку

* * *

Прывітанне         я паехала на аўтобусе ў
горад напярэдадні Калядаў

У мяне быў з сабою спіс
па-большасці – здагадкі

гэта добры жэст
я лічу     даваць нешта

камусьці іншаму потым набіраю
нумар калі ўжо прыйшла
дадому і кажу яму
кажу майму сыну што ў мяне ёсць
падарункі для ўсёй сям'і
на Каляды каб яны зайшлі
і забралі іх калі
яны прыйдуць невядома кажа
ён не ведаю, ці паспею
паглядзім кажа ён кладзе
трубку я чакаю званок
не звоніць я іду чатыры тыдні
пасля назад у крамы
неадкрытыя пакеты
карткі з рыфмай і Дзедам Марозам
касірша адразае ды
разрывае трэба пракантраляваць
каб пакупнік не паклаў
пустыя кардонкі ў іх
упакоўку або мабыць я палажыла
камяні яна адкрывае
падарункі майму сыну ды
маім унукам канстатуе
прымае падлічвае і
выпісвае квітанцыю
мабыць мяркую я я
скарыстаюся ёй на наступныя Каляды
калі дажыву да наступных Каляд

## Хокан БРАВІНГЕР

### *СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ*

*Я выцер спацелыя далоні*
*і выйшаў спіной*
*з сямейнага партрэта*

Коні Ісгрэн

*

Уяві сабе наступнае: Ён стаіць
перад саборам у Калінінградзе
дзе з руінаў пабудавалі
руіны, што сталі руінамі.

Пад ім, тры метры ўніз,
ляжыць Імануіл Кант
у Вечным Спакоі; на другім баку
ракі бачна партыйны будынак,

настолькі безгустоўна-выхвальны бетон,
што ніякі жывы чалавек
не жадае там заставацца.

Цяпер, напалову пабудаваны,
гніе ён на сонцы
напухае, як акопны труп.

*

І ён гаворыць, што ведае –
усяму свой час (зразумела, так і ёсць).
Цішыня, згода,
рэвалюцыя. Усяму свой час.

Калі косы вастрыць,
калі пустазелле касіць.
Калі старых лідэраў
мяняць на новых.

Тых, што згінулі.
Тых, што бясследна зніклі.
Тых, без магілаў, на якія можна прыйсці.

Але і тых, хто заўсёды выжывае
тых, хто не гіне, хто не мае
поглядаў, твару – тых, з абавязкамі.

*

Вось стаіць ён. Пасярэдзіне ўсечасовай
цемры што вяртаецца –
з выццём тых
хто памірае і трывае.

Вось стаіць ён. Гаворыць прыязна
і мусон налятае так пунктуальна,
што па ім можна звяраць
гадзіннік.

Хвалі звяртаюцца
да тых, хто там жыве
кажа адліў: *Ты ўжо старэйшы*

*за твайго бацьку, як ты яго памятаеш*
кажа прыліў: *твае*
*дзеці больш не любяць цябе.*

*

Гэта (думае ён) не што іншае, як
забыты горад, дзе (уяві сабе)
няўпэўненыя ліхтары
блішчаць самой сваёй адсутнасцю.

Адзінока лемантуе пражэктар,
накіраваны на чырвонацагляны фасад царквы
дзе неспакойныя выявы бягуць
ва ўсе бакі, туды-сюды.

Яны большыя за рэкламныя шыльды цыгарэт
у міжнародным аэрапорце.
Яны рухаюцца, як злодзеі ў цемры,
раптам выхапленыя пражэктарам
пасярэдзіне нічыйнай зямлі. Кулямёт
трашчыць. Колькі крыкаў. І ўсё.

*

(Ён разгублена нагінаецца і глядзіць
бліжэй на целы, што раскіданы там.

У аднаго з-пад грудзей – алтарная дошка
у другога з-пад рукі – дваццацікілаграмовая Біблія.

Як бясхвостая мядзянка
змяяцца пацеркі.)

*

Уяві сабе наступнае:
Ён стаіць перад саборам у Калініградзе
адзіным будынкам, які выжыў
пасля бамбёжак саюзнікаў у 1944–45.
Калі апошнія рэшткі
Кёнігсберга зніклі ў дыме.
Дзесьці
канчаецца і чалавек,

карынка ляжыць на далоні
і вось сціскаецца далонь
і становіцца кулаком.

Не адзін чалавек, а тысячы
і кожны нясе
асабісты, прапісаны закон прыцягнення.

## Солья КРАПУ

### ПЯСОК І ДРУЗ

Пясок і друз
на падлозе ў зале чакання станцыі
Пясок і друз
там, дзе ўсё вяселле кінулася на жывот
Так шмат пяску і друзу на падлозе
у зале чакання станцыі
яна ніколі
ніколі не бачыла
раней

І ніколі ў яе
таксама шлюбнае сукенкі ніколі
у яе раней не было
Ніколі раней
Таксама

і так шмат было пяску і друзу
і ён, той, што прыцiскаў яе галаву
яе шчаку да пяску і друзу
і шлюбная сукенка, што ляжала на
пяску і друзе
у зале чакання станцыі
дзе ўсё вяселле кінулася на жывот
тое было
І самалёты вылі
Але страху ў яе не было –
толькі сукенка
якой яна ніколі раней не мела
ды шчака, прыціснутая да дошак
ды ён, той, што рукою прытуляў яе галаву
А самалёты вылі
як яна чула і раней

Не баялася, але
баялася за сукенку
Ды баялася за шчаку
Бо жыццё не магло скончыцца цяпер
але – пачацца
І ён і яна былі апошняй парай

### НАІЎНА-АПТЫМІСТЫЧНАЯ

Я, пэўна, наіўна-аптымістычная
у маёй блузцы ў гарошак

Я амаль не чую
рытмічнага перхання часу –
напамінальных, гулкіх крокаў

Я раскідваю рукі, каб затрымаць падзенне
Няўтрымна, з захапленнем
абдымаю я імгненне
Водар яго неўміручасці –
Бальзам

Я ўяўляю сабе
пазачаснасць
бязважкую бяспечнасць

Я, пэўна, наіўна аптымістычная
але я навучылася прымаць кожны дзень
з лыжкаю мёду

## Крыстофер ЛЕАНДОЭР

* * *

Не анёлы і не цені
не ўступы паляцелі
не атара пасвіць ціха
і не светлыя тэрасы
не пурпурная мантылья
не начное ў складку неба
і не бліцы і не бліскі
не люстэрка і не рыскі
я іду дарогай доўгай
ўверх з тваіх малюнкаў шахты
кожны дзень я чалавек

* * *

І не космас і не стойла
гэты свет не мы стварылі
не раўніна нас змяншае
не байніца нас ўзрывае
і не мары пра палёты
ты не можаш знаць навошта
чалавеку трэба неба
нашто трэба чалавеку
неба паміж ім і небам
ты не можаш знаць навошта
ты патрэбная яму

## Атэна ФАРУХСАД

### *ПАЧАТАК. З кнігі “Белая нізка”*

Мая сям’я прыехала сюды пад сцягам марксізму.

Маці адразу ж запоўніла дом лямцавымі гномікамі
Пачала ўзважваць плюсы і мінусы
пластыкавых калядных ялінак
нібы гэта яе праблема
Ад відна разбірала доўгія ды кароткія галосныя
нібыта гукі, што выходзілі з яе вуснаў
маглі вымыць аліўкавы алей са скуры
Маці ліла адбельнік праз сінтаксіс
З другога боку працяжніка яе склады рабіліся бялейшымі
чым зіма поўначы
Маці будавала нам будучыню з дастатку ежы
У падвале прыгараднай вілы грувасціла бляшанкі кансерваў
нібыта перад вайной
Вечарамі шукала рэцэпты ды абірала бульбу
нібыта гэта яе гісторыя была зашыфраваная
у страве “спакуса Янсана”
Толькі падумаць – я смактала тыя грудзі
Толькі падумаць – яна пхала сваё барбарства мне ў рот

Маці сказала: ты, здаецца, ніколі не задумвалася
што з тваёго імя пачалася цывілізацыя
Маці сказала: Чарнота майго ўлоння – адзіная цемра,
якой ты не баішся

Маці сказала: Ты летуценніца, ты нарадзілася
вочы людзям касавурыць
Маці сказала: Каб ты ўмела бачыць,
што акалічнасці бываюць змякчальнымі
дык ты б аблягчыла маю адказнасць
Маці сказала: Шануй намаганні людзей, што стараюцца
сфармуляваць праўду, якую можна вытрымаць
Маці сказала: ты не была жывучая ад самага пачатку

Маці сказала: Адна жанчына пальцамі выціснула вочы сваёй маці,
каб тая не бачыла даччынай распусты

Бацька сказаў: Ты маеш схільнасць да метафізікі
Але я вучыў цябе структуры вытворчасці
калі ў цябе яшчэ не павыпадалі малочныя зубы
Маці сказала: Твой бацька жыў для Суднага дня
твая маці таксама, але яе прымусілі змяніць мэты

Маці сказала: У сне твайго бацькі вас караюць смерцю
У мроях твайго бацькі вы звёны радаводу рэвалюцыянераў
Бацька сказаў: Твая маці карміла цябе з імпартных срэбных лыжак
Твая маці была па ўсім тваім твары
шалёна выпроствала кудзеры

Маці сказала: Усё жыццё зайздросціла я траўмам твайго бацькі
пакуль не зразумела, што мае ўласныя нашмат значнейшыя
Маці сказала: Я ўбіла процьму грошай на твае ўрокі фартэпіяна
Але ты адмовішся граць на маім пахаванні

Маці ўзяла мару з бацькавых рук і сказала:
Ты не будзеш саладзейшы ад цукру

## Катарына ФРОСТЭНСАН

### *ЛІСТ*

Тваё бяссонне ўвайшло ў маю кроў
і пабялелі ночы
вясна не прынесла сноў, тут
па другі бок заліва ўсяночная
галей за ўсё
Мелаваныя круглякі бяроз
Жвака думак выскоквае
у прастору вуліц: я пішу табе
з гораду ліній
манія без сну – лініі, рысы
русыя машыны          жоўтыя
бананы радком на нейкім рыштаванні
ля фасаду
а вуліцы здаецца ідуць проста да вады: там
цудоўна зарослыя
паркі, спакойныя квадраты
пасярэдзіне ўсяго
Каналы і чарнота
блакіт Нявы          дык
руш рысы па вадзе
зяпы мастоў
ілбы адпачываюць на нябеснай шэрасці
а ўнізе, мабыць,
рыф
што цягнецца ў бок тваёй ночы
ды звязвае
цэлы горад –
дзіўную Вінету
званоў, струнаў, чырвоных
ран і адкрытай
журбы, што нібыта для ўсіх

### *ПЕРШАЯ*

«Думаеш, я заплюшчыла вочы»
Я чую крокі на дарозе
Дарога тут,
а вакол палі
Жоўтыя, светлыя палі
жыта, вецер на спіне
Спакой баязліўцаў,
Рука на лбе
Прахалода ў пакоі
Пройма ў гардзіне
Дуб на скрыжаванні, зеляней
ці не
вуж праз дарогу
барозніць з хрустам гравій
“Ці я ў тваім вуху”
Ідзе яна праз дом
у вялікай сваёй адзіноце і спявае
Блакітнай тканінай ля калена
рукамі на лбе, валасам,
нясецца праз гняздо
Ступні, мяккія
адзінота ў голасе
Што павінен прайсці
праз перашкоды, белыя
праз рэйку драўніны
ён павінен прыйсці ў дом
Пялёнка вакол майго ложку
свет не бачны
я веру толькі ў тое, што чую
шоргат падэшваў па зямлі
свіст між трысцінаў
грукат карабля недзе звонку
у карычневых баках марской вады
уступ, белая пятля
гук рукі, што праходзіць праз жыта, па лбе
і вяртаецца
вярніся
Мажліва ты проста гук
удыхнуты вухам
Калыска

## Ханна ХАЛЬГРЭН

### *ІРАНСКІЯ ВЕРШЫ*

Пазнанне і жаданне
вось рука
апельсіны растуць у –

who are *not* allowed not to have a body. Ужо на наступнай
старонцы знікае нястача, а пасля ляжыць жаданне твайго
мяккага полу, ды іншая
тэорыя для твайго сэрца
*мучна-белага,*
*на нітцы*

Калі богі надвор'я захочуць, праплыве пустыня і вокны
аўтобуса амаль гарачыя, і шчака сухая, лоб... калі эўкаліпт
унутрана прахалодны, нават унутры
таго аранжавага пяску "Рука расце ў Ісфахане"
І ўнутры сонца,
Аранж.

: Унутры Бог, Заратустра, і знутры Ахура-Мазды Унутры –
знак агню.

Пакуль аўтобус ідзе, мая рука марыць
аб тваёй Эўкаліпт – слова, якое прывязана да пальцаў
"Arian" – прылеплена да лапаткі,
так, што мы ідзем міма

Трэба плесці скуру з клопатам, кажуць ткачы полу
Трэба плесці сваю чадру, кукалку
загортваць
Гадзіны сутак мякчэюць на выдыху

тонкі ды крохкі фарфор

«У дарожным адзенні стаіць душа», –
турма вакол рук тваіх, калі яны хочуць
ды яшчэ адна турма, калі яны хочуць

Сэрца расце ў Ісфагане /адкрываецца, як апельсіны/
і кветкі – унутр, ноччу
Мая рука марыць аб тваёй,
вялікі і дзіўны знак, за якім ты хаваешся
Соль з губ вачэй, што ты заплюшчваеш у бок сонца

Расце рака апельсінаў
і сабак. Цікава, дзе яны будуць жыць

удзень ды ўноч.
з заплюшчанымі сабачымі вачыма

Днямі з адкрытымі вачамі рук

Белае
думаю, знішчыцца
бліжэй да дна шклянкі

Тое, што мы бачым адзін у адным не знішчыць меншым за нас
і якія, каб працытаваць: *trinken und trinken,*
тыя ж губы, палоззе

замест падобнасці,
вясковае паветра, стончанае да пустыні,
(слоўнік з пяску)

замест сэрца
нефігуратыўны чалавек. Тое, што я бачу:

«Тое тваё «ты» ў табе
растае, як масла» Па-над пяском, неба
непакрытае сэрцам
пойдзе далёка і
загучыць сэрцам
зашчабеча
Я ляжу на пяску скрозь струмяні журбы з перавернутым органам мовы,
не без падобнасці на гэты трэснуты пясок, або, што ты
як ты ўжо...

Прайдзіся кружок вакол дома, перш чым укалоць інсулін
Бацька сказаў: я пражыў жыццё, я пражыў жыццё
я зрабіў наканаваную мне частку
Нічога не засталося ад лёгкага хлеба маладосці

Маці сказала майму брату: сцеражыся незнаёмцаў
Памятай, што ў цябе не будзе да чаго вярнуцца
калі яны раптам стануць ворагамі
Брат сказаў: Я сніў нешта вельмі дзіўнае
Як ранак памёр у маіх вачах пакуль яшчэ не знік сон
Чалавецтва цукру і разні
Развітваючыся са святлом, я спазнаў усё

Маці сказала: З дзялення клетак
з генетычнага матэрыялу
з галавы твайго бацькі
Але не з мяне
Бацька сказаў: З барацьбы цывілізацый
з базавага антаганізму
з маёй стомленай галавы
Але не з яе

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць шаноўнага **Дзмітрыя ПЛАКСА**
з залатым юбілеем і зычаць яму моцы, душэўнае трываласці,
новых цудоўных твораў у паэзіі, прозе, драматургіі
і выказваюць падзяку за шматгадовую руплівую працу
па наладжванні сяброўскіх сувязяў паміж літаратурамі
Беларусі і Швецыі!

пераклады

## Эліза Ажэшка



...у моманты, калі з дзеяў і спраў людскіх знікае спакойнае разуменне закона і над імі навісае падняты крывавымі рукамі меч гневу і помсты, надзвычайнае значэнне набываюць рукі, якія трымаюць гэты меч...

# Гекуба

***Навела***

*Гэта апошняя з пяці навел, якія Эліза Ажэшка прысвяціла паўстанню 1863 года і ўключыла ў свой апошні прыжыццёвы зборнік "Gloria victis", што з латыні перакладаецца як "Слава пераможаным". Ён убачыў свет у 1910 годзе, у той жа год не стала самой аўтаркі. Гэта мо найбольш эмацыйная навела, чуллівая, з сямейна-грамадскімі пачуццямі, перажываннямі, бедамі. Бо прысвечана найперш перажываннямі маці, малыя і больш дарослыя дзеці якой аказаліся ўкручанымі ў віраванне падзей, звязаных з паўстаннем. І сама яна не хацела і не магла заставацца ўбаку, не магла абыякава назіраць і перажываць тое, што адбывалася навокал. Хоць, калі праўда, то падобных эмоцый і ў папярэдніх чатырох навелах з цыкла Gloria victis таксама хапае. Хіба не пераканаўчае сведчанне, што паўстанцкія падзеі не былі чужымі для нашай зямлячкі і яе супольнікаў па тагачасным жыцці? Але праўда і тое, што праўдзіва, наколькі гэта было мажлівым, сказаць пра іх здолела толькі ў апошні год свайго зямнога жыцця.*

*Пераклад з польскай Анатоля БУТЭВІЧА.*

*У гэтай жа навеле акрамя сямейна-побытавых стасункаў паўстае і грамадскае гучанне паўстанцкіх падзей не толькі ў вузкім коле апантаных мясцовых людзей, але і з выхадам, так бы мовіць, на інтэрнацыянальны аспект. Бо суадносіны і самой Тарэзы, і яе дзяцей з больш шырокім за сямейны светам адбываюцца і з людзьмі іншых нацыянальнасцяў. Праўда, падобныя повязныя ніці заўважаліся і ў іншых навелах, але, верагодна, найбольш выпукла і эмацыйна паказаны тут.*

*Першая навела з такой жа назвай, як і кніга, – "Gloria victis" – была надрукавана ў чацвёртым нумары "Дзеяслова" за 2008 год. І вось зараз апошняя. Прачытайма і падзячым Ажэшцы за магчымасць хоць такім чынам далучыцца да перажыванняў тых, хто браў непасрэдны ўдзел у барацьбе за свой лёс з марою пра самастойны і незалежны край.*

*Навела падаецца ў скарочаным выглядзе.*

**Перакладчык**

Яна не была яшчэ старой; мела не больш за сорак гадоў, а ў сваёй першай маладосці, несумненна, выглядала прыгожай, пераканаўчыя сведчанні гэтага засталіся ў правільных рысах твару, у неверагодна прывабных вачах, у пышных, залацістага колеру, валасах, яшчэ і цяпер доўгіх – ажно да каленяў.

Але ёй не ў галаве былі і яе маладосць, і прыгажосць, дбала аб іх, як аб пятым коле ў возе. Калі адзін з суседзяў аднойчы жартам сказаў ёй: "Пані Тарэза, калі б ты хораша ўбралася і прычасалася, ды не такім размашыстым крокам стала хадзіць, то яшчэ магла б быць прывабнай кабеткай!" – яна спачатку здзівілася, а пасля разгневалася і абарвала суседа:

– Таксама мне прыдумка! Няхай пан Ігнацы не забівае маёй галавы глупствам, а скажа лепей, ці пазычыць мне таго гароху для сяўбы, па які я прыехала, бо калі не, то сядаю ў брычку і ад'язджаю! Не маю часу!

Яна вечна не мела часу, спяшалася, бегла, аб нечым клапацілася, нешта яе турбавала, непакоіла. Што рабіла? Божа магутны! Ані пералічыць, ані расказаць! Рабіла ўсё, што было патрэбна, маючы невялікі фальварак, шасцёра дзяцей і мужа, які спачатку быў гулякам і марнатраўцам, пасля гультаём і ахвотнікам пажыць за чужы кошт, а затым памёр і пакінуў яе ўдавой.

Некаторыя, зважаючы на яе фенаменальную працавітасць, на энергічныя рухі, на бліскучыя, а часам ажно палымнеючыя вочы, казалі: "Ну й тэмперамент!" І мелі рацыю. Наяўнасць тэмпераменту была акурат тым, што вызначала яе лёс.

Некалі, васямнаццацігадовай, прыгожай, з багатым пасагам і шырокімі сувязямі, яна так закахалася ў шалапута-суседа, што не дапамаглі ні ўгаворы, ні забароны.

– Гуляка! – казалі ёй. – Гультай, баламут, банкрут!

А яна:

– На свеце няма анёлаў. У кожнага чалавека свае недахопы, ён іх таксама мае. Але я кахаю яго і з недахопамі, і без недахопаў і ніколі, ажно да магілы, кахаць не перастану! [...]

Калі канчаткова зруйнавалася гаспадарка, яна і муж яе, ужо з трымя дзецьмі, сталі жыць у невялікім фальварку, які заставаўся адзінай іхняй уласнасцю. Пані Тарэза хутка разабралася ў становішчы спраў на невялікіх участках поля, луга, лесу, з'арыентавалася ў гаспадарчых пабудовах, у рахунках арандатара, які саступіў ім месца ў невялічкім доміку, і прыступіла да працы. [...]

Ён жа, маючы нямала больш альбо менш багатых крэўных, ездзіў ад двара да двара, прагульваў тут тыдні, там месяцы, весяліўся сам і забаўляў іншых. Дзякуючы выдатным манерам і вясёламу нораву, яго ўсюды прыветна сустракалі і ахвотна прымалі. А яшчэ ён умеў падабацца паням, добра спяваў, на паляваннях трапна страляў, а пасля расказваў пра гэта смешныя анекдоты.

Дамоў зазіраў рэдка, калі прыязджаў, нейкі час забаўляўся з дзецьмі, гушкаў іх на дужых руках, абсыпаў жонку ласкай, а пасля пачынаў пазяхаць ад суму, валяўся на ўсіх хатніх дыванах і крэслах, выцягнуўшыся на ўвесь рост і бядуючы над сваімі няшчасцямі, а праз некаторы час наступаў перыяд пякельнага суму, магільнай панурасці, гыркання на ўсіх і ўсё, часам пагрозаў хуткай і, бадай, нават самачыннай смерці, аж пакуль нарэшце, не могучы вытрымаць жыцця ў гэтай нары, у гэтай глушы, у гэтым зямным чысцілішчы, з'язджаў зноў, каб праз тыдні альбо месяцы вярнуцца на некалькі дзён. Аднойчы сталася так, што назад не вярнуўся. На паляванні падчас гасцявання ў далёкіх адгэтуль крэўных моцна прастудзіўся і памёр. Твар пані Тарэзы пасля гэтага надоўга апух ад слёз. Тыя, хто бачыў яе ў той момант, казалі між сабой: "Ёсць каго так доўга і шкадаўліва аплакваць!" Яна ж, аднак, плакала доўга і шмат. Такой ужо была яе натура...

[...] Гэтай вясной старэйшы сын пані Тарэзы, дваццацігадовы студэнт, які некалькі гадоў правёў у далёкай сталіцы, разам з жаваранкамі прыляцеў у Ляшчынку і ўжо адтуль не адлятаў. Калі б пані Тарэза намаўляла яго да вяртання, ён, напэўна, не паслухаўся б, але яна не рабіла гэтага і толькі аднойчы буркатліва і коратка спытала:

– Што будзе, Юлік? Не паедзеш?

– Не, мамулечка, – адказаў ён. – Не паеду...

На ілбе ў яе з'явіліся дзве вялікія складкі, хвіліну яна стаяла, апусціўшы вочы, панурая і прыгнечаная. Пасля аднак падняла галаву і ўжо спакойным голасам прамовіла:

– Ну, што ж рабіць? Калі іначай быць не можа...

– Не можа, мамачка!

– Я гэта і сама ведаю. А калі іначай быць не можа, то і баста!

І пайшла па гаспадарцы. Але калі яна з вязкаю ключоў у руцэ ішла праз невялікі дзядзінец у свіран, дзе захоўваліся розныя прыпасы для жывёлы, крок яе быў цяжэйшы і больш павольны, чым звычайна.

Адзін толькі Бог ведаў, з якімі цяжкасцямі, перашкодамі, намаганнямі здолела яна падрыхтаваць сына ў вучылішча, утрымліваць там і адправіць у сталічны ўніверсітэт. Некалькі разоў крыху дапамог нехта з крэўных, і вось ужо праз тры гады Юлік стане адукаваным медыкам, а якім будзе медыкам і якім чалавекам, уявіць тое магла толькі яна адна, бо з усіх людзей ведала яго найлепей і вельмі шмат передумала пра сынаву душу, пра яго здольнасці, пра ягоную будучыню. Зрэшты, у гэтых мроях не ўсё было толькі мроямі, і ў ваколіцы шырока панавала меркаванне, што старэйшы сын пані Тарэзы вельмі ўдалы. Зімой, што папярэднічала гэтай вясне, суседзі не раз чулі ад яе:

– Ого! Хай толькі Юлік скончыць навуку і стане на ўласныя ногі, то я ўжо за будучыню Янка, Волека, Броні і Людвінкі буду спакойнай. Хай сабе і вочы закрыю, хай сабе напаткае Ляшчынку неўраджай альбо нейкія іншыя беды, ён не дасць ім загінуць!

– А чаму ж гэта пані, – аднойчы заўважыў нехта, – калі пералічвае ўсіх дзяцей, забываецца пра панну Інку?

Ад гэтага пытання радасць на яе твары згасала, а вочы пачыналі неспакойна міргаць.

– Інка! Ну што ж Інка! Васямнаццаць гадоў мае ўжо, дарослая...

– Замуж яе хутка пані выдасць, ці што?

– Мажліва... вядома... дзеля таго акурат і растуць дзяўчаты...

– Глядзіце толькі, каб хлопец які не ўкраў яе ад пані... Бо такая прыгажуня...

– А ўжо ж прыгажуня! Што праўда, то праўда! – зноў зачырванелася пані Тарэза, але тут жа з новым неспакоем у вачах і на твары дадала: – Толькі ж тая прыгажосць нам, кабетам, можа прынесці як шчасце, так і няшчасце. Ат! У Божых руках лёс чалавечы! Што Бог дасць!.. [...]

Калі Юлік, вяртаючыся, замкнуў за сабой дзверы, здавалася, што пакойчык шчыльна зачынены для ўсякага чалавечага вока і вуха.

– Ну, што ж, што ты хочаш мне сказаць? – кінулася да сына пані Тарэза.

Убачыўшы яе збялелы твар і трывожныя вочы, ён пачаў супакойваць:

– Не, не тое, яшчэ не тое, пра што мама падумала. І тое, вядома, таксама будзе, але яшчэ не зараз. Зараз нешта іншае, але таксама важнае.

І тут, стоячы каля адчыненага акна, пачаў гаварыць даволі голасна, бо і чаго меў бы шаптаць, калі паблізу нікога не было, і ніхто не меў намеру падслухоўваць.

Хіба ж ніхто? Бо за бэзавым кустом нешта зашапацела і штосьці цёмнае прамільгнула сярод густа пераплеценых галін. Але пані Тарэза і Юлік на гэта не звярнулі ніякай увагі. Ці мала птушак лётае за вокнамі, а ім самім у гэтую хвіліну было не да любавання гульнёй фарбаў і святла ў кустах.

Тым часам за бэзавым кустом дзве хлапечыя постаці, адна яшчэ не дарослая, другая ж зусім дзіцячая, у напружаных позах, са скамянелымі ад пільнай увагі тварамі падслухоўвалі. [...]

Вярнуўшыся з колькігадзіннай вандроўкі па вёсцы і па лесе, яны адразу ж заўважылі, што паміж маткай і Юлікам нешта ёсць, нейкі сакрэт, нейкая трывога. Падчас абеду матка менш звычайнага размаўляла, нават забывалася ўшчуваць за неабедзенныя паводзіны, а Юлік часта задумваўся і ні разу не пакпіў з іх. Яны ўжо даўно пра нешта здагадваліся, нешта прадчувалі, нешта ведалі з размоў старэйшых. Яшчэ ў школе, там, у горадзе, адкуль прыехалі дамоў на святочныя канікулы, паміж сябрамі было шмат гаворак аб тым, што павінна адбыцца. А чаму пасля святочных канікулаў матка не дазволіла ім вярнуцца ў горад, у школу? Ого! Яны добра чулі, як аднойчы яна прамовіла да Юліка: “Гэткім часам хто ведае, што можа стацца з дзецьмі. Няхай лепш застануцца дома”. Юлік заўважыў, што страцяць цэлы школьны год, а яна адказала: “Няхай лепш страцяць год, але застануцца жывымі і здаровымі!” Вось пра што ішло! Абы засталіся жывымі і здаровымі! Іншыя то маюць права распараджацца сваім жыццём і сваім здароўем, а яны хай пры фартушку маміным сядзяць, хай пакрываюць сябе ганьбай, хай будуць здрайцамі краю, абы... Бо здрайцам краю з’яўляецца і пакрываецца ганьбай той, хто цяпер... А адкуль жа ўпэўненасць, што Юлік застанецца жывым і здаровым? Бо ён збіраецца рабіць тое, што загадвае яму сэрца, да чаго заклікае прыклад усіх рымскіх і польскіх герояў, і мама на тое згаджаецца... Чаму ж гэта яму можна, а ім не? Яны адчулі нешта накшталт рэўнасці да старэйшага брата і ўжо даўно сачылі за яго паводзінамі, прыслухоўваліся да яго размоў. Але на падслухоўванне адважыліся сёння ўпершыню. Хіба ж можна было не адважыцца, калі, стоячы за дзвярыма, пачулі, як Юлік казаў: “Пойдзем у мамін пакой на размову, бо там малеча будзе нам менш замінаць!” Ад гэтых слоў у старэйшага ажно нешта скаланулася, завіравала. “Чуеш, Волек? Малеча!” А ў Волека ў блакітных вачах закіпелі слёзы. Ціхенька, як мышы, яны абабеглі вакол невялікага дамка, прыселі на лаўцы пад кустом бэзу і навастрылі вушы на вакно матчынага пакойчыка. Янак напружыўся, як струна, і падаўся да матчынага акна, сутаргава сціскаў край лаўкі. Волек жа згорбіўся, натапырыўся і румяныя шчокі надзьмуў так, як бывала часам, калі па загадзе маткі раздзьмухваў агонь у самавары.

Слухалі. Юлік надта не прыцішаў голасу, аднак міжволі часам гэта здаралася, таму ўсяго, што казаў, яны чуць не маглі, і да вушэй даляталі не заўсёды поўныя сказы, часам толькі ўрыўкі: “Сёння пасля заходу сонца... наўпрост у Дубовы Рог... туды не заедуць...”

А пасля пытанне маткі: “Ці многа там будзе гэтага?”

І адказ Юліка: “Шабляў... рэвальвераў... кос...”

Янак ажно ўвесь задрыжаў – ад галавы да пят. Адной рукой сціскаў край лаўкі, другой схапіў брата за калена.

– Чуеш, Волек? Чуеш?
Той пачаў калаціцца, як у ліхаманцы.
– Ага! Шаб... шаб... шаб... лі...
– Ці-і-іха!
Матка казала зноў:
– Трэба ўзяць матыкі для капання зямлі...
А Юлік:
– Я з Тэлежукам. Ці ён дома?
– Напэўна... я скажу яму...
Хвіліна маўчання, пасля чаго зноў голас Юліка:
– Толькі з хлопцамі... каб не бачылі...
– Ат! Такое глупства! Гэтыя блазнюкі, што яны...
– Няхай мама так... няхай мама так не... яны вельмі нават... я заўважаю...
– Не можа быць! У іхніх галовах яшчэ свавольствы, а Янак увесь у кніжках...
– Ну, ну! Гэта маме так... матэрыял лёгка загараецца...
– Я скажу ім ісці спаць... для твайго спакою...

Тут дзверы з пакоя маткі ў дзіцячы пакой працягла зарыпелі і адначасова два тонкія галасочкі пачалі так гучна, што было чуваць ажно за акном:

– Мамуля! Мамачка! Мамця!

– Ну вось, ужо і малыя там, – прашаптаў Янак. – Цяпер усяму будзе канец. Уцякайма!

Таемна сарваўшыся з лаўкі, яны зніклі ў гушчары блізкіх дрэў і кустоў.

[...] Назаўтра паехала да Уладзіслава Аршака, які жыў за дзве мілі ад Ляшчынкі. Перад ад’ездам сказала дачцэ:

– Мушу паехаць па звесткі... Іначай не дам сабе рады... Юлік казаў, каб пры кожнай патрэбе звярталася да пана Аршака, што ён заўсёды будзе найболей аб усім ведаць. А ты, Інка, не сядзі са складзенымі рукамі; падмяні мяне, папільнуй малых, напраў сукенку Людвінкі... учора яе разадрала.

Яна села на параконную брычку, якою кіраваў Тэлежук, і паехала, а перад самым вечарам вярнулася з агністым тварам і трымцівымі рукамі, якія, калі здымала з галавы муслінавую хустку, прыкметна калаціліся. Да Інкі, якая сустракала яе на ганку, кінулася з лагодным шэптам:

– З дня на дзень... ужо з дня на дзень... заўтра, паслязаўтра... можа, заўтра...

– Што, мама? Што?

Інка таксама не толькі з цікавасцю чакала звестак, але моцна прагла іх. А як жа! У гэтай глушы, у гэтай аднастайнасці, у гэтай самоце хоць бы якое новае ўражанне, новае адчуванне.

– Што, мамця? Што? Што будзе з дня на дзень ці, можа, заўтра?

Пані Тарэза выбухнула:

– Бітва!.. Войска ўжо ідзе да Горацкіх лясоў...

І неяк дзіўна закружылася на адным месцы, як віхор уляцела ў дом, адкуль беглі на спатканне з ёй два тоненькія радасныя галасочкі.

– Мама вярнулася! Мама! Мамачка! Мамця!

А ў гэтую самую хвіліну на ганку, з якога сышла Інка, каб няспешна і неахвотна блукаць па садзе, Янак і Волек падскочылі адзін да аднаго, абодва дрыжалі і былі такія збялелыя, што румянага Волека ў той момант наўрад ці можна было б пазнаць. Яны стаялі за Інкай, калі матка выходзіла з брычкі, і чулі, што яна казала.

– Во... войска ўжо ідзе! – трасучыся, як у ліхаманцы, шаптаў Волек.

А Янак з апушчанай галавой маўчаў і толькі тонкімі пальцамі камячыў старонкі трыманай у руках кнігі. Калі падняў твар, вочы ягоныя блішчалі так, як не раз бывала ў пані Тарэзы ў хвіліны ўздыму. Ён і Юлік ўзялі па спадчыне ад маткі гэтыя карыя вочы, якія ў час пэўных душэўных парываў здаваліся палымнеючымі зарывамі.

Сваю хлапечую, тонкую і пружыністую постаць ён выпрастаў і надта паважна, амаль што ўрачыста, прамовіў:

– Цяпер, Волек, альбо ніколі. Пайшлі! Пагаворым!

Гэтай ноччу ніхто ў Ляшчынцы не меў нармальнага сну. Пані Тарэза, праўда, па звычцы і ад стомы заснула каля поўначы, але неўзабаве з яе пакоя пачалі гучаць і разносіцца па ўсім доме нейкія дзіўныя, сонныя, працяжныя заклікі ці воклічы. Ніякага імені, ніякага выразнага слова ў гэтых гуках, што выходзілі з сонных грудзей, разабраць было нельга, але яны былі набрынялымі такой жаласлівасцю і смуткам, гэтак самотна, змрочна, працяжна разносіліся па цёмных пакоях, што Інка, як бывала звычайна, да позняга занятая завіўкай валасоў, адарвалася ад люстэрка і з лямпай у руцэ пабегла ў пакой маткі. Пані Тарэза звычайна спала моцна і прыход дачкі не разбудзіў яе, а Інка, убачыўшы, што яна спіць, акінула пакой вачамі і зноў вярнулася да свайго люстэрка, але ўжо да завівання валасоў не мела нават ахвоты. Са стукам паставіўшы на стол лямпу, гнеўным рухам адкідваючы ўзяты ў рукі грэбень, зашаптала:

– Божа мой! Я не вытрымаю! Каб ад усіх гэтых бедаў можна было куды-небудзь уцячы! Божа мой! Якая я нешчаслівая... нешчаслівая!

Вочы яе былі поўныя слёз, якія двума шнуркамі пацяклі па прыгожым твары, робячы яго яшчэ прыгажэйшым. Яна пазірала таксама на адбітак у люстэрку сваёй прыгажосці і сваіх слёз.

– І навошта мне гэтая прыгажосць? Што мне з яе? Навошта яна мне... у гэтай глухамані... пасярод гэтых бедаў?..

Калі яна сядзела так з заламанымі рукамі, з двума шнуркамі слёз на шчоках і шаптала, з пакоя пані Тарэзы зноў пачуліся і па цёмным доме расплываліся сонныя, працяжныя, сумныя, бязмежна самотныя, жаласлівыя заклікі ці маленні.

Каго яна так клікала альбо маліла праз сон? Сына, які кожны дзень мог апынуцца ў агні бітвы, ці Бога, укрыжаваны вобраз якога цьмяна бялеў у глыбокім змроку? [...]

Яны не стрымаліся тады, пайшлі. На вестку аб блізкай бітве і падыходзе войска іхняя фантазія разыгралася так шырока і моцна, кроў у хлапечых жылах закіпела так горача, што ўсе іншыя пачуцці заціхлі, усе хістанні зніклі. Сярод ночы, пад ліпай, пры святле бліскучых праз яе галіны зорак яны апранулі самую новую вопратку, падперазаліся скуранымі пасамі, абулі не зусім цэлы абутак, схавалі пад вопраткай пісталеты і кінжалы і, усё гэта прарабіўшы дрыжачымі ад нецярпення рукамі, ціхенька адышлі.

Пайшлі ў атрад.

А калі начальнік не захоча іх там прыняць? Мо і ён гэтак жа, як іншыя, назаве іх карапузамі і загадае вяртацца дадому?

Думка гэтая была як перуновы ўдар, але яны хутка атрасліся ад яе.

Не, быць гэтага не можа! Начальнік – вялікі чалавек, а вялікія людзі ўсё ведаюць і разумеюць. Ён іх зразумее, ён скажа ім: “Заставайцеся, маладыя рыцары! Змагайцеся разам з намі і з намі перамагайце альбо загіньце!”

Перамагчы альбо загінуць! Які высокі сэнс у гэтых трох словах! І начальнік абавязкова прамовіць іх да хлопцаў, а Юлік засаромеецца, што хоць і брат, і – герой, так, бо, нягледзячы ні на што, ён герой, але не здолеў іх зразумець і ацаніць! Так, не здолеў ён ацаніць у іх такую самую адвагу і такое самае імкненне да геройства, якія былі ў яго самога. Цяпер ён пераканаецца.

Дарогу да Горацкай сядзібы ведалі добра. Калі Інка чатыры гады вучылася з паннай Авічовай, матка ездзіла туды часта і часам брала іх з сабой. Зрэшты, не надта далёкай была гэтая дарога. Няпоўныя тры мілі. Яны прайшлі гэты шлях за некалькі гадзін, бо быў свежы і светлы ранак, а яшчэ больш цудоўнымі былі іхнія пачуцці. Пачуваліся дужымі, моцнымі, лёгкімі, а перад усім вольнымі.

Ім здавалася, што з іх зваліліся нейкія аковы і яны ляцяць, а не ідуць, проста

ляцяць на нябачных крылах насустрач незвычайным і дзіўным прыгодам, насустрач гераічным здзяйсненням, да якіх імкнуліся іхнія рукі і сціскаліся дробныя кулачкі, ляцяць да нейкага вялізнага сонца, якое віруе на значным аддаленні і раскідае на ўвесь свет асляпляльныя і чароўныя колеры і бляскі.

Мелі намер прайсці каля Горацкай сядзібы такім чынам, каб ніхто не заўважыў іх, і непадалёк ад сядзібы, у месцы, ім добра знаёмым, увайсці ў лес. Але ўжо здалёку заўважылі, што на сядзібе творыцца нешта незвычайнае... Нейкі тлум людзей на вялікім дзядзінцы, нейкія металёвыя бляскі ў паветры, нейкія крыкі гучнымі галасамі. За заслонай кусцістых вербаў, якія атулялі палявую сцежку, падышлі яшчэ бліжэй, напружваючы зрок, і адначасова прашапталі:

– Жаўнеры! Войска!

Без цяжкасці маглі здагадацца, што войска гэтае неўзабаве мела пайсці туды, куды спяшаліся і яны. Адначасова з гэтай думкай адчулі гарачыню, якая абліла іх з галавы да ног. Гарачыню запалу і нецярплівасці. Ах! Быць бы ўжо там – апынуцца як мага хутчэй там, дзе будзе бітва, дзе небяспека, дзе поле для ажыццяўлення так доўга пеставаных мараў, намераў, так доўга хаваных, бо не зразумелых людзьмі і не падтрыманых. Аднак праз усе развагі зразумелі, што ім трэба сыходзіць адсюль як мага хутчэй і ўвайсці ў лес у іншым, аддаленым адсюль, месцы. Так і зрабілі. Як палявыя мышы праслізнулі яны па загонах і межах, пад кустамі і дрэвамі, па глыбокіх равах і ўзмежках палёў і ўвайшлі ў лес так далёка ад Горацкай сядзібы, што з яе не даходзіў ніякі гук і бляск. Тут, змэнчаныя і задыханыя, усё яшчэ мокрыя ад пераправы праз канал, упалі на мох пад соснамі.

[...] Пайшлі зноў, але ішлі павольней, чым да гэтага.

Сярод большых за іх альбо высокіх толькі да шыі кустоў, над якімі распасціраліся ў вышыні ледзь прасветленыя густыя сплёты галін высокіх дрэў, яны спыніліся. Стаялі, як укапаныя ў зямлю, слухалі. Волек ажно выгукнуў:

– Стр... стр... страляюць!

– Страляюць! – пацвердзіў Янак, і яны без змовы, без парады, раптоўна, адначасова, з аднолькавай хуткасцю пачалі бегчы з гушчару, дзе заспела іх водгулле грымотаў, у той бок. Рукамі, якія зноў набралі сілы і пружыністасці, расхіналі, разрывалі перад сабой сплёты галін, раздзіралі іх сваімі целамі, пераскоквалі нагамі, якія ў гэтую хвіліну здаваліся эластычнымі і зробленымі са сталі.

[...] У глыбокай, чыстай, пахкай цішыні, між рэдка расстаўленых на матава бліскучай падсцілцы залацістых калон каціліся не асабліва далёкія, нават даволі блізкія грымоты... Грымоты залпавай стральбы. А паміж імі, у кароткіх прамежках, чуліся гукі асобных стрэлаў.

– Бітва! – прашаптаў Янак.

– Бі... бі... біт...

Дыханне Волека замірала ў грудзях, і ён не мог закончыць сваё казанне.

– Недзе блізка!

– Блізка.

– Ляцім туды!

Яны падскочылі з зямлі, зноў пачалі бегчы, а прабегшы крыху, зноў упалі на зямлю.

– Яшчэ трохі, – зашаптаў Янак, – яшчэ трошкі адпачыць...

Павекі апусціліся на ягоныя вочы, перад якімі насіліся шматы мутнай імглы, перамяшанай з чырвонымі плямамі. Але не мінула нават хвіліны, як вочы ягоныя праз гэты змрок убачылі нешта такое, што выпрастала яго і ўсю кроў кінула ў сэрца.

– Бачыш? Бачыш, Волек, бачыш? Там!

– Бачу! Бачу! Бачу!

І ён сеў, а вочы гарэлі, як блакітныя агні.

Яны ўбачылі купку вершнікаў, якія вынырнулі аднекуль з боку грымотаў, з густога

гушчара і ехалі па прагаліне сярод каланады соснаў, па сонечных палосах, што ляжалі на падсцілцы, якая бледна блішчала. Глуха тупаталі па імху іігліцы капыты іхніх коней, яскрава мігацелі ў залатым сонечным мроіве чырвоныя, як кроў, аздобы іхніх убораў, над убранымі ў чырвонае галовамі блішчала вастрыё іхняй высокай зброі... Няшмат было іх; мо дзесяць, дванаццаць. Невялікі вайсковы атрад, мо пасланы куды-небудзь з загадам, а мо стража, якая мяняла сваё месца знаходжання.

Пад адной з калон прагучаў хлапечы шэпт, усхваляваны, прыдушаны:

– Казакі!

А праз некалькі секунд другі шэпт, гарачы, узбуджаны:

– Страляйма!

Абодва прыкленчылі на адно калена, шапкі з іхніх галоў пазвальваліся, губы дрыжалі, вочы гарэлі, у руках блішчалі пісталетныя ствалы.

– Янак! Разам!.. разам... што, ужо?

А той тонам вайсковай каманды голасна, урачыста прамовіў:

– Стра-ляць!

Як два камяні ўпалі ў празрыстую ваду, у глыбокай, чыстай, пахкай цішыні каланады прагучалі два стрэлы.

Казацкія коні адразу спыніліся, як укапаныя, а пасля павярнуліся ў бок стрэлаў.

Казакі не бачылі і, напэўна, не заўважылі б дзве дробныя постаці, якія на аддаленні шарэлі ля зямлі. А цяпер яны на хуткіх конях, мінаючы залацістыя калоны, ляцелі да іх...

Завіравала, загучала, застукала пад высокай сасной. Паранены куляй у руку, Волек упаў на падсцілку з іголак. Янак зрабіўся смяротна белым, але стаяў прама, і толькі ягоныя павекі міргалі імкліва-імкліва над вачамі, быццам аслепленымі крывава-чырвонымі ўборамі тых вершнікаў, якія саскочылі з коней і акружылі яго цесным і гучным колам. У гучанні іхніх галасоў быў чуваць гнеў, але таксама прабіваўся і смех... Смех басавіты, мо ненавісны і пагардлівы, аднак ён не даваў набраць моцы гневу. Якога ж гэта непрыяцеля яны тут напаткалі? Гэта ён учыніў тут на іх засаду! Рамяні нагаек некалькі разоў прасвісталі ў паветры і, упаўшы на худыя плечы непрыяцеля, павіслі над зямлёй, пісталеты зніклі за чырвонымі пасамі.

– Ха, ха, ха, ха!

Аднак смяяліся не ўсе, некаторыя з вусатымі і цёмнымі тварамі пазіралі сурова і грозна. Начальнік закрычаў:

– Узяць іх! На коней іх! *Да начальства!*

[...] Мінула два, а мо нават і тры дні пасля бітвы, што адбылася ў Горацкіх лясах. Пані Тарэза сядзела на лаве ў кухні і слухала расказ Тэлежука, які стаяў перад ёй. Ён толькі што вярнуўся ў Ляшчынку. Наста з апухлым ад слёз тварам убачыла яго праз акно, калі ён пад'язджаў да стайні, гучна крыкнула: “Пані, Панас вярнуўся!” і з шалёным смехам радасці кінулася з дому на спатканне з ім. У доме стала чуваць моцнае стуканне дзвярэй, гучныя паспешныя крокі, і на кухню прыбегла пані Тарэза. Адначасова ў супрацьлеглых дзвярах паказаўся Тэлежук, пакрыты пылам далёкай адсюль дарогі, са схуднелым і больш, чым калі, панурым тварам. З бізуном у руках ён стаў перад кабетай, якая сядзела на лаве, і няспешным голасам, нібыта соннай мовай апавядаў.

Ён здагадаўся, куды паляцелі хлопцы. У вёсцы нейкі парабак бачыў, як яны ішлі пасля поўначы, і паказаў, у які бок. Ён пагнаўся за імі, а не дагнаўшы ў дарозе, паехаў у лагер паўстанцаў, доўга не мог яго знайсці, блудзіў па вялікім лесе, пачуўшы страляніну, паехаў у тое месца, адкуль яна была чуваць. Паехаў – і вось на што натрапіў! Забралі хлопцаў. Прасіў: “Аддайце! Гэта ж *дзтыны!*” Не паслухалі і разам з імі паляцелі *да начальства*. Ён гнаўся за імі – дагнаў, прасіў *начальства*: “Аддайце, гэта ж *дэтыны* яшчэ недарослыя, неразумныя!” Не паслухалі. Павезлі далей. Ён за імі. З мястэчка ў мястэчка. Дзе спыняліся яны, там спыняўся ён і – прасіў:

“Аддайце! Пусціце! Гэта ж *дэтыны!* Маюць матку!” Так заехаў ажно да павятовага места, за дзесяць міль адгэтуль, але там прасіць ужо не мог, бо да *начальства* яго не дапусцілі. Толькі тое даведаўся... што хлопцаў пасадзілі ў *турму*... Як разбойнікі альбо канакрады сядзяць у *турме*... *Шчоб іх!*

Ён не закончыў пачатага пракляцця, і было невядома, каго праклінаў: *дэтын,* якія столькі бяды натварылі, альбо тых, хто просьбаў яго шматкротных не пачуў. Але калі ён, закончыўшы свой расповед, пачаў нерухома пазіраць на акно, за якім у майскай зеляніне шчабяталі птушкі, вочы меў такія, як быццам пасля страты ўласных дзяцей, як у савы днём – крывавыя і застылыя.

Усё, што толькі ведаў, расказаў, апрача таго, што Волек, калі яго бралі на каня, меў на рукаве вопраткі вялікую крывавую пляму, вочы былі заплюшчаныя, а твар такі бледны, які быў у ягонага нябожчыка Васілька, калі яго клалі ў сасновую труну. Гэтага аднаго толькі не сказаў. Пашкадаваў матку.

Пані Тарэза выслухала ягоную няспешную мову ў скамянелай нерухомасці, ніводным словам, ніякім рухам не перапыняючы.

Што яна перажыла за апошнія дні і ночы, трохі сведчылі прыпухлыя і абвіслыя шчокі, набухлыя і пачырванелыя павекі, глыбока ўзараны маршчынамі лоб, але расказаць аб усім яны не маглі.

Ах, тыя дні і тыя ночы, калі Янак і Волек зніклі, і Тэлежук таксама некуды прапаў, калі аб бітве і Юліку не было ніякіх вестак, калі яна цэлымі гадзінамі бегала, куды толькі магла, у пошуку зніклых сыноў, калі па звесткі пра сына, сама кіруючы канём, у небяспецы ездзіла да Аршака і, не знайшоўшы яго дома, вярнулася без нічога.

Цяпер, слухаючы расповед Тэлежука, яна хуткімі рухамі пальцаў пастаянна камячыла, скубла фалды сваёй шорсткай спадніцы. Позірк яе быў скіраваны на апавядальніка, рот адкрыты.

Тэлежук праз хвіліну маўчання прамовіў:

– Едзьце, пані, у места. Вас мо да *начальства* дапусцяць... Вас мо паслухаюць... вам мо аддадуць...

Дрыготкімі губамі яна прашаптала:

– Во якая гісторыя!

І раптам хуткім рухам падскочыла з лавы.

– Так! Так! Трэба ехаць. Малечу маю ратаваць... Зараз, зараз... Каб толькі штонебудзь даведацца пра Юліка!.. Але гэта нічога! Там напэўна даведаюся. Мой Тэлежук! Запрагай пару коней у брычку... Зараз... Толькі рэчаў крышку запакую... іхніх і сваіх... у адных кашулях яны там...

Спешным крокам ішла цераз кухню і раптам адчула, што зноў, як пры ад’ездзе Юліка, нешта хоча кінуць яе на зямлю... Тая самая ўнутраная сіла, якая з пранізаных болем чалавечых грудзей выклікае крыкі, енкі, гучныя скаргі, нейк дзіўна кружыла яе і намагалася кінуць на зямлю. Не крычала, не плакала, не скардзілася, але – ах! упасці б з раскрыжаванымі рукамі на зямлю і біцца аб яе галавой! Ды яна не зробіць гэтага, не. Таксама глупства! Яшчэ ж нічога такога...

У свой пакой уляцела з галавой, перапоўненай думкамі, дзе ўзяць грошы на дарогу, калі позірк яе ўпаў на постаць Інкі, якая стаяла ля акна. Як скрушлівая статуя, поўная прывабнасці, яна стаяла ля акна са скрыжаванымі на сукні рукамі, але з ружовымі вуснамі, надутымі гнеўна, і блакітнымі вачамі, якія паблісквалі востра-востра. Яна кіпела гневам на меншых братоў. Яшчэ і яны. Яшчэ і гэта было патрэбна, каб дарэшты ператварыць яе жыццё ў пекла! Яна ўся здрыганулася, пачуўшы гучны голас маткі.

– Інка! Што ты стаіш, як лялька! Чула, што сталася. Мушу ехаць. Зараз... Пабягу ў вёску, да арандатара, папрашу грошай на дарогу... а ты складзі рэчы мае і хлопцаў!

Твар дзяўчыны ажыў нейкай раптоўнай надзеяй ці мо радасцю.

– Рэчы мамы і хлопцаў? Але ж і мае таксама! Бо і я паеду з мамай...

– Ты? А чаго? Каб павысіць кошт пражыцця ў горадзе? І з кім, пад чыёй апекай застануцца малыя?

– Тэлежукава будзе апекавацца імі.

Твар пані Тарэзы, перад гэтым крыху збялелы, агніста пачырванеў. Гэтымі некалькімі днямі смяротнай для яе пакуты часам брала злосць на гэтую каралеўну з вечнымі завіткамі на галаве, з вечна апушчанымі на сукню рукамі, такой абыякавай да ўсяго, што рабілася, такую бяздзейную, такую нават у самім спосабе пацехі альбо супакаення няўмелую і ненатуральную.

Прыйшла аднойчы, напрыклад, у пакой да маткі і на ўвесь рост упала перад ёй. Пані Тарэза перапалохалася.

– Што ты робіш, Інка! Што з табой?..

А яна, прыпадымаючы свой прыгожы тварык, пачала шаптаць:

– Я буду ляжаць каля ног мамы... Пакуль Янак і Волек не вернуцца дадому... Хіба ж я не магу замяніць іх маме? Хіба не магу я для мамы быць усім... усім.... Галаву пакладу на маміны калені...

– Ну й рамантыка! – усклікнула пані Тарэза. – Хіба патрэбна мне тваё ляжанне ля ног і ці маю я зараз час трымаць на каленях тваю галаву. Устань і пусці мяне, бо зараз я паеду да пана Аршака, каб што-небудзь даведацца пра Юліка... А ты лепей, чым ляжаць і плясці бздуру, ідзі пашукай у садзе малых і назірай, каб чаго не зрабілі сабе...

[...] Мінула ўжо нямала дзён, як яна з’явілася ў мястэчку.

Акно ў памяшканні начальніка судовай камісіі было шырока адчынена для свежага паветра, для бляску залацістага сонца, а паколькі дом быў аднапавярховы, нізкі, прахожыя маглі бачыць у цёмнай глыбіні пакоя палаючую чырвоным бантам пані Тарэзу. Яны маглі заўважыць, як яна з размашыстымі жэстамі загарэлых рук нешта гаварыла мужчыну, высокі рост, чорныя валасы, смуглы профіль і бліскучыя аздобы мундзіра якога бачыліся ў паўзмроку пакоя.

Быў высокі, у прыталеным мундзіры, зграбны і выбітны, авальны твар смуглы, вугольна-чорныя валасы, а ў чорных, як ноч, вачах палымнела паўднёвае сонца.

Гэта быў сын Каўказа, чаркескі князь, у ягоных жылах цякла перамяшаная кроў двух народаў – пераможцы і пераможанага. Аднак размаўляў ён мовай пераможцаў, у ягоным сэрцы таксама жылі пераможныя пачуцці. Гэта быў саноўнік, які трымаў сякеру гневу і кары над вялікай прасторай, ахопленай пажарам, і праз няшчасце ўсё больш залівананай морам слёз і пакуты. Насіў тытул князя, і насельніцтва гэтага краю, рэдка прамаўляючы ягонае прозвішча, казала пра яго проста і толькі: князь.

Пані Тарэза даволі часта прыходзіла да князя з просьбай дазволіць спатканне з сынамі, даць магчымасць задаволіць розныя іхнія патрэбы, з запытам аб ходзе і мажлівым завяршэнні справы.

Не надта ўмела прасіць. Часам казала:

– Злітуйцеся, княжа, гэта ж дзеці...

Але адразу ж збівалася з просьбы на гнеўны тон альбо намагалася пераканаць яго сваёй шчырасцю.

– Я матка! І дзеці, пакуль не падрастуць, павінны быць толькі пад маёй апекай! Я зброі ім не давала і ісці ў атрад не загадвала, бо гэта глупства, каб дзеці займаліся такімі справамі. Але паколькі зрабілі гэтае глупства, пакараць іх маю права толькі я адна, трэба аддаць іх мне, бо мне адной Бог даў права, і не толькі Бог, але і ўся мая праца, усе мае згрызоты, клопаты, якія я для іх...

Тут яна заўважала, што з перапоўненага сэрца пачынае гучаць скарга, і стрымлівалася, змаўкала, але не магла спыніць слёз, якія напłывалі на вочы, затуманьваючы іх.

Высокі, стройны князь, не спускаючы з яе вачэй, адказваў аднастайна. Было бачна, што яна здзіўляе яго і мо крышку забаўляе. Гэты трагічны твар над пастаянна

спаўзаючым набок чырвоным бантам, смела паднятая галава з вачамі, зашклёнымі з усёй сілы стрымліваемымі слязамі... Прыглядваўся да яе, дазваляў гаварыць.

Мову яе разумеў. Яны размаўлялі на двух розных мовах, але ўзаемна разумелі адно аднаго. Скрыжаваўшы на грудзях рукі і крыху прымружыўшы свае паўднёвыя вочы, ён казаў:

– Меншым сынам не давалі зброі, яны самі ўзялі, але старэйшаму далі яе... бо для старэйшага гэта не было глупствам... Што? Ха-ха-ха!

Ён ціха смяяўся, не вельмі зласліва, хутчэй, легкадумна і абыякава. У яе вачах слёзы, як назло, раптам высыхалі. Апусціўшы галаву, яна коратка і панура адказвала:

– Ён сам узяў, я не забараняла!

– І дрэнна зрабілі! – працягваў князь жартаўліва. – Вось і загінуў ваш старэйшы сын...

Яна падняла галаву і перапыніла:

– За добрую справу, за свят...

І не магла дакончыць, бо горла яе сціснуў жаль.

Князь адвярнуўся і афіцыйным тонам спытаў, чаго яна сёння прыйшла і што хоча ад яго.

Іншым разам ён заўважыў:

– Відаць, дома была адпаведная атмасфера, калі гэтыя *мальчуганы* маглі такое зрабіць... Ну, самі прызнайцеся, якая там у вас дома мусіла быць атмасфера... га?

Яна пацiснула плячыма:

– Атмасфера? А якая ў маім доме магла быць атмасфера? Вядома, што польская. Хіба магла быць кітайская альбо ангельская? Таксама прэтэнзіі! Я полька і дзеці мае гадаваліся ў польскай атмасферы... Але ўступаць у барацьбу гэтай малечы было яшчэ рана...

[...] Гелена Іванаўна казала Іне праўду, што князь не сёння-заўтра будзе прызначаны на іншую вайсковую пасаду і пераведзены ў сталіцу дзяржавы.

Мінула няшмат дзён, як Іна першы раз адведала сваю новую знаёмую, калі па мястэчку разбеглася вестка, што неўзабаве князь пакіне яго, а на пасаду, якую ён займаў дагэтуль, заступіць нехта іншы.

І адразу ўсе думкі, усе прадчуванні і надзеі, усе засцярогі мноства людзей моцна сканцэнтраваліся на кароткім пытанні: хто?

У моманты глыбокай смуты, бурлівых перажыванняў, калі з дзеяў і спраў людскіх знікае спакойнае разуменне закона і над імі навісае падняты крывавымі рукамі меч гневу і помсты, надзвычайнае значэнне набываюць рукі, якія трымаюць гэты меч гневу і помсты.

Тады бываюць рукі больш альбо менш крывавыя; рукі, якія забіваюць, і такія, што толькі раняць, рукі, якія выклікаюць мора слёз і крыві, і такія, з-пад якіх выліваюцца толькі іх струмені.

І бываюць таксама на зямлі такія моманты і месцы, у якіх цяжкія раны замест смяротных, струмені слёз і крыві замест мора іх, падаюцца шчасцем.

Сярод крывавых рук, якія навіслі зараз над гэтым краем, рука князя не была самай крывавай. Была яна ў адрозненне ад многіх іншых менш жорсткая, менш помслівая.

Мо таму, што цякла ў ёй кроў народа, нядаўна яшчэ вольнага, які шануе сваю вольнасць, а мо таму, што кіравала ёй сэрца, цалкам адданае радасцям жыцця, якое прагна жадала толькі гэтага, а ва ўсім іншым бачыла выключна дарогі, якія вядуць да таго.

Гэта была ўжо не вясна, а амаль што канец лета. Была гэта пара адлёту надзей і прылёту няўдач.

Муры турэмнага гмаху ўсё перапаўняліся, частку арыштаваных даводзілася пераводзіць у іншыя, большыя будынкі, акружаныя штыкамі збройнай стражы.

Дождж прысудаў падаў на дахі гэтых будынкаў і выводзіў з-пад іх людзей у Сібір, на катаргу, на шыбеніцы. Дождж гэты падаў з рук суддзяў. Тут вышэйшым суддзёй быў да гэтай пары князь, а зараз...

Хто? Які? Што прынясе замена?

Для тлуму галоў ссівелых і галоў маладых, якія сабраліся каля вязніц, была гэта загадка, якая крывавіла. І быў гэта прывід нечага невядомага, на якім сэрцы і ўяўленні бачылі больш альбо менш густыя плямы крыві. Сэрцы калаціліся, уяўленне малявала розныя страхі.

Пані Тарэза да гэтага мела надзею, што хлопцаў аддадуць ёй. Князь быў да яе прыязны, з часам нават усё больш прыязны, аднак аднačасова станавіўся нейкім няўважлівым, занятым нечым іншым.

– Следства яшчэ не закончана, – казаў ён. – Будзьце цярплівыя; калі следства будзе закончана, пабачым, што рабіць з вашымі малымі *героямі*...

І думкі ягоныя адразу ж скіроўваліся на нешта іншае. Ён не надаваў асаблівага значэння ўчынку гэтых дзяцей...

“Мо ў яго самога ёсць меншыя браты, малыя яшчэ, – думала пані Тарэза, – альбо проста ён мае добрае сэрца. Чаму ж бы не? У кожнага народа бываюць людзі злыя і людзі добрыя...”

А зараз прыедзе той нехта новы... акурат перад самым выракам. Нейкі новы, чужы, невядомы чалавек, мо поўны нянавісці, мо вынесе Янку і Волеку акрутны вырак.

Ад гэтай думкі ў яе кружылася галава і джала болю так калола ў сэрца, так пякло, што нідзе доўга ні стаяць, ні сядзець не магла, яшчэ хутчэй, чым раней, бегала ад знаёмых да знаёмых па навіны, па парады.

Навіны? Якія? Яшчэ ніхто нічога не ведаў. А парады? Адна толькі была: цярпліва чакаць.

Пані Тарэзу ахопліваў гнеў.

– Таксама парада! Павінна быць цярплівай тады, калі мае дзеці на вачах прападаюць!

Сапраўды, хлопцы, якія не прывыклі да нерухомасці і абмежавання турэмнай камеры, да вечнага змроку вязьніцы, на вачах ніклі, вялі, як кветкі, пазбаўленыя паветра і сонца. Абодва цяпер ужо былі ў турме, але не разам. Ім нават не дазвалялі бачыцца. Следства яшчэ не было скончана. Выклікалі сведкаў: Тэлежука, ягоную жонку, сялян з бліжэйшай да Ляшчынкі вёскі. З усёй вялікай колькасці спраў ніводнай нельга было закончыць хутка.

Янак жа тым часам усё глыбей апускаўся ў тую дзіўную меланхолію, у якую часам трапляюць няшчасныя дзеці. Тады магло здавацца, што іхнія маленькія душы калышуцца над безданню, цемру якой не ўмеюць разгледзець і адляцець з-пад якой не могуць. Неяк раз у прыступе расчуленасці Янак даверыўся матцы:

– У мяне заўсёды, заўсёды блукаюць у галаве думкі, чаму свет такі! Чаму ў ім гэтулькі несправядлівасці і няшчасця? Чаму людзі не добрыя? Чаму з добрых намераў і лепшых памкненняў атрымліваюцца найгоршыя вынікі? А калі ўжо так на свеце ёсць і быць мусіць, то – навошта жыць! І так мне, мамця, часам не хочацца жыць! І так мне блага... хацеў бы не думаць пра гэтыя справы... але не магу... мушу... Мамця кажа, што трэба згаджацца з воляй Бога, бо Ён мудры і ведае, чаму так стварыў свет... Гэта праўда... я ведаю... хацеў бы... але не магу... І так мне блага...

Абхапіўшы галаву абедзвюма рукамі, згорбіўшыся і скіраваўшы позірк у падлогу камеры, ён у адчаі хістаўся сваім худзенькім целам ва ўсе бакі.

І ягоная недаспелая душа нямела, мітусілася над безданню жыцця, заселенай дэманамі, да якіх быў прыкуты ягоны позірк...

Іншым разам ён цэлыя два дні нічога не хацеў есці і быў глухі да матчынай мальбы, быў раз’ятраны, пануры, седзячы ў цёмным кутку камеры, маўчаў так упарта, што ніводнага слова нельга было з яго выцягнуць. А на трэці дзень, калі

яна прыйшла, укленчыў перад ёй і прызнаўся, што вырашыў быў пазбавіць сябе жыцця... Не маючы ніякага іншага спосабу, хацеў галадаць... Але гэта вельмі цяжкі спосаб, працяглы... не вытрымаў, страшна саромеецца таго, што не вытрымаў, хоць, з другога боку, мо гэта і добра сталася, што не дадаў матцы яшчэ і гэткай прыкрасці...

Тады ён не зрабіў гэтага, але хто ж мог пераканаць пані Тарэзу, што іншым разам тая сама думка зноў не прыйдзе яму ў галаву і не знойдзе спосаб больш латвы, карацейшы...

А з Волекам была іншая бяда. Ягоная рана ніяк не магла загоіцца, і аслаблены, усё больш схуднелы, ён пастаянна маліў матку аб дараванні, да ног яе кідаўся, плакаў. Адчуванне здзейсненай віны так глыбока запала яму ў дзіцячую душу, што выклікала ў яго нездаровае і экзальтаванае пакаянне. Лежачы ля матчыных ног, ён рабіў сабе самыя строгія папрокі, згадваў і паўтараў Юлікавы перасцярогі, якія той даваў ім абодвум. Пані Тарэза намагалася супакоіць яго прытворным гневам.

– Ну й плаксівы ты! Плакса і няўдаліца!

Але пры згадцы пра Юліка сама залілася слязамі і, падняўшы хлопца ад сваіх ног, садзячы яго на лаву каля сябе, спытала:

– Што яшчэ ён вам казаў? Што ён казаў вам падчас сваёй апошняй прагулкі з вамі? Прыпомні добра... паўтары ўсё...

А калі Волек паўтараў добра запомненыя словы брата, ёй здавалася, што чуе голас, які прамаўляе з таго свету, і ёй захацелася, ах, як захацелася пераступіць мяжу двух светаў і на тым свеце свайму самаму старэйшаму дзіцяці, самаму разумнаму, самаму лепшаму, на грудзі ўжо мужчынскія, на грудзі ўжо апякунскія, прыяцельскія ўпасці і крычаць: “Глядзі, якая я бедная, ратуй!”

Акрамя той бяды з сынамі-вязнямі мела яшчэ адну, горкую і цяжкую, пра якую нікому не казала, якую наогул хавала ад людзей, але пра якую думала, калі са сваёй чырвонай кукардай, ужо добра забрудненай і змятай, якая, аднак, здалёку свяцілася чырванню, калі яна вуліцамі мястэчка бегла ад Янка і Волека ў сваё жытло.

Цераз акно аднаго з нізкіх дамкоў на яе бег пазірала некалькі знаёмых твараў, і адзін з іх, паказваючы на яе іншым, прамовіў:

– Гекуба!

Нейкі маладзенькі галасок запытаў:

– Што за Гекуба?

А той, ранейшы, пачаў тлумачыць:

– Траянскага караля Прыяма жонка, якая на руінах Трои ад жалю па забітых сынах і забраных у палон дочках...

Нехта іншы перапыніў:

– Але ж пані Тарэза толькі сыноў... а дачка...

Іншыя галасы пачалі казаць, шаптаць:

– Хто ведае? Хто ведае? Хто ведае? Што можа стацца з яе дачкой... з Інай?

З Інай жа адбываліся рэчы дзіўныя, для развaг над якімі пані Тарэзе не ставала часу. Яна толькі адчувала прысутнасць панурага, невыразнага прывіду, які круціўся каля яе. Як быццам нічога; ніякай відочнай праявы няшчасця не было, але нейкае горкае дыханне, якое нагадвала аб яго набліжэнні, адчувалася. Нешта невыразнае, але тое, што дакучала паўторнымі ўколамі ў сэрца. Нешта, чаго нельга папярэдзіць і пазбегнуць, бо не мае выразнай прычыны і назвы, аднак яно існуе, набліжаецца, вычэквае, сее пах атруты і бліснчыць першымі бліскавіцамі буры.

Інка прападала з матчыных вачэй на доўгія гадзіны, а запытаная, дзе была, напачатку спрабавала патлумачыць матцы альбо пяшчотай намагалася затуліць яе вусны, але пані Тарэза адчувала і разумела, што тлумачэнні былі непраўдзівыя, а пяшчоты няшчырыя. Ды і яны неўзабаве спыніліся. Адказы Інкі станавіліся ўсё больш смелыя, фанабэрыстыя, часта гнеўныя і амаль што пагардлівыя.

– Дзе была? Чаму вяртаешся так позна? Казала, што цэлую палову дня правядзеш у Канецкіх. Ведаю, што да іх нават не заходзіла. Дзе ж ты была?

Інка, якая ў сваім новым капялюшыку забегла ў пакой, спынілася, як укапаная.

– Мая мама! Я была там, дзе мне падабалася... Кожны чалавек на свеце ходзіць, дзе яму хочацца, і робіць тое, што яму падабаецца, а я ж нічыя не нявольніца, і гэтыя вечныя выпытванні мамы для мяне нязносныя, акропныя...

Казала гэта і тузала знятыя з рук рукавічкі, моцна зарумяненая, нязвыкла бліскучымі вачамі, раз'ятраным позіркам пазірала не на матку, а некуды ўбок. Была тады ўвасабленнем упартасці і нецярпення, якія кіпелі стрыманым гневам. Аднак не заўсёды яна магла альбо хацела стрымліваць гнеў. Ён выбухаў у яе часам словамі, якіх нельга было чакаць з вуснаў такіх дробных, ружовых, салодкіх.

– Я не вар'ятка, каб мяне трэба было браць пад апеку, і няхай мама муштруе сваіх любімчыкаў, Янка і Волека, якія гэтулькі бяды натварылі, а не мяне, якая ўжо дарослая і ведае, што ёй патрэбна і што робіць.

У гэтай далікатнай, мяккай, салодкай і кранальнай дзяўчыны, відаць, з самага дна натуры падымаліся жорсткія, грубыя пачуцці, і было гэта падобна на тое, як быццам з неачэсанага дрэва спадае аксамітная заслона.

Здзіўленая і перапалоханая пані Тарэза заломвала рукі.

– Пабойся Бога, Інка, як гэта ты са мной размаўляеш? Які тон! І што гэта за спосаб размовы з маткаю!

З выразнай агідай Інка кончыкамі пальцаў прымала са стала не даедзены пані Тарэзай кавалачак ржанога хлеба і белую ад выпітага ёю малака шклянку. І адказвала з саркастычнай усмешкай:

– Хіба ж да маткі іншым тонам, чым да іншых людзей, трэба звяртацца? Ведаю, ведаю, чула... Але гэта ж, мая мама, забабоны, пра якія даўно ўжо разумныя людзі забыліся, і толькі... у нас яшчэ...

Замоўкла, бо пані Тарэза пачала гарачыцца, выбухала гневам, абсыпаючы яе папрокамі, настойліва пыталася: хто ў яе галаву наклаў такіх глупстваў? З кім сустракаецца? Да каго ходзіць? Якое шаленства ўбілася ў яе галаву? Чаму выглядае заўсёды так, быццам у гарачцы, нібыта сама не ведае, што гаворыць альбо робіць?

Часцей за ўсё Інка не адказвала, не тлумачыла; аднак часам, як бы падкінутая гвалтоўнай унутранай сілай, прыпадала да маткі, кленчыла перад ёй і з галавой, прыціснутай да яе каленяў, енчыла:

– Не магу, мамця, не магу іначай... не магу быць іншай... не магу...

Тады пані Тарэза абдымала яе, гладзіла па валасах, прасіла:

– Чаго ты не можаш? Што з табой? Што з табой сталася? Іначка мая! Дачушка! Скажы! Усё раскажы матцы... патлумач... супакой мяне...

Але яна ўжо зрывалася з падлогі і адыходзіла, кажучы:

– Нічога, нічога, мая мама! Чаго я буду гаварыць, калі мама не зразумее мяне, не згодзіцца са мной... мы, я і мама, такія розныя, такія іншыя...

І ўжо зноў, здавалася, не чуе матчыных слоў, узіраецца некуды далёка-далёка, нечаму далёкаму ўсміхаецца, знаходзіцца недзе далёка мроямі, думкамі, нецярплівым чаканнем.

Думкамі, мроямі, нецярплівым чаканнем заўсёды знаходзілася ў добра ўмэбляваным, пахкім будуары Гелены Іванаўны, у якім перажыла шмат хвілін мілых і нават некалькі дзівосных. Ужо колькі разоў адначасова з ёй на шакаладзе ў Гелены Іванаўны быў – князь.

О, цудоўныя хвіліны, поўныя новых і раскошных уражанняў, далёкія ад шэрай, празаічнай рэчаіснасці, далёкія, бо – паэтычныя, чароўныя!

О, цудоўны, мілы, стройны, элегантны, з такімі выразнымі вачамі – чалавек!

Князь! Князь! Як дзіўна гучыць гэтае слова! Быццам бляск золата і колеры вясёлкі, нібыта гукі чароўнай музыкі разліваюцца ў паветры.

[...] Магчыма, *яны* такія вясёлыя, што пазбыліся калі яшчэ не ўсіх, то многіх забабонаў? Ах, якія яны вясёлыя! Аднойчы на шакалад апрача князя прыйшоў і ягоны ад'ютант, муж Гелены Іванаўны, прывёўшы з сабою некалькі афіцэраў, а неўзабаве забеглі нейкія дзве пані, добра ўбраныя, яшчэ маладыя, прыгожыя. Пачаўся шум, гамонка, усе паселі вакол круглага стала ў сталовай, але не ўсе хацелі піць шакалад, таму гаспадар паклікаў слугу і загадаў прынесці шампанскае, а калі сталі піць, весялосць пачалася такая, якой Іна яшчэ ніколі ў сваім жыцці не бачыла. Весялосць гэтая была свабодная, гаманкая, шчырая, поўная шырокіх жэстаў, гучнага, як грымоты, смеху, кампліментаў на адрас прыгожых ручак, ножак, вочак. Прамаўлялі розныя тосты, а калі ад'ютант, кілішак свой падымаючы, прапанаваў выпіць за здароўе Іны Юльянаўны, то ўсе так закрычалі: "Урррра!", што ажно шыбы ў вокнах зазвінелі; а Іну, ці то ад выпітага віна, ці то ад розных пачуццяў, што перапаўнялі яе, агарнула такая весялосць, якой да таго ніколі не адчувала. Дзякавала ўсім, кланялася, смела адказвала на кампліменты, а з жартаў, якія чуліся з усіх бакоў, смяялася так голасна і свабодна, як ніколі. Тады князь, які сядзеў каля яе і ўвесь час казаў ёй розныя мілыя рэчы, пачаў шаптаць, што ён заўсёды прагне бачыць яе вясёлай, шчаслівай, бо няма на свеце такога шчасця, якое само не ўпала б да яе ног, просячы, каб прыняць яго захацела.

І невядома, што ён сказаў бы яшчэ, калі б у гэтае самае імгненне не адбылося нешта такое, што ўсіх як кіпнем абліло ці халодным лёдам абсыпала. Адна з тых паняў, якія былі там, ні з таго ні з сяго пачала цераз стол вельмі голасна і са смехам нешта казаць князю – пра ягоную жонку, што нібыта яна з Каўказа, дзе знаходзіцца цяпер, што яна праз падзорную трубу пазірае на яго і бачыць, як ён тут паводзіць сябе і... нешта яшчэ такое падобнае. На твар князя напаўзла чорная і грозная хмара. Гелена Іванаўна вачамі і рукамі падавала гаварлівай пані нейкія знакі, а ўсе прысутныя паспяшаліся яшчэ больш гучна гаварыць пра розныя іншыя рэчы, але адчувалася, што адбылося нешта нядобрае, што нейкі дысананс парушыў гармонію, якая дагэтуль панавала ў гэтым таварыстве.

А ёй, Іне, зрабілася невыказна жаласна і самотна. Яна не здолела б сказаць чаму, але вестка аб тым, што князь жанаты, раптоўна перапоўніла яе грудзі слязамі. Яна не хацела падаваць выгляду, але Гелена Іванаўна сама заўважыла гэта, бо падбегла да Іны і, за шыю яе абняўшы, шаптала ў самае вуха:

– *Нічаво, душанька! Нічаво!* Ён жанаты і адначасова нежанаты! Я табе пра гэта пазней раскажу і патлумачу.

А пасля села за фартэпіяна і з вялікім запалам вельмі гучна пачала іграць вальс, адразу ж утварыліся дзве пары танцораў і пачалі кружыцца вакол стала. Праз хвіліну князь таксама ўстаў і з паклонам запрасіў на танец Іну. Выпрастаны, кланяўся толькі звонам шпор і запрашаў толькі позіркам, але якім! Яна ўжо два гады, праз увесь час народнай жалобы не танцавала наогул, а танцы любіла вельмі і ведала, што танцуе надта добра. Яна сама адчувала, што стала ружовай і што яе ахапілі дзіўная гарачыня і дрыготка. Стаяла перад ім з апушчанымі павекамі, не могучы падняць іх, а ён абняў яе постаць рукамі і панёсся ў танцы. Але толькі адзін раз абабеглі круглы стол, пасля чаго апынуліся ў суседнім салоніку, дзе нікога не было. І тут... Ах! Далей ужо Інка ўкласці ў словы свае ўспаміны не магла. Галава яе туманілася, дыханне замірала, сілы пакідалі яе... Яна бачыла яго перад сабой на каленях і...

А тое, што князь Барыс жанаты, не мае ніякага значэння. Гелена Іванаўна патлумачыла ёй, што ажаніўся надта маладым, па жаданні бацькоў ці сваякоў, ніколі кабеты той не кахаў, а зараз ненавідзіць яе і ўсё ідзе да разводу. Неўзабаве атрымае развод і будзе вольным. А, зрэшты, ці не казаў ён тады, у тым пустым салоніку, што на ўсім свеце кахае яе адну, Іну, і што гэта ягоная першая сапраўдная любоў. Словы гэтыя Гелена Іванаўна цалкам пацвердзіла.

– *Увлекался* не раз іншымі кабетамі, – казала, – але так, як за табой, *душанька,*

ні за адной не шалеў. Што гэта значыць, што жанаты, калі не кахае жонкі? На свеце толькі адна рэч важная: каханне. Усё іншае – гэта *глупости,* на якія толькі напляваць!

Калі праз некалькі гадзін, праведзеных у Гелены Іванаўны, Іна прыбегла ў свой цесны, душны, убогі пакой заезнага дома, яе агарнула адчуванне, што яна абуджаецца ад раскошнага і прыгожага сну і трапляе ў адхлань рэчаіснасці, панурай і пачварнай. [...]

І калі б яшчэ яна магла быць у пакоі адна, свабодна згадваць, марыць... Але тут заўсёды таварышавала матка, чуліся яе пытанні і папрокі, яе згрызоты і начны плач... ах, і гэтая манера апранацца, гаварыць, хадзіць, само гучанне яе голасу, сама цёмнасць скуры, што атуляла твар і рукі. Ужо і раней, амаль што з дзяцінства, Інку гэта дзівіла, выклікала непрыязнасць, але няпэўным, глухім чынам. Цяпер жа перад яе вачамі ўсё стала выпуклым і выразным, а думкі набраліся пэўнасці і смеласці. Цяпер бывалі хвіліны, калі яна смела прызнавалася сабе, што матка абуджае ў яе пачуццё, блізкае да агіды, той звычайнай фізічнай агіды, ад якой часам калоцяцца белыя і далікатныя рукі, калі дакранаюцца да рук агрубелых і пачарнелых, якую адчуваюць нервы, што прагнуць аксамітнай пяшчоты, а сустракаюць шорсткі і моцны дотык.

Але здараліся і іншыя хвіліны, якія невядома адкуль браліся: мо народжаныя голасам прыроды, успамінамі дзяцінства, хвіліны, калі хваля невядомых і неадольных пачуццяў раптоўна штурхала Іну да маткі. Тады з рукамі вакол яе поўнай таліі, з галавой на яе каленях яна шаптала:

– Мамця! Мамця каханая! Я ведаю... я ведаю... але не магу... сапраўды, мамця, я не магу інакш... не магу...

Што яна ведала? Чаго не магла? Не прызналася ў гэтым ніколі, не здолела б нават сказаць, бо ў яе пачуццях і думках панавалі хаос і блытаніна, веялі бурлівыя віхуры, лёталі асветленыя яркім святлом хмары туману. [...]

Але наступіў дзень, які паказаў Інцы два люстэркі, а ў люстэрках дзве будучыні, і прамовіў: “Выбірай!”

Калі пані Тарэза спешна бегла з вязніцы дамоў, каб убачыць, ці ёсць там дачка, а калі няма, шукаць, дзе яна, як бывала ўжо не раз, і ва ўсіх знаёмых пытацца пра яе, Інка ў самым бязлюдным кутку прыгараднага парка размаўляла з Геленай Іванаўнай. Седзячы вельмі блізка адна да адной на невялікай лаўцы, за заслонай дрэў і кустоў, яны размаўлялі шэптам. Гаварылі ціха, паспешна, надзвычай ажыўлена, наўзаем перабіваючы адна адну, як гавораць людзі, моцна ўзрушаныя, якія жадаюць параіцца.

– Значыць, праз тры дні, – шаптала Інка, – значыць, ужо праз тры дні... выязджаеце... а што ж буду рабіць я, што мне рабіць, што рабіць мне, няшчаснай... я не ведаю, што з адчаю зраблю сабе... звар’яцею хіба, утаплюся...

Хапаючы яе за рукаў сукні, Гелена Іванаўна перапыняла:

– Але ж паслухай, *душанька,* паслухай толькі... гаварыць мне не даеш... заўсёды перапыняеш... Я ж кажу табе, што ёсць спосаб зрабіць так, каб не адчайвацца і не звар’яцець...

Але Інку падхапіла бура роспачы, аглушыла, і думкі былі далёка ад Гелены Іванаўны. Абедзвюма рукамі сціскала свой разгарачаны лоб, па збялелых шчоках цяклі слёзы. Яна шпарка, безупынку, горача шаптала:

– Мама нічога не ведае, але здагадваецца, непакоіцца, робіць мне папрокі, хоча мяне ў Ляшчынку альбо да Канецкіх, суседзяў нашых, адправіць. Я не хачу ў Ляшчынку! Я не хачу да Канецкіх! Там магіла! Там ноч! Я не хачу магілы! Я баюся ночы! Я толькі цяпер спазнала, што такое сапраўднае жыццё, што такое радасць, што такое шчасце...

Яна зайшлася ад плачу, а Гелена Іванаўна спрабавала далонню затуліць яе вусны.

– Я ж табе кажу, *душанька,* што маецца спосаб... паслухай толькі! Ёсць спосаб, каб ад магілы і ночы...

– Які спосаб! Няма ніякага спосабу! Вы ж выязджаеце, Гелена Іванаўна... і ён... праз некалькі дзён... О, Божа мой, Божа! Ужо праз некалькі дзён...

Выведзеная з цярпення ці мо расчуленая, зрэшты, захопленая гэтымі абодвума пачуццямі, Гелена Іванаўна, як коршак, раптоўна абхапіла плаксівую дзяўчыну рукамі, прыціснула да свайго боку, галаву, як на падушку, паклала на свае грудзі і на самае прыгожае вушка, што выглядвала з-пад прыгожага капялюшыка, пачала шаптаць. Ціха шаптала, доўга шаптала, часам пакрываючы твар Іны кароткімі пацалункамі, часам смеючыся, ціхенька, пяшчотна. Часам з яе шэпту выбіваліся больш гучныя словы: *князь*... развод... шлюб... каханне... Пецярбург... *княгіні*... балі... рысакі... муж *красавец*...

[...] Пані Тарэза з сутаргава сціснутымі рукамі, з глыбока запалымі вачамі сядзела на ложку журботная, прыгнечаная. Занятая сынамі, заклапочаная грашыма на далейшы побыт у мястэчку, апошнімі днямі нікога са знаёмых не бачыла, таму не ведала аб тым, што страшныя для яе перамены ўжо адбыліся.

Што зараз будзе? О, Божа, што будзе? І калі? Хутка, відаць, хутка. Альбо пан, альбо прапаў. Рай альбо пекла. Альбо вернецца з Янкам і Волекам у Ляшчынку, альбо...

Мінула два дні, і вырак адбыўся... Падпісала яго рука больш чырвоная за князеву... зрэшты, паслухмяная загаду зверху.

Ссылка ў Перм. Як мага хутчэй і пад збройнай стражай малыя бунтаўнікі будуць адвезены да найбліжэйшай – аднак далёкай – чыгуначнай станцыі, а адтуль паравозам на мяжу двух частак зямнога шара, да паножжа Урала...

...З тварам, які пакрыўся земляным колерам, з чырвонымі ад плачу павекамі пані Тарэза стаяла каля варот вязніцы і пазірала на параконны воз, які ўсё аддаляўся... Пакуль толькі можна было яго бачыць, пазірала на ўсё больш і больш далёкія два маленькія, бледныя тварыкі, якія на возе паварочваліся да яе, як агеньчыкі свечак сярод паднятых вакол іх штыкоў і ствалоў.

Калі на павароце дарогі яны зніклі, адышлася.

Не бегла, не ляцела; ішла няспешна, грудзі цяжка дыхалі, плечы ўпершыню ў жыцці былі прыгорбленыя.

Нічога навокал не бачыла, не чула, ні аб чым не думала. Душа яе, крывавым цвіком прыбітая да гэтых малых, бледных твараў, якія толькі што ўдалечыні зніклі з яе вачэй, паляцела за імі, пралазіла між штыкамі, што акружалі іх, тварыла над імі абарончыя і апякунскія крыжы, развітваючыся, цалавала заплаканыя вочы Волека, як палатно збялелыя, але горда сціснутыя вусны Янака.

Як паранены звер, які, гнаны інстынктам, паўзе ў сваё логава, каб там упасці, і, скуголячы ад болю, залізваць свае раны, пані Тарэза хутчэй паўзла, чым ішла, да свайго нанятага, няўдалага пакойчыка...

І тут, зірнуўшы на дзверы пакойчыка, успомніла: “А Інка?”

Дзе Інка? Следам за маткай павінна была прыбегчы ў вязніцу і тыя апошнія гадзіны правесці з братамі, ды толькі на хвілінку нечага яшчэ пайшла ў мястэчка...

– Зараз прыбягу, мамця, зараз прыбягу...

Мела капялюш на галаве, у руках парасонік, на шчоках моцны румянец, а ў вачах слёзы...

– Няхай мамця ідзе, я зараз прыбягу...

Адбеглася, вярнулася, абняла матку. Дзіўна абняла, моцна, працягла. Але пані Тарэза не здзівілася. Гэтым страшным днём, гэтым пякельным для яе днём... што дачка заплакала, абняла, што ж тут дзіўнага?

Аднак жа не прыйшла! Што гэта значыць? Дзе яна? Што з ёй дзеецца?

Нецярпліва, моцна, гучна штурханула дзверы пакоя. Увайшла.

Няма Інкі.

Нешта ж адбывалася ў гэтым пакоі, штосьці тут рабілася!

Шуфляда старой крывой камоды, дзе Інка хавала розныя свае кофтачкі ды паясочкі, на ўсю даўжыню выцягнутая і пустая.

Месца на сцяне, дзе віселі яе сукенкі, пустое.

Езус, Марыя!

На стале, абапёрты на шклянку з недапітым малаком, лісцік паперы, спісаны яе рукой.

О, Езус, Марыя!

“*Мая каханая мамця! Мне вельмі прыкра, я вельмі шкадую, што разгневаю мамцю і напалохаю, але іначай не магу! Не магу! Калі мамця будзе гэта чытаць, я ўжо далёка адсюль... далёка... Мне нават шкада, што кідаю маму, але я так кахаю, так моцна, так бязмежна кахаю... Мама ведае яго... гэта князь Барыс... І ён кахае мяне шалёна, бязмежна, але я не з ім еду, толькі з адной маёй і ягонай прыяцелькай, у якой буду жыць у Пецярбургу, пакуль не возьмем шлюб з ім... А калі ўжо стану жонкай князя, што неўзабаве адбудзецца, усім нам будзе лепей. Ён для Янка і Волека даб’ецца вяртання дадому, а Бронцяй і Людвінкай буду апекавацца я, каб ім добрую адукацыю...*”

Было там напісана шмат яшчэ, але больш за іншыя сустракаліся словы: *“любоў”, “шчасце”, “забабоны”, “усюды Айчына можа быць”, “усе веры між сабой роўныя”*, але пані Тарэза чытаць далей не магла, бо шматок паперы вываліўся з яе трымцівых рук, а гэтыя рукі шырока-шырока распасцерліся, пасля гучна пляснулі ў далоні, а з вуснаў, збялелых, як той папяровы шматок, вырваўся крык:

– Лайдачка!

Крык гэты ўпаў у цішыню пакоя, як камень у ваду, і доўга пасля яго нічога не адбывалася. Пані Тарэза стаяла, як скамянелая, з распасцёртымі рукамі, грудзі яе дыхалі перарывіста, са свістам, лоб, губы і шчокі трымцелі. У цёмных, глыбокіх вачніцах, пад счырванелымі ад слёз павекамі гарэла полымя гневу, а па вуснах разлівалася мора пагарды, калі, задыхаючыся і сыкаючы, яна шаптала:

– А не дачакацца табе, каб ты... дзецьмі маімі... апекавацца мела... ты... ты...

І раптам зноў крык, гучны, пранізлівы, падобны на той, якім маткі суправаджаюць забіванне цвікамі трунаў сваіх дзяцей.

– Інка, дзіцятка маё! Езус, Марыя! Інка мая, Інка!

Упала на падлогу, распасцерла рукі, пальцы прыляпіліся да дошак, лоб стукнуўся аб падлогу і – яна стала нерухомай, толькі з грудзей чуліся моцныя, бясконцыя гукі без слоў, якія нагадвалі няспынны плач без слёз, былі падобныя на тое завыванне, з якім над снежнымі прасторамі часам носіцца зімовы вецер.

Так на руінах разбуранай Троі Прыямава жонка Гекуба скуголіла ад жалю па забітых сынах і забраных у палон дочках.

Міхайла Слабашпіцкі



…Беларусь, тваё сэрца
Нават пад каменем не памірае…

# Ваш і наш Васіль Быкаў

## Украінскі сябар беларусаў Міхайла Слабашпіцкі

Міхайла Фядотавіч Слабашпіцкі – лаўрэат Нацыянальнай прэміі імя Тараса Шаўчэнкі, мае ва Украіне шмат іншых прэстыжных узнагарод. Аднак ён не вельмі вядомы ў Беларусі. І гэтую сітуацыю патрэбна тэрмінова выпраўляць, бо ён – найшчырэйшы наш сябар. Міхайла Слабашпіцкі – празаік, крытык і публіцыст, гісторык літаратуры, унікальны мемуарыст, выдавец. У сваёй адданасці літаратуры ён – як перпетуум мобіле і як творца, і як нястомны грамадскі дзеяч. Ён піша вельмі сур'ёзна для дарослых, смела ўздымаючы глабальныя праблемы часу. І ў той жа час ён выяўляе, як ніхто іншы ў сучаснай украінскай літаратуры, тонкае адчуванне дзіцячай душы. Беларускі чытач яго ведае пераважна праз яго цудоўныя кніжкі для дзяцей, напрыклад, "Ці далёка Афрыка?" і іншыя ў беларускамоўных перакладах Алеся Карлюкевіча. І што яшчэ асабліва важна падкрэсліць: ён ужо даўно паралельна выявіў сябе як спецыяліст-кампаратывіст у пытаннях развіцця беларускай прозы.

Ёсць у М. Слабашпіцкага выдатная праца пра Уладзіміра Караткевіча. Разглядаючы Караткевічавага Хрыста, ён упісвае гэты вобраз у еўрапейскі кантэкст. Даследчык згадвае твор "Евангелле ад Іуды" паляка Генрыха Панаса, створаны, дарэчы, на дзясятак гадоў пазней за Караткевіча. Пры гэтым украінскі аўтар падкрэслівае, што назва твора Г. Панаса паўтарае падзагаловак рамана Караткевіча – "Евангелле ад Іуды". У польскага празаіка жанравае вызначэнне твора – раман-апокрыф, у беларускага – раман-прытча. Супастаўляе наш кіеўскі сябар твор Караткевіча і з апавяданнем Леаніда Андрэева "Іуда Іскарыёт", раманам Міхаіла Булгакава "Майстар і Маргарыта". М. Слабашпіцкі разглядае розныя асэнсаванні вобраза Іуды. На світанку хрысціянства, апраўдваючы ўчынак Іуды, каініты трактавалі яго здраду як выкананне наказу Хрыста, як доказ таго, што Ісус меў здольнасць прадбачыць падзеі будучыні. Сярэднявечны мусульманскі трактат распавядаў пра раскаянні Іуды, які пакончыў з сабою пасля выдачы Настаўніка. У рускай літаратуры пачатку XX ст. з'яўляецца спроба паказаць Іуду ў святле новай ідэі: Іуда меркаваў загібеллю Хрыста справакаваць прыхільнікаў хрысціянскага вучэння да рашучых і актыўных прапагандысцкіх дзеянняў...

Героя Караткевіча М. Слабашпіцкі разглядае як цалкам самабытны вобраз. Гэта – не проста перадавы чалавек часу. Ён вырваўся наперад за рамкі сваёй эпохі, узняўся над канонамі і цемрашальствам афіцыйных колаў, увасобіў у сабе здаровы язычніцкі аптымізм, які вытраўлялі з народа "служкі господнія", сеючы скрозь страх і пакорнасць. Жыццё навязала колішняму ліцадзею Юрасю Братчыку роль месіі, і ён, зразумеўшы непарыўнасць свайго жыцця з жыццямі людзей свайго краю, паступова асвойваючы гэту ролю, пачынае тварыць сапраўдныя цуды. Чалавеку не дадзена самахоць павярнуць кола гісторыі. Але чалавеку пад сілу падрыхтаваць да гэтага масы! Калі ж на зямлі ёсць такія, як Юрась Братчык, значыць, гістарычны лёс народа не безнадзейны, значыць – а гэта падкрэслівае Караткевіч і гэтую ж думку падхоплівае ўкраінскі крытык, – у такога народа ёсць будучыня!

М. Слабашпіцкі пераканальна паказаў, што Уладзімір Караткевіч, выпрацоўваючы пры напісанні рамана пра Хрыста сваю паэтыку, паяднаў заходнюю і ўсходнюю традыцыі, выявіў сябе сапраўдным наватарам...

Глыбінёй беларусазнаўчай думкі вылучаюцца публікацыі М. Слабашпіцкага, прысвечаныя Васілю Быкаву. Прапануем чытачам, у скарачэнні, яго нядаўні артыкул, які ва Украіне атрымаў шырокі рэзананс.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

## ВАШ І НАШ ВАСІЛЬ БЫКАЎ

Мабыць, тое, што меней за ўсё на свеце навука вывучыла і нам шчырасардэчна патлумачыла, – гэта феномен людской памяці, законы яе неасяжнага функцыянавання.

Здавалася б – усё зразумела. Падзея ці чалавек запалі нам у памяць, як каменьчык у крынічку, і віднеецца адтуль праз празрыстую ваду. Зазірнеш – адразу таго і не прыкмеціш. Аднак ідуць гады, незваротна аддаляецца мінулае, цьмянеюць і расплываюцца, становяцца невыразнымі плямамі аблічы людзей, бясследна выветрываюцца колішнія пачуцці і настроі, усё ахоплівае шэры змрок.

Ды раптам у неагляднай крыніцы памяці нібы адбываюцца нячутныя ўгары штормы ці землятрусы – і нам на экране духоўнага зроку з'яўляюцца аблічы, аблічы, аблічы і падзеі, падзеі. Мы нібыта ўпершыню бачым усё гэта, а далей пачынаем прыгадваць і прыгадваць. Мы апускаемся ў страчаны час (і як тут не прыгадаць назву вядомай рамантычнай эпапеі Марселя Пруста). І распрацiраецца

ва ўяве, ажывае праз падрабязнасці даўняе мінулае, нястрымна, не раўнуючы як у багну, зацягвае цябе ў сябе – і ты раптам пачынаеш жыць тым, што здавалася зусім забытым, назаўсёды страчаным для цябе.

А пачыналася ўсё нейтральна-будзённа.

Двое Уладзіміраў – Карасёў і Разумны – дырэктар і галоўрэд выдавецтва “Знання”, запрасілі мяне быць мадэратарам на кіеўскім Кніжным Арсенале 2019 года ў часе прэзентацыі кніжак Васіля Быкава “Мёртвым не баліць”, “Знак бяды” і “Альпійская балада”. “Знання” выдала іх ва ўкраінскім перакладзе. Я здзівіўся, чаму менавіта мне Карасёў і Разумны даверылі такі гонар? Можа, маю кандыдатуру ім падказалі з Мінска мае даўнія прыяцелі Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша, якія маюць непасрэднае дачыненне да гэтага выдання? І яны параілі “Знанню” на такую ролю мяне? Ці, можа, выдаўцы даведаліся, што я сустракаўся з Быкавым? Аднак яны, канечне ж, не маглі ведаць, што Васіль Быкаў – гэта не адна яскравая старонка маёй чытацкай біяграфіі. І што ён – адно з высокіх імёнаў майго асабістага літаратурнага канону. Ды ці толькі ж майго?! Я абсалютна пэўны, што гэта ва ўнісон са мною могуць паўтарыць шмат людзей, якім выпала жыць і чытаць у тыя гады...

Скажу адкрыта: упершыню пабачыўшы Васіля Быкава, я быў крыху расчараваны. Няўжо гэты сціплы чалавек з трошкі праставатым тварам – сапраўды Быкаў? Той Быкаў, які напісаў “Сотнікава”, “Дажыць да світання”, “Воўчую зграю”, “Знак бяды”? Не ведаю чаму, але ён уяўляўся мне зусім іншым – высокім, плячыстым, атлетычным і элегантным. Смешна з сябе за тыя наіўныя ўяўленні. Нам зрэдку залазяць у галаву нейкія хімеры і фанабэрыі, якія з рэальнасцю не маюць нічога супольнага. Наша нястрымная фантазія часам намалюе такое, што найбольш старанны лакіроўшчык не патрапіў бы...

Невысокі, сціпла апрануты (дзе яму было зраўняцца з нашымі літвяльможамі ў дарагіх імпартных строях!), з ціхім голасам і, адпаведна, без валявых інтанацый, але з тым асаблівым поглядам спакойных, аднак іранічна прымружаных вачэй, якія нібыта гаварылі: “Мы бачылі ўсё – нас не здзівіш і не абдурыш...”

Пазнаёміў мяне з Быкавым Уладзімір Караткевіч. Ён назваў Быкава, можа, адным з найбольш значных пісьменнікаў Еўропы. Пры гэтым у яго прагучалі імёны Рэмарка, Камю, Сартра, Бёля. Разумею, Караткевічу – аднаму з найярчэйшых зорак беларускай (і не толькі беларускай) літаратуры – трэба было пераступіць праз свае ўласныя амбіцыі, так высока атэстуючы свайго калегу. Не сакрэт, што ў творчым асяроддзі пануе агрэсіўна-канкурэнтны дух, і нярэдка аднаму яго прадстаўніку проста фізічна цяжка вымавіць пахвальнае слова пра іншага, а тым больш – паставіць яго над сабою. Гэта ж, як пісаў Ніцшэ, людское, занадта людское. Але Караткевіч і Быкаў – гэта зусім іншае правіла. І зусім іншая парода.

Сёння проста цяжка ўявіць тую папулярнасць, якую мелі яго творы. Васіля Быкава чыталі, пэўна ж, усе разумныя людзі, якія не маглі жыць без кнігі.

Ёсць пісьменнікі для пэўнага чытацкага сегменту. Скажам, куміры студэнцтва. Ці тыя, якія забяспечвалі настольнымі кнігамі настаўнікаў – крыху афіцыйнай патэтыкі, крыху дыдактыкі, крыху афіцыёзу – і неслі гэтую лектуру ў клас, рэкамендуючы яе для абавязковага чытання ці для пазапраграмнага чытва. Быў тады і ўмоўны падзел: гэтыя кніжкі (і паэтычныя, і празаічныя) – толькі для “фізікаў”, а іншыя – толькі для “лірыкаў”. Гэта азначае – для рацыяналістаў і прагматыкаў, ці ідэалістаў і рамантыкаў (тут схематычна зручны падзел чытачоў на два лагеры).

І ёсць (ці, прынамсі, былі тады!) аўтары, чые творы станавіліся падзеямі, значнасць якіх і рэзананс якіх выходзілі па-за межы літаратуры. Пра такія творы сапраўды спрачаліся, у іх шукалі адказы на найбольш важныя пытанні людскога быцця. Не прачытаць штосьці з такіх кніжак (іх было зусім небагата) для тых, хто прэтэндаваў на пачэсны статус сапраўднага інтэлігента, лічылася безнадзейным

маветонам. Арыентуючыся пераважна на маскоўскі "Новый мир", тая публіка падзялялася на прыхільнікаў "почвеннікаў" (Валянцін Распуцін, Васіль Бялоў, Барыс Мажаеў, Яўген Носаў) і лібералаў (Юры Трыфанаў, Юры Нагібін, Андрэй Бітаў, Уладзімір Маканін). Але як толькі з'яўлялася чарговая аповесць Васіля Быкава, чытацкая оптыка з абодвух флангаў засяроджвалася на ёй, і на некаторы час сціхалі спрэчкі пра тое, што больш значнае для літаратуры наогул: "почвеннікі" ці лібералы (часам яшчэ іх называлі "западнікамі").

Невысокі ростам, Васіль Быкаў узвышаўся і над тымі, і над другімі. Магчыма, не адзін з тагачасных класікаў быў больш вынаходлівы, чым ён, у наратыўных стратэгіях, у прыёмах псіхалагічнага аналізу ці стылістычнай яскравасці, але ў Быкава было тое, што ўражвала найболей, – нясцерпны апёк праўдай, адсутнасць псіхалагічнай фарсіроўкі і горкая аўтарская мудрасць мастака, які адчувае палахлівы голас міласэрнасці. Алесь Адамовіч – таксама беларус – менавіта тады катэгарычна настойваў: час традыцыйнай літаратуры і літаратуры, скіраванай на пошукі "тэхналагічных" прыёмаў, скончыўся. Будучыня належыць, як Адамовіч назваў гэтую сваю дэфініцыю, надлітаратуры, у якой аўтары змагаюцца не за тое, каб лепей перадаць, як Пеця любіць Кацю ці як Каця любіць Пецю. Я пэўны, што менавіта да гэтай надлітаратуры ў Адамовіча былі ўсе падставы аднесці свайго земляка Васіля Быкава. Гэта сапраўды была – і ёсць сёння – іншая літаратура.

Звычайна банальнае побытапісанне не памірае. І, відаць, не памрэ. Яно мадыфікуецца, узбагачаецца тымі самымі сюжэтамі пра любоў Каці і Пеці ўжо ў новых кантэкстах і з новымі літаратурнымі тэхналогіямі. Падабаецца гэта каму ці не, але такія опусы былі і будуць, нехта іх чытацьме. Нехта, беручы пад увагу магчымыя ў іх арыгінальныя мастацкія прыёмы, нават паспрабуе ўпісаць гэтыя тэксты ў нейкія каноны. Недзе іх нават будуць разбіраць па складніках дысертанты, аднак усё гэта не вытрымае ніякага параўнання з кніжкамі Васіля Быкава, у якіх гучыць голас трагедыі. А менавіта трагедыя яшчэ з часу Антычнасці займае пачэснае месца ў мастацкай іерархіі.

Калі мы чыталі (пераважна ў "Новом мире") "Атаку з ходу", "Воўчую зграю", "Сотнікава", "Круглянскі мост", "Кар'ер", якія трыумфальна ішлі да чытача, мы не ведалі пра Быкава: не так усё лёгка і проста было ў яго творчай біяграфіі, прарывамі ў друк. Мы бачылі толькі вонкавы бок справы. Тое, што нас уражвала. Яшчэ нават не атрымаўшы розгаласу, толькі яшчэ, так бы мовіць, праартыкуляваныя, толькі заяўленыя, гэтыя творы былі ўжо асуджаны на прачытанне масай чытачоў, паколькі іх аўтар – сам Васіль Быкаў.

Быкаў на першым часе яшчэ адставаў ад сваіх расійскіх літравеснікаў, што ўжо прапісаліся ў абойме "літаратуры лейтэнантаў". Іх яднала "акопная праўда" якраз у меры адкрытасці аповеду, і хутка ён выйшаў на галоўнае месца і стаў сярод іх неаспрэчным лідарам. Яго творы ўжо не мелі таго ідэалагічнага глянцу, даніну якому ўсё-такі аддалі нават у наогул не кан'юнктурных творах Юры Бондараў – "Гарачы снег", "Цішыня", "Выбар", "Бераг" ці Канстанцін Вараб'ёў – у аповесці "Крык".

Ён не так эфектна ўваходзіў у літаратуру. Не ўляцеў у яе, скажам, як Віктар Някрасаў кнігаю "У акопах Сталінграда". Далітаратурная біяграфія і першы перыяд творчасці Быкава былі цяжкімі.

Не буду ўзнаўляць старонкі даваеннага жыцця Васіля Быкава перад беларускімі чытачамі: яны павінны ведаць гэтыя хрэстаматыйныя звесткі са школы. Звярнуся да майго бачання першых і далейшых крокаў Васіля Быкава па ахопленай вайною зямлі.

Васіль Быкаў з пачаткам вайны апынуўся на абаронных работах ва Украіне. Фэзэушнікі (моладзь, якую адукоўвалі для працы на фабрыках і заводах) адступала разам з вайскоўцамі. Быкаў неяк адбіўся ад калоны. Яго арыштавалі.

Ён трапіў пад падазрэнне як нямецкі шпіён. Тады ці не ўсе былі інфіцыраваны шпіёнаманіяй. Пра гэта з горкай іроніяй пісаў у адным са сваіх вершаў Леанід Лыман, які зафіксаваў тагачасную татальную паніку і паталагічную падазронасць у савецкім грамадстве.

Тады нямала людзей былі без віны расстраляныя "Смершам". Адну з такіх трагічных гісторый расказаў мне знакаміты, аўтарытэтны пісьменнік Паўло Заграбельны. Каб застрашыць салдат і афіцэраў, у Ірпені, што пад Кіевам, у лесе, дзе праходзіла добра ўмацаваная лінія абароны, адбылася расправа над бязвінным маладзенькім салдатам. Маўляў, нямецкі шпіён. Здаўся ў палон, скончыў школу дыверсантаў. Быў закінуты ў савецкі тыл. Аднак яго выкрылі, злавілі. І каб застрашыць іншых – расстралялі. Я даслоўна запісаў гэтую гісторыю з голасу П. Заграбельнага ў кнізе "Праціранне люстэрка". Так магло здарыцца і з маладым беларусам. Але лёс збярог Васіля Быкава ад смерці.

Быкава мабілізуюць, і ён, васямнаццацігадовы, праходзіць курс паскоранага навучання ў Саратаўскім пяхотным вучылішчы. І ў хуткім часе выходзіць з яго малодшым лейтэнантам. Ён – на ўкраінскай зямлі, бярэ ўдзел у баях за Крывы Рог, Александрыю, Знаменку. Далей – гэтак званая Кіравагradская аперацыя, дзе ён быў двойчы паранены і трапіў у рэестр забітых. Гэта тыя падзеі, што ляглі ў аснову сюжэта аповесці "Мёртвым не баліць" ("Знання" пазіцыянавала гэты твор як раман).

Шматмесячнае лячэнне ў шпіталях, а потым ён ізноў на фронце, аж да канца вайны. Пасля дэмабілізацыі шукае сваё месца ў мірным жыцці. Працуе недзе на вытворчасці. З часам уладкоўваецца ў рэдакцыю газеты "Гродненская правда" Потым зноў у арміі, у якой служыць у 1949-1955 гадах. Вяртаецца ў цывільнае жыццё маёрам. Зноў праца ў "Гродненской правде". І вось тады пачынаецца яго літаратурная біяграфія. Першы заўважаны твор – "Апошні баец" – з'яўляецца ў 1957 годзе.

Гэта – яшчэ не рэгістр адкрытасці, той, што ў "Сотнікаве" ці ў "Атацы з ходу", але і не ружовая патрыятычная белетрыстыка накшталт пазнейшых "Вайны" Івана Стаднюка ці нясконачанай шматлогіі Аляксандра Чакоўскага, у якіх вядзецца аповед пра нібыта геніяльных ваенных стратэгаў, што ў высокіх штабах, смакуючы над картамі каньякі або сёрбаючы гарбату, узрушваюць усіх арыгінальнасцю стратэгій і неканвенцыянальнасцю тактыкі, што не пакідаюць нямецкім арміям ніякага шансу на выратаванне. Адным словам, доблесныя савецкія палкаводцы ратуюць увесь свет ад карычневай чумы фашызму. Хоць, насамрэч, нямецкая мілітарная машына нішчыла ўсё на сваім шляху і дабіралася ўжо да Масквы, а колькасць савецкіх ваеннапалонных вырастала на мільёны.

Быкаў у сваіх далейшых творах рабіўся ўсё больш адкрыты. "Жураўліны крык", "Здрада" і "Трэцяя ракета" – гэта ўжо той Быкаў, які заваяваў шырокага чытача менавіта чэснасцю сваёй прозы. Аднак кароткая палітычная адліга скончылася. Пачалася неаб'яўленая рэстаўрацыя таго, што так эфектна і абнадзейліва было засуджана. Яго творы ў беларускіх часопісах і выдавецтвах сустракаюць цэнзурны супраціў. Калі ў Маскве яшчэ крыху гуляюць у дазаваную дэмакратыю, дык у рэспубліках ідзе шалёны наступ рэакцыі. Усё гэта ахарактарызаваў турэцкі паэт-камуніст Назым Хікмет, які, як эмігрант са сваёй краіны, жыў у СССР. "Калі ў Маскве за нейкае вальнадумства стрыгуць ногці, дык у Кіеве за тое самае адсякаюць рукі па локці". Мяркую, тое самае адбывалася і ў Мінску.

Беларусь і Украіна – тыя рэспублікі, якія найболей пацярпелі ад вайны. Таму беларуская проза так многа пісала пра гэту вайну. Варта назваць імёны Івана Мележа, Івана Чыгрынава, Івана Пташнікава, Алеся Адамовіча. Хто з большай, хто з меншай адкрытасцю (і без аніякіх намёкаў на рамантычныя абертоны) намаляваў трагедыю чалавека на вайне. Але найбольш шчыра адкрытым быў менавіта ён,

Васіль Быкаў. І менавіта таму яму друкавацца дома было найцяжэй. Ён пачынае перакладаць свае творы на рускую мову. Паказальна, што ў маскоўскіх выданнях нідзе не значылася, што гэта – перакладны варыянт беларускага арыгіналу. Тады я пачуў нават, што нібыта Быкаў, як і Айтматаў, піша па-руску. Да слова, нямала аўтараў з рэспублік пісалі па-руску (Алжас Суляйменаў, Цімур Зульфікараў, Канстанцін Кудзіеўскі). Магчымасці атрымаць усесаюзнага чытача ў рускамоўных аўтараў былі, канечне ж, значна большыя. Некаторыя, як, скажам, Айтматаў, скарыстоўваліся такімі арыгінальнымі аўтаатэстацыямі: “Аўтарскае ўзнаўленне арыгінала на рускую мову”, хоць, як сведчылі мне самі кіргізскія пісьменнікі, на кіргізскай мове ў рэальнасці гэтыя тэксты не пісаліся ўвогуле.

Васіль Быкаў здзіўляў сваёю творчай актыўнасцю: “Мёртвым не баліць” (1965), “Праклятая вышыня” ( 1968), “Круглянскі мост” (1968). “Сцюжа” (1969), “Сотнікаў” (1970), “Абеліск” (1971), “Дажыць да світання” (1972), “Воўчая зграя” (1975), “Яго батальён” (1975), “Пайсці і не вярнуцца” (1978)...

Неаспрэчна, роўнавялікага пісьменніка ў ваеннай прозе ўсяго Саюза яму не было. Усе яго творы – чэсныя кнігі, поўныя высокай трагедыйнасці. Гэта ўжо праз паўтара дзесяцігоддзі ў Расіі з’явіцца раман “Праклятыя і забітыя” Віктара Астаф’ева, які стане побач з аповесцямі Васіля Быкава. І на яго, як і на Быкава, накінуцца яшчэ жывыя вышэйшыя армейскія чыны, якія абвінавацяць пісьменнікаў у злосных паклёпах на савецкую армію, на савецкіх палкаводцаў і ўвогуле на ўсё савецкае.

Здзіўляе, як яшчэ да перабудовы змог з’явіцца “Знак бяды”. Гэта быў як папераджальны гром. З ім ужо адчувалася недалёкая навальніца. Імперская турма яшчэ непарушна стаяла, і не было нават намёку на землятрус, які яе зваліць. Але ўжо быў “Знак бяды”.

Сёй-той з тых, што хварэюць на невылечны пупацэнтрызм, неафітаў літаратуры, спавядаючы законы канібалізму, без жалю скідае з “карабля сучаснасці” ўсіх без выключэння пісьменнікаў, якім выпала існаваць у каардынатах СССР. Калі паверыць гэтым псеўдаразумнікам, дык тыя пісьменнікі – безнадзейныя сацрэалісты. Адносна пераважнай большасці – гэта праўда. Але, як гаворыцца, любі, Божа, праўду. За ўсю гісторыю існавання камуністычнай імперыі было нямала тых, каго ніякіх падстаў не маем адносіць да сацрэалістаў. Скажам, ва Украіне гэта доўгі шэраг імёнаў, пачынаючы, напрыклад, з Зэрава, Асьмачкі і Підмагільнага і канчаючы Грыгорам Цюцюннікам, Васілём Стусам і Лінай Кастэнка. І Васіль Быкаў анічога не меў у сваёй прозе ад сацрэалізму. Гэта той вялікі пісьменнік, што ўзнімаецца па-над напрамкамі і школамі.

Пісьменнік, які распавёў пра трагедыю людской душы ў пекле вайны. Пра тое, як індывід, апынуўшыся ў экстрэмальнай сітуацыі, вымушаны рабіць выбар. У тую хвіліну, калі перад ім трагічная дылема. І пра чалавека-ахвяру ў гісторыі.

Бо на яе даляглядзе ўзнімаецца злавесны прывід – “Знак бяды”. І ўсё існаванне беларускага чалавека (можам тут прачытаць: і ўкраінскага) – гэта жудасны і смертаносны “Знак бяды”.

Ёсць у гэтым пэўная заканамернасць, якую ўбачыць той, хто ведаў Быкава. А хто яго не ведаў, не ўчытваўся ў яго прозу, не зразумее: яскравы прадстаўнік літаратурнага істэблішменту, праслаўлены ці не на ўсю Еўропу пісьменнік, далёкі ад свецкай мітусні – і раптам кідаецца ў гарачы вір палітычных падзей <... >.

Аўтарытэт Быкава, якога пачалі прызнаваць духоўным лідарам Беларусі, быў вельмі высокі. Аднак, захварэўшы, ён атрымаў дыягназ, які гучаў як прысуд. Быкава не стала 22 чэрвеня 2003 года. Можна толькі ўявіць, з якімі думкамі і пачуццямі пакідаў гэты свет ён. Чамусьці прыгадваюцца горкія, споўненыя адчаю і нявер’я ў чалавека словы Віктара Астаф’ева ў яго развітальным лісце. Ці не было нешта падобнае на душы ў Васіля Быкава? Да таго, што магло быць

сугалосным з настроем Астаф'ева: у яго перад вачыма была не такая Беларусь, якую хацелася б яму бачыць. Не тая Беларусь, якою яна ўсёй сваёй шматпакутнай гісторыяй заслужыла быць.

Але вяртаюся да прэзентацыі на кіеўскім Кніжным Арсенале 2019 года. Даведаўшыся пра падзею, захацеў узяць у прэзентацыі ўдзел Уладзімір Панчанка. Ён, якому аставалася жыць усяго некалькі месяцаў, прыйшоў на сустрэчу смяротна хворы, бо не мог не прыйсці. Панчанка меў у свой час перапіску з Быкавым і нават пераклаў важкае з яго погляду апавяданне “На чорных лядах”. Пераклад і артыкул пра беларускага пісьменніка Уладзімір Панчанка апублікаваў у часопісе “Вежа”, што выходзіць у Крапіўніцкім (Былым Кіраваградзе. – *Т.К.*). Нацэлены на літаратуразнаўчыя росшукі, Панчанка сустракаўся з Быкавым і нагадаў прысутным жыццёвыя падзеі, што сталі асновай твора “Мёртвым не баліць”.

У. Панчанка расказаў пра брацкую магілу ў сяле Вялікая Севярынка пад Крапіўніцкім, дзе на абеліску паміж імёнамі салдатаў, што пахаваныя ў брацкай магіле, значыцца і імя Васіля Быкава. 7 студзеня 1944 года скрываўленага і без прытомнасці лейтэнанта падабрала сялянка. Мабыць, ён памёр бы ад ран, замёрз бы, калі б не рукі ўкраінскай жанчыны, якая выратавала яго ад страшнай бяды. Потым былі шпіталі, дактары, медсёстры. Дваццацігадовы арганізм перамог. “І калі я зараз жывы, дык зямны паклон іхнім залатым рукам, шчырая падзяка за клопаты, – пісаў Васіль Быкаў. – Але найперш кланяюся цётцы Марыі. Гэта яна, самотная, сталага веку сялянка, не дала мне сысці кроўю й замерзнуць. Яе рукі найперш затрымалі ва мне ўбогія рэшткі жыцця, хоць гэта і было не проста і амаль безнадзейна”. І прынцыпова важны момант – той імператыў, якім кіраваўся Быкаў: “...пра вайну, якою б яна не была, трэба пісаць праўду, прычым усю праўду, хоць якою б горкаю яна не была...” Нагадваю: гэтыя словы Быкаў сказаў яшчэ тады, калі афіцыйная ідэалогія ў СССР і законы сацрэалізму ў лепшым выпадку дазвалялі хіба што напаўпраўду. А праўда для пісьменніка была безнадзейным фолам.

Менавіта гэтай праўды і не маглі прабачыць Быкаву савецкія ідэолагі, якія не пакідалі ў спакоі пісьменніка.

Пакланіцца магіле вялікага беларуса на беларускую зямлю прыязджаў яго захоплены чытач Дмытро Паўлычка. Пасля з'явіліся такія яго радкі:

### *НА МАГІЛЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА*

На магіле Васіля Быкава
Камень з белаю жылаю,
Быццам бліскавіца застыгла ў ім,
Грымнуўшы з неба.

Я дакрануўся, а яна пячэ,
Гэта не з неба, а скрозь камень
Агонь вялікага беларускага болю цячэ,
З сэрца зямлі, дзе Васіль Быкаў спачывае.

Беларусь, тваё сэрца
Нават пад каменем не паміpae,
А ў руку маю б'ецца,
Б'ецца ў маё сэрца.

*(Верш напісаны 6.II.2009 г. у Мінску.*
*Пераклад Вячаслава РАГОЙШЫ)*




Да слова, у сваіх “Успамінах” Дмытро Паўлычка пісаў: «Першае чытанне твораў Васіля Быкава ў расійскіх часопісах адкрыла мне пісьменніка, які сваім стылем нагадваў мне нашых братоў Цюцюннікаў. У яго мове нічога фальшывага, нічога лішняга, нічога з прыстасаванства да аблуднай савецкай гісторыі Другой сусветнай вайны. Сярод усёй савецкай прозы пра вайну творы Быкава адразу пачалі вылучацца, асабліва рэзка праступаў яго пісьменніцкі профіль на фоне ўкраінскай шматслоўнай, сентыментальнай, рамантычнай белетрыстыкі. “Не захапляйся Быкавым, ён піша па-руску, а не па-беларуску!” – пачуў я аднойчы ад украінскага класіка. “Шкада, – падумаў я, – руская літаратура без такога, як Быкаў, можа абысціся, але беларуская – не”».

Але праз некаторы час паэт Генадзь Бураўкін запэўніў Паўлычку: Быкаў піша па-беларуску. І часта, не маючы змогі надрукаваць у сябе дома твор у арыгінале (цэнзура!), змушаны перакладаць сам сябе на рускую мову. А ў Расіі ўсё адно пачалі Быкава прыпісваць да рускай літаратуры. Таццяна Кабржыцкая расказала, што нават нядаўна ў Расіі з’явіўся падручнік па рускай літаратуры, дзе манаграфічна разглядаецца Васіль Быкаў. І фігуруе ён там менавіта як рускі пісьменнік. Класічная выява расійскага імперыялізму.

На прыгаданай прэзентацыі трох украінскіх перакладаў прагучала пытанне: чым адметная гісторыя ўкраінскіх публікацый твору “Мёртвым не баліць”? Так не хацелася выцягваць на свет непрыгожае мінулае. Але даўнейшую праўду не трэба хаваць ад сучаснага чытача.

У творы Быкава фігуруе вельмі негатыўны персанаж, які ўспрыняўся адным нашым уплывовым класікам як украінец. І класік грозна сказаў: «“Мёртвым не баліць” ніколі не будзе друкавацца ва Украіне. Толькі праз мой труп!»

Але сама ўкраінская нацыянальнасць таго персанажа нідзе ў творы не пазначана. Гэта – проста безнацыянальны “савецкі чалавек”. І няма там ніводнай падрабязнасці, скажам, адкуль ён родам. Я неаднаразова пераглядаў раман у пошуках найменшага намёку, хто, што, адкуль гэты злавесны персанаж – і нідзе нічога не знаходзіў. Проста самадур і падляк, як зазвычай гаварылася – “прадукт эпохі”. І ўсё-такі ўкраінскі пісьменнік (чамусьці мне здаецца, што ён крыху зайздросціў Быкаву) пастаянна настойваў: Быкаў прынізіў украінцаў – і мы павінны байкатаваць яго “Мёртвым не баліць”. З гэтым класікам далікатна спрачаліся і некаторыя ўкраінскія калегі, і перакладчык Таццяна Кабржыцкая, і прафесар Вячаслаў Рагойша. І класік пачаў патроху сціхаць у сваім “праведным” гневе і ўрэшце даў згоду на публікацыю ўкраінскага перакладу ва Украіне.

Васіль Быкаў перакладаць гэты свой найбольш аўтабіяграфічны твор, сюжэтна найбольш звязаны з Украінай, даверыў Таццяне Кабржыцкай, нашай украінцы, якая выйшла замуж у Беларусь, дзе яе ветліва і цёпла прыняла сям’я беларускіх пісьменнікаў. У 1986 годзе публікацыя гэтага перакладу з’явілася ў часопісе “Вітчизна”. У 1990-м пабачыла свет асобнае выданне твораў Васіля Быкава ва ўкраінскім выдавецтве “Дніпро”. У перакладзе Т. Кабржыцкай пад адной вокладкай было змешчана некалькі твораў – “Мёртвым не баліць”, а таксама найноўшыя, як на той час, творы беларускага пісьменніка – аповесці “У тумане” і “Аблава”. Гэтыя аповесці яшчэ толькі рыхтаваліся да друку ў яго на радзіме. Т. Кабржыцкая перакладала іх непасрэдна з аўтарскага рукапісу. Так важна было Быкаву як мага хутчэй дайсці да ўкраінскіх чытачоў!..

І тут проста неабходна яшчэ раз звярнуць увагу на характар самога Быкава. Хоць яго і мучыла моцна тая балючая крыўда, ён ніколі нідзе не абураўся, не спрачаўся прылюдна з тымі крыватолкамі, якія ішлі з боку ўкраінскіх калег. Ён ведаў, што за мяжою, ва ўкраінскай дыяспары ўжо з'явіўся пераклад "Мёртвым не баліць" Івана Кашаліўца, пераклад, зроблены не з беларускамоўнага тэксту, а з рускамоўнага варыянта, што паспеў пабачыць свет у маскоўскім часопісе "Новый мир" дзякуючы Аляксандру Твардоўскаму. Больш за тое, Быкаў меў гэты пераклад і адзін экзэмпляр выдання падараваў Таццяне Кабржыцкай. Аўтар у душы быў удзячны Кашаліўцу. Нядаўна згаданы тэкст Кашаліўца, пасля смерці Быкава, передрукавала "Сучаснасць". Аднак пра існаванне замежнага перакладу сам аўтар нікому не расказваў. Васілю Быкаву было важна, каб *адбыўся момант ісціны тут, у сябе дома, на той зямлі, за свабоду якой ён праліваў кроў*.

Таму вельмі эмацыянальна ўзрадавана сустрэў беларускі пісьменнік пераклад Таццяны Кабржыцкай, надрукаваны менавіта ў Кіеве. І на першым кніжным выданні "Мёртвым не баліць" пакінуў 19.09.1990 года такі свой дарчы надпіс: *"Таццяне Кабржыцкай, мілай перакладчыцы, з вялікай удзячнасцю за выдатную рэпрэзентацыю на вялікай мове вялікага братняга народа"*.

Новае кніжнае выданне "Мёртвым не баліць" 2019 года – гэта пераклад поўнага аўтэнтычнага аўтарскага тэксту, з узнаўленнем тых мясцін, што былі старанна выкраслены рэдактарамі і цэнзарамі, а такіх "правак" было больш як 200!

На прэзентацыі ўкраінамоўных твораў Васіля Быкава 2019 года ўсе выступоўцы высока ацанілі выдавецкі подзвіг "Знання", якое адразу выпусціла ў свет тры перакладныя творы аднаго аўтара – і гэтым аўтарам з'яўляецца знакаміты беларус Васіль Быкаў. І на Кніжным Арсенале, і ў час прамога эфіру пра Васіля Быкава на радыёканале "Культура" Дмытро Паўлычка назваў "роднага Васіля" адным з лепшых і праўдзівых пісьменнікаў Еўропы, высока ацаніў і новае бесцэнзурнае выданне "Мёртвым не баліць", і пераклад, і тое літаратуразнаўчае суправаджэнне кнігі, выкананае таксама Таццянай Кабржыцкай. "Гэта слова, названае "Наш і Ваш Васіль Быкаў", мяне захапіла, хоць я сачу за новай беларускай літаратурай. У ім глыбокае, сучаснае прачытанне творчасці Васіля Быкава. Упэўнены, яно прынясе карысць кожнаму чытачу", – сказаў Дмытро Паўлычка.

Нярэдка літаратурныя творы сутыкаюцца са складанымі калізіямі па дарозе да чытачоў. "Доўгая дарога дадому" – назва апошняй кнігі ўспамінаў і філасофскіх роздумаў Васіля Быкава. Доўгай і ўхабістай выявілася дарога да Украіны і рамана "Мёртвым не баліць". Аднак цяпер мы, украінцы, маем некалькі перакладаў гэтага твора. Так і павінна быць у развітых культурах, дзе суіснуюць розныя мастацкія інтэрпрэтацыі прозы і паэзіі іншамоўных літаратур.

Дзякаваць Богу, ва Украіне гарыць "зялёнае святло" для выдатнага твора беларускага пісьменніка. Шкада, што няма з намі Васіля Быкава. Суровы і ніяк не сентыментальны, ён, я ўпэўнены, сапраўды б радаваўся.

Гэта не было яму абыякавым.

*Пераклад з украінскай мовы Таццяны КАБРЖЫЦКАЙ.*

спадчына

## Юрась Свірка



…Чаму так вядзецца, не ўсім і вядома.
Ды лепшае бачыцца часам не дома,
А дзесьці далёка – за лесам, за гаем.
Як быццам паблізу такога не маем…

# Янчуры

***Аўтэнтычная паэма роду***

***ЯК ПРАДМОВА***

І гэта ўсё было са мною,
З вялікай матчынай раднёю,
Празванай некім – Янчуровай.
Ёсць таямніца ў гэтым слове.
Відаць, ад Яна, хоць і ўмоўна,
Пайшоў пачатак радаслоўнай.
Назваў паэму аўтэнтычнай,
Магчыма, і не ўсім прывычна.
У ёй без выдумкі натхнёнай
Радня, тапонімы, імёны
І вёска партызанскай зоны.
Твор прад табой, чытач шаноўны.
Ён як жыцця майго эскіз,
Калі паглянеш зверху ўніз.

*Падрыхтоўка да друку Ірыны СВІРКО.*

Ён без патугі на аб’ёмнасць
І на шырокую вядомасць.
Тут Колас бачны прада мною
З класічнай “Новаю зямлёю”.
Не кожнаму яна пад сілу.
Мой крэўны род, як ты мне мілы!

**1**

Здалося мне, чадным жалезам дыхнула
Ад кузні. І я ў недалёкім мінулым...
Жалеза было без акаліны чорнай,
Бялела, з любою згаджалася формай.
Пад молатам хвацкім кавалася лёгка,
Узмахваў ім Юрка – мой дзядзька
і цёзка.
А дзядзька старэйшы – Вялікі Іванька –
Калгасную кузню разбуджваў уранку.
Ён горан распальваў. Агонь зачынаўся,
І мех-паддувала на жэрдцы хістаўся.
Рабрысты і чорны, расцягваўся мех той.
(Прыдумаў жа дзіва кавальскае нехта.)
Ён соп, выгінаўся, нібыта гармонік,
Калі не знайсці гарманісту ўгамону.
Ды ўсё ж на калыску падобны найболей,
Што зыбала жэрдка, звісала з-пад столі.
Пасцілка ляйчыны шатром ахінала.
Так маці ў калысцы малое люляла...

А вугаль патрэскваў, ігрыўся агніста,
Паблісквaў, як тыя каралі-маністы.
У горане чырвань пакоўку праймала.
Іванька ўсміхаўся: “Як змеева джала”.
Жалеза выцягваў ён клешчамі з жару
І клаў на кавадла пад пошчак udaraў.
Ударыць то Юрка, то меншы – Піліпка.
Сарочка макрэла, рабілася ліпкай.
Піліпку няпроста было завіхацца.
Ды ў тым не хацеў ён братам
прызнавацца.
Храбрыўся: “Глядзіце, я ўжо не малеча”.
Цвярдзелі ў рабоце і рукі, і плечы.
За ўдарам – удар. І выходзіла хвацка.
І молат гуляў у руках, быццам цацка.
Вось так на таку малацілі з бацькамі,
Жытцо лупцавалі рытмічна цапамі.
Тах-тах, та-та-тах, і пайшло з пераходам,
У стуку бічовак – сямейная згода...
А ў кузні жалеза – не сноп, не салома,
Яно ж у руках адзывалася стомай...

Іванька пакоўку пакручваў рухава –
То справа налева, то злева направа.
Не толькі такі быў у дзядзькі занятак:
Сваім малатком ён памахваў заўзята,
Дакоўваў, раскоўваў, даводзіў
як майстра.
Работы хапала на сёння і заўтра.
А часам упрошваў: “Спыніцеся, хлопцы”.
І месца ў цабэрку адводзіў пакоўцы.
Яна там бурліла, парыла, чарнела.
Згадзіцца з няволяй такой не хацела:
Нязгодна гырчэла, падскоквала зрэдку,
Няйначай, як звер, што не вырвецца
з клеткі.
Нібыта над ёй хтось з пагрозай
укленчыў,
Шыпела змяёй, вырывалася з клешчаў.
Узбрыквала ў цэбры,
нарэшце – цішэла.
Сябе загартоўвала ў злосці злюцелай.

Дзядзькі мае працай, сваімі рукамі
У вёсцы пакінулі добрую памяць.
Падкоўвалі коней, зубілі бароны.
Смяяліся: “Выкаваць можам карону”.
Асаджвалі бочкі, акоўвалі сані,
(Стаялі ў чарзе не адны маргаўчане),
Зубілі сярпы і кавалі атосы.
І шыну зімой абувалі калёсы.
Наварвалі долаты, шыны, сякеры.
На іхніх завесах парыпвалі дзверы.
Іх скобы надзейна бярвенне трымалі,
А цёслы – начоўкі, чаўны выдзяўбалі.
Лямеш прагіналі – ары, калі ласка.
Пасля ўжо зямля глянцавала да бляску.
Кавалі нажы і мудрэйшыя рэчы,
І тое начынне, што трэба для печы,
Каб выцягнуць лёгка гаршчок
ці патэльню,
Ці жар падварушваць
лілова-пякельны.
Выкоўвалі нават жалезкі-падкоўкі,
Каб польку-чачотку выстуквалі звонка...
І цеслі былі адмысловае хваткі,
Часалі бярвенне раўнютка і гладка.
Іх пілы, фуганкі не зналі сумоты.
І дзверы, і рамы, сталы і камоды,
І ложкі, і куфры – то іхняй работы.
Пагляд не адвесці ад іх пяцісценак,
Іх хаты-святліцы з гадоў даваенных.

*2*

Пра Юрку мне памяць не ўсё захавала.
Здаецца, хадзіў ён з навалы ў навалу.
Быў дзядзька прыглядны, і дужы, і шчыры.
Як мячык кідаў двухпудовую гіру.
Сам бачыў, як ён забаўляўся з падковай.
І прэнт выгінаў на плячах, як лазовы.
Пушкар. На вайне быў. Ён з фінскай марознай
Вярнуўся. Ды зноўку часінаю грознай
Пайшоў на Айчынную. Гінула войска.
Апошні быў ліст ад яго з-пад Падольска...
У дзядзькі сынок быў адзіны – Міколка.
Вайной скасіў тыф. О, як плакалі горка
Тры родныя цёткі : Альжбета, Хрысціна
І мама мая – маё сонца – Куліна.
"Крывіначка наша, Міколка, дзіцятка,
Куды ты сабраўся без роднага таткі?
А дзе ж ён, твой татка?.. Не бачыць, не чуе,
Як плача радзіна, як слёзна гаруе..."
Яны – тры сястры трох братоў Янчуровых.
Іх бацька Пятрок, а яны Петраковы.
О род Янчуровых, ён з розумам знаўся.
Калісьці прысяжным мой дзед выбіраўся...

А Юркава жонка цвіла, быццам краска.
Пайшла на чужую спагаду і ласку.
(Такой маладой і прывабнай жанчыне
Адной, як ні думай, пражыць немагчыма).

Аплаквала Мар'я няшчаснага Юрку.
Былая нявестка вярнула тужурку:
Каму пакідаць... Было крыўдна нявестцы:
"Ваш Юрка – у сэрцы маім застанецца.
Невінаватая ў тым я ніколькі,
Што смерць адабрала сыночка Міколку,
Што Юркі няма (не хачу ў гэта верыць).
Адна вінавата вайна-ненажэра"...
Да дзевера ў хату заходзіла рэдка:
Свякроў неўзлюбіла былую нявеску.
Бо сынава жонка (хоць ён і загінуў),
Для маці балючым жыве напамінам:
"Яна без яго, а свіціцца, як ружа.
Хоць цяжка, ды нельга такой без замужжа".
І замужам дзядзіна Юрку любіла.
Радню Янчуровых яна не забыла.
І на вяселлях была ў Янчуровых,
І там, дзе ў жалобе схілялі галовы.
Я чуў ад Ганнулькі ў маёй Маргавіцы:
"Бывае і зараз мне Юрка сасніцца..."
...Што нельга загінуць, прапасці дзіцяці,
Ніхто не паверыць – адна толькі маці.
Дванаццаць рублёў ёй плацілі за сына.
Ды чахла яна, нібы тая хваіна,
Калі падсякуць альбо вырвуць карэнне.
Смерць сына прыспешвае маці старэнне.
Паштар тыя грошы насіў гадоў з восем.
І ціха бабуля памёрла пад восень.

*3*

У дзядзькі Івана – інакшая доля.
Любіў ён, разважны, зямельку і волю.
За пчолы і дрэвы давілі падаткам,
Ды пчол ён не зводзіў і лаяў парадкі:
"Разводзіць не трэба? Чаму? Дай ты веры".
Аднак і на сад не заносіў сякеру...
Падлеткам у працу сялянскую ўпрогся.
Ніхто не спраўляўся за ім у пракосе.
Так лёгка махаў ён літоўкай-касою,
Як быццам зусім не кранаў травастою.
Бывала, з пракосу выскоквалі з крыкам.
Касой прад сабою Іванька не пстрыкаў.
Здаецца, што ён не стамляўся: здаровы.
За ім высцілаўся пакос двухметровы.
А следам за братам – і Юрка з Піліпкам.
Выкошвалі чыста, каб хоць дзе травінка.
Па роўнай пакошы, як сена зграбалі,
Касьбу Янчуровых жанкі пазнавалі.
"Янчур, Янчуры, Янчуровы" гучала
У вёсцы з павагаю ды небывалай.
За розум, за кемнасць, за ўмелыя рукі
Не сорамна іхнім нашчадкам-унукам.
А печы якія выкладваў мой дзядзька!
Не печ, – а тварэнне, як вабная цацка.
І комін такі выштукоўваў бывала,
Што хата нібыта ўсміхалася, звала.
У вёсцы сваёй ён прарокам лічыўся,
Такою назовай крыху ганарыўся.
Дакладна даводзіў (а мог памыліцца),
Калі мы на захад пагонім чужынцаў.
Тады, як з Бягомля актыў адыходзіў,
Казалі, ён нейкія грошы прысвоіў.
З разбітага сейфа за вёскай Улессе,
У паніцы нашы пакінулі ў лесе.

Пра грошы і час той, і смелага дзядзьку
Я сведчу ўяўленнем у гэткім парадку:
Хаваў тыя грошы ў зямлі ён. Іх многа.
“А што, як згніюць?” – насядала трывога.
Ці, можа, хто бачыў той летняй парою,
Дзе банкаўскі скарб засыпаўся зямлёю...
Цямнейшаю ноччу адкопваў лапатай
І грошы таемна разносіў па хатах.
Прыказваў маўчаць ён і сёстрам,
і жонцы.
І тыя сушылі на печах чырвонцы,
Прыкрыўшы дзяружкамі і армякамі.
Баяліся нават пакратаць рукамі.
Ніколі не бачылі столькі багацця.
Ляжала яно некранутае ў хаце.
На печах-чарэнях – чырвонцы ўляглíся
І шархалі, быццам дубовае лісце.
Казалі, з-за Докшыцаў ён са швагрaмі
Вяртаўся дамоў не з пустымі вазамі.
З Заходняй прывозілі жыта, і солі,
І здору. Хапала тых грошай уволю.
Быў час – не пыталі, з якога ты дому.
Прыплачвалі крамным, падэшвамі,
хромам.
Вайною заўсёды такое бывае:
Купцоў – не злічыць, а тавару – замала.

Іван жыў заможна, няма ў тым сакрэту.
Ды не, не кулацкая гэта прыкмета.
Пасля вызвалення на допыт цягалі.
“Дзе грошы схаваў?” – І таўклі,
муштравалі.
“Што, вам палягчэла б,
калі б тыя грошы
Не ў нас засталіся, а ў стане варожым?”
“Разумнік, замоўкні, – сычэлі чэкісты, –
Варонай прыкінуўся, чысценькі-чысты”.
“Забіце. Нічога не знаю пра тое”. –
Відаць, мацюкаўся і харкаў крывёю.
Ды ўсё ж адпусцілі: давёў не з падманам,
Што грошы вайной перадаў партызанам.
Калі б не камбрыг партызанскі, знаёмы –
Быць дзядзьку далёка б ад роднага дому.

*4*

Пра кузню сказаць хачу добрае слова:
Карміла не толькі адных Янчуровых.
Калісьці тут Хвайбус –
яўрэй местачковы
З сынамі выкоўваў цвікі і падковы.
Быў майстра на рэдкасць рукастым
і тонкім,
Выкоўваў-выточваў, як дзіва, пярсцёнкі.
І сёння пачуеш аб ім тут не ганьбу:
“Ты кемны, як Хвайбус, ты майстра,
як Хвайбус”.
У Хвайбуса дзядзька
быў кемлівым вучнем.
І майстра пазней ганарыўся падручным:
“О Янкель, Ставэр, ён Янчур галавасты.
Не тое, што нейкі аблэвух вушасты.
Не толькі жалеза ён плешчыць ударам –
Яго кацялок не абы-які – варыць!..”
Дзядоў і дзядзькоў-кавалёў ёй хапіла,
Валодала кузня чароўнаю сілай.
Дарма, што паветра было там
прагорклым,
Яна шмат збірала людзей на пагорку.
Да дзядзькі ішлі як да майстра, не ў госці.
І назву калгаса пазначыў ён дзёгцем.
Ён “Вольным жыццём”, быў калгас наш
названы,
Ахрышчаны гэтак не дзядзькам Іванам.
І з кузні кідаўся той надпіс у вочы,
Пакуль не прыехалі восеньскай ноччу
У чорных тужурках, але без пагонаў
(Я гэта пішу па ўспамінах ягоных).
“Ты што, Салаўкоў захацеў? Атрымаеш!
Туды гэткім смелым дарожка прамая.
Душа твая чорная, з вугалю, з дзёгцю.
Як гніду раздавім цябе мы пад ногцем.
Людзей бударажыш, да ворагаў вернеш.
Навошта жыццё ты калгаснае чэрніш?
Што, фарбы святлейшай
было малавата?
Чырвоная, кажаш, пайшла на плакаты...”
За роспіс такі (здагадацца не цяжка)
Заціснулі дзядзьку тады ў каталажку...

Іван быў рашучы, не знаўся са страхам.
Любіў, каб рабілася справа з размахам...
Не бавіў ён час у цяньку без занятку.
Калі будаваць, дык святліцу – не хатку.
З братамі ён хорам ўзвёў на ўсю вёску:
Вялікія вокны, а сцены, як з воску,
Жаўцелі, бо гладка кругом габляваны.
Сядзіба адметна была збудавана:
На вуліцу дзверы адны, а другія
Насупраць – у двор,
дзе стварэнні жывыя.
І пуня, і хлеў пад адною страхою,
Ды воддаль ад хаты. Будовай такою

Не кожны жыхар мог тады пахваліцца.
Іваньку зайздросціла ўся Маргавіца.
А клець на высокім падмурку стаяла,
І неяк фацэтна яна выглядала.
І вабіла клець, ды не толькі красою:
Ніколі яна не бывала пустою.
Віселі калбасы там, здор, саланіна,
І пахлі дымком паляндвіца, вяндліна.
Напоўнены ліпаўкі збожжам зярністым,
А ў дзежках кляновых –
мядок залацісты...

Калі насядала блакада трывогай,
Іваньку свяцілася выйсці з аблогі.
Пачуў, што чужынец вядзе наступленне.
Балота і лес – ад блакады збавенне.
"Я веру, што ўсё атрымаецца гладка.
Паедзем у лес, і – на востраў па кладках..."
Запрэжаны коні. Пагроза – блакада.
Каровы прывязаны да панарадаў.
Вазы. А ў вазах – і адзежа, і жыта,
І дзеці. Не ўсё, што гадамі нажыта,
А больш толькі тое, што так неабходна
У жытцы без дому, у жытцы паходнай:
Цыбуля і соль, збажына, саланіна,
Гарох, і гаршкі. Лес, хоць свой, –
не хаціна.
У прыгаршчах кашу, вядома, не зварыш.
А голад вайною – не лепшы таварыш.

Глыбей адступалі ў лясы патрызаны...
Усё кіраўніцтва – на дзядзьку Івану.
"Ну што, мужыкі, не чакаць тут
чужынцаў.
Прыйшоў час пакінуць і нам Маргавіцу.
На Брод пададзімся: там мост уцалелы,
Бяроза яшчэ не паўсюль зледзянела". –
І лейцамі рэзка крануў варанога.
Вазы грукацелі прамёрзлай дарогай.
Ішлі за Бярозу. Рыпелі падводы.
Жытло пакідаць было цяжка і шкода.
Ды верылі дзязьку, у розум цвярозы:
Збавенне адно – за ракою Бярозай.

*5*

Раблю адступленне зусім не для смеху.
Быў час – апярэджваў Іванка і ў бегу.
Аднойчы воўк лоўка зацiснуў ягнятка.
Панёс. Ды за ім разгарачаны дзядзька
Шыбуе. Вось-вось ён дагоніць звяругу
І вернецца важна з ягняткам да плуга.
Ад ранішнай роснай травы-канюшыны
Намоклі, краналі зямлю калашыны.
І трэба ж здарыцца такому няшчасцю –
Штаны памаглі даганятаму ўпасці.
А шэры з ягняткам ляціць, як шалёны,
Мінаюць іржышча, сцяжыны, прагоны...
Дадому вярнуўся,
крычаў на ўсю глотку:
"Штаны вінаваты!" Ён іх – на калодку,
Сякеру ў руку і – адсек калашыны.
Так злосць спаганяў ён
на ўцёку ваўчыным.
Пасля, як астыў, ён Аўдоцці ўсміхаўся:
"Цяпер хай пакажацца, воўчае мяса.
Вось так бы і тых, хто накінуў падаткі,
Тады б і ў жыцці было болей парадку..."

Іван бярог жонку – красуню Аўдоццю.
Яе і дачушку душыла сухоцце.
Аўдоцця марнела, і чахла, і вяла,
А лекаў вайною о як не хапала.
Лячылася мёдам і топленым салам.
Яна, як цяпельца ў залеву, згасала.
Параіла з Вускрам'я цётка Матруна,
Што тлушч барсучыны –
адзіны ратунак.
Ажно ў Саўскі Бор вяла дзядзьку
сцяжына.
Ды ўжо не памог нават тук барсучыны...
Была пры Аўдоцці сястра мая, Ганна.
Карміла. І мыла адзенне старанна.
Сухоты (сумнення няма) у тым годзе
Заселі і ў нашым, у Свіркавых, родзе.
Сухоты... макрота, задушлівы кашаль
Кулініных дзетак тачылі, як шашаль.
Спачатку Ганнульку, Надзейку, Ігната,
А потым і Юрку – іх меншага брата.
Да дзядзькі Ганнулька ішла не з ахвотай.
Ды мама прасіла: "Маё ты дзіцятка,
Нялёгка ля хворай сядзець,
але ж дзядзька
З малымі адзін. Хто яму дапаможа?
Іванька не бедны. Падзеліцца збожжам,
Скароміны дасць ён – і здору, і сала.
У дзядзькі твайго клець пустой
не бывала".
Ганнульцы з-за нас даставалася,
беднай.
Такая ўжо доля сям'і мнагадзетнай.

Смерць жонкі прыгорбіла
дзядзьку Іваньку,
Высокі, нязломны, не кінуўся ў чарку.
І не пабег за свяжэйшай спадніцай:
"Замены Аўдоцці няма ў Маргавіцы".
І той успамін у душы чуўся востра.
Да брата ў госці прыходзілі сёстры:
І цётка Альжбета, і цётка Хрысціна
І мама мая – маё сонца – Куліна.
У вёсцы яму спачувалі ад сэрца:
"Каваль, толькі шчасце сваё не куецца..."
Адзіны сыночак застаўся ў Івана,
Малы Петрусёк, ён па дзеду названы.
А дзядзькава хата вайной уцалела.
Яна на пагарышчы змрочна глядзела.
Яшчэ у сорак трэцім і нам, пагарэльцам,
Было дзе спыніцца, было дзе сагрэцца.
Мястэчка згарэла. Яе ж так жадана
Пад штаб занялі, абжылі партызаны.
Было ў партызанах і дзядзьку нялёгка.
Хадзіў з патээрам няспешнай паходкай.
Казалі, шчаслівы: не гналі пад кулі.
З драўлянаю скрынкаю,
як з рыдыкюлем,
Хадзіў у абозе. Ці конь раскуецца,
Альбо кулямёт у баі папірхнецца,
Іван быў як лекар нікім незаменны.
Агледзіць, наладзіць няспраўнасць
імгненна.
О скрынка! Яна ўсё начынне ўмясціла:
Цвікі, малаток, абцугі і напілак,
І дратву, і пілкі, патроны, гранату –
Такі "рыдыкюль" быў пагрозна-багаты.
Ружжо яго зрэдку прамашку давала –
Варожую сталь у баі "цалавала".
Ад тых пацалункаў агніста-пунсовых
Хіліліся долу чужыя галовы.
Не меў у жыцці ён ніякіх пралікаў,
Таму і празвалі Іванам Вялікім.
Празвалі яго і за рост, і за сілу,
А болей – за розум... Ды злёг у магілу
Старэйшы мой дзядзька
з радні Ячуровых –
Трывушчы, спагадлівы, светлагаловы.

Калі ў Маргавіцу з Бягомля спяшаю,
Здаецца, яго на шляху напаткаю.
Пацісне руку. Бліснуць вочы праменна,
І ён запытае з усмешкай нязменнай:
"Здарова, Янчур! Як жыццё,
не штурхае?"
Нібыта за штосьці мяне дакарае.

***6***

Як гром загрукоча, маланка мільгнецца,
Зноў кузня паўстане і мне адгукнецца.
І ў тым мігатлівым маланкавым бляску
Убачу Піліпа я – трэцяга дзядзьку.
Ён быў памяркоўны і самы малодшы.
Багацця яму не прыносілі грошы.
Ён хаты рубіў – залюбуешся хатай.
Вяселлі любіў – запрашалі за свата.
І вокны асаджваў, выкругліваў граблі.
І молат яго танцаваў на кавадле.
Капаў ён калодзежы. Месца знаходзіў,
Дзе з жылы струмень жыватворны
выходзіў.
Вязаў невады, падвалокі і сеткі.
З Бярозы – рыбак! – не вылазіў улетку...
Бывае, і зараз сябе дакараю,
Што дзядзькавых рук незаменных
не маю.

...А за Маргавіцаю перад вайною
Было пасяленне. Вячэрняй парою
Там чулася песня тужліва, працяжна
Пра звон той вячэрні.
Ён клікаў разважна
Да роднага дому, дзе вольна жывецца.
Зняволеных песня. Пра долю пяецца.
Дарогу на Лепель яны брукавалі.
Пясок на машыны капалі, ссыпалі.
На конях вазілі каменне. На полі
Такога багацця хапала даволі.
Каменне масцілі. Сціраліся рукі.
Дарога пралегла палоскаю бруку.
Жылі ля дарогі ў дашчаных бараках.
Сумотных зняволеных, як небаракаў,
Вялі пад наглядам на працу і з працы.
За што іх судзілі? – Няпроста дазнацца.
У чым іх віна? – Хто адкажа талкова?..
Пра жытку нялепшае ляпнулі слова?
Ці, можа, таму слалі ўдзячнасць грузіну,
Што людцаў савецкіх абуў у рызіну?
Ці, можа, не выйшлі калі на работу?
Ці, можа, на кражу штурхнула галота?
Ці, можа, хто з іх не ў жніво, а дачасна
Калосся нарэзаў на полі калгасным?
Ці, можа, які недагляд гаспадарчы?..
Ці мала якія бываюць няўдачы...

Піліпку не вельмі прыцягвалі кніжкі.
Умеў ён гаршкі ліць, патэльні і міскі...
Адкуль алюміній парой той набыты?
Даваў самалёт наш, над вёскай падбіты.

Хто мог штурмавік той давесці да ладу?
Абшыўку здзіралі, праводку, цырату.
Штурхалі штурвал хлапчукі ажыўлёна.
І з крылаў выцягвалі стужкі патронаў.
Клыкастыя стужкі шуршэлі па крылах.
Нібы з самалёта выцягвалі жылы.
Матор-рухавік на чарзе быў апошнім.
Як сэрцы, ламаліся крохкія поршні.
Крышыліся, быццам бы лёд стыла-сіні.
Вось так здабываўся тады алюміній.

Піліп быў цікаўным.
Нагледжаным вокам
З дашчэчак даводзіў ён скрынку-апоку.
У ляда з вядром падыходзіў ён зранку,
Акопваў у лесе пясок-пытляванку.
Рукамі размешваў, як рошчыну-цеста,
Вады дабаўляў. Бы абдумваў ён нешта.
А форма-узор была хатняй, сваёю.
Апоку пяском набіваў даланёю.
І верхняю плаўна здымаў палавіну
І форму вымаў, бо ў адбітак павінен
Забегчы метал, на агні разагрэты.
Ліццё той парой не складала сакрэту.
Калісь Аляксей Маргавіцкі хаваўся
У лесе. З металам ён там пеклаваўся.
Таемна ліў лыжкі, радзей – скавародкі.
Ды мала хто бачыў яго, самародка,
Хоць зналі пра гэта ліццё маргаўчане.
Бліскучы тавар. А хто выліў, маўчалі.
За гэта ліццё пра тадышняй уладзе
Умелі (і як!) супраць шэрсці пагладзіць.
Маўчаннем той факт
не магу абыходзіць:
Жылі ў Маргавіцы спагадна і ў згодзе.
Нікога не выдалі часам суровым,
Калі разгуляўся хапун па галовах.
Сямейcтвам жылі, параднёным,
з'ядналым,
Зусім не прымалі чужэнцаў нязваных.
Спрадвечныя роды:
Стаўроў-Янчуровых,
Род Свіркавых, Юдавых і Барашковых.
Былі паяднаны сватамі, раднёю.
А зайздрасць і зло не дружылі з душою.
Таму (гэта рэдкасць)
у страшных трыццатых
Нікога не выслалі з роднае хаты,
Каб мучыцца ў краі паўночным,
мярзлотным,
Рыць золата ў сопках.
Ці ў твані балотнай
Пракладваць канал
Беламорска-Балтыйскі,
Ці ў далечы стылай Амура-Сібірскай
Рваць жылы ў знямозе на лесапавале,
Ці тачку цягаць у капальнях Урала
І роднай старонкі не ўбачыць ніколі.
І ў пекла сыйсці ў Салавецкай няволі...
І ў часе ваенным (пасведчу я фактам)
Ніхто не імкнуўся служыць акупантам.
Не пляскаў у ладкі чужацкім загадам,
Каб зводзіць рахункі з нядаўняй уладай,
Не ўзяўся за зброю, чужым не прадаўся.
І верным зямельцы сваёй заставаўся.
Пасля, як рэжым верхаводзіў паганы,
У лес падаваліся да партызанаў.

*7*

...Прасцей адліваліся лыжкі, салонкі,
Патэльні, каструлі, відэльцы. І толькі
Гаршкі паддаваліся цяжка. Пузаты
Разрэзаць для формы было цяжкавата.
Тады баба Мар'я гняўліва ўздыхала:
Адзіны гаршчок разразаць шкадавала.
Дзе купіш яго, чыгунок незаменны.
Служыў гаршчок спраўна
з гадоў даваенных.
Матулю Іван супакойваў, умеўшы:
"Не енчы. Гаршчок адліецца лягчэйшы".
Але, як на ліха, і браку хапала,
Бо маса па форме не скрозь дабягала.
Ці, можа, пясок быў сыры і зляжалы,
Ці, можа, агонь не даплавіў металу?
Піліп раздымаў асцярожна апоку –
Гаршчок пасміхаўся
пашчэрбленым бокам.
То зноў недаліў, альбо дзірка з капейку.
Дакуль жа такім заставацца няўмекам?
"Не, малец, так справа даходна
не пойдзе.
Не выліў нічога, а блізіцца поўдзень..."
Старэйшага брата Піліпка паслухаў –
Прамяў у пяску ён палоскі-прадухі.
Гаршкі-недаліўкі абухам ламалі
І зноўку спачатку ліццё пачыналі.
Абломкі-кавалкі кідалі ў жасцянку,
Што з ручкай драцянай, пузатую банку.
Агонь на камінку гарэў апантана,
І зноў алюміній святлеў, як смятана.
Каб лепш заліваліся тонкія сценкі,
Нагар Піліп ссоўваў прутком,
быццам пенку.

І ў шчыліну ліў алюміній гарачы,
Стаіўшы дыханне: удача б, удача б!
Апоку разняў – і ўсміхнуўся шчасліва:
Гаршчок быў цалюткі, блішчэў зіхатліва.
Сцёр пот рукавом, над апокай схіліўся.
Пясок астываў і, як бохан, дыміўся.
Крупінкі пяску, нібы мак на адліўцы,
Яшчэ не паспелі ў апоку скаціцца.
І брату сказаў тады словы такія:
"Гаршкі, як вядома, ліюць не святыя".
Іванька разважыў услых не для смеху:
"Цяпер будзе з чым у Заходнюю ехаць.
Там хлеба прыкупім у згодзе з "панамі".
Тавар такі, братачка, схопяць з рукамі".

Зімою і ёўня, і ток нас сустрэлі:
Бо хаты як свечкі ў блакаду згарэлі.
Тады Янчуровы жылі адным родам.
Ва ўсім разуменне і крэўная згода.
Вярнуліся быццам да першаасновы
На селішча продкаў сваіх – Янчуровых.
Іваньку, як бацьку, усе паважалі.
І сеялі разам, касілі і жалі.
Ды гнётам насела кароста-навала.
Усю Маргавіцу яна заядала.
Сказаў тады дзядзька: "До з немаччу
знацца.
Каросце-свярбучцы дадзім прачухацца".

...Нёс бомбу адтуль ён дадому
для лекаў,
Дзе немцы пракладвалі вузкакалейку,
Ажно з Пустаселля. Іх там партызаны
Абстрэльвалі часта. І кулямі гнаны
Чужынец да Докшыц ішоў, агрызаўся.
Прачэсваў ён бомбамі лес, адбіваўся.
Цалюткаю бомба ў зямлі засядала.
Над ёй партызаны свой спрыт выяўлялі.
Адкопвалі бомбу, над ёй мазгавалі.
І з грознага чэрава тол даставалі.
Паўбомбы ў мяшку дзядзька нёс,
як падсвінка.
А дома ён выплавіў тол той – начынку.
Патоўк абушком без ніякай трывогі.
Што бомба ўзарвецца, не слухаў нікога.
Жаўцеў тол на блясе мукой пытляванай,
На шчасце, на гібель не быў скарыстаны.
Навошта жыццё забіваць і калечыць,
Няхай ён ад немачы людцаў палечыць.
За токам на вогнішчы зелле ён пражыў.
Тол з дзёгцем і соллю запеніўся сажай.

О соль, гэты скарб быў тым часам
бясцэнным:
Яе не хапала парою ваеннай.
Зімой склад спалілі ўначы партызаны.
Соль грудам ляжала, зусім нечапанай.
У пліткі зілася з пяском ды вуголлем.
Прыходзілі людзі сюды завуголлем.
Быў пост паліцэйскі, і пільны, і грозны,
Пастрэльвалі ўгору: браць соль тут
няможна.
Ды ноччу бліжэй смельчакі падпаўзалі,
Счарнелае солі ў мяшкі награбалі.
Вось так удалося Іваньку з Піліпкам
Прынесці з Бягомля салёную плітку.

...Гаршчок пачарнеў, у ім пыхкала маса.
Хацелася, каб так варылася мяса.
Кійком тую масу, і не для забавы,
Памешваў Іванька, як едкую страву.
Дасціпны, вясёлы, пра ўсё дзядзька
ведаў:
"Кароста – не проста. Яна – не аздоба,
Хаця велічаецца панскай хваробай.
Кароста – не сап, ад яе не ўміраюць,
Адно толькі рукі, на жаль, не гуляюць".
Ахапкамі ў ёўню насіў ён салому
І ток высцілаў. Тут пасцеля, як дома.
Нібыта палаці, паўз сцен былі жэрдкі,
Сушылі там лён, і каноплі, і грэчку.
Намер быў у дзядзькі няхітры
і просты –
Ахаяць радню ад свярбучкі-кароcты.
Але, як наліха, кароста тым часам
Струпамі, скарынкаю густа зілася.
Між пальцаў макрэла яна і ў пахвінах.
Хацелася чухацца дзецям, жанчынам.
Мужчыны, занятыя болей работай,
Увагу каросце адводзілі ўпотай...
У ёўню налезла дзяцей Янчуровых,
Нібыта снапочкаў тых русагаловых:
Кулініны дзеці, Альжбеціны дзеткі,
Хрысціціны, Янкавы гора-падлеткі.
А Юркаў сыночак у вечных спаў
спратах.
А дзядзька Піліп быў яшчэ не жанаты.
Матулі выпэцквалі дзетак старанна:
Хай гаяцца свербныя ранкі і раны.
"Во чэрці, малых не пазнаць –
цыганяты", –
Смяяўся Іванька, лячэннем заняты.
Пасля ён напэцкаўся чорнай анучай.
Шчыпалася варыва едка, пякуча.

І ўпокат у ёўні ляглі Янчуровы...
За ноч учадзелі. Балелі галовы.
Змарнелыя, пахлі і толам, і дзёгцем.
Адно, што бялела ў іх, – зубы ды ногці.
Іванька казаў пасля чорнае мазі:
“Праз тыдзень паедзем у Бабцы,
у лазню”.

За лесам, за полем – Бярэзіны пойма.
Там Бабцы – адметная вёска па-свойму.
Пачуць давялося і мне пра такое:
Праслаўлены Бабцы дзявочай красою.
Чаму так вядзецца, не ўсім і вядома.
Ды лепшае бачыцца часам не дома,
А дзесьці далёка – за лесам, за гаем.
Як быццам паблізу такога не маем.
Нявесты раслі і ў сваёй Маргавіцы –
Прыглядныя, з добрых сямей
чараўніцы.
Бабчанкі!.. Па іх кавалеры ўздыхалі.
У Бабцы здалёку сваты прыязджалі.
Іванька вось так талкаваў маладзейшым:
“Чужы хлеб і чорны –
гасцінец смачнейшы.
І жонкі здалёку – матульчыны дочкі –
Радзей ад мужоў уцякаюць у прочкі”.
І ўсё ж род жаночы, і не выпадкова,
Адсюль пачыналі здаўна Янчуровы.
Яшчэ дзед Пятрок днём нядзельным
бясхмарным,
Прывёз з Бабцаў жонку –
прывабную Мар’ю.
Амаль з гэткіх Бабцаў Іванькава жонка.
І Юрка Ганнульку браў з гэтай старонкі.
Яшчэ да вайны ажаніўся з ёй Юрка.
І ён у Лагу будаваўся ў завулку.
Яму ставіць хату за вёскай карцела.
Калгас не адвёў для сядзібы надзелу:
“Далей ад людзей захацеў аддзяляцца.
Нашто ўкараняць за сялом
хутаранцаў?”
Ад бацькавых межаў яго не пусцілі.
Браты і швагры яму хату зрабілі.
Ішоў ваяваць, уздыхаў у завулку:
У хаце сваёй не пажыў ён з Ганнулькай.
Пасля (так прасіў ён) накрылі шчапою.
Стаяла яна ўсю вайну сіратою.

***8***

Піліпка адмалку тугі быў на вуха.
Братоў і матулю сваю не паслухаў:
“Свет клінам сышоўся на дзеўках,
што ў Бабцах?
Чым горшая Зенка?
Хачу з ёй вянчацца!” –
Кахаў Паўлючкову дачку з Маргавіцы. –
“Калі мне жаніцца, дык з ёю жаніцца...”
Піліпу адвёў не адну я старонку,
Ды нельга не ўспомніць ягоную жонку.
Пры аўтакалоне бензін адпускала,
Запраўшчыцай спраўна яна працавала.
Паглядвалі ласа шафёры на Зенку.
Вымазвалі хваты не толькі сукенку.
“Ды што з імі зробіш,
мой любы Піліпка,
Яны да мяне смаляніцаю ліпнуць”.
Не вытрымаў дзядзька. Сказаў ёй
уранку:
“Працуй у калгасе – даволі запраўкі.
У полі чысцей. І не пахне бензінам.
Вось так, даражэнькая Зеначка-Зіна.
І жонкай маёю, запомні, не будзеш,
Калі пра запраўку сваю не забудзеш”.
“Піліпка, павер мне, не я вінавата”.
Быў дзядзька тым часам
яшчэ нежанаты.

На фронт ён не трапіў: падводзілі
вушы.
Піліп ненавідзеў прадажныя душы,
Хто мог прытварыцца глухім
ці калекам,
Ці нейкім нямым
недалуззем-няўмекам.
Не чуў. Сам ішоў, калі трэба падмога.
Глухім не застаўся да гора людскога.
Заўсёды Піліпу хапала работы.
Аднойчы ён з’ездзіў на поўдзень,
на воды.
Дзівіўся: “О, колькі там людцаў гуляе.
Іх сонца цалуе, і мора люляе.
Адамы і Евы амаль без апраткі.
Як глянеш, аж сэрца заходзіцца ў пяткі.
О, Божа! Хто корміць іх смачным
і свежым:
Людзьмі паўсцілана
паўсюль узбярэжжа.
І я адзін раз памыў рукі ля мора.
Праз тыдзень сарваўся дадому
з Місхора...”
Работай заняты, заўсёды – у поце.
І нават памёр дзядзька мой на рабоце.

*9*

Сядзіба гарэла. Агонь языкасты
З хлява перакінуўся тут жа на хату.
У дыме іскрыстым ён не задыхаўся,
А бег ад канька, па страсе расцякаўся.
"Піліп! – То Іванька крычаў азвярэла. –
Хутчэй на страху!" А ўжо вёска гарэла:
Хлявы і гуменцы, і хаты, і клеці.
У лес падаліся старыя і дзеці.
Раўлі самалёты прышэльцаў-паганцаў.
Налёт пачыналі аднекуль з-за Бабцаў.
У часе налёту яны зачастую
Для страху выкідвалі бочку пустую.
І тая, пакуль да зямлі далятала,
Паднеб'е вар'яцкім выццём раздзірала.
Іванька з багром завіхаўся ля хаты.
У полымі кроквы трашчэлі і латы...
Ад бацькавай хаты застаўся падмурак
Ды печ, што ўзвышалася вельмі панура.
Піліп, намачыўшы ў цабэрку куфайку,
Ускочыў на ток. І скідаў зажыгалкі –
Тэрмітныя шашкі, што з неба ляцелі.
На шчасце, не ўсе з іх траплялі па цэлі.
Каб шашкам тэрмітным агнём
усчынацца,
Павінны на цвёрдым яны разбівацца.
Піліп быў зацятым, цярплівым
і пільным.
Шастом-падавалкай, нібыта цапільнам,
Ён шашкі спіхаў са страхі. Так спадалі
На дол і за пуняй яны дагаралі,
Нязвыклым, купчастым агнём
палымнелі.
Яны дагаралі не там, дзе хацелі.
А шашку, што падала блізка, ён лоўка
Рукою хапаў, быццам тую бічоўку
І ўраз адкідаў у траву, за дарогу:
Ад іх там не будзе ніякай трывогі...

Як ссунуўся з току Піліпка змакрэлы,
Яны дагаралі агнём пабялелым.
Тады, з тых налётаў, гуменца ўцалела –
І ёўня, і ток. Толькі хата згарэла.
Пасля ў Маргавіцы казалі не марна:
Гумно адмаліла набожная Мар'я.
А дзядзька Піліп усміхаўся лагодна,
З такой выпадковай высновай
нязгодны.
І хукаў на рукі: смылелі апёкі.
"Былі б рукавіцы..." – і жмурыў ён вока.

...Вяліся ў Піліпкі (любіў ён іх) пчолы.
Пра гэта вядома ўсяму наваколлю.
Паўз саду сцяной разрасталіся ліпкі.
Толк ведаў у пчолах
мой дзядзька Піліпка.
Іх дар смакавала сям'я Янчуровых.
Быў ліпавы мёд, лугавы, верасовы.
А грэчневы мёд, ён – гусцейшы,
цямнейшы,
На смак мне здаваўся
крыху саладзейшым.
Калі прадчуваў, што зіма будзе злою,
Да вулляў ішоў ён няспешнай хадою.
Нібыта мядзведзь той
да іх прыглядаўся.
Ды з цяжкімі вуллямі ён не качаўся.
Абхопліваў цэпка калоды з пашанай
І зносіў у ёўню, нібыта ў імшанік.
Там пчолкі жылі, да вясны зімавалі,
Цяпла ім хапала, і не вымярзалі.
Вясной выляталі ў шлях блізкі і дальні
І зумкалі дзядзьку
свой спеў рытуальны.

Дзядзькам сваім родным і я пакланюся –
Карэньчык іх роду. Так я назавуся.

Калі прыязджаю дадому не госцем,
(Дзе кузня стаяла на даўнім пагосце)
Стаю пад адзінай сасною шатрыстай.
Як род Янчуровых, такой старажытнай.
Пра час той, далёкі і блізкі мне, мрою.
Жывая радня паўстае прада мною.
На ўзлобку іх бачу – стаяць у тужурках
Іванька Вялікі, Піліпка і Юрка.
А воддаль – іх сёстры:
Альжбета, Хрысціна
І мама мая – маё сонца – Куліна,
За імі – іх дзеці і дзеткі малыя –
Працяг Янчуровых. Жывыя, жывыя!

запісы

Уладзімір Ліпскі



...каб чалавек займеў мінулае,
трэба захацець ажывіць памяць...

# Усякі дзень апошні

***Дзённік***

*Добра ў старасці быць маладым.*

**Янка БРЫЛЬ**

Шостага мая – пачатак майго гасцявання ў зямным раі.

Шостага мая – пачатак майго новага года. Васьмідзясяты новы год пачынаю ў панядзелак.

У панядзелак якраз мяне Мама нарадзіла.

А ў гэты дзень у маіх гумарных аўцюкоўцаў – адпачынак пасля выходных.

Дык от жа і я, і ўсе людзі ў Беларусі сёння адпачываюць. Урад вырашыў: перанесці рабочы панядзелак на выхадную суботу.

Як бы хто ні тасаваў дні, яны бягуць без перапынку. Бывае толькі, як і хуткасныя цягнікі на некаторых станцыях, так і дні крыху прыпыняюцца на прытулках памяці.

Сённяшні панядзелак укідваю ў памяць, як віншавальную паштоўку. Міла і душэўна хвалілі мяне ўсе Ліпскія за абедзенным сталом. А пасля сотавік ледзь не расплавіўся. Званілі

з Мінска, Калінінграда, Масквы, Любані, Ельска, Барысава, Аўцюкоў, Паставаў, Зашыр'я, Дабужы, Навасёлак...

Хвалілі. Жадалі. Прасілі.

А я проста жыў, як усякі дзень апошні.

У басейне праплыў тысячу сто метраў. Напісаў дзве старонкі ў раман "Цялец". Са смакам гаварыў па тэлефоне з родзічамі, сябрамі, дабрадзеямі.

І вушы мае не звялі.

І нос не задраўся.

І душа не заганарылася.

А чаму?

Бо даўно трымаюся сваёй веры: смакуй, што было, умей жыць сёння, тады не згубіш заўтра.

* * *

Хлопцы!

Да пачатку свайго юбілейнага года капітальна асвяжыце кватэру. Магу падзяліцца сакрэтамі і вопытам.

Дужа натхнёна памыйце вокны. Праз іх убачыце васільковае неба, узыход юрлівага сонейка, шалёную зеляніну. А пашанцуе, то ўбачыце шызага голуба на галубцы, сівую варону з вечна галоднай дзюбаю, самалёт з белым аўтографам на хвасце.

Пасля вокнаў збярыце пыл, павуцінкі, мурзілкі з усяго, што стаіць, ляжыць, вісіць.

Перад плінтусамі станьце, браточкі, на калені, адганіце ад іх усё, што схавалася ад вас. Можна пры гэтым прыгадаць дзіцячую лічылку: "Раз, два, тры, чатыры, пяць – я іду шукаць. Хто не схаваўся, той папаўся".

З асаблівай лагодаю праціпрайце рамкі з партрэтамі, фоткамі Мамы, Таты, усяе радні. У гэты міг яны чыстымі, спагадлівымі вачыма абагаўляюць вас. А я ўключаю для іх музычнага коніка. Мелодыя вяртае ў вечна жывую для мяне хату ў Шоўкавічах.

Далей пасядзіце з Карлсанам на люстрах. Праганіце маркоту з непрачытаных кніг. Хаця б патасуйце іх, перастаўце, патрымайце ў руках.

Дойдзеце да кухні, ванны, туалета, узбройвайцеся найлепшымі чысцільнікамі "Comet", "Domestos". На гэтыя аб'екты назапасьце цярпення, цялёпкасці, пакуль ад светласці кафлі не пацямнее ў вачах.

І тады вы адчуеце сябе героем дня. Мужным мужычком. Вас, пераможцу, чакае найлепшая вячэра. Можа, нават з чырвоным сухім вінцом!

* * *

Кукарэкаю перад гасцямі, як слаўна прыбраў кватэру да імянінаў.

Унучка Маша міла, лагодна ўсміхаецца, шэпча мне на вуха:

– Дзядулька, зірні ў правы кут на кухні. У самым версе сядзіць, сумуе павучок...

От, халера, відаць, праскочыў у хату пасля прыборкі. Па-змоўніцку падміргваю Машы:

– Нікому ні слова!.. Я спецыяльна яго не трывожыў, каб аніякенькіх казюрак не пускаў на кухню...

Панятліва перазірнуліся.

Веру, тайну зберажэм усе разам: я, Маша і павук.

* * *

На Радаўніцу тэлефаную ў свае Шоўкавічы. Там цяпер – адзін пастаялец Колька Трацэўскі з сваёй Надзеяй. Яму ўжо – 75, а ён – Колька. Што чую?

Няма жаб у нашай сажалцы, у іншых балотах.

Буслы не пасяліліся.

Хаты сельсавет руйнуе, закопвае. Белы пясочак там, дзе жылі Сарафіна, Арына, Адам, Аксіння па мянушцы Ядрона Маць...

Дык жа, Ядрона Маць, магільнік хатаў у Шоўкавічах.

А воддаль, на пагосце, у сасонніку ляжаць упокат касцы і жнеі, даяркі і свінаркі, аратыя і сейбіты, мамкі і нянькі...

З фотак пазіраюць у сваю туманную далячынь. Сумная раса асмужвае іх вочы. У кожнага жывога хочуць спагадліва спытаць: "Ці помніце нас?"

Цалую прахалодныя здымкі: Мамы, Бацькі, брата Пеці, брата Колі, сястры Ліды, пляменніка Шурыка...

Усе маўклівыя шоўкаўцы – мая радня, мае першыя навучыцелі. Люблю Вас, людзі! Маё сэрца плача па кожным. І не толькі на Радаўніцу...

Вырываюся з цягучых абдымкаў могілак. І ў які раз думаю пра непрачытаныя кнігі пад крыжамі.

* * *

Гэтым годам – пяць выхадных запар.

Май святочны!

Вяртаюся ў рэдакцыю як пасля адпачынку. Адчыняю дзверы, бацюхна! Уся столь у вясёлкавых шарах. Плакаты віншавальныя. На стале – торт з надпісам "Любіменькаму шэфу", у рамцы – партрэт. Я – у блакітным спартыўным касцюме з літарай "s" на грудзях. Відаць, гэта азначае – супермэн. На шыі – піянерскі гальштук. Рукі ўшыркі, трымаюць чырвоны плашч-крылы. На вачах – вясёлкавыя акуляры. А вакол майская шалёная прыгажосць: багоўкі, рамонкі, зеляніна, сінеча...

У кабінет збіраецца маладая каманда. Святочныя. Акрыленыя.

Колькі ж у іх словах дабрыні, шчырасці і дужа добрай удзячнасці. Іх словы, як медалі.

Віка: "Я вучуся ў Вас штодня, нават тады, калі нічому не вучыце".

Анастасія: "Вы для нас незаменны шэф. Дзякуй, што шырока расплюшчылі вочы на святло жыцця".

Ірына: "Удзячна лёсу, што я тут і з Вамі".

Радміла: "Шэф, не пакідайце нас яшчэ доўга-доўга".

Карына, Эля: "Над нашым "Домікам" – ззяе "Вясёлка", над ім жыве "Буся". Гэта шчаслівы сімвал!.."

Маладыя, крэатыўныя вясёлкаўцы хочуць, каб быў з імі бясконца. Хаця б да ста гадоў. Ого, мае харошыя, не хачу бачыць, як вы старэеце. Заставайцеся ў маім сэрцы юнымі і крыху свавольнымі гарэзамі. А я паціху буду грэцца каля вас.

* * *

Нядзелькадні і будні.

Хто іх прыдумаў? Хто ўбіў у нашы мазгі, што ёсць дні святочныя і будзённыя?

Чуй, чалавек, што я думаю пра гэта.

Мы з табой на зямлі – госці.

Мы – на свяце жыцця.

Дык ці бываюць на свяце, у гасцях шэрасць, панурасць, млявасць, будзённасць?

Давай навучымся ісці на работу, як на свята. А вяртацца дамоў, як у жаданыя госці.

Чуй, зямеля, табе слабо даражыць кожным мігам Божага дару?

Ці ж не грэх доўга дрыхаць пад вечнае гарэнне жыццёвай свечкі? Ды ці вечная яна?

Ці ж не гад ты, чалавек, калі хочаш укусіць падобнага табе, атруціць яго душу, абпэцкаць чорнай слінаю, падставіць падножку?

Наступіў новы панядзелак.

Зноў малюся за Маму.

А перад сном прашу ў Бога яшчэ адзін дзянёчак. Хачу нацешыцца ім, як апошненькім.

* * *

Даўней мужык меў гнядога каня і востры меч. З імі абараняў свой гонар, сваю хату, жонку, дзяцей. Жыццём абараняў родны кут.

Чым і як цяпер абараняе мужык сябе і ўсё наўкол?

У вагонах метро амаль усе пацаны з навушнікамі. Вочы паўтырканыя ў мабілы. Сядзяць на месцах для старых, інвалідаў, дзяцей. Думаю: дай такому востры меч – пакалечыцца. Усадзі на гнядога – упадзе.

Страляю вачыма па натоўпе. Хачу ўбачыць натхнёную красуню. І расчароўваюся. Амаль усе яны нейкія бляднотныя, без парфуму, у штанцах, шэрых куртках. Вочы прымагнічаны да тэлефонаў. Шкада іх!

А я ж хачу, каб вочы маладых праменіліся юрлівай цнотай, каб жылі натхнёна. Мы ж для сонца створаны, а не для цьмянага месяца.

Ці мо я сам падурнеў?

Мо наступіў старэчы буркатлівы маразм? А я гэтага не прыкмячаю...

* * *

Праплыў у басейне Дома афіцэраў 1500 метраў. Без “перакураў”. Выбачаюся перад афіцэрамі, якіх абганяў. Хлопцы, плыць, як і жыць, трэба прыгожа. Спяшацца трэба толькі ў адным выпадку...

З’ездзілі вясёлкаўскай сям’ёй (Анастасія, Віка, Радміла і я) у Слуцк. Адкрылі тыдзень Віткаўскіх чытанняў. Ну, малайцы ж мясцовыя кніжнікі. Штогод усім раёнам чытаюць свайго земляка Васіля Вітку.

Дзяўчынка Лізавета, пяць годзікаў, узяла ў палон нашы сэрцы. Я падняў яе на журнальны столік, за якім сядзеў, бо яе не бачылі апошнія шэрагі. І яна расказала даўгаваты верш пра камароў. Нават паказала, як ад іх ратавацца: вось так – ручка налева, вось так – ручка направа, і вось так – ручка зверху ўніз – камару каюк!

А я выступаў тры разы.

У апошняй аўдыторыі трыста дзяцей. Не кожны з пісьменніцкай браціі вытрымае непаседаў. Мне ўдалося. І да апошняй хвіліны яны былі маімі і дужа сяброўскімі.

А калі прапанаваў конкурс, хто лепш вымавіць два словы “Мая Беларусь”, да сцэны падышлі трыццаць два смельчакі. Пяць з іх атрымалі ад мяне “Вясёлкі” з аўтографам. Пераможцы не толькі прамовілі, а выдыхнулі са споду сваёй душы любоў і пяшчоту, якія знітаваны з двума словамі – Мая Беларусь.

Вяртаюся дамоў, бытта сёння пабываў у космасе жыцця.

* * *

На пероне метро прыкмеціў жанчынку. Ішла асцярожна. Рукой, усёй далоняй, падтрымлівала ніз жывата, як бы лічыла крокі. Позіркам, усім ціхмяным тварам была з тым, хто ў жывоціку. Рукой трымала яго галоўку, перадавала сваёй крывіначцы пяшчоту. Яна і дзіцятка ў ёй – адзін мацярык, адно ядро.

Пазіраў услед святародзіцы і маліўся:

“Божа, падмажы ўбачыць свет беларусіку.

Божа, надай любові і цярпення яго Маме.

Божа, хай народзіць яна талент, які ўславіць Беларусь!”

Цалюткі дзень жыву з радасцю, што бачыў цуд.

А мо той, хто сёння ў жывоціку, захоча некалі прачытаць мае кнігі “Мама. Малітва сына”, лісты да ўнука Толіка “Сонца над галавой”, кнігу сэрца і душы “Мая Беларусь”.

Нарадзіся кніжнікам, Дзіцятка!

Кніга – найлепшы навучыцель.

* * *

На маім стале – томік выбранай прозы Міхася Стральцова “На ўспамін аб радасці”.

Чытаю няспешна, са смакам. Вылушчваю, укідваю ў памяць яго моўныя расінкі, залацінкі.

“Самотна гудзеў жук”. Насамрэч, чаму ён так гудзеў? Мо адчуў адзіноту, сум, журботу? Мо гэта яго характар – бухцець, зумкаць ды некуды крыляць?

“Сутоньвалася на дварэ. Вечарэла. Хмурэла. Дагараў дзень”.

“Дзугаў нагамі”. Ішоў стомлена, цягнуўся, шкрэбаўся.

“Закрактаў ложак”. Гэта дзед уставаў пасля дрымоты. Ложак і дзед, відаць, былі аднаго веку.

“Хлопец порсткі”. Заняты, упарты. Пра такога кажуць: “Хоць кол на галаве чашы”.

“Малінава гарыць над лесам халоднае неба”. О, гэта пані-сонейка ідзе на спачын. Пара азірнуцца, як пражыў дзень.

Міхась Стральцоў адным мазком “фарбы” малюе субяседніка: “разжалобіўся”, “настабурыліся доўгія валасы”, “у яго агністы кашаль”, “Бог не даў яму розуму, але даў добрую душу”...

Прыгадваю нашую апошнюю сустрэчу з Міхаілам Лявонавічам. Ішла прэзентацыя яго новай кнігі вершаў “Мой свеце ясны”. Ён быў у святочным касцюме. Чарнявы. Элегантны. Інтэлігентны. Крыху ўзрушаны.

Падпісаў свой томік. Пад цёмна-сіняй вокладкай з малюнкамі Аляксандра Шэверава – аўтограф: “Уладзіміру Ліпскаму па-сяброўску шчыра – М. Стральцоў. 24.04.86 г.”

Чытаю, як бы чую побач душэўны голас мудраца:

Перацірай, перабірай
Запас душэўнай гаспадаркі,
Сябе судзі, сябе карай
За дзень, за сваркі і за чаркі.

* * *

Усё часцей думаю пра новы раман. Як кароль Панятоўскі і царыца Кацярына ў пасцелі кроілі Рэч Паспалітую. Тады на нашу зямельку прыйшлі рускі поп,

рускі настаўнік, рускі гаспадар павета. А мы амаль на паўтары сотні гадоў сталі Паўночна-Заходнім краем Расіі. От бы пра ўсё гэта сказаць праўду!

Эпіграфам можна ўзяць два радкі паэта Уладзіміра Марука:

> Пан валодаў палямі, лясамі,
> Сваёй мовай валодалі мы.

Тэма паклічная, патрабуе шчыравання на некалькі гадоў. Падобна крату, трэба зарывацца ў падзямелле часу, у архівы Масквы, Піцера, Варшавы, Вільні, Мінска, Кіева. Ці хопіць пораху?..

* * *

Майская шалёная зеляніна. Сонца высокае, усмешлівае. Дрэвы ў новенькіх, свежых мундзірах. Траўка сцелецца кілімам, а на ім зіхацяць фанабэрыстыя дзьмухаўцы.

Як жа міла ў майскай прыродзе. Душа ад яе маладзее. Сэрца напаўняецца ўзрушанай радасцю.

Хораша дыхаецца. Хочацца кожнага сустрэчнага прасіць:

“Узірайся, надыхайся, налюбуйся. І запомні!..”

Мой май!

Ты – пад знакам Мамы.

Пад апекай святога Юрыя Пераможцы. З іх благаславення паставіў кропку ў рамане “Цялец”. У ім галоўны герой Юрась Майскі – мой двайнік.

Май! Ты мая ўцеха!

* * *

Сёння гаварыў па тэлефоне з Рэчыцай, Калінкавічамі, Дзяржынскам, Жодзіна, Ельскам, Гомлем...

А дужа даўнім часам нашы гарады круглагадова ўтрымлівалі “СТАРОЖУ” – асабістых ганцоў, веставых, каб мець звесткі па розных пытаннях.

Жыхары гарадоў талакой назапашвалі сена для “конскіх” мабільнікаў. Утрымлівалі канюшні. У кузнях выраблялі падковы, цуглі. У спецмайстэрнях – збрую, сёдлы.

Сучасны “ганец” мае тэлефон, батарэйкі, зарадны шнур. Націскай кнопачкі і атрымлівай якія хочаш звесткі, навіны.

О, Бог! Не дай маім дзецям, унукам забыць, што было.

Падмажы, Госпад, каб цанілі, што ёсць.

* * *

Пятніца. Цяплынь. Лета вясновым маем.

Неба тужыцца шэрай кудзеляю. І месцамі дорыць цыганскі дождж.

У промнях сонца на зямлю апускаюцца ніткі жаданай вільготы. Жаданай для сялянаў, дачнікаў. Для асфальтнікаў дождж – адна маркота. Шукай парасон, ратуй прычоскі, абутак...

Мы з Нінай – на дачы.

Памідоры, гуркі – напоены.

Цыбуля, часнок рвуцца ў неба.

Родадэндрон шалее каралавай квеценню.

Алея руж наліваецца сілай.

Шпак апошні раз нырнуў у шпакоўню.

Наступае перазменка ў сонца і месяца.

У вышыні рэйсавы небалайнер малюе белую стужку.

У вячэрніх палётах пачынаюць размінаць крылы кажаны.

Некуды жужукаюць майскія жукі...

А мы з Нінай – на лаве каля хаткі на "Узгор'і-2". Майская асалода казыча спод душы. Хочацца запомніць гэты вечар. І ўславіць. І перадаць тым, хто заўтра будзе адпачываць на гэтай лаве.

* * *

І як бы мы не квакталі, жыццё на Зямлі – вечнае. Бытта святую, трапяткую свечачку перадаем жыццё ад сэрца да сэрца.

У Мамы маёй Марыі і Бацькі майго Сцяпана – васямнаццаць братоў і сясцёр. Я ўжо і не злічу, колькі ад іх пайшло народу. Яны ж усе – мая радня. А-а-у-у, радня, дзе вы, хто вы? Дужа ў "яблычка" цаляе любімая спявачка Надзея Кадышава: "Зачем вы, близкие, такие дальние?.."

А ў нашай галіне дрэва, ад Сцяпана і Марыі, – шасцёра дзяцей, шасцёра зяцёў і нявестак ды шаснаццаць унукаў, дваццаць праўнукаў. Яны ўсе жывымі хвалямі кіруюць у бязмежны чалавечы акіян.

Толькі наша радаводнае дрэва параднілася з дрэвамі Сыцькаў, Корбутаў, Угліцкіх, Браткоўскіх, Бялевічаў, Радзюкевічаў, Старажэнкаў, Любінскіх, Захарэнкаў, Каламійцавых, Куплевічаў, Шнітоўскіх, Хацькоў...

Мы ўсе на Зямлі знітаваны сваяцтвам. Апошняя кропля палаючага воску капае на свежую свечку – жыццё прадаўжаецца. І гэтак ажывае новы ланцуг пакаленняў. Імі падперазана планета людзей.

Вось пра што абнадзеена шапацелі думкі ў апошнюю квадру мая.

* * *

Некалі адна старая аўцючка хвалілася перада мною:

– Каласок, а мне сённячы ўнук падаў вады!..

Сёння я сам сябе хваліў два разы.

У вагоне метро саступіў месца маладзіцы сярэдняга веку з дзвюмя сумкамі. Яна падаравала мне ўдзячныя словы. Ажно моладзь на секунду адарвалася ад мабілаў. Але не сарвалася з седалаў, каб мяне ўсадзіць.

Я дараваў ім.

Я быў усцешаны маленькім учынкам свайго сумлення.

А другі раз на станцыі "Няміга" дапамог маладой маме. Яна спускалася з дзіцячай каляскай, па прыступках у метро. Колы – бум-грук, бум-грук. Я падхапіў каляску, і мы лёгка пераадолелі нягоду. Той панок, што ляжаў у сваёй карэце, паслаў мне міленькую, сонечную ўсмешку.

Два падарункі.

Дзень адбыўся!

* * *

Рэдкі, рэдкасны чалавек...  
Выключна добры.  
Бязмежна сціплы.  
На ўсе колеры вясёлкі.  
Светлы ў пачуццях.  
Надзейны ў сяброўстве.

Сёння такому б майму сябру Юрыю Аляксандравічу Гусеву было б дзевяноста гадоў.

Філосаф. Пісьменнік. Доктар навук. Прафесар. Калі ён заходзіў да мяне ў “Вясёлку”, у вокны заўсёды зазірала сонца.

Прысядзе, спачувальна зірне на стос папер перада мной, сціпла заўважыць:

– Ой, Уладзімір Сцяпанавіч, адпачывалі б калі-небудзь.

Аджартоўваўся:

– “На спіне мы яшчэ наляжымся”. Так папярэдзіў нас усіх мой зямляк Анатоль Грачанікаў...

П’ем чай з Юрыем Аляксандравічам, і наша гаворка пераліваецца, як ручаёк. Ён умеў гаварыць душою, вачыма, маўчаннем. Рэдкай здольнасці педагог, мысліцель.

Хацеў напісаць пра мой пісьменніцкі вопыт, пра мой унёсак у літаратурны вулей. І план ужо склаў. Але не паспеў. На ўзлёце надламалася крыло...

Божа мой! Я быў у яго кватэры ПАСЛЯ. Гаспадары – на пагосце. Мы з пляменніцай Жанай ходзім па маўклівых пакоях. Цішыня ціснe на сэрца. Самотна. Адзінотна. Кнігі сіратліва пазіраюць з шафаў. На рабочым стале пісьменніка Юрыя Гусева – рукапісныя старонкі пра маю аповесць “Мама. Малітва сына”.

Хочацца рыдаць.

Навошта, смертухна, косіш рэдкіх, рэдкасных?

Яны ж і так дужа рэдка аб’яўляюцца ў белым свеце...

* * *

Не паверыце, дзённік пішу залатым пяром. Ручкай PARKER. І спецчарніламі. Толькі не ведаю, ці залатыя радкі адліваюцца? Ці захоча іх хто-небудзь прачытаць, ці крануць некага мае ноты?

Адно хачу папрасіць у чытача: ведай, мой харошы, пішу не залатым пяром, а душою. І сёння яна нагадала словы Івана Тургенева: “Шчасце – яно, як здароўе, калі пра яго не гавораць, значыць, яно ёсць”.

Я не кажу, што я з залатым пяром шчаслівы і акрылены. Яно, пяро, – звычайны меч, якім ваюю з думкамі ды шукаю словы, якія б звонка вылятaлі з-пад “капытаў” залатога пяра.

Мудры мой рускі кумір Віктар Астаф’еў неяк заўважыў: “У літаратуры жыццё для сябе роўнае смерці”.

Дзённік пішу не зусім для сябе.

* * *

Як бы ні свяцілі месяц і зоркі, а ў ночы ўсё-ткі сумныя вочы.

Такія ж вочы ёсць і ў людзей. Дык мо таму такія сумныя, што бачаць адну чарнату?

А Біблія вучыць зусім іншаму: мы – сыны Дня, а не сыны Ночы.

* * *

Кажуць, трэба мець даступную для старасці мэту.

Вось жа і я “намэціў” для сябе:

– напісаць кнігу казак пра хлопчыка Цімоха Охаоха, у якога не было мабільніка;

– прачытаць усе непрачытаныя кнігі ў маёй дамашняй бібліятэцы;

– падмагчы Ніне, каб не хварэла і весялей пазірала на свежы дзень, падараваны Богам;

– каб раслі, як булкі на дражджах, вясёлкаўскія тыражы і рахунак;

– каб басейн Дома афіцэраў прымаў мяне, калі пажадаю;

– дачакацца надрукавання і прызнання раманаў “Цар” і “Цялец”;

– каб карасі часцей чапляліся на кручок маёй вуды, а калі злаўлю залатую рыбку, папрашу, каб дзеці не гублялі памяць;

– хачу з радасцю сустракаць узыход сонца, з надзеяй пазіраць на яго захад;

– не хачу, каб маё “голле”гнулася, куды вецер вее;

– хачу, каб кожны дзень зямнога раю быў святам;

– хачу прасвятлення ў галовах ананімшчыкаў, плявузгалаў, плеткароў;

– хачу басанож хадзіць па расе;

– хачу замест галапупых пявуноў слухаць спевакоў майго дзяцінства – салаўя, зязюлю, куліка, дзеркача, жаваранка, жабку...;

– хачу смяяцца да слёз і плакаць ад радасці;

– хачу, каб унукі падарылі праўнукаў;

– хачу быць багатым без грошай;

– хачу, каб старыя сябры не пакінулі, каб новыя знайшліся;

– хачу, каб мае вараныя пачулі маю мальбу: “Чуть помедленнее, кони, чуть помедленнее! Умоляю вас вскачь не лететь!..”

– каб заўсёды было каму пачуць, паслухаць маю душу;

– хачу, хачу, хачу...

* * *

Дзікі голуб – на дроце электралініі. Шызы, статны. Не тое, што гарадскія таўсцялі.

Сядзіць на вышыні. На тонкім дроце. І чысціць пёркі!

Шыю прыхарошыў. Пад крылом пацерабіў. Страсянуў з сябе ці то пыл, ці то стому. Азірнуўся наўкол. Вывухкнуў пару разікаў. Узмахнуў крыламі і паляцеў, куды захацеў.

Як жа я зайздросціў сёння дзікаму, вольнаму голубу!

* * *

Быў на сваце кнігі пра аднаго крыміналіста.

Вядомы. Раскручаны. Прызнаны. Сабраў сабе падобных. У кожнага свае пагоны, зоркі, свой лёс.

Мужныя. Важныя. Гаваркія. Даверлівыя. Сёння ў расслабоне.

Што мяне трывожыла ўвесь вечар? У кожнага за плячыма – сотні чалавечых лёсаў. Адных яны здалі за краты, другіх падвялі да вышкі, трэціх – апраўдалі. Якімі ж праўдзівымі павінны быць тыя, хто судзіць! Іх мусяць суправаджаць усю дарогу пані Профі, пан Сышчык ды графіня Удача. А без іх можна напартачыць, наламаць дроў у частым лесе.

Запомніў прызнанне генерала:

–У абойму крыміналістаў працiскаліся себялюбцы, пустамолы, аматары ўзнагарод, званняў. Такіх сплаўлялі за борт. А яны ўсплывалі...

Каб жа ведаць, дзе яны цяпер муцяць чыстую ваду?

* * *

Чыноўнік сярэдняга крэсла пахваліўся:

– Я сёння на метро праехаў. Дык жа там людзей багата!..

Убачыў людзей, нябога. Служыць ім, а не бачыць іх. Жах!

Дужа даўно адна настаўніца пажартавала пры мне:

– Люблю школу, у якой няма дзяцей...

Тады мы пасмяяліся.

Цяпер мне вельмі мытарна ад чыноўніка і настаўніцы, якія так далёка ад людзей.

Жыві, Чалавек, ды спадзявайся толькі на самога сябе.

Да гэтага заклікаю ўсіх.

Так жыву сам.

* * *

Люблю перачытваць апавяданне Змітрака Бядулі "Злодзей".

Сюжэт нібыта просценькі.

Кастусёва жонка зжала загон жыта, склала ў бабкі. Жыта ў снапах начуе ў полі.

Кастусю не спіцца. А раптам які сусед пажывіцца гатовенькім ураджаем. Ён устае з ложка, ідзе лавіць злодзея.

Свеціць месяц. Ясна. Бачна ўсё. Кастусь у засадзе. Не дрэмле.

І насамрэч ідзе злодзей. Падступаецца да "бабкі". Абхоплівае яе ляйчынай. Крактануў і снапы ў яго за плячыма. А тут з хованкі выходзіць гаспадар. Паміж імі пачынаецца вельмі ж мудрая гаворка. Гэта вялікая знаходка пісьменніка:

"– Ну, дык ты будзеш болей красці?

Ліканор маўчаў. Выглядаў вялізарнай гнілой бручкай.

– Ліканор!

– Гэ-э-э!

– Не будзеш красці? Абяцаеш мне?

– Не! – ціха адказаў Ліканор.

– Што "не"? – Кастусь пытае.

– Не... Не абяцаю, – буркнуў пад нос Ліканор.

Кастусь не вытрымаў, зарагатаў ад гэтай Ліканоравай шчырасці.

– Дык, значыць, будзеш красці?

– М-мгу! – заківаў Ліканор.

– А што будзе, калі я другі раз злаўлю цябе?

– А, братачка, не зловіш, як бы то... Буду асцярожна красці.

– Ну то нясі! – сказаў Кастусь. І падумаў: "Які ён акуратны, не фальшывы чалавек!"

Трэба помніць, што ўвесь гэты дыялог злодзей трымаў за плячыма бабку снапоў, ажно дзевяць штук. Відаць, узмакрэў, але трымаў украдзенае. Ды пры гэтым заставаўся "не фальшывы чалавек!"

Як бы нам усім навучыцца не фальшыва жыць!

* * *

Мая даўняя звычка – нешта цікавае выразаць з перыёдыкі. Так у маіх архівах сабраўся інтэрнэт выразак.

Сёння выпадкова "лайкнуў" на ліст Габрыэля Гарсія Маркеса. Слынны калумбійскі пісьменнік, аўтар раманаў "Сто гадоў адзіноты", "Восень патрыярха", калі захварэў на рак, разаслаў сябрам свае пажаданні. Як бы хацеў перадаць ім у спадчыну свае самыя дарагія рэцэпты жыцця. Бярыце. Карыстайцеся і будзьце бадзёрымі сярод жывых. Што б рабіў жыццялюб Маркес, каб Госпад падараваў яму яшчэ нейкі час у зямным раі?

Спаў бы мала, сніў бы больш, ведаючы, што ў кожнай хвіліне з заплюшчанымі вачыма мы страчваем 60 імгненняў святла...

Ішоў бы, калі іншыя спыняюцца, абуджаўся б, калі іншыя спяць...

Пераконваў бы людзей, што закахацца на старасці не ёсць памылковая думка. Бо людзі не ведаюць, што старэюць менавіта тады, калі цураюцца кахання.

Старым людзям сказаў бы, што смерць прыходзіць не са старасцю, але з забыццём і пакінутасцю.

Усе хочуць жыць на вышынях, забываючы, што сапраўднае шчасце ў самім узыходжанні...

Кажы заўсёды тое, што адчуваеш, і рабі, як думаеш.

Калі б ведаў, што сёння я апошні раз бачу цябе, дружа, моцна абняў бы цябе, нават заснулага, і маліўся да Госпада, каб дазволіў мне быць тваім анёлам-ахоўнікам...

Раніца не гарантавана нікому – ні старому, ні маладому. Магчыма, што сёння ты апошні раз глядзіш на тых каго любіў...”

Іду да паліцы кніжак, бяру “Восень патрыярха” і прашу выбачэння ў Габрыэля Гарсія Маркеса, што не прачытаў яго раман. Вінюся перад перакладчыкам Карласам Шэрманам, які падпісаў мне гэтую кнігу яшчэ ў студзені 1980 года: “Другу майму Уладзіміру Ліпскаму – з удзячнасцю за цёплыя сустрэчы на скрыжаваннях чалавечай дабрыні”.

Эх ты, друг Ліпскі, чаму ж адразу не праглынуў дараванае чытво? Госпад, даруй і памілуй! Перадай тваім небажыхарам, аўтару, перакладчыку, што з сённяшняй, чэрвеньскай ночы я з аловачкам, няспешна, пачынаю чытаць класічную кнігу.

* * *

Гулялі юбілей Валерыя Анісенкі ў філармоніі. Ён – усхваляваны, узрушаны. На буйную лысіну па-здрадніцку выступае пот. Артыст як бы няўзнак змахвае яго. Эмоцыі зашкальваюць.

Ён паказвае ўрывак з “Дырыжора”. Чытае любімыя вершы. Спявае душэўныя песні.

Быў увесь то ў чорным уборы, і вылучаўся толькі серабрысты, пульхнаты загрывак ды яго іскрыстыя вочы, а то ўвесь у белым, і выглядаў прывабным лунем.

На сцэне – выбітная асоба, “штучны тавар”, сын Беларусі.

А ў зале – сябры, калегі, аднадумцы – артысты, мастакі, пісьменнікі, землякі юбіляра. Мы з Міколам Супрановічам, дырэктарам выдавецтва “Адукацыя і выхаванне”, адчуваем сябе на ганаровых прыступках. Мы зрабілі кнігу пра неўтаймоўнага Анісенку ў серыі “Асобы”. Яна грэе нашы душы.

Але чаму ў гэтай зале няма міністра культуры? Чым жа ён важным заняты, чаму не завітаў павіншаваць Чалавека Культуры? Хіба такімі, як дзьмухаўцамі, засеяна ўся Беларусь?

Не, мілы міністр, такія, як Анісенка, унікумы ў нашай нацыі. Ён вырас у шматдзетнай сям’і, у мамы-сіраты, але ж дасягнуў высокіх зорак як артыст, рэжысёр, кіраўнік тэатраў, чытальнік, спявак, аўтар унікальных дзённікаў. А вы, міністр і вашы намеснікі, не адолелі шлях ад сваіх крэслаў да філармоніі – адлегласць у два кіламетры. Сорам, ганьба, крыўда ўскалыхваюць маё сэрца.

Ведай, чыноўніцтва, пакуль не павернемся да інтэлігенцыі, да шчырай духоўнасці, мы не станем паважанымі, прызнанымі ў свеце.

Вельмі ж усцешна напісаў некалі Рыгор Барадулін свайму сябру Валерыю Анісенку:

Крыўды забярэ зямля сырая,
Напамін прыцішыцца ў журбе.
Родны край ніхто не выбірае.
Выбірае родны край цябе.

* * *

Пад кукаванне зязюлі лаўлю карасёў.

На барвовым небе заходзіць сонца.

Кідаю каля лапушыння кручок з пацеркай разамлелага батона. Праз якую хвіліну ўздымаю ўгору цікаўнага карася. Золатам зіхаціць. Вітаецца са мною вёрткім хвастом. Радасны, бытта толькі і марыў, каб убачыць захад і Ліпскага з вудаю.

Цёплым надвячоркам кукуе бяздомніца. Ці то пералічвае гнёзды, у якіх пакінула свае яйкі? Ці то шукае сабе пару? Ці то проста лічыць свае леты ды заадно раскідвае карты над гадамі сваіх слухачоў?

Не адкладваю ў памяці тваіх, зязюлька, "ку-ку". Няма часу на глупствы. Не зводжу вока з паплаўка. Чакаю цуда.

О, паплавок нырнуў.

Матулька родная, на маё рыбацкае спатканне выцягваю карася, як парася.

А ты, зязюля, шукай сваёй удачы!

* * *

Каля дачнай сажалкі расце клёнік. Нехта прынёс яго з лесу. Пасадзіў на беразе.

Цікаўны клёнік удаўся. З кожным годам усё вышэй і вышэй уздымаецца. Яму хочацца бачыць, як за шчыльным драўляным плотам пісьменнік косіць траву. Відаць, зайздросціць яблыньцы, якую гаспадар палівае, беліць, ратуе ад шкоднікаў.

"Эх, мне б пасябраваць з садовай прынцэсай!" – уздыхае клёнік ды ціха пашэптвае лісцем.

Гэтым годам на клёніку выраслі пучкі самалёцікаў. Трымаюцца на тоненькіх галінках-шнурочках. Усяродку – зялёнае, раскрытае сэрцайка. А па баках – зялёна-барвовыя крыльцы. Як у матыля, стракозы, жука, сініцы. Іх няньчаць усе лісты і галіны дрэўца.

Надыдзе час выраю, і кляновыя самалёцікі ўзнімуцца ветрыкам і паляцяць на спатканне з яблынькай. Прызямляцца на дачных агародах, на суседніх нівах, узлесках.

Як жа ўсё складна і ў прыродзе, і ў народзе

Генныя самалёцікі прадоўжаць жыццё на зямлі. Ім слава!

Адзін самалёцік застаецца на маім пісьмовым стале. Як напамін пра сустрэчу з клёнікам. Як успамін пра адзін летні дзень на Лысай Гары.

* * *

Чалавек нараджаецца без мінулага і без будучага. Гарыць і гарыць яго жывая свечка ў днях сённяшніх. Чалавек нават забывае, што яго свечка згарае. І толькі творца ведае, колькі будзе трапятацца агеньчык.

Каб чалавек займеў мінулае, трэба захацець ажывіць памяць. Яна ў родзічах, якія пры памяці. Толькі не праспаць бы з роспытам, бо давядзецца лезці ў архівы, царкоўныя запісы, старадрукі, летапісы. Лянота можа давесці да бядоты. Да бяспамяцтва.

А будучае мусім зарабіць. Цяжкі гэта занятак. Потны. Падобны да руплівай пчолкі. Ад святла і да цямна збірай, чалавек, нектар у соты-дні. Чым большы набытак салодкага, гаючага, каштоўнага, тым даўжэйшая памяць пра цябе ў будучым.

Пра Мінулае і Будучае думаў Сённяшнім днём, 11 чэрвеня. Ён пачаўся ў 4.39, завяршыўся ў 21.40 (па календары, а для мяне – у 24.00). Дзень напоўнены трапяткім жаданнем усё зрабіць, усюды паспець. Пабываў нават у Нацыянальным гістарычным архіве. Смакаваў дакументы 1862 года, увекавечаныя валасным пісарам Лышчом...

* * *

За вакном, як за бартом, – плюс трыццаць чатыры. Афрыка!

Такой спякоты, кажуць, не было.

Зямля смягне.

Расліны вянуць.

Людзі млеюць.

Гэта – катастрофа.

І я пачынаю думаць, што жыццё Чалавека на касмічным шарыку – адвечная катастрофа.

Калі б хто вёў бортжурнал планеты па незвычайных з'явах, то гэта была б самая таўшчэзная кніга.

Страшная.

Жудасная.

Крывавая...

У 1883 годзе закрактаў вулкан Кракатау ў Інданезіі. На вышыню 813 кіламетраў узняў вулканічны попел. Ён накрыў плошчу ў 800 тысяч квадратных кіламетраў. Марская хваля ўзнялася на дваццаць метраў. Пісалі: "Сонца свяціла, як месяц, без промняў, як бы губляла сілы..."

А праз сто гадоў, на другім канцы планеты рвануў мірны атам. Ядзерны рэактар на Чарнобыльскай АЭС адрыгнуў такі "гасцінец", што яго хопіць беларусам, украінцам, рускім на стагоддзі. У Беларусі забрудзіліся цэзіем 46,5 тысяч квадратных кіламетраў Божай зямелькі. Больш за два мільёны жыхароў атрымалі званне перасяленцы, чарнобыльцы. І гэта ў той час, калі беларусы яшчэ не да канца залячылі раны Сусветнай вайны, не збудавалі кожнаму трэцяму загінуламу помнікі, не высахлі слёзы ўдоў, мацярок.

Катастрофы, вялікія і малыя, пранізваюць усе вякі: войны, рэпрэсіі, неўраджаі, голад, пажары, эпідэміі, аварыі...

Катастрофы, трагедыі, раны ў межах краіны, горада, вёскі, сям'і...

Яны ў кожным нашым "Я": сваркі-звадкі, п'янь, хваробы, бясплоддзе, галыцьба, сытасць...

Так, празмерная сытасць, абжорства грашыма, усёдазволенасць кароткім шляхам вядуць да асабістай трагедыі: наручнікаў, турмы, няволі, ломкі лёсаў...

Нешта мяне сёння занесла да чарнаты. Трэба выплываць да святла, усмешкі, аптымізму, якія і ёсць лёгкія маёй душы.

Хай аўцюкоўскі жарт стане добрай кропкай у маім цяжкім роздуме.

Паспрачаўся аўцюк з жонкай і аб'явіў ёй:

– Раз так, калінка, пайду дый павешуся.

Падышоў да рэчкі Закаванкі. Зрабіў з вяроўчыны пятлю. Закінуў яе на галіну. Гайдануўся. Галіна абламалася.

Упаў аўцюк у рэчку.

Выплыў на бераг і сам сябе суцяшае:

– От, ё-маё!.. Праз гэта дурное павешанне дак ледзь не ўтапіўся!..

Валянцін Акудовіч



…я думаю Бога,
але жыву – чалавека…

# Мы сустрэліся на будоўлі Вавілонскай вежы

***З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"***

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-105.*

* * *

Неяк **Адам Глобус** (Уладзімір Адамчык) публічна заўважыў, што кожны божы дзень мусіць напісаць літаратурную показку ці намаляваць невялікую карціну.

Ахвоці мне! Гэта значыць за год здзейсніць 365 творчых актаў. Як такое можа быць?

Можа, – запэўню недаверкаў. Ужо шмат (шмат!) год я назіраю за бясконцай плынню яго творчага "послушания" і таму сведчу: ён не хлусіць. Алесь Анціпенка абсалютна слушна назваў яго хранікёрам штодзённасці. Аднак паколькі ў нашым вербальным кантэксце азначэнне "хранікёр" стасуецца хутчэй са зніжанай лексікай, то я дадам трохі пафасу: "Унікальны хранікёр штодзённасці". А вяртаючыся да ўласнага слоўніка, без сумневу ўлучаю яго ў шэраг беларускіх волатаў.

Адам Глобус – мастак, паэт, празаік, эсэіст, інтэлектуал, бізнесовец, выкладчык Беларускага калегіюма, стваральнік персанальнай літарацкай прэміі "Залатая літара" (таксама меў гонар яе атрымаць), уласнай школы маладога літаратара... Да таго ж у яго была заўважная роля ў фармаванні "Новай літаратурнай сітуацыі" (так я назваў гэтую сітуацыю ў цыкле лекцый для "Беларускага калегіюма").

Сёння ўжо нават немагчыма ўявіць сабе, што беларуская літаратура на той час (канец 80-х – пачатак 90-х), лічы, не мела гарадской прозы, паэзіі... – ды чаго яна толькі не мела?! У вялікіх гарадах яна па-ранейшаму заставалася вясковай літаратурай, што праўда, багатай і разнастайнай. Але актыўная урбанізацыя рашуча запатрабавала іншага кшталту. Найперш новых слоўнікаў, новых формаў, скрытых раней тэмаў і праблемаў. Сярод разнастайных адсутнасцяў я запынюся толькі на бруталізацыі і сексуалізацыі літаратуры, бо роля Адама Глобуса тут выключная. Акрамя ўсяго іншага, на гэты тэмат ён напісаў дзве кнігі мастацкай прозы ("Дамавікамерон"), дзе аголеная да апошняга сексуальнасць бясконца рухала схопленыя жарсцю целы. І ўсё гэтае нашэсце бессаромнасці было падмацаванае адпаведнымі малюнкамі Глобуса-мастка.

Для прынцыпова цнатлівай вясковай літаратуры гэта было неверагодным узрушэннем. Рэвалюцыяй!

Прамінулі гады. У эпоху панавання парнагрфіі, калі вітрынным сексам ужо нікога не агаломшыш, я вяртаюся да свайго даўняга эсэ "Наўзбоч Дамавікамерона", каб перачытаць наноў тое, што ў тыя яшчэ цнатлівыя гады было заслоненае ад чытача ятрай плоці.

* * *

"Самая вялікая каштоўнасць, якая ёсць у чалавеку, – гэта тая жывёліна, што жыве ў ім...

Прынамсі, яшчэ жыве.

Раней гэтая жывёліна займала амаль напоўніцу ўсяго чалавека, але тысячагоддзі цывілізацыйнага ўнармавання неўпрыкмет адсунулі яе ў самы ягоны под, загналі ў сутарэнні чэрава і краёвую плоць. Яшчэ трохі, і ёй не застанецца месца і там, у рэзервацыі краеня.

Як ужо толькі казалася, калісьці гэтай жывёліны ў чалавеку было шмат, а чалавека зусім мала. Маленькаму чалавеку было няўтульна ў вялікім целе жывёлы, і яму тады вельмі хацелася чалавечага, як мага болей чалавечага...

Спакваля чалавек атрымаў тое, аб чым мроіў, але за жаданым не заўважыў, што разам з тым ён страціў. А страціў ён тую магутную жывёліну, якая несла яго скрозь тысячагоддзі небыцця ва ўсё новае быццё.

Хто панясе чалавека далей ужо скрозь іншыя тысячагоддзі? Тое распешчанае выгодамі цывілізацыі зверанятка, што яшчэ неяк знаходзіць сабе месца ў чалавеку? Але калі не яно, дык і нішто іншае. Вось чаму нават гэтае анемічнае зверанё цяпер пачынае выяўляцца для чалавека большай каштоўнасцю, чым усё ўласна чалавечае, усё створанае гэтымі гамерамі, рэмбрантамі, бетховенамі, эдысонамі, джойсамі...

Я не ведаю, чаму не пра што яшчэ, а менавіта пра жывёльнасць чалавека як пра абсалютную для яго каштоўнасць падумалася мне, калі я прагарнуў апошнюю старонку "Дамавікамерона" і выйшаў на гаўбец, каб пацешыцца з вялізнай калматай хмары, якую пярун гнаў у бок майго жытла.

Пэўна, Адам Глобус, складаючы свае брутальныя навэлкі, меў на мэце што заўгодна, толькі не апалагетыку "скаціны", і тым не менш я, трохі адсланіўшыся ад тэкстаў, думаў не пра тое *нізкае*, што татальна апанавала прастору двух "Дамавікамеронаў", а, наадварот, пра нешта *высокае*, пра нешта значна вышэйшае і за Платонавы вяршны эйдас эйдасаў – Дабро, і за Плоцінава ўсюдыіснае

Адзінае, і за Хрыстовую неабсяжную Любоў, – і гэтае нешта, больш высокае за ўсё вышыннае, месцілася не дзесьці наверсе ўсяго існага, не ў нейкай абсалютнай чысціні ды цноце ідэальнага, а ў самым подзе, хавалася за брудам, гноем, смуродам, быццам бы нават правакуючы сітуацыю табу, як самую надзейную хованку для найбольш каштоўнага скарба чалавека...

Гэтае "нешта больш высокае за ўсё вышыннае" розныя людзі называлі па-рознаму: Шапэнгаўэр – воляй да жыцця, Ніцшэ – воляй да панавання, Фрэйд – лібіда, Гайдэгер – воляй да волі, Дэлёз і Гватары – машынай жаданняў... Але як бы хто ні называў тое, што ляжыць у аснове жывога жыцця і ўвесь час рухае яго, найлепей выяўляе сутнасць гэтага руху мужчына, які гвалціць жанчыну. Менавіта гвалціць – не просіць яе, не ўлашчвае, а бярэ сам; бярэ жорстка, бязлітасна, магчыма, нават без асаблівай асалоды, а толькі таму, што так трэба.

Вось пра гэтае "так трэба" я і думаў, углядаючыся ў расцярэбленую сечкамі бліскавіцаў хмару і разважаючы, што хаця кожная са ста дваццаці дзвюх навэлаў падвоенага "Дамавікамерона" мае свайго "персанальнага" героя, але па сутнасці герой тут адзін: гэта выпэцканая ў сперме і экскрэментах магутная жывёліна з цягліцаў ды хэнцi, якая бязлітасна, жорстка і, калі заўгодна, абыякава сто дваццаць два разы гвалціць адну і тую самую жанчыну (нават калі паводле сюжэта і не гвалціць, і не жанчыну...) толькі таму, што так трэба, што гэтага перманентнага гвалту патрабуе нешта больш значнае ды магутнае і за Дабро Платона, і за Любоў Хрыста...

Чалавек – гэта перадусім дадатак да свайго чэлеса.

Чэлес (у стане эрэкцыі) – тая дамінанта, якая вызначае каардынаты ўласна чалавека і арганізуе яго ў пэўную падзею быцця.

Пра сваю ролю як дадатку да чэлеса чалавек даведаўся даўно, аднак гэтае веданне яму настолькі было не даспадобы, што ён яго не толькі затабуяваў, але на гэтае табу яшчэ панаскідаў безліч адмысловых міфаў і самых розных прыгожых словаў (кшталту "эрас", "любоў", "каханне"...) ды іншых вытанчаных прыдумак, каб толькі ніхто і ніколі не даведаўся праўды. А калі ў гэтым цвілым рыззі і спарахнелым ламаччы нехта наважваўся поркацца, каб пацікавіцца, што там спадыходу, дык адразу ўсчыняўся несусветны гвалт: не руш святыні!

І так было пакуль не знайшоўся чалавек, абыякавы да лямату. Звалі таго чалавека Зігмунд Фрэйд. «Гэтыя любоўныя інстынкты называюцца ў псіхааналізе a potiori і па сутнасці з'яўляюцца сексуальнымі памкненнямі. Большая частка інтэлігенцыі ўспрыняла такое мяно як абразу і адплаціла за гэта тым, што папракнула псіхааналіз у пансексуалізме. Хто лічыць, што сексуальнасць утрымлівае ў сабе нешта брыдкае і прыніжаючае чалавечую прыроду, хай ужывае больш шляхетныя назовы: эрас і эротыка.

Я мог бы сам гэта зрабіць ад самага пачатку і тады пазбег бы шматлікіх абвінавачванняў. Аднак я не хацеў гэтага, бо па магчымасці ўнікаў патурання ўласнай слабасці. Нельга наперад ведаць, куды завядзе гэты шлях: спярша саступаюць у адносінах словаў, а затым паступова і стасоўна сутнасці. Я не бачу якой-кольвек заслугі ў тым, каб саромецца сексуальнасці: грэцкае слова "эрас", якое павінна змякчыць сорам, у рэшце рэшт нішто іншае, як пераклад слова "каханне"; і напрыканцы, "хто мае цярпенне чакаць, таму няма патрэбы ўлагоджваць".

Магчыма, некаму падасца, што гэтая вялікая цытата тут не зусім да месца, але мне яна вельмі патрэбная, і, пэўна, я нават не здолею скарыстацца ўсім яе патэнцыялам, каб больш выразна выказаць нешта для мяне істотнае ў гаворцы з нагоды "Дамавікамерона" Адама Глобуса.

Каб напісаць "Дамавікамерон", трэба не саромецца лямату і быць абыякавым да енку абражаных. Гэта па-першае. Па-другое, у абсалютнай бальшыні навэлаў

Глобус, гэтаксама як і Фрэйд, мог бы змякчыць нейкія словы, іншыя памяняць на больш *прыгожыя* ці абысціся эўфемізмамі, а лішнюю брутальнасць сітуацый загнаць у падтэкст, укласці ў шматзначныя паўзы, урэшце абмінуць, як абмінае «гэта» ўся беларуская літаратура спакон веку, і тады мы мелі б два зборнікі *звычайных* навэлаў. Але Адам Глобус не пайшоў аблудным шляхам, хаця пэўна ж зусім не таму, што ён, як і Фрэйд, прагнуў нічым не прыхарошанай ісціны (якая там *ісціна* ў літаратуры). Інтэнцыі да гранічнай сексуалізацыі *звычайных* навэлаў трэба шукаць у нечым іншым.

Адам Глобус увогуле па прыродзе свайго пісьма не эратычны (жаночы, цёплы, акварэльны, дыялагічны, пасіўны...), а сексуальны (мужчынскі, халодны, графічны, маналагічны, агрэсіўны...) пісьменнік. У "Дамавікамероне" гэта бачна найбольш выразна.

Мужчына эратычны настолькі, наколькі эротыка дапамагае яму здзейсніцца сексуальна. Толькі герой Адама Глобуса амаль не мае патрэбы ў эратычным, паколькі ён мужчына ў абсалютным значэнні. Эратычныя гульні ён пакідае сексуальным недамеркам, а сам здзяйсняе сваю хэнць адкрыта, адразу і напоўніцу, бо воля да жыцця і панавання не мае патрэбы хавацца і не можа чакаць. Як сведчанне гэтаму той факт, што пераважная большасць навэлаў "Дамавікамерона" арганізуецца голым сексуальным актам, нахабна вызваленым з-пад эратычнага покрыва таемнасці (так вызваляецца з-пад кажуха рухавік на дэманстратыўным стэндзе).

Вызначыўшы за сутнасць героя яго агрэсіўную сексуальнасць, Адам Глобус вярнуў у кантэкст беларускай літаратуры мужчыну (а, можа, дакладней было б сказаць, што ён стварыў прэцэдэнт мужчыны ў беларускай літаратуры, бо ці быў увогуле ў нашай вечна румзаючай паэзіі і прозе мужчына?). І гэта не істотна, у чым (кім) ён персаналізуецца: зданях, пачварах ці досыць прыстойных эстэтах ды інтэлектуалах. (У Глобуса нават "Смерць – мужчына".)

Але падобна, што гэтая падзея нас не надта ўсцешыла. За апошнія стагоддзі мы настолькі прызвычаіліся абыходзіцца без *мужчыны*, так налаўчыліся замяняць ягоную адсутнасць нейкім рамантычным сімулякрам, што гэты эгаістычна-жорсткі, прагматычна-бязлітасны, сексуальна-нахабны тып нас добра-такі напалохаў, бо мы калі і чакалі прышэсця на Беларусь *Мужчыны*, дык пэўна ж ён мроіўся нам зусім іншым. Беларускі мужчына мусіў быць большым прывідам за сам прывід, нечым накшталт ружовай аблачыны ў нагавіцах ад французскага куцюр'е, але з беларускім лэйблам на худым азадку.

А можа, мы "Дамавікамерон" не ад дзяцей хаваем, а ад саміх сябе, бо баімся даведацца, што не толькі смерць, а і жыццё – мужчына? І гэты мужчына-жыццё зусім не падобны на тыя здані і прывіды, сярод якіх нам так утульна было нэндзіцца жыццём і да якіх так соладка цяпер сыходзіць у невараць.

Пярун нарэшце прыгнаў хмару да майго гаўбца, але і тут, ужо ля самай зямлі, ён, не стамляючыся, раз-пораз успорваў яе цела бліскавіцамі маланак.

Пачыналася залева. Я зачыніў дзверы на гаўбец".

* * *

Невымерны наробак Адама Глобуса схоплівае сотні і сотні сучаснікаў ды с*у*часнікаў (адна з шматлікіх кніг так і называецца "С*у*часнікі"). Некалькі разоў і я патрапіў у кантэкст яго з'едлівых паказак. А паколькі мне ўжо пара развітвацца з Уладзімірам, то пажадалася заканцаваць нашае сумоўе хаця б яго фэйсбучнай рэфлексіяй, якую ён назваў –

## Акудовіч і палеміка

“Валянцін Акудовіч належыць да суполкі тых па-сапраўднаму шчаслівых мысляроў, для якіх існуе 30-га і 31-га лютага. Таму размовы пра нейкую там дакладнасць з ім лепей зусім не заводзіць. Спрачацца з мысляром Акудовічам таксама не варта, бо ў самы напружаны момант палемікі Валянцін ускіне твар да бясконцых зорных нябёсаў і шпурне ў цябе сваё сакраментальнае: “Мяне няма!” У размовах з мысляром Валянцінам лепей адразу пагадзіцца на два маналогі – твой і ягоны; а яшчэ лепш – прыняць дзве прамовы, і няхай абедзве прамовы скажа сам Валянцін Васільевіч Акудовіч”.

* * *

Раней я ні разу не пакарыстаўся завершанымі аўтабіяграфіямі маіх герояў з розных даведнікаў. А тут не вытрываў, бо гэтая біяграфія эўрыстычная і да таго ж з весялінкай.

**“Алесь АНЦІПЕНКА** (Ales Antsipenka or Ales Ancipienka) нарадзіўся ў 1953 годзе на Далёкім Усходзе Беларусі ў г. Слаўгарад Магілёўскай вобласьці.

Антыкамуністычнае выхаваньне атрымаў у сям’і. Веды набываў у Нацыянальнай бібліятэцы імя Леніна, бібліятэцы Акадэміі навук БССР і акадэміі Кіма Хадзеева, а адукацыю – у Інстытуце замежных моваў і асьпіратуры Інстытута філязофіі і права АН БССР. Кандыдат філязофіі.

Аўтар шэрагу навуковых і аналітычных артыкулаў, друкаваных у Беларусі, Аўстрыі, Ізраілі, Латвіі, Польшчы,Расеі, Славакіі, Францыі, Чэхіі, Швэцыі і ва Ўкраіне.

Стваральнік і суаўтар кніг “Мэдыі і камунікацыя”,“Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня”,“Невядомая Беларусь”, “Таталітарызм”.

За ўдзел у Маршы Свабоды сядзеў у беларускіх Лукішках на Акрэсьціна. Ганарыцца тым, што ня мае ўрадавых узнагародаў. Галоўнай задачай беларусаў лічыць умацаваньне ўсходняй і разбурэньне заходняй мяжы краіны.

Сябра Рады БАЖ, Рады Беларускага ПЭН-цэнтру, сузаснавальнік і сябра Рады Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў, сябра Валянціна Акудовіча, кіраўнік Беларускага калегіюму”.

А яшчэ Алесь марыў стварыць зборнік аўтанекралогаў вядомых беларусаў. Калі ўгаворваў каго на гэтую авантуру, дык тлумачыў: як ты памрэш, дык невядома хто будзе пісаць пра цябе некралог і што ён там панапіша? Таму лепей самому загадзя паруліцца.

Як сапраўдны філосаф, ён ніколі не забываўся на *momento mori*.

Неяк Алесь заўважна схуднеў, і калі ў яго пачалі пытацца, што здарылася, дык ён тлумачыў:

– Не хачу, каб сябры дужа стаміліся, калі будуць выносіць маю труну з хаты.

Ну і яшчэ адзін макабрычны сюжэт.

Выпадкова Алесь перастрэўся з Ўладзімірам Някляевым. Пагаварылі пра сёе-тое, а потым Алесь сумна кажа:

– Да Вас, Пракопавіч, шмат людзей збярэцца на пахаванне, і ў Акудовіча будуць людзі, а да мяне дык ніхто не прыйдзе.

– Чаму, – здзівіўся Някляеў?!

– Бо я вас усіх перажыву...

Пасля сціплай жменькі гэтых вясёлых показак нехта не абазнаны можа падумаць, што прэзентаваны тут філосаф нейкі ну зусім несур’ёзны. Запэўніваю: яшчэ як сур’ёзны! Нават калі б ён нічога болей не *зрабіў* акрамя Беларускага

калегіюма, з якім плённа ўпраўляўся больш як паўтара дзесяцігоддзі (да таго ж у варожым атачэнні), дык і гэтага было б даволі, каб застацца адметнай постаццю ў гісторыі нашага інтэлектуальнага рушэння...

Мы шмат чаго перарабілі з Алесем разам за некалькі дзесяцігоддзяў супольнай працы – лічыць не пералічыць. Таму згадаю хаця б адну, але надзвычай важкую падзею.

У другой палове 90-х як бы з нічога нам падумалася, што за вызвольны час філасофскіх і проста якасных інтэлектуальных тэкстаў рознымі аўтарамі напісалася столькі, што варта было б іх сабраць у адзін ёмісты збор.

– Тэкстаў насамрэч хапае, – паўтарыўся я. – Толькі дзе грошай знайсці на выданне?

Мы доўга слухалі ўласную моўчу, толькі нечакана вочы Алеся загарэліся, і ён рашуча запэўніў:

– Грошы знойдуцца. Пачынаем рыхтаваць тэксты.

І сапраўды, не адразу, але недзе праз год, грошы знайшліся. Нейкім спосабам Алесь пераканаў Васіля Лявонава (некалі першага сакратара абкама, потым палітвязня, а яшчэ пазней бізнесоўца), што без уласнай філасофіі Беларусь ніколі не зразумее самую сябе.

“Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня” пабачыла свет ў 2003 годзе. Яна мела 500 старонак і больш як трыццаць аўтараў.

Мы лашчылі ў руках кожны свой асобнік і Алесь, пасміхнуўшыся, сказаў:

– Ну, цяпер можна і паміраць.

Безумоўна, гэта была не абы-якая інтэлектуальная падзея. Хто мог раней падумаць, што праз дванаццаць год пасля паўставання незалежнай краіны ў нас будзе свая ёмістая філасофская анталогія?

Ніхто!

А далей я літаральна мушу распавесці яшчэ адну гісторыю пра Алеся, бо без яе ягоны жыццяпіс будзе банальна знявечаным.

Пражыўшы больш за палову стагоддзя ў горадзе, ён вырашыў, што болей ужо нікому нічым не абавязаны: ні жонцы, ні дарослым дзецям, ні дзяржаве – і выправіўся ў адлюдства, каб шукаць там уласную сцежку ў блакітныя сутарэнні Бога.

Карацей, дачакаўшыся *дзяржаўнай рэнты* (пенсіі), ён пакінуў горад і схаваўся ў сваім сціплым летнічку, мала прыстасаваным для жыцця ў халады.

Што праўда, з адлюдствам у яго нічога не атрымалася, бо жонка Міла, як тая руская дзекабрыстка, выправілася следам, а з ёй тры сабакі і кот.

Раней я часта да іх наведваўся, асабліва калі пачыналіся грыбы. Тады мог днямі не вылазіць з лесу, бо для мяне няма нічога больш эратычнага за грыбы. Хаця, калі казаць увогуле, дык хапала і самых розных іншых падзеяў дзеля сустрэч. Неяк разабралі старую печку, каб перакласці на цяплейшую, удвох склалі з таўшчэзных бярвенняў вялікую лазню (чым моцна ганарыліся, бо на дваіх тады мы ўжо мелі 120 год), ну і ўсялякае іншае...

Забыўшыся на цывільны свет, Алесь на адзіноце да астачы загруз у філасофіі Усходу. А пазней, праз французскую і англійскую мовы, пераклаў “Тао Тэ Чынг” Лао Цзы і будыйскія Кхагавісана суты.

Аднак самае галоўнае было не ў гэтым. Нарэшце менавіта тут ён змог напісаць *сваю* кнігу. Называецца яна “Прыпадобніўшыся да насарога”. Кніга моцная, вельмі моцная. І да таго ж напісаная не за акадэмічным сталом, а на скразняках быцця ў лядашчай хаціне. Што надае ёй прынцыпова іншы кшталт ад бальшыні філасофскіх кніг.

* * *

Тады мы з Максімам Жбанковым і Дар'яй Сітнікавай гасцявалі ў Алеся з Мілай, і Максім угаварыў нас паспрачацца міжсобку наконт Бога, а яны запішуць на дыктафон, апрацуюць і надрукуюць спрэчву ў часопісе “Партызан”.

Без асаблівай ахвоты, але мы пагадзіліся.

Познім ранкам атабарыліся на зялёным падворку. Было ціха, утульна і злёгку пахмельна. Я наперад прапанаваў трохі брутальную назву “Ці ёсць Бог на Марсе?” Чамусьці ніхто не спрачаўся... А персанальна ад сябе дадаю тут яшчэ падзагаловак:

## Палеміка з сябрам

***Алесь Анціпенка:*** ...У адрозненне ад цябе – філосафа Адсутнасці – я сябе лічу філосафам Прысутнасці. Маё стаўленне да Бога фармулюецца вельмі проста: Бог ёсць чыстая, адвечная і татальная прысутнасць, чыстае Быццё. І таму менавіта Ён (нікога і нічога больш поўнага за Яго няма) задае максімальна магчымую прысутнасць усяго, што існуе, саму магчымасць прысутнасці. І ў гэтым парадокс! Таму што нібыта, з другога боку, Бога няма, як некаторыя кажуць... І ў самім Евангеллі можна прачытаць, што Ён жыве ў святле невымоўным. То-бок, Яго немагчыма ўбачыць... Але гэтая скрайняя пазіцыя – Богам яна і задаецца – і ёсць той самай «канцавой», «апошняй» анталогіяй, якая робіць мажлівым усё. Нават існаванне Акудовіча.

***Валянцін Акудовіч:*** Калі мы зыходзім з хрысціянскай візіі Бога як таго, хто ўсё можа, тады Ён можа быць не толькі ў сваёй прысутнасці, але і ў сваёй адсутнасці. Перадусім гэта ёсць найбольшай унікальнасцю Бога, якой і пакладзена бездань паміж Ім і чалавекам. Таму мяне Бог мала цікавіць як прысутны (я і сам прысутны, хай сабе і праз «мяне няма»). Мяне Бог цікавіць (калі цікавіць) адно ў сваёй адсутнасці: Бог як адсутнасць Бога...

**А.А.**: Ці не ёсць гэта сур'ёзнай супярэчнасцю. «Бог як адсутнасць Бога»? Калі Бог ёсць, як ён можа быць тым, хто ўсё адмаўляе?

**В.А.**: Адсутнасць не ёсць адмаўленнем! У вядомым нам свеце Няма, Нішто, Адсутнасць складаюць абсалютна большую ягоную частку. І перад тым, як гэты свет стварыць, Бог, напэўна, таксама месціўся недзе ў Няма. Прынамсі ладная частка хрысціянскага свету *дагматычна* верыць, што Бог стварыў свет *ex nihil* – з нішто. І цалкам верагодна, што толькі там яго сапраўдная Айчына (так бы мовіць, гістарычная Бацькаўшчына). Прынамсі, каб я верыў у наяўнасць Бога, дык перадусім звязваў бы яго з дыскурсам Адсутнасці. Бо думаць пра Бога як толькі пра Бога дыскурсаў Ёсць – гэта выказваць Яму сур'ёзны недавер. Бог, які толькі Ёсць, – гэта няпоўны Бог. Болей за тое, гэта нават не палавінка Бога, а нейкая яго мізэрная частка.

**А.А.**: Адсутнасць – гэта насамрэч адсутнасць імя. Бог таксама забараняе – мы ведаем гэтую старазапаветную традыцыю – вымаўляць Ягонае імя. Бог кажа: адзінае, што пра Яго можна сказаць, – што Ён ёсць. Ён кажа: «Я есмь», – так? У гэтым сэнсе Бога сапраўды няма – як рэчы. Бога сапраўды няма як імя. Бога няма як асобы. У гэтым праблема: Бога няма як Іншага! То-бок істотна адрознага ад Яго. Вось ты і блытаеш Бога з рэчамі.

Фенаменальна, канешне, Бога няма. Бо Бог не ёсць фенаменальнай сутнасцю. Ён не ёсць сутнасцю ўвогуле, бо перадусім ён ёсць існаванне. У прынцыпе, выказванне пра Бога можна абмежаваць адным словам: «Ёсць!» Усе астатнія словы – гэта прэдыкаты. Гэта тое, што пачынае размываць Ягоную найвялікшую прысутнасць. Чаму паўстае такая парадаксальная сітуацыя? Я думаю, таму, што кожны з нас фактычна недапраяўлены для самога сябе. У пэўным сэнсе кожны з нас – нерэалізаваны праект. Недадуманы. Недажыты. І з усіх гэтых нашых

«неда-» – недадуманасці, недасканаласці, недажытасці – Бог робіцца для нас праблематычным. Бо Ён насамрэч ёсць поўніца і існаванне ў плюсквамперфектум. То-бок ён больш чым дасканалы, калі пад дасканаласцю мець на ўвазе ўсё тое, што мы можам сабе ўявіць.

**В.А.**: У якасці рэплікі нагадаю, што ў Жака Дэрыда ёсць вельмі сімпатычная кніжыца, перакладзеная на беларускую мову Змітром Коласам. Яна называецца «Акрамя імя». Гэта тое, пра што ты казаў: у Бога ёсць усё, акрамя імя. Але не называць імя Бога кажа не столькі традыцыя, колькі здаровы сэнс. Бо як даць імя таму, што ёсць усім, нават і тым, чаго няма?

**А.А.**: Я ўсё ж хачу паразважаць пра тое, чаму ты гэтак часта і настойліва кажаш «Няма» і «Нішто». І пры гэтым сёння агучыў абсалютна новую для сябе ідэю пра Бога як Адсутнае.

Маўляў, калі Ён усё можа («на ўсё здольны»), дык Ён з уласнай хэнці можа і не быць. Гэта цікава, але ў індуізме Няма, Нішто (тое, што называюць пустой свядомасцю) ёсць адной з фазаў спазнання Бога. Калі ёг становіцца на шлях набліжэння да Бога, ён мусіць разбурыць інтэнцыянальнасць сваёй свядомасці. Нашае мысленне – згодна з еўрапейскай традыцыяй – заўсёды інтэнцыянальнае, гэта значыць скіраванае на нейкі аб’ект. Дык вось, разбурэнне інтэнцыянальнасці ёсць адным з рухаў на шляху да Бога. І ў гэтай сітуацыі Бог падаецца як адсутны. Таму што нашая свядомасць робіцца татальна пустой. Гэта мае аналогію таксама і ў хрысціянстве. Калі Хрыстос кажа: «Пакінь маці і бацьку свайго і ідзі за мной», – Ён кажа: вызвалі месца ўнутры самога сябе, зрабі пустой сваю свядомасць, каб я ўвайшоў у яе. Я хачу сказаць, што ты, на маё разуменне, папросту перабольшваеш вагу пэўных станаў нашай свядомасці. І ў мяне да цябе пытанне. Вось мы казалі, што Ёсць як Бог не патрабуе ніякіх прэдыкатаў. А Няма таксама не патрабуе ніякіх прэдыкатаў? Тады чым адрозніваецца Няма ад Ёсць? І можа, тады Няма і ёсць Ёсць?

**В.А.**: Я разрозніваю Няма і Ёсць па адным надзвычай простым крытэры. Усё, што Ёсць, можа быць упісаным у нейкі фармат: фізічны, біялагічны, матэматычны, тапаграфічны, вербальны, інтэлектуальны... На скрайні выпадак – метафізічны. А Няма, Нішто мы не можам упісаць у хоць што, яны заўсёды застаюцца па-за формай. І для мяне ўсё больш выразна відавочніцца, што калі Бог ёсць, дык ён *ёсць* толькі ў Няма, як месцы а priori пазбаўленым нават самой магчымасці формы...

Дарэчы, а што рабіць Богу ў Ёсць? У Ёсць я не бачу месца Богу! Нідзе, ні ў чым! У тым сэнсе, што ўсё тое, што Ёсць, – гэтыя дрэвы, камяні, дамкі, пляшка піва, якую ты п’еш, і пляшка піва, якую п’ю я, – для мяне ніякім чынам не патрабуюць прысутнасці побач Бога, як і яго наяўнасці ўвогуле. Усё гэта цалкам вытлумачаецца матэрыяльнасцю свету і штодзённым бытнаваннем чалавека... Хіба адно акрамя кантыянскага імператыву маральнасці. Дый у гэтым выпадку, калі да станаўлення маральнасці Бог і мае нейкае дачыненне, дык хутчэй толькі праз сваё альтэр эга – Д’ябла.

А ўсё астатняе я магу прачытаць на звычайнай фізічнай мапе быцця, дзе Ён прысутнічае адно ў імёнах гарадоў і людзей. І толькі. Няма, Адсутнасць, Нішто вярэдзяць мне глузды: а можа, Ён *там*? Для мяне Няма – гэта адзінае алібі Бога, апошняя легітымацыя Ягонай магчымасці быць.

**А.А.**: А можна памеркаваць, што Адсутнае, Няма – гэта нейкая перадумова творчасці? І тады можна сказаць, што Бог творыць з Няма (з Нішто)?

**В.А.**: Якраз пра гэта і казаў Феафіл Анціахійскі ў палеміцы з Платонам: «Што вялікага, калі Бог стварыў свет з нарыхтаванай матэрыі? Майстар, як атрымае ад каго матэрыял, вырабляе з яго, што захоча. А магута Бога якраз і выяўляецца ў тым, што ён з нішто творыць, што захоча».

Але мяне ў сувязі з тварэннем з Нішто турбуе не сама праблема творчасці, а тое, што Яго падсунула да гэтага творчага акта? Інакш кажучы, найперш мне

вярэдзіць, што Ён рабіў, калі сядзеў у Няма і нічога не рабіў (у сэнсе тварэння Ёсць)? Затым – з чаго гэта Ён выскачыў з Няма, што той Пilіп з канапель (і за шэсць дзён наляпіў тут, як пяльменяў, і сонцаў, і зораў, а да іх яшчэ зямельку нашу і двух людзей у астачу)? А калі аднойчы выскачыў, дык чаму потым болей не выскокваў? І самае галоўнае: на якую халеру ўсё гэта Яму было патрэбна?

Праўда, некаторыя з апошніх маіх пытанняў як быццам лёгка здымаюцца, да прыкладу, пантэізмам (зрэшты, як і шмат якімі іншымі тэалагічнымі фэнтэзі). Але калі Спіноза кажа, што Бог ва ўсім, што Ён поўна разліты вось у гэтай травінцы, у той яблыньцы, насупраць нас, у пляшцы з недапітым півам, дык нешта ўва мне моцна пярэчыць. Бо які сэнс сядзець Богу ў цыгарэце, якую я цяпер палю (хаця я выразна ўсведамляю, што чалавек і не павінен разумець боскія задумы)?

Мне больш натуральна параўноўваць Бога з партызанам. Сядзеў сабе цішком у сутонні Няма, а потым вызірнуў адтуль, агледзеўся і хуценька ўчыніў самы знакаміты ў гісторыі Сусвету тэракт, які цяпер мы называем Вялікім выбухам, – а пасля зноў схаваўся ў сваю Адсутнасць. Таму што функцыянальна Бог як той, хто ўсё можа, потым нідзе і ні ў чым канцэптуальна не аб'яўляўся.

**А.А.**: Ты прызначаеш Богам той матэрыял, з якога ён насамрэч стварыў гэты свет. Я ж не адмаўляю Няма! Я проста даводжу табе, што гэта не Бог. Сутнасць – калі можна так казаць – Бога якраз у тым, што ён Ёсць. А Няма – тое, што дазваляе Богу выявіць сваю прысутнасць. Таму што калі б Няма не было, дык як бы Бог выявіў сваю прысутнасць? Я ў прынцыпе гатовы пагадзіцца, што Няма – гэта адзін з галоўных «герояў» гісторыі пра Бога. Таму што цяжка памысліць свет, цяжка памысліць час, калі мы адмаўляем Няма. Як мы тады можам зразумець час? Як зразумець гісторыю? То-бок ёсць гісторыя і ёсць адвечная пазіцыя Няма.

**В.А.**: У мяне яшчэ да нашай размовы прыдумалася жартаўлівае пытанне: «Ці ёсць Бог на Марсе?» Пры ўсёй жартаўлівасці запыту, ён сутнасны. Праз яго ў нашай гаворцы якраз і зручна перайсці ад першай – анталагічнай – часткі да другой, экзістэнцыйнай. Дык вось, пакуль не з'явіцца чалавек (дзе заўгодна), ці ёсць там Бог? А калі Бог усюды, дык што ён робіць на Марсе? Сядзіць у кратары і калупаецца ў носе? Ці што?

**А.А.**: Але без чалавека Бога няма *для чалавека*. Такая формула. І ў гэтым сэнсе хрысціянства прадэманстравала найвышэйшую каштоўнасць асобы. Дарэчы, адсюль зрабілася мажлівай і секулярная версія чалавека (еўрапейскі гуманізм). У гуманістычнай філасофіі Бог нібыта апынуўся лішнім... Цяпер да твайго пытання. Ці ёсць Бог на Марсе? Гэта нават не падлягае сур'ёзнаму абмеркаванню, бо адна з характарыстык Бога ва ўсіх рэлігіях – гэта ўсюдыіснасць. І гэтае глабальнае быццё Бога робіць абсалютна бессэнсоўным пытанне пра Ягонае месца. На Марсе, на Зямлі, у Смалявічах ці ў Мыцішчах. Бог аднолькава прысутнічае што ў Смалявічах, што на Марсе – гэта абсалютна не важна дзе.

**В.А.**: Добра, але ты мне скажы, што Бог робіць у Смалявічах? І хіба ў Смалявічах гэткія зломкі, што без Бога самі не абыдуцца? Інакш кажучы, патлумач: у чым табе бачыцца функцыя Бога сёння?

**А.А.**: Вельмі проста. У індуізме Бог мае тры функцыі. І гэта, я думаю, будзе табе бліжэй за хрысціянскага Бога. Першая функцыя – стварэнне, пра што ўвесь час кажа хрысціянства і робіць толькі на гэтым акцэнт. Другая функцыя – разбурэнне, бо Бог штогод, як мы бачым на свае вочы, разбурае гэты свет, прыроду. І ўвесну ўсё адраджаецца. І, нарэшце, трэцяя функцыя Бога – падтрымліваць гэты свет. Тое самае мы знойдзем у шматлікіх міфалогіях і нават у хрысціянстве, праўда, не гэтак акцэнтавана. Вось калі кажуць, напрыклад: «На ўсё воля божая», – гэта азначае, што Бог падтрымлівае гэты свет, што ён выяўляе сваю волю, каб нешта існавала. Каб нешта адбылося.

**В.А.**: Цікава, раней я лічыў, што вясна настае, калі сонейка высока ў нябёсы ўскараскаецца, а ты кажаш – з боскага шчыравання. Дык што, я нават у суседавым плоце гнілую штыкеціну не магу зламаць, калі Бог не дапаможа мне сваёй разбуральнай функцыяй?

**А.А.**: Дык я і кажу, што ў хрысціянстве гэта не дыферэнцыявана. Ты ўвесь час навязваеш Богу адну чалавечую праблему. Гэта праблема самоты, адзіноты і бессэнсоўнасці. Таму ты і пытаешся: «А што Бог робіць там, на Марсе?» Там жа сумна мусібыць? Людзей там няма, і піва няма. Дык што там Бог робіць без нас?

**В.А.**: Галоўнае тут – *без нас*!

**А.А.**: Бог падтрымлівае існаванне планеты Марс! Каб ты паглядзеў на неба, узрадаваўся і чарговы раз узгадаў Канта. Ты толькі ўдумайся на хвіліну, што Кант параўноўваў! Зорнае неба з мараллю. Анталогію з экзістэнцыяй. Чаму ён з аднолькавым піетэтам да ўсяго гэтага ставіўся? Таму што гэта і ёсць стыхійным абуджэннем рэлігійнага пачуцця. Вось і адказ. Што робіць Бог? Ён падтрымлівае гэтае неба.

**В.А.**: Раскажы пра гэта пінгвінам на Алясцы. Вось яны здзівяцца, бо ад веку лічылі, што і неба, і моры-акіяны, і ўсё астатняе існае трымаецца дзякуючы гравітацыі. А тут бач ты якая навіна.

**А.А.**: Бог ёсць творчая энергія. Хаця тут ёсць адна праблема: ці ўсведамляе сам сябе Бог? Калі Бог ёсць, яе можна разглядаць. А калі ты кажаш, што Бога няма...

**В.А.**: Я кажу цалкам іншае, а менавіта: калі Бог *ёсць*, дык найбольш верагодна, што цяпер Ён знаходзіць сябе ў дыскурсе Няма!

**А.А.**: Я не буду з табой спрачацца, таму што ты кажаш некаторыя рэчы, якія ёсць у рэлігійным досведзе. Бог можа «знікнуць» – ператварыцца ў Няма. Калі мы пачытаем тэксты вялікіх шукальнікаў Бога, святых айцоў, яны часам папросту ўпадалі ў наймацнейшую скруху, нават адчай. І гэта быў той стан, калі яны раптам усведамлялі, што Бога няма. Я сам стаў вернікам праз мантру «Бога няма». Я хадзіў тыднямі як ашалелы і казаў: «Бога няма». Пакуль Ён мне нарэшце не адкрыўся. То-бок «Бога няма» – адна з фундаментальных правакацый богашукальніцтва.

**В.А.**: Тут ты кажаш пра экзістэнцыйны вымер Бога, пра Бога як экзістэнцыйную праблему чалавека. А мяне гэта ўвогуле абыходзіць, бо мне цікава толькі анталагічнае: ці магчымы Бог як адсутнасць самога сябе?

**А.А.**: Мая задача – памерці перад тым, як Бог скажа: «Ты памёр!» У гэтым сэнсе я па-ранейшаму шукаю Бога, таму што хачу апярэдзіць уласную смерць. І Бог для мяне ёсць ключом да праблемы пераадолення смерці, праблемы адсутнасці.

**В.А.**: У мяне ёсць вядомая табе формула: «Бог – гэта аптымізацыя жаху небыцця». Уласна кажучы, экзістэнцыйна Бог для чалавека істотны не тым, што Ён раней зрабіў для людзей, а тым, што яшчэ зробіць, – дасць ім прытулак у вечнасці. Але ў вечнасці зусім іншы – *не чалавечы* – вымер. Чалавек створаны, каб цалкам, да апошняй рэшты, завяршыцца ў гэтым сваім жыцці... Дарэчы, калі чалавек адслоніць ад сябе ідэю Бога, дык, магчыма, гэтым радыкальна павялічыць значэнне свайго ўласнага жыцця. Бо чалавек побач з Богам – мізэрны чалавек. А мізэрны чалавек не можа ўзяць на сябе адказнасць за гэты свет. Дый навошта яму яе браць, калі ёсць Бог? Калі Ён стварыў гэты свет, дык хай сам за яго і адказвае.

**А.А.**: Мне падаецца, што цяпер у цябе выявілася нейкая негатыўная энергетыка, якая супярэчыць пачатку нашай размовы, калі ты гэтак спакойна і мудра даказваў, што Бог ёсць Няма...

**В.А.**: Гэта папросту канфлікт паміж інтэлектуальнымі развагамі, дзе можа быць усё – у тым ліку і Бог, – і фактам асабістага экзістэнцыйнага выбару. Вось ты думаеш Бога – і жывеш Бога. А я думаю Бога, але жыву – чалавека.

* Мадэратар гутаркі – Максім Жбанкоў.

Пазней Алесь, паводле ўласнай завядзёнкі, яшчэ і пасміхнуўся ў фэйсбуку з майго імператыву:

> Адзін філосаф сказаў:
> Мяне няма.
> Цяпер усе на яго
> Паказваюць пальцам.

* * *

Калі ў адмысловым гуморы згадваю **Уладзіміра Мацкевіча**, дык мне адразу прыпамінаюцца радкі Барыса Пастэрнака з паэмы пра Леніна: "Он был как выпад на рапире..."

Пра Уладзміра Мацкевіча я пачуў досыць позна, калі нашыя *адраджэнска-рэнесансныя* справы ўжо як гай шумелі. Аднойчы ў рэдакцыю "Культуры", дзе я рыхтаваў чарговы выпуск літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО", зазірнуў гарадзенец, паэт і выключна таленавіты мовазнаўца Юры Пацюпа.

– Пазнаёмцеся з цікавым чалавекам з Гародні, – кажа. – Уладзімірам Мацкевічам. Яго базавая філасафема "Думаць Беларусь". Запрашаў вас на свой семінар.

Філасафема мне спадабалася, але на семінар не пайшоў. Не люблю абы-куды цягацца. Як таму наканавана, дык яно само здарыцца. Плынь часу не толькі трупы ворагаў прыносіць, але і поўных мыслядзейнасці сяброў.

Так яно і сталася.

Уладзімір Мацкевіч прыехаў у Мінск з Масквы, дзе вучыўся ў закамітага Шчадравіцкага, чым па сёння ганарыцца ды хваліцца. І прыехаў не так сабе, а каб перайначыць усю *занядбаную* Беларусь на цывілізацыйны капыл.

Карацей, амбіцый у чалавека было з каптуром. Ён адразу закасаў рукавы ды ўхапіўся за справы. З той пары і па сёння не разгінае спіны. Таму няма нічога дзіўнага, што мне Мацкевіч аднойчы параўнаўся з Перыклам, які ўвесь свой інтэлект ахвяраваў на палітычны практыкум, каб боскімі праектамі ўславіць Афіны – на ўсе тысячагоддзі...

Вось чаму я аднойчы падумаў пра сябе ў ролі філосафа Анаксагора – бліжэйшага сябра Перыкла, – які не асабліва звяртаў увагу на палітыку і ўвогуле чалавечыя справы. (Плутарх згадвае, што ўрэшце рэшт Анаксагор паводле азарэння свайго вялікага духу адрынуў ад сябе ўласнае жытло і пакінуў не апрацаваную зямлю авечкам).

Зразумела, было б неразумна ставіцца да такіх упадабленняў сур'ёзна. Проста ўспомніў, каб пасміхнуцца.

Хаця і насамрэч разнастайны наробак Уладзіміра Мацкевіча не злічыць, таму, як і ў сюжэтах з папярэднімі героямі, згадаю адно сёе-тое.

Заснавальнік і кіраўнік "Агенцтва гуманітарных тэхналогій".

Удзельнічаў у стварэнні "Аб'яднанай грамадзянскай партыі".

Удзельнічаў у стварэнні "Хрысціянскай партыі".

Удзельнічаў у стварэнні "Хартыі 97".

Першы кіраўнік Рады міжнароднага кансорцыўма "ЕўраБеларусь".

На парламенцкіх выбарах 1995 года балатаваўся па адной акрузе з Зянонам Пазняком.

Стварыў часопіс "Культурная палітыка".

Аўтар шэрагу кніг, сярод якіх вылучу "Вопреки очевидности", "Вызывающее молчание", "Не думайте о рыжем и слепом утконосе"...

Заснаваў і стварыў "Лятучы ўніверсітэт".

Апошні праект лічу самым файным у яго біяграфіі і вельмі значным для Беларусі ўвогуле.

Раўнуючы з Беларускім калегіюмам, гэта, як на той час, быў выразна больш інавацыйны і фарматна больш разнастайны праект. Таму ўсе чакалі, што паміж намі ўзнікне жорсткая канкурэнцыя. Аднак нічога такога не здарылася. Болей за тое, хутка мы зрабіліся шмат у чым кампаньёнамі. Прыкладам, Уладзімір Мацкевіч чытаў лецыі ў Калегіюме, а шэраг нашых выкладчыкаў (і я ў тым ліку) ў Лятучым універсітэце.

Між іншым, для мяне гэтая адукацыйная ўстанова з крыламі зусім не тэарэтычная абстракцыя, а жывая плоць, з якой я быў задзіночаны яшчэ да таго, як хаўрус вакол Мацкевіча аформіўся ў праект з назвай польскага адукацыйнага супраціву – *Лятучы ўніверсітэт.*

А далей трохі пра хаўрус. Я не аднойчы чуў, што ў Мацкевіча моцная харызма, і кожны раз дзівіўся: якая там харызма? Мужык як мужык, актыўны, разумны, дзейны, з моцным рэфлексіўна-аналітычным мысленнем... Але пры чым тут харызма? І толькі калі бліжэй пазнаёміўся з дзяўчатамі і хлопцамі ягонай суполкі, дык зразумеў – ёсць харызма! У іх прасвятляліся вочы побач з ім, і адчувалася, што яны гатовыя агораць любую справу, на якую ён пакліча. І ці не найперш з “харызмы” лідэра так доўга трымаецца і плённа працуе ўся каманда?

Будзе залішне доўга пералічваць прозвішчы ўсіх таленавітых чальцоў гэтага задзіночання. Разам з тым я не магу не згадаць **Таццяну Вадалажскую**. Гэта яна адказвала за падрыхтоўку і разгортванне ўніверсітэцкай праграмы. А з 2011 года, калі “Лятучы ўніверсітэт” пачаў працаваць стала, Таццяна кіруе пастаянным універсітэцкім семінарам, праектнымі сесіямі, летнімі школамі ды розным іншым. Гэта яна прыдумала працягнуць нашую з Алесем Анціпенкам філасофскую анталогію і рэалізавала праект “Код прысутнасці. Анталогія беларускага мыслення 2000–2015”. Гэта яна ініцыявала і ўклалася напоўніцу, каб пабачыла свет унікальная кніга-альбом Міхала Анемпадзістава “Колер Беларусі”. Неверагодна дзейная і эўрыстычная фігура! Пэўна, таму яе часам называюць нефармальным рэктарам *крылатага* ўніверсітэта. А я сам-насам думаю, што гэта боскі дарунак Мацкевічу, без якога ён *лётаў бы значна ніжэй,* чым насамрэч атрымалася.

Да таго ж яшчэ я люблю ўніверсітэт за “Падворак”. Некалі ці не паўтузін невялікіх грамадскіх арганізацый прыдумалі супольна набыць у Мінску дом. Нашкраблі ў складчыну грошай і набылі. Само па сабе гэта ўжо было дзівам. Бо ніхто больш у Мінску на такое не спадобіўся. Нават незалежныя палітыкі...

Пры доме ёсць ціхамірны падворак, з усіх бакоў агароджаны плотам, высокімі яблынямі ды вішнямі. Днём у яснае надвор’е там хораша працуецца, а ў святы лагодным падвячоркам тут утульна баляваць. Таму ўсё гэтае месца разам з домам *афіцыйна* празвалі “Падворкам”.

Сярод мноства ідэй і праектаў, ужо рэалізаваных “Лятучым...”, я вылучаю ў першынстве “Тыдзень беларускага мыслення”.

Што і казаць, гэта была фенаменальная задума. Ці не ва ўсіх краінах нашага рэгіёна ёсць святы роднай мовы, нацыянальнай культуры, літаратуры і да т.п. Але я ні разу не чуў, каб хоць дзе спадобіліся адзначыць плён уласнага мыслення!

Беларускі калегіюм таксама браў чынны ўдзел у гэтай падзеі. Мы з Ірынай Дубянецкай сабралі вялізную бібліятэку айчынных філасофскіх кніг, часопісаў, зборнікаў, альманахаў і г. д., багацце якой моцна ўразіла публіку. Ва ўсіх абласных цэнтрах самыя адметныя інтэлектуалы прачыталі лекцыі з уласнай інтэрпрэтацыяй філасофскага феномена Ігната Абдзіраловіча. А ўсяго па краіне было зладжана больш за паўсотню круглых сталоў, семінараў, прэзентацый, сустрэчаў з адметнымі інтэлектуаламі ўпаасобку.

Выступаючы на прэзентацыі тыдня, я казаў: “Цягам некалькіх папярэдніх стагоддзяў пры ўсіх уладах беларуская думка мэтанакіравана ігнаравалася, здушалася ці заганялася ў фармат спеўнай жальбы.

Аднак пры першай гістарычнай магчымасці беларусы распачалі культурнае вызваленне стварэннем свайго інтэлектуальнага дыскурсу. Гэта выявілася ў другой палове 1980-х гадоў праз шматлікія філасофскія развагі ў самых розных выданнях, а ад пачатку 1990-х выбухнула вялікай колькасцю інтэлектуальных пэрыёдыкаў, часопісаў, зборнікаў, анталогій ды энцыклапедый.

Панарама беларускага мыслення "Cogito Albarutheniae" ("Мыслю Беларусь") дазваляе пабачыць і ацаніць гэты фантастычны феномен і запэўніцца, што Беларусь мае ўласную філасофскую будучыню".

**P.S.** Я вельмі шкадую, што на наступны год "Лятучы ўніверсітэт" не прыцягнуў у будучыню свой унікальны праект. Але мяне вельмі цешыць, што філасаф **Павал Баркоўскі**, паплечнік, а потым і жорсткі апанент Уладзіміра Мацкевіча, ужо два гады запар ладзіць усебеларускі фестываль інтэлектуальнай кнігі. Хай Кон дапаможа цягнуць яму гэтую ношку і надалей.

* * *

А наастачу яшчэ раз пра "*выпад на рапіры*". На днях Святлана Алексіевіч публічна выказалася, маўляў, у Беларусі няма філосафаў.

Уладзімір Мацкевіч не чакаў ані і тут жа адказаў набелянтцы на старонцы ў Фэйсбуку:

*"Быть, или не быть, вот в чём вопрос.*

*Как быть, так, или не так?*

*Таким, или другим, собой, или кем-то?*

*Быть, или казаться?*

*Самому решать, быть, или не быть, или ориентироваться на чьё-то мнение?*

*Спросить бы у Акудовича.*

*Акудович решил, что его нет, так как же у него спросишь?*

*У Алексиевич я не спрашивал, но она решила, что меня нет.*

*Акудович один, и я ему верю, он есть, и он великолепен, умён, глубок, талантлив.*

*Алексиевич тоже одна, других Нобелевских лауреатов у нас нет.*

*Пойти в народ, что ли, спросить?*

*Ну, народ, это те, кого много, у кого спрашивать?*

*Ходил, спрашивал. Многие отвечают, но невпопад, вопросом на вопрос: «А ты кто такой?»*

*Я то знаю, кто я, какой я, даже догадываюсь, зачем я. Но это не точно.*

*Я редко соглашаюсь с Акудовичем. Он философ. Талантливый, редкий в наших краях, эффективный учитель. Никто не возьмётся пересчитать его учеников.*

*Но его философию я не люблю. Такую философию я не люблю.*

*Акудовича люблю, а философию его нет.*

*Наверное, Акудович не любит мою философию. Про методологию он и вовсе не понимает.*

*Но он никогда не скажет, что моей философии нет. Может быть, скажет, что меня нет, но это уж такая у него философия.*

*А у меня другая.*

*Зачем стране две одинаковых философии?*

*Такое уже было. Было единственно верное учение, единственная правильная научная и прочее, и прочее, философия. Было введено единомыслие. Оказалось, что при введении единомыслия философия исчезает, не только единственно правильная, но и вообще.*

*Единомыслие – это немыслие.*

*В стране теперь, как минимум, две философии: Акудовича и моя.*

*Какая же из них правильная?*

*Не единственно правильная, а просто правильная, то есть, просто философия.*

*Пойдите в народ, пойдите и спросите!*

*И вам ответят:*

*– Да, не согласен я!*

*– И с кем же ты не согласен? – грустно можно спросить у отвечающего.*

*– А с ними обоими!*

*Если начать распрашивать дальше, то выясниться, что отвечающий не читал, ни того, ни другого.*

*Можно ли не соглашаться, не читая, не слушая?*

*Да, запрасто!*

*Нет никакой философии в стране. А раз нет, то и соглашаться, и не соглашаться не с чем.*

*Нет, ни Акудовича, ни Мацкевича.*

*Мне совсем не обидно, когда Акудович говорит, что яго няма. Я не обижусь, если он скажет, что и мяне няма.*

*Мы с ним выпьем за это, и пойдём дальше продолжать философствовать.*

*И совсем другое дело, когда Алексиевич говорит, что мяне няма.*

*То есть, она то знает, что я где-то есть. Она говорит, что философии в стране нет.*

*Это уже я так понимаю, что она говорит, что это меня нет.*

*И я правильно её понимаю. Потому что я и моя философия – это условия бытия друг друга. Я есть постольку, поскольку мыслю.*

*Я есть только тогда, когда есть, проявлена, присутствует здесь и сейчас моя философия.*

*Если нет моей философии, нет и меня.*

*То есть, что-то, или кто-то есть, но это кто-то другой, не я.*

*Для меня быть – значит быть философом. На другое я не согласен. Мне не интересно быть кем-то, или чем-то ещё.*

*А я много кем был.*

*Был, например, политиком. И тогда Калякина очень раздражало то, что я делал, как политик. В раздражении он как-то написал статью с названием «Ни субъекта, ни объекта».*

*Это в переводе означает, что меня нет.*

*Так что, Алексиевич не первая, и не последняя. Это всё я уже не раз слышал, и ещё услышу.*

*Вот, не далее, как вчера. Вежливые, добрые люди, друзья практически дали мне понять, что меня нет. Да и не было. Сказали мне при этом, что очень благодарны за всё, что было у нас многие годы. Было много хорошего у нас совместно, только меня там не было.*

*Ну, и как же мне быть?*

*Человек Павел становится человеком, обнаружив себя в глазах человека Петра.*

*Человек есть мера всех вещей, существующих в том, что они существуют, и несуществующих в том, что они не существуют.*

*Человек Пётр является условием существования человека Павла. И наоборот.*

*Если меня нет, то существует ли Сергей Калякина?*

*Думаю, что некоторые читающие эти строки, только из них узнают, что некто такой существует. Да и то не точно.*

*А существует ли Алексиевич?*

*Наверное, да.*

*Я помню, что мои друзья организовали кампанию «Святкуем Нобеля разам». И ведь не зря же, видимо, Алексиевич тогда была.*

*И друзья мои были, и я тогда был со своими друзьями и Алексиевич.*

*И была у нас общая радость, одна на всех.*

*Но потом что-то пошло не так.*

*Нобелевскому лауреату стало одиноко в пустой стране, где нет ... ну, например, нет философии, нет достойных одинокого лауреата интеллектуалов.*

*Она стала заполнять пустоту приглашёнными интеллектуалами извне.*

*Ну, чтоб не страдать по одиночке.*

*Так пустота не заполняется.*

*Это я как философ могу сказать.*

*Так она только подчёркивается. Приглашённый интеллектуал не заполнит интеллектуальную пустоту в стране, он приехал и уехал. Даже следа не осталось.*

*Ну, нет меня в глазах Светланы Алексиевич.*

*И что теперь?*

*Она то в моих глазах есть?*

*Достаточно ли того, что она есть в моих глазах? Я же не Пётр, чтобы признать Павла человеком и апостолом.*

*Чтобы отразиться человеком в глазах Петра, Павел должен видеть в Петре человека и апостола.*

*В Беларуси философия есть, значит есть и я. Читает ли меня Светлана Алексиевич, не так уж и важно. Ведь не важно же ей, что её книги не берут в некоторые библиотеки.*

*Если я начну сомневаться, есть ли в Беларуси философия, начну сомневаться в себе и своём существовании, я позвоню Акудовичу, и приглашу его выпить коньяку.*

*И он придёт, даже если придётся оторваться от работы, от философии, от написания книги.*

*Мы выпьем по рюмочке, посмотрим в глаза друг другу, и Акудович мне скажет...*

*Я не знаю, что в очередной раз скажет мне Акудович. Он же философ, а философ всегда говорит неожиданные вещи.*

*Неожиданные, непривычные, не претендующие на единственную правильность. Порой противные. Например, что меня нет, может сказать Акудович. Противно. Но ему я поверю. Буду сомневаться и разбираться. Не люблю філософию Акудовича, но с ним и его философией нельзя не считаться.*

*А Алексиевич я спрашивать не буду.*

*Хотите знать есть ли в Беларуси философия?*

*Спрашивайте у тех, кто знает. Ну, хотя бы знает, что это такое.*

* * *

Неяк ні з чога і раптам шчымліва падумалася: як шмат чаго мы з Уладзімірам не дагаварылі, не даспрачаліся, не далюбілі...

Шкада. Моцна. Але тут ужо нічога не паробіш. Пэўна, так яно і мусіла быць.

*(Заканчэнне будзе.)*

прачытанне

Васіль Дранько-Майсюк



...такой Беларусі ў савецкія часы паэты не паказвалі...

# Пятрусь Броўка і яго пошук страчанага спакою

У адным са сваіх апошніх вершаў “Падобны з твару да машчэй...” Уладзімір Дубоўка з публіцыстычнай жорсткасцю апісаў ананімнага “адхватчыка прэміяў і лаўраў”, які (калі ў яго “накалупаецца” верш) адразу ладзіць сабе “гром літаўраў”. Мала таго, гэты “інфернальны тып” “...шмат каго папрыбіраў, каб на шляху не заміналі, і выйшаў суха з мокрых спраў ды выстукаў яшчэ медалі...” Дубоўка абвінавачваў яго ў гібелі Сымона Баранавых, Макара Шалая, Сымона Куніцкага і зычыў гэтаму “кашчэю” “захлынуцца ўласнай крывёю”.

Вядомы даследчык літаратуры Анатоль Сідарэвіч схільны лічыць героем гэтага верша-праклёна Народнага паэта Беларусі Петруся Усцінавіча Броўку.

Паводле А. Сідарэвіча аўтар “Александрыны” любіў славаслоўе ў свой адрас, меў усе магчымыя ўзнагароды, быў добра знаёмы з Шалаем і двума Сымонамі – Баранавых і Куніцкім...

Ці сапраўды былы сталінскі вязень Уладзімір Дубоўка так ненавідзеў Петруся Усцінавіча, што вывеў менавіта яго злавесным “кашчэем”?

Спярша трэба прызнаць, што Броўку і праўда многія не любілі ды і цяпер шмат хто адносіцца да яго з халоднай насцярогай.

Чалавек, які пазбег сталінскіх рэпрэсій, не меў арэолу пакутніцтва, займаў кіруючыя пасады (Старшыня Праўлення СП БССР (1948-67), галоўны рэдактар Беларускай савецкай энцыклапедыі (1967-80)), усё сваё жыццё аддана служыў ідэям сацыялізму, а незадоўга перад смерцю напісаў, што яго сэрца наперад вядзе *“адзіны надпіс – Камунізм!”* (верш “Савецкі чалавек” / Савецкі чалавек. Мн., 1982), наўрад ці можа выклікаць у рамантычна настроеных аматараў айчыннай літаратуры захапленне і сімпатыю.

З непрыязнасцю згадвае Броўку ў сваіх ваенных дзённіках Максім Танк: *“... падвыпіўшы П. Броўка... пачаў нечага прыставаць да В. Вольскага і А. Кучара. Пачалася сварка...”* (Максім Танк. Збор твораў. Т. 9. Мн., 2009), *“Броўка чапляўся да М. Лынькова. Мне здаецца, яго вельмі злуе тое, што старшыня нашага СП мала... удзяляе ўвагі яму як паэту-ардэнаносцу і што чытачы сталі больш цікавіцца творамі А. Куляшова, П. Панчанкі...”* (там жа).

Дастаткова жорстка выказваўся і былы супрацоўнік па Беларускай энцыклапедыі (а ў будучым галоўны рэдактар “Мастацкай літаратуры”) Міхал Дубянецкі: *“...Вось каго ўжо песцілі «партыя і ўрад». Узнялі да найвышэйшых годнасцяў ня толькі БССР, але і СССР – і ў літаратуры (!), і ў навуцы (!), і ў партыі, і ў дзяржаўным апараце. А ён жа не раўня Караткевічу. Памёр гэты Пятрусь, і яго ўжо ніхто і не ўспамінае”.*

Нават у добразычліва-юбілейных артыкулах так ці інačай праскоквае негатыўнае і крытычнае стаўленне да Петруся Усцінавіча.

Так, напрыклад, Мікола Мішчанчук лічыць патрэбным падкрэсліць, што *“...паэт сам не ў стане ацаніць вартасць і значнасць напісанага, што ў яго губляецца пачуццё адказнасці за слова, прытупляецца эстэтычны зрок”* (Мікола Мішчанчук. “Нішто не мае хады назад”. Да 90-годдзя з дня нараджэння Петруся Броўкі // Літаратура і мастацтва, 1994 г.).

Не перадаць колькі было напісана крытычнага, а часам і адкрыта зняважлівага пра нашага героя ў беларускай эміграцкай прэсе 50-70-х гг...

Хто ж ён быў – Народны паэт Беларусі Пятрусь Усцінавіч Броўка? Верны служка савецкай сістэмы? Тыповы функцыянер ад літаратуры, у якога, мо чыста выпадкова, па нейкім містычным недаглядзе нарадзілася некалькі паэтычных шэдэўраў (“Пахне чабор” і згаданая ўжо “Александрына”)?

Альбо ўсё ж такі паэт, які, нягледзячы на свае шматлікія пасады, змог застацца па-сапраўднаму значным творцам?

Калі чытаеш напісанае Броўкам у канцы 1920-х і пачатку 30-х гадоў, то адразу кідаецца ў вочы яго адчайнае імкненне быць у авангардзе тагачаснай пралетарскай літаратуры. Паэт не заглыбляўся ў складаную метафарыстыку, як гэта рызыкоўна рабіў Уладзімер Хадыка, не напаўняў сваю творчасць псіхалагічнай нервовасцю ці вялікім унутраным непакоем, што было ўласціва паэзіі Валерыя Маракова, Тодара Кляшторнага. І, вядома ж, пазбягаў таго, каб станавіцца чыстым эстэтам альбо паказваць дулі ў кішэнях роднай дзяржаве, як гэта рабіў наравісты Уладзімер Дубоўка ды іншыя “ўзвышаўцы”.

Дарэчы, у адным са сваіх ранніх твораў, паэме “Рапарт (Паэма фактаў)” (“Маладняк” №9, 1929) Пятрусь Броўка актыўна выступіў супраць Дубоўкі і яго таварышаў. Паэт з жалем адзначае, што ў той час, калі маладая беларуская сацыялістычная рэспубліка квітнее і ўсяляк развіваецца, калі *“Па новым бруку*

*вечны сьлед / паклалі гулкія машыны"*, нашу краіну запаланілі і розныя "калекі", сярод якіх "узвышаўцы" займаюць адно з галоўных месцаў.

Самае цікавае, што Броўка вінаваціць іх не столькі ў эстэтычных грахах і палітычных памылках (на што рабілі акцэнт, напрыклад, Цішка Гартны, Тодар Глыбоцкі альбо Лукаш Апанасавіч Бэндэ), паэта абурае "меркантыльная двудушнасць": *"За грош / шмат хто з іх прапяе: / "О, Беларусь, мая шыпшына, / зялёны ліст, чырвоны цьвет". / І да стала / чарга зьвіваецца хвастом, / і кожны кашалёк / бліжэй да сэрца туліць, / каб вырашыць / на колькі там рублёў / табе сьпяяць аб лёсе і мінулым. /.../ І ў пяць радкоў, / і строчкі ўраскід, / і па чатыры, тры, / і як ты хочаш, / абы было ім выпіць закусіць, / да з прастытуткай / выгуляцца ўночы".*

Паводле маралiста Броўкі, як бачым, самы страшны грэх для беларускага савецкага паэта – гэта не быць пад шкоднымі ўплывамі трацкізму, імажынізму альбо нацыяналізму, а... прайсціся па начным Менску з гэтакай купалаўскай Настай Пабягунскай.

Прыведзеная цытата, дарэчы, можа з'яўляцца яшчэ адным ускосным доказам таго, што свой апошні верш пра "Кашчэя" Дубоўка прысвяціў менавіта нашаму герою, бо, прачытаўшы Броўкаў "Рапарт", мог затаіць крыўду.

Пачатак 1930-х у Петруся Усцінавіча праходзіць пад татальным уплывам Маякоўскага.

І тут напрошваецца адна аналогія.

Калі мы ходзім па мастацкіх музеях, то часам бачым такія подпісы пад карцінамі: "Майстар школы Босха", "Майстар школы Брэйгеля" (зазвычай сапраўдных імёнаў гэтых старанных рамеснікаў гісторыя не захоўвае). Вось такім жа "Майстрам школы Маякоўскага" быў на той час і Пятрусь Броўка.

Ён шмат выступае на паэтычных вечарынах, на заводах, у школах, калгасах і, у адрозненне ад многіх калегаў, умее надзвычай артыстычна і пераканаўча чытаць нават такія свае рэчы:

Словам комуны кліча ўперад –
папера.
Б'ем мы ўдарна бастылі і цемры –
паперай.
Думкі далёка шугаюць наперад –
з паперай...
Дамо пяцігодцы колькі ёй трэба –
паперы.

*("Цэхавыя будні").*

Гледачы, калі чулі падобнае, то былі... зачараваны, але не столькі барабанным зместам, колькі тым, з якой экспрэсіяй паэт чытаў падобныя опусы.

У 1938-м годзе Рыгор Бярозкін, аналізуючы раннюю творчасць Петруся Усцінавіча, пісаў, што: *"Першапачатковы этап паэтычнай работы Броўкі ў вельмі слабой меры адлюстроўваў станаўленне індывідуальнага голасу паэта. Большасць вершаў з кніг "Гады як шторм", "Цэхавыя будні" была прынцыпова абязлічанымі... Паэтычнае слова... не падавалася з той індывідуальнай інтанацыяй, якая... надае яму непаўторную пераканаўчасць і жыццёвасць"* (Г. Бярозкін. Лірыка Пятруся Броўкі. // Літаратура і мастацтва. 16 студзеня 1938 г., № 3).

Цяжка не пагадзіцца з крытыкам.

Малады Броўка ў гэты перыяд з малайцаватай "абязлічанай" рэзкасцю нападае на прагульшчыка, што, кінуўшы варштат, *"...ходзіць вясёлы, / як сьцелька п'яны..."* (паэма "Цэхавыя будні", 1932), апявае нязломнасць чырвонаармейцаў: *"Толькі*

*нас не праймеш / аніякім паралюшам. / Паў адзін пад каня, / а другі – на кані. / Прыскакалі да нас / баявыя таварышы, / проста дзіва не хлопцы, / з далёкіх станіц. / Так збіраліся мы / у шалёных варунках, / каб няшчадна разбіць вас, / князі і паны! / Коні розных масцей, / стрэльбы розных гатункаў..."* (паэма "Праз горы і стэп", 1932 г.).

Усё гэта ў Броўкі атрымлівалася аднолькава крыклівa, падкрэслена аднамерна, без аніякіх падтэкстаў і (абавязковая ўмова) досыць плакатна. Тут і праўда цяжка адшукаць натуральнасць гучання і, тое, пра што казаў Бярозкін – уласную аўтарскую інтанацыю. Такое адчуванне, што ў гэты няпросты час, паміж першай і другой хвалямі рэпрэсій (1930 і 1933 гг.) паэт як мог свядома заглушаў у сабе ўсё, што хоць неяк магло праявіць яго арыгінальнасць. Здаецца, Броўка сабе паставіў задачу растварыцца ў шэрай масе пралетарскіх паэтаў СССР, каб анічым, нават самым меншым, не вылучацца. Праўда, у паэме, напісанай у той жа час, "Клімэнт Ефрэмавіч", у эпізодзе, калі варашылаўскія коннікі плывуць праз Чорнае мора, можна адшукаць месцы, якія могуць захапіць па-сапраўднаму дзейснай энергетыкай: *"Чорнае мора кідалася чортам, / За цуглі ірвала, а коні іржалі... / А коньнікі крылі і ў бога і ў чорта, / і коні шалёна, як чэрці, скакалі..."* Псуе толькі ўражанне празмернае ўжыванне слова "чорт".

З сярэдзіны 1930-х у творчасці Петруся Усцінавіча пачалі адбывацца змены. Броўка адыходзіць ад ваяўнічай камсамольскай крыклівасці і паціху намацвае свой стыль. Добрым прыкладам гэтаму з'яўляецца зборнік "Вясна радзімы" (1937).

Тое, што надалей зрабілася мастацкай адметнасцю лепшых твораў паэта (песенная лёгкасць, іронія, увага да падкрэслена простых пачуццяў і думак, звязаных найчасцей з каханнем, медытатыўнае ўжыванне радкоў-паўтораў), пачало вымалёўвацца менавіта ў гэтым зборніку. У асобных вершах Броўка скідае з сябе гэтак неўласцівую яму маску пралетарскага змагара і аддаецца ў палон лірыкі. Ён дазваляе сабе нарэшце захапіцца не толькі зухаватымі чырвонаармейцамі, самаахвярнымі савецкімі памежнікамі, вясёлымі ўдарнікамі, але і адчуць радасць ад звычайнай вясенняй раніцы ў лесе, якую (дзякаваць Богу!) не трэба славіць з пазіцый сацыялістычнага рэалізму, а можна проста назіраць, як *"ідуць ласі / Прабітай сцежкаю на вадапой", замілоўвацца "смеху рамонкаў" і таму, што "Кранаюцца маіх павек / Праменняў ясныя пярсцёнкі..."* (верш "Раніца", 1937).

Будучы ў нейкім дзівосна-заспакоеным настроі, можна ціха сузіраць прыход верасня: *"Ужо верасень. / Ветры вандроўнікі / аж праз вокны нясуць халады. / Як шары, / наліліся антонаўкі / і да долу прыгнулі сады..."*

Тут хапае вершаў і выразна іранічных (на гэты раз ужо без пошлага плакатнага высмейвання "шкоднікаў" і "прагульшчыкаў").

Напрыклад, у вершы "Двайня", паэт дазваляе сабе дастаткова смелыя жарты. У брыгадзіра нарадзіліся два сыны. Маці брыгадзіра хоча ім даць імёны Пётры і Паўла, а падпіўшы герой заяўляе, што *"Два апосталы сапсулі / Гэты прозвішчы даўно"*, і прапануе, каб яго дзеці зваліся Кімам і Клімам. Бедныя немаўляты на такое аўтарытарнае рашэнне татачкі рэагуюць дастаткова арыгінальна: *"Два-ж "апосталы" ляжалі, / Даль ім светлая была... / Між сабою развважалі / Роднай мовай: аб-ляб-ля..."*

Ужо ў гэтай кнізе бачна – там, дзе Броўка глядзіць на савецкую рэчаіснасць не з пазіцый эпігона Маякоўскага, а пачынае ствараць свой песенна-ўмоўны, вонкава-лёгкі і акварэльна-ажурны свет – там нараджаецца паэзія. І нават савецкая ўзнёсласць многіх твораў не выклікае такога вострага раздражнення, як раннія рыфмаванкі пра ўдарнікаў, шпіёнаў, памежнікаў і Чырвоную армію.

У гэтым плане яго паэзія пачынала энергетычна набліжацца да жывапісу Сяргея Герасімава і Аркадзя Пластава.

Згаданыя мастакі малявалі "шчаслівы" савецкі працоўны народ, але рабілі гэта з такім каларыстычным майстэрствам, у іх было столькі непадманнай любові да гэтых людзей, што знікала ўсялякае ўражанне, быццам перад намі ідэалагічна-бяздушныя палотны. Ідэалогію перамагаў насычаны, свабодны імпрэсіяністычны жывапіс, яго непрыхаваная гарэзлівая сонечнасць – усё гэта дазваляла мастакам з артыстычнай лёгкасцю выходзіць за вузкія межы сацыялістычнага рэалізму.

У Беларусі такім жа творча свабодным мастаком быў Віталь Цвірка, для якога колер, нечаканая яркая пляма, гульня фактур былі больш важнымі за вонкава дабрадзейныя сюжэты яго палотнаў.

Пятрусь Броўка вельмі любіў творчасць згаданых жывапісцаў. Калі хадзіў у Трацякоўку, дык у яго ажно душа спявала, як бачыў шэдэўр Сяргея Герасімава "Калгаснае свята" (вялікі фавіст Рауль Дзюфі пазайздросціў бы такому твору), альбо дзівосную кампазіцыю Аркадзя Пластава "Вячэра трактарыста". Адзін з вечаровых пейзажаў Віталя Цвіркі вісеў у кватэры паэта.

Калі казаць пра паэтычныя ўплывы, то варта згадаць, безумоўна, Пятра Глебку.

Гэты паэт яшчэ за некалькі год да Броўкі стараўся (наколькі гэта было магчыма) пазбягаць у творчасці сацрэалістычнай прымітыўнасці.

У 1933-м годзе (калі Броўка ўсё яшчэ знаходзіўся ў палоне Маякоўскага) Пятро Глебка па-джазаваму свабодна пісаў:

– Кіпарысы і Крым?..
Ах, якая экзотыка!
Улюбёны паэтам
з маленства герой –
Маладая смуглянка
ў саф'янавых боціках
Вас прытуліць пад лёгкай,
як вецер,
чадрой.
На вяршалінах гор
дыярыту і мармуру
Ап'янееце шалам
надземнай красы,
Пра якую вы самі
не снілі, не марылі,
І якой не пабачыць
ніколі
ваш сын...

*("Экзотыка").*

У гэтым такім празрыстым, светлым вершы, як і ў іншых шэдэўрах таго перыяду ("На моры" (1935), "Летні дзень" (1936), "Ты падбірала лён і пела..." (1938)) Пятро Глебка імкнуўся з ненавязлівай цвёрдасцю даказаць, што хоць яго напачатку 30-х маральна ламалі, прымушалі пісаць артыкулы супраць арыштаваных сяброў-узвышаўцаў, але тым не менш паэта ў ім не забілі.

Ён паказаў, як можна і ў жорсткіх касталомна-цэнзурных рамках сталінскай рэчаіснасці застацца перадусім творцам.

Броўка (ён заўсёды быў пад моцным уплывам свайго сябра) пайшоў тым жа шляхам.

Сапраўдны мастацкі прарыў у яго адбыўся, калі выйшаў зборнік "Шляхамі баравымі" (1940).

Кніга гэтая здзіўляе і сёння.

Тут вельмі мала палітычных лозунгаў, няшмат праслаўлення сацыялістычнага будаўніцтва.

Калі гартаеш кнігу, то здаецца, што перад табой выданне якога-небудзь заходнебеларускага паэта, які яшчэ не спазнаў усю "радасць" ад сутыкнення з савецкай цэнзурай.

Лепшыя вершы тут падкрэслена пазачасавыя.

Паэт уцякае ў свой выдуманы свет, туды, дзе *"Пры лесе, пад горкай / Бруіцца крыніца. / У светлай крыніцы / Вадзіца-жывіца /.../ Па конаўках, кубках / Струменьчык няспынны... / Лягчэюць пуціны / Яснеюць часіны"* (з верша "Крыніца"). Зборнік адкрываецца гэтым важным для аўтара вершам (самая першая рыфмаванка ў кнізе пра правадыра не лічыцца). Броўку, спакутаванаму ад неабходнасці быць "абязлічана-правільным", неабходна было наталіцца гэтай жывой крынічнай вадой, адчуць сябе, хаця б на кароткі час, сапраўдным паэтам і, адчуўшы, скласці, напрыклад, такі незвычайны, трывожны верш:

Я гэта ў памяці збярог.
Навечна захаваю.
На скрыжаванні трох дарог
Сказала мне старая:

– Пазнала я нямала бед
На вашым сумным полі...
Вось тры пуціны ў белы свет,
Што мелі мы ў нядолі.

Адна – не высахлі сляды,
Што госці наязджалі.
Па ёй збіраліся сюды,
Да ніткі рабавалі.

Другой – у путах кайданоў
Ступалі цяжка ногі.
Па ёй адводзілі сыноў
У турмы і астрогі.

Аб трэцяй, як не раскажы,
А лепшае не зналі.
Па ёй насілі мы крыжы
І там адпачывалі.

Я гэта ў памяці збярог.
Навечна захаваю.
На скрыжаванні трох дарог
Заплакала старая.

*("На скрыжаванні").*

Беларусь, якую "на скрыжаванні трох дарог" няспынна рабуюць, закоўваюць у кайданы, усімі спосабамі прыніжаюць, і адзінае выйсце з гэтага беспрасвецця – жывым спачыць пад крыжом – такой Беларусі ў савецкія часы паэты не паказвалі. Нават Паўлюк Трус, які напісаў дастаткова рызыкоўную ў палітычным сэнсе паэму "Дзясяты падмурак", дзе скептычна ставіўся да савецкай рэчаіснасці, бо зыходзіў ад яе ў свет старадаўняй ідыліі гусляроў і дудароў, і тое не адважваўся на падобнае радыкальнае выказванне.

Цікава, што менавіта наскрозь савецкі Броўка паказаў, што ў страшнай рэальнасці 30-х гадоў, калі адбываўся сапраўдны генацыд беларускай культуры, доля кожнага творцы была несці свой крыж, будучы гатовым у любую хвіліну ператварыць яго ва ўласную магілу. Паэт дакладна выявіў тагачасныя настроі нешматлікай ацалелай нацыянальнай інтэлігенцыі. Кожны пісьменнік тады жыў са штодзённым адчуваннем арышту, пасля якога наступае нябыт.

Але Пятрусь Усцінавіч не схільны быў патанаць у адчаі. У лепшых сваіх творах ён пазбягаў выразнага трагедыйнага гучання, як і ўвогуле не любіў (у супрацьвагу, скажам, Панчанку) адкрытай эмацыянальнасці. Баладная напеўнасць, пэўная стрыманасць, прытоенасць пачуццяў і думак – вось што ўласціва яго паэтычнаму свету. Нават у цытаваным вершы "На скрыжаванні" – няма актыўнай смутнагляднай ноты. Твор нагадвае журботную баладу, вялікі сум якой прыхаваны дзесьці ў глыбіні і выказваецца напаўголаса.

Акрамя таго Пятрусь Броўка, у адрозненне ад песімістычнага Якуба Коласа, псіхалагічна надарванага Янкі Купалы, верыць (альбо, прынамсі, стараецца верыць), што можна і пазбегнуць уласнага ўкрыжавання. Трэба толькі схавацца ў нейкі амаль райскі сад, дзе *"Разгулялася скрозь маладая краса, / На духмяных лістах серабрыцца раса..."* У гэтым ідылічным садзе разам з каханай дзяўчынай можна ператварыцца ў вольных, свабодалюбівых пчол і ў сваю радасць *"...мёд сабіраць... з пахучых далін..."* (з верша "Гэты, кветкамі-пухам, абсыпаны сад").

Пятрусь Броўка стараецца падбадзёрыць і тагачасных чытачоў.

Гэта бачна ў вершы "Бор", які пачынаецца па-бетховенску пагрозліва:

Бор грозны. Бор гудзіць.
Кашлатых сосен строй грамады хмар ірве,
Асенніх чорных бур па дрэвах крык плыве...
Бор грозны.
Бор гудзіць. На барацьбу заве...

Здаецца, што інфернальная "асенняя чорная бура" (яскравая метафара тагачаснай рэпрэсіўнай сістэмы) змяце бор, знішчыць яго, але супраць гэтай шатанскай навалачы *"зялёнаю сям'ёй / Стаяць браты кругом..."*, і гэтыя "браты", паэт упэўнены, абавязкова перамогуць.

Падобныя ж настроі былі ўласцівы і некаторым калегам Петруся Броўкі.

Прыкладна ў гэты ж час, да 85-годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча, на старонках "Полымя рэвалюцыі" (1940, №11) з'явілася цікавая падборка твораў паэта. Перакладчыкі (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Валянцін Таўлай, Міхась Клімковіч, Канстанцін Цітоў) адмыслова прапанавалі матэрыял (двойчы, напрыклад, друкаваліся ўрыўкі з "Конрада Валенрода", вясёлая паэмка "Пані Твардоўская"), дзе яскрава было паказана: якія б шатаны ні акупавалі наш край, рана ці позна ад іх наступіць збавенне.

Ва ўступным артыкуле, прысвечаным творчасці Адама Міцкевіча, Пятро Глебка, пераказваючы сюжэт "Конрада Валенрода", дае адказ, чаму была такая ўвага да гэтага твора: *"Конрад Валенрод, галоўны герой, быў калісьці літвінам. У маленстве, у час нападу крыжакоў на Літву, ён быў узяты ў палон. Там яго ахрысцілі і далі імя Вальтэр Альфа. У замку, у якім ён выхоўваўся, знаходзіўся стары літоўскі вайдэлот (народны песняр). Ён абудзіў у Вальтэра пачуццё любасці да прыгнечанай Літвы, і Альфа ў час бойкі паміж крыжакамі і літоўцамі пераходзіць да літоўцаў. Ён пасяляецца ў літоўскага князя Кейстута і жэніцца з яго дачкой Альдонай. Тым часам напады крыжакоў на Літву не спыняюцца. Страціўшы ўсякую надзею адстаяць Літву сілаю зброі, Вальтэр Альфа пад імем Конрада Валенрода ўступае ў ордэн крыжакоў, дабіваецца там пасады магістра і сваёю здрадаю прыводзіць ордэн да пагібелі, а сам канчае жыццё самагубствам. /.../ Учынак Валенрода ёсць для яго суровая і непазбежная неабходнасць"* (Пятро Глебка. Адам Міцкевіч. // Полымя рэвалюцыі. 1940, №11).

Беларускія пісьменнікі, як таксама і герой нашага артыкула Пятрусь Броўка, пачуваліся ў той час, бы той Конрад у стане ворагаў, крыжакоў, дзе нельга сябе выдаць, але трэба займаць пасады і чыны, падкрэсліваць лаяльнасць, дамага-

цца таго, каб да іх прыслухоўваліся, і такім чынам, магчыма, спярша і не зусім заўважна, пакрысе, «знутры» не даваць загінуць нашай краіне.

Пасля вайны Пятрусь Броўка акурат і пачаў займаць чыны, званні, атрымоўваць узнагароды, станавіцца ці не самым уплывовым беларускім паэтам. І што самае цікавае, менавіта ў гэты перыяд наступае сапраўдны росквіт яго таленту. Цікава тое, што пасады і клопаты чыноўніка не замінали творчаму развіццю.

У год смерці Сталіна Броўка складае гарэзлівы верш “Пусці маці”:

Ах, як за акном гармонік грае,
Пусці, маці, выйду, пагуляю,
Я-ж яшчэ маленькая малая,
Ён мяне не можа зазываці...
Пусці, маці!

Толькі раз, я помню, – у нядзелю
З гарманістам трошкі пасядзела...
Сёння-ж галава мне забалела,
Ці не чадна вельмі ў нашай хаце?
Пусці, маці!

Я прайду ціхутка, стану збоку,
Можа н’ат паслухаю здалёку, –
З гарманістам я не сяду зноўку,
Абыйду, каб толькі не спаткаці...
Пусці, маці!

*(“Пусці, маці!”)*

У гэтым вонкава немудрагелістым вершы-дрындушцы прыхавана даволі цікавая ідэя: ужо можна не слухаць асцярожную маці, можна не быць паслухмяным, прыйшоў час адкрыта заявіць пра свае жаданні і нават не прасіць сваю “маці”, каб яна адпусціла, а патрабаваць (нездарма пасля фразы-рэфрэна “Пусці, маці” стаіць клічнік).

Броўка лічыць – прыйшоў час пазбаўляцца ад былога рабскага паслушэнства. Пара станавіцца дзёрзкімі, нават хуліганістымі ў сваім праве на свабоду і ўнутраную незалежнасць. Менавіта таму ён вітаў прыход у літаратуру такіх самабытных творцаў, як дысідэнт Алесь Наўроцкі (і напісаў рэкамендацыю, каб таго прынялі ў Саюз пісьменнікаў). Менавіта Броўка, пачынаючы з канца 50-х гадоў, актыўна спрыяе і дапамагае многім літаратарам, былым сталінскім вязням, якія вярталіся з лагероў у Беларусь. У тым ліку памагае і Уладзіміру Дубоўку.

І тут мы зноў вяртаемся да верша Уладзімера Мікалаевіча “Падобны з твару да машчэй...”

Ці мог быць героем гэтага рыфмаванага праклёну Пятрусь Броўка?

Калі падрабязна вывучаць гісторыю ўзаемастасункаў Петруся Усцінавіча і Уладзімера Мікалаевіча, то давядзецца прызнаць – не ўсё так адназначна.

Напрыклад, літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў успамінаў, што ў сярэдзіне 60-х гг. *“Дубоўка разважаў пра верагодных даносчыкаў у пісьменніцкім асяроддзі, прыхільна выказваўся пра Броўку, які ахвотна згадзіўся напісаць прадмову да кнігі перакладзеных Уладзімірам Мікалаевічам санетаў Шэкспіра [1964], скептычна адзываўся пра Глебку. Той доўга марудзіў з прадмовай да першай пасля рэабілітацыі паэта кнігі яго выбраных твораў (1959)*” (Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго. Мн., 2017).

Нагадаем, што Пятрусь Усцінавіч у сваёй прадмове назваў пераклады Дубоўкі “выдатнымі”, падкрэсліўшы, што “паэт рашуча выступае супраць тыраніі і дэспатызму”.

Шэкспіраўскія санеты былі для Дубоўкі легальнай нагодай выказацца пра свой уласны спакутаваны лёс. І выступаў тут паэт, як вядома, не супраць нейкай абстрактнай тыраніі.

Броўка не мог не разумець, пра які дэспатызм вядзецца гаворка ў Дубоўкавых санетах.

Былы сталінскі вязень Дубоўка, вуснамі Шэкспіра, з болем гаварыў, што *"Зняслаўлены людской няпраўдай, лёсам, / У неба шлю я смутак горкі свой..."* (Санет 29), гнеўна пісаў: *"Прэч стукачоў! Для чыстага сумлення / Не страшны ні паклёпы, ні ганенні"* (Санет 125), з сумам адзначаў (прыгадваючы ўласнае лагернае мінулае): *"Я згодзен з тым, што доля мне не маці. / Яна на мне паставіла пячаць: / Прымусіла цяжкой штодзённай працай / Для існавання сродкі зарабляць..."* (Санет 111), і гаварыў пра свой сённяшні стан з выразна-мінорнымі ноткамі: *"Ды як жа мне сваёй пазбыцца стомы, / Калі няма патолі мне нідзе? / За мною скруха сцежкаю знаёмай / Праз ноч і дзень, праз дзень і ноч ідзе"* (Санет 28).

Броўка выдатна разумеў, пра што тут сказана. Ён і сам у гэты час (хоць, як вядома, пазбег, калі быў маладым, арышту) нанова і з вялікім болем пераасэнсоўваў у сваёй творчасці страшныя 30-я гг.

Заўважым, што ні ў Глебкі, ні ў Куляшова, ні, тым больш, у Кандрата Крапівы мы не знаходзім вершаў, дзе была б бачная іх пазіцыя адносна сталінскага часу.

Той самы Пятро Глебка, напрыклад, па ўспамінах Барыса Сачанкі, калі яму задавалі (як яму здавалася, правакацыйныя) пытанні пра рэпрэсіі, мог сказаць: *"А 37-ы год патрэбен быў нам, праз яго трэба было прайсці, каб ачысціцца ад непатрэбных людзей. Вы ня ведаеце таго часу, той барацьбы, скрытай і адкрытай, людзей тых... Сапраўды сярод іх былі ворагі..."*

Броўка нічога падобнага не казаў, а ў зборніку "Між чырвоных рабін", які выйшаў вясной 1969 года, мог, напрыклад, згадваючы пра рэпрэсіі, напісаць:

...Мінуўшага часу цяжкі перажытак
Сумленнем быць мусіць да рэшты дабіты.
Заявы... А іх жа з'яўлялася колькі,
Што ў целе здаровым вышуквалі болькі,
Што чыстыя сэрцы гразёй аблівалі,
Дзе стрыжана – голена злосна казалі...

*("Заявы").*

Па стылі і сэнсавай накіраванасці – як быццам яшчэ адзін з шэкспіраўскіх санетаў у вольным перакладзе Дубоўкі (а магчыма і натхнёны імі)!

Уладзімер Мікалаевіч вельмі любіў гэты верш, і калі ў "Полымі" (1969, №10) надрукаваў артыкул "Шчаслівы, што ведаў яго. Да 70-годдзя з дня нараджэння Адама Бабарэкі", то завяршыў сваю працу (каб метафарычна паказаць тую сталінскую "імглу і туман", што праглынула Бабарэку) менавіта гэтай цытатай з твора Броўкі (да слова сказаць, у сваёй батанічнай кнізе "Жоўтая акацыя" (1967) Уладзімер Мікалаевіч гэтаксама неаднаразова цытаваў вершы Петруся Усцінавіча).

У кнізе "Між чырвоных рабін" Уладзімера Мікалаевіча кранула і тое, што сярод суквецця настраёва самых розных вершаў, ладнае месца займаюць творы, дзе прысутнічае малаўласцівае для беларусаў пачуццё віны.

Броўку балела, што і сам ён у часы лютавання савецкай інквізіцыі (можа, і ў меншай ступені, чым, скажам, Кандрат Крапіва альбо Глебка) быў вымушаны "спяваць пад зазубраны лёскат" і абвінавачваць, скажам, ужо зняволеных Дубоўку, Пушчу, Таўбіна, Астапенку, Калюгу ў "контррэвалюцыйнай агітацыі", заклікаць да выкрывання "ўсялякіх рэштак контррэволюцыйнага нацдэмакратызма ў літаратуры" (П. Броўка. Трэба вітаць спрашчэнне правапіса / Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы. Мн., 1934).

Як тут не згадаць, з якім сумам Пятрусь Усцінавіч прыгадваў пра свой творчы шлях у 30-я гг: *"...на гэтым шляху было рознае – барацьба, няўдачы, перамогі... цяпер бы... пачынаў інакш з большай... чалавечнасцю..."* (Васіль Быкаў. Пра Петруся Броўку/ Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986).

Самакрытычна пераасэнсоўваючы сваё мінулае, Броўка ў зборніку "Між чырвоных рабін" пісаў: "*І гэткае па людзях ходзіць, / Усё здараецца ў жыцці: / Бывае – так сабе нашкодзіш, / Што і ратунку не знайсці. / Усё баліць, / На сэрцы хмары, / Памылкі лічыш ты ў кляцьбе. / Не ведаю я большай кары, / Калі караеш сам сябе*" (верш "Кара"); "*Калі ў бядзе ты вінаваты, / Сабе нашкодзіў ці сябрам, / Змагайся з ёю ты заўзята, / Пакуль хапае сілы, сам. / Сваёй бяды не пераможаш, / Куды ні кінься – скрозь не лепш. / Хоць ад каго ўцячы ты можаш, / Ды ад сябе не ўцячэш*" (верш "Калі ў бядзе ты вінаваты..."), "*Няма дарунку, сам я сведчу, / Маім грахам – / Суддзя і пракурор і следчы / Сабе я сам*" (верш "Споведзь").

Дубоўка, стамлёны татальным нежаданнем ацалелых былых "узвышаўцаў" (Глебкі, Кандрата Крапівы) прызнаць, што былі ў нечым вінаватыя (ужо не кажучы пра тое, каб папрасіць у былога сябра прабачэння), вельмі цаніў падобныя вершы Броўкі.

Калі Уладзімер Мікалаевіч падарыў герою нашага артыкула сваю кнігу "Ганна Алелька" (выйшла вясною 1969 г.), то падпісаў яе наступным чынам: *"Дарагому Пятрусю Усцінавічу Броўку, як сціплы адарунак за ягоны цудоўны падарунак "Між чырвоных рабін" – з сардэчным прывітаннем Ул. Дубоўка. 22.05.69"*.

Яны неаднаразова бачыліся. І сустрэчы гэтыя прыносілі ім узаемную радасць. Паэт Сяргей Грахоўскі згадвае пра візіт Броўкі да свайго таварыша ў Маскву незадоўга да смерці Дубоўкі (магчыма, нават у той самы час, калі быў складзены верш пра "Кашчэя"): *"...мы былі ў маленькай кватэры Уладзіміра Мікалаевіча. Як праменіліся яго маладыя сінія вочы, як ён хораша ўсміхаўся, радуючыся сустрэчы з даўнім сябрам!.. Пятрусь Усцінавіч загаварыў, што трэба было б памяняць на больш прасторную кватэру. Дубоўка адмахваўся, што яму і тут добра... Развіталіся яны, як самыя кроўныя і блізкія людзі..."* (Сяргей Грахоўскі. Навука дабрыні і шчырасці / Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986).

Ці мог Дубоўка прысвяціць свой верш-праклён менавіта Броўку?

Наўрад ці.

Як мы ўжо адзначалі, Петруся Броўку многія не любілі.

Спрацоўвала звычка паблажліва ставіцца да тых паэтаў, каго савецкая ўлада і напраўду абсыпала ўзнагародамі.

Той жа Васіль Быкаў у 60-я гг. ставіўся да Броўкі дастаткова стрымана, але затым яны пасябравалі.

Калі Быкаў пасля цкавання ў прэсе за яго аповесць "Мёртвым не баліць" быў вымушаны стварыць больш кампраміснага "Сотнікава", дык пачаў з большым разуменнем ставіцца да асобы Броўкі. Яны часта сустракаліся. Быкаў нават прасіў напісаць успаміны пра сталінскі час, але Пятрусь Усцінавіч на гэта нязменна адказваў: *"Не пісаў і не буду... Часам лішняе ведаць – бяда"*.

Тыя ж літаратары і калялітаратары, асобныя прыхільнікі нашага прыгожага пісьменства, якія не сутыкаліся з сапраўднай "бядой" і чыё жыццё не выходзіла за межы сытага і адносна спакойнага бытавання, любілі (ды і любяць) "пакусваць" нашага героя.

Броўка гэта адчуваў. Яму балела. Многія яго познія вершы маюць характар магічнай замовы.

Той жа зборнік "Між чырвоных рабін" адкрываецца вершам "А ты ідзі!". Тут паэт дае сам сабе псіхалагічную ўстаноўку – што *"няхай цябе віхор збівае, / Няхай трывожна даль гудзіць, / Няхай сцяжыну замятае, / А ты ідзі, / А ты ідзі!"*

Чым больш ён абрастаў пасадамі і званнямі, чым больш афіцыёзная прэса з навязлівай нястомнасцю ляпіла з яго першага савецкага паэта Беларусі, тым больш Пятрусь Усцінавіч усведамляў, што ўсе гэтыя даброты прывідныя, а насамрэч вакол яго "*...каменне, твань і багна...*" і ніхто на самай справе не дапаможа, а тыя падхалімы, што ў вочы хваляць, за спінай прыдумляюць гадзенькія вершыкі, кшталту: "Пятрусь Броўка піша лоўка..." Ад гэтага горкага ўсведамлення становіцца па-сапраўднаму крыўдна, і тады Броўка, як мантру, паўтарае: "*Крыўдна – на хама, на дурня-бязмена, / Крыўдна на дзіўных крыўлякаў-блазноту... Крыўдна да жалю, крыўдна да болю...*"

Броўка 60-70-х гадоў – гэта вечны пошук страчанага спакою, гэта вялікае змаганне за тое, каб здабыць хоць нейкую раўнавагу пад нагамі.

Перачытваеш яго вершы тых часоў і разумееш, што не было гармоніі і ў сям'і.

Так, жонка ўсяляк дапамагала, самаахвярна перадрукоўвала ўсе яго творы, падтрымлівала ў ліхую часіну, але паэт усё роўна марыць аб спатканні не з ёй, а з таямнічай незнаёмкай. Ён ізноў, як мантру паўтарае адно й тое ж *"А дзе яна? А дзе яна?"* Паэт гатовы ў сваім няпростым і быццам бы такім уладкаваным жыцці "*усё сцярпець*" і "*змаўчаць*", адзінае, каб з'явілася гэтая самая загадкавая "яна".

Настраёва ў гэтым сэнсе Броўка падобны да свайго духоўнага настаўніка і сябра Якуба Коласа, які іранічна пісаў пра сябе, што: *"Прызнаны я пясняр народа і не адна мне нагарода..."*, але марыў толькі пра адно, каб з *"каралавых вуснаў незнаёмкі"* прагучала *"пачуць бы аб Коласе весці..."*

У вершы "Белы рамонак" (гэтае слова ізноў жа паўтараецца ў кожным радку) Броўка адкрыта выказваецца пра сваё "бязвоблачнае" сямейнае жыццё: *"Белы рамонак, / Я не крыўдую. Светлая ранняя мара збылася, / Бо пакахала хоць і не тая, хай і па часе..."*

Жыць "з не той" і марна чакаць "тую"...

Паэт не можа змірыцца з такім бытаваннем. Па-юначы няўрымслівa ён працягвае чакаць. Прычым акрамя чакання "заранкі" і "шпакоў" Броўка чакае і сваю ананімную "каханку", якая павінна аднекуль знянацку з'явіцца і зрабіць яго "правільнае жыццё" цікавейшым, вастрэйшым, а значыць і творча больш незвычайным. Яму хочацца, як таму герою-рэжысёру з фільма Феліні "8 1/2", палёту, і калі гэтае жаданне становіцца зусім ужо нясцерпным, прыходзіць горкая цвярозая думка:

Мы змалку крыўдзімся нямала,
Дзе праўда вечная была, –
Што нас прырода ашукала,
Ніякіх крылляў не дала...

І калі паэт разумее, што сучаснасць яго не радуе, што і ў будучыні няма асабліва на што спадзявацца, тады застаецца толькі адно – заглыбіцца ў ідэалізаваны свет свайго дзяцінства, ратавацца ўспамінамі (гэтаксама рабіў Якуб Колас, калі ствараў "Новую зямлю"), і тады нараджаецца верш "Жорны".

...Бачу я маці. Запылены скроні.
Кружачы жорны, быццам варожыць.
Камень ды з камнем нешта гамоніць,
Трушчыцца збожжа,
Трушчыцца збожжа...

Уся рытміка верша падпарадкавана аднастайна-гіпнатычнаму руху, як быццам і сапраўды перад намі круцяцца жорны, гледзячы на якія мы забываем пра рэчаіснасць і пераносімся ў свет мрояў. Тут ізноў прысутнічае чыста фелінеўскае фантазійна-самотнае гучанне. Галоўны герой фільма "8 1/2", непрыкаяны рэжысёр, стомлены ад тлуму рэальнасці, хоча знайсці хоць нейкае выйсце. І калі не ўдаецца,

бы тым шагалаўскім летуценнікам, уцячы ў неба (напачатку стужкі), то напрыканцы карціны ён ратуецца ўспамінамі пра сваё маленства. Яго ратуе прывід маці.

Тое ж самае мы бачым і ў Петруся Броўкі, якому *"усё часцей дзяцінства сніцца, / Дзе б у дарозе я ні быў..."*

Яго медытатыўныя вершы, створаныя для таго, каб забыцца, каб пазбегнуць чагось ліхога і, наадварот, выклікаць нешта светлае і выратавальнае, уражваюць і сёння.

Броўка ці не адзіны беларускі савецкі паэт са свайго пакалення, якому быў уласцівы менавіта такі, можна нават сказаць, магічны падыход да творчасці.

Так, ім былі складзены акіян пустых, штампаваных, непатрэбных вершаў. Але, думаецца, не меў рацыі Мішчанчук, калі пісаў, што Петрусь Усцінавіч проста *"...не ў стане быў ацаніць вартасць і значнасць напісанага..."*, што ў яго *"прытупляўся эстэтычны зрок"*.

Хутчэй за ўсё Пятрусь Броўка, не вельмі давяраючы сучаснікам, проста хаваў сябе сапраўднага за гэтым хломаздамам рознакаліберных рыфмаванак.

Для гультаяватага чытача, які задавольваецца тым, што ляжыць на паверхні, намаляваўся дастаткова канкрэтны вобраз "чыноўніка ад літаратуры". Але тыя людзі (і перадусім Уладзімір Дубоўка), якія ўмелі ўбачыць сапраўднае, адчувалі і непадманна любілі паэта, былі шчаслівыя, што жылі з ім у адзін час.

Спадзяемся, настануць часы, калі пераважная большасць сённяшніх аматараў беларускай літаратуры кіне глядзець на яе савецкую гісторыю праз чорна-белыя акуляры, перастане дзяліць нашых класікаў на ахвяраў і падпявалаў, а зможа перадусім ацэньваць эстэтычны бок твораў і будзе ганарыцца тым, што іхнім суайчыннікам быў Народны паэт Беларусі Пятрусь Усцінавіч Броўка, аўтар такіх шэдэўраў, як "Пахне чабор", "Александрына", "Жорны", "Заявы", "Як іграюць зайчыкі", "Белы рамонак".

Сяргей Кураш



...не пафасна –

затое глыбока і шчыра...

# Нябеснае ў зямным

***Лопатин Г. Поделиться небом: книга поэзии. – Минск: Кнігазбор, 2019. – 156 с. (Библиотека Союза белорусских писателей “Кнігарня пісьменніка”; вып. 121)***

Часам здараецца так, што, здавалася б, ведаеш чалавека даволі даўно, складаеш пра яго нейкае закончанае ўяўленне, маеш адносна яго асобы нейкія больш-менш устойлівыя чаканні... А потым жыццё дае зразумець, што гэтыя твае “веды” былі, як мінімум, далёка няпоўнымі.

Вось так я магу сказаць пра вопыт свайго знаёмства з Генадзем Лапаціным. Колькі разоў мы з ім сустракаліся на шматлікіх навуковых канферэнцыях, дзе асвятляліся і абмяркоўваліся надзённыя пытанні фальклору, этналінгвістыкі, фразеалогіі, традыцыйнай народнай духоўнай культуры, дзе Генадзь Ісакавіч заўсёды ўражваў глыбінёй і надзвычай шырокім ахопам ведаў у пералічаных навуковых кірунках (ён добра вядомы ў філалагічным асяроддзі як аўтар шэрагу кніг, а таксама шматлікіх публікацый у часопісах, зборніках, альманахах, прычым не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі),




нечаканымі і ўнікальнымі звесткамі аб канкрэтных фактах, здабытых ім у выніку ўласных палявых даследаванняў. Часам гаварылі і пра паэзію. Але пра паэзію вядомых паэтаў, пра тыя ці іншыя плыні, мастацкія прыёмы і г.д.

І вось адносна нядаўна мне пашчасціла адкрыць для сябе Генадзя Лапаціна як паэта. Спачатку гэта была невялічкая падборка вершаў, надрукаваных у літаратурна-мастацкім альманаху "Палац". Вось тут і ўзніклі элементы таго самага "кагнітыўнага дысанансу", якія былі маёй першапачатковай рэакцыяй на прачытанае ў праекцыі на дагэтуль знаёмыя мне рысы асобы аўтара. За гэтым – пошук электроннага адраса Генадзя і літаральна адзін радок, у якім я сканцэнтравала сутнасць сваіх уражанняў ад вершаў толькі што адкрытага для сябе паэта: "Яны (вершы) вельмі арыгінальныя – сімбіёз беларускай ментальнасці, усходняй філасофскай мудрасці і рускай мовы... Глыбокія і адначасова лёгкія..." Змест гэтай аўтацытаты ў цэлым не страціў для мяне актуальнасці і пасля азнаямлення з новай кнігай паэзіі Генадзя Лапаціна "Поделиться небом".

Паспрабую канкрэтызаваць і ўдакладніць тыя пункцірныя канстатацыі, якія прыведзены вышэй: арыгінальнасць, філасафічнасць, мудрасць, ментальнасць, мова...

Зразумела, першае, што заўважаецца адразу (гэта, мабыць, універсальна для ўспрыняцця як любога асобнага тэксту, так і цэлага ідыястылю), – форма. А форма лапацінскага верша вельмі спецыфічная: тэксты пазбаўлены знакаў прыпынку і вялікіх літар (за выключэннем напісання ўласных імён). Што гэта? Гульня ў арыгінальнасць? Ці ўсвядомленая неабходнасць, абумоўленая нейкім зыходным сэнсаўтваральным імпульсам? (Трэцяга – непісьменства – тут наогул не дадзена: аўтар, як ужо ўзгадвалася, – прафесійны высокакваліфікаваны філолаг-даследчык.) Лепш не гадаць, а абапірацца на сумежныя рысы ідыястылю паэта.

Возьмем, напрыклад, ключавы лексічны ланцужок: прадметны свет пазначаны перш за ўсё такімі лексемамі, як *небо, сад, цветок, дерево, вдохновенье, мир, молитва, солнце, рассвет, виденье, мгновенье, улыбка, любовь, песня, голос, ощущение, спасение, слово, весна, истина, звук, поэзия, надежда, вечность*...; сярод дзеяслоўнай лексікі выдзяляюцца такія адзінкі, як *молиться, не отяготить, любить, понимать, поверить, снизойти, подумать, замереть*... Дарэчы, адзначым, што іменная лексіка ў параўнанні з дзеяслоўнай у паэта відавочна дамінуе, а гэта ў цэлым натуральна для філасофскай лірыкі.

Што адразу становіцца прыкметным воку? Якія агульныя семантычныя складнікі ўласцівы пералічаным слоўным вобразам? На мой погляд, усе яны так ці інакш асацыююцца з такімі сэнсамі, як 'лёгкасць', 'паветранасць', 'свабода', 'узнёсласць', 'гармонія', 'спрадвечнасць'... Яны як бы ўздымаць паэтычную рэальнасць над зямлёй і змяшчаюць яе дзесьці паміж дрэвамі, садамі, кветкамі – і птушкамі, аблокамі, – паміж зямлёй і небам:

домой возвратиться
как в небо своё возвратиться

***

чем от земных пределов выше
тем меньше меж ветвей излишеств
чем ближе к небесам
тем зримей
в сирени очертанья крыльев

Адсюль, мяркую, і імкненне не заганяць словы і думкі ў нейкія “зямныя” абмежаванні, умоўнасці, зададзенасці. Такія не павязаныя “пунктуацыйнымі путамі”, “лёгкія на пад’ём” словы-вобразы вельмі нагадваюць саміх птушак і матылькоў – адных з упадабаных вобразаў паэзіі Лапаціна:

за бабочкой не угадать
какой цветок ей выбирать

***

и птицы поднимались с крыш
и неба разрывали тишь

***

сирень вернётся рассмеётся
ветвями в небо устремится
чтобы похожей стать на птицу

***

попав в зависимость от птиц
мы слушаем
что утром в небе
вначале мы услышим щебет
или услышим на рассвете
вначале голоса ворон
нам кажется что только этим
и будет день определён

Ды і назва ўсёй кнігі – “*Поделиться небом*” – цалкам гарманіруе з агульнай ідэяй бясконцасці / свабоды / лёгкасці, якая з боку моўнай афармленасці знайшла выяўленне ў тым ліку і ў пазбаўленасці ад знакаў пунктуацыі.

А вось і аўтарскае разуменне самой паэзіі:

Создатель подсказал материал
С которого и сам Он начинал

И указал поэзии дорогу
Поэзия не врет
Она от Бога

***

поэзия нас знает лучше
поэзия нас знает больше
поэзия нас понимает глубже
поэзия нас понимает тоньше
чем мы сами
себя знаем и понимаем

Гэтыя словы, магчыма, можна разглядаць як своеасаблівы ключ ад паэтычнага коду Генадзя Лапаціна.

Яшчэ адна даволі адметная рыса паэтыкі Генадзя Лапаціна – гэта не проста філасофстваванне сродкамі паэтычнага слова, не проста пасіўна-сузіральная медытатыўнасць, а спроба зрабіць нейкае мастацка-філасофска-эстэтычнае адкрыццё, прыйсці да пэўнага пачуццёва-лагічнага вываду, даць тлумачэнне нейкаму становішчу рэчаў – як у навакольным свеце, так і ва ўнутраным стане чалавека. Адсюль – надзвычай частае ўжыванне такіх характэрных элементаў сінтаксічнай пабудовы сказаў, як падпарадкавальныя злучнікі тыпу *чтоб, затем чтоб, как будто, поэтому, так как*; актыўнасць дзеясловаў з агульным значэннем ментальна-разумовай дзейнасці (*подумаю, подумаешь, подумалось, понимаешь, вспоминаю, пронзает ощущение* і інш.):

Затем чтоб было так же как в саду
Свою работу сделал стеклодув
И фонари
Они определённо
Напоминают формою бутоны

***

цветы на подоконнике затем
чтоб дотянулись до окна
деревья

***

...так мы с сиренью проходили
урок небес
науку крыльев

***

вот девочка на самокате мчится
настолько быстро что не уследишь
подумаешь
как будто репетиция
того как быстро пролетит и жизнь

Ці не нагадвае такая паэтыка некаторыя жанры ўсходняй паэзіі з яе арыентаванасцю на сціслую асацыятыўнасць, вобразнасць, метафарычнасць у адзінстве з нейкай глыбіннай мудрасцю?

Але пры ўсім гэтым Генадзь Лапацін – сапраўдны беларус, паляшук, для якога не існуе чагосьці невядомага адносна нашых каранёў, традыцый, звычаяў і ўвогуле ўсяго, што можна аднесці да народнай этнакультуры беларусаў. У звычайным жыцці ён гаворыць па-беларуску. Родная мова для яго – не пабочная з'ява, не эмблема, а штодзённая сфера зносін. Адсюль – і той эфект нечаканасці, які мяне ўразіў пры першым дакрананні да паэтычнай творчасці Генадзя Ісакавіча.

Але гэтая нечаканасць у выніку аказалася не толькі прымальнай, але і прыемнай – і дзякуючы безумоўнаму таленту паэта (а для талента няма розніцы, якою моваю ствараць узоры сапраўднага мастацтва), і дзякуючы яго пэўнай творчай рашучасці, унутранай свабодзе (у розных жанрах выступаць на розных мовах: у навуцы – пераважна на беларускай, у паэзіі – на рускай), і дзякуючы імкненню быць у першую чаргу **паэтам**, а не публіцыстам, прапагандыстам, трыбунам і г.д. Тым больш, што роднае слова чытач таксама знойдзе ў новай кнізе паэта, – гл. вершы *"Тады я ў яго запытаў..." (***Великим Бором окрестили), ***хочется чтоб длилась и длилась служба*. Творчасць Генадзя Лапаціна, – безумоўна, адметная з'ява ў сучаснай беларускай паэзіі, у якой яна заняла сваё асобнае вартае месца.

Цяпер некалькі слоў непасрэдна пра кнігу "Поделиться небом".

Першая частка мае назву *"Избранное для Людмилы"*. У жанрава-тэматычным плане гэта сімбіёз любоўнай, філасофскай і пейзажнай лірыкі. Менавіта сімбіёз: тут фактычна няма ніводнага верша, дзе б гэтыя тры матывы не сумяшчаліся ў адным вобразным ланцугу:

небо к моей прикоснулось любимой
крылом
журавлиным

и птицы её за себя оставляли
хранить нашу землю
от всяких печалей

***

назвав любимую птицей
я увидел небо
и все окружающие нас предметы
окрасились бело-сероватым цветом
стали похожими на облака
и вдруг расцвели как цветы на лугах
и нас возвратили в лето

***

мы не две половинки
но мы одно целое

Вершы, якія складаюць другую частку, – *"Книга для Веры"* – настолькі ж філасафічныя, пазначаныя мудрасцю, якая адпавядае вялікаму жыццёваму вопыту, таленавітасці і неардынарнаму спосабу мыслення паэта, наколькі і кранальныя. Тут у паэта-філосафа з чытачом адбываецца дыялог, які вырастае з дыялога дзядулі з бясконца любімай ім дзяўчынкай-унучкай, якая робіць свае першыя крокі на шляху спасціжэння свету, чалавека, прыроды, атрымання жыццёвага вопыту і тлумачэння таго, што пакуль для яе невытлумачальна.

Успрыманне дзіцяці – гэта ўменне ўбачыць і зразумець, навошта неабходны прадмет, чаму адбываюцца розныя падзеі, дакапацца да сутнасці рэчаў, пры гэтым не быць абмежаваным у магчымасці самастойна ствараць уласную рэальнасць:

девочке наверное дано
видеть другой параллельный мир
со своей землей
со своим небом
со своими садами
со своими людьми

Калі б у нас была магчымасць паглядзець на свет вачыма маленькага чалавечка, то мы б, думаю, вельмі здзівіліся яго куды большай спрадвечнасці і нескажонасці ва светаўспрыняцці, – такім бачыцца лейтматыў другой часткі зборніка "Поделиться небом":

девочка впервые рисует свои пейзажи
в них птицы на птиц
а деревья на деревья похожи
как будто она стоит на страже
и мир охраняет
первозданный
Божий

Менавіта пагэтаму мы час ад часу ловім сябе на думцы, што з гадамі нейкае ўнутранае адчуванне сябе як дзіцяці нас назаўжды не пакідае, а ў асобныя моманты мы і ўвогуле вяртаемся да гэтага першаснага стану, тым больш калі казаць пра творчасць:

у девочки свое есть представленье
откуда в небе звезд происхожденье
и девочка луне поет хвалу
и небо ей напоминает луг
и было б небо без луны пустым
и звезды впрямь похожи на цветы
они взошли от нежности луны
и в этом с девочкою мы равны
и думаю я так же как она

однажды начал я стихотворенье
со слов
луна нежна

І здавалася б, нічога асаблівага аўтар не паведаміў. Ды і словы самыя звычайныя. Не пафасна – затое глыбока і шчыра, як зрэшты, і ўсюды, аб чым бы ні пісаў паэт.

Але якой глыбіні сэнс... Сапраўды цэлая філасофія: *урок небес... наука крыльев...* – убачыць незвычайнае ў звычайным, нябеснае ў зямным, складанае ў простым, мудрае ў наіўным.

Дзякуй, Генадзь, за Ваша цудоўна выкананае Вамі ж жаданне падзяліцца з усімі намі *Сваім Небам!*

# Нашыя аўтары

**Ажэшка Эліза** — польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Андзілеўка Людміла** – празаік, мастак. Аўтарка кніг «Проста ноч на дварэ», «Гэта ты», «Паляванне на музу», «Ключ у боціку», «Няхай выбачае юнацтва». Нарадзілася ў 1958 годзе ў Глыбокім на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам», «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісцікакарунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Кліч роднага звона» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1987), дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1996). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «Il Mezzogiorno. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць», «Павуцінка на агрэсце» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Васіль** – драматург, эсэіст. Творы друкаваліся ў газеце «Літаратурная Беларусь», часопісах «Дзеяслоў», «Тэксты», «Верасень». На сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра імя М. Горкага ідзе спектакль, пастаўлены па яго п'есе «Пясняр», прысвечаны У. Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Кабржыцкая Таццяна** – літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.», «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна» (у суаўтарстве з В. Рагойшам). Лаўрэатка Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І.Франко, узнагароджана ордэнам Святой княгіні Вольгі (Украіна). Нарадзілася ў 1941 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Кураш Сяргей** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Даследчык мовы беларускай і рускай мастацкай літаратуры, аўтар каля 250 навуковых прац. Нарадзіўся ў 1972 годзе ў Мазыры, дзе і жыве.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Янкі Маўра (1993), прэмія імя Васіля Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Плакс Дзмітры** – паэт, празаік, перакладчык, мастак. Стваральнік і прадусар беларускай службы «Радыё Швецыі» (2004—2009). Аўтар кніг «Жара», «Cy Twomblys dagbok», «Трыццаць тэкстаў», «ОМ», «Если бы я был...» (e-book), «re citat iver» і інш. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Стакгольме.

**Севярынец Павел** – празаік, публіцыст. Адзін з заснавальнікаў «Маладога Фронту». Аўтар кніг «Ды-джэй Адраджэння», «Лісты з лесу», «Брату», «Люблю Беларусь», «Беларуская глыбіня», «Беларусалім. Золак» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча і прэміі імя Ф. Аляхновіча. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Оршы. Жыве ў Мінску.

**Свірка Юрась** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг «Вечнасць», «Баравіна», «Крэўнасць», «Аўтограф», «Люблю і веру», «Памятная вярста», «Біяграфія памяці», «Ядранасць», «Паўшар'е блакіту», «Шлях да сябе», «Кружка з пясчаным дном» і інш. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца на Віцебшчыне. Памёр у 2010 годзе.

**Слабашпіцкі Міхайла** — украінскі літаратуразнаўца, крытык, празаік. Аўтар дакументальнай, публіцыстычнай і біяграфічнай прозы, а таксама твораў для дзяцей. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Лесі Украінкі (1993), прэмія імя Міхайла Кацюбінскага (2003), Нацыянальная прэмія Украіны імя Тараса Шаўчэнкі (2005). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў сяле Мар'янаўка на Чаркашчыне. Жыве ў Кіеве.

**Сцяпан Уладзімір** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка», «Папяровая шапка», «Хвалі» і інш Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Шыёнак Віталь** — празаік, журналіст. Творы друкаваліся ў раённай, гарадской і рэспубліканскай прэсе, літаратурным альманаху «Ратуша». Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Віцебску, дзе і жыве.

**Ярац Віктар** — паэт, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен», «Зямныя эцюды» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Красны мост на Рэчыччыне. Жыве ў Гомелі.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Дырка Скібы, Оле Споронг, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.